Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі "Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя П.М. Машэрава"
Кафедра беларускага мовазнаўства

# РЭГІЯНАЛЬНЫ СЛОЎНІК ВІЦЕБШЧЫНЫ

## *Частка 1*

*Віцебск*
*УА "ВДУ імя П.М. Машэрава"*
*2012*

УДК 811.161.3'282(476.5)(038)
ББК 81.411.3-3-5
Р96

Друкуецца па рашэнні навукова-метадычнага савета ўстановы адукацыі "Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава". Пратакол № 1 ад 21.03.2012 г.

Складальнікі: дацэнт **Л.І. Злобін** (А, І, Л); дацэнт **Я.Н. Марозава** (Б, Л); ст. выкладчык **Л.У. Печаніцына** (В); дацэнт **Т.А. Грачыха** (Г); дацэнт **В.Э. Зіманскі** (Д); дацэнт **Г.К. Семянькова** (Е, Ё); дацэнт **Г.А. Арцямёнак** (Ж); дацэнт **Ю.М. Бабіч**, ст. выкладчык **С.В. Мартынкевіч** (З); дацэнт **А.С. Дзядова**, ст. выкладчык **Н.П. Даўбешка** (К).

Рэцэнзент:
дацэнт кафедры рускай мовы як замежнай
УА "ВДУ імя П.М. Машэрава"
кандыдат філалагічных навук *Н.Я. Мініна*

**Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны** : у 2 ч. / Л.І. Злобін
**Р96** (рэд.) [і інш.]. – Віцебск : УА "ВДУ імя П.М. Машэрава", 2012. – Ч. 1. – 304 с.
ISBN 987-985-517-365-7.
ISBN 987-985-517-366-4 (ч. 1).

"Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны" змяшчае дыялектную лексіку з гаворак усіх раёнаў рэгіёна, тут упершыню ажыццёўлены максімальна поўны збор народнай лексікі поўначы Беларусі. Слоўнік будзе карысны не толькі для лінгвістаў, але і гісторыкаў, этнографаў, фалькларыстаў, пісьменнікаў, для ўсіх, хто любіць роднае слова.

**УДК 811.161.3'282(476.5)(038)**
**ББК 81.411.3-3-5**

**ISBN 987-985-517-365-7**
**ISBN 987-985-517-366-4 (ч. 1)**

# ПРАДМОВА

Кожны народ мае хаця б адзін
геніяльны твор, і гэты твор – мова.
*Алесь Разанаў*

Мова – найважнейшы фактар развіцця культуры народа, яго духоўная спадчына. Дыялектная мова – адметная разнавіднасць нацыянальнай беларускай мовы. На дыялектнай аснове была створана сучасная беларуская літаратурная мова. Выпрацоўка і ўдакладненне норм літаратурнай мовы грунтуецца на вывучэнні народных гаворак. Народная мова – гэта помнік мінулага, у якім захавалася шмат архаічных моўных асаблівасцей. Фактычны дыялектны матэрыял мае вялікае навуковае і практычнае значэнне для вырашэння розных праблем мовазнаўства, гісторыі, археалогіі, этнаграфіі. Дыялектныя словы захоўваюць багацце народнай лексікі, выяўляюць міжмоўныя і міждыялектныя адносіны ў мінулым і на сучасным этапе, з'яўляюцца крыніцай узбагачэння слоўнікавага складу літаратурнай мовы. Сёння разам з памяншэннем колькасці вясковага насельніцтва знікае дыялектная мова, гаворкі разбураюцца пад уплывам сродкаў масавай інфармацыі, міграцый, пашырэння іншых моў. Таму так важна паспець сабраць, зафіксаваць і пакінуць нашчадкам лексічнае багацце нашага народа. Дыялектныя слоўнікі з'яўляюцца каштоўным здабыткам усёй нацыянальнай культуры.

У XX стагоддзі былі створаны асновы беларускай дыялектнай лексікаграфіі. На сённяшні дзень амаль усе рэгіёны Беларусі маюць слоўнікі народных гаворак. Недастаткова даследаванымі да апошняга часу заставаліся гаворкі Віцебшчыны, якія ўваходзяць у паўночна-ўсходні тэрытарыяльны дыялект Беларусі, паколькі не быў створаны адзіны лексікаграфічны даведнік, які аб'яднаў бы дыялектныя матэрыялы поўначы краіны – Беларускага Паазер'я. Праўда, трэба сказаць, што ў розныя часы, пачынаючы з XIX стагоддзя, лексіка Віцебшчыны знаходзіла адлюстраванне ў асобных лексікаграфічных працах. Дыялектныя матэрыялы з Віцебшчыны ў выглядзе невялічкіх слоўнікаў прыкладалі да сваіх прац такія этнографы і фалькларысты, як Я. Чачот, П. Шэйн, М. Нікіфароўскі і інш. Дыялектны матэрыял усходняй часткі Беларусі, у тым ліку Віцебшчыны, увайшоў у вядомае выданне У. Дабравольскага "Смоленский областной словарь" (1914). Планамернае вывучэнне дыялектнай мовы пачалося ў 20-я гады XX стагоддзя, калі Інстытут беларускай культуры распачаў грунтоўнае збіранне

і даследаванне беларускіх народных гаворак. Дзякуючы гэтаму ў 1927 годзе пабачыў свет "Віцебскі краёвы слоўнік" М. Каспяровіча, які адлюстраваў лексіку тагачаснай усходняй Віцебшчыны. У пасляваенны час лексіка паўночна-заходніх раёнаў нашай вобласці часткова ўвайшла ў арыгінальнае пяцітомнае выданне "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (1979 – 1986).

У 70-я гады XX стагоддзя пачала выходзіць серыя дыялекталагічных зборнікаў, у якіх фіксаваўся лексічны матэрыял, сабраны ў розных мясцінах Беларусі, у тым ліку і на Віцебшчыне: "З народнага слоўніка" (1975), "Народнае слова" (1976), "Народная лексіка" (1977), "Жывое слова" (1978), "Народная словатворчасць" (1979), "Жывое народнае слова" (1992), "Жывое наша слова" (2001), "Скарбы народнай мовы" (2005), "Народныя скарбы" (2008). У 2010 і 2012 гадах выйшлі першыя два выпускі пастаяннага перыядычнага зборніка Інстытута мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа НАН Беларусі "Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні". У гэтыя выданні ўключаны лексічныя матэрыялы з асобных населеных пунктаў Верхнядзвінскага, Полацкага, Ушацкага, Глыбоцкага, Бешанковіцкага, Гарадоцкага, Віцебскага раёнаў, занатаваныя А. Крывіцкім, М. Крыўко, Ю. Мацкевіч, А. Баханьковым, К. Панюціч, П. Міхайлавым, Н. Бунько і іншымі даследчыкамі. Такія тэматычныя групы, як назвы роднасці і сваяцтва, тэрміны ткацтва, рыбалоўная лексіка, назвы жывёл, адлюстраваны ў матэрыялах з гаворак Віцебшчыны, сабраных і апублікаваных К. Панюціч, М. Крыўко, Т. Грачыхай.

Каштоўнымі з'яўляюцца слоўнікі гаворак асобных раёнаў. У гэтым плане на Віцебшчыне найбольш даследаваны Ушацкі і Сенненскі раёны. Ушаччыне прысвечана выданне К. Панюціч "Лексіка народных гаворак" (1976). Сенненшчына грунтоўна вывучалася дыялектолагамі Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі, якімі да друку падрыхтаваны "Слоўнік Сенненшчыны". Збор матэрыялаў і іх публікацыя працягваецца, яны папаўняюць картатэку зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак.

Нягледзячы на тое, што лексіка Падзвіння знайшла пэўнае адлюстраванне ў розных лексікаграфічных працах, праблема стварэння дыялектнага слоўніка Віцебшчыны заставалася паранейшаму актуальнай, бо наспела неабходнасць у абагульненым выданні, якое ўвабрала б лексіку гаворак з усіх раёнаў рэгіёна. Кафедра беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта падрыхтавала такое выданне ў дзвюх частках, у ім

упершыню ажыццёўлены максімальна поўны збор народнай лексікі поўначы Беларусі.

Асновай для стварэння рэгіянальнага слоўніка Віцебшчыны паслужылі дыялектныя матэрыялы, сабраныя студэнтамі і выкладчыкамі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта падчас праходжання дыялекталагічнай практыкі ў выязных экспедыцыях і ў населеных пунктах па месцы жыхарства. Фактычны матэрыял быў сабраны на аснове праграм для збору лексікі рэгіёна, распрацаваных паводле вядомых акадэмічных выпускаў "Інструкцыі па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы" (1959 – 1971).

Прадстаўленая ў Слоўніку лексіка выяўляе нацыянальную адметнасць гаворак поўначы Беларусі, дазваляе казаць пра выключнае моўнае багацце і разнастайнасць гэтага асаблівага ў гістарычным і этнаграфічным плане рэгіёна. Лексічны матэрыял адлюстроўвае дыялектныя асаблівасці Падзвіння, словаўтваральныя магчымасці і вобразнасць народнай мовы, уплыў на беларускія гаворкі суседніх моў і гаворак.

Падрыхтаваная праца мае вялікае навуковае і практычнае значэнне. Слоўнік Віцебшчыны дапаможа ў асвятленні праблем беларускай дыялекталогіі, асаблівасцей паўночна-ўсходняга дыялекту і груп яго гаворак, пытанняў балта-славянскіх сувязей, этымалагічнага апісання славянскіх моў. Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны знойдзе практычнае прымяненне пры падрыхтоўцы і выданні зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак, пры складанні разнастайных тэматычных слоўнікаў, рэгіянальных атласаў. Матэрыялы слоўніка могуць быць выкарыстаны ў выпусках "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа", "Лінгвістычнага атласа Еўропы", "Матывацыйнага атласа беларускіх народных гаворак", атласа новага тыпу "Усходнеславянскія ізаглосы", над якімі працуюць вучоныя розных краін. Лексіка Віцебшчыны стане прадметам вывучэння ў мовазнаўчых даследаваннях, пры выкладанні беларускай мовы і дыялекталогіі, у студэнцкай навукова-даследчай працы.

Выданне мае важнае культурна-гістарычнае значэнне, паколькі дазволіць захаваць для будучых пакаленняў моўнае багацце рэгіёна. Слоўнік увабраў матэрыялы з усіх раёнаў Віцебшчыны і будзе карысны не толькі для лінгвістаў, але і гісторыкаў, этнографаў, фалькларыстаў, пісьменнікаў, для ўсіх, хто любіць роднае слова. Выказваем шчырую падзяку выкладчыкам, лабарантам і студэнтам факультэта беларускай філалогіі і культуры за карпатлівую працу па падрыхтоўцы слоўніка да друку.

# СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Пры складанні Слоўніка з усёй сукупнасці вядомых і ўжывальных на Віцебшчыне слоў аўтары імкнуліся адабраць толькі пэўную іх частку. Гэты адбор грунтуецца ў першую чаргу на аналізе суадносін паміж лексічнай сістэмай гаворкі і лексічнай сістэмай беларускай літаратурнай мовы. Кіруючыся гэтым зыходным прынцыпам адбору, аўтары ўключылі ў Слоўнік наступныя словы:

1) лексічныя дыялектызмы (дыялектныя словы, не засведчаныя ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы"): АБРА́Т *м., адз.* Адгон; малако, з якога сепаратарам адагнана смятана; БАНКА́Ч, БОНК *м., заал.* Авадзень; ДЗЁРКА *ж.* Тарка; ЛАПШЫ́ВА *прысл.* Прагна (есці, піць);

2) словы, засведчаныя ў ТСБМ з паметай *абл.*;

3) словы, якія адрозніваюцца ад адпаведных нарматыўных семантыкай: АБЛО́ГА *ж.* Дождж абложны, абкладны; БАГА́Ч *м.* Вогнішча, агонь; ЛАПАТУ́ХА *ж.* Зазубіна на лязе касы;

4) словы, якія з'яўляюцца варыянтнымі да адпаведных нарматыўных (маюцца на ўвазе акцэнтныя, граматычныя, словаўтваральныя варыянты): ДЗЕСЯТО́К *м.* Дзясятак; ДВО́РЫШЧА *н.* Дварышча; ДАЁНАК, ДАЁНІК *м.* Даёнка; ДЗЕ́ДЗІН *прым.* Дзедаў; БАРШЧАВІ́К, БАРШЧА́НІК *м.* Боршч; АБГАРЭ́ЛАК *м.* Абгарак;

5) словы, якія з'яўляюцца русізмамі ці вытворнымі ад іх, але адлюстроўваюць дыялектныя асаблівасці: АБЖА́ЛІЦЬ *зак.* Абскардзіць; АБІ́ДЖЫВАЦЬ *незак.* Крыўдзіць; ДЗЕ́ШАВА *прысл.* Танна, нядорага.

Поўны слоўнікавы артыкул уключае наступныя элементы:

1) загаловачнае (рэестравае) слова; 2) граматычную характарыстыку слова; 3) стылістычную характарыстыку слова; 4) сэнсавую характарыстыку слова; 5) ілюстрацыйны матэрыял з пашпартызацыяй.

Загаловачныя (рэестравыя) словы размяшчаюцца ў строгім алфавітным парадку з абазначэннем у іх націску. Націск паказваецца ў гэтым жа слове ў ілюстрацыях. Загаловачнае слова і ілюстрацыя перадаюцца арфаграфічна з захаваннем тыповых дыялектных рыс, калі яны засведчаны ў запісах. Рэальная фанетычная структура мясцовых слоў, выразаў і сказаў адлюстравана пры дапамозе літар і спалучэнняў літар сучаснага беларускага алфавіта. Мяккасць зычных у канцы слоў і перад цвёрдымі зычнымі абазначаецца мяккім знакам, рэгулярная асіміляцыйная мяккасць зычных перад мяккімі падразумяваецца

без абазначэння. Выбухныя гукі [г], [г'] у рэестравай і ілюстрацыйнай частках друкуюцца тлустым шрыфтам: **ГА́НАК** *м.* Сені. *К дому прыбудавалі га́нак.*

Калі загаловачнае слова выступае ў варыянтах (акцэнтных, фанетычных, словаўтваральных, граматычных), то гэтыя варыянты падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле праз коску: БАРЭ́Т, БЭ́РАТ *м.* Берэт; БАСЯКА́, БАСЯКО́М *прысл.* Басанож. Пры наяўнасці адрозненняў у граматычнай характарыстыцы яна даецца пры кожным варыянце, калі ж такіх адрозненняў няма, то граматычная характарыстыка даецца пасля апошняга варыянта: ВІХРА́НІК *м.,* ВІХРУ́ХА *ж.* Моцны вецер, бура; ЛАБЕ́ШНІК, ЛАБЭ́ШНІК *м.,* ЛАБІ́НА, ЛАБЭ́ЦІНА *ж., экспр.* Лоб; ДЗЯРО́НКА, ДРА́НКА, ДРА́НІЦА *ж., кулін.* Бабка з дранай бульбы. Кожны з варыянтаў прыводзіцца ў рэестры на сваім месцы з адсылкай да першага слова (ДЗЯРУ́Н гл. ДЗЯРО́НІК; БАЎТО́НКА гл. БАЛТУ́ХА), за выключэннем выпадкаў, калі паміж гэтымі варыянтамі няма іншых рэестравых слоў.

Калі засведчана слова, якое ў адных гаворках мае формы адзіночнага і множнага ліку, у другіх – пераважна множнага ліку, то спачатку падаецца форма адзіночнага ліку, а праз коску – форма множнага ліку з паметай *мн.*: АБКАЛО́Т *м., зб.,* АБКАЛО́ТКІ *мн.* Абмалочаныя снапы жыта. Калі ж назоўнік мае толькі форму множнага ліку, падаецца памета *толькі мн.*: АБКО́ПКІ *толькі мн., абрад.* Дакопкі; АБМАЛЮ́ТКІ, АБМАЛО́ЦІНЫ *толькі мн., абрад.* Свята з выпадку заканчэння малацьбы.

Складаныя назвы падаюцца ў загалоўным слове як самастойныя намінатыўныя адзінкі пад умоўным знакам ○ : ○ ВАРО́НІ ЗУБ *м., бат.* Спарынне; ○ ЛАЗА́ БЕ́ЛАЯ *ж.* Вярба белая.

Пасля граматычных памет да многіх слоў даюцца стылістычныя паметы паводле прыналежнасці слова да пэўнай лексіка-тэматычнай групы або ў залежнасці ад характару экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі: АКУ́БКІ *мн., бат.* Сыраежкі; БАЛАБЭ́ШКІ *мн., кулін.* Салодкія сухары, спечаныя ў печы; БАЛМА́Т, БО́ЛМАТ *м., асудж.* Чалавек, які любіць шмат гаварыць; балбатун.

Значэнні мнагазначных слоў змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле, кожнаму значэнню адпавядаюць лічбавыя абазначэнні 1, 2, 3 і г.д. Усе значэнні размяшчаюцца паслядоўна, адно за другім, ланцужком, з ілюстрацыямі і пашпартызацыяй: АБЕ́РУЧ *прысл.* 1. Абедзвюма рукамі (абхапіць, узяць што-н.). *Ухваціў абе́руч маю руку.* Камень Леп. 2. Папераменна, то ў

адной, то ў другой руцэ (несці што-н.). *Марынка абе́руч несла гэтую торбу.* Арханава Міёр. 3. Разам. *Той зімой восем чалавек жылі абе́руч з намі ў нашай хаці.* Нурава В.-Дзв.

Аманімічныя словы распрацоўваюцца ў асобных артыкулах і пазначаюцца надрадковай лічбай пасля загаловачнага слова:

БЕРАЗНЯ́К[1] *м.* Бярозавы сок.

БЕРАЗНЯ́К[2] *м., часцей мн.* БЕРАЗНЯКІ́ *бат.* Падбярозавік.

Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання̃ вылучаюцца ў асобныя слоўнікавыя артыкулы. Прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, адпаведныя разрады займеннікаў (азначальныя, указальныя, прыналежныя) даюцца ў пачатковай форме – адз. л., м. р., Н. скл. Кожнае слова афармляецца асобным слоўнікавым артыкулам.

Граматычныя формы, што ўжываюцца ў пэўнай функцыі, суправаджаюцца спецыяльнымі тлумачэннямі. Напрыклад, калі лічэбнік ужываецца ў значэнні прыслоўя, то ставіцца памета *ў знач. прысл.*, калі ў значэнні часціцы – памета *ў знач. часц.*: АННА́ *ў знач. прысл.* Адна, адзінока; АННЫ́ *ў знач. часц.* Адны, толькі.

Рэестравае слова, а таксама словы-варыянты тлумачацца сінанімічным літаратурным адпаведнікам. Калі адпаведнае нарматыўнае слова мнагазначнае, то ў тлумачальнай частцы прыводзіцца яно, а таксама сінонім (калі ён ёсць) ці даецца яшчэ тлумачэнне рэестравага слова апісальна: напрыклад, дзеяслоў АБАБІ́ЦЦА тлумачыцца словам “пабіцца”. Але слова “пабіцца” ў ТСБМ (т. 3, с. 462) мае 6 значэнняў, у тым ліку і ‘пабіць адзін аднаго’. Таму ў тлумачальнай частцы разам з дзеясловам “пабіцца” прыводзіцца словазлучэнне “ўчыніць бойку”: АБАБІ́ЦЦА *зак.* Пабіцца, учыніць бойку. Параўн.: АБАРВА́ЦЦА *зак.* Падарвацца, аслабець ад цяжкай працы.

## УКЛАДАЛЬНІКІ СЛОЎНІКА

Матэрыялы слоўніка апрацаваны і падрыхтаваны да друку выкладчыкамі кафедры беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава: **А, І** – Злобін Л.І.; **Б** – Марозава Я.Н.; **В** – Печаніцына Л.У.; **Г** – Грачыха Т.А.; **Д** – Зіманскі В.Э.; **Е, Ё** – Семянькова Г.К.; **Ж** – Арцямёнак Г.А.; **З** – Бабіч Ю.М., Мартынкевіч С.В.; **К** – Дзядова А.С., Даўбешка Н.П.; **Л** – Злобін Л.І, Марозава Я.Н.

Рэдактар 1 часткі слоўніка – Злобін Л.І.

***Т.А. Грачыха, Л.І. Злобін***

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

### *Аршанскі раён*

Азярок, Андрэеўшчына, Антонаўка, Арэхаўка, Арэхаўск
Бабінічы, Балотавічы, Барадуліна, Барздоўка, Будзішча
Верацея, Вусце
Гарбацэвічы, Гацькаўшчына, Глінішча, Гразіна
Забалацце, Задроўе, Зайцава, Заполле, Заслонаўка, Звёздная, Зоськава, Зубава
Кашына, Казловічы
Лагі, Ларынаўка, Лісуны
Межава
Пагост, Панізоўе, Пашына, Пішчалава
Рагозіна, Рэпухава
Свісцёлкі, Селішча, Сідараўка, Смаляны, Стайкі, Стар, Суднікі
Тумінічы, Турлаі
Халмы, Харкаўка, Хлусава
Чурылава
Шыбекі
Якаўлевічы

### *Бешанковіцкі раён*

Абухава, Астроўна
Бачэйкава, Буднікі, Быцава
Вула, Вядзерава, Вярхоўе
Галі, Ганкавічы, Гарбачы
Дразды, Дубішча, Дуброва
Жалезкі, Жаркі, Жданова, Жыгалы
Забаре, Замашэнне, Заполле, Застарынне
Камоскі, Кошчава, Курылаўшчына, Крывое Сяло
Лабачова, Латыгава, Луг
Макаравічы, Малыя Галыні, Малы Двор
Навумаўка
Паліцы, Плісы, Промыслы, Пяцігорск
Ржаўка, Рубеж, Руда
Свяча, Сокарава, Стрыжава
Хоціна
Целяпні
Чаўнышкі, Чырвоныя Буднікі
Яцукі

### *Браслаўскі раён*

Абаляны, Азяраўцы, Аколіца Рудава, Антонаўцы, Ахрэмаўцы
Багданова, Богіна, Баруны, Белабокі
Варнелі, Вяжы
Гірэйшы, Глыбоўшчына, Голубаўшчына
Далёкія, Дамашы, Дзегцяры, Дукелі, Дрысвяты, Друйск, Друя, Дуброўка
Едлавічы
Завер'е, Замошша, Злота
Іказнь
Казяны, Каленкішкі, Карасіна, Карпішкі, Ксенжаполе, Купчэлі

Лапяны
Малькі, Мар'янполле, Мілашкі, Мілашы, Мількі
Опліса, Опса
Падрукша, Плюсы
Рудабісць, Рубеж
Самуйлы, Слабодка, Спрынды, Струста
Турчылава
Укля, Урбаны, Усяны
Цяцеркі
Чэрнева

*Верхнядзвінскі раён*

Абрамава, Абухава, Асвея
Бароўка, Барсукі, Боркавічы, Бігосава, Бялькоўшчына
Валынцы, Весніно, Вялікае Сяло
Галубава
Дзёрнавічы, Дубровы
Жоўніна
Задзежжа, Залучча, Заточча
Іскра
Каханавічы, Крывасельцы
Лісна, Луначарскае
Марцінава, Моханава, Мыкава, Мядзведзева
Новы Двор, Нурава
Поціна
Сардыкі, Сар'я, Свольна, Сенькава, Стралкі
Цясты
Чурылава
Яніна

*Віцебскі раён*

Андронавічы, Астрэйкава
Баршчоўка, Бялынавічы
Валькі, Ваяводкі, Вымна
Глазамічы, Грабяніца, Грышаны, Гунчанкі
Дзяйкі, Доўжа, Дразды, Дыманова
Жыгалава
Задзетуні, Задроўе, Задуброўе, Зазыбы, Замасточча, Заполле, Заронава, Зубакі
Камары, Каменка, Касачы, Княжыцы, Князі, Котава, Кузняцова, Кузьмянцы
Лугавыя, Лямніца
Мазалава, Мішуткі
Навасёлкі, Навікі, Нізкабор'е, Ноўка
Партызанаўка, Паўдзеткі, Пестуніца, Пудаць, Пунішча
Сакольнікі, Салавічы, Сапраны, Свярдлова, Слабада, Скрыдлева, Стайкі, Старое Сяло, Сураж, Сушчова
Трыгубцы, Трушчы
Хайсы, Храпакі
Цяцеркі
Шалыгі, Шчыпечы

*Гарадоцкі раён*

Азёркі, Альгова
Баравыя, Бычыха
Вадзянікі, Вархі, Верамееўка, Віраўля, Вярэчча
Гарані
Даўгаполле, Двухполле, Дражакі
Евіна, Езярышча
Жукава
Загуззе, Зазер'е, Зайкава, Залучча, Заходы
Іванаўка
Каверзы, Казінова, Казловічы, Канашы, Кудзіны
Леднікі, Ліцвінава, Лялеўшчына, Ляхаўка
Марозава, Марчанкі, Махалава, Мехавое , Мікалаенкі, Мяжа
Ноўка
Обаль
Палова, Пальмінка, Прудок, Пурышкі
Радчонкі, Ракава, , Раманава, Рамні, Рудня
Селішча, Скрыпкі, Сяло, Слабодка, Смалоўка, Стадолішча, Сцяпанавічы
Ткачы
Філімонава
Халамер'е, Хацейка
Целяшова
Яроненкі

*Глыбоцкі раён*

Абруб, Агурні, Азярцы
Бабічы, Бараны, Бервякі, Бортнікі, Булахі, Бушыкі
Вераб'і, Верхняе, Воўкаўшчына, Вусава
Галубічы, Галубчыкі, Гатаўшчына, Гваздова, Грыцы
Дзеркаўшчына, Доўгае, Дылевічы, Драбаўшчына, Дубаўшчына
Заазер'е, Забор'е, Завараты, Загор'е, Залессе, Замхава, Запруддзе, Зябкі
Іванаўшчына, Івесь
Кавалі, Камінщчына, Карабы, Квачы, Каралевічы, Кашталянаўшчына, Кішы, Косарава, Кульгаі
Лазічы, Ласі, Ластавічы, Ласкаўшчына, Латышы, Леснікі, Ломашы, Лужкі, Лучайка
Мацюкова, Мікуліна, Мнюта, Мосар, Мярэцкія
Надазер'е
Падсвілле, Папшычы, Петрунова, Пліса, Псуя, Празарокі, Прошкава, Прыпернае
Рудніца
Сазонаўшчына, Сарокі, Сасноўка, Сахнавічы, Свіла, Скражына, Снопкі, Слабада, Стуканы
Ураджайная
Філіпава
Хралы
Чарневічы, Чашкі
Шэпелева
Юркава
Ясевічы

*Докшыцкі раён*
Барсукі, Беразіно, Бірулі, Бягомль, Бярозаўка, Бярозкі
Вал(ў)калата, Вараны, Ветахмо, Вяцера
Глінішча, Грынеўшчына
Доўгае
Заборцы, Зарачыцак (-цк)
Камайск, Крыпулі, Крулеўшчына, Куты
Ліпаўкі
Макаравічы, Маргавіца
Несцераўшчына, Новае Запонне, Новая Вёска
Пасекі, Параф'янава, Порплішча, Пугачова, Пустаселле
Рашкаўка
Сасновая, Свіркі, Сітцы, Слабада, Сценка
Тумілавічы
Хілаўшчына
Чарневічы
Шантары, Швэплі, Шклянцы
Янкі, Янушова

*Дубровенскі раён*
Азёры, Анціпенкі, Асінторф
Баброва, Баева, Барсукі, Буда
Верамееўшчына
Гарэлькі
Дабрынь, Дварэц
Жабыкі
Іскозы
Каўровая, Косціна
Ляды, Ляхаўка
Мардахі
Парфенаўка, Пірагі
Рэдзькі
Слабада, Сваташыцы, Сіпішчава, Ступакі, Станіславова
Шухаўцы

*Лепельскі раён*
Баброва, Белаазёрны, Бор, Бораўна, Бяседы
Велеўшчына, Вялікі Поўсвіж
Глінніца, Горкі, Грыгаравічы, Губіна
Дворышча, Домжарыцы
Жарцы
Забалацце, Задоры, Залучына, Замошша, Занькі, Зароўе, Звязда, Зорніца
Камень, Кветча, Крайцы, Куляшы, Курмялёўка
Ляхавічы
Малы Поўсвіж, Малыя Пышнагоры, Матырына
Новыя Валосавічы
Паддуб'е, Пераходцы, Пышна
Слабада, Слабодка, Стаі, Стараселле, Старое Лядна, Стары Лепель, Суша
Чэрцы
Шаркоўка

*Лёзненскі раён*
Адаменкі, Арцёмава, Асташэва
Бабінавічы
Выдрэя, Высачаны, Выхадцы
Гарэлікі, Глоданкі, Гушчына
Дабрамыслі
Завольша, Загарадна, Замшына, Зуі
Кавалі, Калышкі, Крынкі
Малькава, Макаранкі, Мерзлякова, Міхалінава
Нізы
Ордзеж
Палёнаўка, Паловікі, Пагосцішча, Парыхі, Перамонт, Пушкі
Салаўёва, Слабадзішча, Смародзіна, Стар, Стасева
Уна
Чарнаручча
Якубаўшчына

*Міёрскі раён*
Авечкі, Акунёва, Арханава, Аўсянка
Балаі, Бычыншчына
Вісяты, Воўкаўшчына, Вянужа
Гараўцы, Грэцкія
Даўгінава, Дзянісава, Драгуны, Дрыгучы, Дэмскія
Забор'е, Завуцце, Зачарэўе
Іванькі, Ідоўта
Кавалькі, Казлы, Калінавая, Камянполле, Капыльшчына, Клетаў Двор, Крычава
Ласкаўшчына
Маляўкі, Манякова, Марозы, Марынкі, Мікалаёва, Мілашова, Мнюхі
Ніўнікі, Новы Пагост, Новыя Крукі
Павяцце, Папкі, Папшулі, Парадні, Паташня, Пераброддзе
Рунды
Сачыўкі, Слабада, Снегі, Спігальшчына, Сухавежа
Туркова, Турчына
Узмёны
Цілеўцы, Цімошкава
Чапукі
Шарагі
Язна, Ясева

*Пастаўскі раён*
Алашкаўшчына, Аліхверы, Ажуройсці, Андроны, Анкуды
Балаі, Белькі, Белішкі, Буцавічы
Варапаева, Васілеўшчына, Васіліны, Ваўкі, Вялічкі, Вярэнькі, Вярцінскія
Галбея, Груздава, Грэйцева, Гута
Дамуці, Дварчаны, Дунілавічы
Жакі
Ігнацішкі
Кавалі, Камаі, Казлоўшчына, Касцяні, Коўзаны, Круткі, Куніцкія, Кураполле, Курды

Ласіца, Лашукі, Лукашова, Лучай, Лынтупы, Ляхаўшчына
Магуны, Масленікі, Муляры
Нарыца
Перавознікі, Прамышляды
Русіны
Савічы, Свілелі, Свірдуны, Сіўцы, Слабада, Стары Двор
Трашчанішкі, Труханкі, Турлы
Фалевічы
Целякі, Цешылава
Чарты, Чорнае
Шабаны
Юнькі
Янкішкі, Ясюкі

*Полацкі раён*
Арлея, Астроўшчына
Багатырская, Бадзінава, Балдышы, Баравуха, Баяноўшчына, Белае, Бікульнічы, Булаўкі
Вераб'і, Ветрына
Гаравыя, Гараны, Гваздова, Глінішча, Гомель (і Гомля), Грамошча
Домнікі, Дубоўка, Дубраўкі
Жарцы
Заазер'е, Заенкі, Залессе, Захарнічы, Зюзіна, Зялёнка
Казімірова, Ксты, Кутняны, Кушлікі
Лукаўцы
Палата, Пазнякова, Пашкі, Пусташы
Рудня
Свяціца, Струнне, Сувалкава, Сухі Бор, Сякераўшчына
Труды
Фарынава
Чарнія

*Расонскі раён*
Верамеева, Верацёнкі, Вялікае Балота
Гарбачэва, Горы, Грышына
Даўгабор'е, Дворышча, Доўгі Бор
Жары
Забор'е
Кавалі, Канашонкі, Клясціцы, Краснаполле
Марачкова, Мурагі
Паўлава
Слабада, Сяляўшчына, Сяргеева
Харытонава
Якубова, Янкавічы

*Сенненскі раён*
Александрова, Алексінічы, Асінаўка, Арляны, Аўсеева
Багданава, Багушэўск, Белая Ліпа, Беліца, Бугаі
Варашылы, Выгада, Вялікае Сяло, Вялікая Пярэспа, Вялікі Азярэцк
Града, Гуліна
Дольдзева

Забор'е, Замошша, Заполле, Запруддзе
Кажамякі, Какоўчына, Канева, Капланы, Каралі, Колпіна, Крупяжына
Лазоўка, Латыгаль, Ледневічы, Літусава
Манголія, Машканы, Маргойцы, Марозаўка, Машчоны
Навязкі, Новае Сяло, Нямойта, Нярэйша
Обаль
Падворыца, Папоўка, Пастушкі, Перакопава, Полымя, Пожанькі, Прыветак, Пустынкі
Рабцы, Рай, Ракаў Засценак, Расходна, Рошчына, Рудніца
Савенічы, Сапегі, Свабодная, Скоґ, Смалоўка, Станюкі
Тур'ева
Уздорнікі, Ульянавічы
Ходцы
Шацяні, Шыркі

*Талачынскі раён*

Абольцы, Анэліна
Валосава, Варанцэвічы, Воўкавічы, Вялікае Гальцава
Галынка, Гаршчэўшчына, Гастынічы, Грачыхі
Дабравольск, Данілкава, Дроздава, Друцк
Еўлахі
Жакі
Заазер'е, Замошша, Заполле, Зарэчча
Каменка, Кісялева, Крывое, Крывыя
Лазы, Ламіншчына, Лаўрэнавічы
Мяшкова
Нізкі Гарадзец, Новае Саколіна, Новае Сяло, Новая Яблынька
Падбярэззе, Петрашы, Прусінічы
Равяцічы, Рыдамля
Сакалянка, Серкавіцы, Славені, Старая Будаўка
Чачанева
Шупені
Янава

*Ушацкі раён*

Антунова, Апанаскавічы, Арэхаўна
Ваўчо, Воцькавічы, Вялікія Дольцы
Гута
Жаўніна, Жывалака
Заазер'е, Забалоцце, Завыдрына, Завячэлле
Касары, Кублічы, Кугоні, Кулінава
Лутава Сяльцо
Матырына
Наваселле
Павулле, Пралетарыя, Пранікі
Рацькава, Рыбакі
Сарочына, Селішча, Слабада, Старое Сяло, Старынка, Судзілавічы
Угрынкі
Царкавішча
Шасцярні

*Чашніцкі раён*
Акцябрскі, Антаполле
Бараўцы, Бор, Будзілава
Віркі, Вішанькі, Вялікая Альшанка, Вялікія Смалянцы, Вяцера
Гілі, Горы, Грушава, Грынькі
Данілаўка, Дварэц, Дзярэўня, Дубінцы, Дуброўкі
Жукі
Загацце, Заессе, Зазерыца, Закур’е, Замачак, Запружаны
Іванск
Кашчына, Коравічы, Красніца, Кушняроўка
Лазукі, Латыголічы, Лукомль, Луцік, Лыскі
Малая Вядрэнь, Малыя Смалянцы, Марынцы, Міхалова, Мокавічы
Неўгадава, Новая Зара
Падрэзы, Пачаевічы, Першае Мая, Плаўнік, Проземля, Прыдвор’е
Руць
Сабалі, Сарочына, Старыя Лаўкі, Стаўбцы, Сялец
Тараскі
Ухлё
Цяпіна
Чарэя, Чорная Лаза

*Шаркаўшчынскі раён*
Альхоўцы, Амбросенкі
Бараноўскія, Баяршчына, Більдзюгі, Буеўшчына, Буды
Валожанкі, Варонка, Васюкі, Ваўкоўшчына
Гарадзец, Германавічы, Грыбоўшчына
Дварышча
Ёды
Жданы, Жукоўшчына
Залясінкі, Запруддзе, Зачысцікі, Зябліны
Каралёва, Каршункі, Каты, Каўшэлева, Корніца, Кубелеўшчына, Куштал
Лонск, Лужкі
Мельніца
Навасельцы
Палялейкі, Папкі, Пашкі, Пялікі, Пятровічы
Радзюкі
Савіцкія, Савуткі, Сасноўцы, Свілы
Таўкіні, Трабаўшчына, Тупічына
Чаромхава
Шпунты, Шыцi
Юзафова

*Шумілінскі раён*
Амбросавічы
Баёўка, Бандуры, Барсучына, Башні, Бокішава, Бубалі, Будзішча, Бунцікі, Бярэзніца
Вішня, Войлавічы, Вялікія Ляжні
Галі, Горкі, Губіца
Дабея, Далуева, Дуброва
Забор’е, Завяззе, Залессе, Заобаль, Зямцы

Івоніна, Ілава
Крывіцкі, Крывое Сяло, Куціна
Латкова, Лескавічы, Лоўжа, Лужкі
Мікалаева, Мікіціха, Мішкавічы, Мясаедава
Непароты
Обаль
Пялікі
Расалай, Роўнае, Рускі, Рыпіншчына
Сахоненкі, Сіроціна, Слабада, Сураўні, Сянькова
Ферма
Цаўі
Шодзікі, Шыліна
Язвіна

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ НАЗВАЎ РАЁНАЎ

Арш. – Аршанскі
Беш. – Бешанковіцкі
Брасл. – Браслаўскі
В.-Дзв. – Верхнядзвінскі
Віц. – Віцебскі
Гар. – Гарадоцкі
Глыб. – Глыбоцкі
Докш. – Докшыцкі
Дубр. – Дубровенскі
Леп. – Лепельскі
Лёзн. – Лёзненскі
Міёр. – Міёрскі
Паст. – Пастаўскі
Пол. – Полацкі
Рас. – Расонскі
Сен. – Сенненскі
Тал. – Талачынскі
Уш. – Ушацкі
Чаш. – Чашніцкі
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шум. – Шумілінскі

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абрад.* – абрадавае
*абразл.* – абразлівае
*аг.* – агульны род
*адз.* – адзіночны лік
*адзінк.* – адзінкавае
*асудж.* – асуджальнае
*бат.* – батанічнае
*безас.* – безасабовы дзеяслоў
*безас.-прэдык.* – безасабова-прэдыкатыўнае слова
*буд.* – будаўнічая справа
*вет.* – ветэрынарнае
*выкл.* – выклічнік
*выш.* – вышэйшая ступень
гл. – глядзі
*груб.* – грубае
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе
*дзіцяч.* – дзіцячае
*ж.* – жаночы род
*заал.* – заалагічнае
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зб.* – зборны назоўнік, лічэбнік
*злуч.* – злучнік
*знач.* – значэнне
*зневаж.* – зневажальнае
*іран.* – іранічнае
*кулін.* – кулінарнае
*ласк.* – ласкальнае
*лаянк.* – лаянкавае
*ліч.* – лічэбнік
*м.* – мужчынскі род
*мед.* – медыцынскае
*міф.* – міфалагічнае
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*наз.* – назоўнік
*неадабр.* – неадабральнае
*незак.* – незакончанае трыванне
*пабочн. сл.* – пабочнае слова
*павел.* – павелічальнае
*пагард.* – пагардлівае
*памянш.* – памяншальная форма
*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма
*параўн.* – параўнай
*перан.* – пераноснае значэнне
*прым.* – прыметнік
*прысл.* – прыслоўе
*пчал.* – пчалярскае
*пыт.* – пытальны
*рыб.* – рыбалоўнае
*рэліг.* – рэлігійнае
*с.-г.* – сельскагаспадарчае
*ткац.* – ткацкае
*тэхн.* – тэхнічнае
*часц.* – часціца
*што-н.* – што-небудзь
*экспр.* – экспрэсіўнае

# А

АБАБІ́ЦЦА *зак.* Пабіцца, учыніць бойку. *Салдаты так ababіліся.* Белішкі Паст.

АБАБІ́ЦЬ *зак.* 1. Пабіць каго-н. *А ён зноў ababіў сваю жонку.* Жукоўшчына Шарк. *Рабёнка ababілі.* Абруб Глыб. 2. Скасіць. *Пайду, можа, крапіву абаб'ю.* Надазер'е Глыб.

АБА́БКА *ж., бат.* Абабак, падбярозавік. *Ля хаты вырасла абабка.* Рубеж Беш. *У траве ўбачыў абабку.* Крынкі Лёзн., Зубава Арш., Камоскі Беш., Азяраўцы Брасл., Горы Чаш. Параўн. *апухлік.*

АБАБРЫ́ЦЬ *зак.* Пагаліць. *Ён абабрыў сябе і пайшоў да магазіна.* Нямойта Сен.

АБАГНУ́ЦЦА *зак.* Прагнуцца. *Дзеўкі паселі на лаўку, што тая абагнулася.* Галбея Паст.

АБАГУ́Л *м.*, АБАГУ́ЛЛЕ *н.* Калгасны двор. *Кожны ранак маці йдзе на абагул.* Ордзеж Лёзн. *Абагулле поўнае людзей.* Залучча Гар. *Уранні калхознікі збіраюцца на абагуллі.* Марозава, Стадолішча Гар., Сокарава Беш.

АБА́Д *м.* Вобад. *Пачаў гнуць абад.* Нурава В.-Дзв.

АБА́ДВА, АБА́ДВЫ, АБА́ДЗВА, АБА́І, АБА́Я, АБО́ДВЫЯ, АБО́І, АБО́Я, АБУ́ДВА *ліч.* Абодва. *Мае сыны абадва ў горадзі жывуць.* Хацейка Гар. *Абадва кныра забілі перад калядамі.* Воўкаўшчына Міёр. *Што адзін, што другі -- абадва роўныя.* Каты Шарк. *Яны абадзва халастыя.* Кураполле Паст. *Абаі вядры з вадой.* Стаі Леп. *Абая брацікa загінулі на тэй вайне.* Салаўёва Лёзн. *Абодвыя роўныя, як адзін.* Валынцы В.-Дзв. *Яны абоі не прышлі да нас.* Ляхаўшчына Паст. *Абоя прыходзілі -- адзін астаўся, а другі пайшоў.* Бугаі Сен. *Абудва сыны на цябе не пахожыя.* Мікалаёва Міёр.

АБА́ДРЫШ *м., асудж.* Абадранец. *У добрых бацькоў дзеці абадрышамі ня будуць.* Кутняны Пол.

АБА́І гл. АБА́ДВА

АБАЙСЦІ́ *зак.* Узысці (пра пасаджанае, пасеянае). *У мяне ўжо скора абойдзіць бульба.* Сасноўцы Шарк.

АБАЙСЦІ́СЯ, АБЫСЦІ́СЯ *зак.* Парабіць хатнюю работу, управіцца па гаспадарцы. *Бабуля абайшлася па хазяйству.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ўжо абайшлася, магу пасядзець.* Ушачы. *Хуценька абышлася, заране ўсё парабіла.* Амбросенкі Шарк.

АБАКРЫ́ЦЬ *зак.* Накрыць. *Гуркі вечарам трэба абакрыць.* Бігосава В.-Дзв.

АБАЛВАНЕ́ЦЬ *зак.* Страціць здольнасць ясна мысліць, лагічна разважаць; затлуміцца. *Абалване́іш з гэтымі дзецьмі за дзень.* Шантары Докш. *Ну, яна абалване́ла, пятага рабёнка будзіць ражаць.* Амбросенкі Шарк. *Баба мая зусім ужо абалване́ла, з работы не вылазіць, хату запусціла.* Празарокі Глыб.

АБАЛДУ́ІН, АБАЛДУ́Й *м., груб., зневаж.* Неразумны, дурны чалавек; аболтус. *Хлопцы зараз нейкія абалду́іны.* Порплішча Докш. *Ай, які ж ты абалду́й.* Бораўна Леп. Параўн. *аплэ́вух, аплэ́вуш, асяло́к.*

АБАЛО́НКА *ж.* Кавалак (пра сала). *Вазьмі са стала абало́нку сала.* Празарокі Глыб.

АБАЛО́НЬ *ж.* Абалона, лугавое ўзбярэжжа ракі, якое заліваецца ў разводдзе. *Вясною выведу цялёнка на абало́нь.* Буднікі Беш. *Сёння касіць будзем на абало́ні.* Ветрына Пол. *Сягоня сена дзялілі на абало́ні.* Мельніца Шарк.

АБАМКНУ́ЦЦА *зак.* Замкнуцца, зачыніцца (на замок, ключ). *Абамкну́ліся і ў хату не пускаюць.* Бортнікі Глыб.

АБАМШЫ́ЦЬ *зак.* Пракласці мохам. *Крепка абамшы́ў хату, у такую мароз ня ўлезіць.* Ляхаўка Дубр. *У тым годзе зноў абамшы́лі мне хату, дык гэтую зіму не мела гора.* Велеўшчына Леп.

АБАНІ́ТЫ *прым.* Распешчаны, распусны. *А ў свахі ў нашый такій унук абані́тый, што страх.* Вадзянікі Гар. *У іх быў маліц, ну дужа абані́тый.* Яроненкі Гар. *Уціхамір свайго сына: ён у цябе абані́ты.* Сураўні Шум.

АБАНДУ́РІЦЦА *зак.* Стаць нахабным, распешчаным, распусным. *Ты ўжэ саўсім у міне абанду́ріўся.* Канашы Гар.

АБАПНУ́ЦЬ *зак.* Завесіць. *Трэба абапну́ць вокны ды ўключыць свет.* Іванаўка Гар.

АБАРАЦЕ́НЬ *м., міф.* Пярэварацень, ваўкалак. *Гаворaць, былі ў нас раньш абараце́ні.* Абруб Глыб., Машканы Сен.

АБАРБА́Л *м., груб.* Бесталковы, прыдуркаваты мужчына. *Ой, суседзе, абарба́л ты саўсім стаў. Ні панімаіш жызні ты.* Гараўцы Міёр.

АБАРВА́ЦЦА *зак.* Падарвацца, аслабець ад цяжкай працы. *Абарва́ўся, калі цягнуў мех бульбы.* Ахрэмаўцы Брасл.

АБАРО́Т *м.* Кароткая папяросная баразна бульбы. *Нада было б і абаро́ты паганяць, каб к аднаму месту.* Рускі Шум. *Пасадзілі дваццаць баразён і тры абаро́ты.* Зубава Арш.

АБАРЭ́Ц *м.* Прылада для лоўлі рыбы. *Абарэ́ц -- такая сетка на палках.* Бікульнічы Пол.

АБАСНУ́ЦЬ *зак.* Заснуць. *Калі ён абасне́ць, божа ты мой!* Сасноўцы Шарк.

АБАЧНУ́ЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Рана татка абачну́ўся кароў у поле выганяць.* Шаркоўка Леп. *Сёння абачну́лася ў пяць часоў і не заснула болій.* Завер'е Брасл. *Хаця б свякроўка не абачну́лася.* Малыя Смалянцы Чаш.

АБА́ЧЫЦЬ *зак.* Убачыць. *І тады я яго аба́чыла.* Баравуха Пол.

АБА́Я гл. АБА́ДВА

АББІ́ЦЦА *зак.* Пабіцца, моцна ўдарыцца. *І як жа я сільна аббі́лася!* Заазер'е Тал.

АБВАДЗЯНЕ́ЦЬ *зак.* Зрабіцца вадкім, звадзянець. *Кісель зусім абвадзяне́ў.* Казлоўшчына, Ляхаўшчына Паст., Празарокі Глыб.

АБВАЛАКА́НІК *м.* Кажух, пакрыты сукном. *Адзень абвалака́нік, калі пойдзеш у хлеў.* Дунілавічы Паст.

АБВАЛІ́ЦЦА *зак.* Страціць прытомнасць, упасці непрытомным. *Як убачыла яго, так і абвалі́лася. Другі чалавек вярнуўся.* Выгада Сен.

АБВА́РАНІКІ *мн.* Бульба, звараная ў лупінах. *Зварылі на абед абва́ранікі дый паелі з кіслым малаком.* Ваяводкі Віц. Параўн. *абіра́нка.*

АБВАРЫ́ЦЬ *зак.* Апарыць. *Во нядоля, руку абвары́ла.* Більдзюгі Шарк.

АБВЕ́ТРЫЦЬ *зак.* Падсохнуць на ветры. *Думалі малаціць жыта, але няхай трохі абве́трыць после дашчу.* Мікуліна Глыб.

АБВЯРНУ́ЦЬ *зак.* Ахінуць чым-н. з усіх бакоў, абгарнуць. *Абвярні́ кнігу, патрэпліш.* Залессе Глыб. *Абвярні́ цвяты хоць бумагай.* Новыя Валосавічы Леп.

АБГАВО́РЛІВЫ *прым., неадабр.* Які абгаворвае, нядобразычліва выказваецца пра каго-н., ілжывы. *А во яна абгаво́рлівая баба.* Астроўшчына Пол. Параўн. *абсу́длівы.*

АБГАЛО́ЧАНЫ *прым.* Збяднелы. *Абгало́чаныя булі людзі пры панох.* Кавалі Глыб. *У вайну саўсім абгало́чаныя булі.* Абруб Глыб.

АБГА́РКІ *мн.* 1. Выжарына. *На абга́рках мы назбіралі баравікоў.* Грыцы Глыб. 2. Папялішча. *Пасля вайны вярнуліся на абга́ркі.* Галбея Паст.

АБГАРО́ДКА, АБГАРО́ЖА *ж.* Агароджа. *Абгаро́дку даўно красіць нада.* Гута Паст. *Абгаро́жа ў нас высокая.* Порплішча Докш.

АБГАРЭ́ЛАК *м.* Абгарак. *У печцы астаўся вялікі абгарэ́лак.* Ластавічы Глыб.

АБГЛЫ́ЗАНЫ *дзеепрым.* Абгрызены. *А яблані нашы ўжо абглы́заны зайцамі.* Узмёны Міёр.

АБГЛЯ́ДЗІНЫ, АГЛЯ́ДЫ *толькі мн., абрад.* Агледзіны дзяўчыны перад сватаннем. *Праз нядзелю мая сястра паедзіць ў абгля́дзіны.* Гута Паст. *Хутка прыедуць да нас у агля́ды.* Ігнацішкі Паст.

АБГНІ́ЛЫ *дзеепрым.* Спарахнелы. *У лесе не так і шмат абгні́лых пнёў.* Камайск Докш. *Абгні́лая балка правісла.* Езярышча Гар.

АБГНІ́ЦЬ *зак.* Спарахнець. *Хата старая, ужо абгні́ла.* Ноўка Віц.

АБГО́ІЦЦА *зак.* Загаіцца, зажыць (пра рану). *Зрабілі апірацыю на вочы, павінна абго́іцца.* Галбея Паст.

АБГО́РТВАЦЬ *незак., с.-г.* Акучваць. *Хопіць аддыхаць, пара абго́ртваць бульбу.* Суша Леп. *После дожджыку будзім абго́ртваць бульбу.* Ёды Шарк.

АБГРАБА́ЦЬ *незак.* Зграбаць сена ў валы. *Пойдзем сена абграба́ць, ужэ сухое.* Кудзіны Гар.

АБДЗЕ́ЛАЦЬ *зак.* Залатаць. *Трэба абдзе́лаць штаны, саўсім абарваліся.* Сокарава Беш.

АБДЗЕ́РКА, АБДЗЁРКА, АБДЗІ́РКА *ж.* Мука шатраваная. *Дзелалі з абдзе́ркі бліны.* Езярышча Гар. *Змалоў абдзёркі пудоў шэсць.* Барсукі Дубр., Чорнае Паст. *Раней паедзеш у калхоз, абдзі́ркі купіш, дык цэлых паўгода свінней корміш.* Маргавіца Докш.

АБДЗЕ́ЦЦА *зак.* Ухутацца, цёпла апрануцца. *Абдзе́лася, як куль, усё роўна як у калянік.* Псуя Глыб. Параўн. *ашу́шкацца.*

АБДЗЕ́ЦЬ *зак.* Апрануць. *Нада малага абдзе́ць на вуліцу.* Свяча Беш.

АБДЗЁРАК *м.* Кавалачак бульбы, які застаецца пасля яе здрабнення на тарцы. *Абдзёркі не выкідвалі, іх варылі курам.* Абруб, Кавалі Глыб. *Дзяры бульбу і ні кідай абдзёркі.* Дабея Шум. Параўн. *абцёрак, агры́зак.*

АБДЗЁРКА гл. АБДЗЕ́РКА

АБДЗІРА́НЕЦ *м.* Абадранец. *Да нас на двор прыбіўся нейкі абдзіра́нец.* Ветрына Пол. *Надзенься, а то ходзіш як абдзіра́нец які.* Кушлікі Пол. *З такім абдзіра́нцэм і гаварыць ня хочыцца.* Высачаны Лёзн.

АБДЗІРА́НКА *ж., кулін.* Страва з тоўчанай у ступе пшаніцы, забеленая малаком. *У тых, у каго балеў жывот, ці печая, ці яшчэ што такое, лепшая яда была абдзіра́нка.* Германавічы Шарк.

АБДЗІ́РКА гл. АБДЗЕ́РКА

АБДЗІ́РНЫ *прым.* Шатраваны; прыгатаваны з зерня, падвергнутага шатраванню. *Абдзі́рная мука ў нас для ската.* Варашылы Сен.

АБДУВА́НЧЫК, АДУВА́Н, АДУВА́НЕЦ *м., бат.* Дзьмухавец. *Адньымі абдува́нчыкамі зарасло поле.* Шантары Докш. *Адува́н цвіціць, а потым ляціць абы-куды.* Гарэлькі Дубр. *У голад мы елі адува́ны.* Абольцы Тал. *Там, ля лесу, усё поле ў адува́нцах. Адува́нец палезны.* Шэпелева Глыб. *Адува́намі ўсё поле зарасло, німа чаго касіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

АБДУ́ЦЬ *зак., безас.* Уздуць, раздзьмуць. *Карову сёння абду́ло.* Бачэйкава Беш.

АБЕ́Д *м.*, АБЕ́ДДЗЕ *н.* Полудзень, сярэдзіна дня. *Ужэ абе́д, трэба кароў ісці даіць.* Стайкі Віц. *Абе́ддзе на дварэ, а ён ляжыць.* Барсукі Дубр.

АБЕ́ДАШНІ *прым.* 1. Абедзенны, прызначаны для абеду. *Абе́дашні перапынак вельмі малы. А абе́дашні суп ужэ з'елі?* Мікалаева Міёр. 2. Паўдзённы, які мае адносіны да паўдня. *Там у жбанку малако абе́дашняе стаіць.* Паліцы Беш. *Мы папілі абе́дашняга малака.* Ляды Дубр.

АБЕ́ДДЗЕ гл. АБЕ́Д

АБ'Е́ДДЗЕ, АБ'Е́ДДЗЯ *н., зб.* Рэшткі сена. *Сена не асталася зусім, адно аб'е́ддзе.* Мікалаёва Міёр. *Вот ні знаю, куды аб'е́ддзе дзяваць.* Турчына Міёр. *Сабяры аб'е́ддзе і занясі ў пуню.* Сураўні Шум. *Аб'е́ддзе ад каровы каню атнашу.* Снегі Міёр. *Пайду аб'е́ддзя вынесу.* Сцяпанавічы Гар.

АБ'Е́ДЗІНЫ *толькі мн.* Аб'едкі. *Пасля снедання столькі аб'е́дзінаў асталося.* Шантары Докш.

АБЕ́ДКАВАЦЬ *незак.* Абедаць. *Ці пара ўжо абе́дкаваць?* Камайск Докш. *Пойдзем ужо з поля абе́дкаваць.* Новая Вёска Докш. *Паглядзі на сонца, паўдзён ужо, абе́дкаваць пара.* Беразіно Докш.

АБЕ́ДНІК *м.* Гаршчок (невялікі). *Крупнік у абе́дніку закіс.* Слабада Віц. *Абе́днік з вячэрай паставілі.* Янкі Докш., Высачаны Лёзн.

АБЕ́І, АБЕ́Я, АБЮ́ДЗВІ *ліч.* Абедзве. *Жылі з намі абе́і цёткі маі.* Парыхі Лёзн. *Абе́я ні разу ўмесці ні булі ў нас.* Барсукі Дубр. *У яго раненыя абе́я нагі.* Гомель Пол. *Абю́дзві сястры грабуць сена.* Урбаны Брасл.

АБЕ́РУЧ *прысл.* 1. Абедзвюма рукамі (абхапіць, узяць што-н.). *Ухваціў абе́руч маю руку.* Камень Леп. 2. Папераменна, то ў адной, то ў другой руцэ (несці што-н.). *Марынка абе́руч несла гэтую торбу.* Арханава Міёр. 3. Разам. *Той зімой восем чалавек жылі абе́руч з намі ў нашай хаці.* Нурава В.-Дзв.

АБ'Е́ХАЦЬ *зак.* Асунуцца, змарнець. *Аб'е́хала Галя пасля пахарон.* Сасноўцы Шарк.

АБЕ́ЧКА *ж.* 1. Вобад рэшата, сіта і інш. *Здзелаў абе́чку для сіта. Абыдраў старую ліпіну і здзелаў абе́чку ў рэшата.* Сакольнікі Віц. 2. Круг з лубу для намотвання пражы. *Було, на абе́чка маталі ніткі.* Боркавічы В.-Дзв.

АБЕ́Я гл. АБЕ́І

АБЖА́ЛІЦЬ *зак.* Абскардзіць. *Прыгавор трэба абжа́ліць.* Акунёва Міёр. *Усё-ткі абжа́лілі рашэнне суда.* Мікалаёва Міёр.

АБЖАРГА́ЦЬ[1] *зак.* Падрапаць (руку, твар і пад.). *Пайшла ў лес, дык у кустах абжаргáла ўсе рукі.* Альхоўцы Шарк. Параўн. *абшкума́ціць.*

АБЖАРГА́ЦЬ[2], АБЖЫРГА́ЦЬ, АЖАРГА́ЦЬ, АЖЫРГА́ЦЬ *зак.* Асядлаць, сесці верхам на што-н. *Паглядзі, наш малы абжаргáў барана і паехаў.* Стралкі В.-Дзв. *А ён абжаргáў мяне і не пускаіць.* Таўкіні Шарк. *Малец абжаргáў парог і выкаціўся з хаты.* Пашкі Шарк. *Помню, малы абжыргáіць гален і бегаіць за курамі.* Сахнавічы Глыб. *Унук ажаргáў дзеда, як каня.* Лужкі Глыб. *Ажыргáў услон і сядзіць, як на кані едзіць.* Сакольнікі Віц.

АБЖО́ГА *ж.* Апёк. *А абжо́га і сёння ныіць.* Бачэйкава Беш.

АБЖЫГЧЫ́ *зак.* Апячы крапівой. *І трэба ж было яму так абжыгчы́ рукі.* Казлоўшчына Паст. Параўн. *абкастры́ць, абстракíвіць, абстры́каць.*

АБЖЫ́НКІ *толькі мн., абрад.* Дажынкі. *Абжы́нкі даўней весела гулялі.* Слабада Докш., Сушчова Віц.

АБЖЫРГА́ЦЬ гл. АБЖАРГА́ЦЬ[2]

АБЖЫ́РНЫ *прым.* Тлусты, укормлены. *У суседкі такі абжы́рны кабан.* Казлоўшчына Паст.

АБІ́ДЖЫВАЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Яго ніхто не збіраўся абі́джываць, і нечага пустое прыдумляць.* Стаі Леп.

АБІ́МЫ *толькі мн.* Абдымкі. *Ідзі да бабулі ў абі́мы.* Ляleўшчына Гар.

АБІРА́КА *аг., асудж.* Злодзей. *Да яе ўчора нейкі абірáка залез, дык капусту ўсю вынес.* Арханава Міёр. *Абірáка абабраў у нас ні адну хату.* Мікалаёва Міёр.

АБІРА́НКА *ж., адз., кулін.* Бульба, звараная ў лупінах. *Сягоння я сваім абірáнкі наварыла.* Урбаны Брасл. *Мы любім абірáнку, яе можна парэзаць і патушыць.* Германавічы Шарк. Параўн. *абвáранікі.*

АБІРЫ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Астрыгчы. *Мой кум быў масцер абіры́чыць валасы.* Нурава В.-Дзв. *Я свайго малога абіры́чыла, толькі чубчык аставіла.* Лужкі Шарк.

АБІ́ЦІК, АДБІ́ЦІК *м.* Гліняны збанок з адбітым горлам. *Я там табе малако ў абіціку паставіла.* Латыголічы Чаш. *Кіслае малако стаіць у адбіціку.* Баева Дубр.

АБІЯ́КІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *У школу я хадзіла ў абіяках.* Прошкава Глыб.

АБКАЛО́Т *м., зб.,* АБКАЛО́ТКІ *мн.* Абмалочаныя снапы жыта. *Абкало́т склалі ў сараі на падсцілку карове.* Зазер'е Гар. *Абкало́т высушвалі і складвалі.* Падбярэззе Тал. *Абкало́ткі складзіце ў амбар.* Шарагі Міёр. *У абкало́тках капашыліся куры.* Залясінкі Шарк.

АБКАСТРЫ́ЦЬ *зак.* Апячы крапівой. *Ціплят іскала, усе ногі абкастры́ла.* Гарбачэва Рас. Параўн. *абжыгчы́, абстракі́віць, абстры́каць.*

АБКІ́ДКА *ж.* Абвязванне, упрыгожванне вяззю. *А вось абкі́дку я не ўмею рабіць.* Мікалаёва Міёр.

АБКЛАДНЫ́, АКЛАДНЫ́ *прым.* Абложны (пра дождж). *Во, сянне дождж абкладны́.* Грабяніца, Заронава Віц. *Дошч, мабыць, акладны́ будзе, вельмі ж зацягнула неба.* Жоўніна В.-Дзв. *Акладны́ дошч будзіць.* Пліса Глыб. *Неба сівое, страшное, як пашоў акладны́ дошч, дык добрую нядзелю пагоды ня будзець.* Германавічы Шарк.

АБКО́ПКІ *толькі мн., абрад.* Дакопкі. *Прыходзь сёння на абко́пкі.* Вымна Віц.

АБКО́САК *м.* Касмык травы на скошанай сенажаці. *На пакосе астаўся адзін абко́сак.* Заазер'е Гар. *Не адолеў ты ўжэ тэй абко́сак.* Нярэйша Сен. *Не хадзі басанож па абко́скам.* Краснаполле Рас.

АБКРАПІ́ВІЦЦА *зак.* Апячыся крапівой. *Тут не ідзіце -- абкрапі́віцеся.* Кісялева Тал.

АБЛАБА́НІЦЬ, АБЛАЧБА́НІЦЬ *зак., экспр.* Абстрыгчы вельмі коратка. *Апяць аблаба́ніць цябе.* Смалоўка Гар. *Ну ты мяне і аблаба́ніў, тры валасіны засталося.* Дольдзева Сен. *Во, дзед унучка аблачба́ніў, людзі разбягуцца.* Латышы Глыб. Параўн. *абчыка́ніць.*

АБЛАСУ́ЦІЦЬ *зак., экспр.* Ашукаць, падмануць. *Гэтыя падросткі абласу́цілі мяне, як малую якую.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *амманíць, ачму́ціць, ашалапуціць.*

АБЛАТАШЫ́ЦЬ *зак.* Абарваць, абабраць (садавіну). *У мяне яблыкі яшчэ зялёнымі аблаташы́лі.* Бачэйкава Беш. *Аблаташы́лі старую яблыню поўнасцю.* Мікалаёва Міёр., Запруддзе Шарк.

АБЛА́ХАЦЬ *зак., экспр.* Абхадзіць. *Увесь лес абла́хаіш, а грыба ня знойдзеш.* Латыголічы Чаш.

АБЛАЧБА́НІЦЬ гл. АБЛАБА́НІЦЬ

АБЛЕ́ТАК, АБЛЁТАК *м.* Жывёліна, якая пералетавала. *Твой абле́так нейкі худы. Не сальны будзе.* Цімошкава Міёр., Малы Поўсвіж Леп., Прыдвор'е Чаш. *Цёлка ў нас аблётак.* Астроўна Беш.

АБЛЕ́ТНІК *м., толькі адз., зб.* Дровы, нарыхтаваныя вясной. *А мне ўжо воз аблётніку прывезлі.* Прыдвор'е Чаш. *Бралі дровы з сухога аблётніку, чуркі са дзве.* Малы Двор Беш., Малы Поўсвіж Леп.

АБЛЁТАК гл. АБЛЕ́ТАК

АБЛІВА́КА, АБЛІВА́ХА *ж.*, АБЛІ́ВЕ́НЬ, АБЛО́Й *м.* Зімовы дождж; галалёд. На *машыне ні праедзіш, ноччу аблівáка такая була.* Верхняе Глыб. *На дварэ аблівáха, хадзіць страшна.* Івесь Глыб. *Сёння на двары аблівáха, заваліцца можна.* Савенічы Сен. *За ноч аблівéнь усю дарогу засцякліў.* Астроўшчына Пол. *На дварэ аблівéнь, ні прайсці ні праехаць.* Далёкія Брасл. *Нікуды ні выйсці, такі аблівéнь.* Макаравічы, Тумілавічы Докш. *Такі аблі́вень на двары.* Ласіца Паст. *Учора йшлі ў такі аблі́вень.* Антаполле Чаш., Псуя Глыб., Новыя Валосавічы Леп., Паташня, Снегі, Ясева Міёр., Нярэйша, Ульянавічы Сен. *Такі абло́й быў, чуць з дзедам ногі не паламалі.* Барсукі В.-Дзв. *Абло́й, Дзвіну нікак не перайсці.* Бароўка, Бігосава, Боркавічы В.-Дзв.

АБЛІ́ЦА *ж.* Плотка. *З рібы прінёс толькі трі абліцы.* Дворышча, Забор'е Рас.

АБЛО́ГА *ж.*, АБЛО́ЖНІК *м.* Дождж абложны, абкладны. *Аблóга акбклала ўсё вакол.* Загарадна Лёзн. *Ужо тры дні аблóжнік ідзець.* Чарэя Чаш. *Як неба аблажыла, будзе аблóжнік.* Дзегцяры Брасл.

АБЛО́Й гл. АБЛІВА́КА

АБЛО́К *м.*, АБЛО́КА *ж.* Воблака. *Глядзі, які аблóк, пеўне, дошч будзе.* Баруны Брасл. *Аблóкі ўсё неба абклаўшы.* Рубеж Брасл. *Белая аблóка на сінім небе – хараша!* Бугаі Сен.

АБЛУ́ДА *ж.* Няправільная, памылковая думка. *Ай, зноў нейкая аблу́да ў галаве.* Прыдвор'е Чаш.

АБЛУНЕ́ЦЬ *зак., груб.* Здурнець, зрабіцца ненармальным. *На старасці гадоў зусім аблунéў.* Бадзінава Пол., Старое Сяло Віц., Грыцы Глыб.

АБЛЮБІ́ЦЬ *зак.* Упадабаць, выбраць. *Мы аблюбілі гэтыя мясціны.* Ясюкі Паст.

АБМАЛО́ТКІ, АБМАЛО́ЦІНЫ *толькі мн., абрад.* Свята з выпадку заканчэння малацьбы. *Хутка ўжо будуць абмало́ткі.* Ластавічы Глыб. *Закончылі работу, можна й абмало́ціны гуляць.* Лашукі Паст. *Малацілі талакой, а тады разам гулялі абмало́ціны.* Лукашова Паст., Бугаі Сен.

АБМА́НКА[1] *ж.* Гумавая соска для груднога дзіцяці, пустышка. *Дай дзіцяці абмáнку, яно спаць хоча.* Станіслававa Дубр., Вісяты Міёр., Шыці Шарк.

АБМА́НКА[2] *ж., бат.* Падобны да баравіка ядавіты грыб, які сінее ад дотыку. *Многа грыбоў сёліта добрых, але ёсць і абма́нкі.* Мількі Брасл. Параўн. *атра́уленік.*

АБМАРА́ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Дзе ты так абмара́ў рубаху?* Празарокі Глыб.

АБМАРО́З *м.* Іней. *На зямлі сёння ўжэ абмаро́з.* Ляды Дубр.

АБМА́ШКА *ж.* Промах, памылка, недагляд у чым-н. *Абма́шка ў цябе выйшла.* Барсукі Дубр.

АБМЕ́ШКА *ж.* 1. Вотруб'е. *Абме́шка скаціне ўжэ закончылася.* Капыльшчына Міёр. *Многа было абме́шкі, маці карміла ёй свінней.* Папшулі Міёр. *Прынесі шчэ абме́шкі.* Зябкі, Юркава Глыб. *Абме́шку добра парсючок есць.* Ветрына Пол. 2. Сорт мукі, які ідзе на корм жывёле. *Намалоў абме́шкі мех, будзіць надоўга свінням абмешваць.* Сакольнікі Віц., Мосар Глыб., Станіслававa Дубр., Зябліны Шарк.

АБМО́ЛАК *м., толькі адз., зб.* Дробная салома пасля малацьбы. *Абмо́лак пасцяліць карове трэба.* Шарагі Міёр., Залясінкі Шарк.

АБМЫ́ЛАК *м.* Змылак. *Мыла ў нас няма, вазьмі абмы́лак.* Лісуны Арш. *Абмы́лак ляжыць на лаўцы, вазьмі і памый рукі.* Ваяводкі Віц., Суднікі, Якаўлевічы Арш., Урбаны Брасл., Сар'я В.-Дзв., Мяжа, Сяло Гар., Новы Пагост Міёр., Машканы Сен.

АБМЫЛІ́ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Ой, як я абмылі́лася!* Старое Сяло Віц.

АБМЫ́ЛКА *ж.* Памылка. *Такую абмы́лку дапусціў, не магу прасціць сабе.* Цімошкава Міёр.

АБМЫ́ЛКІ *толькі мн.* Мыльная вада. *У абмы́лках памый атнімку.* Сакольнікі Віц. *Пасля мыцця бялья астаюцца абмы́лкі.* Варашылы Сен., Каханавічы В.-Дзв., Двухполле Гар., Матырына Леп., Клясціцы Рас., Алексінічы Сен., Лескавічы Шум.

АБМЯ́ЛКІ *толькі мн.* Адходы пры апрацоўцы льну церніцай; атрэп'е. *Знясі на чардак абмя́лкі.* Грышына Рас. Параўн. *атро́пкі, атрэ́пы.*

АБНА́ДЗІЦЦА *зак.* Панадзіцца. *Вось абна́дзіўся хадзіць сюды, што і мятлой ня выгнаць.* Савенічы Сен.

АБНАЧАВА́ЦЬ *зак.* Заначаваць. *Застаньцеся абначава́ць, бо ўжо цёмна на двары.* Вярцінскія Паст. *Я абначава́ла ў суседкі.* Чорнае Паст., Празарокі Глыб.

АБНІ́ЗІЦЦА *зак.* Знізіцца, апусціцца. *Неба абні́зілася -- можа, дождж пойдзе.* Ляхаўшчына Паст.

АБНІШЧА́ЦЬ *зак.* Змарнець, схуднець. *Ня есць нічога маладзіца, абнішча́ла, нешта нездарова.* Пліса Глыб.

АБНО́ШКА *ж., адз.* Пылок з кветак, які пчала прыносіць на задніх лапках. *Пчолы абно́шку нясуць у соты.* Кушняроўка Чаш.

АБНО́ШКІ *мн.* Абноскі, лахманы. *У мяне ўвесь чардак закіданы абно́шкамі.* Порплішча Докш.

АБНЯХА́ІЦЦА *зак.* Абяссілець, аслабець, знемагчы. *Бабка саўсім абняха́ілась, нічога ўжо ня дзелаець.* Клясціцы Рас.

АБО́ДВЫЯ, АБО́І гл. АБА́ДВА

АБО́Й *м., адз.* Шпалеры. *Хату абклеіла цвятастым або́ем.* Старое Лядна Леп.

АБО́РАВАЦЬ, АБО́РЫВАЦЬ *незак., с.-г.* Абворваць. *Пара бульбу або́раваць.* Ляхаўшчына Паст. *Або́рываць бульбу трэба, запрагу каня.* Мікалаёва Міёр.

АБО́РАК *м.* Нізкае, забалочанае месца сярод поля, зарослае травой або хмызняком. *Пойдзем касіць або́рак.* Баева Дубр.

АБО́РНІК *м., с.-г.* Плужок для абворвання бульбы, акучнік. *Або́рнік зламаўся, трэ пазычыць у суседа.* Казлоўшчына Паст. *Нада было абчысціць або́рнік, бо заржавеўшы.* Дрысвяты Брасл., Ляхаўшчына, Чорнае Паст. Параўн *абсы́пнік.*

АБО́РЫВАЦЬ гл. АБО́РАВАЦЬ

АБО́Я гл. АБА́ДВА

АБПАХА́ЦЬ *зак.* Абмесці. *Колькі можна цібе прасіць, каб ты сажу абпаха́ла?* Іказнь Брасл.

АБПЫ́ТЫВАЦЬ *незак.* Апытваць. *Немцы абпы́тывалі ўсіх кругом пра парцізан.* Асташэва Лёзн.

АБРАБІ́ЦЬ *зак.* Абвязаць кручком. *Звязала істопкі, а абрабі́ць не магу.* Капыльшчына Міёр.

АБРАБЛЯ́ЦЬ *незак.* Абвязваць кручком. *Абрабля́й па краю белымі ніткамі, каб кайма відалася.* Дрыгучы, Мікалаева Міёр.

АБРАЗА́НІКІ, АДРАЗА́НІКІ, АТРАЗА́НКІ, АТРІЗА́НІКІ, АТРІЗА́НКІ, АДРЭ́ЗКІ *мн.* 1. Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Цэлы дзень адхадзіла ў абраза́ніках.* Сокарава Беш. *Сёлета наліло столькі вады, што ў адраза́ніках не прайсці.* Арханава Міёр. *Прынесі мне тыя атраза́нкі.* Урбаны Брасл. *Вазьмі ўступі атрізá́нікі, а то існі граска.* Укля Брасл. *Ціпір у атрізá́нках горячо хадзіць.* Вялікае Сяло Сен. *Адрэзала халявы, цяпер адрэ́зкі нашу.* Сяляўшчына Рас., Камоскі Беш., Залессе, Лужкі Глыб., Лазоўка, Шацяні Сен., Заазер'е Тал. 2. Галошы. *Дзе мае адраза́нікі, у хлеў у чым пайду?* Новы Пагост Міёр. *На валенкі атрізá́нікі надзівалі, каб ні змоклі.* Мікалаёва Міёр. *Адзівай маі атраза́нкі, я буду боты адзіваць.* Шыбекі Арш. *Я ў хлеў усягды атраза́нкі надзяваю, калі спраўляцца іду.* Коравічы Чаш.

АБРАЗА́ЦЬ *незак.* Чысціць (пра бульбу). *Абраза́ла старую бульбу.* Ляхаўшчына Паст.

АБРАМІ́ЗІЦЬ *зак.* Абразіць, прынізіць. *Абрамі́зіла мяне брыгадзірша ні за што.* Псуя Глыб. Параўн. *асцябáць.*

АБРАМО́ВАК *м.* Верхняя рама ў акне. *Абрамóвак у каждым акне ёсць.* Дразды Беш.

АБРА́НАК *м.* Рубанак. *У яго руках абрáнак знаў сваё места.* Дуброва Беш.

АБРАСЕ́ЦЬ *зак., безас.* Выпасці (пра расу). *Пойдзім касіць, як трошку абрасéіць.* Псуя Глыб.

АБРАСЦІ́ЦЕЛЬНЫ *прым.* Ветлівы, далікатны. *Які абрасці́цельны ў дзеўкі кавалер.* Камаі Паст.

АБРА́Т *м., адз.* Адгон; малако, з якога сепаратарам адагнана смятана. *Выліла абрáт свінням.* Ляхаўшчына Паст. *Набеpi абрáту, сквасіш на блінцы.* Прудок Гар.

АБРА́ЦЬ *зак.* Сабраць, выбраць. *Абрáла гуркі, два вядры будзя.* Ляхаўшчына Паст.

АБРАЦЯ́, АБРЫЦЯ́, АБРО́ТКА *ж.* Аброць. *Абраця́ буваіць з цугламі і без цуглаў.* Ясева Міёр. *А куды там! У Орліка дажа абраця́ і дуга новыя.* Снегі Міёр. *Абрыця́ чуць налезла каню на галаву.* Укля Брасл. *Абрыцю́ ў сені на гвоздзь павесіў.* Шыцi Шарк. *Выкупіў каня з абрóткай.* Кветча Леп.

АБРО́БІЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Ідзі памыйся, а то абрó-білася дужа.* Стралкі В.-Дзв.

АБРО́ЖАК *м.* Нашыйнік. *Надзень сабаку абрóжак.* Нурава В.-Дзв. *А што гэта твой Жук без абрóжка ходзіць?* Цімошкава Міёр., Ляхавічы Леп., Клясціцы Рас., Гарадзец Шарк., Вішня Шум.

АБРО́НЧКА *ж.* Пярсцёнак. *У ее такіе дарагіе абрóнчкі.* Масленікі Паст.

АБРО́ТКА гл. АБРАЦЯ́

АБРО́ТНІК *м.* Повад пры аброці. *Вазьмі абрóтнік у рукі дый вядзі каня.* Станіслававa Дубр.

АБРУ́Б[1] *м.* Мяжа, край. *Арі вон да куста, там абру́б.* Целяшова Гар.

АБРУ́Б[2] *м.* Зруб. *Абру́б ставілі новый.* Высачаны Лёзн.

АБРУ́ДЫ *мн.* Ніжняя частка дзежкі, цэбра. *Дзежка ў абру́дах рассохлася.* Ясева Міёр.

АБРУ́ЗГНУЦЬ *зак.* Апухнуць, ацячы (пра рукі, ногі, твар). *У міне ногі абру́зглі дужа.* Сакольнікі Віц.

АБРУ́САК *м.* Абрус. *Мой абру́сак вубіваны кветкамі.* Астроўна Беш.

АБРУ́ЧЫК *м.* Пяльцы. *Узяла абру́чык вышыць узор.* Чэрнева Брасл.

АБРЫДЗÓНЫ *прым.* Надакучлівы. *Гэны чалавек такі ўжэ абрыдзóны.* Смалоўка Сен. *Кыш, гогалі абрыдзóные!* Камаі Паст.

АБРЫЦЯ́ гл. АБРАЦЯ́

АБСТА́ВА *ж., адз.* Мэбля, абстаноўка ў доме. *Абста́ва ў даміні ў яго харошая.* Язна Міёр.

АБСТРАКІ́ВІЦЬ, АБСТРЫ́КАЦЬ *зак.* Апячы крапівой. *Лыткі абстракі́віла ў ягодах, чэшуцца дужа.* Сяляўшчына Рас., Губіца Шум. *Пайшла на агарод і абстры́кала рукі.* Дрыгучы, Мікалаёва Міёр., Казімірова Пол., Клясціцы Рас. Параўн. *абжы́гчы, абкастры́ць.*

АБСУ́ДЛІВЫ *прым.* Які абгаворвае, нядобразычліва выказваецца пра каго-н., ілжывы. *Наша суседка вельмі ж ужо абсу́длівая.* Фарынава Пол. Параўн. *абгавóрлівы.*

АБСЦЁБАЦЬ *зак.* Ababіць, абмалаціць. *Нада абсцёбаць жыта, ужэ сухое.* Бандуры Шум.

АБСЫ́ПНІК *м., с.-г.* Акучнік, плужок для абворвання бульбы. *Абсы́пнікам бульбу абсыпаім, ганяім.* Ясева Міёр. Параўн. *абóрнік.*

АБУВА́НІКІ гл. АБУ́ТКА

АБУВА́ННЕ, АБУВА́ННЯ гл. АБУ́ТКА

АБУ́ДВА гл. АБА́ДВА

АБУЗВЕ́ЧЧА *н., зб.* Непрыгожае адзенне. *Нейкае абузвéчча сабе пакупляюць, страх глядзець.* Слабада Шум.

АБУ́ТКА *ж., зб.,* АБУВА́ННЕ, АБУВА́ННЯ, АБУЎЁ *н., зб.,* АБУВА́НІКІ *мн.* Абутак. *Зімовая абу́тка ў мяне ёсць.* Казяны Брасл. *А абувáнне ж у яе ўсякае ё.* Надазер'е Глыб. *Абувáнне крэпка падаражала.* Крынкі Лёзн. *Нада старае абувáнне на шуметнік вынесці.* Бачэйкава Беш. *Абувáння сабіралі, кідалі цераз забор, варажылі.* Пліса Глыб. *А дзе ж тваё абуўё?* Старое Лядна Леп. *Недзе ж на гары, мусіць, і ляжаць такія абува́нікі.* Боркавічы, Крывасельцы, Стралкі В.-Дзв., Залессе, Папшычы, Пліса Глыб., Ліпаўкі Докш., Новыя Валосавічы Леп., Балаі, Мікалаёва, Сухавежа Міёр., Клясціцы Рас., Выгада, Расходнае Сен., Савуткі Шарк., Слабада Шум.

АБХАДЗІ́ЦЦА, АБХÓДЗІЦЦА, АБХÓЖВАЦЦА, АХÓДЖВАЦЦА *незак.* Рабіць хатнюю работу, упраўляцца па гаспадарцы. *Трэба ісці абхадзі́цца каля скаціны.* Станіслававa Дубр. *Нада ўжо абхадзі́цца, а то цёмна будзіць.* Прамышляды Паст. *Трэба рана ўставаць, абхóдзіцца цяжка ўранку.* Дрысвяты Брасл. *Пайду абхóжвацца, спаць хутка пара.* Павулле Уш. *Пайду ахóджвацца, а то засядзелася.* Папкі Шарк., Баруны Брасл, Мосар Глыб., Мікалаёва, Сухавежа, Язна Міёр., Вярэнькі, Дунілавічы, Турлы Паст., Ёды, Таўкіні Шарк.

○ АБХАДЗІЦЬ БУЛЬБУ *незак.* Скідваць зямлю з каліваў бульбы пасля акучвання. *Абхадзіла бульбу аж цэлы дзень -- ох і замарылася.* Астрэйкава Віц.

АБХЛЮПАЦЦА *зак.* Апырскацца. *Абхлюпаўся граззю так, што й вачэй не відаць.* Мікалаёва Міёр.

АБХОДЗІЦЦА гл. АБХАДЗІЦЦА

АБХОЖВАЦЦА гл. АБХАДЗІЦЦА

АБЦЕПКАЦЦА *зак.* Абтрапацца, падрацца па краях (пра вопратку). *Рукавы ў рубашцы абцепкаліся, і як паправіць?* Лашукі Паст.

АБЦЁРАК *м.* Кавалачак бульбы, які застаецца пасля яе здрабнення на тарцы. *Кідай абцёркі ў вядро.* Гарадок. Параўн. *абдзёрак, агрызак.*

АБЦЭНЬКІ *толькі мн.* Абцугі. *Нашто браў абцэнькі? Трэба на места класці.* Сідараўка Арш.

АБЦЯМНЕЦЬ *зак., безас.* Пацямнець. *Ужо зусім абцямнела, а малец з азяра не прыйшоў.* Двухполле Гар. *Капалі бульбу, покі абцямнела.* Яроненкі Гар.

АБЧАРСЦВЕЦЬ *зак., безас.* Падсохнуць, падшэрхнуць. *Абчарсцвеіць на дварэ, тады пойдзіш у снігоўцах.* Латкова Шум. Параўн. *акаліцца.*

АБШАРПАЦЦА *зак.* Знасіцца, падрацца (пра адзенне). *Касцюм саўсім абшарпаўся.* Верамееўшчына Дубр.

АБШКУМАЦІЦЬ *зак.* Падрапаць (руку, твар і пад.). *Глядзі не ўпадзі, а то абшкумаціш нагу.* Зубава Арш. Параўн. *абжыргаць*[1].

АБШЛЫНДАЦЬ *зак., экспр.* Абхадзіць без мэты. *Ці ўсё ўжо абшлындаў?* Асташэва Лёзн.

АБШУМЛЕНЫ *прым.* Шумны. *Учора быў такі абшумлены дзень.* Шалыгі Віц.

АБШУРПАНЫ *дзеепрым.* Абшарпаны, падрапаны. *Увесь падмурак ужо абшурпаны.* Мікалаёва Міёр.

АБШЧАЛЕПІЦЬ *зак.* Абхапіць рукамі, моцна абняць. *Малыя мы баяліся ў бані мыцца, абшчалепім усе учацвяром матку, а яна на нас ругаецца.* Турлы Паст. Параўн. *ашчапіць.*

АБЫДЗЕНЬ *прысл.* У адзін дзень. *Абыдзень абярнуліся ў Мінск, да ўрача ездзілі.* Лашукі Паст.

АБЫСЦІСЯ гл. АБАЙСЦІСЯ

АБЮДЗВІ гл. АБЕІ

АБЯРТНЯ *ж.* Луста. *Вазьмі абяртню пірага паспытай.* Дзеркаўшчына Глыб.

АБЯРЭГА *ж.* Стрэшка над стажком. *Дзед абярэгу змайстраваў, а то ўдруг дождж пойдзе.* Вялікія Смалянцы Чаш.

АБЯРЭ́ЖАК *м.* Ускраек (лесу). *З акна нашай хаты абярэ́жак лесу відаць.* Дразды Беш.

АБЯСЦІ́ЦЬ *зак.* Паабяцаць. *Даўно сын абясціў прыехаць улетку.* Нярэйша Сен. *Абясціў прісці, а самога й след прастыў.* Выгада Сен.

АВА́Д *м., заал.* 1. Авадзень. *Ава́д пакусаў карову, няма як падаіць.* Галубчыкі Глыб. *Ава́д вельмі моцна кусаецца.* Новы Пагост Міёр. *Авады́ закусалі кароў.* Чорная Лаза Чаш., Порплішча Докш., Малыя Смалянцы Чаш. Параўн. *асляпе́нь.* 2. *зб.* Авадні. *Ава́д сёння дужа кусае кароў.* Мосар Глыб. *На полі сёння страшэнны ава́д.* Ахрэмаўцы Брасл., Слабада Глыб., Даўгінава, Павяцце Міёр., Жукоўшчына, Каўшэлева Шарк.

АВЕ́Р, АГІ́Р, АРЭ́Й *м., толькі адз., бат.* Аер. *З ракі вельмі цягне аве́рам.* Неўгадава Чаш. *Агірам добра валасы мыць.* Глыбокае. *На Духу арэ́й быў абізацельна.* Ларынаўка Арш. *Арэ́й на беразе ракі расце, раней хлеб пяклі на арэ́і.* Турчына Міёр.

АВЕ́ЎКІ *толькі мн.* Адходы пры веянні збожжа. *Пяць куч аве́вак навеялі.* Дрысвяты Брасл. *Аве́ўкі нада было аднясці на шуметнік.* Укля Брасл. Параўн. *аза́ддзе.*

АВЁРКА *ж. Ваверка. Сёння авёрка ля слівіны скакала. Адкуль узялася?* Вялікае Сяло Сен. *У лесе нашым авёрак многа.* Баршчоўка Віц., Порплішча Докш.

АВІР’Я́НКА, АВІР’Я́НАЎКА *ж., толькі адз.* Валяр’янавыя каплі. *Дай хутчэй авір’я́нкі, так серцэ закалаціла.* Дроздава Тал. *У апцеку схадзіла, авір’я́наўкі купіла.* Рэдзькі Дубр., Белая Ліпа Сен., Селішча Гар.

АВУ́ЛЬКА *ж.* Авечка. *Аву́лькі нашы на полі.* Абрамава В.-Дзв. *Бабуля, твае аву́лькі на гародзе капусту патапталі.* Туркова Міёр.

АВЯ́ЧНІК *м.* Воўк, які бярэ авечак. *Калі ж пойдзем на авя́чнікаў?* Бугаі Сен. Параўн. *аўцаед.*

АВЯ́ЧЫНА *ж., адз.* Авечае мяса. *На абед з’ясі авя́чыны, свежая.* Бортнікі Глыб.

АГАДА́ЦЬ *зак.* Расстарацца, дастаць. *Агада́ла ў суседкі грошай хоць на хлеб.* Аколіца Рудава Брасл. *Трэба грошай агада́ць і купіць абуванне.* Баева Дубр.

АГА́ЗЛІВЫ *прым.* Назойлівы. *Ён і змалку быў ага́злівы. Усюды ўлезіць, дзе ні просюць.* Зямцы Шум.

АГА́ЛЕЦ *м.* Свавольнік. *Ага́лец гэты зноўку ня слухаецца.* Галубава В.-Дзв.

АГАЛО́МІЦЦА *зак., экспр.* Апамятацца, разабрацца ў новых, нечаканых абставінах. *Пакуль агало́міўся на базары, грошы ўкралі.* Віраўля Гар. Параўн. *ацяміцца.*

АГАЛУ́ЗІЦЦА *зак.* Прывесці сябе ў парадак, агледзець сябе. *Табе трэба агалу́зіцца, запусціўся ты.* Нямойта Сен.

АГАРО́ДЗІНА *ж., зб.* Агародніна. *Суш такая, агаро́дзіна сасохла.* Ахрэмаўцы Брасл., Трабаўшчына Шарк.

АГДЗЕ́ *прысл.* Дзе. *Агдзе́ хочыць, там і ходзіць ноч.* Дабрамыслі Лёзн.

АГІ́Р гл. АВЕ́Р

АГЛАБЛІ́НА, АГЛО́БНЯ *ж.* Аглобля. *Атсякі аглаблі́ну бярёзовую, як дамой паедзіш.* Выхадцы Лёзн. *Агло́бня зламалась шчэ ў дарозе.* Горкі Шум.

АГЛАВУ́ШЫЦЬ *зак., экспр.* Моцна ўдарыць знянацку, аглушыць. *Ён так мяне аглаву́шыў, што ледзь ачуняў.* Гаршчэўшчына Тал.

АГЛО́БНЯ гл. АГЛАБЛІ́НА

АГЛО́ДАК *м.* Агрызак. *Агло́дкі кідай у вядро.* Юркава Глыб.

АГЛЯ́ДЫ гл. АБГЛЯ́ДЗІНЫ

АГЛЯ́К *м.* Тоўстае абгарэлае палена. *Вёска наша была спалена, адны аглякі кругом ляжалі.* Бярозкі Докш.

АГНЕЗДАВА́ЦЦА *зак.* Пасяліцца (пра людзей). *Вот мы і агнездава́ліся ў новай хаце.* Зарэчча Тал.

АГНІВО́ *н.* Крэсіва. *Замест спічак было агніво́.* Сухавежа Міёр.

АГНЯ́НКА *ж.* Вогнішча. *Распалім вечарам агня́нку каля ракі і сядзім, бульбу пячом.* Быцава Беш.

АГРАБА́ЦЬ *незак.* Збіраць рой у раёўню. *Калі нада, я пчол аграба́ю.* Кісялева Тал. *Учора аграба́лі рой.* Кушняроўка Чаш.

АГРАБЕ́ЛІНА, АГРАБЕ́ЛЬНЯ *ж.* Грабільна, ручка ў граблях. *Саступі з аграбе́ліны, бо можаш параніцца.* Сураўні Шум. *У мяне паламалась аграбе́льня. Нада новую дзелаць.* Вялікае Сяло Сен.

АГРА́БЛІ *толькі мн.* Граблі. *Ну куды ж агра́блі ставіш, як дадуць па лбе, дык дзясятаму закажыш.* Шупені Тал. *Беры агра́блі, пойдзем на сена.* Капланы Сен. *Доня, за агра́блямі схадзі.* Занькі, Курмялёўка Леп., Вялікае Сяло, Лазоўка Сен., Кугоні, Лутава Сяльцо, Слабада Уш., Коравічы Чаш.

АГРЫ́ЗАК *м.* Кавалачак бульбы, які застаецца пасля яе здрабнення на тарцы. *Я ніколі не астаўляю агры́зкі, бо жалка.* Швэплі Докш. Параўн. *абдзёрак, абцёрак.*

АГРЭ́БЦІ *зак.* Сабраць рой у раёўню. *Тата аграбе́ць рой, накрыець скаціркай.* Кушняроўка Чаш.

АГУРЫ́ЦЦА *зак.* Стаць абыякавым да ўсяго. *Яна, як узнала пра сваю балезнь, дак так агуры́лася, што й ні пазнаць.* Клясціцы Рас.

АГУРЭ́ЧНІК, АГУРЭ́ЧАННІК *м., зб.* Агурочнае бацвінне. *Сёлета ад дажджоў увесь агурэ́чнік пажаўцеў.* Ткачы Гар. *Ай, німа гэтых агуркоў -- адзін агурэ́чаннік.* Падрукша Брасл., Стайкі Арш., Бабінавічы Лёзн.

АДАЛЕ́ *прысл.* Потым. *Давай адалé купім камбікорму, а так ні звязём усё.* Іванькі Міёр.

АДБІ́ЎКА *ж.* Адгародка. *Адбілі адбіўку ў хаце, старая там спіць.* Дабея Шум.

АДБІ́ЦІК гл. АБІ́ЦІК

АДБО́ЙКА *ж.* Бойка, прылада для збівання масла. *Адбóйку вымыць харашэнько трэба, прапарыць.* Доўжа Віц.

АДБО́ЙНІК *м.* Адбой, маркіровачны малаток. *На гэтых дзярэўях ёсць сляды адбóйніка.* Пралетарыя Уш. *Лес кляймуюць адбóйнікам.* Зазер'е Гар.

АДВЕ́ДЫ *толькі мн.* Адведзіны; сяброўскае наведванне каго-н. *Прыехалі ў адвéды да яго, гасцінец прывязлі, а яго німа, нас братоўка вышла стрычаці, к сабе ў хату пазвала.* Домжарыцы Леп.

АДВЭ́НТ *м.* Пост перад Калядамі. *Хутка ўжо адвэ́нт скончыцца.* Ластавічы Глыб. *Кончыцца адвэ́нт, тагды і паляціш на танцы.* Буцавічы Паст.

АДГЭ́НУЛЬ *прысл.* Адтуль. *Адгэ́нуль болі ні прыедуць машыны.* Глінішча Докш.

АДДАЎНА́ *прысл.* Здаўна. *Аддаўнá стаіць помнік у нас.* Свіркі Докш. *Аддаўнá жывуць тут людзі.* Мардахі Дубр. *Мама расказвала, што аддаўнá ў нашай сям'і мужчыны пяюць добра.* Зароўе Леп., Чорнае Паст.

АДДУ́БІЦЬ *зак, экспр.* Моцна набіць, адлупцаваць. *Аддýбіць цібе пара, ні слухаіш нікога.* Дзярэўня Чаш. Параўн. *аджáрыць, адлузáць, адлупáшыць, адлупáсіць.*

АДДУ́ХА[1] *ж.* Адпачынак, кароткі перапынак. *Робіў дзень без аддýхі.* Чарэя Чаш. Параўн. *аддышка.*

АДДУ́ХА[2] *ж.* Адліга. *А на дварэ ўжо аддýха, лепіць мокры снег.* Валынцы В.-Дзв. Параўн. *ацяпéль.*

АДДЫ́ШКА *ж.* Адпачынак, кароткі перапынак. *Німа аддышкі ад хатняй работы.* Мікалаева Міёр. Параўн *аддýха* [1].

АДЖА́РЫЦЬ *зак., экспр.* Моцна набіць, адлупцаваць. *Які свавольны хлопец. Узяў бы хварасціну і аджáрыў.* Шухаўцы Дубр. Параўн. *аддýбіць, адлузáць, адлупáшыць, адлупáсіць.*

АДЖЫМА́ЦЦА *незак.* Мыць бялізну. *Ці будзіш сённі аджымáцца?* Жукоўшчына Шарк.

АДЗАЎНУ́ЦЦА *зак.* Адгукнуцца. *Гукаю, гукаю, а ён хоць ба адзаўнýўся.* Гута Паст.

АДЗЕ́РЖАЦЬ *зак.* Прыпыніць каня. *Ён каня адзе́ржаў каля клуба, пачытаў аб'яву.* Псуя Глыб.

АДЗЕ́ТАК *м.*, АДЗЁЖА *ж.*, АДЗІВА́ННЕ, АДЗЯВА́ННЕ *н.*, *зб.* Адзенне. *У яе два шкафы адзе́тку.* Прыветак Сен. *Твая адзёжа на стулу вісіць.* Кавалі Глыб. *Дзеткам адзёжу новую ў школу нада справіць.* Кошчава Беш. *Ні было ў наш час такога адзіва́ння, як ціперака.* Дубраўкі Пол. *Маладой у мяне адзява́ння было многа.* Смалоўка Гар., Тумінічы Арш., Баршчоўка Віц., Ляды Дубр., Жарцы Пол., Нямойта Сен., Слабада Уш., Віркі Чаш.

АДЗЁНАК, АДО́НАК, АДО́НЫК *м.* Подсціл пад стог, стажар'е. *Тут адзёнкаў дваццаць маіх.* Гарбацэвічы Арш. *Адо́нак нада крэпкі робіць, каб ні згніло сена.* Стралкі В.-Дзв. *Мы сёліта адо́нык на пожнішчы паставілі.* Мяжа, Каверзы Гар.

АДЗЁР *м.* Азярод. *Ажына ў нас сохла ў адзёры.* Альшанка Чаш.

АДЗІВА́ННЕ гл. АДЗЕ́ТАК

АДЗІНЕ́Ц *м.* Адзіны сын у сям'і. *Ванька ў іх адзіне́ц.* Свярдлова Віц.

АДЗІНІ́ЦА *ж.* Адзіная дачка ў сям'і. *Плоха быць адзініцай, малая радня.* Свярдлова Віц.

АДЗЯВА́ННЕ гл. АДЗЕ́ТАК

АДКАЛАСІ́ЦЦА *зак.* Адкаласавацца. *Жыта ўжо адкаласілася, можна жаць.* Дразды Беш.

АДКІ́НУЦЬ *зак.* Адняць цяля ад каровы. *Я сёння адкінула цялёнка ад каровы, а то ён ужо вялікі.* Лазы Тал.

АДКРАМСА́ЦЬ *зак., экспр.* Адрэзаць, аддзяліць частку чаго-н. рэжучым інструментам. *Адкрамса́ў кусок мяса ні жалеючы.* Грыгаравічы Леп., Амбросавічы Шум. Параўн. *адшара́шыць, адша́стаць.*

АДЛІ́Ў *м.* Жалабок для сцёку вады. *Зрабіў адлі́ў, і цяпер добра вада сцякае.* Станіслававова Дубр.

АДЛУЗА́ЦЬ *зак., экспр.* Моцна набіць, адлупцаваць. *Трэ адлуза́ць яго за шкоду.* Жукі Чаш. Параўн. *адду́біць, аджа́рыць, адлупа́шыць, адлупа́сіць.*

АДЛУПА́ШЫЦЬ, АДЛУПА́СІЦЬ *зак., экспр.* Моцна пабіць. *Што ты! Адлупа́шылі цябе троху? Нічога, брат. Свая матка б'ець ды жалеіць.* Губіца Шум. *Бацька брата аж заве́льмі адлупа́сіў.* Жарцы Пол., Камайск Докш. Параўн. *адду́біць, аджа́рыць, адлуза́ць.*

АДЛЮ́ДНІК *м.* Нелюдзімы чалавек. *Такі ж адлю́днік, ні з кім ня дружыць.* Латышы Глыб. Параўн. *ата́дар.*

АДМА́ЛАСЦІ, АДМАЛІ́ *прысл.* Змалку. *Нас адма́ласці да работы прывучалі.* Чорнае Паст. *Юзя адмалі́ ўсё ўмела рабіць.*

Кашталянаўшчына Глыб. *Адмалі па хазяйству ўсё рабілі.* Зароўе Леп. *Яна адмалі памагала маці.* Галубічы Глыб.

АДМЫ́ТАК *м.* Невялікае паглыбленне, вымытае вадой. *Поначы ў адмы́так улез.* Янкавічы Рас.

о АДНА́ВА РА́ЗУ, АДНО́ГА РА́ЗА ў знач. прысл. Аднойчы. *Адна́ва ра́зу ў грібах устрэціла лесніка.* Іказнь Брасл. *Адно́га ра́за ўжо паверыла яму.* Новая Яблынька Тал.

АДНАЗІ́МАК *м.* Аднагадовае жарабя. *Жарабёнак, які адну зіму гадаваўся, – аднazі́мак.* Леснікі Глыб.

АДНА́КАВА *прысл.* Аднолькава. *Усе адна́кава жывуць у нас.* Цяцеркі Брасл.

АДНАЛЁТАК *м.* Аднагодак, равеснік. *Сусецкія мальцы аднале́ткі, ужэ з арміі прышлі.* Боркавічы В.-Дзв.

АДНАЛІ́ЧНА *прысл.* Аднаасобна. *Дачка выйшла замуж і стала жыць аднالі́чна.* Узмёны Міёр.

АДНАЛІ́ЧНІК *м.* Аднаасобнік. *Адналі́чнікам жыцця ні было, робілі як валы і трасцу мелі.* Сапраны Віц.

АДНАРО́ЧНІЦА *ж.* Равесніца. *Ты ж мая аднаро́чніца.* Юнькі Паст. *Маша і Каця аднаро́чніцы.* Свярдлова Віц.

АДНАТВО́РНЫ *прым.* Аднастворкавы. *У старой хаце вокны былі аднатво́рныя.* Іванаўка Гар.

АДНІ́МКА, АДЫ́МКА, АТЫ́МКА, АТЫМА́ЛКА, АТЫМА́НКА, АТЫМА́ХА, АТЫМА́ЧКА, АТЫМА́ШКА *ж.* Кавалак грубай тканіны, якой бяруць гаршкі, чыгуны. *Адні́мкай зымаюць катлы з прыпечка.* Сакольнікі Віц. *Адні́мка -- гразная трапка катлы насіць.* Ясева Міёр. *Вазьмі адні́мку, рукі опечэш.* Абрамава, Каханавічы, Стралкі В.-Дзв., Паташня Міёр., Дворышча, Янкавічы Рас., Сарочына, Слабада Уш. *А дзе ж дзелася ады́мка, што на лаўцы ляжала?* Бычыха Гар. *Вазьмі аты́мку, гаршок адстаў на прыпек.* Цясты В.-Дзв. *Падай атыма́лку, бульбу аццажу.* Янкавічы Рас. *Так ён гэтую рубаху занасіў, зрабіў, як атыма́лку.* Кубелеўшчына Шарк., Плюсы Брасл., Асвея В.-Дзв., Драбаўшчына, Івесь, Лазічы, Ластавічы, Надазер'е Глыб., Макаравічы, Слабада Докш., Мікалаёва, Папшулі, Язна Міёр., Груздава, Гута Паст., Ёды, Савуткі Шарк. *Ты атыма́нку вазьмі, каб ні абажглася.* Віркі Чаш. *Вазьмі атыма́ху, бульбу аццадзі, зварылася ўжо.* Русіны Паст. *Падай мне атыма́чку, недзе там на прыпечку валяіцца.* Гута, Дунілавічы, Муляры Паст. *Адыдзіся, ні мішай, бо дам атыма́шкай па руках.* Лукашова Паст.

АДО́НАК, АДО́НЫК гл. АДЗЁНАК

АДПА́СВІЦЦА, АДПА́СЦІЦЦА *зак.* Закончыць пасьбу ў сезоне. *У гэным годзе мы ўжо адпа́свіліся.* Арханава Міёр. *Адпа́сціліся ўжо да лета.* Пішчалава Арш.

АДПРА́ВІНЫ, АДПРА́ЎКІ *толькі мн.* Праводзіны ў армію. *Сын зімой у войска пойдзіць. Трэба да адпра́він рамонт у хаці зрабіць.* Дварэц, Іванск Чаш. *Заўтра да племяша на адпра́ўкі пойдзім.* Іванск Чаш. *Учора ў суседскага мальца былі адпра́ўкі.* Чэрцы Леп.

АДПУСКА́ЦЬ *незак.* Дазваляць пакарыстацца чым-н. *Дык дзеўка й адпуска́ла хату на вечарыну.* Галбея Паст.

АДПУШЧА́ЦЬ *незак.* Адпускаць, даравацъ грахі. *Чалавеку ў злосці грахі ў цэркві ні адпушча́юць.* Селішча Уш.

АДПЫ́ХАЦЬ *зак.* Знізіцца (пра тэмпературу цела). *Жар адпы́хае -- і так лёгка становіцца.* Галбея Паст.

АДПЯСО́ЧЫЦЬ *зак.* Насварыцца на каго-небудзь, прабраць словамі, вылаяць. *Адпясо́чыў яго як нада.* Хайсы Віц.

АДРАБІ́ЦЬ *зак.* Зняць чары, вярнуць у ранейшы стан. *Святая вада яму адро́біць.* Зубава Арш.

АДРАБЛЯ́ЦЬ *незак.* Знімаць чары, вяртаць у ранейшы стан. *У нас жыла бабуля, яна ўмела адрабля́ць, як хто карову зачаруе.* Прошкава Глыб.

АДРАЗА́НІКІ, АДРЭ́ЗКІ гл. АБРАЗА́НІКІ

АДСАТАНІ́ЦЦА *зак., экспр.* Адчапіцца, перастаць назаляць каму-н. *Адсатані́ся ты ад мяне, жыцця няма праз цябе.* Турлы Паст.

АДСЕ́ДА, АДСЕ́ДАВА, АДСЕ́ЛЬ, АДСЕ́ЛЯ, АДСЮ́ДАВА, АДСЮ́ЛЕКА, АДСЮ́ЛЬКА *прысл.* Адсюль. *Жылі мы 20 кіламетраў адсе́да.* Узмёны Міёр. *Многія адсе́да паехалі ў горад.* Задзежжа В.-Дзв. *І як яна адсе́да ўехала. Тутака і вада, і дарога, і саседзі.* Барсукі, Крывасельцы В.-Дзв. *Ідзі адсе́дава.* Грынеўшчына Докш. *Адсе́дава я нізашто не выйду.* Залессе Шум. *Ідзі адсе́ль, каб я цябе не бачыла.* Іванск Чаш. *Адсе́ль блізка сяло.* Матырына Леп. *Адсе́ля да азяра рукой падаць.* Варапаева Паст. *Адсю́дава ручаёк цячэ, у лесе хаваецца.* Петрашы Тал. *Перастаў ты цяпкі адсю́лека у другое места.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Адсю́лька пайду на хверму.* Мікалаёва Міёр., Мацюкова Глыб., Белая Ліпа, Нярэйша Сен., Гута Паст.

АДСЕ́Ч *зак.* Адсекчы, ссекчы. *Трэба было б адсе́ч тыя кусты пад вокнамі.* Швэплі Докш.

АДСТО́ІЦЬ *зак.* 1. Адстаяць, прастаяць нейкі час. *Не магу доўга адсто́іць у цэркві.* Узмёны Міёр. 2. Адпрацаваць. *Я на заводзе дзесяць год адсто́іла.* Іванск Чаш. ◊ *Адсто́іць у піле* -- адпрацаваць на распілоўцы дроў. *Касіла, жала, кароў даіла і ў піле адсто́іла.* Іванск Чаш.

АДСТРАПАЛІ́ЦЬ *зак.* Расказаць хутка, без замінкі. *Ну і адстрапалі́ў, хоць у кніжку запісывай.* Новыя Валосавічы Леп.

АДСЮ́ДАВА, АДСЮ́ЛЕКА, АДСЮ́ЛЬКА гл. АДСЕ́ДА

АДТА́ЛІНА *ж.* Праталіна. *На ўгрэвах ужо ёсць адта́ліны.* Ахрэмаўцы Брасл.

АДТУ́ЛЯ *прысл.* Адтуль. *Адту́ля нас скора й адправілі дамоў.* Ламіншчына Тал.

АДТУ́ХНУЦЬ *зак.* Пазбавіцца пухліны. *Паглядзі, дзед ужо трохі адту́х, а быў жа як калодка.* Іванск Чаш.

АДУВА́Н, АДУВА́НЕЦ гл. АБДУВА́НЧЫК

АДХА́ІЦЬ, АДХА́ЯЦЬ, АДХА́ЙКАЦЬ *зак.* Вярнуць прытомнасць, жыццё; адратаваць. *Ён быў дужа хворы, і яго ледзь-ледзь адха́ілі.* Лісуны Арш. *У бальніцы чуць адха́ялі мяне.* Сіпішчава Дубр. *Ледзь адха́йкалі тапельца.* Канева Сен.

АДХА́КАЦЦА *зак.* Аддыхацца, перавесці дух. *Стары так кашлем зайшоўся, што чуць адха́каўся.* Сакольнікі Віц. Параўн. *адхлыну́цца.*

АДХА́ЯЦЬ гл. АДХА́ІЦЬ

АДХЛЫНУ́ЦЦА *зак.* Аддыхацца, перавесці дух. *Хай цётка адхлыне́цца, замарылася: дзе ж песню за песняй цягнуць.* Новыя Крукі Міёр. Параўн. *адха́кацца.*

АДХО́НАВАТА *прысл.* Някрута. *Добра апрала воўну, адхо́навата, някрута.* Сакольнікі Віц.

АДХУ́ТАЦЬ *зак.* Адчыніць. *Ганна, адху́тай дзверы, у мяне рукі заняты.* Шчыпечы Віц.

АДЦІСКО́НІ *мн.* Дранікі. *Дзяры бульбу, зробім адціско́ні.* Савенічы Сен.

АДЧАХВО́СЦІЦЬ, АДЧЫХВО́СЦІЦЬ *зак., экспр.* Зрабіць строгую заўвагу каму-н.; адчытаць, прабраць каго-н. *Адчахво́сціла саседку – лезла ўсё мне ў вочы, усё падкавырвала.* Пусташы Пол. *Я так яго адчыхво́сціла, што ён надоўга да мяне дарогу забудзе.* Арханава, Мікалаёва Міёр.

АДЧУРА́ЦЦА *зак.* Адмовіцца, перастаць займацца чым-н. *Раньшэ ўсё було хазяйства ў міне, а ціпер адчура́лася ад усяго.* Камары Віц.

АДЧУХВО́СЦІЦЬ *незак.* Адлупцаваць. *Адчухво́сціць цібе нада даўно ўжо.* Канашы Гар.

АДЧЫХВО́СЦІЦЬ гл. АДЧАХВО́СЦІЦЬ

АДШАРА́ШЫЦЬ *зак., экспр.* Адрэзаць, аддзяліць частку чаго-н. рэжучым інструментам. *Адшара́шыў сабе паліц – у бальніцу.* Канева Сен. Параўн. *адкрамса́ць, адша́стаць.*

АДША́СТАЦЬ *зак., экспр.* Адрэзаць, аддзяліць частку чаго-н. рэжучым інструментам. *Нада ж было такі кусок адша́стаць.* Вісяты Міёр. Параўн. *адкрамса́ць, адшара́шыць.*

АДШЫ́Б *м.* Водшыб. *Там у іх адшы́б, ніхто не заходзіць, ніхто не бывае.* Баброва Леп.

АДЫ́МКА гл. АДНІ́МКА

АДЫСЦІ́ *зак.* Сагрэцца, прыйсці ў нармальны стан. *Ты разувайся, каб ногі скарэй адышлі.* Нураваа В.-Дзв.

АЖАВІ́КА ж., АЖАВІ́НЫ, АЖЭ́НКІ, АРЖАВІ́НЫ *мн.* Ажыны. *Ажавіку во збірала, усе рукі скалола.* Макаравічы Докш. *Ужэ паспелі ажаві́ны.* Сасноўка Глыб. *Ажаві́ны сабіраюць і на варэнне, і на віно.* Пралетарыя Уш., Залессе, Мярэцкія Глыб., Сіпішчава Дубр., Ветрына, Залессе Пол., Папоўка Сен., Лукомль Чаш. *У маладосці я любіла хадзіць у ажэ́нкі.* Бычыншчына Міёр. *Якія сёлета смачныя аржаві́ны, і вялікія.* Гараўцы Міёр. *Ну й смачныя ў нас аржаві́ны.* Прамышляды, Сіўцы Паст. *Аржаві́наў сёлета поўна.* Капланы Сен. *Ад аржаві́н сінія кропкі на далонях.* Павулле Уш.

АЖАМЕ́РКІ, АЖАМЕ́РЫ *толькі мн.* 1. Жамерыны. *Трэба сабраць ажаме́ркі ў кучу.* Ураджайная Глыб. *Стары, ажаме́ркі свіне выкідвай.* Абухава В.-Дзв., Васюкі Шарк. *Семя нячыстае, з ажаме́рамі.* Пралетарыя Уш. Параўн. *ажы́мкі.* 2. Аселыя пасля заварвання чаінкі. *Ня пей пака, няхай ажаме́ркі асядуць.* Мурагі Рас. *Ну і гарбату ты зрабіла. Поўная крушка ажамерак.* Проземля Чаш. *У крушцы поўна ажаме́рак.* Казімірова Пол. *Ажаме́ркі не чапай, самі асядуць.* Чарэя Чаш.

АЖАРГА́ЦЬ гл. АБЖАРГА́ЦЬ[2]

АЖГУ́Р *м., заал.* Ёрш. *Ажгу́р можа пражыць дванаццаць год.* Бірулі Докш.

АЖЫ́МКІ *толькі мн.* Жамерыны. *Семя ільняное аджымаюць, а што астаецца, – ажы́мкі.* Лонск Шарк. Параўн. *ажаме́ркі, ажаме́ры* ў 1 знач.

АЖЫ́НКІ *мн.* Перыяд уборкі збожжа. *Вось ужо і ажы́нкі.* Глыбокае.

АЖЫРГА́ЦЬ гл. АБЖАРГА́ЦЬ[2]

АЖЭ́НКІ гл. АЖАВІ́КА

АЗА́ДДЗЕ *н., зб.* Адходы пасля веяння збожжа. *Сабяры аза́ддзе ў вёдры.* Грыбоўшчына Шарк. Параўн. *аве́ўкі.*

АЗВА́ЦЦА *зак.* Абазвацца, даць знаць пра сябе пісьмом ці якім іншым спосабам. *З'ехаў, два гады ўжо як не азва́ўся.* Замошша Брасл.

АЗГАРО́ДА *ж.* Агароджа, плот. *Азгаро́да саўсім павалілась, дзеду скажу, пусць падапрець.* Вадзянікі Гар. *Наша азгаро́да самая вялікая.* Мехавое Гар.

АЗДЗЯВУ́ЛІЦЦА *зак., экспр.* Выказаць на твары стан незадавальнення, раззлаванасці. *Скрывіцца, аздзяву́ліцца – слова ёй ні скажы.* Белая Ліпа Сен.

АЗЕРАВІ́НА *ж.* Рачная затока. *Во як азеравіна разлілася.* Высачаны Лёзн. *Па азеравіне плаваюць качкі.* Ветрына Пол.

АЗЕ́РАЎКА *ж.* Нізкае забалочанае месца. *Учора ездзіў касіць, а там каля азе́раўкі грыбоў цьма.* Верацёнкі Рас.

АЗЁРКА *н.* Азярцо, невялікае возера. *Канава зарасла, то ў азёрку й рыбы ні стала.* Мілашова Міёр.

АЗУ́ЦЦА *зак.* Абуцца. *Ты яшчэ не азу́ўся, а пара ісці.* Булахі Глыб.

АЗЯРО́ *н.* Возера. *У нас есць азяро́ святое ў лесі.* Бычыха Гар. *Прыізжай, унучка, да міне на лета, пайдзём на азяро́.* Дубровы В.-Дзв. *Задуха такая, усе каровы ў азярэ́ стаяць.* Мурагі Рас. *Баня каля азяра́ стаіць у нас.* Кудзіны, Двухполле, Езярышча, Лялеўшчына, Марчанкі, Мяжа, Радчонкі, Цешалава Гар., Астроўна Беш., Грыцы Глыб., Бірулі Докш., Высачаны Лёзн., Арлея Пол., Дворышча, Краснаполле Рас., Іванск Чаш., Слабада Шум.

АЗЯ́ЦЬ *зак.* Узяць. *Во насмецціlі дык насмецціlі, азя́ць тока мятлу і па руках надаваць.* Папшычы Глыб. *Як азя́ў аборыну, як перацяў цераз лоб.* Юнькі Паст. *Тады азя́лі лесу, хату стаўлялі.* Сценка Докш., Замхава, Мосар, Празарокі, Прошкава Глыб.

АКАЖАНЕ́ЛЫ *дзеепрым.* Ачарсцвелы, бяздушны. *Ад цяжкой работы ён акажане́лы стаў.* Новыя Валосавічы Леп.

АКАЛЕ́ТЫ *дзеепрым.* Акалелы, здохлы. *У вялікі голад елі акале́тых коней.* Шалыгі Віц.

АКАЛІ́ЦЦА *зак., безас.* Падсохнуць, падшэрхнуць. *Пад вечар троху акалілась пад нагамі.* Празарокі Глыб. Параўн. *абчарсцве́ць.*

АКАЛО́ТАК *м.* Акалот, жытнія снапы пасля ручнога абмалоту. *Складзі акало́так, каб дошч не памачыў.* Кульгаі Глыб.

АКА́ПАЦЬ *зак.* Абкапаць, запляміць. *Во я няўклюжая, ака́пала юбку, шчас свежую адзену.* Ясавічы Глыб.

АКА́ПВАЦЬ, АКО́ПВАЦЬ *незак., с.-г.* Акучваць. *Не пайду сягоння ака́пваць бульбу.* Балаі Міёр. *Ужо пара ако́пваць бульбу, і дожджык якраз прайшоў.* Празарокі Глыб. Параўн. *асыпа́ць.*

АКАРУ́ЧЫЦЦА *зак., груб.* Памерці. *Будзіш столькі піць – акару́чышся, як гадзіна.* Губіца Шум.

АКЕ́ЛЬНІЦА, АКЕ́НЧЫНА *ж.* Аканіца. *Аке́льніцы ў яе доме закрыты.* Рамні Гар. *Бабуля аке́льніцы ніколі не закрывае.* Загарадна Лёзн. *Гнілая аке́нчына, рассыплецца яшчэ.* Азёркі Гар.

АКЛА́Д *м., адз.* Акружэнне высачанага звера. *Акла́д робяць ахотнікі.* Стасева Лёзн.

АКЛАДНЫ́ гл. АБКЛАДНЫ́

АКЛА́ДНЯ *ж., с.-г.* Акладня́, паліца, адвал у плузе. *А эта дзіталь так і называлась – акла́дня.* Гарадзец Шарк.

АКЛЁП *м.* Парнік. *Зямелька цёплая, сухая, аклёпы хутка ставіць бу́дзім.* Ілава Шум.

АКО́П *м.* Капец. *Моркву, бурачкі кладзём у ако́п, а весной дастаём свежае.* Бычыха Гар. *У ако́п бульбу закапвалі і да вясны.* Астроўна Беш. *Бульбу на зіму ў ако́п закапываем, вясною будзем даставаць, перабіраць.* Залучча Гар. *У том годзе было многа бульбы, многа ако́паў заклалі.* Езярышча Гар., Шацяні Сен., Язвіна Шум.

АКО́ПВАЦЬ гл. АКА́ПВАЦЬ

АКО́ПІНЫ, АКО́ПКІ *толькі мн., абрад.* Дакопкі. *У нас ужэ ако́піны былі, а ў Тэсі толькі пачыналі браць бульбу.* Курды Паст. *Дзякуй Богу, у нас ужо ако́пкі.* Мацюкова Глыб., Старое Сяло Уш., Сіроціна Шум.

АКО́ССЕ *н.* Ручка ў касе, касcё. *Ако́ссе зламалася, новое шукаць трэба.* Забор'е Глыб. *Ако́ссе новае зрабіў, старое ўчора зламаў.* Замхава, Латышы Глыб., Валкалата Докш.

АКО́Т *м.*, АКО́ТА *ж.* Асцюк. *Ако́т папаў у вока.* Гута Паст. *Конь начапляў хвастом акато́ў.* Дрысвяты Брасл. *Ако́та набілася ў адзежу.* Уклея Брасл.

АКО́ЦЦЯ *н., зб.* Асцё. *На рэшата падсявалі, зернеты астаюцца, а ако́цця адлітаіць далій.* Бялькоўшчына В.-Дзв. Параўн. *асцёўе, асціўё, асцяўё, ашака́.*

АКРАМО́СКІ *мн.* Акраўкі, абрэзкі тканіны, скуры і пад. *З гэтых акрамо́скаў я сабе торбу пашыю.* Мішкавічы Шум.

АКРО́М *прыназ.* Акрамя. *У лесе грыбоў валом, акро́м баравікоў.* Бораўна Леп.

АКРО́МАЧАК *м.* Акрайчык, лустачка. *Сядайце за стол, будзім снедаць. Алеся, адрэж акро́мачак хлебца.* Папкі Міёр.

АКРУЧА́НКА *ж.* Цёплая хустка, якая завязваецца паверх тонкай хусткі. *Акрыйся акруча́нкай, цяплей будзіць.* Папкі Міёр.

АКРЫВЕ́ЦЬ *зак.* Састарэць. *Ну вот і акрыве́ў я за эці гады.* Езярышча Гар.

АКРЭ́ЙБАЦЦА *зак.* Паправіцца пасля цяжкай хваробы, акрыяць, ачуняць. *Я пасля апірацыі чуць акрэ́йбалася.* Роўнае Шум. Параўн. *ачо́пкацца.*

АКСЦІ́ЦЦА *незак.* Хрысціцца. *Пойдзе праз могілкі і аксці́цца ўсю дарогу, але йдзе, бо так бліжа було.* Выгада, Машканы Сен., Клясціцы Рас.

АКТА́Р *м.*, АКТА́РА *ж.* Гектар. *У некаторых і па акта́ру зямлі було.* Слабада Докш. *Уся акта́ра пасаджана бульбай.* Галбея Паст.

АКУ́БКІ *мн., бат.* Сыраежкі. *Бацька прінёс ведро аку́бкаў.* Прудок Гар. *У лесе сёлета многа баравікоў, лісічак, аку́бкаў.* Янкі Докш. *Аку́бкі – вельмі ўкусные грыбы. Вот летась мы па цэлам кашы аку́бкаў насілі.* Бадзінава Пол.

АКУРАЦІ́СТ *м.* Чалавек, які вызначаецца акуратнасцю ў працы, бездакорнасцю ў паводзінах, ахайнасцю адзення. *Ён хоць і плоха ўчыўся, але ж па натуры быў акураці́ст.* Дольдзева Сен. *Паглядзі на свае штаны, а шчэ акураці́стам падаеш сябе.* Латыголічы Чаш.

АКЯНІ́ЦА *ж.* Аконная рама. *Даўно ён ужо тут ні жывець: акяні́цы згнілі, вываліліся з вокан, дзверы адваліліся.* Задуброўе Віц.

АЛЕ́КТАР *м.* Электрык. *Учора але́ктары прыяжжалі, усё нешта правілі ў будцы.* Кавалі Глыб.

○ АЛЕ́ННІ РО́ЖКІ *мн., бат.* Грыбы, якія знешне нагадваюць аленевы рогі. *У гэтым годзе нешта грыбоў нямнога, куды ні пайдзі – усё але́нні ро́жкі пападаюцца.* Сваташыцы Дубр.

АЛЕ́ХА, АЛЕ́ШНІНА, АЛЬШЧЫ́НА *ж., бат.* Алешына, вольха. *За хлевам але́ха старая расцець, спіліць нада, ссохніць скора.* Папшычы Глыб. *Каля школы ніштó сабе але́шніна расцець.* Азярцы Глыб. *Альшчы́ну старую звалілі.* Высачаны Лёзн.

АЛЕ́Я *ж., толькі адз.* Алей. *Не забыцца б але́і купіць, як аўталаўка прыедзе.* Спігальшчына Міёр.

АЛІВА́С, АЛЬВА́С, А́ЛЬВУС *м., бат.* Альяс, алоэ. *Нада аліва́с з мёдам патаўчы, а то нешта горла баліць.* Прыпернае Глыб. *Альва́с вельмі лекарственны.* Бароўка В.-Дзв. *Альва́с пераціраю і п'ю.* Вялічкі Паст. *Альва́с у большы посуд трэба перасадзіць.* Кулінава Уш. *А́львусам памаж, і ўсё пройдзець.* Крывасельцы В.-Дзв., Урбаны Брасл., Мікалаёва, Папшулі, Рунды Міёр, Фарынава Пол.

АЛО́ВЕЦ *м.* Аловак. *Алóўцам тым маляваў мяне на паперы.* Амбросавічы Шум.

А́ЛЬБА́ *злуч.* Або. *Заўтра альба́ паслязаўтра трэба ўжо садзіць.* Дабрамыслі Лёзн. *Ісці да яе альба́ яна сама заскочыць?* Муляры Паст. *А́льба каля бярозы, а́льба каля другіх дзяроў пасядзім.* Слабодка Брасл.

АЛЬВА́С, А́ЛЬВУС гл. АЛІВА́С

АЛЬНЯ́НІ́НА *ж., адз.* Ільняное палатно. *Даўней толькі з альняні́ны і шылі сабе адзежу.* Вераб'і Пол. // Пасцельная бялізна з ільнянога палатна. *Засцялі на ложак альня́ніну.* Янкі Докш.

АЛЬШЧЫ́НА гл. АЛЕ́ХА

АЛЯРВЕ́ЦЬ *зак., груб.* Разленавацца, разбэсціцца. *Саўсім алярве́ў чалавек. Што будзе далей?* Алексінічы Сен.

АМЕРЫКА́НКА, АМАРАКА́НКА *ж., бат.* Макрыца. *Уссела амерыка́нка на мой гарод.* Абруб Глыб. *Амерыка́нка – трава такая, што сярод бульбы расцець.* Белая Ліпа Сен. *Амерыка́нкі насеялася на ўсім гародзі.* Пралетарыя Уш. *Амарака́нка ўсю бульбу задавіла.* Надазер'е Глыб., Забалацце Леп., Балаі Міёр., Вярэнькі Паст.

АММАНІ́ЦЬ *зак.* Ашукаць, падмануць. *Міне лёхка амманіць.* Шчанькова Гар. *Ён міне амманіў, і гаварыць з ім ні буду.* Стаі Леп. Параўн. *абласу́ціць, ачму́ціць, ашалапу́ціць.*

АМУ́Т *м.* Вір. *Скора будзе аму́т, паехалі цішэй.* Цясты В.-Дзв. *Пайшоў купацца на рэчку, пупаў у аму́т і ўтапіўся.* Моханава В.-Дзв. *У аму́це самы ёсць.* Барсукі В.-Дзв., Клясціцы Рас.

АМЯ́ГЛЫ *дзеепрым.* Падсохлы, прывялы без вады ў гарачую пару. *Цвяты за выхадны саўсім сталі амя́глыя.* Новы Пагост Міёр.

АНАДА́СЬ, АНАДО́ВЕНЬ, АНАДО́ВІНЬ, АНАДО́ЕНЬ, АНАДО́ІНЬ, АНАДО́НЬ *прысл.* Надоечы, зусім нядаўна, днямі. *Анада́сь унукі прыехалі.* Дэмскія Міёр. *Анадо́вень мы былі ў ворожэі.* Рудня Пол. *Анадо́він прайшоў вялікі дошч.* Слабада Уш. *Анадо́він сын з Масквы прыяжжаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Анадо́ень быў пажар у лесе, страх які!* Булахі Глыб. *Анадо́інь свіней купіла – ладныя такія.* Спігальшчына Міёр. *Анадо́інь сестра была ў нас.* Чарневічы Глыб. *Анадо́нь у грыбах дзікуна ўбачыла, было ні да грыбоў.* Галубава В.-Дзв. Параўн. *ане́гды, ане́гдысь, анэ́гды, анэ́гдэсь* у 1 знач.

АНАЛЛЁ *н., зб.* Птушкі, жывёлы. *Пасеялі ячмень, дык гэтае ж аналлё ўзысці не дадуць, усё да зернетка выберуць. Аналлё ў нас -- куры, вераб'і.* Труды Пол., Псуя Глыб.

АНГЕ́ЛКА *ж.* Парода курэй. *Дачка прывезла мне курэй, анге́лак, малыя такія, смех адзін з іх.* Кубелеўшчына Шарк.

АНДЗЕ́І *мн.* Непрыемныя размовы. *Дакуль твае андзе́і слухаць?* Пашкі Шарк.

АНДУЛЯ́ЦЫЯ, АНДАЛЯ́ЦЫЯ, АНДЫЛЯ́ЦЫЯ *ж.* Завіўка. *Цяпер дзеўкі ўсе красівые, андуля́цыю парабілі.* Плюсы Брасл. *Цяпер андуляцыю зрабіць не жартачкі, многа грошай упячэш.* Більдзюгі Шарк. *Зробіла мая нявестка андаля́цыю, дык памаладзела.* Чарневічы Глыб. *Малая ты яшчэ андыляцыю рабіць.* Макаравічы Докш., Сахнавічы Глыб., Вісяты Міёр., Струнне Пол., Германавічы Шарк.

АНДЫНА́РКА *ж.* Андынарыя. ○ ТРЫМАЦЬ АНДЫНА́Р-КУ *незак.* Быць андынаршчыкам. *Дзяды нашы ўсё жыццё трыма́лі андына́рку.* Празарокі Глыб.

АНДЫНА́РШЧЫК *м.* Андынарнік. *Дзед мой за панамі быў андына́ршчыкам.* Празарокі Глыб.

АНЕ́ГДЫ, АНЕ́ГДЫСЬ, АНЭ́ГДЫ, АНЭ́ГДЭСЬ *прысл.* 1. Надоечы, зусім нядаўна, днямі. *Ане́гды ён прыязжаў з горада.* Шыркі Сен. *Ане́гдысь я быў на кірмашы.* Моханава В.-Дз. *Анэ́гды ён і каня нам даваў, і дровы дажа памагаў вазіць.* Слабодка Брасл. *Анэ́гды я бачыла яго.* Чарневічы Глыб. *Анэ́гдэсь прайшоў дождж.* Крычава Міёр. Параўн. *анада́сь, анадо́вень, анадо́вінь, анадо́ень, анадо́інь, анадо́нь.* 2. Калісьці. *Анэ́гды і я, мае даражэнькія, была маладой.* Савуткі Шарк.

АНІКУ́ДЫ *прысл.* Нікуды, ні ў якое месца. *Ні адпраўляюць аніку́ды, тут лячыць будуць.* Булахі Глыб.

АННА́ *ў знач. прысл.* Адна, адзінока. *Мая суседка анна́ ўсё жыццё пражыла.* Лутава Сяльцо Уш., Высачаны, Гарэлікі Лёзн.

АННЫ́ *ў знач. часц.* Адны, толькі. *На памідорах анны́ пустацветы.* Чарнія Пол.

АНТАЛЯ́ЖНЫ *прым.* Далікатны. *Жанчына яна была анталя́жная.* Закур'е Чаш.

АНТО́ПЛІ, АНТО́ФЛІ *мн.* Пантофлі, дамашнія туфлі. *Мне гэтыя анто́плі вялікія.* Зачарэўе Міёр. *Анто́флі новыя купіла.* Езярышча Гар.

АНУ́ЧНІК *м.* Палавік пры ўваходзе ў хату, пакой. *Я толька што чыстыі ану́чнікі пасцяліла.* Лужкі Шарк.

АНЦЫЮ́Д *м., груб.* Чалавек, паводзіны і ўчынкі якога супярэчаць агульнапрынятым у грамадстве. *Зноў гэты анцыю́д прыйшоў.* Даўгаполле Гар. *Не чалавек, а нейкі анцыю́д, над людзьмі толькі здзікаўся.* Быцава Беш. *Вырасціла анцыю́да на сваю галаву.* Верамееўка Гар.

АНЭ́ГДЫ, АНЭ́ГДЭСЬ гл. АНЕ́ГДЫ

АНЯГО́Ж, АНЯ́Ж *часц.* 1. *пыт.* Няўжо. *Анягож сядзець з вамі буду?* Замасточча Віц. *Анягож аж з Віцебску прыехалі?* Папшулі Міёр., Замошша Сен., Угрынкі Уш., Савуткі Шарк. 2. *сцвярдж.* Вядома, а як жа. *"Ці бачыла ты сына?" – "Анягож".* Заполле Беш. *"Ці пойдзеш заўтра да брыгадзіра?" – "Аняж. Пайду".* Куціна, Сураўні Шум., Навасёлкі Віц., Чарневічы Глыб., Малы Поўсвіж, Новыя Валосавічы Леп., Куціна Шум., Груздава Паст., Царкавішча Уш.

АПА́Д *м., зб.,* АПА́ДКІ, АПА́ДНІКІ, АПА́ДЫШЫ *мн.* Ападкі; плады, што апалі з дрэва ад ветру, непагоды. *Апа́ду насушыла ўжо мех.* Слабада Шум., Высачаны Лёзн. *Трэба пайсці сабраць апа́дкі, а то згніюць.* Куты Докш. *Апа́днікаў навaліла ў садку.* Бычыншчына Міёр. *Толькі і паспявай апа́днікі збіраць.* Крыпулі Докш. *Сто́лька апа́дышаў пад дзеравам, нада*

*насушыць*. Ветрына Пол. *Ідзі, дзетачка, насабірай апа́дышаў пад яблыняй, яны салодкія*. Іскра В.-Дзв. *Схадзі пад яблыну, сабяры апа́дышы карове*. Андрэеўшчына Арш., Быцава, Дразды Беш., Ахрэмаўцы, Далёкія, Завер'е Брасл., Жыгалава Віц., Баравыя, Зазер'е, Кудзіны, Ткачы Гар., Бортнікі, Залессе, Зябкі, Папшычы, Шэпелева Глыб., Верамееўшчына Дубр., Куляшы, Курмялёўка Леп., Клетаў Двор, Язна Міёр., Камаі Паст., Крупяжына Сен., Слабада, Янкавічы Рас., Дроздава, Воўкавічы Тал., Шасцярні Уш., Новая Зара Чаш., Альхоўцы, Васюкі, Жданы, Лужкі Шарк., Сураўні Шум. Параўн. *апо́кушы*.

АПАЗНІ́ЦЦА *зак*. Спазніцца. *Калі палучыцца, пастараюся не апазні́цца*. Якубова Рас.

АПАНТА́ЎШЫСЯ *дзеепрысл*. Шумна, гарэзліва, узрушана. *Дзеці насіліся апанта́ўшыся*. Дворышча Рас.

АПАРО́ЦЬ *зак*. Натрапіць, знайсці. *Апаро́ў у сябе новыя нажні́цы, дума́ў, што пацірау́*. Мікалаёва Міёр. *Во, ужо недзе апаро́ла матчыну кохту*. Папкі Міёр. Параўн. *апы́нкаць, апы́шкаць*.

АПА́РЫШ *м*. Лічынка мухі. *А я на апа́рыша плотвіцы лаўляў*. Белая Ліпа Сен.

АПА́ШАНЬ *м*. Шырокі доўгі кафтан з кароткімі рукавамі. *Бяры, бацька, апа́шань, ні памішае ў дарозе*. Шыліна Шум.

АПА́ШКІ *мн., с.-г., абрад*. Свята заканчэння веснавой сяўбы. *Заўтра апа́шкі справім*. Лескавічы Шум.

АПАЯ́С *м*. Пояс, паясніца. *У штанах у гэных няма апая́са, падвяжыся шнурком*. Луцік Чаш.

АПАЯ́СКА *ж*. Паясок. *Дзе ж мая апая́ска чорная?* Бычыха Гар. *Ці дасі ты мне апая́ску?* Касары, Кугоні Уш., Высачаны Лёзн.

АПЕ́ЧКА *ж*. Апечак. *У нас апе́чка дзіраўляная*. Ясева Міёр.

АПІВА́ЙЛА, АПІВО́ША *аг*., АПІВО́Ш *м*. П'яніца. *Мой дзядзька такі апіва́йла*. Груздава Паст. *У маёй сястры мужык апіво́ша, нідзе ня робіць*. Лазы Тал. *Гэтый апіво́ш зноў грошы пазычаў*. Нурава В.-Дзв. *Ай, ён тожа добры апіво́ш*. Гарадзец Шарк.

АПІНЯ́НКА *ж*. Вялікая хустка, якой абкрываюцца ў халоднае надвор'е. *Вазьмі хоць ба апіня́нку, а ну як холадна?* Гарбацэвічы Арш.

АПЛІ́К *м*. Гаплік. *Зашпілі кофту на аплі́к*. Паташня Міёр., Каты Шарк.

АПЛЭ́ВУХ, АПЛЭ́ВУШ *м., груб., зневаж*. Неразумны, дурны чалавек; аболтус. *Не вядзі сябе як аплэ́вух*. Камайск Докш. *Ён і малы быў нейкі аплэ́вуш, і цяпер такі самы*. Быцава Беш. Параўн. *абалду́й, абалду́ін, асяло́к*.

АПЛЮ́ШКА *ж., іран.* Аплявуха. *Ад мужыка нізашто заработала аплю́шку.* Замошша Брасл.

АПЛЯТА́НІК *м.* Аплеценая лазой бутля. *У аплята́ніках гарэлку дзяржалі, а можна і алей.* Астроўшчына Пол.

АПО́ЙСАВАЦЬ *незак.* Абіваць больш буйнае зерне з коласа. *Апо́йсавалі зярно ў асноўным жанкі.* Сарочына Уш.

АПО́КА *аг.* Гультай(ка). *Твой хлопец гэткі бальшы, але ж апо́ка.* Баршчоўка Віц., Альшанка, Чарэя Чаш.

АПО́КУШЫ *мн.*Ападкі, плады, што апалі з дрэва ад ветру, непагоды. *У садзе апо́кушаў поўна.* Капланы Сен. Параўн. *апа́д, апа́дкі, апа́днікі, апа́дышы.*

АПО́ЛЕЦ *м.* Вялікі кавалак свінога сала, які атрымліваецца пры разбіранні тушы. *Апо́лец нада сыну кінуць. Прыйдзіць жа скора, дык возьміць свежага.* Новы Пагост Міёр.

АПО́ЛКІ[1] *мн.* Апалушкі, начоўкі для зернеачысткі ў хатніх умовах. *Вазьму апо́лкі і пайду дзе ветрык, прапалаю проса.* Грыцы Глыб., Нямойта Сен.

АПО́ЛКІ[2] *мн.* Абрэзкі, кароткія дошчачкі, якія застаюцца пры будаўніцтве чаго-небудзь. *Сабярі апо́лкі ў кучу.* Канашы Гар.

АПО́НА *ж.* Велакамера. *Ровар доўга на сонцы стаяў, апо́на й лопнула.* Лучайка, Сасноўка Глыб. *У тваім ровары трэба мяняць апо́ну.* Латышы Глыб., Казяны Брасл., Грэцкія Міёр.

АПО́СЛЕ, АПО́СЛЯ *прысл.* Пасля. *Апо́сле ўсё зраблю, паляжу троху.* Задуброўе Віц. *Выкапаю бульбу, апо́сле паеду да сына.* Моханава, Сар'я В.-Дзв. *Апо́сля хлопцы прыйшлі ў клуб.* Новая Яблынька Тал.

АПО́ЎЗЛІК *м.* 1. Немаўля. *Што ты хочыш, ён жа йшчэ апо́ўзлік, ні ходзіць.* Езярышча, Марозава Гар. 2. *перан.* Чалавек невысокага росту. *Звязалася яна з такім апо́ўзлікам – як дзіця.* Замачак Чаш. 3. *перан.* Худы, нездаровы, змарнелы чалавек. *Ізноў гэты апо́ўзлік прыцягнуўся – худы, бледны, страшна глянуць.* Іванск, Тараскі Чаш.

АПО́ЎЗЛЫ *прым.* Нікчэмны. *Такі ж ужо ён апо́ўзлы чалавек, п'е з дня ў дзень.* Стралкі В.-Дзв.

АПО́ЎНАЧ *прысл.* Апоўначы. *Апо́ўнач дзіка, страшна выхадзіць на вуліцу.* Слабодка Брасл.

АПРАГА́ЦЦА *незак.* Вылежвацца без працы. *Усю зіму апрага́ецца на печы, нічога не робіць, палец аб палец ні ўдарыць.* Палата, Пусташы, Труды Пол.

АПРАМЕ́ЦЦЮ, АПРО́МЕЦЦЮ *прысл.* Стрымгалоў. *Апраме́ццю ляцела паўз могілкі, спужалась вельмі.* Бялькоўшчына В.-Дзв. *Бяжыць апро́меццю, пад ногі ні глядзіць.* Ветрына, Пусташы Пол.

АПРАНА́ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Трэба добрэ апрана́ць па дзераву, каб раскалоць*. Бор, Чарэя Чаш.

АПРАСТА́ЦЦА *зак.* Разрадзіцца, радзіць. *Чула новасць? Ірка апраста́лася ўжо. Сямімесячны.* Цімошкава Міёр.

АПРО́МЕЦЦЮ гл. АПРАМЕ́ЦЦЮ

АПРУЦІ́ЦЦА *зак., экспр.* Здохнуць. *Зазналі мы гора, як карова за ноч апруці́лася*. Сакольнікі Віц.

АПРЫ́СКЛІВЫ *прым.* Капрызны. *Дзіця такое апры́склівае ў яе*. Першае Мая Чаш.

АПРЫЧО́НКІ *толькі мн.* Ласункі. *Дык якіх апрычо́нкаў я табе дам – таго ні хачу, етага ні ем?* Ясевічы Глыб., Баброва Дубр.

АПУ́ДЗІЦЬ *зак.* Спалохаць, спужаць. *А ўчора ж маю малую нейкі вялікі сабака крэпка апу́дзіў*. Прыпернае Глыб.

АПУ́КАЦЬ *зак.* Апасці. *Яблыкі апу́калі ў траву.* Арэхаўск Арш.

АПУ́ХА *ж.* Узлесак. *Апу́ха -- біражжына каля лесу.* Ясева Міёр.

АПУ́ХЛІК *м.* Абабак, падбярозавік. *Апу́хлікаў можна набраць на ўзбалотку*. Сураж Віц. *Цэлы кошык апу́хлікаў набралі.* Адаменкі Лёзн. Параўн. *аба́бка*.

АПУ́ШНІК *м., с.-г.* Акучнік. *Мы бульбу апу́шнікам ганяем два разы*. Варашылы Сен.

АПУШЧА́НІКІ *мн.* Аладкі з мукі і крахмалу. *Удаліся ў цябе апушча́нікі.* Балаі Міёр. *Мая баба любіць апушча́нікі.* Папшычы Глыб.

АПЫНІ́ЦЦА *зак.* Апынуцца. *І трэба ж было мне там апыніцца, калі яны прыйшлі.* Дварэц, Іванск Чаш.

АПЫ́НКАЦЬ, АПЫ́ШКАЦЬ *зак.* Натрапіць, знайсці. *Як збегла куранё малое, дык і зараз апы́нкаць яго ні магу.* Мількі Брасл. *Усядно ён апы́шкаў маю заначку.* Сардыкі В.-Дзв. Параўн. *апаро́ць.*

АПЯРЭ́ЗАЦЦА *зак.* Аперазацца. *Табе будзе лепш апярэ́зацца рамнём.* Каралёва Шарк.

АПЯ́ТЫ, АПЯ́ТЫКІ *мн.* Апенькі. *Нешта мала зусім апя́т, а яны ж такіе смачные.* Сянькова Шум. *А ў нас на гародзе ля пню апя́тыкі сідзяць.* Новая Яблынька Тал.

АРАБІ́НА *ж.* Рабіна. *Далёка відаць ваша арабіна.* Гарбацэвічы Арш.

АРАМА́ТАЎКА, АРАМА́ТУХА *ж., бат.* Чаромха. *Як хорашэ, калі арама́таўка цвіце.* Крыпулі Докш. *Ужо зацвіла арама́туха.* Чапукі Міёр.

АРБА́[1] *ж.* Ворыва. *Сёлята арба́ лёгкая, дажджы ішлі, зямля ня ўсохла яшчэ.* Шабаны Паст.

АРБА́[2] *ж.* Горб. *Старая жанчына з арбой, сагнуўшыся, ходзіць.* Чарэя Чаш.

АРБО́Н *м.* Аўтобус. *Цяпер арбо́нам едзь куды хочыш, і ровар ні нада.* Лынтупы Паст.

АРЖАВЕ́ННЕ *н., адз.* Руда на балоце. *Жывёла забягае ў аржаве́нне быстра, хаваецца ад пулі.* Мазалава Віц.

АРЖАВІ́НЫ гл. АЖАВІ́КА

АРЖА́ВЫ *прым.* Іржавы. *Грабельцы дык зусім аржа́выя.* Макаравічы Докш.

АРЖАНІ́К *м.* Аржаны хлеб. *Смачны аржані́к у маёй мацi.* Асвея В.-Дзв.

АРЖАНІ́ШЧА, АРЖЫ́ШЧА *н., адз.* Іржышча. *Ты астанешся аржані́шча паліць?* Абухава В.-Дзв. *Пагналі на аржы́шча кароў.* Ваўкі Паст.

АРЖА́НКА, АРЖАНУ́ХА *ж.* Жытняя салома. *У стог слажылі аржа́нку.* Дуброва Шум. *Аржа́нкай у хлеве слалі.* Антонаўка Арш. *Аржану́ху сцелюць у хлеў, каб каровам цёпла было.* Храпакі Віц., Лялеўшчына Гар. Астроўшчына Пол., Ходцы Сен.

АРЖЫ́ШЧА гл. АРЖАНІ́ШЧА

АРО́МЫЙ *прым.* Прызначаны для арання. *Вазьмі аро́мый хамут і запражы каня ў акучнік.* Сяляўшчына Рас.

АРТА́Й, АРЭ́Ц *м.* Араты. *Быў такі Мацей, вот ён добры арта́й быў, на ўсю акругу славіўся.* Лукашова Паст. *Арта́й тут найшоўся. Ён жа малы яшчэ.* Дамашы Брасл. *Слабы ты арэ́ц, плуг ня дзержыш.* Астроўшчына Пол. *Арэ́ц знае, калі сеяць пара.* Ларынаўка Арш.

АРТАПЕ́ЛЬ *ж.* 1. Балота. *За лесам уніз артапе́ль будзіць.* Казловічы Гар. 2. Гразь, непраходнае месца. *Каровы ў артапе́ль улезлі.* Канашы Гар.

АРУ́Д *м.* Засек. *Канец лета, а ару́д яшчэ не пачышчаны.* Гатаўшчына, Кавалі Глыб., Рудабісць Брасл., Мнюхі Міёр.

АРШЫ́Н *м.* Рыдлёўка. *Аршы́нам перакапала агарод, дык ледзь дадому дайшла.* Турчына Міёр.

АРЭ́Й гл. АВЕ́Р

АРЭ́Ц гл. АРТА́Й

АСАБНЯ́К *м.* Хутар. *На ўсю ваколіцу німа ні аднаго асабняка́.* Абаляны Брасл.

АСАВІ́К, АСО́ВІК *м., бат.* Падасінавік. *Асавікі́ растуць толькі ў добрых лясах.* Выдрэя Лёзн. *А грыбоў колькі! І асавікі, і лісі́чкі, і грузды!* Бачэйкава Беш. *Сягоння асавіко́ў ні нашла.* Камiншчына Глыб. *Кума асавіко́ў набрала, дык цяпер ходзіць прадаець.* Цімошкавва Міёр. *Асо́вікі растуць у асінніку.* Зубава

Арш. *Асо́вікі зараз параслі ды баравікі пракідаюцца.* Стаўбцы Чаш., Зубава Арш., Ткачы Гар., Азярцы Глыб., Крынкі Лёзн., Абольцы Тал., Ваўчо Уш.

АСА́ДНІК *м.* Агароднік, чалавек, які займаецца агародніцтвам. *Мой бацька аса́днік, расціць гуркі.* Грыцы Глыб.

АСАТА́ *ж., бат.* Асот. *Асата́ запаланіла ўвесь агарод.* Дамашы Брасл.

АСАЧЭ́НЬ *м.* Хлеб, спечаны ў вясковай печы. *Маці пякла раней асачэ́нь, а я ні ўмею.* Коравічы Чаш.

АСВА́ *ж.*, ВО́СВЫ *мн.* Аса. *Малое гудзе сабе пад нос, як асва́ ў акне.* Арэхаўск Арш. *Мяне ўкусіла асва́, дык дажа была цемпература.* Барсукі, Цясты В.-Дзв. *Столькі во́сваў, што няма куды дзецца.* Застарынне Беш., Малы Поўсвіж Леп., Замшына Лёзн., Муляры Паст., Загацце Чаш.

АСВЕ́Р *м.* Журавель калодзежа. *Асве́р зламаўся ўчора, няма як вады набраць.* Лазічы, Прыпернае, Сасноўка Глыб. *Дзетка, асве́рам дастань вады.* Гараўцы, Папшулі Міёр., Дражакі Гар., Залессе Глыб., Балаі Паст., Машчоны Сен., Бадзінава Пол., Загацце Чаш.

АСВО́ІЦЦА *зак.* Парадніцца, стаць сваяком. *Асво́іўся ты са мной, брат, раз на сястрэ жаніўся.* Мішкавічы Шум.

АСЕ́ЛІЦА *ж.* Нізкае, вільготнае месца каля вёскі; луг. *Каб патрапіць у вёску, трэба прайсці асе́ліцу.* Шантары Докш. *На асе́ліцы ў нас расце капуста.* Пустаселле Докш. *Снег растаў, асе́ліца стаіць у вадзе.* Новыя Валосавічы Леп.

АСЕ́ЎКІ, АСІ́ЎКІ *мн.* Высеўкі. *Якая мука плахая, адны асе́ўкі.* Рускі Шум. *Мука нічога памеліна, асе́вык пасьці німа.* Барсукі Дубр., Зуі Лёзн. *Мука добрая, калі асі́ўкаў зусім няма.* Папшычы Глыб. Параўн. *ашакі́.*

АСІТА́ *ж.* Дрыгва. *Калі пападзеш у асіту́, ногі вязнуць.* Пралетарыя Уш.

АСІ́ЎКІ гл. АСЕ́ЎКІ

АСКАБА́ЛАК, АСКАЛЁПАК, АСКЯЛЭ́БАК, АСКЯРО́БАК *м.* Абломак чаго-н. *Прынёс нейкіх аскаба́лкаў -- нада ж сасновыя палачкі.* Гарадзец Шарк. *Той аскалёпак валяецца пад нагамі які дзень.* Кушлікі Паст. *Маці запаліць аскалёпак і вяжа.* Езярышча Гар. *Толькі аскалёпкі пасыпаліся ад стакана.* Гарадзец Шарк. *Разбіла міску? А аскялэ́бкі хоць сабрала?* Надазер'е Глыб. *Аскяро́бкі ад тарэлкі рассыпаліся па ўсёй кухні.* Пралетарыя Уш. Параўн. *ачаро́п'е.*

АСКРО́БКІ *толькі мн.* Шалупінне ад бульбы. *А я аскро́бкі ні выкідваю, а аддаю свінням, яны тады і ядуць лепі.* Лукашова Паст. Параўн. *ацяро́бкі, ацярэ́бкі, ашкалёпкі.*

АСКУПЕ́ЦЬ *зак.* Стаць скупым. *Дык ты ж, братка, вельмі аскупе́ў пад старасць.* Замошша Брасл.

АСКЯЛЭ́БАК, АСКЯРО́БАК гл. АСКАБА́ЛАК

АСЛАБАДЗІ́ЦЬ *зак.* 1. Вызваліць; адваяваць захопленую ворагам тэрыторыю. *Аслабадзілі нас у сорак чацвёртым году.* Пушкі Лёзн. *Нашу вёску аслабадзілі парцізаны.* Калышкі Лёзн. *Красныя аслабадзілі нас ад немцаў.* Галбея Паст. 2. Вызваліць з няволі, даць свабоду. *Як нас аслабадзілі з лагера, дык мы ў ету дзірэўню прыехалі жыць.* Салаўёва Лёзн. 3. Выслабаніць што-н. ад чаго-н. *Хоць ты аслабадзі засек, зярно ж сыпаць нада.* Воўкаўшчына Глыб.

АСЛЯПЕ́НЬ *м.* Авадзень. *Кароў асляпе́ні заідаюць.* Шклянцы Докш. Параўн. *ава́д* у 1 знач.

АСМА́ЛАК *м.* Смаляк, смалісты кавалак дрэва. *Прынесі асма́лак печ падтапіць.* Ілава Шум.

АСМА́ЛКІ *мн.* Прыгаркі. *Вельмі асма́лкі люблю, але каб не зусім чорныя.* Антонаўцы Брасл. *У печы бульба варыцца, дастанеш, а самае смачнае -- асма́лкі.* Папкі Міёр.

АСМЫ́КВАЦЬ *незак.* 1. Абцягваць, папраўляць адзенне. *А ён стаіць такі скромненькі, асмы́кваіць гэты пінжачок на сабе, асмы́кваіць.* Гарадзец Шарк. 2. *перан.* Абрываць рэзкай заўвагай. *Ты заўжды мяне асмы́кваеш.* Нурава В.-Дзв.

АСО́ВІК гл. АСАВІ́К

АСО́КА *ж.* Асака. *Асо́кай можна й рукі парэзаць.* Малы Поўсвіж Леп., Старое Сяло Віц., Двухполле Гар., Ластавічы, Падсвілле Глыб., Полымя Сен., Дроздава Тал.

АСО́ЦІНА *ж.* Адна сцябліна асоту. *Руку пакалола асо́цінай.* Крынкі Лёзн.

АСТАЛАПЕ́ЦЬ *зак.* Аслупянець, знерухомець ад моцнага ўзрушэння. *Тут я асталапе́ла і гляжу на яго: смяецца ці праўду кажыць чалавек.* Баева Дубр. Параўн. *астаўбяне́ць.*

АСТА́НІВАЦЬ *незак.* Распілоўваць, разразаць. *Во так і аста́нівалі калоды.* Заазер'е Тал.

АСТАЎБЯНЕ́ЦЬ *зак.* Аслупянець, знерухомець ад моцнага ўзрушэння. *Я аж астаўбяне́ла. Такога я яшчэ ня відзела.* Быцава Беш. Параўн. *асталапе́ць.*

АСТАЯ́ЦЬ *зак.* Астудзіць. *Трэба астая́ць чай, гарачы вельмі.* Данілкава Тал.

АСТРАЎЁ *н.*, АСТРАВІ́НЫ, АСТРО́ЎКІ, АСТРЫ́ЎКІ *мн.* Пярэплат, прыстасаванне з сукаватых яловых калоў і жэрдак для сушкі сена, снапоў і г.д. *Нада астраўё паправіць, гарох сушыць пара.* Лісна В.-Дзв. *Сырое сена сохне на астраві́нах.* Крывое Тал. *Будзем ставіць астро́ўкі-- сушыць ячмень.* Дуброва Шум. *На*

*астрыўках сушылі боб.* Барсукі В.-Дзв., Дразды Беш., Астрэйкава, Грабяніца, Гунчанкі Віц., Ткачы Гар., Стасева Лёзн.

АСТРО́ *безас.-прэдык. слова.* Востра. *Ішла па жнеўніку, уся скалолася – астро́.* Арлея Пол.

АСТРО́ЎКІ гл. АСТРАЎЁ

АСТРЫ́ГА, АСТРЯ́ГА *ж.* Прылада з завостраным канцом для лоўлі рыбы. *Астры́гай нікагда не лавіў.* Доўжа Віц. *Бувала, сідзіш у лодке, клюне пару раз, а на берегу астря́гай рыбу калолі.* Езярышча Гар.

АСТРЫ́ЎКІ гл. АСТРАЎЁ

АСТРЯ́ГА гл. АСТРЫ́ГА

АСТУКА́Н *зневаж.* Чалавек, які стаіць нерухома на адным месцы. *Стаіш ты, як астука́н.* Ноўка Гар.

АСУДЖО́НЫ *дзеепрым.* Асуджаны. *Ён жа асуджо́ны, ці скора выйдзець.* Порплішча Докш.

АСУ́ШКА *ж.* Асушак, сухар. *Пры такіх цэнах цяпер і асу́шку не выкінеш.* Слабада Дубр.

АСЦЕ́ЎЕ, АСЦІЎЁ, АСЦЯЎЁ *н., зб.* Асцё. *Колас малы, затое асце́ўе выгнала.* Малыя Пышнагоры Леп. *Пакуль салому склала, дык набрала поўныя тапкі асціў́я.* Курмялёўка Леп. *Асталося адно толькі асцяўё.* Лукомль Чаш. Параўн. *ако́цця, ашака́.*

АСЦЯБА́ЦЬ *зак.* Абразіць, прынізіць. *Чаму ты мяне так груба асцяба́ў?* Бораўна Леп. Параўн. *абрамізіць.*

АСЦЯЎЁ гл. АСЦЕ́ЎЕ

АСЫПА́ЦЬ *зак., с.-г.* Акучваць. *Ужо час падыходзіць бульбу асыпа́ць.* Касары Уш. *Асыпа́ў бульбу ўсю раніцу, а хто ж за мяне зробіць.* Чэрнева Брасл. Параўн. *ака́пваць, ако́пваць.*

АСЫ́ПКА *ж.* Восыпка, вобмешка. *Мяшок асы́пкі дасталі парсючку.* Чэрнева Брасл. *Асы́пкі трэба замешаць.* Калінавая Міёр., Лукаўцы Пол.

АСЯЛО́К *м., перан., зневаж.* Неразумны, дурны чалавек; аболтус. *Мішка -- асяло́к, гэта ўсе знаюць.* Быцава Беш. Параўн. *абалду́й, абалду́ін, аплэ́вух, аплэ́вуш.*

АСЯНО́К, АСЯНЧУ́К, АСЯНЮ́К *м.* Маладняк асенняга прыплоду. *У мяне ягнёнак асяно́к, клець уцяпліць нада на зіму.* Межава Арш. *Гаспадарка ў яе малая, адзін кабанчык-асянчу́к.* Дражакі Гар. *Мой асянчу́к добра падрос.* Антаполле Чаш. *У добрага хазяіна глянь які асяню́к ладны. Оўцы ў яго добрыя.* Старое Сяло Уш., Даўгінава Міёр.

АТА́ДАР *м., зневаж.* Нелюдзімы чалавек. *Што ты ходзіш ата́дарам? Ад усіх хаваешся?* Ёды Шарк. Параўн. *адлю́днік.*

АТА́ПАК *м.* Ступня. *Глянь, які вялікі ата́пак у мальца. А яшчэ ж дзіцёнак.* Рыпіншчына Шум. *Трэба напячы ата́пкі на печы, тады ўся хвароба выйдзе.* Быцава Беш.

АТАЎБАВА́ЦЦА *зак.* Асесці, пасяліцца. *У тэй вёсцы яны атаўбава́ліся і жылі.* Зубава Арш.

АТВА́Л *м.* Уклон касы. *Які атва́л зробіш, так і каса касіць будзе.* Жданы Шарк.

АТВО́Д *м.* Участак лесу пад вырубку. *Той сасняк ужэ пад атво́д пусцілі.* Бягомль Докш.

АТВО́НА *безас.-прэдык. слова.* Палога, някрута. *На берагу том було атво́на.* Бярэзніца Шум.

АТВО́НЫ *прым.* Палогі. *А на раке бераг усягда быў атво́ны.* Барсукі В.-Дзв. *А берагі ў нас атво́ныя.* Цясты В.-Дзв.

АТКРАПА́ЦЬ *зак.* Разблытаць. *Аткрапа́й провалаку.* Урбаны Брасл.

АТЛА́СКА *ж.* Атласная хустка. *Надзену гэту атла́ску, красівая яна.* Бігосава В.-Дзв.

АТМІРА́ЦЬ *незак.* Паміраць. *Старыя людзі ўжо атмі-ра́юць.* Галбея Паст.

АТО́КА *ж.* Затока. *Зноў сёліта ато́ка разліецца.* Новы Двор В.-Дзв. *У нашай ато́кі добра краснапёркі ловяцца.* Клясціцы Рас.

АТО́ПАК *м.* 1. Лапаць. *Мой дзед хадзіў у ато́пках.* Абольцы Тал. 2. *перан., зневаж.* Бадзяга, валацуга. *А Мішка, ато́пак, учора зноў напіўся і хадзіў па дзярэўні.* Шацяні Сен.

АТО́РА, АТО́РЯ *ж., адз.* Амецце. *Ато́ру зложыце ўбок.* Краснаполле Рас. *Намялі кучу ато́рі, ні знаю, куды з ёю і дзівацца.* Барсукі Дубр.

АТРАЗА́НКІ гл. АБРАЗА́НІКІ

АТРАМЭ́НТА *ж.* Атрамант, чарніла. *Зараз усякія ручкі модныя, а раней пісалі пяром і атрамэ́нтай.* Нурава В.-Дзв. *Мне ж нада напісаць, і ён прыносіць мне гэтую атрамэ́нту.* Гарадзец Шарк.

АТРА́НАК *м.* Ранак. *Атра́нак зайграў – пара скаціну ў поле весці.* Далуева Шум. *Ужо і атра́нак, пара за работу прымацца.* Галі Шум.

АТРА́ЎЛЕНІК *м., бат.* Падобны да баравіка ядавіты грыб, які сінее ад дотыку. *Атра́ўленікі ні гадзяцца для яды.* Дразды Беш. Параўн. *абма́нка* [2].

АТРА́ХА *аг., зневаж.* Абыякавы да ўсяго чалавек. *Ай, атра́ха, ці будзіць з яго толк?* Баева Дубр.

АТРІЗА́НІКІ, АТРІЗА́НКІ гл. АБРАЗА́НІКІ

АТРО́ПКІ, АТРЭ́ПЫ *толькі мн.* Адходы пры апрацоўцы льну церніцай, атрэп’е. *Атро́пкі ата льна нікому не патрэбныя.*

Андронавічы Віц. *Прынясла атрэ́пы ды пазатыкала дзіркі ў хляве*. Сарокі Глыб. Параўн. *абмя́лкі*.

АТРУ́ІЦЬ *зак.* Атруціць. *Мо яна мяне атру́іць хацела?* Замхава Глыб.

АТРЭ́ПЫ гл. АТРО́ПКІ

АТРЭ́ЧНЫ *прым.* Не такі, як іншыя, асаблівы. *Во дзе атрэ́чная баба, усё ў яе не так, як у людзей.* Драбаўшчына Глыб. *Такія цяпер дзеці атрэ́чныі сталі, только тукаеш на іх, як на ваўкоў.* Жары Рас. // Недарэчны. *Да чаго ж я не люблю цяперашняй моды, такая яна атрэ́чная*. Арэхаўна Уш.

АТРЭ́ЧЧА *аг.* Чалавек упарты, наравісты, які нікому не падпарадкоўваецца. *На мінулым тыдні як паляцеў з матацыкла, я думала, шыю зломіць. Але ж такоя атрэ́чча, усё раўно ездзіць.* Марынцы, Тараскі Чаш.

АТСТО́Й *м., адз.* 1. Сметанковы слой, які здымаюць з верху кіслага малака. *Малако слівалась у атсто́йнікі, а патом сніма́ўся атсто́й.* Скрыпкі Гар. 2. Асадак. *Верх злей у чашку, а атсто́й выллі вон.* Двухполле Гар.

АТСТО́ЙНІК *м.* Пасудзіна для адстойвання малака. *Добра зараз – пайшоў у магазін, а там табе й малако, і смятана, і тварагі, а смятану раней у атсто́йніках атстайвалі, масла ў маслабойках калацілі; бывала, ад сілы аж хрэст ламаўся.* Гунчанкі Віц. *Не забудзься атсто́йнік у ваду паставіць, а то малако скісніць.* Мікалаёва Міёр.

АТСЫ́РВАЦЦА *незак.* Плеснець. *Атсы́рваіцца хлеб.* Магуны Паст.

АТТУ́ДАВА *прысл.* Адтуль. *Атту́дава прышла гэта туча.* Бігосава В.-Дзв.

АТЫМА́ЛКА, АТЫМА́НКА, АТЫ́МКА, АТЫМА́ЧКА, АТЫМА́ШКА гл. АДНІ́МКА

АЎДО́ТКА *ж., заал.* 1. Азёрная рыбка, род дробнай плоткі. *Аўдо́тка добра ловіцца на матыля.* Грынькі Чаш. 2. Удод. *У аўдо́ткі чубок есць.* Павяцце Міёр.

АЎСЕ́Ц *м., бат.* Аўсюк; пустазелле, падобнае на авёс. *Аўсе́ц і ў жыце расце*. Асташэва Лёзн., Рацькава Уш.

АЎСЯ́НКА *ж.* Аўсяная салома. *Аўся́нку з сенам мешаем, дык каровы лепі, як адно сена, ядуць.* Азярцы Глыб., Вялікі Поўсвіж Леп., Краснаполле Рас., Дуброва Шум.

АЎСЯ́ННЕ *н.* Аўсянішча; поле, з якога сабраны ўраджай аўса. *Гані авечак на аўся́нне*. Горкі Шум.

АЎТО́БУСНІК *м.* Вадзіцель аўтобуса. *Дык брат ўсё жыццё аўто́буснікам адробіў.* Расходня Сен., Валожанкі Шарк.

АЎЦАЕ́Д *м.* Воўк, які бярэ авечак. *Аўцае́д апасны воўк. Так*

*і глядзі, што выбежыць з лесу і нападзе на авец.* Міхалінава Лёзн. Параўн. *авячнік.*

АЎЧА́Р *м.* Сабака аўчарка. *Такі аўча́р прывязаны ля хаты.* Вераб'і Глыб.

АЎЧА́РНІК *ж.* Аўчарня, авечы хлеў. *У нас аўча́рнік сухі і цёплы.* Кавалі Лёзн. *Загані авечак і падапры дзверы ў аўча́рнік.* Лугавыя Віц., Сар'я В.-Дзв., Стасева Лёзн.

АЎША́К *м.* Вушак. *Аўша́к трэснуў, рамантаваць будзем.* Вяцера Чаш. *А мне што дзелаць, аўшакі́ рассохліся саўсім.* Камоскі Беш.

АХА́ІЦЬ *зак.* Прыбраць, навесці парадак. *Паціху вокны толькі аха́іла к празніку.* Латышы Глыб.

АХАЛАДА́ЦЬ *зак.* Ахаладзець, астыць. *Хай зямля ахалада́е, тады пойдзем работаць.* Мілашы Брасл.

АХВІРА́НКА *ж.* Фіранка. *Ахвіра́нкі з бумагі выразалі.* Асвея В.-Дзв.

АХВІЦЭ́РЫХА *ж.* Жонка афіцэра. *Так ужо чапурыцца гэна ахвіцэ́рыха.* Ляды Дубр.

АХІ́ЛАК *м.* Кволае, хваравітае дзіця. *Наш сынок такі ахі́лак, радзіўся такім.* Вераб'і Пол, Грыцы Глыб., Бірулі Докш.

АХЛЫ́СЦІК *м.* Ашуканец. *Гэны ахлы́сцік мне ўжо ўсе нервы выеў.* Ветрына Пол., Камайск Докш.

АХМІСТРЫ́НЯ *ж., перан.* Жанчына, схільная важнічаць, фанабэрыцца. *Якая ж наша суседка ахмістры́ня!* Вяцера Чаш.

АХО́ДЖВАЦЦА гл. АБХАДЗІ́ЦЦА

АХО́ПАК *м.* Абярэмак, ахапак. *Пакладзі карове ахо́пак сена.* Янкі Докш. *Прынясі ахо́пак дроў з драварні.* Балаі Міёр.

АХРА́ПА *ж.*, АХРА́П'Е, АХРА́П'Я *н., зб.* Зелле, бацвінне на корм свойскай жывёле. *А я пайду па ахра́пу, бо ў полі гола і кароўка за дзень згаладалась.* Іванск Чаш. *Кожны дзень цігаю ахра́пу, нада ж свінней карміць.* Каханавічы В.-Дзв. *Ідзі пасячы ахра́п'е.* Заполле Беш. *Усё нада было. З работы прыбягу і ў ахра́п'е, каб скаціну накарміць.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Свіням давалі ахра́п'е -- насячэм травы, і ядуць.* Дабравольск Тал. *Праз усё лета свіням ахра́п'я давала.* Абаляны, Далёкія, Мількі Брасл., Бачэйкава, Дразды, Чаўнышкі Беш., Залучча, Ноўка Гар., Дзёрнавічы В.-Дзв., Гатаўшчына, Запруддзе, Лазічы, Латышы, Надазер'е Глыб., Балаі, Мікалаёва, Спігальшчына, Сухавежа Міёр., Ласіца, Лукашова, Нарыца Паст., Ветрына, Жарцы Пол., Клясціцы Рас., Наваселле, Матырына Уш., Коравічы, Тараскі Чаш., Жданы, Пятровічы, Чаромхава Шарк.

АЦАЛЁЦЬ *зак.* Уцалець, астацца цэлым, непашкоджаным. *Наша хата ў вайну ацалёла.* Замошша Брасл.

АЦЕ́ЧАСТВА *н.* Імя па бацьку. *Маё ацéчаства – Віктараўна.* Гута Паст.

АЦІРА́ЦЦА *незак.* Асыпацца. *Каласы ўжэ аціра́юцца, перастаяў авёс.* Агурні Глыб.

АЦЦЯПЕ́ЛЬ *ж.* Адліга. *У аццяпе́ль ажно на вуліцу ні хочацца выхадзіць, дужа мокра.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *адду́ха*[2].

АЦЯ́МІЦЦА *зак.* Апамятацца, разабрацца ў новых, нечаканых абставінах. *Пакуль немцы ацяміліся, мы ўжо былі ў лесе.* Бяседы Леп. Параўн. *агало́міцца.*

АЦЯРО́БКІ, АЦЯРЭ́БКІ *мн., зб.* Шалупінне ад бульбы. *Ацяро́бкі мы збіраем і варым свінням.* Шасцярні Уш. *Ацярэ́бкі ў кучу на двары ссыпай.* Ілава Шум. Параўн. *аскро́бкі, ашкалёпкі.*

АЧА́ПІСТЫ *прысл.* Тоўсты, трыбухаты. *Карова ў майго брата ача́пістая і на малако добрая.* Замкава, Латышы Глыб.

АЧАРО́П'Е *н., зб.* Абломкі разбітай пасуды. *Сабяры гэтае ачаро́п'е, выкінь і не парэж рукі.* Астроўшчына Пол. Параўн. *аскаба́лак, аскалёпак, аскя́лэбак, аскяро́бак.*

АЧАРПНУ́ЦЬ *зак.* Зачарпнуць, набраць (вады). *Ай, этыя дзеці. Два часы просіш вядро вады ачарпну́ць, і то лянуюцца.* Таўкіні Шарк.

АЧМУ́Р *м.* Ачмурэнне. *Нейкі ачму́р на мяне найшоў у лесе.* Псуя Глыб.

АЧМУ́ЦІЦЬ *зак.* Ашукаць, падмануць. *Я тады яго лоўка ачму́ціла.* Бяседы Леп. Параўн. *амманіць, абласу́ціць, ашалапу́ціць.*

АЧО́ПКАЦЦА *зак.* Папраўіцца пасля цяжкай хваробы, акрыяць, ачуняць. *Трохі была ачо́пкалася, то зразу хапілася за работу.* Коравічы Чаш. Параўн. *акрэ́йбацца.*

АЧО́СЫ *толькі мн.* Ачоскі, адходы пры часанні льну. *Ачо́сы ў нас тожа йдуць у дзела. Можна ткаць палавікі, мешкавіну.* Пішчалава Арш.

АЧУРА́ЦЦА *зак.* Адцурацца, адрачыся. *Дзеці ачура́ліся ад маці.* Якаўлевічы Арш. *Ад жонкі ачура́ўся быў, а любіў жа.* Белая Ліпа Сен.

АЧУРУ́ДНЫ *прым.* Прапашчы. *Ачуру́дны ты чалавек, п'яніца.* Ушачы.

АЧУЦІ́ЦЦА *зак.* Апрытомнець, ачуцца. *Як ударыла галаву, толькі праз дзень ачуці́лася.* Галбея Паст.

АЧЫ́ПАК *м.* Вочап. *Ваду нечым набраць – ачы́пак зламалі.* Слабодка Гар.

АШАКА́ *ж., зб.* Асцё. *Адабралі насёна, але далей німа чаго дзяліць – ашака́ пашці адна.* Захарнічы Пол. *Зярно вельмі плахое –*

*шмат ашакі.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *акоцця, асцеўе, асціўё, асцяўё.*

АШАКІ *мн.* Высеўкі. *Прасеяла муку, ашакі курам замішаю.* Сакольнікі Віц. *Ашакі на корм свінням ідуць.* Матырына Леп., Ёды Шарк. Параўн. *асеўкі, асіўкі.*

АШАЛАПУЦІЦЬ *зак., экспр.* Ашукаць, падмануць. *Лоўка яна цябе ашалапуціла.* Булахі Глыб. Параўн. *абласуціць, амманіць, ачмуціць.*

АШАЛОНА *ж.* Эшалон. *З Рыгі фарміравалі ашалону ў Германію.* Узмёны Міёр.

АШКАЛЁПКІ *толькі мн.* Шалупінне ад бульбы. *Ашкалёпкі зварьі разам з бульбай, свінка паесць.* Галбея Паст. Параўн. *аскробкі, ацяробкі, ацярэбкі.*

АШКІР *выкл.* Вокліч, якім адганяюць авечак. *Ашкір! Пайшлі ў хлеў!* Апанаскавічы Уш.

АШКУРЫЦЬ *зак.* Акарыць, ачысціць ад кары. *Усё німа ўрэмя ашкурыць лес.* Баяноўшчына Пол.

АШЛАП *м.* Ачэп. *Буду лажыць ашлапы і ставіць кроквы.* Сяляўшчына Рас.

АШОСТАК *м.* Прыпек. *Пастаў скавараду на ашостак.* Юнькі Паст.

АШУШКАЦЦА *зак.* Ухутацца, цёпла апрануцца. *Як на север ашушкаўся.* Дварчаны Паст. *Так ашушкалася, ледзь ногі цягну.* Колпіна Сен., Варапаева, Чорнае Паст. Параўн. *абдзёцца.*

АШЧАПЕНЕЦ *м.* Адшчапенец, адзінокі чалавек. *Так і пражыў век ашчапенцам.* Дрыгучы Міёр.

АШЧАПІЦЦА *зак.* Абхапіцца рукамі, моцна абняцца. *Браты ашчапіліся, адпускаць адзін аднаго ні хочуць.* Ліпаўкі Докш.

АШЧАПІЦЬ *зак.* Абхапіць рукамі, моцна абняць. *Ашчапіў за шыю і ні атарваць.* Язвіна Шум. Параўн. *абшчалепіць.*

АШЧАЧЭРЫЦЦА *зак.* Занервавацца (пра свойскіх жывёл, птушак). *Як вынесу ім ягады гнілыя, а яны, ты знаеш, ашчачэруцца і глядзяць, не хочуць есць, а патом і з'ядуць.* Гараны Пол.

АШЫБНУЦЦА *зак.* Памыліцца. *Кажыцца, правільна шчытаў, а нейдзі ашыбнуўся.* Барсукі Дубр., Арцёмава Лёзн., Забор'е Рас.

АШЭСТАК *м.* Жэрдка пад столлю ў хаце ці ў бані. *Калбасы, можа, на ашэстак перад шчыткам пака павешаем.* Туркова Міёр.

АЯГНІЦЦА *зак.* Акаціцца, нарадзіць ягнят. *Мая авечачка маладзенькая аягнілася.* Астроўшчына Пол.

# Б

БА́БА[1] *ж.* Апора калодзежнага жураўля. *Згніла ба́ба ў калодзісю й паламалася.* Сакольнікі Віц. *У калодцы было некалькі частак: ба́ба, смык, жэрдка. І на ўсё на гэта казалі "журавель".* Лётцы Віц. *Пастаў ты мне ба́бу.* Нямойта Сен.

БА́БА[2] *ж.* Дрыгва. *Прайсці па кладцы праз ба́бу.* Мокавічы Чаш. Параўн. *багавінне, багвіна, балачы́на, бало́нне* [2], *бало́ццяя, бо́лаць, блытаві́на.*

БА́БА[3] *ж., бат.* Дзьмухавец. *Белыя ба́бы растуць ля дарогі.* Руць Чаш.

БА́БА[4] *ж.* Рыбалоўная прылада ў выглядзе бочкі з жардзінай. *Ба́бу круцяць на беразе і выцягваюць невад з вады.* Ракава Гар.

БАБАВЕ́ННЕ, БАБАВІ́ННЕ, БАБО́ВІНЬЕ *н., толькі адз.,* БАБО́ШНІК, БО́БЧЫК *м.,* БАБАВІ́НЫ *толькі мн., бат.* Сцяблы бобу; бабоўнік. *Бабаве́нне прошлым летам было як ніколі высокім.* Полымя Сен. *У бабоў бабаві́нне вялікае.* Пірагі Дубр. *Бабаві́нне гэтае каровам аддай, можа, есці будуць.* Папшычы Глыб. *Сцяблы бобу – бабо́віньe.* Дыманова Віц. *З маладога бабо́шніку я дзелаю ўкусны салат.* Панізоўе Арш. *Поле ад бо́бчыку было чыстым.* Полымя Сен. *Я сёння зацяраўся ў бабаві́нах.* Шарагі Міёр. Параўн. *бабро́ўнік.*

БАБАВІ́ШЧА, БАБІ́ШЧА, БАБО́ВІШЧА *н.* Поле пасля ўборкі бобу. *Бабаві́шча мы ўскапалі, а праз год зноў пасадзім тут боб.* Крыпулі Докш., Папшулі Міёр. *Пасля ўборкі боба мы на бабі́шчы астаўляем струкі, а патом іх палім.* Скоrг Сен. *Наступным годам на месце бабо́вішча пасадзім што яшчэ.* Зазер'е Гар. *Бабо́вішча застаецца пасля прыбранага бобу.* Дразды Беш., Пірагі Дубр., Малыя Пышнагоры Леп., Янкішкі Паст., Лукомль Чаш.

БАБА́Й *м., міф.* Стары дзед, які пужае малых. *Спі, засынай, сынку, а то прыйдзе баба́й – забярэ.* Бешанковічы.

БАБА́К *м.* Сноп. *Цётчын баба́к самы роўны.* Стрыжава Беш.

БАБАНІ́ *толькі мн.* Вантробы. *Бабані баляць.* Гута Паст.

БА́БАЧКА[1] *ж., бат.* Памянш. да *ба́бка* – грыб падбярозавік. *Баравікоў не знайшла, затое нарэзала капытоў, казелек, ажно тры ба́бачкі трапіліся.* Чурылава Арш. Параўн. *балатніца, бало́тнік* [2], *беразня́к* [2], *бяру́шнік.*

БА́БАЧКА[2] *ж.* Дзесяць снапоў ільну, састаўленых у кучку для прасушкі. *Я сто ба́бачак свізала сёння.* Зубава Арш.

БАБА́ШКА *ж.* Аладка. *Ты хадзі, баба́шак напякла, можа, пакаштуеш, яшчэ цёплыя былі.* Роўнае Шум.

БА́БІК, БА́БІЧ *м.* Бабнік; ахвотнік да жанчын. *Міхась раней ба́бікам быў, а цяпер яму нячога ўжо ня нада.* Язна Міёр. *Етага ба́біча ўся дзярэўня знае.* Вялікае Сяло Сен. *А сусед ба́біч быў, па ўсім Лётцам гаварылі.* Лётцы Віц.

БА́БІЦЬ *незак.* 1. Хрысціць (дзіця). *Дачку ба́біла суседка.* Верамееўшчына Дубр. 2. Пра першае купанне дзіцяці бабкаю. *Апошні раз я ба́біла гадоў пятнаццаць таму, дык і не памятаю, як гэта рабіць.* Стараселле Леп.

БА́БІЦЦА *незак.* Валаводзіцца. *А ні ба́бся ты з гэтым сенам.* Лужкі Шум.

БА́БІЧ гл. БА́БІК

БАБІ́ШЧА гл. БАБАВІ́ШЧА

БА́БКА[1] *ж.* Карэнны зуб. *У яе разбалелася ба́бка на ніжняй сківіцы.* Закур'е Чаш.

БА́БКА[2] *ж.* Знахарка, шаптуха. *Вельмі моцна захварэў Васіль, без ба́бкі не абысціся.* Мікалаёва Міёр.

БА́БКА[3] *ж.* Бакавая частка ў прыпечку, куды заграбаюць вуголле. *Вы ўжо ў ба́бку столькі вуголля накідалі!* Матырына Уш., Фарынава Пол.

БА́БКА[4] *ж.*, *заал.* Страказа. *Глянь, якія ў ба́бкі прыгожыя крылы.* Леснікі Глыб. *Над вадой лётае ба́бка.* Крывіцкі Шум.

БАБО́ВІНЬЕ гл. БАБАВЕ́ННЕ

БАБО́ВІШЧА гл. БАБАВІ́ШЧА

БАБО́К *м.*, *бат.* Пакаёвая кветка з пышнымі ружовымі суквеццямі. *У этым вазоне бабо́к расце.* Заазер'е Тал.

БАБО́НЫ *толькі мн.* Забабоны. *Ня вер ты ў гэтыя бабо́ны, здаравей будзеш.* Роўнае Шум.

БАБО́ЎЕ *н.* Шалупінне ад бабовых раслін – ад бобу, гароху, фасолі. *Ад бобу шмат бабо́ўя вынесла.* Доўжа Віц.

БАБО́ЎНІК *м.* Маленькі ліст каля стручка бобу. *Летась не ўрадзіў боб, выраслі адны бабо́ўнікі.* Папшулі Міёр.

○ БАБО́ЎНАЯ ТРАВА́ *ж.* Заячае шчаўе. *Лісты бабо́ўнай травы заквашваюць, як капусту.* Язна Міёр.

БАБО́ШНІК гл. БАБАВЕ́ННЕ

БАБРО́ЎНІК *м.* Сцяблы бобу; бабоўнік. *Увесь дзень збірала бабро́ўнік.* Забор'е Сен. Параўн. *бабаве́нне, бабаві́нне, бабо́вінье, бабаві́ны, бо́бчык.*

БАБРЫ́ЦА *ж.* Самка бабра. *На возеры была многа баброў і толькі адну бабрыцу відзелі людзі.* Старое Лядна Леп.

○ БА́БСКАЕ ЛЕ́ТА *н.* Бабіна лета. *Ба́бскае лета скора будзе.* Гарадок.

БАБУРА́ *ж., зб.,* БАБУРЫ́, БУБАРЫ́, БУБУРЫ́, БУБА́РЫКІ *толькі мн.* Дробная бульба. *Добрай бульбы вельмі мала, трапляецца толькі бабура́.* Слабада Віц. *Бабуля насыпала ў чыгун бабуро́ў.* Двухполле Гар. *Бубары́ трэба перасыпаць у карзіну.* Крынкі Лёзн. *Не ўдалася бульба, адны бубары́.* Лазоўка Сен. *Бульба ў етым годзе добрая, бубуро́ў зусім мала.* Нярэйша Сен. *Як бацвінне мелкае, то адны буба́рыкі параслі.* Белая Ліпа Сен.

БА́БЦЯ *ж.* Матчына або бацькава маці; бабуля. *Мая ба́бця чаго толькі ні знаіць, пра што ні спрасі – хараша раскажыць.* Кубелеўшчына, Савуткі Шарк. *Пойдзем да ба́бці?* Белішкі Паст.

БАБЫЛІ́ХА *ж.* 1. Бабылька, жан. да *бабыль. Бабыліха жыве бедна, нічога ні маіць.* Свіркі Докш. 2. Бедная адзінокая жанчына. *У бабыля нічога няма і ў бабыліхі тожа.* Пліса Глыб.

БАБЫ́ЛКА *ж.* Бабулька. *Ля дарогі стаяла старэнькая бабылка.* Касары Уш.

БАБЫ́Р *м., заал.* Ёрш. *Падпусці паплавок вышай – бабыро́ў наловіш.* Камары Віц.

БАБЭ́КА *аг.* Нямы чалавек. *У мяне родзіч быў бабэ́ка.* Фарынава Пол.

БА́ВІЦЬ *незак.* Баяць; расказваць. *Стары мой вельмі любіць басні ба́віць.* Баршчоўка Віц.

БАВО́Л *м.* Шызафрэнік, неразумны чалавек. *Баво́л быў і ў нашай вёсцы.* Мыкава В.-Дзв.

БАВУЛЬНІ́ЦА *ж., часцей* БАВУЛЬНІ́ЦЫ *мн.*. Баваўняная нітка. *Купенела бавульніцы і буду снаваць на спадніцы.* Сакольнікі Віц.

БАГАВА́ЦЬ *незак.* Нахабна паводзіць сябе. *Ходзіць – багу́е: адзін ён чалавек, а астатнія ўсе – быдла.* Спігальшчына Міёр.

БАГАВІ́НКА *ж., бат.* Суніцы. *У лесе багавінка паспела.* Пятровічы Шарк.

БАГАВІ́ННЕ *н.*, БАГВІ́НА *ж.* Дрыгва, багна, топкае месца. *Хадзіла за журавінамі ды заблудзілася, ледзь у багавінне нейкае ня ўлезла.* Сяло Гар., Новы Пагост Міёр., Акцябрскі Чаш. *На багавінне ўчора па шчыкалатку праваліўся.* Дзегцяры Брасл. *За нашым гародам багвіна.* Сушчова Віц. Параўн. *ба́ба* [2], *балачы́на, бало́нне* [2], *бало́цця, бо́лаць, блытавіна.*

БАГАВІ́ЦА *ж., міф.* Міфічная хвароба, якою могуць хварэць жанчыны. *Каб цябе багавіца ўзяла!* Мікалаёва Міёр.

БАГАДЗЕ́ЛЬНЯ *ж., асудж.* Шумнае зборышча людзей. *Во суседзі багадзе́льню зрабілі, што ў другім сяле чутно.* Кашчына Чаш.

БАГАМО́ЛЬНЯ *ж., асудж.* Пустая размова. *Ну і развялі багамо́льню!* Ідоўта Міёр.

БА́ГА́Н *м.*, БАГАННЁ *н.*, БА́ГАЎНІ́К, БАГН *м.*, БА́ГНА *ж., бат.* Багун. *Ба́ган расцець у балоці, ад ба́гана страшна баліць галава.* Сакольнікі Віц. *Калі зацвітае ба́ган, здаецца, што на купіны спусціліся маленькія воблачкі.* Гарані Гар. *Кругом рос ба́ган.* Вераб'і Глыб. *У лесе многа ба́гана, ад яго галава кружыцца.* Балаі, Язна Міёр. *Будзеш доўга хадзіць у лясу, дзе ёсць ба́ган, дак галава дажа ад яго разбалецца можаць.* Горы Рас. *Пойдзем заўтра ў ба́ган, ад мышэй добра памагае.* Новы Двор, Сар'я В.-Дзв. *Ба́ган расце толькі ў балоце.* Уздорнікі Сен. *Ба́ган таксама лекавая расліна.* Пашкі Шарк. *Ад бага́на галава баліць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Калі была ў лесі, бага́н цвіў.* Мярэцкія Глыб. *Баганнё сабіралі і падтырквалі пад страху.* Сасноўцы Шарк. *Ба́гаўнік расцець па балотах, дзе і галабоні.* Пралетарыя Уш. *Бага́ўнік расцець на балотах.* Сяло Гар. *Ад ба́гна ў лесе забалела галава.* Савіцкія Шарк. *Як пойдзеш у лес за п'яніцамі, то з ба́гнам ужо ніяк не размінешся, яны такія ўжо дружбакі.* Грыцы, Мосар Глыб. *Дым ад ба́гны ад камароў мяне ратуе.* Лепель.

БАГАСЛУ́ЖБА *ж.* Богаслужэнне. *У час багаслу́жбы ў цэркве цяпер і моладзь стаіць.* Міёры.

БАГАТЫ́РКА *ж., часцей мн.* БАГАТЫ́РКІ *бат.* Багаткі, дзьмухавец; палявая кветка жоўта-пясочнага колеру. *Перад Янам багаты́ркі збіраю, а на самое свята ў цэркаву свянціць іх нясу.* Кавалі Глыб.

БАГАТЫ́РНЫ *прым.* Багатырскі; фізічна моцны, дужы. *Ты ж багаты́рны, што ты, здачы яму даць не мог?* Цаўі Шум.

БА́ГАЎНІ́К гл. БА́ГА́Н

БАГА́Ч *м.* Вогнішча, агонь. *У лесе хуценька разлажыў бага́ч, каб спекчы бульбы.* Руць Чаш.

БАГВІ́НА гл. БАГАВІ́ННЕ

БАГДА́Й *выкл.* Бадай, каб. *А багда́й ты заеўся!* Ноўка Віц.

БАГДА́НЕЦ *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Ніна радзіла багда́нца ў дзеўках.* Сакольнікі Віц. Параўн. *банка́рт* у 1 знач., *баху́р* у 1 знач., *бэнсь* і *бэнсю́р* у 1 знач.

БАГН, БА́НА гл. БА́ГА́Н

БА́ГНІЦА *ж., бат.* Багноўка; шматгадовая нізкарослая балотная расліна сямейства багноўкавых з прадаўгаватым лісцем і дробнымі цёмна-чырвонымі кветкамі. *Бачыш, вада пад нагамі, ба́гніца кругам расце, у балота зайшлі.* Жыгалава Віц. Параўн. *балатня́нка, балацявіна, бало́тніна, бало́тніца, балаця́нка*[1], *бало́тнік*[1].

БАГНЭ́Т *м.* Нож вялікіх памераў. *Бацька схапіў са стала багнэ́т і выскачыў на двор.* Вераб'і Глыб.

БАГО́ЎКА, БО́ГАЎКА *ж., заал.* Божая кароўка. *На руку села баго́ўка.* Дражакі Гар. *А вунь баго́ўка ползае.* Вялікае Сяло Сен. *Вясной у нас дужа многа баго́вак лётаіць, і адкуль іх бярэцца столькі?* Гуліна Сен. *Чым болей чырвоных кропак, тым старэйшая баго́ўка.* Казімірова Пол. *Лётае бо́гаўка ў полі.* Промыслы Беш. Параўн. *бо́жая казю́лька.*

БАГУ́ЛЬНІК *м.* Бружмель. *Багу́льнік перашкаджаў нам ісці.* Грыцы Глыб.

БАДА́К *м., бат.* Асот. *Бада́к заглушыў увесь ячмень.* Халамер'е Гар.

БАДЗЁЖКА *ж.* Вядро. *Жонка наліла на калодзісі цэлую бадзёжку вады.* Адаменкі Лёзн. Параўн. *бодня* і *бадня́* ў 2 знач., *бадзя́га*[2] у 2 знач., *байдэ́рка, балёйка, бу́дан.*

БАДЗЁЦЬ *незак., груб.* Балбатаць, гаварыць глупства. *Ну ты й бадзёш, быта саўсём дурная.* Рубеж Брасл. *Што ты бадзёш? Не па дзесіць рублёў, а па пітнаццаць!* Валынцы В.-Дзв. Параўн. *ба́лхвіць, блэ́ндзіць* у 2 знач.

БАДЗІНЯ́[1], *аг., асудж.* 1. Абібок, гультай(ка). *Зноў гэты бадзіня сядзіць рукі склаўшы.* Бугаі Сен. *Ідзі дадому, бадзіня́!* Вярэнькі Паст. Параўн. *бадзя́ўка* [2] у 1 знач., *бінька.* 2. Бадзяга, валацуга. *Апяць сышоў з дому, вот ужо бадзіня!* Перавознікі Паст. *Вот жа бадзіня, дамоў і ні нада паказацца.* Прамышляды Паст. Параўн. *бадзя́ўка* [2] у 2 знач.

БАДЗІНЯ[2] *ж.* Шкодная карова, якая часта ўцякае ў шкоду, улазіць у патраву, бадзяецца абы-дзе. *Бадзіня ў мяне была шкодніца яшчэ тая.* Езярышча Гар.

БАДЗІЦЦА *незак.* Спрачацца. *Не трэба было бадзіцца са старшынёй, вось ён і атамсціў.* Чарневічы Глыб.

БАДЗЮКІ́ *мн., бат.* Бадзяк, ваўчкі. *У гэтым годзе на полі шмат бадзюко́ў.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *бадзя́га* [1], *буда́к.*

БАДЗЮ́ЛЬКА *ж., бат.* Шышка дзядоўніку. *Як улезла ў дзядоўнік, дык бадзю́лек нычыпалася за спадніцу.* Сляўшчына Рас.

БАДЗЯ́ГА[1] *ж., бат.* Бадзяк, ваўчкі; агульная назва калючай травы. *Іці была невазможна: каждую мінуту бадзя́га цаплялася за ногі.* Зубкі Лёзн. *Бадзя́га часцей расцець пад заборамі.* Пралетарыя Уш. *Калгаснае поле скрозь парасло бадзя́гай.* Радзюкі Шарк. Параўн. *бадзюкі, буда́к.*

БАДЗЯ́ГА[2] *ж.* 1. Бутля для самаробнага віна. *Дзе бадзя́гу схаваў? Я ж на трактар пакідала!* Белая Ліпа Сен. 2. Карыта, вядро, пасудзіна для вады. *Вялікая бадзя́га стаяла на лаве.*

Макаравічы Беш. *Ля хаты ляжыць вялікая бадзя́га.* Цяпіна Чаш. Параўн. *бодня* і *бадня́* ў 2 знач., *бадзё́жка, байдэ́рка, бале́йка, бу́дан.*

БАДЗЯ́ЛЫ *прым.* 1. Брудны. *Якую ты паддзёўку надзеў? Бадзя́лую! І табе не сорамна?* Фарынава Пол. 2. Легкадумны ў паводзінах. *За такога бадзя́лага пойдзеш замуж?* Труды Пол.

БАДЗЯ́ЎКА[1] *ж., заал.* Мошка. *Глянь, якая бадзя́ўка палзець.* Харкаўка Арш.

БАДЗЯ́ЎКА[2] *аг., асудж.* 1. Гультай(ка), не заняты(ая) працай. *Ужо відаць, што бадзя́ўка расцець.* Іванькі Міёр. Параўн. *бадзі́ня*[1] у 1 знач., *бінька.* 2. Распуснік(ца); бадзяга, валацуга. *Бадзя́ўка! Дзе была – туды йдзі!* Ноўка Віц. *Яго бацька бадзя́ўка, п'янчуга.* Верхнядзвінск. Параўн. *бадзі́ня*[1] у 2 знач.

БАДЗЯ́ЎКА[3] *ж.* Ануча, прызначаная для выцірання вельмі брудных, замазучаных рук. *Дай мне бадзя́ўкі, рукі вытраць ад мазуты.* Іванькі Міёр.

БАДЗЯ́ЦЦА *незак.* Быць у беспарадку, валяцца не на месцы (аб рэчах). *У шкафе ўся адзежа так бадзя́іцца.* Акунёва Міёр. *Па ўсёй хаце бадзя́ецца адзежа, хоць бы прыбрала!* Стралкі В.-Дзв.

БАДЗЯ́ЦЬ *незак.* Брудзіць, пэцкаць, неахайна насіць адзенне, абутак. *Чаму ты так бадзя́еш сваю шапку?* Пустаселле Докш. *Не бадзя́й новую сукенку.* Стралкі В.-Дзв. *Сынок, перапранайся пасля школы, а то бадзя́еш адзежу.* Царкавішча, Кублічы Уш. Параўн. *бло́ціць* у 2 знач.

БАДЛЯ́ *ж.* Свойская жывёла. *Бадля́ ў хляву някормленая стаіць.* Кавалі Глыб.

БАДНЯ́ гл. БО́ДНЯ

БАДУ́ЧЫ *прым.* Бадлівы. *Карова баду́чая носіцца, таго глядзі – чыпанець наскрозь.* Барсукі Дубр.

БАДЫЛЛЁ *н.* Бадылле; пруткія сцяблы пераважна аднагадовых раслін. *Увесь агарод бадыллём парос.* Пашкі Шарк. Параўн. *бы́длы.*

БАЁВЫ *прым.* Баявы. *Марыся была баёва дзеўчына, любому адпор дасць.* Калышкі Лёзн.

БАЖА́ЦЦА *незак.* Хацецца. *Вельмі бажа́лася есці.* Запружаны Чаш.

БАЖНІ́ЦА *ж.* Ручнік, які вешаюць на абразы. *У кожнай хаце на абразах павінна вісець бажні́ца.* Сяло Гар., Сасноўка Глыб. *Перад святам вешаецца чыстая бажні́ца.* Сардыкі, Каханавічы, Цясты В.-Дзв.

БАЗА́РЫНКІ *мн.* Падарункі. *На базары купіла ўнукам База́рынкі.* Язна Міёр.

БАЗЫ́ЛЬ *м.* Вялікі кавалак сала. *Нарезала базылéй і хочіць, каб іх хто-небудзь еў.* Зубава Арш.

БАЗЫРАВА́ЦЬ *незак.* Гаманіць, размаўляць. *"А дзе маці?" – "Яна базырýе з цёткай".* Булахі Глыб.

БАЙБА́С, БА́ЙБІС *м., груб.* Байбус; высака募рослы дарослы чалавек, які паводзіць сябе не па гадах па-дзіцячы. *Такі байбáс, а з рабятамі гуляіць.* Сасноўцы Шарк. *Такі бáйбіс, а нідзе не працуе.* Мікалаёва Міёр.

БАЙДА́Н *м.* Поле. *Выйшлі з лесу – перад намі раскінуўся байдáн.* Віркі Чаш.

БАЙДЭ́РКА *ж.* Вядро, пасудзіна, у якой трымаюць ваду ў хаце. *Дачушка, прынясі вады з байдэ́ркі.* Чаўнышкі Беш. Параўн. *бадзéжка, бóдня* і *бадня́* ў 2 знач., *бадзя́га* [2] ў 2 знач., *балéйка, бýдан.*

БА́ЙНЯ, *памянш.-ласк.* БА́ІНЬКА *ж.* Лазня. *Бáінька стаяла ля рэчкі.* Ніўнікі Міёр. *Бáйню трэба выцепліць.* Паліцы, Рубеж Беш. *У суботу бáйню будзем тапіць і пойдзім мыцца.* Ахрэмаўцы, Дрысвяты, Рубеж, Укля, Брасл. *Тады занеслі мяне ў бáйню і палажылі.* Азёркі, Двухполле Гар. *Ужо бáйня цепліцца.* Абруб Глыб. *Цераз суботу бáйню топім, вады ўсім хватаіць.* Аўсянка Міёр. *Ці будзем у суботу бáйню цепліць?* Камянполле, Новы Пагост, Чапукі Міёр. *Трэба бáйню пераімшыць, каб зімой халодная не была.* Дрыгучы Міёр. *Бáйню, можа, у панядзелак выцеплім.* Буцавічы Паст. *Заўтра субота, нада бáйню цепліць.* Турлы Паст. *Дзед пайшоў у лес за венікамі ў бáйню.* Забор'е Рас. *Калі бáйню тапіць будзем?* Кугоні Уш. *За самай рэчкай у нас бáйня.* Лонск, Шыці Шарк. *Нада сянні бáйню пазней вытапіць, а то работы многа.* Зямцы Шум.

БАЙРА́К[1] *м.* Роў, які зарос лесам. *Ну і места тут у вас: не зямля, а байрáк нейкі, адны яміны ды лес.* Слабодка Гар.

БАЙРА́К[2] *м.* Будынак для сушкі снапоў. *Згарэў наш байрáк, так хоць бы сена сушылі.* Баева Дубр.

БАЙРА́Н *м.* Беспарадак. *Ай, дзяўчаты, не заходзьце ў хату, там такі байрáн.* Езярышча Гар. Параўн. *бірýбальнік, бязлáдвішча.*

БАКАВІ́ЦА *ж.* Бакавіна; бакавая частка свіной тушы. *Лічыцца, што бакавíца – самая смачная частка тушы.* Лётцы Віц.

БАКА́ЦІНА *ж.* Бок. *Бакáціна баліць ужо каторы дзень.* Камайск Докш.

БАКЛА́ЖКА, БАКЛЯ́ЖКА, БАКЛА́ШКА, БУКЛА́ГА *ж.* Біклага; бачурка, маленькая бочка. *Набяры вады ў баклáжку, толькі ўперад памый, а то яна з малаком была.* Багушэўск Сен.

*Набрала вады ў бакляжку*. Лепель. *Кату малака цэлую баклашку эту наліла*. Цешылава Паст. *Трэба буклагу гуркоў насаліць*. Слабада Віц.

БАКОЎКА *ж*. 1. Верхняя частка печы. *Во яна, бакоўка, у белы цвет выкрашана*. Доўжа Віц. 2. Засаўка ў печы. *Бакоўку трэба ўжо было задзвігаць*. Даўгаполле Гар.

БАЛАБАЙКА *ж*. Бразготка; званок, які чапляюць жывёле, каб не гублялася ў лесе. *У нашай каровы на шыі балабайка, а ў суседскай няма*. Заточча В.-Дзв. Параўн. *бомала, бон*.

БАЛАБОНЧЫКІ *мн., бат*. Званочкі; травяністая расліна сямейства званочкавых з блакітнымі або цёмна-сінімі кветкамі, падобнымі на званок. *Нарвала на лузе цэлае бярэмя балабончыкаў*. Барсукі Дубр.

БАЛАБЭШКІ *мн., кулін*. Салодкія сухары, спечаныя ў печы. *Бабка, спячы ты мне балабэшак, надта ж смашныя яны ў цябе палучаюцца*. Папшычы Глыб.

БАЛАГАН *м*. Павець; памяшканне для прасушвання дроў, сена. *Трэба ў балагане мяшкі сушыць павешаць*. Слабада Докш.

БАЛАГУРЫЦЬ *незак*. Гуляць, шумна святкаваць. *Вяселле ўнучкі балагурылі ў новай хаце*. Ноўка Віц.

БАЛАМУЦЕНЬ *м., міф*. Балацянік; міфічная істота, якая быццам жыве на балоце. *Баламуцень палохае ўсіх людзей*. Латышы Глыб.

БАЛАТНІЦА, БАЛАТНІЦЫ гл. БАЛОТНІК[2]

БАЛАТНЯНЫ *прым*. Балотны. *Травы было мала, таму прыйшлося касіць і балатняную*. Руда Беш.

БАЛАТНЯНКА, БАЛАЦЯВІНА, БАЛОТНІНА, БАЛОТНІЦА *ж., зб., бат*. Агульная назва балотнай травы. *Сярод балатнянак бываюць і лекавыя травы*. Марозаўка Сен. *Трава кругом пажоўкла, толькі балацявіна стаіць зялёная*. Драбаўшчына Глыб. *Учора накасілі цэлы стог балотніны*. Манякова Міёр. *Дзікія качкі плавалі, але не былі бачны за балотніцай*. Полымя Сен. *Каля іх балота вялікае, балотніцы якой хочаш знойдзеш*. Нямойта Сен. Параўн. *багніца, балацянка* [1], *балотнік*[1].

БАЛАЎКА *ж*. Гульня. *А раней такіх балавак не було*. Старая Будаўка Тал.

БАЛАЦІНА *ж*. Гразь, разводдзе. *Балаціна такая ў двары і на агародзе*. Ясюкі Паст.

БАЛАЦЯВІНА гл. БАЛАТНЯНКА

БАЛАЦЯНКА[1] *ж., зб., бат*. Агульная назва балотнай травы. *На балоце многа рознай балацянкі*. Дуброва Беш., Дуброва Шум. Параўн. *багніца, балатнянка, балацявіна, балотніна, балотніца, балотнік*[1].

БАЛАЦЯ́НКА[2] *ж., бат.* Лясны шампіньён; падбалотнік. *Прыйшлі ў лес – адны балацянкі пападаюцца, белых грыбоў няма.* Рудня Пол.

БАЛАЧЫ́НА, БАЛО́ЦЦЯ, БО́ЛАЦЬ *ж.* Балота, багна, балацявіна. *Балачына там непраходная.* Малы Поўсвіж Леп. *Вакол непраходная балачына.* Закур'е, Пачаевічы Чаш. *Там такая балоцця была, сасоннічык рос.* Баршчоўка Віц. *Заліло так, што вакол адна болаць.* Дзегцяры Брасл. Параўн. *баба*[2], *багавінне, багвіна, балонне*[2], *блытавіна.*

БАЛБУ́ШЫХА *ж.* Пляткарка; жанчына, якая распускае плёткі. *Здаецца, у нас на сяле балбушыха з'явілася.* Коравічы Чаш.

БАЛДАВЕ́ШКА, БО́ЛДАЎКА *ж.* Доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Балдавешкай пужаюць рыбу, каб загнаць яе ў сетку, і чалавека бесталковага завуць балдавешкай.* Казлы Міёр. *Бохаюць рыбу болдаўкай.* Асвея В.-Дзв. Параўн. *баўтун, боўт, болтка* і *боўтка* ў 1 знач.

БАЛДО́ЎКА *ж.* Невялікі склад, кладоўка для ўсялякай гаспадарчай драбязы, прыбудаваная да хаты ці да хлява. *Прынясі пілу і тапор, яны ў балдоўцы ляжаць.* Празарокі, Латышы Глыб.

БАЛЕ́ *толькі мн.* Прыступы болю. *А!.. Бале-бале...Зноў бале замучылі.* Баравуха Пол.

БАЛЕ́ЙКА *ж.* Драўлянае вядро. *Цэлую балейку вішань назбірала.* Язна Міёр. Параўн. *бадзежка, бодня* і *бадня* ў 2 знач., *бадзяга*[2] у 2 знач., *байдэрка, будан.*

БАЛЕ́СЦЬ, БО́ЛЬКА *ж.* Хвароба. *Якая ж балесць на яго ўжо напала?* Укля Брасл. *Каб цябе балесць!* Калінавая Міёр. *Нажыла сабе больку, надрываючыся гадамі на рабоце.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

БАЛЕ́Я *ж.* Начоўкі. *Вазьмі балею і прынясі ў хату.* Канашы Гар.

БАЛІ́ЎКІ *мн., бат.* Сцяблы бульбы. *Трэба вывезці баліўкі з агарода.* Зорніца Леп. Параўн. *батоўнік, бацвіннік, батоўка, батоўе, батоўя, батвінне, ботванне* ў 1 знач.

БА́ЛКА *ж.* Пранік; плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны пры мыцці ці для абмалоту лёну. *Яна не нашла сваю балку.* Казімірова Пол.

БАЛМА́Т, БО́ЛМАТ *м., асудж.* Чалавек, які любіць шмат гаварыць; балбатун. *Гэты балмат мне адурыў усю галаву.* Дубраўкі Пол. *Не слухай ты гэтага болмата!* Вяцера Чаш. Параўн. *башмат.*

БА́ЛМАЧЧУ *прысл.* Без справы. *Вось так ён і ходзіць заўсёды балмаччу.* Бачэйкава Беш.

БАЛО́Н *м.* Слоік. *Сколькі ў цябе бало́наў варэння?* Жукоўшчына Шарк.

БАЛО́НА *ж.* Балонка; аконнае шкло, шыба. *Дзетка, я табе дзесяць раз казала, каб ты вымыла бало́ны: дождж зараз пойдзіць.* Слабодка Гар. *Некаму й бало́ны вымыць.* Езярышча Гар.

БАЛО́ННЕ[1] *н.* Узлесак. *У гэтым годзі многа суніц было на бало́нні.* Сушчова Віц. Параўн. *беражына* ў 1 знач.

БАЛО́ННЕ[2] *н.* Балота, багна. *Як журавіны паспеюць, так на бало́нню ўсё сяло збіраіцца.* Падворыца Сен. *Бало́нне – яно чатырыста – чатырыста пісят метраў.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *ба́ба[2], багаві́нне, багві́на, балачы́на, бало́цця, бо́лаць, блытаві́на.*

БАЛО́ННЯ *ж.* Балонне; нізкі заліўны луг каля рэчкі. *Яны зноў пайшлі касіць на бало́нню.* Малы Поўсвіж Леп.

БАЛО́ТНІК[1] *м., бат.* Агульная назва балотнай травы, сена з балота. *Праз бало́тнік прабівалася яшчэ нейкая трава.* Лужкі Шарк., Сяло Гар. *Бало́тніка ў гэтыі месце біла так многа, што за ім не відна была вады.* Старое Лядна Леп. Параўн. *ба́гніца, балатня́нка, балацяві́на, балацья́нка[1], бало́тніца, бало́тніна.*

БАЛО́ТНІК[2] *м.*, БАЛАТНІ́ЦА *ж., часцей мн.* БАЛАТНІ́ЦЫ *бат.* Падбярозавік, які расце на балоце. *Учора хадзілі ў лес, дык набралі поўныя кашы́ бало́тнікаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *На вячэру зварылі бульбу з балатніцамі.* Дрысвяты Брасл. Параўн. *ба́бачка[1], беразня́к[2], бяру́шнік.*

БАЛО́ТНІК[3] *м., часцей мн.* БАЛО́ТНІКІ. Балотныя боты. *На рыбу адзеў бало́тнікі.* Сяло Гар., Лепель.

БАЛО́ТНІНА, БАЛО́ТНІЦА гл. БАЛАТНЯ́НКА

БАЛО́ЦЦЯ гл. БАЛАЧЫ́НА

БАЛТА́НКА, БАЎТУ́ХА *ж., кулін.* Яечня, амлет. *Ідзіце есці балта́нку.* Турчылава Брасл. *Бабуля, зрабіце баўту́ху на снеданне.* Кашына Арш., Кашчына Чаш.

БАЛТУ́ХА, БАЛТУ́ШКА, БАЛЦЁНКА, БАЛЦЯ́НКА, БАЎТО́НКА, БО́ЎТАНЬ *ж.*, БО́ЎТАННЕ *н.* 1. Баўтуха; пойла для жывёлы, рэдкая страва для жывёлы. *Зараз мы коніку балту́хі дадзім.* Бігосава В.-Дзв. *У балту́шку ўлі малака і папаі цяля.* Станіслававова Дубр. *Агата выліла свінням балту́шку.* Краснаполле Рас., Акцябрскі Чаш. *Ці наліла ты там каню балцёнкі?* Грыбоўшчына Шарк. *Бацька, занясі каню балця́нкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Баўто́нку коням мала хто робіць, яе робяць з мукі і вады.* Слабада Шум. *Зрабі каню баўто́нку, а то потым некалі будзе.* Павулле Уш. *Бо́ўтань Сіваму падносіў дзед, бо толькі яго конь падпускаў да сябе.* Радзюкі Шарк. *Дай каню бо́ўтанне.* Дзеркаўшчына Глыб. 2. Брага; напой, прыгатаваны з дражджэй,

цукру і вады. *Ты піў балтýху?* Нямойта Сен. Параўн. *барматýха* ў 1 знач.

БАЛУ́ТА *аг.* Весялун, гаваркі чалавек. *Калі балýта прыйшоў на танцы, то будзе весела.* Латышы Глыб.

БАЛУ́ШКА *ж.* Танцы, вечарынка. *Мы ў моладасці тожа на балýшку хадзілі.* Мішуткі Віц.

БА́ЛХВІЦЬ *незак.* Балбатаць, гаварыць глупства. *Ай, кідай ты ўжо бáлхвіць.* Трыгубцы Віц. Параўн. *бадзéць, блэ́ндзіць* у 2 знач.

БАЛЦЁНКА гл. БАЛТУ́ХА

БАЛЦУ́К *м.* Цягнік. *Пойдзем на балцýк, даедзем хутчэй, чым на аўтобусе.* Вялікая Альшанка Чаш.

БАЛЦЯ́НКА гл. БАЛТУ́ХА

БА́ЛЬКА, БА́НЬКА *ж.* 1. Бэлька. *На бáльку ў сялянскай хаце вешалі люльку.* Тумінічы Арш. *Бáльку ў хаці трэба новую зрабіць.* Марынкі Міёр. *Сцяпан знянацку стукнуўся галавой у бáльку.* Мікалаёва Міёр. *Бáлькі на качулкі клалі і кацілі, куды трэба.* Заазер'е Пол. *Бáнька ў сенцах згніла.* Антаполле Чаш. 2. Любое бервяно; калода, прызначаная для распілоўвання на дошкі. *Тапор ляжыць там, на бáлькі.* Урбаны Брасл. *Ляжыць пяць бáлік падрад.* Жоўніна В.-Дзв. *Прынясі вон тую бáльку.* Селішча Уш. *Увесь двор завалены бáлькамі.* Вялікая Альшанка Чаш.

БАЛЬСАМІ́НКА *ж., бат.* Бальзамін; пакаёвая і садовая расліна з яркімі дробнымі ружовымі кветкамі. *На вокнах расцвілі бальсамінкі.* Аліхверы Паст. *Я ўвогуле кветкі люблю: і бальсамінак насаджваю ў катлы, і герані, і альвас.* Германавічы Шарк.

БАЛЬША́К *м.* Узгорак, узвышша. *На самым бальшакý стаіць магільнік, злева ад яго – дарога, а справа – гароды.* Германавічы Шарк. *Выйшаў на бальшáк, стаў і крічыць.* Канашы Гар.

БАЛЬША́НКА *ж.* Шаферка; старшая дружка нявесты ў вясельным абрадзе. *Прыйшоў Андрэй па яе – і пайшла. Без бальшáнак – на вуліцы ўжо тыя далучыліся.* Нямойта Сен.

БАЛЭ́ННЕ *н., толькі адз., бат.* Бадылле, пустазелле. *Хата ў яе недагледжаная, агарод балэ́ннем паросшы.* Заазер'е Глыб.

БАЛЮ́ЧКА, БАЛЯ́ЎКА, *ж.* Балячка, ранка, болька, прышч. *Ой, як балю́чка баліць, спаць не магу!* Ахрэмаўцы Брасл. *У яе нейкая баля́ўка на насу села.* Орша. *Баля́ўка ў мяне дужа балючая і нядобрая.* Чарневічы Глыб.

БАЛЮ́ЧЫ *прым.* Хворы. *Ды была яна сільна балю́чая.* Пушкі Лёзн.

БАЛЯВА́ЦЬ *незак.* Гараваць. *А ці п'е яна, ці балюе́ць – нікому ні цікава.* Ноўка Віц.

БАЛЯ́Р *м.*, БАЛЯРЫ́ *мн.* Дробная шляхта. *У многіх невялічкіх паселішчах пражывалі баляры́.* Заполле Тал.

БАЛЯ́С *м.* 1. Тонкая жэрдка. *Зараз як дам баля́сам, дык паляціш далей, чым бачыш!* Коравічы Чаш. 2. Агароджа з тонкіх слупкоў. *Бульба агароджана баля́сам.* Абольцы Тал.

БАЛЯ́СІНА *ж.* Штыкеціна ад паркана. *Баля́сінай як перавіў, дык ён і пабег.* Вяцера Чаш.

БАЛЯ́СНІЧАЦЬ *незак.* Лясы тачыць, весці пустыя размовы. *Дзеўкі, што ж вы тут баля́снічаеце, а праца стаіць!* Фарынава Пол.

БАЛЯСО́ЎКА *ж.* Дрывотня, маленькі хлеў для захавання дроў і прылад працы. *Схадзі ў балясо́ўку за дровамі.* Панізоўе Арш. *Вілы трэба трымаць заўсёды пад рукой, у балясо́ўцы.* Коравічы Чаш.

БА́ЛЯШНІ *прым.* Даўнейшы. *Ба́ляшнія людзі казалі мне гэта.* Абруб Глыб.

БАМБІ́ЗА *аг., груб.* Тоўсты, поўны чалавек. *Алена як пераехала ў горад, такая бамбіза стала.* Дрыгучы Міёр.

БАМБУ́ЛЯ, БАМБЭ́ЛА, БО́МБІНА *ж.* Вялікая бутэлька аб'ёмам 700 ці больш мл. *Малому трэба купіць бамбу́лю лімінаду.* Галубава В.-Дзв. *Узялі яны дзве бамбэ́лы і пашлі ка мне ў парэчкі сядзець.* Булахі Глыб. *А твой ужо рана з бо́мбінай з магазіна ішоў.* Дольдзева Сен. Параўн. *бо́мба*[2], *бітла́га.*

БАНБЭ́НАК *м.* Барабанная перапонка. *Так шуміць у вушах, што здаецца, палопаюцца банбэ́нкі.* Мікалаёва Міёр.

БАНДАРАВА́ЦЬ *незак.* Бандарыць, бандарнічаць, займацца бондарствам. *Я во ўсю жызню бандару́ю.* Ясева Міёр.

БА́НДЗЫ, БЭ́НДЗЫ *мн.* Пакаранне. *Ба́ндзаў захацеў? Ану, ціха!* Усяны Брасл.

БАНДУ́РА *ж.* Нешта вялікае. *Гэтая банду́ра займае ўсю комнату.* Якаўлевічы Арш.

БА́НЕК *м.* Пасудзіна для малака. *Хто гэта наліў у ба́нек вады?* Доўгі Бор Рас.

БАНІТАВА́ЦЬ *незак.* Зневажаць. *Яна палохаецца і слова прамовіць: мужык яе потым баніту́іць так, што яна за лепшае памаўчыць.* Празарокі Глыб.

БА́НІЦЦА *незак.* Мыцца ў лазні. *Пайду ў баню мыцца, парыцца; люблю я ба́ніцца.* Бігосава В.-Дзв.

БА́НКА *ж.* Жалезнае мацаванне на касе. *У ба́нку ўстаўляеш лязво і драўлянае касавіла – добрая каса атрымаецца.* Шаркаўшчына.

БАНКА́Р, БАНКА́РТ *м.* 1. Пазашлюбнае дзіця. *І так ужо хватаіць гэтых банкаро́ў.* Грыбоўшчына Шарк. *У нас Васька таксама банка́ртам быў.* Кашчына Чаш. Параўн. *багда́нец, баху́р* у 1 знач., *бэнсь, бэнсю́р, бэ́нся* ў 1 знач. 2. *заал.* Кураня, якое курыца вывела без ведама гаспадыні, тайна. *Прападзёт курачка, падумаеш, што каршун задраў, а чэраз месяц вдруг не с таво не с сяво паявіцца і банка́ртаў ведзёт.* Бягомль Докш. *Добра, што ўбачыла яйкі, а то выйшлі б банка́рты.* Манякова Міёр. Параўн. *баху́р* у 2 знач., *ба́хурка, бэнсю́р* у 3 знач.

БАНКА́Ч, БОНК *м.*, *заал.* Авадзень. *Банкачы́ сякуць сёння, каровы не стаяць.* Злота, Опса Брасл. *Як гэтыя банкачы́ ўелі!.. Не дай ты Божа канём нарадзіцца!* Усяны Брасл. *Бонк укусіў за ногу.* Андронавічы Віц. *Каб бо́нкі кароў не кусалі, памаж іх воцатам.* Дрысвяты Брасл.

БА́НЬКА *ж.* Асець; прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы. *Патом у ба́ньркі зярно сушаць.* Крывыя Тал.

БАНЬЯ́К *м.* Кацялок. *На агні шумна каляхуе ў баньяку́ вада.* Ордзеж Лёзн.

БАРАБО́ЛЯ, БАРАБУ́ЛЯ *ж., бат.* Бульба. *Ужо трэба барабо́лю саджаць.* Кузняцова Віц. *У етым годзе добрая барабу́ля будзіць.* Баева Дубр. Параўн. *бу́льма.*

БАРАВІ́ЦА *ж.* Месца ў бары, дзе растуць ягады. *Дайсці да баравіцы мне ўжо вельмі цяжка.* Багданова Брасл. Параўн. *баравýха*[1].

БАРАВУ́ХА[1] *ж.* Сасновы бор. *У баравýхе заўсёды шмат чарніц.* Занькі Леп. Параўн. *баравíца.*

БАРАВУ́ХА[2] *ж.* Самагон. *Эка крэпкая баравýха і чыстая, нібыта сляза!* Пачаевічы Чаш. Параўн. *барматýха* ў 2 знач.

БАРАДА́[1] *ж.* 1. Касмык травы на скошанай сенажаці. *І барадá засталася на полі.* Кудзіны Гар. *За барадý гэну граблі чапляюцца, калі сена варочаіш.* Горы Рас. 2. Тонкія карэньчыкі бульбы, цыбулі. *Сёлета ў цыбулі барóды большыя, чым летась.* Мельніца Шарк. *Малы ў цыбулі любіць барóды абрываць.* Ветрына Пол.

БАРАДА́[2] *ж.* Градка, баразна. *Кожнаму калгасніку даецца барадá, каб яе выпалаць.* Велеўшчына Леп.

БАРАЗБЭ́ЧЧА *н., зб.* Усякія непатрэбныя рэчы, рыззё. *Трэба на гарэ прыбрацца, а то назбіралася ўсялякага баразбэ́чча – прайсці няма як.* Спігальшчына Міёр.

БАРА́Н[1] *м.* Вялікая лодка. *Мы любілі з мальцамі катацца па возеры на баранé.* Дварэц Чаш.

БАРА́Н[2] *м.* Прылада, на якой вяжуць ніты. *Пазыч мне баранá, хачу звізаць ніты.* Сакольнікі Віц.

БАРА́Н[3] *м., часцей мн.* БАРА́НЫ. Баранчыкі; вялікія хвалі на возеры. *Такія ўчора бара́ны на возеры падняліся!* Янкавічы Рас. Параўн. *бу́ры.*

БАРА́Н[4] *м., часцей мн.* БАРАНЫ́ *бат.* Грыбы курачкі. *Сёння адных барано́ў назбіраў.* Павулле Уш.

БАРА́НЧЫК *м., часцей мн.* БАРА́НЧЫКІ *бат.* Лілея. *Вось гэтыя кветкі называюцца бара́нчыкі.* Еўлахі Тал.

БАРА́НЬ *м.* Разнавіднасць танца. *А кагда мы хадзілі на ігрышча, то танцавалі бара́нь.* Езярышча Гар.

БА́РАЎНІК *м.* Месца, дзе звычайна растуць баравікі. *Знайшлі ба́раўнік, там расло дзесяць баравікоў.* Нярэйша Сен.

БАРАХО́ЛАЎКА *ж.* Барахолка, кірмаш. *Заўтра зноў у раёне бархо́лаўка.* Тупічына Шарк.

БАРАХО́ЛЬШЧЫК *м., асудж.* Балбатун, манюка. *Ну, барахо́льшчык, і да чаго ж ты дагаварыўся?* Лужкі, Празарокі Глыб.

БАРБАРЫ́С, БАРБАРЭ́С *м., бат.* Рэвень. *Барбарыс вельмі кіслы.* Сяло Гар., Ломашы Глыб., Лынтупы Паст. *Сёлета барба-рэ́с вырас вялікі.* Гута Паст.

БА́РВА *ж.* Фарба. *Пакрасіць дом – трэба многа ба́рвы.* Сушчова Віц.

БАРВІ́К *м.* Баравік. *Ай, нашоў дзед многа барвіко́ў!* Дразды Беш. *Цяпер у лесе барвіко́ў яшчэ няма.* Матырына Уш. *Міша знайшоў аж тры барвікі.* Шасцярні Уш. Параўн. *баро́ўка[3], бяля́к[1]* у 1 знач.

БАРДЖЭ́Й *прысл.* Хутчэй. *Барджэ́й ідзі, а то дождж замочыць.* Шалыгі Віц. *Каб барджэ́й вывісці дзічы ўсякія, нада на захадзі сонца ісці на могілкі, перажыгнацца і пацерці дзічы зямлёй з магілкі.* Баршчоўка Віц. *Рабіў усё барджэй за ўсіх.* Бор Чаш.

БА́РДЗО, БА́РЗДА *прысл.* Вельмі. *Як пагляджу я, нешта ба́рдзо добра табе жывецца, дзіван топчучы.* Новы Пагост Міёр. *Сёлета бульба ні ба́рзда ўрадзіла, суха было з вясны.* Фалевічы Паст.

БАРДУЛЕ́Й гл. БАРТУ́ЛЬ

БА́РЗДА гл. БА́РДЗО

БАРКА́Н[1], БАРХА́Н *м.*, БА́РХАНА *ж., бат.* Морква. *Барка́н нонічы ўрадзіў як ніколі.* Плюсы Брасл. *Летась і барка́н такі добры, ніштo быў, і бульба.* Рубеж Брасл. *Вот вырас барка́н так вырас!* Іказнь Брасл. *Барка́н увесь згніў.* Буцавічы Паст. *Самы смашны барка́н у пачатку лета, калі яшчэ малады.* Казлоўшчына Паст. *У этым гаду столька барка́ну пасадзіла, не знаю, што з ім і дзелаць.* Ёды Шарк. *Добры барха́н у гэтым годзе*

*ўдаўся.* Лашукі Паст. *Ба́рхану на зіму закапывалі ў пясок, каб расты́ ні пускала.* Целякі Паст.

БАРКА́Н[2] *м.* Плецены плот; паркан. *Барка́н ёсць пляцёны забор.* Іванаўка Гар. *Я ўсі трапкі на барка́н павесіла.* Двухполле Гар.

БАРКА́НІЦА *ж., кулін.* Суп з морквы і бульбы. *Маю барка́ніцу ўсе хвалюць, а мужык дык і есці ня хочыць.* Спрынды Брасл.

БАРЛЁЧЫ *мн.* 1. Чаравікі ці паўчаравікі са шнуркамі. *І майму Васілю трэба было б купіць барлёчы.* Празарокі Глыб. *Якім хуценька нацягнуў барлёчы – і ў дзверы.* Глыбокае. *Даўней усе бацінкі барлёчамі звалі.* Кашталянаўшчына Глыб. *Даўней барлёчы абувалі толькі на свята, а дома босыя хадзілі, і людзі здаравейшыя былі.* Завараты Глыб. *Такія ладныя мне мама барлёчы, помню, купіла.* Папшулі Міёр. *О, добрыя барлёчы прыкупіў!* Ляхаўшчына Паст. Параўн. *барлёшы* ў 2 знач., *барэ́ткі* ў 1 знач., *баршлёты.* 2. Боты. *А калі ж у лес пойдзеце, дык абавязкова барлёчы надзеньця.* Гута Паст.

БАРЛЁШЫ *мн.* 1. Гумавы абутак, галошы. *Уздзень барлёшы, а то ногі прамокнуць.* Курмялёўка Леп. *На валенкі надзелі чырвоныя барлёшы.* Сокарава Беш. Параўн. *барэ́ткі* ў 2 знач. 2. Чаравікі. *Я люблю барлёшы на шнурках.* Дамуці Паст. Параўн. *барлёчы* ў 1 знач., *барэ́ткі* ў 1 знач., *баршлёты.*

БАРЛЯ́ЦЦА *незак.* 1. Хістацца. *Ужо каторы дзень ходзіць тут, барля́ецца.* Камаі Паст. *Ледзь ішоў ён, барля́ўся.* Гута Паст. *Трэба мацней вуду трымаць, а то ад ветру барля́ецца.* Тупічына Шарк. 2. Бадзяцца без справы, хадзіць туды-сюды без работы. *Увесь дзень барля́ўся, а каб памагчы што – дык нічога.* Кавалі Глыб.

БА́РМА *ж.* Кажух, пакрыты сукном; шуба. *Маці казала, што ба́рму трэба падпая́саць.* Мікалаева Міёр.

БАРМАТУ́ХА *ж.* 1. Хлебная брага. *У вёсцы ў свята больш спажывалі бармату́ху.* Гарадок. *Сусед п'яніца, кожны дзень бармату́ху п'е.* Язна Міёр. *З бармату́хі гоняць самагонку.* Жданы Шарк. *Бармату́ха была моцная.* Сіроціна Шум. 2. Самагон. *Непрыгожых жанчын не бывае, бывае мала бармату́хі.* Гразіна Арш. *Бармату́хі нада паставіць, на свадзьбі будуць піць усе.* Нізкабор'е Віц. *Колькі памятаю, ён заўсёды бармату́ху гоніць.* Бачэйкава Беш. *Бармату́ха стаяла ў куце́.* Полымя Сен., Полацк. *Мая суседка бармату́ху ў бані дзелала і абварілася.* Чарнаручча Лёзн. *Дзед, гасцям не патрэбна твая бармату́ха, лепей я завару кофе.* Сянькова Шум. *Ёй сябар прадае бармату́ху па дзяшоўцы.* Старое Сяло Уш. Параўн. *барaву́ха* [2].

БАРНАВА́ЦЬ *незак.* Баранаваць. *Усё самі рабілі: і барнава́лі, і касілі, і жалі.* Узмёны Міёр.

БАРО́ЗДА *ж.* Баразна. *Баро́зду трэба рабіць прамой, невялікай, каб бульбе хораша была.* Баршчоўка Віц.

БАРО́ЗНІК *м.* Градка. *Баро́знік апошні няроўны нейкі.* Велеўшчына Леп.

БАРО́ЎКА[1] *ж.*, БАРО́ЎКІ, БАРУ́ВКІ *мн., бат.* 1. Брусніцы. *Восенью па баро́ўку пойдзем.* Пушкі Лёзн. *Заўтра пойдзем па бару́вкі з Марусяй, ты з намі ідзеш?* Дрыгучы Міёр. 2. Чарніцы. *На ўзгорачку было аж чорна ад баро́вак.* Лужкі Шарк.

БАРО́ЎКА[2] *ж., часцей* БАРО́ЎКІ *мн., заал.* Пчолы. *Мяне баро́ўкі пакусалі.* Ясюкі Паст.

БАРО́ЎКА[3] *ж., часцей* БАРО́ЎКІ *мн., бат.* Грыб баравік. *Поўная карзіна баро́ўкаў.* Опса Брасл. Параўн. *барвік, бяля́к* [1] у 1 знач.

БАРСА́ЦЬ *незак.* Кідаць. *Не барса́й капусту на пясок.* Замашэнне Беш.

БАРСНІ́ *мн.* Лапці. *Даўней у барсня́х хадзілі.* Камайск Докш.

БА́РСТВАВАЦЬ *незак.* Заможна жыць. *Яна з сынам разам ба́рствуе: усё ў іх ёсць.* Сар'я В.-Дзв.

БАРТУ́ЛЬ, БАРДУЛЕ́Й *м., заал.* Дажджавы чарвяк. *Пасля дажджу такія бартулі павыпаўзалі.* Забор'е, Новыя Крукі Міёр. *Трэба бартулёў накапаць і на рыбу іціць.* Шарагі Міёр. *Дзед выкапаў на агародзе многа бардуле́яў.* Янкавічы Рас.

БАРУ́БАЛЛЯ *н.* Брудная засохлая поўсць на скуры жывёлы. *Няўжо ён поўсць з той авечкі дамоў забраў? На ей жа было адно бару́балля!* Быцава Беш.

БАРУЗДЗІ́ЦЦА *незак.* Капашыцца, мітусліва рухацца, валтузіцца, шавяліцца. *Залез у траву і баруздзі́цца.* Валынцы В.-Дзв. *Не баруздзіся ты ў вадзе, а то заробіш!* Зубава Арш.

БАРУ́ЗДЗІЦЬ *незак.* 1. Гаварыць няпраўду, ілгаць. *Бару́з-дзіш, дачушка, бару́здзіш!* Мікалаева Міёр. 2. Мармытаць, гаварыць невыразна. *Не бару́здзі пад нос, гавары ясна!* Мікалаева Міёр. Параўн. *бэ́зіць.*

БАРУ́К *м.* Баран. *Вялікага барука́ выгадавалі, цяпер трэба зарэзаць.* Сасноўцы Шарк. Параўн. *бо́рнік, бэ́рка.*

БАРУ́Н *м.* Барэц. *Мой дзед быў бару́н.* Заобаль Шум.

БАРУ́СЯ *м.* Сябар. *Мой лепшы бару́ся рос са мной з самага дзяцінства.* Пачаевічы Чаш.

БАРУ́ХАЦЦА *незак.* Таўхацца, піхацца, брыкацца. *Я іх нясу ў куртке, а яны там нешта бару́хаюцца, б'юць міне ў бакі.* Лужкі Шарк.

БАРХА́Н, БА́РХАНА гл. БАРКА́Н[1]

БАРЦЯВА́ТЫ *прым.* Каржакаваты, разгалісты, тоўсты. *Бачыў там барцява́тую сасну.* Ясюкі Паст.

БАРШЛЁТЫ *мн.* Старыя туфлі. *Цэлы мех баршлётаў стаіць у чулане.* Каханавічы В.-Дзв. Параўн. *барлёчы* ў 1 знач., *барлёшы* ў 2 знач., *барэ́ткі* ў 1 знач.

БАРШЧАВІ́К, БАРШЧА́НІК *м.* Боршч. *Жонка, звары ты на вячэру баршчавік.* Плюсы Брасл. *Смашны баршча́нік у цёткі Ніны.* Яроненкі Гар.

БАРЫ́ЦЬ *незак.* Марудзіць, бавіць, спавольваць. *Гэй, не бары́це, хутка дарыце!* Захарнічы Пол.

БАРЫШНО́Е *н., зб., бат.* Гародніна. *Праз нядзельку-другую трэба садзіць барышно́е.* Жывалака Уш.

БАРЫШЫ́ *толькі мн.* Заручыны; сваты. У выразе: *у барышы́ прыйсці (прыехаць). У суботу да нашай суседкі прыедуць у барышы́.* Завыдрына Уш.

БАРЭ́Т, БЭ́РАТ *м.* Берэт. *Адзень барэ́т, а то холадна.* Дрыгучы Міёр. *Купіла сабе новы бэ́рат.* Тумілавічы Докш.

БАРЭ́ТКІ, БАРЭ́ТЫ *мн.* 1. Туфлі з нізкім абцасам, чаравікі, тапкі. *Колькі каштуюць твае барэ́ткі?* Ганкавічы Беш. *У школу дзецям заўсёды куплялі новыя барэ́ткі.* Шчыпечы Віц. *Пакідалі свае барэ́ткі – і не пройдзеш.* Сяло Гар. *Ай, барэ́ткі гэтыя два гады панасіла – і парваліся, няўдалыя нейкія.* Папшычы Глыб. *Абула новыя барэ́ткі і пабегла на танцы.* Тумілавічы Докш. *Былі ў мяне неяк новыя бялюткія барэ́ткі.* Ліпаўкі Докш. *Пакідаў свае барэ́ткі абы-дзе, што і не пройдзіш!* Марынкі Міёр. *Барэ́ткі – гэта такія туфлі або абрэзаныя боты.* Авечкі Міёр. *У барэ́тках хадзі, бо падлога вельмі халодная.* Мікалаёва Міёр. *Мае барэ́ткі ізарваліся і прышлось купляць новые.* Жарцы Пол. *І ў Нінкі баре́ткі былі, і ў мяне, і ў мамкі.* Белая Ліпа Сен. *Таня купіла красівыя барэ́ткі, з закрытым носам і адкрытай пяткай.* Ульянавічы Сен. *Барэ́ткі мне бацька прывёз з Масквы.* Заерыца Чаш. *Учора на кірмашы нагледзіла сабе чырвоныя барэ́ты.* Дразды Беш. Параўн. *барлёчы* ў 1 знач., *барлёшы* ў 2 знач., *баршлёты.* 2. Гумавы абутак, галошы. *Не хадзі так доўга ў барэ́тках!* Падворыца Сен. Параўн. *барлёшы* ў 1 знач.

БАРЭ́Ц *м., толькі адз., бат.* Баравая расліна. *Барэ́ц расце і зацвітае вясной.* Закур'е Чаш.

БАСА́К *м., заал.* Кулік. *Нешта рана басакі́ ў гэтым годзе заспявалі.* Целяшова Гар.

БАСАРЧУ́К *м., неадабр.* Непаслухмяны чалавек. *Басарчу́к ты, вось ты хто! Хоць бы чым дапамог.* Данілаўка Чаш.

БАСЕ́ТРА *ж.* Басэтля, кантрабас. *Мой унук хоча йці вучыцца ў музыкальную школу, хоча йграць на басе́тры.* Горкі Леп.

БАСІ́ЛА *м., абразл.* Мажны і высокі чалавек. *Вымахаў басіла, а розуму – ні грама.* Макаравічы Докш.

БА́СКАЦЬ *незак., дзіцяч.* Класціся спаць. *Дзеці, ідзіця ўжо ба́скаць!* Антонаўка Арш.

БАСО́ЛЬ *ж., бат.* Фасоля. *Як басо́ль пачне вусы пускаць, тады і колікі ставіць.* Падрэзы Чаш. *А басо́ль вашу я і ў вочы не відзеў.* Падрэзы Чаш.

БАСТРА́К *м.* Неглыбокае месца на рацэ. *У тую вёску лепей дабірацца праз бастра́к.* Мікалаёва Міёр.

БАСЦЯ́К *м., асудж.* Гуляка, бадзяга, валацуга. *Гэтага басцяка́ ведаюць усе ў нас.* Сяло Гар.

БАСЦЯ́ЦЦА *незак., асудж.* Бадзяцца, хадзіць без справы, валачыцца, цягацца абы-дзе. *Вы б, дзеўкі, ні шлындалі, ні басця́ліся па дзірэўні, а лепей бы мне навоз растрэслі па агароду.* Стар Арш. *Ён басця́ецца тут кожны дзень, а яна як бытта і ня бачыць.* Забалацце Арш. *Яго ніколі дома німа, век басця́ецца недзе.* Галубічы, Кашталянаўшчына, Псуя Глыб. *Басця́ецца па хатах.* Калінавая Міёр. *Бацька басця́ўся цэлый дзень і прішоў толькі к вечару.* Забор'е Рас. *Пакуль мы збіралі ягады, Алесь басця́ўся па лесе.* Марачкова Рас. *Колькі ён ужо басця́ецца па свеце?* Анэліна Тал. *Ён як пойдзя з вутра – і дзень недзе басця́цца будзя.* Зароўе Леп. *Хопіць басця́цца па вёсцы – ідзі хоць што-небудзь зрабі.* Тараскі Чаш.

БАСЯ́К *м.* Падлетак, падшыванец. *Берагі ён яшчэ, каб каня запрагаць.* Перавознікі Паст.

БАСЯКА́, БАСЯКО́М *прысл.* Басанож. *Ня бегай басяка́, забалееш!* Жабыкі Дубр. *Ён бяжыць басяка́.* Нямойта Сен. *Даўней усе басяко́м хадзілі.* Макаранкі Лёзн.

БАТ *м.* Батог; пуга, дубец, якім паганяюць коней, кароў. *Твой бат ужо нікуды ні годны, трэба новы сплесці.* Мішкавічы Шум.

БАТАВА́ЦЬ *незак.* Скардзіцца. *Не трэба батава́ць на яго!* Мясаедава Шум.

БАТАРЭ́Я *ж.* Склеп. *Мая батарэ́я сёліта поўненькая, бульба і буракі ўрадзілі.* Лужкі Шарк.

БАТВІ́ННЕ гл. БАТО́ЎНІК

БАТО́ЎНІК, БАЦВІ́ННІК *м.*, БАТО́ЎКА *ж.*, БАТО́ЎЕ, БАТО́ЎЯ, БАТВІ́ННЕ, БО́ТВАННЕ *н., толькі адз.* 1. *бат.* Бацвінне; бурачнік, бульбоўнік; верхняя частка раслін бульбы, буракоў, іншых раслін. *Схадзі і нарві бато́ўніку, а то скора*

*каровы прыйдуць.* Слабада Дубр. *Нада батоўніку свінням насеч.* Якубаўшчына Лёзн. *З маладога батоўніка і да вайны, і ў вайну варылі халаднік, і цяпер варым.* Слабада Шум. *Назбірай мне бацвінніку.* Селішча Уш. *Хутка капаць бульбу, бо батоўка даўно ўжо збіта.* Маляўкі Міёр. *Схадзі на гарод, нарві батоўя каровам, а то ў полі ім няма чаго есці.* Шыбекі Арш. *Пайду батоўя наламаю, пасяку, нада ж свінням даваць.* Гарэлькі Дубр. *Нарві ты карові батоўя ахапак, а то равець нема.* Туркова Міёр. *Батоўе на бураках разраслося на ўсю ляху.* Ульянавічы Сен. *І з батоўя супу навару.* Заазер'е Тал. *Добрае батоўе ўжо вырасла.* Антунова Уш. *У нас батоўем кормяць свіней.* Кашчына Чаш. *Батоўе ўжо скасілі, скора будзем капаць бульбу.* Вяцера Чаш. *Хаваліся мы ў зялёнае батоўе.* Таўкіні Шарк. *Буракі ў батоўя пашлі.* Смаляны Арш. *Каровы любяць есці батвінне.* Вяцера Чаш. *Сёлета добрае бо́тванне ўрадзіла.* Мікіціха Шум. Параўн. *баліўкі.* 2. *кулін.* Страва, звараная з бурачных сцяблоў і лісця; халаднік з бацвіння буракоў. *Сягоння дзед мой зварыў батоўніка.* Казімірова Пол. *Сёння батоўнік прыгатавала, такі смашны.* Булаўкі Пол. *Ідзіце есці, я бацвіннік зварыла.* Спігальшчына Міёр. Параўн. *бацёха.*

БАТРО́МЫ *мн.* Высокія боты. *Адзявай батро́мы, а то ўраз ногі намокнуць.* Халмы Арш.

БАТУ́Н *м., бат.* Цыбуля. *Бату́н – добрая прыправа для ўсякай яды.* Полымя Сен.

БАЎДЗІ́ЛА *аг., груб.* Боўдзіла, недарэка, неразумны чалавек. *Ты дурань і баўдзіла.* Касары Уш. Параўн. *боўдур, бо́лтка* і *бо́ўтка* ў 3 знач., *браду́н.*

БА́ЎЛЕННЕ *н.* Гулянне. *Сёння ба́ўленне будзе ў свата, там усе збірацца будуць.* Савенічы Сен.

БАЎТО́НКА гл. БАЛТУ́ХА

БАЎТУ́Н, БОЎТ *м.* Рыбацкая прылада – доўгі шост з патаўшчэннем на канцы, які служыць для палохання рыбы моцным шумам і загону яе ў сетку. *Баўту́н сёння не спатрэбіўся.* Малы Поўсвіж, Вялікі Поўсвіж Леп. *Пэўна, баўту́н зачапіўся за ціну.* Мілашова Міёр. *Пайшоў па рыбу, ды забыў свой боўт.* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *балдаве́шка, бо́лдаўка, бо́лтка* і *бо́ўтка* ў 1 знач.

БАЎТУ́ХА гл. БАЛТА́НКА

БАХАНО́К *м.* Ёмкасць для вады. *Прынесла ў хату бахано́к вады.* Чачанева Тал.

БАХАТО́К, *памянш.* БАХАТЫ́ЛІК *м.* Запруда. *Дзе бахато́к, там многа карасей. У бахатку́ многа рыбы было.* Абольцы Тал. *У бахатыліку мы карасей сеткамі лавілі.* Абольцы Тал.

БАХІЛЫ, БАЦЫЛЫ *мн.* Цяжкі абутак не па размеры нагі, навырост. *А што вы думаеце: і ў бахілах нават на вечарыны хадзілі, а ўжо калі дзеўка ў калодках прыйдзе – усе хлопцы яе.* Задуброўе Віц. *Тваё бахілы мне прайсці мяшаюць.* Гарадок. *Здымі гэтыя бацылы з ног ды надзень лёгкія тапачкі.* Іванск Чаш.

БАХЛЫ́ *мн.* Бахілы, самаробныя галёшы. *Я на валенкі бахлы́ надзеў, ціпер ня змокнуць.* Рускі Шум.

БАХУ́Р *м.* 1. Пазашлюбнае дзіця, байструк. *Юрась баху́р, але і без бацькі такім талковым хлопцам вырас.* Ветахмо Докш. *У маёй залоўкі трое дзяцей: адзін баху́р (яна яго ў дзеўках радзіла), а двое ўжо Стасевы.* Цешылава Паст. *Глядзі, не прынясі мне бахура́.* Вярэнькі Паст. *У Мікіты сваіх двое дзеткаў, а тут яшчэ баху́р на шыі вісіць.* Шаркаўшчына. *Лётала, лётала, а цяпер з бахуро́м асталася.* Макаравічы Докш. *Напладзіла бахуро́ў, а даглядаць не збіраецца.* Гатаўшчына Глыб. Параўн. *багда́нец, банка́рт, бэнсь* і *бэнсю́р* у 1 знач. 2. *заал.* Кураня, якое курыца выседзела без ведама гаспадыні, тайна. *Бахуры́ ўжо падраслі, па двары лётаюць.* Кавалі Глыб. *А я люблю бахуро́ў – добрыя з іх куры выходзяць.* Курды Паст. Параўн. *банка́рт* у 2 знач., *ба́хурка, бэнсю́р* у 3 знач.

БА́ХУР *м.* Любоўнік, распуснік. *Казалі, што кожны вечар да яе прыходзіць ба́хур.* Стаі Леп. *Суседава жонка з ба́хурам гуляіць, пакуль мужыка німа.* Мішкавічы Шум.

БА́ХУРКА *ж., часцей мн.* БА́ХУРКІ *заал.* Інкубатарнае кураня. *Такія жоўценькія, харошанькія гэтыя ба́хуркі.* Бугаі Сен.

БАЦ, БАЦУ́К *м., заал.* Пацук. *Вялікі бац бегаў па хаце.* Сарочына Чаш. *Бацуко́ў у яе хаце многа.* Жоўніна В.-Дзв.

БАЦАВА́ЦЬ *незак.* Працаваць. *Каб усё зрабіць на градах, мне трэба бацава́ць і бацава́ць.* Арэхаўск Арш. Параўн. *біцава́цца.*

БАЦВІННІК гл. БАТО́ЎНІК

БАЦЁХА *ж., кулін.* Варанае бацвінне; боршч з бацвіння. *Наварыла сёння маці бацёхі, дык я так насёрбаўся.* Макаравічы Докш. Параўн. *бато́ўнік, бацві́ннік* у 2 знач.

БАЦУ́К гл. БАЦ

БАЦЫЛЫ гл. БАХІЛЫ

БАЦЬЯ́Н, БО́ЦЯ, БО́ЦЯН, БУЦЯ́К, БУЦЯ́Н, БУЦЬЯ́Н, *м., заал.* Бусел. *Недалёка ад хаты гняздуецца бацья́н.* Селішча Уш. *Усё лета бо́ця жыў у суседзяў.* Каханавічы В.-Дзв. *Бо́цяны ўжо хутка адлятаюць, мы іх праваджаем.* Крывасельцы В.-Дзв. *Вось і паляцеў той буця́к на радзіму.* Пазнякова Пол. *Вун буця́н паляцеў.* Быцава Беш. *Буця́н у нас на башне жыве, і што цікавае – кожны год прылятае з сям'ёй.* Гунчанкі Віц. *Гняздо буцяна́ на*

*дзераве.* Кузняцова Віц. *За канбайнамі ходзіць шмат буцяно́ў.* Драбаўшчына Глыб. *Буця́н наеўся жаб, дык чуць падняўся.* Горкі Леп. *На балоце я ўбачыў буцяна́.* Малыя Смалянцы Чаш. *Сёлета буцяны́ неяк рана прыляцелі, строюць гняздо зноў на тым месце.* Дрыгучы Міёр. *Буцяны́ прыемна клякаталі на ёлцы.* Парадні Міёр. *Над нашай хатай кружаць буцяны́.* Дворышча Рас. *Буцья́н кожнае лета да нас прылятае.* Двухполле Гар. *Каля нашага дома на высокім дубе буцьяны́ зрабілі вялізнае гняздо.* Марчанкі Гар. Параўн. *бусла́к.*

БАЦЮГІ́ *толькі мн.* Лейцы. *Я цягну за бацюгі, а гнядая ўпіраецца і ні з места.* Белая Ліпа Сен.

БАЦЮ́ТА *аг.* Той, хто падобны(ая) на бацьку. *Увесь бацю́та, як выліты.* Новыя Валосавічы, Замошша Леп. *Малец якраз бацю́та, не скажаш, што не ягоны сын.* Драгуны Міёр. *Сынок твой выліты бацю́та.* Дрыгучы Міёр.

БАЦЯНЁНАК, БУЦЯНЁНАК *м., заал.* Бусляня. *Бацянёнка скінуць з гнязда – а ён яшчэ кратаецца.* Едлавічы Брасл. *Яны гадавалі бацянёнка.* Мікалаенкі Гар. *Буцянёнак зваліўся з гнязда, а мы хочам яго назад пакласці ў гняздо.* Барсукі Дубр.

БАЦЯНО́К *м., бат.* Бусельнік; назва расліны. *Посцілку бацянко́ў назбірала.* Шклянцы Докш.

БАШМА́Т *м.* Чалавек, які любіць шмат гаварыць. *Гэты башма́т адурыў мне ўсю галаву!* Кутняны Пол. Параўн. *балма́т, бо́лмат.*

БАЯ́РКА *ж.* 1. *абрад.* Дружка. *Бая́рка на вяселлі была самая вясёлая, баявая.* Заазер'е Пол. 2. Сяброўка. *На вяселле самых лепшых бая́рак запрашаюць.* Матырына Уш.

БЕ́БА *аг.* Неразумны чалавек. *Што ты як бе́ба? Не разумееш нічога!* Коравічы Чаш.

БЕ́ГАМ, БЕ́ГІМ, БЕ́ГМА, БЕЖАЧКО́М *прысл.* Бягом, подбегам, хутка. *А ты ўсё бе́гам ды бе́гам. Куды ты бе́гім ляцела перад паўднём?* Ясева Міёр. *Жыццё праляцела бе́гма, як птушка.* Галубава В.-Дзв. *Яны ўцякалі бежачко́м.* Малы Поўсвіж Леп.

БЕ́ГАНКА, БЯГНЯ́ *ж.* Беганіна. *І пачалася бе́ганка з хаты ў хату.* Паліцы Беш., Коравічы Чаш. *Столька бягні́ нарабілі, а толку з яе ніякага.* Барсукі Дубр.

БЕ́ГМА гл. БЕ́ГАМ

БЕДАЛА́Ч *м.* Бядняк. *У такога бедала́чы няма чаго і прасіць.* Галубава В.-Дзв.

БЕ́ДНА, БЕ́ННА *безас.-прэдык. слова.* Крыўдна, горка, балюча. *Прама мне бе́дна, амаль не пабілі.* Слабада Уш. *Бе́нна было слухаць гэтыя размовы.* Вярхоўе Беш.

БЕЖАЧКО́М гл. БЕ́ГАМ

БЕ́ЗЛЮДЗЬ *м., асудж.* Нелюдзь, нягоднік; чалавек, які паводзіць сябе не па-людску. *Ён бе́злюдзь, і яна такая самая, якраз пара падабралася.* Забалацце Арш.

БЕЗУЛА́ДНЫ *прым.* Нерухомы, паралізаваны. *Ляжыць, як безула́дны.* Бугаі Сен. *Адседзела нагу, і яна стала як безула́дная.* Кулі Гар.

БЕ́КАС *м., заал.* Бакас. *На нашых балотах бе́кас водзіцца.* Свіркі Докш.

БЕ́КІ *мн.* Вочы. *Ну, чаго глядзіш? Бе́кі свае пратры!* Быцава Беш.

БЕЛАГЛА́ЗКА *ж., заал.* Рыба, падобная да ляшча. *Кошка злавіла белагла́зку.* Вялікі Поўсвіж Леп.

БЕЛАГО́РЛЫЙ *прым.* З белай шыяй. *Нечый белаго́рлый кот ходзіць, ціплят цікуець.* Пожанкі Сен.

БЕЛАНАЛІЎНЫ́ *прым.* Які мае адносіны да яблык-папяровак, гатунку белы наліў. *Яблыкі там у іх беланаліўны́я.* Арэхаўск Арш.

о БЕ́ЛАЯ СМЕРЦЬ *н., бат.* Грыб бледная паганка. *Не бяры, сынок, гэтыя грыбы – гэта бе́лая смерць.* Гарадок.

БЕ́ЛІВА *н., толькі адз.* Прыправа з малака. *Ці ёсць якое бе́ліва ў макарон?* Астроўшчына Пол.

БЕЛІ́ВАРКА *ж.* Вялікі бачок для прыгатавання варэння. *Зручна ў белíварцы варыць: усе ягады засыпаў адразу – і гатова.* Папоўка Сен.

БЕЛІЗНА́ *ж., заал.* Рыба шэрах. *Злавіць белізну́ – ета экзамен на майстэрства рыбалова. Гаспадыні з радасцю прымуць белізну́: смачная і не вельмі кастлявая.* Каўшэлева Шарк.

БЕ́ЛІНА, БЕ́ЛІЎКА, БЯЛЯ́НКА *ж., бат.* Гатунак яблыкаў – белы наліў. *Бе́ліна стаіць усыпаная наліўнымі яблыкамі.* Павулле Уш. *За ноч бе́ліўкі многа навалілася.* Мікалаёва Міёр. *У гэтым годзе дужа многа бялянак было, аж кароў імі карміліі.* Папшычы Глыб. *Назбірала я сёлета толькі адзін кошык бяля́нак.* Ліпаўкі Докш. Параўн. *бель* [2].

БЕ́ЛІНАЕ гл. БЯЛЁНЫ[2]

БЕ́ЛЫ *прым.* Светлавалосы, белабрысы. *Хлопчык нарадзіўся зусім бе́лы.* Ветрына Пол.

БЕЛЬ[1] *ж., зб.* Белае адзенне. *Святочны дзень, вось яна і ў бель прыбралась.* Бугаі Сен.

БЕЛЬ[2] *ж., бат.* Гатунак яблыкаў – белы наліў. *Бель не бяры: яна хутка гніе.* Бачэйкава Беш.*У садзе бе́лі набрала, унукам есці.* Копчава Беш. *Як жа бель у нас урадзіла! Прыхадзіці, насыплю.* Надазер'е Глыб. *Я болі за ўсё люблю бель: калі яна*

*спелая, то такая сочная, аж свеціцца.* Прыпернае Глыб. *Не было сёлета белі.* Балаі Міёр. *Прынясі нам белі.* Завыдрына Уш. *Бель як паспее – аж у руках рассыпаецца.* Павулле Уш. *Ноччу быў вялікі вецер і абтрос чуць не ўсе яблыкі, а бель дык і зусім голая стала.* Більдзюгі Шарк. Параўн. *беліна, беліўка, бяля́нка.*

БЕ́ЛЬКА, БЭ́ЛЬКА *ж.* Бярозавы сок. *За ноч нацякло два літры белькі.* Стаі Гар. *Наш стары дужа любіць бельку.* Радзюкі Шарк. *Дзед кожную вясну ставіў бутыль бэлькі.* Гарадок. Параўн. *беразавік, беразняк* [1], *берка, берька.*

БЕЛЮГА́, БЯЛЮ́ГА *ж.* Падзол. *Ні ары глыбока, аж белюгі дастаніш.* Лоўжа Шум. *Бялюга – белая пустая зімля.* Ясева Міёр.

БЕЛЯХЦЕ́ЦЬ *незак.* Бялець. *Як ты запылілася, у цябе адны зубы беляхцяць.* Труды Пол.

БЕ́ННА гл. БЕ́ДНА

БЕ́ННЫЙ *прым.* Бедны. *Бацька мой быў вельмі бенный.* Высачаны Лёзн.

БЕРАГО́ЎКА, БЕРАГАВУ́ШКА *ж., заал.* Берагавая ластаўка. *Каля рэчкі водзяцца берагоўкі.* Лёзна. *Ёсць ластачкі, якія селяцца пад крышамі, а берагавушкі дзелаюць норкі на берагах рэк.* Воўкавічы Тал.

БЕРАГУ́ША *ж., міф.* Русалка. *Казалі, што ў нас на Купала малыя берагушу бачылі, як з вады выхадзіла і валасы часала.* Роўнае Шум.

БЕРАЖНІ́К *м.* Прыстасаванне для лоўлі ракаў. *Бяражнікóм ракаў і ловім.* Янкавічы Рас.

БЕРАЖНІ́ЦА, БІРАЖНІ́ЦА *ж.*, БІРАЖНІ́ЦЫ *мн.* Тонкія льдзінкі каля берага ракі ці возера. *Ну вот, на возеры ўжо і беражніца паявілася.* Снегі Міёр. *Біражніца іщчэ была замёрзшы тады... А біражніцы ўжо пайшлі.* Ясева Міёр.

БЕРАЖЫ́НА *ж.* 1. Узлесак. *У беражыне знайшоў штук дзесяць грыбоў.* Шэпелева Глыб. Параўн. *балонне*[1]. 2. Бераг ракі ці возера. *Нада скасіць гэну беражыну.* Ясева Міёр. Параўн. *бічаўнік.*

БЕРАЗАВІ́К *м.* Бярозавы. або кляновы сок. *Вясной, калі ўсё прабуджаецца, людзі збіраюць беразавік.* Полымя Сен. Параўн. *белька, бэлька, беразняк* [1], *берка* і *берька* ў 2 знач.

БЕРАЗА́К *м.*, БЕРАЗІНА́, БЕРАЗУ́ХА *ж.* Бярэзнік. *Хутка ўвайшлі ў светлы беразáк.* Паўдзеткі Віц. *У беразіне каровы ходзяць, там добра трава парасла.* Сапраны Віц. *Беразуха поўная грыбоў.* Чаўнышкі Беш.

БЕРАЗНЯ́К[1] *м.* Бярозавы сок. *Таты не было ў хаце, звычайна ў гэты час ён хадзіў зліваць беразняк.* Сваташыцы Дубр. Параўн. *белька, бэлька, беразавік, берка* і *берька* ў 2 знач.

БЕРАЗНЯ́К[2] *м., часцей мн.* БЕРАЗНЯКІ *бат.* Падбярозавік. *Вот летась у нашым лясу было многа беразняко́ў, па цэлым кашы прыносілі.* Нярэйша Сен., Неўгадава Чаш. Параўн. *ба́бачка* [1], *бало́тнік* [2], *балатніца, бяру́шнік.*

БЕРАЗУ́ХА гл. БЕРАЗА́К

БЕРАСЦЕ́НЬ, БЕРАШЧЕ́НЬ *м.* Збанок, аплецены бяростай; любы збан. *Берасце́нь у хазяйстве мне спатрэбіцца яшчэ.* Азёркі Гар. *Калі збанок нямножка паб'ецца, мы яго бяростай абкруцім і тады завём берасце́нь; такі берасце́нь яшчэ нам служыць доўга.* Труды Пол. *Высып ягады ў берасце́нь.* Бугаі Сен. *Баба збірала трускаўкі ў малы берашчэ́нь.* Лынтупы Паст. *Ну і кот благі: палову берашчэ́ня смятаны з'еў!* Ажуройсці Паст.

БЕРАСЦЯ́НКА *ж.* Берасцяная труба. *Дзед вечарам любіць іграць на берасця́нцы.* Жукава Гар.

БЕРАШЧЕ́НЬ гл. БЕРАСЦЕ́НЬ

БЕРВЯНУ́ШКА *н.* Памянш. да БЕРВЯНО́. *Нада ж на двары бервяну́шка перакласці.* Мікіціха Шум.

БЕ́РДА *ж.* Посцілка. *Ложак быў засланы прыгожай бе́рдай.* Друцк Тал.

БЕ́РКА, БЕ́РЬКА *ж.* 1. *бат.* Бяроза. *Гэтую бе́рку пасадзіў твой дзядзька, што памёр.* Бароўка В.-Дзв. *На кладзішчы адны бе́ркі растуць.* Каханавічы, Цясты В.-Дзв. *Бе́рка старая, спіліць трэба.* Верхнядзвінск. *Не ламай бе́рку!* Боркавічы В.-Дзв. 2. Бярозавы або кляновы сок. *А якая смачная кляновая бе́рка ўвосені!* Дразды Беш. *Сёння за бе́ркай хадзіў, прынёс літраў са дваццаць.* Жыгалава Віц. *Якая смачная першая бе́рка!* Пустынкі, Нярэйша Сен. *Нада схадзіць бе́рку прапусціць, зімля ўжо растаяла.* Рускі Шум. *Бе́рька – сок, які выдзяляецца вясной з бярозы.* Слабада Віц. *Вясной літраў сто бе́рькі назбіраем.* Храпакі, Котава Віц. *У летнюю спякоту бе́рька добра ўталяе смагу.* Кузьмянцы Віц. *Ранняй вясной ідзеш у бярэзнік бе́рьку падкручваць.* Гарані Гар. *Папей нашай бе́рькі.* Лялеўшчына Гар. *Бе́рька добра пірабівала смагу.* Мяжа, Яроненкі Гар. *Каб атрымалася бе́рька, трэба ў заквашаны сок дабавіць лісце і галінкі парэчак.* Азёркі Гар. *Кожнай вясной мы збіралі берьку.* Прудок Гар. *На пасту мы заўсягды бралі слоік бе́рькі.* Крыпулі Докш. *Корні ўжо ад марозу адтаялі, нада бе́рьку пракруціць.* Якубаўшчына Лёзн. *Надышла пара збіраць бе́рьку.* Асташэва, Выдрэя Лёзн. *Вясной падсякаюць бярозы, каб палучыць бе́рьку.* Скоґ Сен. Параўн. *бе́лька, бэ́лька, беразавік, беразня́к* [1].

БЕРКУЛЁЗ, БІРКУЛЁЗ *м.* Туберкулёз, сухоты. *У свякроўкі беркулёз быў, праз што і памерла.* Новы Двор В.-Дзв. *Тады часта хварэлі на беркулёз.* Ваўкалата Докш. *На беркулёз хворы.*

Камень Леп. *Ён быў на беркулёз хворы.* Высачаны Лёзн. *Сідар даўно ўжо хворы, беркулёз у яго.* Алексінічы Сен. *Раней амаль усе хворыя на беркулёз былі.* Кулінава Уш. *Біркулёзам балеў, а глянька ты, вылічыўся.* Паравознікі Паст. Параўн. *бугарча́тка.*

БЕСПЕРАРЫ́ЎНА *прысл.* Бесперапынна, бесперастанку. *Ужо нідзелю бесперары́ўна ідзець дождж, сена неяк сушыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

БЕ́ССЕБЕ *прысл.* Пра хату ці двор, калі яны застаюцца незачыненымі. *Не астаўляй хату бе́ссебе.* Літусава Сен.

БЕСЯНКІ́ *толькі мн.* Злосць. *Чаго цябе бесянкі хапаюць?* Машканы Сен.

БЕЦКАВА́ЦЦА *незак.* Гараваць, адчуваць нястачу. *Сена мала накасілі, усю зіму бе́цкаемся з сенам.* Труды Пол. *Сёлета бецкава́ліся з сенам вясной.* Пусташы Пол.

БЕЧ *незак.* Бегчы. *У мяне няма столькі сілы за табой беч.* Зуі Лёзн.

БЕ́ЧЫЦЦА *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў авечкі. *Наша авечка бе́чыцца, хоча да барана.* Казлы Міёр.

БЁРНА[1] *толькі мн.* Кросны. *Ад бабулі засталіся нам гэтыя бёрна.* Гута Паст.

БЁРНА[2], БЁРНЫ гл. БЯРНО́

БІРКУЛЁЗ гл. БЕРКУЛЁЗ

БЗДУН *м., часцей* БЗДУНЫ́ *мн., бат.* Грыб порхаўка, які выдзяляе пыл пасля высыхання. *На сенажаці бздуно́ў багата нарасло.* Янкішкі Паст.

БЗЫ́КАЦЬ *незак.* Звінець, гусці. *Вечарам у лесе камары бзы́каюць – спасу няма.* Барсукі Докш. *Як пачалі ў лесе камары бзы́каць, дык нават тут у вушшу гэтае бзы́канне.* Бугаі Сен. // перан. Пераймаць гукі камароў. *Што ты бзы́каеш, як камар?* Смалоўка Гар.

БЗЫ́КНУЦЬ[1] *зак.* Стукнуць. *Зрабіць гэты яшчык няцяжка: бзы́кнуць раз – другі і гатова.* Галубава В.-Дзв.

БЗЫ́КНУЦЬ[2] *зак.* Хутка згарэць. *Салома бзы́кнула, быццам і не было.* Бугаі Сен.

БІ́БІКІ *толькі мн.* Граблі. *Бабы ўсе на поле пайшлі з бібікамі.* Турчына Міёр. *Бацька рабіў бібікі і сабе, і людзям.* Мікалаева Міёр.

БІЗА́ *аг.* Бедны чалавек, галяк. *Гэтаму бізі не было чым прыкрыць голы зад.* Андронавічы Віц.

БІЗУ́Н *м., бат.* Сітнік; травяністая расліна сямейства асаковых, якая расце пераважна на сырых, балоцістых месцах. *Па рэках шмат дзе бізу́н сустрэнеш.* Крынкі Лёзн., Міёры.

БІКЛА́ГА *ж.* Маленькая бочка. *А ў біклáгу жыта, ячмень сыплем, капусту ў ёй квасім.* Крайцы Леп.

БІЛАБО́КІ *прым.* Вірлавокі, з вялікімі лупатымі вачыма. *У яе мужык білабóкі.* Труды Пол., Задроўе Арш.

БІЛІВА́Р *м.* Бачок. *Сягонніка мы насабіралі аж поўны білівáр чарніц.* Савуткі Шарк.

БІ́ЛІСТЫ *прым.* Які мае адзнакі альбінізму; з белым колерам валасоў, поўсці. *Майго беленькага сабачку ўсе клічаць білістым.* Дуброва Шум.

БІНДЗЮ́К *м.* Раскладныя калёсы, у якіх перавозяць бярвенне рознай даўжыні. *На крутым павароце бервяно звалілася з біндзюкá.* Тумінічы Арш.

БІНДО́С *м., лаянк.* Дурань. Эх ты, біндóс! Што ж ты натварыў! Ноўка Віц.

БІ́НЬКА *аг., асудж.* Гультай(ка). *Вунь бінька пайшоў, а ты, наверна, хочыш у яго кампанію!* Баева Дубр. Параўн. *бадзіня* [1] у 1 знач., *бадзя́ўка* [2] у 1 знач.

БІРАЖНІ́ЦА, БІРАЖНІ́ЦЫ гл. БЕРАЖНІ́ЦА

БІ́РКА, *памянш.* БІ́РАЧКА *ж.* Драўляная калодачка, якая ўжывалася ў якасці гузіка. *Даўней жа гузікаў ні было, дык у штаны ўшывалі біркі.* Курды Паст. *А бірачкі тыя харошыя былі.* Аліхверы Паст. Параўн. *біру́лька, біру́балка* [1].

БІРУ́БАЛКА [1] *ж.* Тонкі гузік прадаўгаватай формы. *Ушый мне біру́балку ў паліто.* Косарава Глыб. Параўн. *бірка, біру́лька.*

БІРУ́БАЛКА [2] *ж.* Абрэзак, шматок. *Што гэта за спадніца ў цябе, што адні біру́балкі вісяць?* Сахнавічы Глыб.

БІРУ́ЛЬКА *ж.* Жалезны гузік. *Зашпілі біру́лькі ў паліце, а то вецер на дварэ.* Круткі Паст. Параўн. *бірка, біру́балка* [1].

БІРУ́БАЛЬНІК *м.* Беспарадак. *Што і гаварыць, неакуратная баба, як ні зойдзеш у хату – там нейкі біру́бальнік.* Спігальшчына Міёр. Параўн. *байрáн, бязлáдвішча.*

БІ́ТКА *ж.* Бойка; прыстасаванне для збівання масла. *Гэта бітка засталася мне яшчэ ад маёй бабкі.* Ветрына Пол. Параўн. *бóлтка* і *бóўтка* ў 2 знач.

БІТЛА́ГА *ж.* Бутэлька. *Дзед схаваў бітлáгу ў рукаў, і ягоная баба нічога не заўважыла.* Сваташыцы Дубр. Параўн. *бамбу́ля, бамбэ́ла, бóмбіна, бóмба* [2].

БІ́ТЛАЎКА *ж.* Байкавая вопратка. *Ты б бітлаўку сваю апранула, а то на вуліцы холадна.* Каўровая Дубр.

БІТО́К *м.* Велікоднае яйка для гульні. *У майго бацькі быў самы моцны біток.* Ластавічы Глыб.

БІТУ́ШКА *ж.* Паламаныя сані, калёсы. *Сёлета дроў мала, хоць бы ў гэтай біту́шкі прывезці.* Заслонаўка Арш.

БІЦАВА́ЦЦА, БІЧУВА́ЦЦА *незак.* Цяжка, да стомы, працаваць; мардавацца ў працы. *Усё жыццё біцава́ўся: ні ён адпачыў калі, ні сытна пад'еў.* Лужкі, Празарокі Глыб. *Бічува́лася баба дома: пряла, ткала.* Валынцы В.-Дзв. Параўн. *бацава́ць.*

БІЦЬ *незак.* 1. Кляпаць, вастрыць касу́ малатком. *Дзед пайшоў біць касу́.* Заполле Беш. *Ты снедай, а я ўжо біць косы пайду.* Замошша Брасл. *У шэсць гадоў навучыўся біць касу́.* Аўсянка Міёр. *Ідзі бі касу́...Во, пабіў, дык цяпер косіць добра.* Курмялёўка Леп. *Пайду касу́ біць.* Гута Паст. *Ён учора цэлы дзень біў косы.* Вялікае Сяло Сен. *У час сенакоса па вечарах мужыкі б'юць косы, каб раніцай зноў ісці касіць.* Шасцярні Уш. *Толькі дзядуля сеў біць касу́, як пайшоў дож.* Мікалаева Шум. 2. Калоць дровы. *Заўтра дровы біць будзем.* Балаі Міёр.

БІЧАВІ́К *м.* Абочына; прыдарожная паласа адчужэння. *Нашто вы пакідалі еткія шырокія бічавікі? Вузейшыя трэба было.* Барсукі Дубр.

БІЧА́Й *м.* Круглая дзірка ў жорнах у верхнім камені, праз якую сыплюць зерне. *Дзірачку ў жорнах мы завём біча́й.* Труды Пол.

БІЧАЎНІ́К *м.* Бераг ракі ці возера. *Бічаўнікі ракі зарослые.* Равяцічы Тал. Параўн. *беражы́на* ў 2 знач.

БІЧО́ЎКА[1] *ж.* Біч; ударная частка цэпа. *Аднаго мальца пабілі бічо́ўкай так, што ён не змог падняцца.* Цясты В.-Дзв.

БІЧО́ЎКА[2] *ж.* Прывязь, звітая з некалькіх клібін, якая служыць для звязвання нарыхтаваных дроў у плыты. *З некалькіх клібін атрымлівалі бічо́ўку.* Плаўнік Чаш.

БІЧУВА́ЦЦА гл. БІЦАВА́ЦЦА

БЛА́ГАЦЬ *незак.* Плакаць. *Дзеці вельмі бла́галі.* Зубава Арш.

БЛАГО́ЦЦЕ, БЛАГО́ЦЦЁ *н.* 1. *асудж.* Пра капрызнае, непаслухмянае дзіця. *Ну і благо́цце ты ў мяне, дзетачка!* Надазер'е Глыб. *Благо́цце ты, сынко!* Клетаў Двор Міёр. *Такое благо́цце мой унучак, аж глядзець ня хочацца на яго.* Лашукі Паст. 2. Пра слабага, хваравітага чалавека. *Такое благо́ццё наш унучак, з хвароб не вылазіць.* Латышы Глыб.

БЛА́ГШЫ *прым., выш.* Горшы. *Выгляд у яе быў бла́гшы, якраз як у яеката дранага.* Андронавічы Віц.

БЛАЖЭ́ЦЬ *незак.* Худзець. *Мая кабылка блажэ́ла на вачах.* Езярышча Гар.

БЛА́ЖЫЦЬ, БЛА́ЖНІЦЬ *незак., безасаб.* Адчуваць дурноту; пра стан млоснасці, моташнасці. *Кружылася галава, і ад таго хлопца бла́жыла.* Дражакі Гар. *Нешта мяне бла́жыць, мусіць, ад чаду.* Бортнікі Глыб. *Пачало мяне бла́жніць.* Круткі Паст.

БЛЁСТКА *ж.* Зорка. *А ў небе столька блёстак, а мы сядзім і сядзім…* Антонаўка Арш.

БЛІ́ЖЫ, БЛІ́ЖА *прысл., выш.* Бліжэй. *Калі мы падышлі бліжы, убачылі ўсё на ўласныя вочы.* Цясты В.-Дзв. *Гэта бліжа за рэку.* Андронавічы Віц.

БЛІ́З *м.* Блізкае месца. *Каля блізу будзь.* Урбаны Брасл.

БЛІЗКАЗО́РЫ *прым.* Блізарукі. *А ты ад дзеда блізказо́рая.* Бігосава В.-Дзв.

БЛІ́ЗНІЦЦА *незак.* Мроіцца, здавацца. *Задумалася – і блізніцца мне, што нехта падышоў да акна.* Лужкі, Празарокі, Псуя Глыб.

БЛІ́ННІЦА, БЛІНО́ЎНІЦА, БЛІНЦО́ЎКА *ж.* Дзежачка для рошчыны бліноў. *У мяне і блінніца была.* Папшычы Глыб. *Бліны рашчынялі ў бліно́ўніцы.* Ракаў Засценак Сен. *Ля печы стаіць блінцо́ўка.* Дражакі Гар.

БЛІНЫ́ *мн.* Мясістыя чырвоныя скурныя вырасты пад дзюбай у курэй, у пеўня. *Во, адкармілі пеўня, толькі бліны́ вісяць з-пад дзюбы!* Косарава Глыб. *У майго пітуха вялікія бліны́ пад дзюбам.* Мосар Глыб., Станіслававa Дубр. *У курачкі вялікія красныя бліны́ вісяць пад дзюбаю.* Казлы Міёр. *Пятух заначаваў на двары і атмарозіў бліны́.* Більдзюгі Шарк. *У пітуха бальшыя бліны́ пад клювам.* Шыці Шарк.

БЛІ́СКАЎКА, БЛІСКУ́ХА, БЛЯСНІ́ЦА *ж.*, БЛІШЧУ́К *м.* Бліскавіца, маланка. *Я бліскаўкі баюся, а грома – не.* Белая Ліпа Сен. *Пагрымвае, а бліску́хі пакуль няма.* Лескавічы Шум. *Сёння ноччу бляснiца так бліцела, хоць іголкі сабірай!* Дразды Беш. *Яшчэ я з дзяцінства баялася блішчука́.* Паліцы Беш.

БЛІСКУ́Н[1] *м.* Святляк. *Жахліва ўбачыць ноччу шмат бліскуно́ў, здаецца, што нечыя вочы за табой назіраюць.* Старыя Лаўкі Чаш.

БЛІСКУ́Н[2] *м.* Той, хто стаіць пад вуглом у час вяселля, чакаючы запрашэння на дармавы пачастунак. *Як хочаш гарэлкі выпіць дармавой, дык пойдзем пад сталоўку ў бліскуны́.* Замачак Чаш.

БЛІСКУ́ХА гл. БЛІ́СКАЎКА

БЛІСНЯ́ *ж.* Традыцыйная вуда для лоўлі рыбы. *Бацька ўзяў блісню́ і пайшоў на рыбу.* Езярышча Гар.

БЛІШЧА́ЧЫ *прым.* Бліскучы. *Надзеў боты з блішча́чымі галянішчамі.* Камоскі Беш.

БЛІШЧУ́К гл. БЛІ́СКАЎКА

БЛО́ТНІК *м.* Крыло над колам у веласіпедзе, матацыкле, аўтамашыне, якое засцерагае ад распырсквання гразі. *Бяз бло́тнікаў увесь запырскаўся, як ехаў дажджом.* Шантары Докш.

*У веласіпедзе бло́тнік тарахціць, вазьмі падкруці шайбу.* Мосар, Празарокі Глыб. *У тваёй машыне блотнік пачаў тарахцець, на нервы дзейнічае.* Псуя Глыб.

БЛО́ЦІЦЬ, БО́ЛЦІЦЬ *незак.* 1. Псаваць, прыводзіць у непрыгоднасць. *Унук твой не косіць, а толькі бло́ціць траву.* Празарокі Глыб. *Ён не ўмее габляваць, толькі бло́ціць дошку.* Замхава, Мосар Глыб. *Што ты ровар бло́ціш; на чым ездзіць патом будзіш?* Новы Пагост Міёр. *Вінаград зялёны ішчо, што ты яго бо́лціш?* Мікалаёва Міёр. Параўн. *блэ́ндзіць* у 1 знач., *быткава́ць.* 2. Неахайна насіць адзенне. *Насіць нада што ёсць, нечага новае бло́ціць.* Вісяты Міёр. *Хваціць бло́ціць адзежу, трэба глядзець, каб чыстая была.* Каралёва Шарк. Параўн. *бадзя́ць.*

БЛУ́ДНА *безас.-прэдык. слова.* Нязручна, няёмка. *Было мне блу́дна стаяць.* Абруб Глыб.

БЛУДНІ́ЦЫ *мн., бат.* Буякі. *У лясу многа блудніц. Іх яшчэ завуць дурніцы, п'яніцы.* Езярышча Гар. *Набралі па вядру блудніц.* Перабродздзе Міёр.

БЛУ́ЗНІЦЬ *незак.* Трызніць. *А ў майго во як цімпіратура паднялася, дык блу́зніў абы-што.* Макаравічы Докш.

БЛУТА́ЦЦА *незак.* Блытацца. *Чаго табе там блута́цца? Тут во йдзі!* Ясева Міёр.

БЛЫ́НДА, БЛЭ́НДА *аг., асудж.* 1. Той, хто бадзяецца без справы. *Ты чаго ходзіш, як блы́нда?* Пустаселле Докш. *Куды тая блэ́нда сцягнулася?* Бяседы Леп. 2. Пра збродлівую карову. *Тарасава блэ́нда ніколі не пільнуецца стада.* Новыя Валосавічы Леп.

БЛЫ́НДАЦЬ, БЛЫ́НКАЦЦА, БЛЭ́НДАЦЦА *незак., асудж.* Бадзяцца без справы; швэндацца, гуляць. *І дзе вы блы́ндалі так доўга? Паўдня вас чакалі!* Бачэйкава Беш. *Дзе гэта ты блы́ндаў цэлы дзень, а работы па вушы?* Стралкі В.-Дзв. *А дзе ж ты блы́ндала цэлы дзень?* Задуброўе Віц. *А чаго той тут блы́ндае?* Слабада Шум. *І чаго ты сёння ўвесь дзень блы́нкаешся, месца сабе не знаходзіш?* Шыці Шарк. *Я маладая любіла блэ́ндацца па начах, і называлі мяне тады блэ́ндай.* Велеўшчына Леп. *Хопіць мо блэ́ндацца, пара і за работу брацца!* Бугаі Сен.

БЛЫТАВІ́НА *ж.* Балота, вадаём. *Недалёка блытавіна такая ладная ёсць.* Машчоны Сен. Параўн. *ба́ба*[2], *багавінне, багвіна, бало́нне*[2], *балачыіна, бало́цця, бо́лаць.*

БЛЫХА́-ВАНЮ́ЧКА *ж.* Раслінаедны клоп; наземнае або воднае насякомае-паразіт. *Цярпець не магу блыху́-ваню́чку, мне бла́жыць ад яе воні.* Ноўка Віц.

БЛЫ́ШЫЦЬ *незак.* Здзекліва лаяць каго-н. *Што ж ты яго блышыш, ён жа не хацеў гэтага.* Каханавічы В.-Дзв.

БЛЭ́НДА гл. БЛЫ́НДА

БЛЭ́НДЗІЦЬ *незак.* 1. Псаваць. *Ня блэ́ндзі мне касу.* Надазер'е Глыб. Параўн. *бло́ціць* у 1 знач., *бо́лціць, быткава́ць.* 2. Балбатаць, гаварыць глупства. *Блэ́ндзіць дзядзька абы-што, а ты яго, цётка, слухай.* Лашукі Паст. Параўн. *бадзе́ць, балхвіць.*

БЛЮ́ДАК *м.* Сподак. *Налі чаю ў блю́дак.* Суднікі Арш. *Мама мая даўней усё чай з блю́дка піла.* Бортнікі Глыб. *У блю́дак наліваю варэнне.* Балаі Паст.

БЛЮ́ЗКА, БЛЮ́СКА *ж.* Сарочка, блузка. *Купіла маціp'ялу на блю́зку, але ціпер нада даццэ адаваць, сільна цвятоў многа.* Іказнь Брасл. *На вечар надзела галубую блю́зку і чорную спадніцу.* Опса Брасл. *Адзень сёння блю́зку новую.* Гатаўшчына Глыб. *Новую блю́зку на кірмашы купіў бацька, на першы дзень Вялікадня надзела яе.* Ветахмо Докш. *Поля купіла новаю блю́ску.* Сенькава В.-Дзв. *Даццэ во блю́ску такую нічога выкупіла.* Макаравічы Докш. *Надзень блю́ску – я пагляжу.* Язна Міёр.

БЛЮЗНІ́ЦЬ *незак.* Блудзіць. *Пайшла па грыбы і блюзніць пачала рана, ледзь світала.* Андронавічы Віц.

БЛЮСЦІ́ *незак.* Берагчы, захоўваць, эканоміць, ашчаджаць. *Я блюду́ гэта пісьмо і сёння.* Пашына Арш. *Навошта ты блюдзе́ш ваду?* Замошша Сен. *На ўсякі выпадак трэба блюсці́ грошы.* Обаль Сен. *Бывала, блюду́ць кіўбасы да Раштва.* Дабея Шум. *Не блюла́ сарочкі, а спаліла.* Чачанева Тал. *Нада блюсці́ яго, нікому не паказваць.* Вялікае Сяло Сен.

БЛЯДЫ́ *прым.* Бледны. *Твар такі стомлены, блядьі, як у нежывога.* Арэхаўск Арш. *Ён быў сусім бляды́.* Куты Беш. *Гляжу я: у цябе твар бляды́.* Малы Поўсвіж Леп. *У цябе бляды́ твар.* Проземля Чаш.

БЛЯЙСТЭ́РКІ *мн., кулін.* Смажаная бульба, нарэзаная кружочкамі. *На стале стаіць поўная патэльня бляйстэ́рак.* Арляны Сен.

БЛЯКАТА́ЦЬ *незак.* Заікацца. *Ён яшчэ з дзяцінства пачаў бляката́ць.* Каўровая Дубр.

БЛЯ́МБАЧКА *ж.* Зноска ў кніжцы. *Ягор доўга шукаў бля́мбачку ў кніжцы.* Жаўніна Уш.

БЛЯСНІ́ЦА гл. БЛІ́СКАЎКА

БЛЯ́ШКА *ж.* Бляха (руск. противень). *Пастаў бля́шку ў газ.* Вярхоўе Беш. Параўн. *братва́н.*

БО́БЧЫК гл. БАБАВЕ́ННЕ

БОГ *м.* Абраз, ікона. *Там мае багі́ стаяць.* Плісы Беш. *У кожнай хаце Бо́гу адводзіцца пачэснае месца, у красным куце.* Міёры.

БО́ГАЎКА гл. БАГО́ЎКА

БО́ДНЯ, БАДНЯ́ *ж.* 1. Вялікая бочка для збожжа. *Пакуль дажджу няма, трэба жыта абмалаціць і ў бо́дню насыпаць.* Паўлава Рас. Параўн. *бо́чанка.* 2. Драўлянае ці металічнае вядро для вады. *Бо́дня стаіць на ганку, карова пап'е вады.* Барсукі В.-Дзв. *Вазьмі папі – вун халодная вада ў бо́дні стаіць.* Гарадзец Шарк. *А сколькі мне нада? Мне адной бадні́ вады хватае на нядзелю.* Домнікі Пол. Параўн. *бадзе́жка, бадзя́га* [2] у 2 знач., *байдэрка, бале́йка, бу́дан.*

БО́ДРАЯ *ж.* Назва заразнай, пераважна дзіцячай, хваробы. *Малыя рабяты ўсе палягглі ад бо́драй.* Гута Паст.

○ БО́ЖАЯ КАЗЮ́ЛЬКА *ж., заал.* Божая кароўка. *Па вакну паўзла бо́жая казю́лька – такая чырвоная ў крапінку.* Старыя Лаўкі Чаш. Параўн. *баго́ўка, бо́гаўка.*

○ БО́ЖЖА КРЭ́ЎКА *ж., бат.* Зверабой. *Бо́жжа крэ́ўка пры розных хваробах добра памагае.* Пашкі Шарк.

○ БО́ЖЫЯ СЛЁЗКІ *мн., бат.* Гваздзік; травяністая расліна сямейства гваздзіковых з пахучымі кветкамі чырвонага, ружовага або белага колеру. *Глядзі, якія бо́жыя слёзкі! Яны ў букецік добра стаяць.* Бігосава В.-Дзв.

БОЙ *м.* Будзільнік ці гадзіннік з боем (са звонам). *Гэты бой мне яшчэ ад бабкі дастаўся.* Бараны Глыб.

БО́ЙНЫ *прым.* Утаптаны. *На тым месцы была бо́йная дарога.* Анэліна Тал.

БО́ЛА *часц.* Бывала. *Бо́ла, пойдзем раненька ў лес.* Верамееўка Гар.

БО́ЛАЦЬ гл. БАЛАЧЫ́НА

БО́ЛБАТКІ, БУЛБА́ТКІ *мн.* Пузыры на вадзе ў час дажджу. *Паліў дождж, бо́лбаткі аж булькалі.* Шарагі Міёр. *Дождж ідзе і сонца свеціць, а бу́лбаткі такія цёплыя!* Круткі Паст. // Мыльныя пузыры. *Дзеці з мыла булба́ткі рабілі і пускалі.* Баруны Брасл. Параўн. *бу́рбалы.*

БО́ЛДАЎКА гл. БАЛДАВЕ́ШКА

БО́ЛЕ, БО́ЛІ, БО́ЛЬШАКА *прысл.* Больш. *Счас жа бо́ле вучоныя, бо́ле вучуцца.* Узмёны Міёр. *Песні пела ўсё бо́лі жаласныя.* Бароўка В.-Дзв. *У гэтым гаду ўражаю назбіралі бо́лі,чым летась.* Нямойта Сен. *Калі захочаш, каб карова малака бо́лі давала, то будзеш падкармліваць пасля пашы.* Еўлахі, Ламіншчына Тал. *Бо́лі я цябе не буду вучыць.* Бор Чаш. *Бо́льшака мне супу не падлівай, хопіць.* Новы Двор В.-Дзв.

БО́ЛМАТ гл. БАЛМА́Т

БО́ЛМУТ *м.* Размова. *Бо́лмут такі быў, як паехаць на цаліну.* Чарневічы Глыб.

БО́ЛТКА, БО́ЎТКА *ж.* 1. Рыбацкая прылада – доўгі шост з патаўшчэннем на канцы, які служыць для палохання рыбы моцным шумам і загону яе ў сетку. *Дзе твая бо́лтка, стары, паказаць чалавеку?* Мілашова Міёр. *Рыбакі ўзялі бо́ўтку, каб лягчэй было налавіць рыбы.* Свяча Беш. *Бяры пад страхой бо́ўтку і нясі ў лодку.* Празарокі Глыб. *Узяў дзедаву бо́ўтку і пайшоў на раку.* Тупічына Шарк. *Сёння ў ноч з бо́ўткай паедзем на рыбу.* Рускі Шум. Параўн. *балдаве́шка, бо́лдаўка, баўту́н, боўт.* 2. Бойка; прылада для збівання масла з вяршкоў малака ці са смятаны. *Суседка папрасіла бо́ўтку, каб збіць масла.* Сасноўка Глыб. Параўн. *бітка.* 3. *аг., перан., абразл.* Бесталковы чалавек, дурань, балбатун. *А памаўчы ты трохі! Вот ужо бо́лтка дык бо́лтка!* Снегі Міёр. *Ці ж ты не бо́ўтка, калі нарабіў столькі бяды?* Макаравічы Докш. Параўн. *баўдзіла, бо́ўдур, браду́н.*

БО́ЛЦІЦЬ гл. БЛО́ЦІЦЬ

БО́ЛЬКА гл. БАЛЕ́СЦЬ

БО́МАЛА *м.* Званок. *Чую: раптам зазвінеў бо́мала.* Вярхоўе Беш. Параўн. *балаба́йка, балаба́шка, бон.*

БО́МБА[1] *ж., часцей мн.* БО́МБЫ *кулін.* Блін з мясам. *Бабуля, як заўсёды, на фэст наробіць кацёл бо́мбаў.* Дрысвяты Брасл.

БО́МБА[2] *ж.* 1. Вялікая бутэлька аб'ёмам 700 ці больш мл. *А дзе ж ты бо́мбу дзеў? Яна ж мне нада, каб вады ўзяць.* Прамышляды Паст. 2. Бутэлька таннага пладова-ягаднага віна. *Дапамагаць ён будзе табе, глядзі! Учора купіў бо́мбу – дык і сёння няма яго.* Мількі Брасл. Параўн. *бамбу́ля, бамбэ́ла, бо́мбіна, бітла́га.*

БО́МБІНА гл. БАМБУ́ЛЯ

БОН *м.* Звон. *Здалёк чуўся бон.* Галбея Паст. Параўн. *балаба́йка, балаба́шка, бо́мала.*

БО́НДА[1] *ж.* Буханка хлеба. *Ён бо́нды дзелаіць: у людзей накрадзе́ць – бо́нду зладзіць сабе ціханька.* Лісна В.-Дзв. *Купі дзве бо́нды хлеба.* Баравуха Пол. Параўн. *бу́хан, бо́ханка, буха́тка.*

БО́НДА[2] *ж., заал.* Цялушка, якой споўніўся адзін год. *Ад той ста́рай каровы асталася бо́нда. Ад яе, як і ад старай, будзіць многа малака.* Быцава Беш.

БО́НДАЎКА *ж.* Дзіцячая цацка; самаробная бразготка для забавы дзяцей у выглядзе надутай кішкі з фасоллю або гарохам. *Зараз дзецям раскоша – ігрушак розных. Раней зробяць бо́ндаўку – малым радасці!..* Спігальшчына Міёр.

БО́НДАЧКА *ж.* Невялікая каўбаса, скручаная ў круг. *А мне суседка на Вялікання бо́ндачку прынесла.* Зарачыцак Докш.*Трэба бо́ндачку зварыць.* Старое Лядна Леп.

БОНК гл. БАНКА́Ч

БО́НЦЬ-ЯК *прысл.* Абы-як. *Памыла падлогу бо́нць-як і ўжо пабегла некуды на сяло.* Савуткі Шарк.

БО́РАК *м.* Невялікі луг. *На бо́рку мы з братам пасвілі цялят.* Луцік Чаш.

БО́РНІК *м., заал.* Баран. *Бо́рнікаў пасём на лузе за хатай.* Беразіно Докш. Параўн. *бару́к, бэ́рка.*

БО́РУЦЬ *ж.* Борць. *Глянь, колькі ў бо́руці пчол!* Цяцеркі Віц.

БО́САЧКІ *мн.* Босыя ногі. *Абуй, дачушка, свае бо́сачкі.* Дрысвяты Брасл.

БО́ТВАННЕ гл. БАТО́ЎНІК

БО́ЎДЗІЛА *аг., груб.* Высокі, хударлявы і нязграбны чалавек. *Мужык ейный такій ужо нялоўкій, якраз бо́ўдзіла.* Надазер'е Глыб.

БО́ЎДУР *м., абразл.* Дурань. *Мабыць, яна баіцца яго, бо бо́ўдур ён, дуркаваты.* Паліцы Беш. *Ці можна з бо́ўдурам такім зрабіць што добрае?* Коравічы Чаш. Параўн. *баўдзі́ла, бо́лтка* і *бо́ўтка* ў 3 знач., *брадýн.*

БОЎТ гл. БАЎТУ́Н

БО́ЎТАННЕ, БО́ЎТАНЬ гл. БАЛТУ́ХА

БО́ЎТАЦЬ[1] *незак., груб.* Гаварыць абы-што. *Што ты бо́ўтаеш абы-што, як боўдзіла якое?* Будзілава Чаш. Параўн. *бразгаво́ліць.*

БО́ЎТАЦЬ[2] *незак.* Махаць. *Бо́ўтаў рукой, як прапелерам.* Ляхаўка Дубр.

БО́ЎТКА гл. БО́ЛТКА

БО́ХАНКА гл. БУ́ХАН

БО́ХАТ *м.* Вір; шырокае і глыбокае месца на рацэ. *Малым дзецям забаранялася купацца ў бо́хаце.* Тумінічы Арш. Параўн. *бук.*

БО́ЦЯ, БО́ЦЯН гл. БАЦЬЯ́Н

БО́ЧАНКА *ж.* Бочка для збожжа. *У нас у хляву стаяла некалька бо́чанак з зярном.* Панізоўе Арш. Параўн. *бо́дня* і *бадня́* ў 1 знач.

БРАВА́РАК *м.* Памяшканне для дроў. *Цідоўга ты свой брава́рак будаваў?* Дрысвяты Брасл.

БРАВАРО́К *м.* Прылазнік; памяшканне перад уваходам у лазню. *У браварку́ жанчыны заўсёды мылі адзежу.* Абаляны Брасл.

БРАДУ́Н *м., груб.* Боўдзіла, недарэка, неразумны чалавек. *Гэты недарасль такі брадýн, што слоў няма, як не схлусіць – дык жывога няма.* Колпіна Сен. Параўн. *баўдзі́ла, бо́ўдур, бо́лтка* і *бо́ўтка* ў 3 знач.

БРА́ЖАЛКА *ж.* Злёгку падкіслае малако. *Сын мой вельмі бра́жалку любіць.* Заазер'е Пол.

БРА́ЖКА *ж., неадабр.* Благая кампанія. *Мой сын, скончыўшы школу, папаў у бра́жку.* Цясты В.-Дзв.

БРАЗГАВО́ЛІЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, балбатаць. *Бразгаво́ліш ты пустое.* Урбаны Брасл. Параўн. *бо́ўтаць* [1].

БРАЗДЫ́ *толькі мн.* Цёртая сырая бульба. *Для драных бліноў маці нацёрла брозды́.* Муляры Паст.

БРА́ЙМУТ *м., асудж.* Прайдоха, прайдзісвет. *Ён такі бра́ймут – з вады вылезе і не замочыцца.* Тумілавічы Докш.

БРА́МА[1] *ж., абрад.* У вясельным абрадзе перашкода на шляху маладых з пачастункам дзеля таго, каб маладыя заплацілі грошы. *Ужо каторую суботу на нашай вуліцы рыхтуюць бра́мы.* Мілашкі Брасл. *Мы любілі бра́мы ставіць на свадзьбах.* Таўкіні Шарк.

БРА́МА[2] *ж.* Звязка табачнага лісця. *Сёлета вялікую бра́му табаку сабраў.* Опса Брасл.

БРАНЗАВА́ЦЬ *незак.* Выказваць абурэнне каму-н., лаяць за дрэнны ўчынак. *Бацька бранзава́ў яго, аднак што з распусніка возьмеш? Якім быў – такім застаўся.* Празарокі Глыб.

БРАНЗУ́ЛІ *мн.* Завушніцы. *Начапіла бранзу́лі і хутчэй на танцы паляцела.* Тупічына Шарк.

БРА́СЛАЎЕ *н.* г. Браслаў. *А Ганка ўчора ў Бра́слаўе паехала.* Ахрэмаўцы Брасл.

БРАТАВА́Я, БРАТО́ЎКА, БРАЦІ́ХА *ж.* Бра́ціха (бра́тавая); жонка брата. *З братаво́й мы вельмі дружылі.* Жарцы Леп. *Учора ў госці прыехала брато́ўка.* Лучайка Глыб. *Брато́ўка ў мяне спрытная.* Домжарыцы Леп. *У мяне такая добрая брато́ўка, як родная сястра!* Міёры. *Яна мне брато́ўкай прыходзіцца.* Малая Вядрэнь Чаш. *Пайшоў праз поле, каб зайсці да сваёй брацíхі.* Сасновая Докш. *Пашоў к маёй брацíхе.* Камень Леп.

БРАТВА́Н *м.* Бляха для сушкі яблыкаў у печы. *Я яблыкі сушу на братва́не ў печы.* Зямцы Шум. Параўн. *бля́шка.*

БРА́ТКА *ж., бат.* Трава. *На аблозе сохнець бра́тка, якую мы з дзедам учора скасілі. Хай сохнець, пагода стаіць добрая.* Слабодка Гар.

БРАТО́ЎКА гл. БРАТАВА́Я

БРАХА́ЦЦА, БРЕХА́ЦЦА, БРІХА́ЦЦА *незак.* Сварыцца, лаяцца. *Нашы суседкі брэшуцца ўжо тры дні.* Зоськава Арш. *Во людзі пайшлі: брэ́шуцца штодзень, калі не пабрэ́шуцца, то і дзень добра не пройдзе.* Косарава Глыб. *Хопіць браха́цца, дарослыя ж людзі ўжо!* Савенічы Сен. *Падумала, што зноў суседзі брэ́шуцца.* Гаршчэўшчына Тал. *Сусед з суседкаю брэ́шуцца амаль кожны*

*дзень.* Рудня Гар. *Апяць начамі сталі бріха́цца, як сабакі.* Яроненкі Гар.

БРАЦЕ́ЛЬНІК, БРАЦЕ́НІК, БРАЦЕ́ННІК *м.* 1. Дваюрадны (стрыечны) брат. *Сёння пайду да браце́льніка.* Пальмінка Гар. *Што ж ты нарабіў, гэта ж мой браце́льнік!* Капланы Сен. *Браце́льнік мой старэйшы за мяне на тры гады.* Нярэйша Сен. *У яго быў браце́нік у войску.* Арэхаўск Арш. *Мой браце́нік пасля арміі пайшоў у ахрану работаць.* Навумаўка Беш. *Вось мой браце́нік з'ехаў за мяжу, і ўжо колькі гадоў я яго ня відзеў.* Гарэлькі Дубр. *Браце́нік мой прыязджаў на выхадныя.* Гваздова Пол. 2. Родны брат. *Мой браце́ннік жывець очэнь даляко.* Мішуткі Віц. *Браце́ннік мой сёлета ад'язджае ад нас.* Радчонкі Гар. *Сёння да мяне заехаў браце́ннік.* Фарынава Пол.

БРА́ЦЕТКІ *толькі мн., бат.* Браткі, фіялкі. *Пасадзі каля ганку бра́цеткі. Хараша будзе, калі бра́цеткі ў гародчыку цвісці будуць.* Камаі Паст. *Я высадзіла на клумбу бра́цеткі.* Янкішкі Паст.

БРА́ЦІТКА, БРА́ЦІЛКА *м.* Брацік, браточак; памянш. да БРАТ. *Бра́цітка мой заўсёды мне дапамагаў, ды і зараз прыедзе – пачынае што-небудзь рабіць.* Калышкі Лёзн. *Стала іна тады брацітку будзіць, што госці прыехалі гаварыць.* Домжарыцы Леп. *У маці нас двое: я і мой бра́цілка.* Шалыгі Віц.

БРАЦІ́ХА гл. БРАТАВА́Я

БРАЦЬ *незак.* Капаць, выбіраць (бульбу). *Пара ўжо бульбу браць.* Быцава Беш. *Непрыкметна падышоў час браць бульбу.* Вяцера Докш.

БРАЦЮ́К *м.* Ша́фер. *Вясёлы брацю́к у маладых, кампанейскі.* Баравуха Пол.

БРА́ЧНЫЯ *толькі мн.* Маладыя ў час вяселля. *Кажны жадаў бра́чным кахання і шчасця.* Заазер'е Пол.

БРАШЫ́ЛА *аг., абразл.* Сварлівы чалавек. *Да гэтай брашы́лы не падыходзь, бо накрычыць, абругаіць і пойдзіць сабе давольная.* Іванск Чаш.

БРІ́КСЫ *толькі мн.* Гулянка. *Уся дзярэўня сённі на бріксах.* Грышына Рас.

БРІ́ТКІ *прым.* Востры, як брытва. *Бріткій нож, аж чуць ні парезалась.* Бігосава В.-Дзв.

БРО́ВІНА[1], БРЫВІНА́ *ж.* Брыво. *Дзе ты бро́віну рассадзіў?* Астроўшчына Пол. *Брывіна́ тая чуць відацца.* Воўкаўшчына Міёр.

БРО́ВІНА[2] *ж.* Бервяно. *Хату будавалі, дык паміж бро́вінамі мох запіхвалі.* Іванск Чаш.

БРОД *м.* Бутэрброд. *На сталах было ўсё, даже броды.* Варапаева Паст.

БРО́ДЗЕНЬ, БРАДЗЕ́НЬ *м.* 1. Браднік. *Хлопцы на рыбу ўзялі бро́дзень.* Бароўка В.-Дзв. *Ці пойдзеш сёння з бро́днем?* Клетаў Двор Міёр. *Мальцы ўзялі бро́дзень, пайшлі лавіць рыбу.* Труды Пол. *Мы ўчора бро́дзень кінулі – мяшок рыбы злавілі.* Смалоўка Сен. *У нас усе ловюць рыбу бро́днем.* Мельніца Шарк. *Цябе на возеры з браднём рыбнадзор схопіць, штраф заплаціш.* Язвіна Шум. 2. Сетка для сена. *Наскубі бро́дзень сена, каню трэба ўзяць у дарогу.* Труды Пол.

БРО́ТА *ж.* Аброць. *Дзяржы коніка за бро́ту.* Судзілавічы Уш.

БРУЗЭ́ЛІВЫ *прым.* Цёмна-сіні колерам. *Юбка брузэ́лівага цвету ў мяне ёсь і хустка такая ж.* Баева Дубр.

БРУ́КАВКА *ж.* Цацка, бразготка. *Тут чалавек гіне, а ёй усё бру́кавкі.* Баравуха Пол.

БРУКА́ЦЬ *незак.* Курлыкаць. *А журавы ўсё б턱ука́юць.* Коўзаны Паст.

БРУКО́ЎНІК *м.* Брукаваная дарога, шаша. *Па бруко́ўніку тарахцяць калёсы.* Астроўшчына Пол.

БРУНЗЕ́Т, БРУЖЛЕ́Т *м.*, БРУСЛЕ́ТКА *ж.* Бранзалет; упрыгожанне ў выглядзе кольца, якое носяць на руцэ вышэй кісці. *Дзяўчыты насілі брунзе́ты.* Шацяні Сен. *Во які ў цябе бружле́т, прыгожы, чаго зараз толькі не павыдумляюць!* Камары Віц. *Хлопец падараваў маёй дарагую бруcле́тку.* Клясціцы Рас. *Янтарная бруcле́тка была ў маці.* Расходна Сен.

БРУСА́К *м.* Брусок; невялікае бервяно, ачасанае з чатырох бакоў. *Многа на дварэ брусако́ў валяецца.* Гарбацэвічы Арш.

БРУСЛЕ́ТКА гл. БРУНЗЕ́Т

БРУСО́К *м.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *У граблях ёсць брусо́к, куды ўбіваюць зубы.* Станіславова Дубр.

БРУСЬ *м.* Брусок; шліфавальны камень, звычайна ў форме плоскага прадаўгаватага чатырохгранніка. *Вазьмі брусь і наклінай касу, яна ўжо тупая, ня косіць саўсім.* Пранікі Уш.

БРУХ *м.* Жывот, страўнік. *У мяне брух баліць.* Псуя Глыб. Параўн. *бумбэ́лак, бэ́бах.*

БРУХА́ТАЯ *прым.* Цяжарная. *У Зосі вяселле было, а я тады ўжо бруха́тая хадзіла.* Ветахмо Докш.

БРУХЦЕ́ЦЬ *незак.* Бурчаць. *Што ты ўсё брухціш, як сабака якая?!* Бігосава В.-Дзв.

БРУ́ЧКА *ж., бат.* Назва грыба. *Бру́чкі – гэта грыбы такія.* Доўжа Віц.

БРУЧЫЇШКІ *толькі мн.* Штаны. *Бручыішкі я насіў амаль усё жыццё караткаватыя, бо не было з чаго купіць новыя.* Старое Сяло Віц.

БРУШНІ́ЦА *ж., часцей* БРУШНІ́ЦЫ *мн., бат.* 1. Брусніцы. *Сёлета год багаты на брушніцу.* Беліца Сен. *У лесе з'явіліся брушніцы, трэба хутчэй пайсці назбіраць.* Урбаны Брасл. *У нядзелю паехалі ў брушніцы.* Гарані Гар. *Брушніц сёлета збірай не хачу.* Двухполле, Хацейка Гар. *Надта любілі мы хадзіць у брушніцы і па грыбы.* Ліпаўкі Докш. *Брушніц у лясу летась было нямнога.* Крыпулі Докш. *А брушніцы былі такія смашныя – пальчыкі абліжаш.* Суша Леп. *Пойдзем на балота ў брушніцы.* Мілашова, Дрыгучы Міёр. *Гэтым летам было мала брушніц.* Ігнацішкі Паст., Ёды Шарк. Параўн. *буякі* ў 2 знач. 2. Бруснічнік; ягаднік, на якім растуць брусніцы. *Тут усякія травы ёсць: і брушніцы, і чарніцы, і маці-мачаха...* Латышы Глыб. *Брушніцы збіраюць і п'юць, у каго почкі хворыя.* Баяноўшчына Пол. Параўн. *брушнічнік.*

БРУШНІ́ЧНІК *м.* Бруснічнік. *У лесе шмат брушнічніку, а ягад на ім няма.* Касачы Віц. *У гэтым гаду на брушнічніку дужа многа ягад.* Какоўчына Сен. *З брушнічніку палезны чай.* Слабада Шум. Параўн. *брушніцы* ў 2 знач.

БРУШНІ́ЧНЫ *прым.* Бруснічны. *Цвет брушнічны збіралі й прадавалі.* Шпунты Шарк.

БРУШНО́Е *н.* Кавалак поля, адведзены для гародніны. *На гародзе пакінулі брушно́е морквы.* Слабада Шум.

БРЫ́ГАЦЦА *незак.* Пырскацца. *Малыя брыгаюцца й рагочуць. Век з вады б ні вылазілі!* Зароўе Леп.

БРЫД *м.* Чад. *Які брыд у хаце – памерці можна!* Селішча Уш.

БРЫ́ДАСЦЬ *ж.*, БРЫ́ДЛЯ *аг., зневаж.* Брыдота; пра п'янага, непрыемнага чалавека. *Ой, якая брыдасць – глядзець няможна!* Малы Поўсвіж Леп. *Зноў чуць паўзе, брыдля.* Каты Шарк.

БРЫЖ *м.* Спінка ў ложку. *На брыжы навешана шмат адзежы.* Янкі Докш.

БРЫЗГО́ТА *ж.* Надвор'е з мокрым снегам. *Брызго́та – гэта... Як вам сказаць? І снег мокры ідзе, і вільгаці шмат.* Антонаўцы Брасл.

БРЫЗКО́ТЛІВЫ *прым.* Мокры, з кропелькамі вады. *Прыйшла ўся брызко́тлівая ад дажджу.* Барсукі В.-Дзв. *І адкуда толька прышоў? Увесь брызко́тлівы, гразны.* Гарадзец Шарк.

БРЫ́ЗКУ́ЛЬ *м.* Халодны, пранізлівы, рэдкі зацяжны дождж, які ідзе з перапынкамі. *Ці чуў ты, якое заўтра надвор'е будзе? –*

*Зноў брызкуль перадалі.* Бешанковічы. *Як ужо надакучыў гэты брызкуль – сіл не хапае.* Жукі Чаш.

БРЫЗЛЫ *прым.* Абрызглы; пра кіславатае малако, якое толькі што пачало скісаць. *Чаго гэтае малако тутака стаіць цэлы дзень? Яно ўжо ж брызлае!* Слабодка Брасл. *Малако ноч пастаяла і збрызла, цяпер будзем з бульбай есці брызлае малако.* Мярэцкія Глыб. *Сёння на вуліцы очэнь горача, малако быстра стала брызлае.* Цілеўцы Міёр. *На бліны нада браць брызлае малако.* Казімірова Пол. *Малако троху пастаяла ў цёплым і ўжо брызлае.* Пялікі Шарк.

БРЫКА *ж.* 1. Калёсы з высокімі бартамі для перавозкі сена. *З брыкі зваліўся і руку паламаў.* Бігосава В.-Дзв. *Мы прывезлі дровы на брыке.* Цясты В.-Дзв. *Дзве брыкі сена прывёз учора.* Надазер'е Глыб. *Дзве брыкі паспелі прывезці да дажджу, а трэцюю дождж змачыў.* Замхава Глыб. *Ідзі брыку накінь на калёсы: паедзем за сенам, каб не задажджылася.* Валкалата Докш. *У гэту брыку шэсь капешак улазіць.* Занькі Леп. *Ты з брыкай тады пад'едзь.* Старое Лядна Леп. *Сёння дзед цэлую брыку сена прывёз, то карове хопіць надоўга.* Гомель Пол. *Ужо хопіць, цэлую брыку сена ўтапталі.* Воцькавічы Уш. *Дзед, бяры брыку і гані ў Вятна.* Кугоні Уш. *Бацька з дзедам вялізную брыку нагрузілі.* Тупічына Шарк. *Брыкі ўжо старыя, нада новыя купляць.* Лукомль Чаш. 2. Тарантас. *Мы з дзедам селі ў брыку і паехалі ў горад, навошта нам аўтобус?* Тумілавічы Докш.

БРЫКАЛА *н.* Частка конскай збруі, якая чапляе плуг. *Бацька ўчора на полі брыкала страціў.* Коравічы Чаш.

БРЫКУН *м.* Конь. *Пайшоў за брыкуном, каб бульбу капаць.* Кулінава Уш.

БРЫЛЁЎНІК *м.* Ліст лопуха; лопух. *Ціпляты пад брылёўнік пахаваюцца, як арла чуюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

БРЫЛЬ *м.* Брыжы. *Васіліна абшыла сваю спадніцу ружовым брылем.* Наваполацк. Параўн. *брынды.*

БРЫЛЬКА *ж.* Брошка. *Сваю здаравенную брыльку начэпіць і радуіцца.* Ваўчо Уш.

БРЫЛЯ *ж.* 1. Брыль, капялюш. *Якая ў цябе модная брыля!* Глінішча Арш. 2. *перан.* Губа. *Што надуў сваі брылі?* Баева Дубр.

БРЫНДА *ж.* Неакуратная, брудная жанчына. *Вунь паглядзі, якая брында пайшла. Сорам глядзець!* Глазамічы Віц.

БРЫНДЫ *толькі мн.* Брыжы; аборкі на вопратцы. *Мой касцюм увесь у брындах.* Якаўлевічы Арш. *А кофту начапіла – уся ў брындах.* Бялынавічы Віц. Параўн. *брыль.*

БРЯДЗІННІК *м., бат.* Зараснік вярбы; галлё вярбы. *Брядзінніку наламалі. У нядзелю перад Вялікаднём усі ходзім брядзіннік свяціць.* Асташэва Лёзн.

БУБАРЫ́, БУБА́РЫКІ гл. БАБУРА́

БУБНЕ́ЦЬ *незак.* Быць цяжарнай. *Яно ўжо і відаць: троху бубніць маладуха.* Казлы, Маляўкі Міёр. Параўн. *бушне́ць.*

БУБНЁЎКА *аг., асудж.* Чалавек, які пастаянна незадаволена бурчыць, паціху абураецца. *Бубнёўка ён: бубніць і бубніць.* Баршчоўка Віц.

БУБУРЫ́ гл. БАБУРА́

БУБЫ́ШАК *м., бат.* Бутон; кветка, што яшчэ не распусцілася. *Бубышкі, здаецца, яшчэ спяць.* Белая Ліпа Сен.

БУВАЛЬНІ́ЦА *ж.* Самаробная тканіна, у якой аснова льняная, а ўток баваўняны. *Метраў дзесяць бувальніцы выткалі.* Кашталянаўшчына, Празарокі Глыб.

БУГАРЧА́ТКА *ж., мед.* Сухоты; туберкулёз. *Мама казала, што мой прадзед памёр ад бугарча́ткі.* Гацькаўшчына Арш. Параўн. *беркулёз, біркулёз.*

БУГІ́НЯ *ж., бат.* Вялікая, буйная бульба. *Бугіню я ў мяшкі пассыпала і ў кладоўку зацягнула, а дробную свінням аставіла.* Спігальшчына Міёр.

БУГО́Р *м.* Бурт; сховішча для бульбы. *Бугóр трэба зрабіць заране.* Шарагі Міёр. // *перан.* Любы начальнік. *Брыгадзір – сур'ёзны бугóр.* Пагосцішча Лёзн.

БУГРА́К *м.* Бугарок. *Бугракі тырчаць па ўсяму полю.* Пралетарыя Уш.

БУГРІ́ЦЬ *незак.* Біць. *Бугріў іе і муцюкаў, што ні давядзі бог!* Валынцы В.-Дзв.

БУ́ДА *ж.* Будан; памяшканне для дроў. *Тапор у бýдзе ляжыць.* Дрысвяты Брасл.

БУДА́К *м., бат.* Асот; агульная назва калючай травы. *На полі будáк парос – не магу выкараніць, хоць ты плач.* Крынкі Лёзн, Заазер'е Глыб. *Будáк – вельмі калючая трава.* Багданава Сен. *За садам рос будáк.* Латыгаль Сен. Параўн. *бадзюкі, бадзя́га*[1].

БУ́ДАН *м.* Посуд, у якім стаіць у памяшканні вада. *Паглядзі, ці ёсць вада ў бýдане.* Казімірова Пол. Параўн. *бадзёжка, бодня* і *бадня́* ў 2 знач., *бадзя́га*[2] у 2 знач., *байдэ́рка, балéйка.*

БУДАРА́ГА *ж.* Раптоўныя турботы, лішні клопат. *Ад гасцей у хаце адна бударáга.* Мосар Глыб.

БУДЗЁНІШНІ *прым.* Сённяшні. *Там будзёнішняя газета прыйшла.* Валынцы В.-Дзв.

БУ́ДЗІК *м., заал.* Певень. *Мой бу́дзік на правую нагу храмаць стаў, мусіць, нехта яму нагу падбіў.* Бачэйкава Беш.

БУ́ДЗЬМА *часц.* Хай. *Бу́дзьма стаіць, яна мне не мяшае.* Мікіціха Шум.

БУДЗЯ́НКА *ж.* Брудная вада. *Зараз возера наша – адна будзя́нка, а раней чысцюткае было.* Падворыца Сен.

БУ́ДКА *ж.* 1. Прыбудова (пакой) без печы, дзе жывуць толькі летам. *Летам у хаце ён не спаў, а начаваў заўсёды ў бу́дцы.* Заессе Чаш. *Брат пайшоў спаць у бу́дку.* Лескавічы Шум. Параўн. *бярвёнка.* 2. Верхняя частка калодзежа. *Бу́дкай мы завём верхнюю часць калодзежа.* Доўжа Віц.

БУЁН *прым.* Буйны. *Буён вецер дуіць, мусіць, дожджж будзіць.* Велеўшчына Леп.

БУЗА́ *толькі адз.* 1. Іл у вадаёме (рацэ, возеры); гразь. *Залезеш у бузу́, выкачаешся ў гразі – і ідзеш дамоў мокры.* Дзегцяры Брасл. *Кругом адна буза́.* Двухполле Гар. *Ваду ўсю вычарпалі чысцінькую, адна буза́ засталася.* Стуканы Глыб. *Ідзі асцярожна і не лезь у бузу́.* Заазер'е Уш. *У бузе́ ліноў многа.* Плаўнік Чаш. *Пасля дажджу не маглі ў школу ісці – такая буза́ была.* Таўкіні Шарк. 2. *перан.* Шум, спрэчка, скандал, беспарадак. *І тут пачалася такая буза́!* Нурава В.-Дзв. *Не паднімай бузы́, супакойся!* Сакалянка Тал. Параўн. *буч.*

БУЗЯ́НІЦЬ *незак.* Муціць ваду. *Малыя плёскаюцца і бузя́нюць ваду, пасля іх ужо не пасціраеш.* Цясты В.-Дзв. *Дзеці на рэчцы пачалі бузя́ніць ваду.* Новае Сяло Сен. *У дзяцінстве нас на раку купацца не пускалі, дык мы ваду бузянілі ў сажалцы.* Абухава В.-Дзв.

БУЙТАВА́ННІК *м.* Пра таго, хто да знясілення працуе. *Ідуць буйтава́ннікі з лесу, натаміліся, ледзь ногі цягнуц.* Дварэц Чаш.

БУ́ЙШЧЫК *м.* Бу́йны, неўраўнаважаны чалавек, забіяка. *Ён бу́йшчыкам нарадзіўся, бу́йшчыкам і памрэ.* Бачэйкава Беш.

БУК *м.* Вір; глыбокае месца на рацэ. *У нас у бу́ку малец у прошлым гаду ўтапіўся.* Баева Дубр. Параўн. *бо́хат.*

БУ́КАЎНІК *м., бат.* Васілёк лугавы. *Расцвіў бу́каўнік на лузе, пчолкі і шмялі лётаюць.* Цясты В.-Дзв. *Ты бу́каўнік збірала на лякарства ці проста для красы?* Боркавічы В.-Дзв. Параўн. *бычы́ннік.*

БУКЕ́ТНІК *м.* Збан для кветак; ваза. *Назбірала ў полі кветак і паставіла ў буке́тнік.* Езярышча Гар.

БУКЛА́ГА гл. БАКЛА́ЖКА

БУКЛЕ́ТКА *ж.* Грэбень; круглая расчоска. *Вось на букле́тку, расчашыся.* Бешанковічы.

БУ́КСА *ж., заал.* Бязрогая жывёліна. *Бу́ксу сваю загнаў у хлеў.* Зазерыца Чаш.

БУЛА́К *м.*, БАЛО́КІ *мн.* Воблака. *Сонца заходзіць у була́к.* Каверзы Гар. *На небе не было ніводнага булака́.* Фарынава Пол. *Нізка плывуць па небу шэрыя бало́кі.* Дуброўна.

БУЛДАВА́ТЫ *прым.* Тоўсты і круглы. *І што гэта за боты цяпер носяць – цяжкія, насы булдава́тыя; ці гэта мода цяпер такая?* Кашталянаўшчына Глыб.

БУЛЁН *м.* Малочны бульбяны суп. *Прынясі малака, зварым на абед булён.* Нурава В.-Дзв.

БУЛУБЫ́ШКА *ж., часцей мн.* БУЛУБЫ́ШКІ *кулін.* Пячэнне круглай формы. *А мы з бабуляй булубы́шак напяклі.* Мурагі Рас.

БУЛЬБА́ШНІК гл. БУЛЬБЯ́ШНІК[1]

БУЛЬБЕ́ЛІШЧА гл. БУЛЬБЯ́НКА[1]

БУЛЬБЕ́ЎНІК *м.*, БУЛЬБО́ЎНІНА *ж.* 1. Бульбоўнік; бацвінне бульбы. *За тынам відаць высокі бульбе́ўнік.* Урбаны Брасл. *Бульбе́ўнікам даўней кароў кармілі.* Надазер’е Глыб. *Яшчэ скасіць бульбе́ўнік трэба, а потым капаць.* Уна Лёзн. *Пайду бульбе́ўнік жаць.* Мілашова, Ясева Міёр. *Пакуль я прыйду, ты бульбе́ўнік саграбі.* Баеўка Шум. *Бульбо́ўніна ссохла – капай бульбу.* Сапраны Віц. Параўн. *бульбя́шнік*[1], *бульба́шнік, быліна, быллё* ў 1 знач., *бы́льнік* у 2 знач. 2. Памяшканне для захавання бульбы. *Пасля вячэры пайду ў бульбе́ўнік, набяру бульбы на заўтра.* Чарневічы Глыб.

БУЛЬБЕ́ШНІК гл. БУЛЬБЯ́НКА[1]

БУ́ЛЬБІНА *ж.* Жарт на Купалле, калі каменьчыкам ці бульбінай на нітцы грукаюць у акенца. *Бу́льбіну якой-небудзь бабулі зробяць.* Машчоны Сен.

БУ́ЛЬБІШЧА гл. БУЛЬБЯ́НКА[1]

БУЛЬБО́ЎНІНА гл. БУЛЬБЕ́ЎНІК

БУЛЬБЯ́НКА[1] *ж.*, БУЛЬБЕ́ШНІК *м.*, БУЛЬБЕ́ЛІШЧА, БУ́ЛЬБІШЧА *н.* Бульбянішча; поле, дзе расла ці расце бульба. *На бульбя́нке цяпер пшаніцу сеіць будзем.* Ёды Шарк. *Паеду на бульбе́шнік ганяць жукоў.* Ульянавічы Сен. *Учора суседзі бульбе́лішча зааралі, сёння мы зааром, калі каня дадуць.* Беразіно Докш. *Хадзіла падчышчаць бу́льбішча.* Доўжа Віц.

БУЛЬБЯ́НКА[2] *ж., часцей мн.* БУЛЬБЯ́НКІ *кулін.* Бліны ці піражкі з варанай тоўчанай бульбы і мукі. *Бульбя́нак наляпіла, хадзіця есці.* Азярцы Глыб. *Бульбя́нкі смачна есці са смятанай і адразу цёпленькія.* Стуканы Глыб. *Бульбу таўклі ў ступе разам з мукой; як добра вытаўкуць – тады качалі. Нада, каб было многа мукі, тады бульбя́нкі выхадзілі смачныя, падымаліся, як пышкі. Бульбя́нкі пяклі з любой мукой – з пшанічнай, ячменнай,*

*гарохавай.* Лукашова Паст. *Ад бульбя́нак у хаце паху...* Ляхаўшчына Паст. Параўн. *бульбя́шнік* [2].

БУЛЬБЯ́ШНІК[1], БУЛЬБА́ШНІК *м.* Бульбоўнік; бацвінне бульбы. *Бульба сёлета пашла ў бульбя́шнік.* Задроўе Арш. *Бульбя́шнік высокі, а ці добрая будзе пад ім бульба?* Сокарава Беш. *Жук не паеў бульбя́шнік, то, дасць бог, ураджай будзе.* Грынеўшчына Докш. *Хутачкі пачнем касіць бульба́шнік.* Промыслы Беш. Параўн. *бульбе́ўнік, бульбо́ўніна* ў 1 знач., *быліна, быллё* ў 1 знач., *бы́льнік* у 2 знач.

БУЛЬБЯ́ШНІК [2] *м., часцей мн.* БУЛЬБЯ́ШНІКІ, БУЛЬБІ́ШНІКІ, БУЛЬБЯШЫ́, БУЛЬБЯ́НІКІ, БУЛЬБЕ́ШКІ, БУЛЬБЯЧЫ́ *кулін.* Бліны-дранікі або піражкі ці бліны з тоўчанай варанай бульбы з начынкай. *Бульбя́шнікі вельмі смачныя, але ж доўга вазіцца з імі.* Кавалі Глыб. *Мама бульбя́шнікі смашныя рабіла, у мяне не такія смашныя.* Бубалі Шум. *Зараз натру бульбу, зробім бульбя́шнікаў.* Слабада Шум. *Цеста з бульбы раскатывалі блінамі і заварачывалі капусту, а можа, і грібы. Во і бульбі́шнікі.* Вядзерава Беш. *Шчас вам бульбяшо́ў нараблю.* Залессе Глыб. *Смашна бульбя́нікі з малаком есці.* Горкі Леп. *Дзед вельмі любіць бульбе́шкі, трэба будзе заўтра напячы.* Сяло Гар. *Як напічом бульбячо́ў, дык ядзём патом яшчэ два дні.* Бараноўскія Шум. Параўн. *бульбя́нка*[2].

БУ́ЛЬКА *ж., бат.* Бручка. *Калі бу́льку патушыць – смаката.* Сяргеева Рас.

БУ́ЛЬМА *ж., бат.* Бульба. *Бяры, еш бу́льму ў печы.* Антаполле Чаш. Параўн. *барабо́ля, барабу́ля.*

БУМАЗЕ́Я *ж.* Фланель. *Мне дачка пашыла дзве кофтачкі з бумазе́і.* Пралетарыя Уш.

БУМАЗЕ́ЙКА *ж.* Хустка з паркалю. *Дзе ж гэта мая бумазе́йка дзелася?* Каўровая Дубр.

БУМБЭ́ЛАК *м., груб.* Жывот, набіты ежай. *Наеў свой бумбэ́лак, аж хадзіць трудна.* Туркова Міёр. Параўн. *брух, бэ́бах.*

БУ́НДАЧКА *ж.* Сарочка. *Самі шылі сабе бу́ндачкі.* Угрынкі Уш.

БУНТАВА́ЦЬ *незак.* Блытаць, збіваць з панталыку. *Што ты мяне бунту́еш? Я сама ведаю, як трэба.* Шантары Докш. *Сёння я нешта ўсё бунту́ю.* Белая Ліпа Сен.

БУРА́К *м.* Грубка або галандская (круглая) печ. *Трэба тапіць бура́к, каб цяплей было.* Сяло Гар. *У хаце цёпла зімой, бура́к топіцца.* Лугавыя Віц. *У зале ў мяне бура́к стаіць.* Сушчова Віц. *Перадзелалі бура́к у хаці.* Смародзіна Лёзн. *Бура́к ужо гарачы.* Рыпіншчына Шум. *Павешай адзежу ля бурака́, хай пасохне.* Кузняцова Віц.

БУРАЧКІ *мн., кулін.* Боршч. *Сёння на абед зварыла бурачкі.* Папшулі Міёр. *Заўтра трэба будзе бурачкоў зварыць на дзень.* Нярэйша Сен.

БУРА́ЧНІШЧА *н.* Поле пасля ўборкі буракоў. *Бацьку мы знайшлі каля бура́чнішча.* Грыцы Глыб.

БУ́РБАЛКА *аг., асудж.* Буркун; бурклівы чалавек. *Яму не жонка папалася, а бу́рбалка: вечна злая, пастаянна бурчыць.* Замошша Брасл.

БУ́РБАЛЫ *мн.* Пузыры на вадзе ў час дажджу. *Калі бу́рбалы на лужах, то доўга яшчэ дождж́ык іцці будзіць.*Ваўчо Уш. Параўн. *бо́лбаткі, бу́лба́ткі.*

БУРБУЛЕ́ЦЬ *незак.* Бурліць. *Супа на пліце пачынае бурбуле́ць.* Промыслы Беш.

БУ́РВАЛКА *ж.* Вялікі кавалак чаго.-н. *Што ты гэтакіх бу́рвалкаў накрышыў? Дробна трэба!* Кавалі Глыб.

БУРЗО́ЛІЦЦА *незак.* Неахвотна есці. *Што ты бурзо́лішся ў супе? Еж і не перабірай!* Кавалі Глыб.

БУРЛЫ́ШКА *ж.* Месца ў ручаі, дзе бурліць вада. *Яны, наверна, на бурлы́шку пашлі глядзець.* Баева Дубр. Параўн. *бурча́к.*

БУРНУ́ЦЬ *зак.* Шпурнуць, кінуць. *Хто далей бурне́ – той і перамог.* Вядзерава Беш.

БУРТ *м.* Насып. *Сядзеў на канаве на бурту́.* Станіславова Дубр.

БУРУЗДЗЕ́ЦЬ *незак.* Невыразна гаварыць незразумелае. *Дзядзька, прыйшоўшы з працы на падпітку, буруздзе́ў амаль цэлы вечар.* Гарадок.

БУРУЗДЗІ́ЦЬ *незак.* Памешваць. *Ён не еў суп, а толькі буруздзі́ў лыжкай у талерцы.* Мехавое Гар.

БУРЧА́К *м.* Месца ў рацэ, дзе хуткае цячэнне і бурліць вада. *На бурчаку́ злавіў акуня.* Гарбацэвічы Арш. *На бурчаку́ хацеў злавіць рыбіну.* Будзішча Шум. Параўн. *бурлы́шка.*

БУ́РЫ *мн.* Вялікія хвалі. *У навальніцу такія бу́ры на возеры!* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *бара́н* [3].

БУРЭ́НЯ *ж.* Карова. *У вёскі без бурэ́ні не пражывеш.* Янкавічы Рас.

БУРЯ́К *м.* Мелкае месца на рацэ з невялікім вадаваротам. *Уся рачная рыба зараз стаіць на буряка́х.* Крывіцкі Шум.

БУСЛА́К, БУ́СЬКА *м.* Бусел. *Буслакі ў нас на бярёзіне гняздо звілі.* Вадзянікі Гар. *Бу́ські кружаць над дахам.* Псуя Глыб. Параўн. *бацья́н, бо́ця, бо́цян, буця́к, буця́н, буцья́н.*

БУ́СЫ *прым.* Шэры. *Я пакінула сабе бу́сага коціка, а сястра белага.* Мікіціха Шум.

БУТЛЫ́ГА гл. БУТЛЯ́К

БУ́ТЛЯ *ж.* Вялікая скрыня для захавання бульбы. *Дзед ссыпаў бульбу ў бу́тлю.* Мілашкі Брасл.

БУТЛЯ́К *м.*, БУТЛЫ́ГА *ж.* Буталь (бутля). *Бутлякі бываюць і па дзесяць, і па пітнаццаць літраў.* Мілашова Міёр. *Бярозавы сок нада наліць у бутлыгу.* Казімірова Пол.

БУТО́ВАЧКА *ж.* Невялікая плошча зямлі. *Пасадзіў бульбу на буто́вачкі.* Зорніца Леп.

БУ́ХАН *м.*, БО́ХАНКА, БУХА́ТКА *ж.* Буханка (бохан) хлеба. *Няма цяпер каму бу́хан прынесці.* Камары Віц. *Сянні купіла тры бо́ханкі хлеба.* Бігосава В.-Дзв. *У вайну голад вялікі быў, чвэрць буха́ткі хлеба на чалавека ў дзень давалі.* Сваташыцы Дубр. *Дзед Іван заўсягды купляе толькі дзве буха́ткі хлеба.* Ляды Дубр. Параўн. *бонда*[1].

БУХО́НЫ *прым.* Вялікі. *Які кабанчык бухо́ны!* Альгова Гар. *А сколька ягад бухо́ных у нашых лісах!* Чаўнышкі Беш. *У нас харошы лес, там столькі ягад, а бухо́ныя такія!* Слабада Уш.

БУ́ХТА *аг., груб.* Сварлівы чалавек. *З бу́хтай ладу не будзе, толькі сварка.* Чашнікі.

БУ́ЦАЛЫ *мн.* Вялікія гумавыя боты. *Такі дож, ажно бу́цалы прішлось даставаць.* Кузняцова Віц.

БУ́ЦЫ *мн.* Вялікія мужчынскія боты ці чаравікі. *Новыя бу́цы дзеду былі цесныя.* Нямойта Сен.

БУЦЯ́К, БУЦЯ́Н, БУЦЬЯ́Н гл. БАЦЬЯ́Н

БУЦЯНЁНАК гл. БАЦЯНЁНАК

БУЧ *м.* Скандал, перапалох. *Тады падняла я буч з-за этых дохлых курэй.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *буза́* ў 2 знач.

БУ́ЧА *ж.*, БУ́ЧАНЬ *м.* Прылада для лоўлі рыбы. *Сёння ў бу́чу папала толькі тры рыбіны.* Балаі Паст. *Паглядзі бу́чань, ці не трапіла якая рыбіна.* Ветрына Пол.

БУШНЕ́ЦЬ *незак.* Таўсцець, паўнець. *Нявестка з дня на дзень бушне́е, ці не нявольная яна?* Труды Пол. *Суседка бушне́е – з чаго б ета?* Псуя Глыб. Параўн. *бубне́ць.*

БУЯКІ́ *мн.* 1. Любыя буйныя ягады. *Набралі чарніц – адных буяко́ў!* Ваўкі Паст. 2. Брусніцы. *Калі буякі зварыць з дулямі – такая смаката, што за вушы не алдцягнеш.* Уна Лёзн. Параўн. *брушніца, брушніцы.*

БУЯ́НІЦЬ *незак.* Буяць; бурна, хутка расці. *Бульба буя́ніць пачала.* Ноўка Гар.

БУЯ́ННІК *м.* Буячнік; буяковы зараснік. *Не лезь у буя́ннік, а то яшчэ якая гадзюка ўкусіць.* Шарагі Міёр.

БЫДЛО́ВЫ *прым.* Быдлячы; кармавы, прызначаны для быдла. *Схадзі, сынку, на гарод, нарві свіня́м травы быдло́вай.*

Муляры Паст. *Там во ёсь і красныя бурачкі, і быдло́выя.* Лонск Шарк. *У гэтым годзе быдло́выя буракі павырасталі, як коні, хоць утраём адзін падымай.* Германавічы Шарк. *Быдло́выя буракі садзілі, як гадавалі свіней.* Папкі Шарк.

БЫ́ДЛЫ *мн.* Сена з перарослай, перастаялай травы. *Сёлета накасілі абы-якога сена – адны бы́длы.* Зубава Арш. Параўн. *бадыллё.*

БЫДЫ́ЛКА *ж.* Бадыліна; голае сцябло. *Гэтыя вусені ўсю капусту паелі, пакінулі толькі адны быды́лкі.* Клясціцы Рас.

БЫ́ЗАЎКА *ж., заал.* Гіз; авадзень, сляпень, вялізная муха. *Бызаўка нас не палохалася.* Мыкава В.-Дзв. *Што муха – бы́заўка, а авадзень – яшчэ большая, ад аднаго шуму вушы закладаіць.* Бараны Глыб. *Нейкая бы́заўка ў хату заляцела, носіцца, як угарэлая.* Спігальшчына Міёр. *Вакол каня лёталі бы́заўкі.* Вераб'і Глыб. *У гэтым лесе многа бы́завак.* Леснікі Глыб.

БЫ́КСА *м.* 1. *заал.* Цяля, бычок. *А аднойчы бы́кса спадніцу маю з'еў – і нічога, да сяго дня жывы.* Задуброўе Віц. Параўн. *бычанёнак, бычано́к, бэ́рка* ў 2 знач. 2. *перан.* Пра паўналетнюю дзяўчыну ў пары нявесты. *Ганна вунь якой бы́ксай стала! Хутка і замуж пойдзе!* Пачаевічы Чаш.

БЫЛІ́НА *ж.* Бульбоўнік; сцябло бульбы. *Хутка ўжо час і быліны скошваць.* Клясціцы Рас. Параўн. *бульбя́шнік* [1], *бульба́шнік, бульбе́ўнік* у 1 знач., *бульбо́ўніна, быллё* ў 1 знач., *бы́льнік* у 2 знач.

БЫ́ЛКА *ж.* Былінка. *І бы́лку адну ні вырваў на градзе.* Коравічы Чаш.

БЫЛЛЁ *н., зб.* 1. Пер'е цыбулі, часнаку; бульбоўнік. *Ніз астаўляй, а быллё адрывай.* Мельніца Шарк. *Быллё ў цыбулі добрае вырасла, а хто яго знае, якія галоўкі будуць.* Азярцы Глыб. *Хутка бульбу капаць: усё быллё пасохла.* Іванаўка Гар. Параўн. *бульбя́шнік* [1], *бульба́шнік, бульбе́ўнік* у 1 знач., *бульбо́ўніна, быліна, бы́льнік* у 2 знач. 2. Быльнік; адзін з відаў палыну – чарнобыль. *О, ужо быллё нарасло!* Матырына Уш. *Усё поле быллём парасло.* Фарынава Пол.

БЫ́ЛЬНІК *м.* 1. Быллё; высакарослае сцяблістае пустазелле, пырнік, бур'ян. *Бы́льнік закрываў хлопчыка аж да плеч.* Кульгаі Глыб. *Сёліта не паспееш скончыць прапалку, як зноў бы́льнік стаіць.* Уздорнікі Сен. *Не́чага касіць, усё бы́льнікам парасло.* Рускі Шум. 2. Бульбоўнік. *Бацька пашоў касіць бы́льнік.* Казімірова Пол. *Бы́льнік ужо скошаны – хутка будзем капаць бульбу.* Зялёнка Пол. *Перад тым як бульбу капаць, трэба абавязкова скасіць бы́льнік.* Якубова Рас. Параўн. *бульбя́шнік* [1], *бульба́шнік, бульбе́ўнік* у 1 знач., *бульбо́ўніна, быліна, быллё* ў 1 знач.

БЫ́РЗАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Дождж ужо даўно бырзаў.* Заточча В.-Дзв.

БЫ́РЛА *н., толькі адз.* Таннае пладова-ягаднае віно. *Купілі тры бутылкі бырла.* Старое Сяло Уш. *Добрага віна ў магазіне нет, адно толькі бырла.* Ваўчо Уш. *У краме няма ніякага віна, акрамя бырла.* Крывіцкі Шум.

БЫ́СЯ-БЫ́СЯ-БЫ́СЯ *выкл.* Так падзываюць быка. *Бысябыся-быся, ідзі ка мне!* Задуброўе Віц.

БЫТ *м.* Жыццё. *Пабачыў і дабра, і гора на сваім быту.* Аколіца Рудава Брасл.

БЫ́ТА, БЫ́ТТА *часц.* Быццам. *А дзяўчына – быта ягадка тая.* Мар'янполле Брасл. *Як бытта ты ня ведала яго, які ён.* Задуброўе Віц. *Бытта будзе мароз.* Крулеўшчына Докш. *Бытта і не было зімы ў гэтым годзе.* Дворышча Рас.

БЫТКАВА́ЦЬ *незак.* Псаваць, дарэмна пераводзіць. *Не быткуй сена, усё адно карова яго не есць.* Каты Шарк. Параўн. *бло́ціць, бо́лціць* у 1 знач., *блэ́ндзіць* у 1 знач.

БЫЧАНЁНАК, БЫЧАНО́К *м.* Бычок. *Ні прыдумаю, што дзелаць з бычанёнкам: шкада здаваць і дзяржаць цяжка.* Велеўшчына Леп. *Што здзелалась з бычанёнкам? Ня есць нічога.* Пожанкі Сен. *Мы з Сянна бычанка́ прывезлі.* Расходна Сен. Параўн. *быкса* ў 1 знач., *бэ́рка* ў 2 знач.

БЫЧА́ТНІК *м.* Хлеў для быкоў. *У быча́тніку два быкі спусціліся, нада прывізаць.* Літусава Сен.

БЫЧЫ́ННІК *м., бат.* Васілёк лугавы. *Сягання нарвала на лузе бычы́нніку.* Коўзаны Паст. Параўн. *бу́каўнік.*

БЫШКАВА́ЦЬ *незак.* Перажываць. *Ты не бышку́й, усё будзе добра.* Ваўкоўшчына Шарк.

БЭ́БАНЬ *м., асудж.* Тоўсты чалавек. *Ён ужо стаў як бэ́бань.* Жукоўшчына Шарк.

БЭ́БАХ *м.* Жывот. *Немец ударыў мяне ў бэ́бах.* Нурава В.-Дзв. Параўн. *брух, бумбэ́лак.*

БЭД *м.* Безвыходнае становішча. *Прышлі з дочкамі ў лаўку, і яны мяне так увялі ў бэд, што прышлося сёе-тое купіць.* Крычава Міёр.

○ БЭЗ ЧО́РНЫ *м.* Бузіна чорная. *На ўскрайку леса паўсюль бэз чо́рны расце.* Язна Міёр.

БЭ́ЗАР *м.* Базар. *Бацькі паехалі на бэ́зар за прадуктамі.* Антонаўка Арш.

БЭ́ЗІЦЬ *незак.* Гаварыць невыразна, мармытаць. *Што ты там бэ́зіш? – Ды не, нічога, табе здалося.* Серкавіцы Тал. Параўн. *бару́здзіць* у 2 знач.

БЭ́ЙБУС *м.* Неслух. *Малы рос бэ́йбусам.* Нурава В.-Дзв. *От, малы бэ́йбус!* Гарадзец Шарк.

БЭ́ЛДА *аг., лаянк.* Балда, несур'ёзны чалавек. *Ну ты бэ́лда! Што ж ты творыш?!* Янушова Докш.

БЭ́ЛЬКА[1] *ж.* Вяроўка для бялізны. *Маці развесіла на бэ́льку памытую бялізну.* Вялікая Пярэспа Сен.

БЭ́ЛЬКА [2] гл. БЕ́ЛЬКА

БЭ́ЛЬНІК *м., бат.* Бэз. *Пад самым ганкам рос бэ́льнік.* Вялікая Пярэспа Сен.

БЭ́НДЗЫ гл. БА́НДЗЫ

БЭНСЬ, БЭНСЮ́Р *м.*, БЭ́НСЯ *н.* 1. Пазашлюбнае дзіця; байструк. *Вунь бэнсь пабег.* Анэліна Тал. *Усе кажуць, што ён бэнсь.* Выдрэя Лёзн. *Таму бэ́нсю я ўжо казала, каб не лазіў у чужы сад.* Іванск Чаш. *Ля хаты бегала малое бэ́нся.* Гарадок. Параўн. *багда́нец, банка́рт* у 1 знач., *баху́р* у 1 знач. 2. Падшыванец. *Не ведаю, што і рабіць з гэтым бэ́нсем; нейкае гора на маю галаву!* Проземля Чаш. 3. *заал.* Кураня, якое курыца выседзела без ведама гаспадыні, тайна. *Курыца прывяла на двор бэнсюро́ў.* Тупічына Шарк. Параўн. *банка́рт* у 2 знач., *баху́р* у 2 знач., *ба́хурка.*

БЭ́РА-БЭ́РА-БЭ́РА *выкл.* Так склікаюць авечак. *Я маладога баранчыка з соскі выкарміла, ён дрочны стаў, як пазаву яго: "Бэ́ра-бэ́ра-бэ́ра!", – так і трэцца да міне.* Кубелеўшчына Шарк.

БЭ́РАТ гл. БАРЭ́Т

БЭ́РВА *н.* Бервяно. *Яна ляжала на ложку, нібы бэ́рва асінавае.* Андронавічы Віц. Параўн. *бярно́.*

БЭ́РКА, БЭ́РЬКА, БЭ́РА *м., заал.* 1. Баран. *У садзе пасецца навязаны бэ́рка.* Забор'е Глыб. *Бэ́рка ўпёрся, дамой не ідзець. У суседа бэ́рка ўчора як ашалеў, ніхто падысці ні мог.* Макаравічы Докш., Паддуб'е Леп. *У хляве адзін бэ́рка толькі застаўся.* Коравічы Чаш. *Наеўся мой бэ́рька і дадому сам прійшоў.* Вымна Віц. *У нас некалі было многа авечак: тры бэ́ры і восім авец.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *бо́рнік, бару́к.* 2. Бычок. *У полі бэ́рка навязаны пасецца.* Новы Пагост Міёр. *У полі му́кае бэ́рка, можа, піць хочыць?* Апанаскавічы Уш. Параўн. *бычанёнак, бычано́к, бы́кса* ў 1 знач.

БЭ́СІНА *ж., бат.* Дрэва. *Гуталку зрабілі на бэ́сіне.* Кугоні Уш.

БЭ́ХАН *м.* Удар кулаком. *Палучыў бэ́хана і ўспакоіўся, відаць, па-другому ні панімаіш.* Стар Арш.

БЯГНЯ́ гл. БЕ́ГАНКА

БЯЗЛА́ДВІШЧА *н.* Беспарадак, бязладзіца. *А каля хаты такое бязла́двішча.* Бортнікі Глыб. Параўн. *байра́н, біру́бальнік.*

БЯЗУ́ЛА *аг., асудж.* Абібок. *Ніколі з твайго бязу́лы ўжо толку ня будзіць!* Барсукі Дубр.

БЯЗУ́РНІК *м.*, БЯЗУ́РНІЦА ж., БЯЗУ́РНЫ прым. Пястун, балавень, непаседлівы чалавек, шкадлівае дзіця. *У мяне пляменнік – ну такі бязу́рнік!* Задроўе Арш. *Ну ты і бязу́рнік, дзядзька, як малы!* Сокарава Беш. *Ён адзіны ў маці, таму і бязу́рнік.* Рудня Гар. *Гэты бязу́рнік зноў палез пад стол.* Марозава Гар. *Маліц твой вялікі бязу́рнік.* Езярышча Гар. *Які ж бязу́рнік гэты хлопец – усюды ўлезе!* Радчонкі Гар. *Сын у яе – бязу́рнік, намучыцца яна з ім.* Залучча Гар. *Ах ты, бязу́рніца.* Канашы Гар. *Такей бязу́рнный, што спасу ад яго німа.* Канашы Гар.

БЯЛА́СНЕ *безас.-прэдык. слова.* Добра. *Як вам бяла́сне тут!* Казяны Брасл.

БЯЛЁВЫ *прым.* Надта белы, выбелены, чысты. *Купляліся бялёвыя ніткі.* Гаравыя Пол. *Дзе мая бялёвая рубашка?* Ноўка Віц. *Якая ў цябе скацерка бялёвая, наверна, "Арієляй" мыеш.* Камоскі Беш.

БЯЛЁНАЕ гл. БЯЛЁНЫ [2]

БЯЛЁНКА гл. БЯЛЁНЫ [2]

БЯЛЁНЫ[1] *прым.* Забелены малаком. *Булёну бялёнага зварым вечарам.* Урбаны Брасл. *Можа, чаго бялёнага на вячэру зварым, а то мяса ўжо надаела. У нас бялёную фасоль лепі ядуць, чым пракіда́ную.* Лукашова Паст.

БЯЛЁНЫ[2] *наз., м.*, БЯЛЁНКА *ж.*, БЯЛЁНАЕ, БЕ́ЛІНАЕ, БЯЛО́Е *н., толькі адз., кулін.* Малочны суп. *Сварю я сянне бялёны.* Грабяніца Віц. *Бялёны – смашны суп, мае дзеці любяць яго.* Варашылы Сен. *Маці зварыла на абед бялёнку.* Езярышча Гар. *Бывала, варыць маці бялёнае, а мы ўжо з лыжкамі сядзім, чакаем.* Дразды Віц. *Унукі дужа любяць бялёнае з рісам: я туды ім і сахарку з маслам пакладу – за вушы не адцягнуць.* Загарадна Лёзн. *Бялёнае елі і вутрам, і вечарам.* Стасева Лёзн. *Сёння бе́лінага навару – каб елі!* Лазоўка Сен. *На абед прыгатавалі бяло́е.* Міхалінава Лёзн.

БЯЛЁХА *ж.* Гарэлка. *Не чуў, ці прывезлі бялёху ў магазін?* Плюсы Брасл.

БЯЛІ́ЦЬ *незак.* Прыпраўляць страву малаком. *Я як бялю́, дык бялю́, не шкадуючы, бо майму нельга есці жырнага.* Стуканы Глыб.

БЯЛЛЁ *н.* Адзенне. *У маёй бабулі шмат бялля́, якое яна насіла яшчэ ў маладосці.* Дразды Віц.

БЯЛО́Е гл. БЯЛЁНЫ[2]

БЯЛО́СЛІЎКА *ж., бат.* Сліва з белымі пладамі і плады з гэтага дрэва. *Сёліта бяло́сліўка нічога, можна есці.* Заслонаўка

Арш. *У бялóсліўкі лісты святлей, чым у сіняй слівы.* Заслонаўка Арш. *Бялóсліўка смачнейшая за сінюю сліву.* Крынкі Лёзн.

БЯЛТÓК *м.* Бялок. *У пірог бялтóк патрэбна разбіваць да пены.* Цясты В.-Дзв. *Бялтóк курчатам не крышы.* Сардыкі В.-Дзв. *Адзялі бялтóк ад жаўтка.* Боркавічы В.-Дзв. *Жаўток з яек дзіцяці даю, а бялтóк сама ем.* Марачкова Рас.

БЯЛЬМÓГ *м.* Вілы. *Хутчэй хапай бяльмóг і бяжы складаць сена.* Турчына Міёр. *Без бяльмóга ў гаспадарцы не абысціся.* Мікалаёва Міёр.

БЯЛЬЧЫ́ЦЬ *незак.* Разбіраць. *Авечку зарэзаў, а цяпер буду бяльчы́ць.* Сяляўшчына Рас.

БЯЛУ́ХА *ж., мед.* Віціліга; хвароба, якая праяўляецца белымі плямамі на скуры. *Ня мый, я табе кажу, калі малы спіць: бялу́ха будзе!* Спігальшчына Міёр.

БЯЛЭ́Й *прым.* Белы. *На полі бялэ́й камінь ляжыць.* Ноўка Віц.

БЯЛЮ́ГА гл. БЕЛЮГА́

БЯЛЮ́К гл. БЯЛЯ́К[1]

БЯЛЯ́К[1], БЯЛЮ́К, БЯЛЯ́Ш *м., бат.* 1. Баравік. *У беляка́ шапачка можа быць і светла-карычневай, і цёмна-карычневай.* Плісы Беш. *Дзед насабіраў цэлую карзіну белых грібоў – белякóў.* Асташэва Лёзн. *Дзед адных белякóў прынёс.* Вялікія Смалянцы Чаш. *Усяго адзін бялю́к на ўвесь кош.* Вялікая Пярэспа Сен. *Учора прынеслі поўны кош адных белюкóў.* Крынкі Лёзн. *Высушаныя беляшы́ – найлепшая страва зімой.* Выдрэя Лёзн. Параўн. *бароўка*[3], *барвік.* 2. Белы грузд. *Белякóў набралі пасаліць.* Баяноўшчына Пол. *На выхадзе з леса нашлі кучу белякóў.* Ваўчо Уш. *Белякі хоць на выгляд абы-якія, але на смак дык ого-го!* Боркавічы В.-Дзв., Баяноўшчына Пол. 3. Шампіньён. *Белякі́ – такія грыбы, якія можна вырасціць дажэ ў доме.* Полымя Сен. *Белякóў у лесе – хоць касой касі.* Рашкаўка Докш.

БЯЛЯ́К[2] *м.* Туман. *Раней бяля́к быў такі ўжо густы, не тое што цяпер.* Гацькаўшчына Арш.

БЯЛЯ́К[3] *м.* Светлагаловы чалавек. *У Насці хлопец – бяля́к.* Арханава Міёр.

БЯЛЯ́НКА гл. БЕ́ЛІНА

БЯЛЯ́Ш гл. БЯЛЯ́К[1]

БЯРВЁНКА *ж.* Прыбудова пры хаце без печы. *Рэшата там у бярвёнкі ляжыць.* Заронава Віц. Параўн. *бу́дка* ў 1 знач.

БЯРМЕ́ННЕ, БЯРЭ́МНЯ *н.* Бярэма, ахапак. *Схадзі, прынясі бярме́нне дроў.* Шарагі Міёр. *Прынесла да печы бярэ́мня дроў.* Мельніца Шарк.

БЯРНО́ *н.*, БЁРНА, БЁРНЫ *мн.* Бервяно, бярвёны. *Тое бярно́ пойдзе на дошкі.* Бортнікі Глыб. *Сядзь на бярно́, аддыхайся.* Камінішчына Глыб. *Глядзі, каб бярно́ не скацілася.* Хілаўшчына Докш. *Гэта бярно́ дзед прывёз для пабудовы маста.* Несцераўшчына Докш. *Ля хаты ляжыць бярно́, трэба было б яго разрэзаць.* Папшулі Міёр. *Бярно́ вязлі на хату.* Анкуды Паст. *Бярно́ паплыло па рэчцы.* Полымя Сен. *Памажы мне адцягнуць гэтае бярно́.* Лукомль Чаш. *Бёрна на сабе насілі.* Стар Лёзн. *Бёрны вон стаяць каля сарая.* Бігосава В.-Дзв. *Нашто яны палажылі тут еты бёрны?* Глоданкі Лёзн. *Бёрны мальцы цягаюць на гару.* Гомель Пол. Параўн. *бэ́рва.*

о БЯРО́ЗА ВЯСЁЛКА *ж.*, *бат.* Бяроза без шышак. *З бяро́зы вясёлкі робяць венікі ў баню.* Слабада Шум.

о БЯРО́ЗА ГЛУХА́Я *ж.*, *бат.* Бяроза з шышкамі. *У глухэ́й бяро́зы кара гладзейшая, чым у вясёлкі.* Слабада Шум.

БЯРУ́Н *м.* Воўк, які нападае на свойскую жывёлу. *Ноччу зноў прыходзіў бяру́н – забраў авечку.* Лёзна.

БЯРУ́ШНІК *м.*, *часцей мн.* БЯРУ́ШНІКІ *бат.* Падбярозавік. *Бяру́шнікаў сёліта як ніколі.* Крыпулі Докш. *Насабіраў поўны кошык бяру́шнікаў. Бяру́шнікі растуць пад бярозамі.* Шарагі Міёр. Параўн. *ба́бачка* [1], *балатніца, бало́тнік* [2], *беразня́к* [2].

БЯРЭ́МНЯ гл. БЯРМЕ́ННЕ

БЯСКІ́ШКІ *прым.* Худы, з упалым жыватом, перахлябісты. *Мужык мой зусім бяскішкі, хоць і кармлю яго добра.* Гарбацэвічы Арш. *Быў такі бяскішкі, што казаўся дзіцём.* Грынеўшчына Докш. *Такіх бяскішкіх у маракі не бяруць.* Камень Леп. *Такі бяскішкі, што здаецца, дунь – і паваліцца.* Высачаны Лёзн.

БЯТЛА́ГА *ж.* Заднёная з двух бакоў невялікая (на паўвядра) бочачка для вады з дзіркай збоку. *Налі ваду ў бятла́гу і прынясі на поле.* Слабада Шум.

БЯ́ТЫ *мн.* Авечкі. *Вечарам гоняць кароў, дык бя́ты спераду лятуць, а каровы ззаду плятуцца.* Таўкіні Шарк.

# В

ВА́БІЦЬ *незак.* Марнаваць, траціць час без карысці; марнатравіць. *Што ты ва́біш, паглядзі, дзе сонца!* Глінніца Леп.

ВАБРАЗІ́ЦЕЛЬНА *прысл.* Ганарыста. *Яны ўсігда дужа вабразі́цельна сябе вядуць.* Забалацце, Стар Арш.

ВАВЁРКА *ж.*, *бат.* Грыб лісічка. *Вавёрак сёліта многа, мяхамі людзі носюць.* Едлавічы Брасл.

ВА́ГАМ *прысл.* Марудна, павольна. *Буланага каня нічым ні падгоніш, ён усігда ва́гам ідзець.* Барсукі Дубр.

ВАГА́Н *м., экспр.* Здаровы, мажны мужчына. *Гэткі вага́н, а ляніцца ро́біць.* Ясева Міёр.

ВАГКІ́ *прым.* Цяжкі, які мае вялікую вагу. *Слоік мёду, хоць і нівялікі, а ў руках вагкі́.* Русіна Паст. Параўн. *ве́скі.*

ВАГУ́Л *прысл.* Разам. *Ваґул сабраліся ўсе. І светла стала ў хаце. Дачка з Віцебску прыехала, сын з Мёр, і матка, і бацька – добра!* Папкі Міёр.

ВА́ДА *ж.* Загана, недахоп. *У хлопца была адна ва́да – папсаваная рука.* Нурава В.-Дзв., Малыя Пышнагоры Леп.

ВАДАМЕ́РЫ *мн., заал.* Мошкі, якія плаваюць на паверхні вады. *Вадаме́ры прыгаюць па вадзе.* Даўгінава Міёр.

ВАДАНО́СЫ *толькі мн.* Каромысел. *Ускінь ваданосы на плечы, прынясі вады.* Лужкі Шарк. Параўн. *во́рчык* у 2 знач.

ВАДАСТО́Й *м.* Невялікі вадаём, у якім доўгі час не высыхае вада. *І калі ўжо гэты вадасто́й сыйдзе.* Бачэйкава Беш.

ВАДЗЕ́НЬ *м.* 1. *заал.* Авадзень. *Во, яшчэ прычапіўся вадзе́нь.* Стайкі Віц. *Мяне ўчора вадзе́нь укусіў.* Езярышча Гар. *Пайду за каровай у поле, а то вадні́ з'ядуць.* Вадзянікі Гар., Вядзерава, Гарбачы, Лабачова Беш., Ваяводкі Віц., Папшычы Глыб., Міхалінава Лёзн., Багушэўск, Машканы Сен., Лукомль Чаш., Галі Шум., Ноўка Гар. 2. Надакучлівы чалавек. *Во ўжэ дзе вадзе́нь, не адчэпічцца ад міне.* Вярэчча Гар.

ВА́ДЗІЦЦА *незак.* Сварыцца, быць у нязгодзе. *Ужо ва́дзюцца. Крыку поўна хата.* Стралкі В.-Дзв. *На вуліцы дзве суседкі ва́дзюцца.* Вярэнькі Паст. *Матка з сынам дужа ва́дзіліся, дык сын дажа на свадзьбу не пазваў.* Рошчына Сен., Латышы Глыб., Крыпулі, Макаравічы Докш., Анкуды, Варапаева, Гута Паст., Слабада Шум. Параўн. *валькава́цца.*

ВАДЗЯНІ́К *м., заал.* Земнаводнае, якое нагадвае яшчарку; трытон. *Я малых вадзяніко́ў не лавіла ў дзецтве, а баялась больш, чым жаб і мышэй.* Крывое Тал.

ВА́ДКА *ж.* Зва́дка, сварка. *Дома апяць ушчалася ва́дка.* Макаравічы Докш. *Хоць і кажуць, што німа тэй хаткі, каб ні было ва́дкі, алі ж мы ні ва́дзімся. А даўней усяк было: і ва́дка і благата.* Труханкі Паст. *Адны ва́дкі ў іх, ніколі міру няма.* Бугаі Сен.

ВАЕ́НШЧЫНА *ж., толькі адз.* Узброеныя сілы, армія. *Дык яго ж у вае́ншчыну забралі.* Свілелі Паст.

ВА́ЖКА, ВАЖКО́ *безас.-прэдык. слова.* Цяжка. *Несці было дужа ва́жка.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Важко́ жыць у наш час.* Зубава Арш.

ВАЗАНІ́ЦА, ВАЗО́ННІЦА *ж.* Вазон, гаршчок для вырошчвання пакаёвых раслін. *У новай вазані́цы пасадзіла тэй цвет.* Каралевічы Глыб. *Вазо́нніцу для фікуса дзед зрабіў.* Бушыкі Глыб., Бярозаўка Докш.

ВАЗГА́ЛІЦЦА *незак.* Рабіць што-небудзь марудна, не спяшаючыся. *Што ты так доўга вазга́лішся?* Клясціцы Рас. Параўн. *ва́шкацца.*

ВАЗГО́ЛЯ *аг., неадабр.* Чалавек, які павольна ўсё робіць; маруда. *Ці з такою вазго́ляю рана выбірішся куды?* Барсукі Дубр.

ВАЗНЯ́, ВАЗЬБА́ *ж., толькі адз.* Перавозка, дзеянне паводле значэння дзеяслова вазіць. *Абрыдзела мне гэтая вазня́ – зранку туды вязі, вечарам назад.* Латышы Глыб. *За вазьбу́ як узяліся, дык мінуты дыхнуць некалі.* Слабада Леп.

ВАЗО́Н *м.* Ваза. *Насця, пастаў цвяты етыя ў вазо́н.* Езярышча Гар.

ВАЗО́ННІЦА гл. ВАЗАНІ́ЦА

ВАЗО́ЎНІК *м.* Вазоўня; памяшканне для захоўвання воза. *У бабы Машы ёсць вазо́ўнік.* Шуміліна.

ВАЗЬБА́ гл. ВАЗНЯ́

ВАЗЯРО́ *н.* Возера. *Заўтра пойдзім на вазяро́.* Галі Беш.

ВА́Й *м.* Лямант, крык. *Калі што ні па-ейнаму, такі ва́й падніме, хоць з хаты бяжы.* Язна Міёр.

ВАЙЛА́К *м., часцей* ВАЙЛАКІ́, ВА́ЛЕНЦЫ, ВА́ЛІНЦЫ *мн.* Валёнак, валёнкі. *Вайлакі́ – самае луччае абуванне на зіму.* Карпішкі Брасл. *Вайлакі́ зусім скорчыліcь.* Балаі Міёр. *Цяперака пагода такая, што і ў маі вайлакі́ ні мяшаюць.* Навасельцы Шарк. *Дзе вайлакі́ мае ўжо. Хто пераставіў у кладоўку?* Гараўцы Міёр., Азярцы, Воўкаўшчына, Папшычы Глыб., Слабада Докш., Аліхверы Паст. *Ва́ленцы мае зусім ужо знасіліся.* Бычыха Гар., Стаўбцы Чаш. *А я ва́лінцы як абую – ніякі холад мяне ні бярэць.* Плюсы Брасл., Асвея В.-Дзв.

ВАЙСТРА́К *м.* Востры прадмет. *Пяту на нейкі вайстра́к усадзіла, баліць цяпер.* Псуя Глыб.

ВАЙЦЯ́ЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць недарэчнае, пустое. *Вайця́іш абы-што.* Крыпулі Докш., Гута Паст. Параўн. *ва́рызгаць.*

ВА́КАЦЬ *незак.* Падаваць час ад часу слабы голас, вякаць (пра катоў). *У сенцах ва́каіць кот.* Ферма Шум.

ВАКНІ́ЦА *ж.* Акно. *А ў суседзяў вакні́цы не такія вузкія, не то што ў вас.* Камоскі Беш. Параўн. *вакно́* ў 1 знач.

ВАКНО́ *н.,* ВАКНЫ́ *мн.* 1. Акно, вокны. *Нада тый цвет паліць, што на вакне́ стаіць.* Камоскі Беш., Ломашы, Шэпелева Глыб., Валкалата Докш., Мікалаёва Міёр., Вялікае Сяло Сен. *Не*

*глядзі ў вакны́ – нядобра.* Бортнікі Глыб., Смалоўка Сен. Параўн. *вакні́ца.* 2. Багністае, небяспечнае месца ў забалочанай мясцовасці, прыродна замаскіраванае (парослае травой). *Чуць у вакно́ не праваліўся, во страху было!* Сарочына Уш.

ВА́Л *м.* Валок сена. *Учора склалі адзін ва́л сена, а сёння нада другі.* Ляхаўшчына Паст. *Загрібай спірва ў вал.* Лётцы, Сураж Віц., Высачаны, За́гарадна Лёзн., Ветрына Пол., Буды Шарк.

ВАЛАВА́ЦЬ *незак.* Валкаваць, зграбаць скошаную траву ў валкі. *Сначала сена разбіваюць, а потым валу́юць.* Полымя Сен.

ВАЛАВЯ́НКА, ВАЛНУ́ШКА, ВАЛНЯ́НКА, ВАЎНЕ́ЙКА, ВАЎНУ́ШКА *ж., бат.* Грыб ваўнянка. *Нашла ў ляску места валавя́нак.* Хілаўшчына Докш. *Я ўжо нарезала ў карзіну валну́шак.* Целяшава Гар., Бабінавічы Лёзн. *Валня́нка пахожа на рыжыкі. Толькі ў валня́нкі на ножкі ёсць лахматая шапачка.* Грыцы Глыб., Нізы Лёзн., Скоғ Сен. *Я па ваўне́йкі пайду, дужа люблю грібы гэтыя.* Выдрэя Лёзн., Котава Віц., Дворышча Рас. *Як будзеш грыбы перабіраць, ваўну́шкі ў другую пасудзіну складай.* Дуброўка Брасл., Загуззе Гар., Полымя Сен.

ВАЛАКІ́ТА *аг., асудж.* Валацуга, бадзяга. *Ну які з яго муж? Як быў змоладу валакі́тай, дык ці ж яго пераробіш?* Будавічы Паст.

ВАЛАКЧЫ́ *незак.* Валачы, несці што-небудзь цяжкае, з цяжкасцю. *Ужо рукі забалелі і плечы зацяклі яго валакчы́.* Смалоўка Гар., Дварэц Чаш.

ВАЛАНСА́ЦЦА *незак.* Бадзяцца, цягацца. *Косцік дзесьці валанса́ўся ўсю ноч.* Балаі Паст.

ВА́ЛАНЦ *м., міф.* Чорт. *Малыя былі, дык усе ва́ланца баяліся.* Барсукі В.-Дзв. Параўн. *ванца́к* у 2 знач.

ВАЛАСА́, ВАЛО́СЫ *мн.,* ВАЛАССЁ, ВАЛО́ССЕ *н., зб.* Валасы. *Валаса́ нада памыць.* Калышкі Лёзн. *Мокрыя валаса́ ні чашы – павыцягваеш.* Кузняцова Віц. *Вало́сы ў яе як дрот.* Залессе Глыб., Смалоўка Сен., Ляхаўшчына Паст., Каршункі, Сасноўцы Шарк. *Запляці ты сваё валассё, а то ходзіш, як лахудра.* Сокарава Беш., Ляды Дубр., Дварэц, Іванск Чаш. *Вало́ссе ў гэтай дзеўкі красівае.* Янкавічы Рас.

ВАЛАСЕ́НЬ *м., бат.* Сівец. *Валасе́нь вакруг нагі абкруціш, патом парцянку – і цёпла. Добра дзержыць цяпло.* Зароўе Леп.

ВАЛАСНІ́К *м., мед.* Валасень; гнойнае запаленне ткані пальца. *У яго валасні́к на пальцу.* Труды Пол. *Валасні́кі доўга зажываюць, калі не лячыць.* Янкавічы Рас.

ВАЛАССЁ гл. ВАЛАСА́

ВАЛАСЯ́НКА *ж., бат.* Ядавіты грыб. *Валася́нкі і мухаморы не збіраюць: яны ядавітыя грыбы.* Запружаны Чаш.

ВАЛАТО́ЎКА *ж.* Высокае пясчанае месца. *На валато́ўку ходзім гуляць.* Заполле Арш. *Устрэцімся на валато́ўках.* Коравічы Чаш.

ВАЛАЎІ́ШЧА *н.* Вытаптанае, спляжанае месца ў агародзе, на полі. *Цыбулю ўсю пакралі, толькі валаўі́шча каля згароды засталося.* П іщчалава Арш.

ВАЛАХА́ТЫ *прым.* Калматы. *Які ў цябе сабака валаха́ты!* Дубінцы, Прыдвор'е Чаш., Фарынава Пол.

ВАЛАХА́ЦЬ *незак.* Кастрыраваць, лягчаць. *Ладны кабаньчык, але ж валаха́ць нада.* Баева Дубр.

ВАЛАЦЦЁ *н., зб.* Асцё. *Калі пройдзіш па полю ячменю, валаццё так наб'еццa ў адзежу, што яго потым не выбраць.* Павулле Уш. Параўн. *васцё, во́сце* ў 1 знач.

ВАЛЕ́НТА *ж., мед.* Эпілепсія. *Каб цябе вале́нта ўзяла!* Макаравічы Докш.

ВА́ЛЕНЦЫ гл. ВАЙЛА́К

ВАЛЕР'Я́НА, ВАЛЯР'Я́НА, ВАЛЯР'Я́НАЎКА, ВАЛЯР'Я́НКА, ВАР'Я́НАЎКА, ВЕР'Я́НАЎКА, ВІРІЯ́НАЎКА, ВІР'Я́НАЎКА *ж., бат.* Валяр'ян. *Бабуля збірала валер'я́ну.* Багданава, Латыгаль Сен. *Валяр'я́на расцець, дзе сыра, яна высокая, с цвятамі.* Малькава Лёзн., Горы Рас. *Выкапаю корні валяр'я́наўкі і прынясу сваім катам, так яны тады п'яныя качаюцца.* Новыя Валосавічы Леп., Скоr Сен., Заазер'е Тал. *Валяр'я́нка ляжала пад паветкай, як агледзіў кот, то што ж ён вытвараў, каб вы толькі відзілі!* Азярцы Глыб., Хілаўшчына Докш., Янкішкі Паст. *У мяне серца хворае, таму часта п'ю настой вар'я́наўкі.* Жаркі Беш. *Вер'я́наўка расцець высокая, а капаюць каренне.* Гарэлькі Дубр. *Дайце яму віріяна́ўкі панюхаць.* Ступакі Дубр. *На нізкам лугу расла вір'я́наўка.* Асташэва Лёзн.

ВАЛЕ́ЦЬ *незак.* Хацець, жадаць. *Я вале́ю заўтра на рыбу на возіра з зяцем з'ездзіць.* Слабодка Гар.

ВАЛЁК[1], ВА́ЛІК *м.* 1. Кругляк, частка бервяна. *На валькі́ вось парэзалі і ў тарапу паклалі.* Сяло Гар., Гарэлькі Дубр. 2. Плоская качалка з зубцамі для прасавання або мыцця бялізны. *Вазьмі ў бабулі валёк на гары, памыем кофту.* Шыліна Шум. *Гэты валёк мне яшчэ бацька рабіў.* Бубалі Шум. *У хаце ў куце стаяў ва́лік – качаць адзенне.* Бервякі Глыб. *Адзежу на качалку накручвалі, а зверху ва́лікам прыціскалі і качалі, ні нада і прас быў.* Мікуліна Глыб., Шклянцы Докш., Галбея, Лукашова Паст.

ВАЛЁК[2] *м.* Ворчык (пры плузе, баране і ў прыпрэжцы). *Валёк злумаўся.* Барсукі Дубр.

ВА́ЛІВА *прысл.* Шмат. *Пісаніны ва́ліва вам.* Баруны Брасл.

ВА́ЛІК гл. ВАЛЁК[1]

ВА́ЛІНЦЫ гл. ВАЙЛА́К

ВАЛІ́СКА *ж.* Дарожная сумка. *Галя зл̄ажыла адзежу ў валі́ску і паехала на поезд.* Драбаўшчына Глыб. *Мар'я прыехала з вялізнай валі́скай.* Касцяні Паст. // Невялікая сумачка. *Ой, якая ў цябе валі́ска, дзе ты яе брала?* Сахнавічы Глыб.

ВА́ЛІШЧА *н.* Высечаны ўчастак лесу, выруб. *На ва́лішчы любяць гуляць дзеці.* Дзеркаўшчына Глыб.

ВАЛКАВА́ЦЬ *незак.* Качаць бялізну валікам. *Збіраліся па дзве хаты, па тры і валкава́лі разам.* Ігнацішкі Паст.

ВАЛНАВА́ННЕ *н.* Хваляванне. *Якое ў яе жыццё, толькі валнава́нне і валнаванне.* Смаляны Арш.

ВАЛНУ́ШКА, ВАЛНЯ́НКА гл. ВАЛАВЯ́НКА

ВАЛО́ЖЫЦЬ *незак.* Запраўляць страву смятанай, тлушчам, маянэзам ці маслам. *Нічога я ні вало́жыла, так салат стаіць.* Белая Ліпа Сен. *Таўклі ячмень, варылі, салілі і вало́жылі салам.* Куціна Шум.

ВАЛО́КА *ж.* Барана. *Вало́кай рыхлілі зямлю.* Закур'е Чаш.

ВАЛО́СКІ *мн.* Памянш. да валасы. *А вало́скі ў яе мякенькіі такіі, як пух.* Дзегцяры Брасл., Надазер'е Глыб.

ВАЛО́СЫ, ВАЛО́ССЕ гл. ВАЛАСА́

ВАЛО́ЎНІК *м., абрад.* Валачобнік. *Кожны год у нас па вёсцы ходзяць вало́ўнікі на Вялікдзень.* Антонаўцы, Ахрэмаўцы Брасл. *Гляньце, колькі вало́ўнікаў ідзе да нас на двор.* Чорнае, Вярцінскія, Гута, Дварчаны Паст.

ВАЛУІ́ *мн., заал.* Пчолы, якія нападаюць на чужыя вуллі. *У гэтым гаду мёда мала. Мо валуі́ пакралі.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *варо́ўкі.*

ВАЛХВІ́Т *м.* Чараўнік. *У дзярэўні валхві́т жыў, дык к яму ўсе хадзілі.* Рубеж Брасл. *Валхві́ты памагалі, у іх валхвіцкіі кніжкі былі.* Валынцы в.-Дзв.

ВАЛХВІ́ТКА *ж., неадабр.* Пранырлівая, лоўкая, хітрая жанчына. *І што за валхві́тка такая! Ну, усё знаіць, усюды лезіць.* Губіца Шум.

ВАЛЫ́НДАЦЦА *незак., экспр.* Быць непаслухмяным, не слухацца. *Я ж табе казаў, хопіць валы́ндацца, вось ціпер будзіш знаць.* Пунішча Віц.

ВАЛЫ́НКА *ж., бат.* Васілёк. *Пайду ў поле, назбіраю валы́нак у букет.* Обаль Шум.

ВАЛЬГО́ТА *ж.* Воля, раздолле. *Тут табе вальго́та!* Мікалаёва Міёр. *У сяле для дзяцей летам вальго́та.* Савуткі Шарк.

ВАЛЬДЭ́БР *м.* Вялікая хата, будынак. *Во, які вальдэ́бр так хутка пабудавалі!* Дрысвяты Брасл.

ВАЛЬКАВА́ЦЦА *незак., экспр.* Сварыцца, быць у нязгодзе. *З сынам толькі што валькава́лася: яго матацыкл зламаўся, дык бацькаў хацеў падхапіць – на вечарыну ехаць.* Латышы, Празарокі Глыб. Параўн. *ва́дзіцца.*

ВАЛЬЦО́ЎКА *ж.* Пшанічная мука першага гатунку. *У магазін вальцо́ўку прывезлі.* Валожанкі Шарк.

ВА́ЛЬЧЫЦЬ *незак.* Нагаворваць, пляткарыць *Яна пачала ва́льчыць на мяне ўсяк.* Анкуды Паст.

ВАЛЯ́К *м.*, ВАЛЮ́ШКА *ж.*, ВО́ЛЛЕ *н.* Валлё ў птушак. *Гусь наеў валя́к.* Дрыгучы Міёр. *У нашага петуха валю́шка малая – значыць, яшчэ галодны.* Пішчалава Арш. *За дзень курыца валю́шку сваю наб'ець.* Казімірова Пол., Цясты В.-Дзв., Сяло Гар., Новыя Валосавічы Леп. *Калі ў курыцы во́лле поўнае – значыць, нахваталась, не галодная.* Кавалі Глыб.

ВАЛЯ́Н *м., асудж.* Гультай, абібок. *Ну і валя́н ты, сорамна павінна быць. Стары ўжо, а рабіць нічога не хочыш.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *ванзэ́лак* [3].

ВАЛЯР'Я́НА, ВАЛЯР'Я́НАЎКА, ВАЛЯР'Я́НКА гл. ВАЛЕР'Я́НА

ВАЛЯ́ЦЬ *незак.* Валіць (валёнкі). *Толька цесць мой умеў валя́ць валёнкі, і тот памёр.* Драгуны Міёр.

ВАНДЗО́НКА *ж., кулін.* Вэнджанае мяса. *Вазьмі вунь паеш вандзо́нкі.* Ноўка Гар., Кашталянаўшчына Глыб., Лучай Паст.

ВАНДЗЭ́ЛАК гл. ВАНЗЭ́ЛАК[1]

ВА́НЕ́НКА *ж.* Ванна. *Добра ў горадзе: у ва́ненку залез і баню тапіць ня трэба.* Галубава В.-Дзв. // Вялікая глыбокая пасудзіна з ручкамі для вадкасці. *Налі вады ў ване́нку, вот і папалошчым бяллё.* Драгуны Міёр. *Такі дождж ліў, што цэлую ване́нку вады набралася.* Язна Міёр.

ВАНЕ́ЦЬ *незак., безас.* Смярдзець. *Ваніць, як ад сабакі.* Лісна В.-Дзв., Княжыца Віц.

ВАНЁТА *ж., экспр.* Брыдкі, вельмі непрыемны пах. *Што за ванёта ў хаце?* Ляхаўка Дубр.

ВАНЗЭ́ЛАК[1], ВАНДЗЭ́ЛАК, ВАНЦЭ́ЛАК *м.* Клунак. *Усю адзежу на смерць у ванзэ́лак злажыла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ванзэ́лак на машыну ўскінула.* Чарневічы Глыб. *Вунь, дзетачка, вандзэ́лак ляжыць, паглядзі там, можа, што знойдзеш.* Абухава, Барсукі, Дзёрнавічы, Каханавічы В.-Дзв., Драгуны Міёр., Вярцінскія, Гута, Вярэнькі, Дварчаны, Лынтупы Паст., Грыбоўшчына, Лужкі Шарк. *Збірацца ў дарогу трэба, ванцэ́лак сабраць.* Ураджайная Глыб.

ВАНЗЭ́ЛАК[2] *м.* Відэлец. *Бяры ванзэ́лак і еш разам з намі.* Галубава В.-Дзв. Параўн. *віда́лька.*

ВАНЗЭ́ЛАК[3] *м., асудж.* Гультай, абібок. *От, ванзэ́лак! Ці ён еў, ці ня еў!* Сокарава Беш. Параўн. *валя́н.*

ВАНТРАБЫ́ *мн.* Вантрабянка, каўбаса з вантробаў. *І яшчэ бралі кішкі і рабілі вантрабы́, а каб не выпаўзала, звязывалі ніткай і вешалі на жэрдку ў чулані.* Белая Ліпа Сен.

ВАНТРО́БА *ж.* 1. Печань. *Вантро́ба часта баліць.* Валкалата Докш., Макаранкі Лёзн. 2. *перан., асудж.* Пра чалавека, які многа есць. *Ты такі вантро́ба!* Круткі Паст.

ВАНТРО́Б'Е *н., зб.* Вантробы; унутраныя органы грудной клеткі і жывата. *Усё вантро́б'е ныець.* Верамеева Рас.

ВАНЦА́К *м.* 1. *мед.* Заварот кішак. *Захварэла маладзіца на ванца́к.* Селішча Уш. 2. *міф.* Чорт. *У купалаўскую ноч у гэтым доме ўсякай нечысці хапае: ведзьмы, ванцакі́, прывіды.* Іванск Чаш. Параўн. *ва́ланц.*

ВАНЦЭ́ЛАК гл. ВАНЗЭ́ЛАК[1]

ВАНЮ́ЧКА *ж., заал.* Лясны клоп. *Я разам з ягадкай з'еў ваню́чку.* Лабачова Беш. *Ваню́чкі водзяцца на кустах, на ягадніку іх многа.* Абаляны Брасл.

ВА́ПЕЛЬНІЦА, ВАПЕ́НІЦА *ж.* Вапнярка; яма, у якой гасяць вапну. *Ва́пельніцу ў нас даўно закінулі.* Анкуды Паст. *Старая вапе́ніца яшчэ і зараз ёсць ля нашай вёскі.* Хралы Глыб.

ВАПЁРКА *ж., заал.* Рыба краснапёрка. *Сягонні пойдзіш па вапёрку.* Судзілавічы Уш.

ВАРАЖА́Й *м.* Варажбіт. *Ты ваража́й?* Селішча Уш.

ВАРАЖЭ́ЙКА *ж.* Варажбітка. *А мне другі раз гавораць: "Дзелаць вам няма што, варажэ́йка ўзялась".* Ноўка Віц.

ВАРАТА́ГА *аг., неадабр.* Пранырлівы, прабіўны чалавек. *Гэты варата́га ні ў агне не гарыць, ні ў вадзе не тоне.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *вы́рва.*

ВАРА́ТАК, ВАРЯТО́К *м.* Кіпень. *Няўдалая стала, хацела гарбаты папіць – вара́ткам луп'е́ папаліла.* Ажуройсці, Муляры Паст. *У чайніку варято́к вазьмі.* Плюсы Брасл.

ВАРАТНІ́К *м.* Прылада ў выглядзе цыліндра для лоўлі рыбы. *Ці ўзяў ты варатні́к на рыбалку?* Наваселле Уш.

ВА́РАЎНЯ́, ВАРО́ЎНЯ, ВА́РЫЎНЯ́ *ж.* Стопка; невялікі будынак для захавання бульбы, агародніны. *Ва́раўню мы цеплім увосень праз дзень, а зімой і кожны дзень, каб не папсуліся заховы.* Далёкія Брасл. *У ва́раўні і малако магло стаяць нават у спёку нядзелю.* Гунчанкі Віц., Дукелі, Дзегцяры, Опса, Мілашкі Брасл., Новы Двор В.-Дзв., Верхняе, Драбаўшчына, Квачы, Лазічы Глыб., Камянполле, Ласкаўшчына, Мікалаёва, Рунды,

Язна Міёр., Дунілавічы, Прамышляды, Сіўцы Паст., Кулінава Уш., Замачак Чаш., Германавічы, Чаромхава, Шыці Шарк. *А ў іх дык бульбы поўна вараўня́.* Вула Беш. *Мех прынясі з вараўні́.* Фарынава Пол., Езярышча Гар. *Бульбы набяры ў варо́ўні.* Новыя Валосавічы Леп. *Трэба ва́рыўню падтапіць – мароз дужэе.* Залессе Глыб. *Бульбу ў ва́рыўні пака паставім.* Туркова Міёр., Бачэйкава Беш., Асвея, Весніно В.-Дзв., Ясевічы Глыб., Жукоўшчына, Лонск Шарк., Гута Паст. *Мужык мой з сынам цэлы воз бульбы адвезлі ў варыўню́.* Езярышча Гар. *У варыўні́ к зіме трэба печку перадзелаць.* Ваўчо Уш.

ВАРАЦА́КІ *толькі мн.* Ваніты. *Пацягнула, якката, на варацакі.* Селішча Уш.

ВАРВА́ЛАК, ВУРВЭ́ЛАК *м.* Вялікі кавалак. *Варва́лкамі салат нарезала.* Таўкіні Шарк. *Яшчэ добры вурвэ́лак сала ёсць у скрынцы.* Лазы Тал.

ВАРГО́ЛЫ *мн.* Вілы. *Не бяры поўныя варго́лы сена, а то цяжка.* Мярэцкія Глыб.

ВАРЛО́Х *м.* Логава ваўка. *Нічаінна напалі на варло́х, во страху было!* Барсукі В.-Дзв.

ВАРНЯ́ЦЦА *незак.* Адчуваць сябе нядужым, хворым, слабым. *Ні жыву – варня́юся.* Сасновая Докш., Камень Леп.

ВАРО́БІК *м., заал.* Памянш.-ласк. да *верабей. Варо́бік гэты пад крышай жыве ў бані.* Машканы Сен.

ВАРО́БУХ *м., заал.* Верабей. *Кот злавіў варо́буха і прынёс у хату.* Грышаны Віц.

о ВАРО́НІ ЗУБ *м., бат.* Спарыння. *Усё жыта чорнае. Варо́ні зуб з'еў.* Зарачыцак Докш., Пралетарыя Уш.

ВАРО́НКА *ж.* Лаз. *Лезь, дзетка, у пограб і падавай мне, а то варо́нка вузкая – я не пралезу.* Верамееўшчына Дубр., Іванск, Тараскі Чаш.

ВАРО́ЎКІ *мн., заал.* Пчолы якія нападаюць на чужыя вуллі. *То ж і ў пчол бывае так, калі мёд крадуць варо́ўкі.* Камары Віц. *Глянь, варо́ўкі паляцелі.* Стасева Лёзн. Параўн. *валуі́.*

ВАРО́ЎНЯ гл. ВА́РАЎНЯ́

ВАРО́ЧАЦЦА *незак.* Вяртацца. *Трэба заўтра варо́чацца дадому.* Міхалінава Лёзн.

ВА́РПА *ж.* Прылада для ачысткі зерня. *Ва́рпа наша ўжо састарэла.* Сіўцы Паст. Параўн. *ватра́к.*

ВАРСАНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Адпіхнуць. *Ён яго як варсану́ў ад сябе.* Высачаны Лёзн.

ВАРТНЕ́ЙШЫ, ВАРТНЕ́Й *прым., выш.* Лепшы, прыгажэйшы. *Мужык вартне́йшы за жонку.* Мікалаева Міёр. *У Лёні*

*почырк вартнейшы, чым мой.* Стралкі В.-Дзв. *Любая дзяўчына за хлопца вартней.* Слабада Докш.

ВАРЎШКІ, ВАРЎШНІКІ *мн., бат.* Грыбы, падобныя на апенькі; вясновыя апенькі. *У нас варушкі не бяруць, кажуць – несур'ёзны грыб.* Белая Ліпа Сен. *Якія зараз грыбы – варушкі ды вясёлкі.* Слабада Шум. *За варушкамі ходзяць вясной, калі пацяплеіць.* Касачы Віц., Ткачы Гар., Грыцы Глыб., Асташэва Лёзн., Дварэц, Лукомль Чаш. *Кажуць, што варушнікі ўжо вылезлі.* Шарагі Міёр.

ВАРУШКІ *прым.* Рухавы, непаседлівы. *А ў цябе жонка варушкая.* Закур'е, Лыскі Чаш.

ВАРЎШНІКІ гл. ВАРЎШКІ

ВАРУШНІЦА *ж.* Качарга. *Вазьмі, Таня, варушніцу, паглядзі печку.* Яроненкі Гар.

ВАРЫЗГАЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць недарэчнае, пустое. *Ні варызгай ты абы-што!* Параўн. *вайцяць.*

ВАРЫЎНЯ гл. ВАРАЎНЯ

ВАР'ЯНАЎКА гл. ВАЛЕР'ЯНА

ВАРЯТОК гл. ВАРАТАК

ВАСВА, ВОСВА *ж.,* ВОСВЫ *мн., заал.* Аса. *Міне васва ўкусіла за паліц, як яблыкі сабіралq, дык, скажу, бальней кусаіцца, чым пчала.* Кубелеўшчына Шарк. *Восва тожа кусаецца, яна жоўценькая.* Шэпелева Глыб. *Ну што ты лезеш як восва?* Воўкаўшчына Міёр. *Апанавалі восвы.* Слабада Міёр. *Восвы як апанавалі, дык чуць уцёк.* Макаравічы Докш. *Пчолы палезныя, а ў восваў адна злосць.* Расходна Сен., Ласіца Паст.

ВАСІЛІШКА *ж.* Мачанка для бліноў. *Я ж табе казаў, што тольқа васілішкі хачу.* Макаравічы Докш.

ВАСІЛЬ *м.,* ВАСІЛЬКА *ж., бат.* Васілёк. *Як васілі зацвітуць – усё сіняе, аж вачам больна.* Ілава Шум. *Ідзі, дачушка, васілёў назбірай, паставім у хаце, свяжэй станіць.* Дроздава Тал. *Васілька расцець у жыці, з васількі плятуць вянкі.* Абухава, Моханава В.-Дзв., Манякова Міёр.

ВАСОЛА *безас.-прэдык. слова.* Весела. *Ай, васола было!* Каленкішкі Брасл., Масленікі Паст., Бугаі Сен.

ВАСОЛЫ *прым.* Вясёлы. *Усе хлопцы васолыя былі і дзевак смяшылі.* Глыбоўшчына Брасл., Лынтупы Паст.

ВАСТРАК *м.* Палка, якая тырчыць з зямлі, патарчака. *Нагу прабіла на нейкі вастрак.* Астроўшчына Пол.

ВАСЦЁ, ВОСЦЕ *н., зб., бат.* 1. Асцё. *Васцё ў ячменя тонкае і калючае.* Грыцы Глыб. *Аб восце ўсе рукі абкалола.* Ветрына Пол. Параўн. *валацце.* 2. Дробныя косці ў рыбы. *Ні люблю падлешчыкаў – васця многа.* Надазер'е Глыб.

ВАСЬМІНА́СТАТЫ *ліч.* Васемнаццаты. *На васьміна́статым годзе ўжэ й сын быў, і хазяйства вялікая было.* Турлы Паст.

ВАСЬМЯРНЯ́ *ж.* Палатно на абрусы, ручнікі, тканае ўзорамі ў 8 нітоў. *Гэтыя ручнікі – васьмярня́, а грубчыя – дымка.* Матырына Леп.

ВАСЭ́ЛЬНЫ *прым.* Вясельны. *Васэ́льная сукенка – ну, вачэй не адвесці.* Белішкі Паст.

ВА́ТНІКІ, ВАТО́ВІКІ *толькі мн.* Цёплыя мужчынскія ватовыя штаны. *Дзед, не ляжы ў брудных ва́тніках на пасцелі.* Бачэйкава Беш., Абаляны, Антонаўцы Брасл., Язна Міёр., Алексінічы Сен., Вялікія Дольцы Уш., Лескавічы Шум. *Надзявай наверх вато́вікі: на вуліцы халодна.* Гомля Пол.

ВАТРА́К *м.* Прылада для ачысткі зерня. *Ватрако́м зярно чысцім ад асоту. Ватрако́м усё зярно прапусцім, і смецце асобна адлятае.* Пятровічы Шарк. Параўн. *ва́рпа.*

ВАТРАНІ́ЦА *ж.* Кош. *Ватраніцай мы называем вялікую кашолку для травы хатняй жывёле.* Велеўшчына Леп.

ВАТЭ́ТЫ *займ.* Гэты. *Ватэ́ты хлопец нічога.* Сасновая Докш., Слабада Шум. *Яны раз ноччу трапілі ў ватэ́ты лес, запалілі агонь, а тут нешта зарагатала.* Баршчоўка Віц.

ВАЎДЫ́Р *м.* Хмара. *У, ваўды́р які насунуўся, мабыць, дождж будзе.* Бачэйкава Беш. *Нешта ваўдыры́ захадзілі, калі хочаш, то сена пазамочаць.* Выдрэя Лёзн.

ВАЎКА́Ч *м., асудж.* Нелюдзімы, злосны чалавек. *У хату зайшоў як ваўка́ч нейкі. Ні табе добры дзень, ні да свіданія.* Папкі Міёр.

ВАЎНЕ́ЙКА, ВАЎНУ́ШКА гл. ВАЛАВЯ́НКА

ВАЎЧАНЁНАК *м.* Ваўчаня. *Дарогу перайшла ваўчыха і два ваўчанёнкі.* Новыя Валосавічы Леп. *Што ты глядзіш на мяне, як ваўчанёнак?* Багатырская Пол.

ВАЎЧА́НКІ, ВАЎЧО́ЎКІ *мн., бат.* Агульная назва неядомых грыбоў. *Глядзі ваўча́нак не назбірай!* Падбярэззе Тал. *Ета ж ваўчо́ўкі, ідзі выкідвай, а то атравімся яшчэ.* Котава Віц.

ВАЎЧО́К[1] *м.* Верх страхі, вільчык. *Зламала буря старую бярозіну, дык яна чуць за ваўчо́к ні зачапілася, як падала.* Іванск Чаш.

ВАЎЧО́К[2] *м., заал.* Насар; данскі ёрш. *У нашай рэчцы ваўчкі́ водзяцца.* Заенкі Пол. *Вельмі добра лавілісь ваўчкі ў мяне.* Буеўшчына Шарк.

ВАЎЧО́ЎКІ гл. ВАЎЧА́НКІ

ВАЎЧЫІНЕ́Ц *м., бат.* Бружмель. *Ваўчы́нец цвіціць маленькімі цвяткамі.* Пірагі Дубр., Крынкі Лёзн. *Вунь сколька ваўчынца́ нарасло!* Павулле, Рацькава Уш.

ВАЎЧЭ́ЦЬ *незак.* Рабіцца нелюдзімым. *Ён жа малады нічога быў, а старэіць, дык ваўчэ́ць пачаў.* Выхадцы Лёзн.

ВАЦІ́НКА *ж.* Ватоўка. *Ну й дош, уся ваці́нка змякла.* Рускі Шум.

ВАША́, ВО́ШЫНА *ж.* Вош. *Не вадзіся ты з ім, а то і да цябе якая ваша́ перапаўзець.* Новы Пагост Міёр., Кубелеўшчына Шарк. *Во́шына, што поўзаіць па курыцы, безурэдная для чалавека.* Далуева Шум., Кавалькі Міёр.

ВА́ШКАЦЦА *незак.* Рабіць што-небудзь марудна, не спяшаючыся. *Што ты ва́шкаешся, і так апаздываем!* Сокарава Беш. Параўн. *вазга́ліцца.*

ВЕ́ДАМНА *безас.-прэдык. слова.* Ведама. *Ве́дамна, цёмна ўжо на дварэ.* Астроўна Беш.

ВЕ́ДАЎКА *ж.* Школа. *Во, раней тут была наша ве́даўка.* Баёўка Шум.

○ ВЕ́ДЗЬМІН ГРЫБ *м.* Атрутны грыб, падобны па форме да баравіка, але калі дакрануцца да шапачкі знізу, то ён сінее. *Ве́дзьмін грыб дужа ядавіты.* Дварэц Чаш.

ВЕДЗЯРКО́, ВЕДЗЯРЦО́ *н.* Вядзерца. *Прынясі хуценька ведзярко́ вадзіцы.* Празарокі Глыб. *Вунь стаіць ведзярцо́, вазьмі.* Бугаі Сен.

ВЕ́ЖКА *ж.* Скрынка. *Дужа цяжкая ве́жка з малаком.* Вядрэнь Чаш.

ВЕ́ЙКІ *мн.* Павекі з вейкамі. *Яна ўжо і ве́йкі закрыла.* Буды Шарк.

ВЕК *прысл.* Ніколі. *Ні была я ў цябе дзесяць гадоў і век мая нага туды ня ступіць.* Межава, Стар Арш., Стуканы Глыб., Бяседы Леп.

ВЕКАВІ́К *м., бат.* Вельмі старое дрэва. *Вот у нас на Маргавіцкай гарэ векаві́к расце – сільны дуб, хоць і стары. Ні адна бура яго не зломіць.* Маргавіца Докш.

ВЕ́КІША *ж., заал.* Вавёрка. *Хоць ве́кішу падстрэлю.* Кулінава Уш. *Едзь у Лётцы і пабачыш ве́кішу.* Завяззе, Мікалаёва Шум.

ВЕЛІКА́НЕЦ, ВЕЛЬКА́НАЦ, ВЕЛЬКА́НЕЦ *м., рэліг.* Вялікдзень. *На Веліка́нец заўсёды яйкі красілі і булкі пяклі.* Пашкі Шарк. *На велька́нац, канечне, трэба было ў касцёл схадзіць.* Лынтупы Паст. *На велька́нец хадзілі ў касцёл яйкі све́нціць.* Антонаўцы Брасл., Папшычы Глыб., Паташня, Сухавежа Міёр., Белішкі Паст.

ВЕЛІЦУ́ЗАЗНЫ *прым.* Велічэзны. *Ох, і веліцу́заснага сама ўтрох злавілі!* Сасноўка Докш.

ВЕЛО́К, ВІЛО́К *м.* Качан капусты. *Вело́к капусты не забудзь узяць, а то забяруць.* Баршчоўка Віц., Загарадна Лёзн. *Капуста нешта не завязалася і віло́к дужа маленькій.* Гразіна Арш., Халамер'е Гар., Пышна Леп. Параўн. *віто́к.*

ВЕЛЬКА́НАЦ, ВЕЛЬКА́НЕЦ гл. ВЕЛІКА́НЕЦ

ВЕ́ЛЬКІ *прым.* 1. Выдатны, які валодае высокай ступенню пэўнай якасці. *Ве́лкі чалавек наш сын, усе да яго з павагай адносяцца.* Радзюкі Шарк. 2. Дарослы. *Ве́лькая вырасла ўнучка за лета.* Дрысвяты Брасл., Аўсеева Сен. 3. Значны па колькасці. *У яго ве́лькі заробак.* Смаляны Арш.

ВЕ́ЛЬМА *прысл.* Вельмі. *Ве́льма пабачыць хацелася б, каб на свае вочы.* Бугаі Сен.

ВЕЛЬМАВА́ЦЬ *незак.* Частаваць. *Дарагіх гасцей вяльму́юць клёцкамі з душамі.* Зоськава Арш., Полымя Сен., Селішча Уш.

ВЕ́ННІК *м., зб., бат.* Трава з кветаносным сцяблом у выглядзе мяцёлкі. *Роў патроху стаў зарастаць ве́ннікам.* Параф'янава Докш.

ВЕНЦ *прысл.* Больш. *Ці стаў ты венц палучаць грошай?* Папкі Міёр.

ВЕРАБІ́НА *ж., бат.* Рабіна. *Хачу яшчэ верабі́ну ля хаты пасадзіць.* Туркова Міёр. *Гэтую верабі́ну пасадзіў мой дзед.* Задоры Леп.

ВЕРАСАВІ́ШЧА *н.* Месца, дзе расце верас. *Сцежка ішла чэраз верасаві́шча.* Жукава Гар.

ВЕ́РАСК, ВЕ́РАСЬ, ВЯРЭ́СК *м., бат.* Верас. *Ве́раск яшчэ ў начале аўгуста цвіцець пачынае. Тады ад ве́раску ў лясу як дым сірэневы.* Старое Сяло Віц., Грыцы, Забор'е, Латышы Глыб., Парфенаўка Дубр., Малы Поўсвіж Леп., Баяноўшчына Пол., Горы, Кавалі Рас., Кугоні Уш., Лужкі Шарк., Забор'е Шум. *У ве́рася дужа ўкусны пах, такі салодкі.* Храпакі Віц. *Па вярэ́ску добра растуць грыбы.* Грыцы Глыб.

ВЕРАСЯЛЕ́ННІК *м., бат.* Ядловец. *Верасяле́ннік на ўзлесках расцець. Гэта ёлачка такая маленькая з ягадкамі. Яго, калі капцяць, то дабаўляюць у агонь.* Горы Рас.

ВЕ́РАТ *м., мед.* Сып на целе. *Такі ве́рат па целу і свярбіць жа так.* Горкі Шум.

ВЕРАЎЧЫ́НА *ж.* Вяроўка. *Вазьмі вераўчы́ну і схадзі за каровай.* Высачаны Лёзн., Ветрына Пол.

ВЕРАЦЕ́ЙКА *ж.* Узгорак сярод балота. *На вераце́йкі мы Купалу гуляем кажны год.* Белая Ліпа Сен.

ВЕРАЦЁНКА *ж., заал.* Гадзюка, вераценніца. *Верацёнка грэлася на сонейку.* Пальмінка Гар., Камянполле Міёр.

ВЕ́РНІК *м., бат.* Аер. *Ад гэтай хваробы ве́рнік добра памагаець.* Скрыдлева Віц.

ВЕРХ *м., кулін.* Слой смятаны. *Сёння раніцай цэлы сподак ве́рху назбірала, будзець і чым капусту пабяліць і з чым блінцоў з'есці.* Ласкаўшчына Глыб., Астроўна Беш., Баева Дубр., Малы Поўсвіж Леп., Маляўкі Міёр., Падворыца Сен.

ВЕРХАВО́ДНІЦА *ж., заал.* Верхаводка, невялікая прэснаводная рыба. *Хутка зноў павадка, зноў будзем лавіць верхаво́дніцу.* Старыя Лаўкі Чаш.

ВЕРХАЛІ́НА, ВЕРШАВІ́НА *ж.* Верхавіна дрэва. *Ад ветру верхалі́на сільна гнулася.* Вялікі Поўсвіж Леп., Ульянавічы Сен. *Вершаві́ну дзерыва зламала бура.* Горы Чаш.

ВЕ́РХНІЦА *ж.* Верхняя кашуля. *Купіў сабе зімнюю ве́рхніцу.* Абаляны Брасл.

ВЕРЦІХВО́СТ *м., неадабр.* Мужчына легкадумных паводзін. *Я яго добра знаю, ён рэдкі верціхво́ст.* Швэплі Докш.

ВЕРШАВІ́НА гл. ВЕРХАЛІ́НА

ВЕРША́К *м.* Вешалка. *Пакладзі шляпу на верша́к.* Андроны Паст.

ВЕ́РШАЛА гл. ВЕ́ШАЛА

ВЕР'Я́НАЎКА гл. ВАЛЕР'Я́НА

ВЕ́СЕЛЬНІЦА *ж.* Нявеста. *У той год многа ве́сельніц было.* Рыпіншчына Шум.

ВЕ́СКІ *прым.* Цяжкі, які мае вялікую вагу. *Воз саломы падмок, стаў ве́скі.* Мікуліна Глыб. Параўн. *вагкі́.*

ВЕ́СЛІЦА *ж.* Сходы, драбіны. *Калі была малая, то дагары нагамі ляцела з той ве́сліцы.* Янкі Докш., Дубраўкі Пол. *Каб залезці на дах, трэба ве́сліцу прымайстраваць.* Грыцы Глыб.

ВЕСЯЛУ́ХА *ж.* Вясёлка. *Перастаў дождж – стала весялу́ха.* Красніца Чаш.

ВЕТРАВА́Л, ВЕТРЫВА́Л *м.* Ветралом, буралом; дрэвы, паваленыя ветрам. *Пaслі той буры дарога так і асталася ветрава́лам перакрытая.* Пяцігорск Беш., Кульгаі Глыб., Гута Паст. *Учора вецер нарабіў ветрыва́лу.* Якубаўшчына Лёзн., Бяседы Леп.

ВЕТРАВІ́К *м.* Флюгер, прыбор для вызначэння напрамку ветру. // Прылада для адпужвання птушак. *Ветраві́к у нас і на вецер паказваіць, і птушак адпугваіць.* Навязкі Сен.

ВЕТРАДУ́Й *м., толькі адз.* Навальніца з моцным, шквалістым ветрам. *У дзярэўні ўчора ветраду́й бальшы быў – многа дзярэўяў зламжыў.* Янкавічы Рас.

ВЕ́ТРАНІК *м., бат.* Дзьмухавец. *У нашым садзе красаваліся ве́транікі.* Беразіно Докш.

ВЕ́ТРАНІЦА *ж.* Франтон. *У хаце была высокая ве́траніца.* Свяча Беш.

ВЕ́ТРІНЫ *толькі мн.* Буйныя адходы пры ачыстцы зерня. *Ве́тріны далёка ляцелі ад чыстага зірна.* Асташэва Лёзн.

ВЕТРЫВА́Л гл. ВЕТРАВА́Л

ВЕЦЬ *ж., зб.* Пладаносная частка сцябліны аўса. *Ветрам паламала вець аўса.* Асташэва Лёзн., Перакопава Сен.

ВЕЧАРНЕ́ЦЬ *незак., безас.* Вечарэ́ць. *Цяпер рана пачало вечарне́ць.* Мілашы Брасл.

ВЕЧАРУ́ШКІ *мн., памянш.-ласк.* Вячоркі. *На вечару́шкі збіраліся ў адну хату, співалі, расказувалі цікавыя гісторыі.* Баева Дубр. *Раней дзяўчаты вельмі любілі збірацца на вечару́шкі.* Пушкі Лёзн.

ВЕ́ЧНЕ *прысл.* Заўсёды, пастаянна, увесь час. *Ве́чне ты дома не быеаіш.* Опса Брасл., Гута Паст.

ВЕЧО́РАМ *прысл.* Вечарам. *Апранайся, бо вечо́рам будзе зімна.* Дрысвяты Брасл.

ВЕ́ШАЛА, ВЕ́РШАЛА *н.*, ВЕ́ШАЛЫ, ВЕША́ЛЫ *мн.* Прыстасаванне з жэрдак конусападобнай формы для сушкі сена. *Сена, каб яно ня мокла, удзява́ла ў ве́шала.* Лонск Шарк. *Паклалі сена на ве́ршала.* Бубалі Шум. *Клевер ня дужа высах, так мы яго ў ве́шалы склалі.* Ксенжаполе, Рудабісць Брасл. *За дажджамі і на веша́лах сена доўга сохнуць будзіць.* Грэцкія Міёр. // Перакладзіна, жардзіна, прызначаная для развешвання чаго-н. *А вун на ве́шале znімі пару цыбулін мне.* Арэхаўск Арш., Багушэўск, Ског Сен., Гарадзец Шарк.

ВЕ́ШАЛЬНІК *м.* Вісельнік. *Тут закапаны адзін ве́шальнік.* Станіслававa Дубр.

ВЕ́ШКА *ж.* Гронка. *Гаворуць, арэхі ці жалуды ве́шкамі растуць.* Гарэлькі Дубр. *Паехалі ў маліны, а там такія ве́шкі былі.* Гацькаўшчына Арш.

ВЕ́Я *ж.* Ветраны млын. *На гары ў нас некалі ве́я круцілася.* Вярэнькі Паст.

ВІДА́ЦЦА *незак.* 1. Віднецца. *Капуста вун там віда́ццa за калодзежам.* Палялейкі Шарк. 2. *безасаб.* Развідняцца. *Я дадому прыйшла, калі пачынала віда́цца, дык бацька з хварасцінай ужо стаяў.* Мазалава Віц.

ВІДЭ́ЛЬКА *ж.* Відэлец. *Вазьмі відэ́льку, паеж яешню.* Шклянцы Докш. *Відэ́лькі заўсёды ляжаць ад лыжак у асобным месце.* Крыпулі Докш. Параўн. *ванзэ́лак* [2].

ВІЗА́ЛЬНІЦА *ж.* Вязальшчыца. *Плахая з іе віза́льніца – няўсідчывая.* Кузняцова Віц.

ВІЗІ́РКА *ж.* Вузкая прасека праз лес. *Ужо пашлі да́жджы і, верна, будуць у візі́рцы грыбы.* Дроздава Тал. Параўн. *во́лак.*

ВІ́КАЎЕ *н.* Поле, дзе скошана віка. *Віку скасілі, і засталося ві́каўе.* Труды Пол., Горкі Шум.

ВІЛАВІ́ШЧА, ВІЛАЎЁ *н.* Дзяржанне вілаў, вілачнік. *А во з гэтай палкі будзіць добрае вілаві́шча.* Ваўкоўшчына Шарк. *Вілаві́шча ўжо прагніўшы, скора абламаецца.* Дамашы Брасл. *Зрабіў вілаўё новае для вілаў.* Запруддзе Сен.

ВІЛАСІПЕ́ДА *ж.* Веласіпед. *Віласіпе́да раньшэ ні такая была, як ціпер, ціпер усё красівае, бліскучае.* Яроненкі Гар.

ВІЛАЎЁ гл. ВІЛАВІ́ШЧА

ВІ́ЛАЧНІК, ВІ́ЛАШНІК, ВІЛО́ШНІК, ВІ́ЛЬНІК *м.* 1. Вожаг; дзяржанне ў вілках, якімі бяруць гаршкі. *Дзед ві́лачнік дрэнна прыкрапіў, нічога добра дзелаць не можыць.* Бачэйкава Беш., Рашкаўка Докш. *Вот ужо ві́лашнік нада перадзелаць, каб длінней быў.* Выдрэя Лёзн., Котава Віц., Ходцы Сен., Булахі Глыб., Гараны Пол. 2. Вілкі. *Вазьмі ві́лачнік і дастань кацялок.* Забор'е Глыб. *Вынь чыгунок ві́лашнікам з печы.* Ларынаўка Арш., Сокарава Беш., Ульянавічы Сен. *Падай віло́шнік.* Дубішча Беш. *Ві́льнік стаіць у вугле каля печы.* Нізкі Гарадзец Тал. Параўн. *ві́лы, ві́льні.*

ВІЛО́К гл. ВЕЛО́К

ВІЛО́ШНІК гл. ВІ́ЛАЧНІК

ВІ́ЛЫ, ВІ́ЛЬНІ *толькі мн.* Вілкі. *Я сразу не магла прывыкнуць, якімі ві́ламі які гаршок даставаць, а цяпер дажа не задумываюся.* Ганкавічы, Камоскі, Свяча Беш., Доўжа Віц., Верамееўшчына Дубр. *Ты ж ві́льнямі чыгунок падхваці, зручней!* Бубалі Шум. Параўн. *ві́лачнік, ві́лашнік, віло́шнік, ві́льнік* у 2 знач.

ВІ́ЛЬНІК гл. ВІ́ЛАЧНІК

ВІЛЮ́ЖЫНА *ж.* Звіліна. *Спачатку звярні ўправа, потым прама і за вілю́жынай убачыш магазін.* Мількі Брасл. *Вілю́жынай цячэ рэчка праз нашу вёску.* Задоры Леп.

ВІРАЦЕ́НЬ *м.*, ВІРІЦЯНО́ *н.* Верацяно. *Быў у мяне дзе-та і вірацень.* Рацькава Уш. *Каб спрасці ніткі, нада віріцяно́.* Ліцвінава Гар.

ВІ́РБАЦЬ *незак.* Трапятацца на ветры. *Чыстая бялізна цэлы дзень ві́рбала на шнуры.* Балаі Паст.

ВІРІДУВА́ННЕ *н.* Самаўпраўства, здзек. *Столька ўжо було віріду́вання ў нямецкага старасты, што без меры.* Барсукі Дубр.

ВІРЛА́ТКА *ж., экспр.* Жанчына ці дзяўчына з вялікімі вачыма. *Палюбіў прыгожую вірла́тку.* Доўгае Глыб.

ВІРЛА́ТЫ *прым., экспр.* Лупаты, зіркаты. *У маладосці ў міне малец быў, такі вірла́ты і высокі.* Слабодка Брасл.

ВІРЛА́Ч *м., заал.* Акунь. *Такога вірлача́ злавіў на возеры Белым, кілаграмы на тры будзе.* Латышы Глыб., Тумілавічы Докш.

ВІ́РЛЫ *мн., экспр.* Вялікія вочы. *Ві́рлы свае патарэшчыў, дзіка глядзеў.* Празарокі Глыб. *Ну што вірламі мыргаеш, думаць нада было.* Чурылава В.-Дзв., Драба́ўшчына Глыб., Гарбачэва Рас., Більдзюгі Шарк. Параўн. *вылупаі́.*

ВІРСТА́ *ж.* Дровы, складзеныя ў доўгі рад. *Ідзі з бацькам дровы складай у вірсту́.* Беразіно, Камайск, Крыпулі Докш.

ВІРТУХА́ЦЦА *незак.* Мільгаць, мітусіцца. *Чаго ты віртуха́ешся перад вачамі?* Горкі Леп.

ВІРЭ́НЬКА *ж.* Рыбацкая прылада на шчупакоў. *Узняў вірэ́ньку, а там – тры шчупакі.* Пусташы, Струнне Пол.

ВІР'Я́НАЎКА гл. ВАЛЕР'Я́НА

ВІСЕ́ННІК *м., заал.* Шпак. *Якась вісе́ннікі прыляцяць, тады і зіма кончыцца.* Галубава В.-Дзв.

ВІ́СЛА *ж.* Галіна дрэва блізка ад зямлі. *Летам куры на ві́слах сядзелі, а на зіму перасадзіла ў куратнік.* Сухавежа Міёр.

ВІТАШО́К *м.* Месяц у апошнюю чвэрць. *На небе відаць віташо́к.* Шуміліна.

ВІТЛА́ *ж.* Чапяла. *Вітлы́ німа ў гэтай хаце.* Стрыжава Беш.

ВІТО́К *м., бат.* Качан капусты. *У гэтым годзі вялікія вітќі капусты.* Іскозы Дубр., Асінаўка, Беліца Сен. Параўн. *вело́к, віло́к.*

ВІТУ́Н *м.* Дубец. *Не будзеш вучыцца – вітуно́м атсцябаю.* Грышына Рас.

ВІТУ́ШКА *ж.* 1. *бат.* Фасоля, якая ўецца. *Віту́шка так вырасла, што нільзя прайці.* Весніно В.-Дзв., Асташэва Лёзн., Рацькава Уш. 2. Абора. *Бацька мне звіў віту́шкі, нада іх зацягнуць у вушкі лапцю.* Грынеўшчына Докш., Сяляўшчына Рас.

ВІХА́РКА, ВІХРА́НКА *ж.* Мачалка. *Віха́рка гэтая новая, добра трэ.* Каўровая Дубр. *А віхра́нка ў бані асталася, пайду заберу.* Шыліна Шум.

ВІХРА́НІК *м.*, ВІХРУ́ХА *ж.* Моцны вецер, бура. *Раптам узняўся такі віхра́нік, стала цёмна, паліў дождж як з вядра.* Будзішча Арш. *Такая віхру́ха паднялася.* Янкавічы Рас.

ВІХРА́НКА гл. ВІХА́РКА

ВІХРУ́ХА гл. ВІХРА́НІК

ВІХРЫ́НА *ж.* Верхні стык страхі, вільчык. *Дзеці прыедуць, дык нада віхры́ну паправіць.* Баева Дубр.

ВІЦЦЁ *н., зб.* Галлё, вецце. *Схадзі ў беразняк за віццём, венікі пара візаць.* Апанаскавічы Уш. Параўн. *вішмо́, вішно́, вішшо́.*

ВІЧАРЫ́НА *ж.* Вячэрняя гулянка з музыкай і танцамі. *Змаруся, а на вічарыну іду – а як хто майго чарта там ухопіць.* Макаравічы Докш.

ВІ́ЧКА *ж., бат.* Мышыны гарох; расліна, якая абвівае суседнія расліны, мае сінія кветкі. *Вічка ўвесь ячмень спляла.* Баруны Брасл., Надазер'е Глыб., Манякова, Мнюкі Міёр., Буды Шарк.

ВІ́ША, ВІ́Ш *ж.*, ВІША́Р *м.* Няскошаная на зіму трава. *Шалясціць віша на балотах.* Евіна Гар. *Віш – гэта няскошаная трава.* Дыманова Віц., Багданава, Латыгаль Сен. *Вішар скора будзе ў рост чалавека.* Обаль Шум. *Када касцы ня скосяць траву, то мы яе называем вішар.* Ског Сен., Дуброва Шум.

ВІШМО́, ВІШНО́, ВІШШО́ *н., зб.* Галлё, вецце. *На венікі вішмо дужа добрае, візаць січас будзем.* Жыгалава Віц. *Вішно добра гнецца, венікі зраблю.* Абруб Глыб. *Наламала вішшо на венік.* Труды Пол., Сяляўшчына Рас. Параўн. *віццё.*

ВІШНЁЎКА *ж., заал.* Івалга. *Вішнёўкі дужа любяць нашыя мясціны.* Новы Пагост Міёр.

ВІШНО́ гл. ВІШМО́

ВІШНІ́ЦА *ж.* Вішня. *Сёлета вішніцы аж да зямлі гнуцца – ураджай, нічога не скажыш.* Селішча Арш.

ВІШШО́ гл. ВІШМО́

ВІШЫ́ЦЬ *незак.* Ставіць вехі. *Зімой вішым дарогу праз азяро.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

ВІШЭ́ЦЬ *незак.* Сохнуць. *На пакосе вішэ трава: дажджу німа.* Вула Беш., Дуброва Шум.

ВІХ *м.* Вывіх. *Андрэй хадзіць не можа -- віх у яго.* Заазер'е Пол.

ВІХЛЯ́Ш *м.* Разрэз. *У мяне юбка с віхляшом.* Мельніца Шарк.

ВІХРО́ВІШЧА *н.* Адкрытае ўзвышанае месца; пясчаны бугор. *Мы стаім на віхровішчы.* Мікалаенкі Гар.

ВО́БАК *прысл.* Побач. *Мы йшлі вобак.* Абруб Глыб.

ВО́БАЛКА *н.*, ВО́БЛАК *м.* Воблака. *З аднаго невялікага вобалка столькі дажджу.* Заполле Тал. *Воблак сонца закрыў.* Кугоні Уш.

ВО́БАРАТНІК *м., бат.* Падарожнік. *Так высах у печы вобаратнік. Лекуе добра.* Нямойта Сен.

ВО́БЕРАЦЬ *ж.* Луста. *Намаж мне на вобераць масла.* Барсукі В.-Дзв. *А галодны ж прышоў – цэлую вобераць хлеба з салам з'еў!* Гарадзец Шарк.

ВО́БЛІЎ *м.* Галалёдзіца. *Вобліў на дварэ.* Барсукі Дубр.

ВО́БЛІЦА *ж., заал.* Плотка. *Во́бліца цяне, валоча, а паплаўка не моча.* Каўшэлева Шарк. *У нас у возеры ловяць во́бліцу.* Бешанковічы.

ВО́БМАЛЬ *прысл.* Нямнога, малавата. *Яблыкаў сёлета во́бмаль будзіць.* Воўкаўшчына Глыб. *Рыбы зусім во́бмаль.* Вярэнькі Паст.

ВО́БМЕЛЬГАМ *прысл.* Імгненна. *Я цябе праз балота во́бмельгам пранясу.* Пачаевічы Чаш. *Мушка во́бмельгам міма праляцела.* Цяпіна Чаш. *Як-та во́бмельгам прайшоў дождж.* Мількі Брасл. *Во́бмельгам дзесьці схаваў костку сабака.* Гараўцы Міёр.

ВО́БРУС *м.* Абрус. *Засцялі стол белым во́брусам.* Зялёнка Пол.

ВО́БУЙ, ВО́БУЎ *м.* Абутак. *А тут вот во́буй стауце!* Балаі, Буцавічы, Ласіца Паст., Кавалі Рас. *Добры во́буй нада бярэч, ён жа грошай стоіць.* Гваздова, Каміншчына Глыб. *Малому во́буў да школы купіць трэба.* Валкалата Докш., Кулінава Уш.

ВО́ГІР *памянш.* ВО́ГІРЧЫК *м.* Жарабок. *Восенню мы купілі во́гіра.* Барсукі В.-Дзв. *Відзеў суседзева во́гірчыка – крэпенькі такі, добры конь будзіць.* Гарадзец Шарк.

ВО́ГЛЫ, ВО́ЛГЛЫ *прым.* Вільготны, вогкі. *Зямля пасля дажджу яшчэ во́глая.* Дубінцы Чаш., Пашкі Шарк. *Туман утрам быў во́лглы, густы – наверна, днём будзіць жарка.* Нурава В.-Дзв., Гарадзец Шарк.

ВО́ДАЛЬ, ВО́ДДАЛЕК *прысл.* Аддалена, воддаль. *Дзяреўня наша во́даль ад лесу.* Кутняны Пол. *Нічога не бачу во́ддалек.* Закур'е Чаш. *Калодзезь во́ддалек ад маёй хаты.* Мількі Брасл.

ВО́ДДЫХ *м.*, ВО́ДДЫШКА *ж.* Адпачынак. *Во́ддыха мне німа.* Калышкі Лёзн. *Праз тры кіламетры во́ддышку зробім.* Крайцы Леп.

ВО́ДЗЕ, ВО́ДЗЕКА, ВО́ДЗІКА, ВО́ДЗЯ, ВО́ЙДЗЕ, ВО́ЙДЗЕТКА, ВО́ЙДЗІТКА, ВО́СЬДЗЕКА *прысл.* Вось дзе, тут. *Во́дзе нічога німа.* Смалоўка Гар., Чашнікі. *Во́дзека яна жывець са сваімі бацькамі.* Моханава, Стралкі В.-Дзв. *Не шукай, во́дзека твая сукенка ляжыць.* Стралкі В.-Дзв., Ідоўта Міёр. *Яна во́дзіка гэта схавала.* Слабада Глыб., Буды Шарк. *Во́дзя калісьці быў дом.* Езярышча, Залучча Гар., Мікалаёва Міёр. *Во́йдзе ляжыць тая ануча.* Радчонкі Гар., Грабяніца Віц. *Во́йдзетка яно ляжыць.* Асінторф Арш. *Во́йдзітка стаіць клуня.* Грабяніца, Кузняцова Віц. *Во́сьдзека плот зламаўся і паваліўся.* Лазічы Глыб.

ВО́ДКІДЫ *толькі мн.* Адкіды. *З гэтай бульбы нічога не палучыцца – столькі во́дкідаў свінням пайшло.* Канашы Гар.

ВО́ДЛІГ *м.*, ВО́ДЛІГА *ж.* Адліга. *Во́дліг – гэта ня дужа харашо, для пасеваў урэдна.* Заслонаўка Арш. *На вуліцы во́дліга, хутка цёпла будзіць.* Дзегцяры Брасл., Ветрына Пол., Мельніца Шарк. *Па радзіву перадалі во́длігу.* Слабодка Глыб.

ВО́ДРА *ж., мед.* Адзёр. *Мае дзеці як на во́дру хварэлі, то ня елі нічагуткі, толькі піць увесь час прасілі.* Ураджайная Глыб., Макаравічы Докш., Ахрэмаўцы Брасл., Лукашова, Фалевічы Паст.

ВО́ЖКА *ж.*, ВО́ЖКІ *мн.* Лейчына, лейцы. *Конь упудзіўся – машына па дарозе ішла – да ў лес, а тут яшчэ во́жка парвалася.* Валожанкі Шарк. *А дзейта во́жкі?* Сокарава Беш., Багушэўск Сен., Кугоні Уш., Антаполле Чаш., Мікіціха Шум.

ВО́ЙДЗЕ, ВО́ЙДЗЕТКА, ВО́ЙДЗІТКА гл. ВО́ДЗЕ

ВО́КА *н.* 1. Прасвет паміж спляценнем нітак у сетцы, вочка. *Радкаватая мярэжына – во́чы бальшыя.* Малы Поўсвіж Леп. 2. Бездань, прорва. *Во́ка ў балоце, дзе камышоў многа.* Ласіца Паст. ○ ЧОРТАВА ВО́КА – вельмі глыбокае, бяздоннае месца на балоце. *Чортава во́ка сустрэлася.* Бор Чаш.

ВО́КАНКІ *толькі мн., бат.* Апенькі. *Якія во́канкі смачныя.* Слабада Віц.

ВО́КУНЬ *м.* Акунь. *Во́кунь ікру есь маленькіх рыбак.* Лялеўшчына Гар. *Мы столькі многа раней во́куняў на азяры лавілі!* Мерзлякова Лёзн., Арлея Пол.

ВО́ЛАК *м.* Вузкая прасека праз лес. *Ідзі ўздоўж па во́лаку і знойдзеш тое месца.* Асташэва Лёзн. Параўн. *візі́рка.*

ВО́ЛАЎ *м.* Волава. *Во́лаў цяжка было дастаць.* Лашукі Паст.

ВО́ЛАЦЬ *ж., бат.* Асцюк. *Калі хочаш паспытаць маладое пшаніцкі, нада во́лаць абпаліць.* Весніно В.-Дзв. Параўн. *вось, восць.*

ВО́ЛГЛЫ гл. ВО́ГЛЫ

ВО́ЛІЦЬ *незак., безас.* Ванітаваць. *Дачка хворая, яе часта во́ліць.* Псуя Глыб., Галынка Тал.

ВО́ЛЛЕ гл. ВАЛЯ́К

ВАЛЬНЕ́Й *прысл., выш.* Павольна, не спяшаючыся. *Можна і вальне́й ісці.* Кулінава Уш. *Тут пойдзем вальне́й, а то хутка ўтомімся.* Валкалата Докш.

ВО́МЕГАМ *прысл.* Кулём, стрымгалоў. *Як накрычала, дык сразу во́мегам зляцеў з сена!* Нурава В.-Дзв.

ВО́НДЗЕКА, ВО́НДЗІКА, ВО́НЬДЗЕ, ВУ́НЬДЗЕКА, ВУ́НЬДЗІКА *прысл.* Вунь дзе, там. *Во́ндзека цябе чакаюць.* Селішча Уш. *Во́ндзіка лес гарэў летась.* Лазічы Глыб. *Во́ньдзе пабег воўк.* Радчонкі Гар. *Ву́ньдзека Якаўлеўна ідзець, можа, яна знаіць.*

Шыліна Шум. *Вуньдзіка дзераўцо расцець, я яго пасадзіла.* Ураджайная Глыб.

ВО́НКА, ВО́НЬКА *ж., бат.* Агульная назва травы з непрыемным пахам. *У кустах расцець во́нка.* Дуброва Шум. *Абычна во́ньку кладуць каля сена, каб не было мышэй.* Храпакі Віц.

ВО́НЬДЗЕ гл. ВО́НДЗЕКА

ВО́ПАЎЗЕНЬ *м.* Апоўзень; маса грунту, пароды, якая пад дзеяннем цяжару спаўзае па схіле. *Зноў здарыўся во́паўзень.* Селішча Уш.

ВО́ПУХ *м.* Пухліна. *На шчацэ такі во́пух вылез, што без урача ніяк.* Янкі Докш. *Аніяк во́пух ня ўняць.* Ноўка Віц.

ВО́ПЫЦЬ *м.* Вопыт. *Ён мае вялікі во́пыць.* Дылевічы, Лучайка, Сасноўка Глыб.

ВО́РАЖНА *безас.-прэдык. слова.* Страшна. *Як паслухаеш, ажно во́ражна становіцца!* Кажамякі Сен.

ВО́РАК *м.* Мяшок. *Летась во́рак цукру закупілі, так варэнняў наставілі.* Турчылава Брасл. *Ну што? Ці будзіце браць во́рак з морквай і буракамі?* Папкі Міёр., Лазічы Глыб., Жакі Паст., Корніца Шарк.

ВО́РАТ[1] *м.* Каўнер. *Засцягні во́рат у сарочцы.* Моханава В.-Дзв., Шодзікі Шум.

ВО́РАТ[2] *м.* Калаўрот у калодзежы. *У нашым калодзежы дужа рыпучы во́рат.* Луначарскае В.-Дзв.

ВО́РНІК *м.* Плуг. *А во́рнік стары саржавеў, замяніць бы на навейшы.* Новы Двор В.-Дзв.

ВО́РЧЫК *м.* 1. Каромысел у вупражы. *Во́рчык нада прычапіць да плуга, а я аддаў саседу, а цяпер рабі што хочыш.* Турлы Паст., Новае Сяло Сен. 2. Каромысел насіць вёдры з вадой. *Вазьмі во́рчык і сходзі за вадой.* Вішанькі Чаш. Параўн. *ваданосы.*

ВО́РЫВА *н.* Полымя (у печы, грубцы). *Якое сёння во́рыва ідзе, зачыні-ка грубку.* Зуі Лёзн.

ВО́САТ *м., бат.* Асот. *Майму кілуну дужа наравіцца во́сат.* Жданы Шарк.

ВО́СВА гл. ВАСВА́

ВО́СЕННЫ *прым.* Асенні. *Во́сеннае ягня больш пужлівае, чым леташняе.* Абухава, Барсукі В.-Дзв.

ВО́СІЛКА *ж.* Дужка ў вядры, бітоне, кашолцы і пад. *Во́сілка вядра заржа́вілася.* Багушэўск Сен., Тараскі Чаш.

ВО́СІЦЬ *ж.* Асець. *У гэтым годзе авёс урадзіў, поўную во́сіць снапоў наклалі.* Павулле Уш.

ВО́СЦЕ гл. ВАСЦЁ

ВО́СЦЕР *м.* Цвік. *Забі во́сцер у сцяну.* Каўшэлева Шарк.

ВОСЬ, ВОСЦЬ *ж., бат.* Асцюк. *Вось пупала ў рот, чуць дохтар дастаў.* Асташэва Лёзн., Забор'е Рас. *Када пападаюць во́сі ў адзежу, патом усё чэшыцца.* Ткачы Гар. *Глядзі, каб во́сць у вока не папала.* Дзяйкі Віц. *Пільна глядзі, не загані сабе во́сці ад гэтых каласкоў.* Дразды Беш., Вяжы Брасл., Жыгалава, Сураж Віц., Загуззе Гар., Празарокі Глыб., Пустынкі Сен., Мікіціха Шум. Параўн. *во́лаць.*

ВО́СЬДЗЕКА гл. ВО́ДЗЕ

ВО́СЬМЕРА *ліч., зб.* Васьмёра. *У бацькі во́сьмера дзяцей.* Арэхаўск Арш.

ВО́ТАРАП *прысл.* Няшчыльна. *Саломы брыку во́тарап наклалі, каб добра патапталі, то з паўбрыкі ці было б.* Фалевічы Паст.

ВО́ТРАНА, ВО́ТРЫНА *ж., зб.,* ВОТРАНІ, ВОТРАНЫ *мн.* Буйная мякіна, амецце. *Жыта ўсё ачысцілі ад во́траны.* Папшулі Міёр. *Учора мы нанеслі цэлае карыта во́трыны.* Пралетарыя Уш. *Запар во́трыны й дай карові е́сць.* Труды Пол. *Калі малоціш, во́трані ліцяць.* Горкі Леп. *Во́траны сыплюць у застаронак.* Пышна Леп., Ветрына Пол., Какоўчына Сен., Павулле Уш.

ВО́ТРАНІЦА *ж.* 1. Кашолка, у якой насілі амецце. *Во́трані насілі ў во́траніцах, яны далжны быць у хазяйстве.* Горкі, Дворышча Леп. 2. Абгароджанае бярвёнамі месца для амецця. *Каля асеці здзелаў во́траніцу, куды буду сыпаць мякіну, во́трану.* Даўгабор'е Рас.

ВО́ТРЫНА гл. ВО́ТРАНА

ВО́ТЧЫМ *м.* Айчым. *Быў во́тчым раньшэ ў сельсавеце дэпутатам.* Кубелеўшчына Шарк. *Во́тчым быў мне што родны бацька.* Задуброўе Віц., Валкалата Докш., Новы Пагост Міёр., Кулінава, Селішчы Уш., Ілава, Слабада Шум.

ВО́ЎРА *ж.* Шчотка для адзення. *Дай ты мне во́ўру пальто пачысціць.* Малыя Галыні Беш.

ВО́ХВАТ *м., вет.* Конская хвароба апой. *Пакасіў во́хват тады ў саўгасе многа коней, сэрца не выдзержала.* Бачэйкава Беш.

ВО́ЧМЕНЬ *м., мед.* Ячмень; запаленне тлушчавых залоз павек. *Ізноў во́чмень на глаз сеў.* Ілава Шум.

ВО́ЧЫ *толькі мн.,* ВО́ЧЫКІ *памянш.* Акуляры. *Дай мне во́чы, на тумбе ліжаць.* Зачарэўе Міёр. *А гдзе мае во́чыкі? Хто з німі гуляўся?* Загор'е Глыб.

ВО́ШАСЦЬ *ж., вет.* Хвароба ў жывёл, птушак. *Нейкая во́шасць пашла ў кралей, што, адкуль?* Пачаевічы Чаш.

ВО́ШЫЎКА *ж.* Пояс у мужчынскіх штанах; паясніца. *Во́шыўка ў штанах зусім парвалася.* Слабодка Гар.

ВУГАЛЛЁ, ВУГО́ЛЛЕ *н., зб.* 1. Вугаль; рэшткі няпоўнага згарання драўніны. *Мы пяклі на сонцы піражкі із гліны, а ся́тра вугаллё ела.* Асінаўка Сен. 2. Вугаль выкапнёвы. *Раней вуго́ллем тапілі, а січас атапленне ў нас.* Барсукі В.-Дзв. *Вуго́лле ў вас дрэннае.* Баршчоўка Віц.

ВУ́ГАР, ВУГО́РАЧ, ВУГО́РЫЧ *м., заал.* Вугор. *Сма́чны ву́гар, калі ўмела прыгатовіць.* Абруб Глыб. *Вот такі вуго́рач мне папаўся!* Празарокі Глыб. *Дужа ж смачны капчоны вуго́рыч.* Слабодка Брасл. *Вуго́рычы водзяцца, кажуць, толькі ў Браславе.* Сардыкі, Цясты В.-Дзв.

ВУГА́РЫК *м.* Лучына. *Трэба настругаць вуга́рыкаў, а то ў цемры сядзець прыйдзецца.* Галубчыкі Глыб.

ВУГЛЕ́ЦЬ *незак.* Дагараць. *Ужо ў печы дровы вугле́юць.* Язвіна Шум.

ВУГНЯ́ВІЦЬ *незак.* Хныкаць. *Чаго ты вугня́віш, аддалі тваю ручку, ні вугня́й.* Станіслававова Дубр.

ВУГО́Л[1] *м.* 1. Вугал; месца, дзе сутыкаюцца два бакі аднаго прадмета. *Адзін вуго́л у хлеві саўсім абсеў.* Канашы Гар., Занькі Леп., Турлы Паст., Шалухі Уш. 2. Кут; частка памяшкання, прастора паміж дзвюма сценамі. *У вуго́л вешаю абразы.* Барсукі В.-Дзв., Узмёны Міёр.

ВУГО́Л[2] *прысл.* Вакол. *Вуго́л было ціха і дужа пахла спелымі яблыкамі.* Вялікая Пярэспа Сен.

ВУГО́ЛЛЕ гл. ВУГАЛЛЁ

ВУГО́ЛЬНІК *м.* Вузкая высокая шафа, якую ставяць у вугал пакоя. *У вуго́льніку мы дзержым дакументы, адрасы, лякарствы, і ўсягда зачыняем яго на ключ, каб дзеці малыя не лазілі.* Гуліна Сен.

ВУГО́РАЧ, ВУГО́РЫЧ гл. ВУ́ГАР

ВУДА́К, ВУДА́Р *м.* Вудзільшчык. *Яны пайшлі к вудака́м.* Ноўка Гар. *Мой сын - добры вуда́р.* Гілі, Зазерыца, Пачаевічы Чаш.

ВУДАЎЁ, ВУДЗІ́ЛІШЧА *н.* Вудзільна. *Старыя людзі раяць рабіць вудаўё з алешыны.* Лісна В.-Дзв., Гута Паст., Палата Пол., Альшанка Чаш. *Вудзі́лішча паламаў, нада новая дзелаць.* Лазукі Чаш.

ВУДЗІ́ЛА *н.* Вуда. *Вудзі́ла на плечы ды падаўся на рэчку.* Далёкія Брасл., Бушыкі Глыб.

ВУДЗІ́ЛІШЧА гл. ВУДАЎЁ

ВУ́Ж *м.* Раменная пятля ў хамуце. *Завяжы ву́ж мацней.* Шантары Докш., Зазерыца Чаш.

ВУЖО́ЎКІ *мн., бат.* Неядомыя грыбы. *Вужо́ўкі бываюць красныя, белыя і другія.* Баева Дубр. *Прынёс з лесу поўны кошык вужо́вак.* Каралі Сен.

ВУЖЭ́ЛАК *м.* Спрытны хлапчук. *Малодшы брат настаяшчы вужэ́лак.* Папоўка Сен. *Грыбоў яны, вужэ́лкі, болі, чым ты, набралі.* Горкі Леп.

ВУЗА́ *ж.* Пчаліныя соты з мёдам. *Вазьмі вузы́ з'еш.* Жоўніна, Лісна В.-Дзв. *Пчол у дзеда не было, а ў дзядзькі з радасці раз так аб'еліся вузы́.* Вядзерава Беш., Буда Дубр., Дразды Лёзн.

ВУЗЁЛ *м.* Вузел. *Завяжы вузёл.* Горкі, Малы Поўсвіж Леп., Бугаі Сен.

ВУЗДУ́ХІ *мн.* Упадзіны па баках у каровы. *Вузду́хі ў каровы глыбокія.* Беразіно Докш.

ВУЛЛЯ́К, ВУ́ЛЬ *м.* Вулей. *У нас на хутары вуллякі густа стаялі, штук двацаць було.* Дварэц Чаш. *Раней казалі "вуль", зараз "вулей".* Завер'е Брасл., Ласкаўшчына Глыб., Грэйцева Паст., Германавічы, Юзафова Шарк.

ВУ́НЬДЗЕКА, ВУ́НЬДЗІКА гл. ВО́НДЗЕКА

ВУ́ПАР *м., зневаж.* Упарты чалавек. *Ну і ву́пар ты, што ні кажы, ты ўсё дагары.* Свольна В.-Дзв. *Нічого не дакажаш, гэткі ву́пар удаўся.* Вісяты Міёр. *Ён такі ву́пар!* Балаі Паст. *Які ты ву́пар!* Вярэнькі, Гута, Дунілавічы, Казлоўшчына Паст., Бортнікі, Стуканы Глыб., Верамееўшчына Дубр., Арханава Міёр., Бугаі Уш., Валожанкі, Савуткі Шарк.

ВУРВЭ́ЛАК гл. ВАРВА́ЛАК

ВУ́РЗГАЛКА [1] *ж.* Пырскаўка; тое, чым пырскаюць. *Вазьмі ву́рзгалку і тады ўцюжсыць лепш будзе.* Доўгае Глыб.

ВУ́РЗГАЛКА [2] *неадабр.* 1. *аг.* Чалавек, які неахайна есць. *Еш па людску, ву́рзгалка.* Надазер'е Глыб. 2. *ж.* Балбатлівая жанчына. *Ву́рзгалка прыйшла на сяло́.* Вераб'і Глыб.

ВУ́РЗГАЦЬ *незак., экспр.* 1. Гучна есці, сёрбаць. *Пі ко́фію як трэба, а ня ву́рзгай мне!* Надазер'е, Псуя Глыб. 2. Утвараць гук, падобны на гудзенне. *Ты ву́рзгаў добра, да іна будзіць ву́рзгаць даўжэй.* Труды Пол. 3. Надакучліва плакаць, румзаць. *Чаго ву́рзгаеш? Што ўжо не так?* Косарава Глыб.

ВУ́СЕНІЦА *ж., заал.* Вусень. *Летам на гародзе работы многа: то палоць нада, то ву́сеніц сабраць.* Стасева Лёзн.

ВУСНІ́ЦЫ *мн., бат.* Вусікі на сцябле гарбуза. *Калючыя вусні́цы, ногі можна параніць.* Опса Брасл.

ВУ́СТА, ВУ́СТЫ *мн.* Губы, вусны. *Ву́ста, вочы – усё ў яго было прыгожае ў маладосці.* Амбросавічы Шум. *Мае ву́сты ў мяду.* Ноўка Віц.

ВУТА́К, ВУ́ЦЕНЬ, ВУЦЯ́К, ВУЦЯ́Р *м., заал.* Качар. *Вута́к чуць не трапіў пад калёсы.* Мар'янполле Брасл. *Вута́к жырны, хто яго будзіць есці?* Бараны Глыб., Лісуны Арш., Езярышча

Гар., Абруб, Кавалі Глыб., Ліпаўкі, Сценка Докш. *А я ў суседкі пеўня на вуценя абменяла.* Новы Двор В.-Дзв. *Вуцяк у нас добры: таўсты, жырны.* Галі Шум. *Вот тут такі вуцяк сярдзіты хадзіў.* Вымна Віц. *Вуцяка засекла, бо госці прыедуць.* Язна Міёр., Зароўе Леп., Даўгінава, Новы Пагост Міёр., Казімірова Пол., Града Сен., Трабаўшчына Шарк., Далуева Шум., Антаполле Чаш. *У міне дзве вутачкі і вуцяр.* Кубелеўшчына Шарк.

ВУТРО́Б'Е *н., зб.* Вотруб'е. *Во, мукі намалола, а вутроб'е – свінням.* Котава Віц., Выдрэя Лёзн.

ВУХО́ *н.* Вуха. *Кот адмарозіў вухо.* Мікалаева Міёр.

ВУ́ЦЕНЬ гл. ВУТА́К

ВУ́ЦЬКІ *мн.* Качаняты. *Вуцькі мае з балота ідуць.* Дрыгучы Міёр. *Ой, якія вуцькі маленькія.* Камайск Докш.

ВУЦЯ́К гл. ВУТА́К

ВУЦЯНЫ́ *мн.* Качкі. *Вуцяны мае, дзе вы дзеліся, хадзіце есць.* Мікалаева Міёр.

ВУЦЯНЯ́, ВУЦЯНЯ́ТКА *н.*, ВУЦЯНЁНАК *м., заал.* Качаня, качанятка. *Нашы вуцяняты ў балоці плаваюць.* Селішча Гар. *Вуцянятки пад лянпай сядзяць у дождж.* Бараны Глыб. *Вуцянёнак тут есць, тут п'ець.* Бараны Глыб. *Сёлета ў вуткі толькі адзін вуцянёнак.* Леснікі Глыб., Жалезкі, Свяча Беш., Новы Пагост Міёр.

ВУЦЯ́Р гл. ВУТА́К

ВУ́ЦЯЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *У моладасці мальцы за мене біліся, як вуціць адзін другому ў глаз, дык вся дзярэўня на ўшах стаяла.* Езярышча Гар.

ВУ́ЧАНЫ *прым.* Разумны, адукаваны. *Чым ня жонка? Прыгожая, статная, вучаная і з пасагам добрым.* Германавічы Шарк.

ВУША́К *м.* Дзяжа з "вушамі". *У сенях справа стаяў вушак з солью.* Гунчанкі Віц.

ВУША́ТКА, ВУШЛА́ТКА *ж.* 1. Вушанка; шапка з вушамі. *Адзень вушатку, бо перадавалі моцны вецер.* Радчонкі Гар. *Малых пісклят у старую вушлатку нада пасадзіць, каб цёпла ім было.* Кашталянаўшчына Глыб. *Дзед на рыбу пашоў, вушлатку надзеў.* Прошкава Глыб. 2. *заал.* Курыца з чубкамі каля вушэй. *Сёлета гадуем пяцёра вушлатак.* Мілашова Міёр.

ВУША́ЧА *ж.* Ушачы (раённы цэнтр Віцебскай вобласці). *А дзядзька ў Вушачу паехаў па дзілам.* Канашы Гар., Воцькавічы Уш.

ВУШЛА́ТКА гл. ВУША́ТКА

ВУШЛА́ТЫ *прым.* Вушасты, з вялікімі вушамі. *Дзеўка наша вунь якая вушлатая, і то не ўнывае.* Латкова Шум. *Некаторыя гонюцца за вушлатымі свіннямі.* Урбаны Брасл.

ВУ́ШЛЫ *прым.* Спрытны, знаходлівы, хуткі. *Ну, ты і ву́шлы мужык.* Смалоўка, Хацейка Гар. *А хлопец ён ву́шлы, з яго толк бу́дзе.* Празарокі, Чарневічы Глыб. *На канікулах унучок быў, віжу, ву́шлы ён расцець.* Вісяты Міёр.

ВУ́ШМАЛА *аг., зневаж.* Знешне неахайны, невялікага розуму чалавек. *Ну які ж ты ву́шмала! Ну ніякага ж саабражэння!* Вусава Глыб. *Ай, які страшны мужык, як ву́шмала, такі ж запушчаны.* Перавознікі, Прамышляды Паст., Альхоўцы Шарк.

ВЫ́БАСЦІЦЬ *зак., экспр.* Збэсціць, зняважыць. *Прышоў – ні добры дзень, ні до відзэня, дык і вы́басціў з гразззю змяшаўшы.* Папкі Міёр.

ВЫБІТНЫ́ *прым.* Прыгожы. *Ён малец выбітны́!* Антонаўка Арш.

ВЫБО́І *толькі мн.* Шпалеры. *Паклеілі мы ў хаце новыя выбо́і.* Ліпаўкі Докш. *Добра ў яе ў хаце. Чысцінька, кругом выбо́ямі паклеіна.* Сахнавічы Глыб.

ВЫ́ГАННАЕ *н.* Дзённы харч пастуха. *Вы́ганнае з вечара гатовілі, давалі, што было ў хаце.* Булахі Глыб.

ВЫ́ГАРКА[1] *ж.* Выгар; участак лесу, хмызняку, выпалены агнём. *Сёліта праз гэтыя пажары вы́гарка намнога большая.* Мішкавічы Шум. Параўн. *вы́жарка.*

ВЫ́ГАРКА[2] *ж.* Яма, запоўненая вадой; сажалка. *Прынясі вады з вы́гаркі, пальём грады.* Чэрцы Леп. *Дзед выкапаў вельмі глыбокую вы́гарку, дык мы абгарадзілі яе.* Ураджайная Глыб., Палова, Прудок Гар., Фарынава Пол., Клясціцы Рас., Лазоўка Сен.

ВЫГО́ДА *ж.* Выгада, карысць. *Якая выго́да мне ад таго пса?* Мількі Брасл.

ВЫ́ДАЦЦА *зак., безас.* Здацца. *А на тым мейсцы вы́далася, быта нейкі чорны сабака дарогу перабягаў.* Малькі Брасл.

ВЫ́ДЗЕР *м.* Здор. *А са свіней яшчэ й вы́дзер топім.* Янкавічы Рас. *Дзед, тапі печку, буду вы́дзер тапіць.* Буды Шарк.

ВЫ́ДЗЕРГА *ж., тэхн.* Цвікадзёр. *Вы́дзергай выцегнеш усе гвазды.* Матырына Леп.

ВЫ́ДЗЕРКІ *мн.* Поле на месцы сенажаці, пакрытае дзірваном. *На тых вы́дзерках ці вырасце што, а работы прыкласці трэба.* Мікалаева Міёр.

ВЫ́ДУБІЦЬ *зак.* Выбіць, вычысціць. *Трэба вы́дубіць коўдру.* Валосава Тал.

ВЫ́ЖАРКА *ж.* Выгар; участак лесу, хмызняку, выпалены агнём. *На вы́жаркі ў гэтым гаду столька маліны было.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *вы́гарка* [1].

ВЫ́ЖАРІЦЬ *зак., экспр.* Моцна пабіць. *Маці вы́жарыла ката за шкоду.* Азёркі Гар.

ВЫЖЫМА́ЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *Выжыма́ла паўдня ўчора, сягоння рукі ломяць.* Папшычы Глыб.

ВЫКАБЛУ́ЧВАЦЬ *незак.* Танцаваць. *Глянь, выкаблу́чвае, як малады.* Фарынава Пол. *Мой быў добры танцор, бывае, так выкаблу́чвае, аж тапці ляцяць.* Шаркаўшчына.

ВЫ́КАТ *м.* Дэкальтэ. *Адзене што-небудзь з вялікім вы́катам – глядзець сорамна.* Сар'я В.-Дзв.

ВЫ́КАЧАЦЦА *зак.* Выжыць, выздаравець, паправіцца. *Мяне паранілі немцы, але я вы́качаўся.* Езярышча Гар. Параўн. *вы́чуняць.*

ВЫ́ЛАЖЫЦЬ *зак.* Спакладаць; кастрыраваць. *Вы́лажылі свайго барана.* Мар'янполле Брасл.

ВЫЛІНГА́ЦЦА *незак.* Сваволіць, гарэзаваць, дурэць. *Пасядзі ціха, не вылінга́йся.* Каханавічы В.-Дзв. Параўн. *выно́двацца, вычмура́цца.*

ВЫ́ЛІЎКА *ж.* Драўляны коўш для вычэрпвання вады з лодкі. *Адплылі ад берагу і ўспомнілі, што не ўзялі вы́ліўку.* Езярышча Гар.

ВЫЛО́ГІ *мн.* Барты ў адзенні. *Пальто шыюць з выло́гамі.* Абаляны Брасл.

ВЫЛУПА́І *мн., зневаж.* Вялікія вочы. *У дзеўкі такія ўжо вылупа́і. У каго толькі ўдалася!* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *вірлы.*

ВЫМА́ТЫВАЦЬ *незак.* Выветрываць. *Я во тут адзежу выма́тываю.* Абольцы Тал.

ВЫ́МЕТНУЦЦА *зак.* Знікнуць, сысці. *Еслі ў цёмным хараніць, то, гаворуць, на тым свеце будзіш пад страхой многа стаяць, пака цёмнае ўсё вы́метнецца.* Азяркі Глыб.

ВЫ́НАСАК *м.* Зносак; маленькае курынае яйцо. *Ета ж ні яйцо, а вы́насак. Што падзелыць з курыцай?* Баева Дубр.

ВЫНО́ДВАЦЦА *незак.* Сваволіць, гарэзаваць, дурэць. *Не выно́двайся, стой на месце!* Лігусава Сен. Параўн. *вылінга́цца, вычмура́цца.*

ВЫ́ПАЎЗЕНЬ *м., заал.* Дажджавы чарвяк. *Як прайшоў дожджжык, дык усюды вы́паўзняў навымывала.* Слабодка Брасл.

ВЫ́ПЕТРЫЦЦА *зак.* Выпетрацць, схуднець. *Працуе дзень з ноччу і ў саўгасе, і дома, вы́петрылася вунь, косці адны.* Празарокі Глыб.

ВЫПІВО́ХА *аг., асудж.* П'яніца. *На цябе гарэлкі не хопіць, выпіво́ха.* Выгада Сен.

ВЫ́РАБІЦЬ *зак.* Адпрацаваць; перастаць працаваць. *Вы́рабіў сваё я даўно ўжо.* Гута Паст.

ВЫ́РВА *аг., неадабр.* Пранырлівы, прабіўны чалавек. *Такі вы́рва ўсюды ўлезе.* Вярэнькі Паст. Параўн. *варата́га.*

ВЫ́САКА *прысл.* Высока. *Кот вельмі вы́сака залез.* Кавалі Лёзн.

ВЫ́САНЧЫЦЬ *зак.* Зліць, сцадзіць (пра малако, ваду і інш.) *Вы́санч малако ў канку.* Купчэлі Брасл.

ВЫ́СТАР *м.* Стары чалавек. *Я ўжо вы́стар, сваё пражыў.* Езярышча Гар.

ВЫ́СТАРАК *м., экспр.* Немалады нежанаты хлопец. *Ён так і астаўся вы́старкам, мо таму, што кульгаў.* Гарадок.

ВЫ́СТАРЫЦЦА *зак.* Страціць здольнасць усведамляць, выжыць з розуму (пра старога чалавека). *Дзед наш саўсім ужо вы́старыўся.* Стасева Лёзн.

ВЫ́ТЛУМІЦЬ *зак.* Выдумаць, сказаць няпраўду. *Ты ўжо як вы́тлуміш, дык і веруць людзі.* Камайск Докш.

ВЫ́ТРУХАЦЬ *зак.* Вытрасці. *Нада вы́трухаць палавікі.* Бігосава В.-Дзв.

ВЫТРЫБУ́ШВАЦЦА *незак.* Выходзіць з памяшкання. *Вун падруга твая з хаты вытрыбу́шваецца.* Быцава Беш.

ВЫ́ХАРТАЦЦА *зак.* Выгаладацца. *Дужа я сёння вы́харталася.* Чэрцы Леп. *Цэлы дзень у ягадах. Да вечара вы́харталіся добра.* Вераб'і Пол.

ВЫ́ХВАЦІЦЦА *зак.* Выжыць. *Тры сям'і пчол вы́хваціліся з зімы, жывушчыя.* Данілкава Тал.

ВЫ́ХУДЛЫ *прым.* Схуднелы. *Які ж вы́худлы сабака, ці паправіцца?* Галбея Паст.

ВЫЦІРА́ЛЬНІК *м.* Ручнік. *Каля ведра і выціра́льнік саматканы вісіць.* Снегі Міёр.

ВЫ́ЦУБІЦЬ, ВЫ́ЦУЛІЦЬ *зак.* Выпіць усё. *Так захацела піць, што вы́цубіла літр кампоту.* Валосава Тал. *Малы ўлюбіў малако і вы́цуліў усю бутэльку.* Грамошча Пол.

ВЫ́ЦЯГЦІ *зак.* Выцягнуць адкуль-небудзь. *Трэба кацялок з печы вы́цягці.* Янкі Докш.

ВЫЧМУРА́ЦЦА *незак.* Сваволіць, гарэзаваць, дурэць. *Не вычмура́йся, бізуна дам.* Папшычы Глыб. Параўн. *вылінга́цца, выно́двацца.*

ВЫЧМУРО́НІК *м.* Свавольнік, гарэза. *Вычмуро́нік ты, калі ж ты ўймесся?!* Папшычы Глыб.

ВЫ́ЧУНЯЦЬ *зак.* Ачуняць, выздаравець, паправіцца. *Мо ў бальніцы і вы́чуняю?* Зубава Арш. Параўн. *вы́качацца.*

ВЫЧВАРА́ЦЬ *незак.* Рабіць што-небудзь непрыстойнае, вытвараць. *Ён давай скакаць ды вычвара́ць усякае.* Зубава Арш.

ВЫЧЭ́КВАЦЬ *незак.* Чакаць, падпільноўваць. *Дзед мой ваўка вычэ́кваець.* Скрыдлева Віц.

ВЫШАРА́ШВАЦЬ *незак.* Мыць, шараваць. *Сцены вышара́швалі пяском.* Баршчоўка Віц.

ВЫ́ШЧАРЫЦЦА *зак., перан.* Паказацца з-за хмары. *Вот і сонца вы́шчарылася, светла, добра стала.* Папкі Міёр.

ВЫШЫВА́НКА *ж.* Вышыты ручнік. *Трэба ўжо памыць вышыва́нку.* Загарадна Лёзн.

ВЭ́ДЗГАЦЦА *незак.* Аддаваць каму-небудзь многа часу. *Што ты цэлы дзень вэ́дзгаешся з імі?!* Старое Сяло Уш.

ВЭ́ЛЕН, ВЭЛІН *м.,* ВЭЛЬ *ж.* Вэлюм. *А ў маладой вэ́лен на галаве будзіць.* Слабада Глыб., Галбея Паст. *Купіла вэ́лін – беласнежны, прама воблака.* Жукоўшчына Шарк. *Вэль у маладой доўгая.* Заазер'е Пол.

ВЯ́ГЕЛА *м., заал.* Мянтуз. *Глядзі, якога вя́гела сёння вылавіў.* Чарневічы Глыб.

ВЯ́ЗАНКА *ж.* Нізка рыбы. *На вя́занку рыбу весяць.* Янкавічы Рас.

ВЯЗЁНКА *ж.* Вязаная рукавіца. *Мая бабулечка звязала мне вязёнкі – цёплыя, мяккія.* Паловікі Лёзн.

ВЯЙНУ́ЦЬ *зак., безас.* Павеяць. *Сярод зімы цяплом вяйну́ла.* Празарокі Глыб.

ВЯКО́ВЫ *прым.* Векавы. *Вяко́выя дубы растуць у нас.* Новая Вёска Докш.

ВЯЛІ́КАННЕ, ВЯЛІ́КАННЯ *н., рэліг.* Вялікдзень. *На Вялі́канне пойдзем у цэркву.* Фарынава Пол. *На Вялі́кання пірагі спяку.* Празарокі Глыб.

ВЯ́ПЛА *аг., зневаж.* Разява, дурань. *Ні будзь вя́плай, глядзі пад ногі.* Мішкавічы Шум.

ВЯПЛАВА́ТЫ *прым., зневаж.* Дурнаваты. *Ты зусім нейкі вяплава́ты.* Белькі Паст.

ВЯРДЗЕ́ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць на незразумелай мове. *Тут немцы прішлі, вярдзе́чуць нешта сабе.* Шупені Тал.

ВЯРХО́НКА *ж.* Рукавіца з адным пальцам. *Надзень, кажу, вярхо́нкі, замараешся.* Камары Віц.

ВЯРХО́ЎКА *ж., заал.* Верхаводка, невялікая прэснаводная рыбка. *У нас водзяцца вярхо́ўкі.* Рабцы Сен.

ВЯРЫ́ЗГАЦЬ *незак., груб.* Крычаць на каго-н., лаяць каго-н. *Усё жыццё вяры́згаеш на мяне.* Ліпаўкі Докш., Сахнавічы Глыб.

ВЯРЭ́НЬКА *ж.* Сплецены з бяросты кошык з накрыўкай. *Вазьмём, бывала, вярэ́нькі і пойдзем у магазін.* Рошчына Сен.

ВЯРЭ́СК гл. ВЕ́РАСК

ВЯСЕ́ЛЬНІЦА *ж.* Нявеста. *Прыбралася ты, дзеўка, як усё адно вясе́льніца.* Шыліна Шум.

ВЯСЁЛКА *ж., бат.* 1. Грыб смаржок. *І вясной ёсць свае грыбы – вясёлкі.* Слабада Шум. 2. Бяроза ў час цвіцення. *Вясёлка – ета бяроза з сярожкамі, як вунь у мяне ва двары.* Ноўка Віц. *Глядзі вясёлку не зламай.* Лялеўшчына Гар.

ВЯСНЯ́НКІ *мн.* Вяснушкі. *І шчокі, і нос усыпаны вясня́нкамі.* Слабада Шум.

ВЯТРА́К *м.* Флюгер; прыстасаванне для вызначэння напрамку ветру. *Паставілі каля хаты вятра́к.* Замошша Брасл.

ВЯТРО́ЎКІ, ВЯТРУ́ЎКІ, ВЯТРУ́ФКІ *мн.* Басаножкі. *У Марыны вельмі модныя вятро́ўкі.* Мікалаева Міёр. *Купіла я сваёй малой вятру́ўкі.* Перавознікі Паст. *О, якія ў цябе, унучка, вятру́фкі, хоць на вяселле ў іх ідзі.* Сахнавічы Глыб.

ВЯЦІ́СТЫ *прым.* Галінасты, бухматы. *Півоні ў мяне такія вяці́стыя.* Дабея Шум.

# Г

ГА́БАЛЛЕ *н., зб., толькі адз.* Куп'ё, купіны. *Калі хадзілі па тому га́баллю, дык можна было ногі пераламаць.* Быцава Беш.

ГАБЛЯВА́ЦЬ *незак.* Ісці напрасткі. *Куды гэта баба так габлю́е? Толькі спадніца відаць.* Новы Пагост Міёр.

ГАБЭ́ЛІК, ГАБЭ́ЛЬЧЫК, ГАБЛЮШО́К *м., памянш.* Гэблік. *Вот паработаю габэ́лікам трохі, і даска да столі будзіць як завадская.* Тупічына Шарк. *Габэ́лік у сараі недзе валяецца.* Проземля Чаш. *За габэ́лік чуць не падраліся.* Загор'е Глыб., Гута Паст. *Трэба падтачыць габэ́льчык.* Чарневічы Глыб. *Наш габлюшо́к ляжыць у скрыні.* Мыкава В.-Дзв.

ГАВАРА́ *ж.* Гаворка. *Ягоная гавара́ ўсім ужо надаела.* Гарбацэвічы Арш.

ГАВАРО́К *м.* Гаваркі чалавек, гаварун. *Калі сабіралісь мы гуляць, якой-небудзь гаваро́к знаходзіўся і расказваў нам шуткі розныя.* Бігосава В.-Дзв.

ГАВАРУ́ШКА *ж., часцей* ГАВАРУ́ШКІ *мн., бат.* Грыб апенька. *Міма гавару́шак я ніколі ні прахажу ў лесі. Сабіраю і салю на зіму.* Загарадна Лёзн. *У гавару́шак шляпкі з узорамі.* Доўжа Віц., Слабада Шум. *Я на пню свежанькія гавару́шкі нашла.* Белая Ліпа Сен. *Гавару́шкі з'яўляюцца вясной і бываюць невялікі час.* Заполле Сен., Пунішча, Дзяйкі Віц., Азёркі Гар., Слабада Шум. Параўн. *гарэ́лік* [3]

ГАВО́ЛІЦЬ *незак.* Размаўляць, гутарыць. *Пакуль гаво́ліла з суседкай, настаў час вячэры.* Задоры Леп. Параўн. *гавэ́ндзіць, галдэ́чыць, гука́ць* у 1 знач.

ГАВЭ́НДЗІЦЬ *незак.* Размаўляць, гутарыць. *Мы як сабяромся вечарам, так і гавэ́ндзім да ночы.* Таўкіні Шарк. Параўн. *гаво́ліць, галдэ́чыць, гука́ць* у 1 знач.

ГАВЯ́ДА *ж., зб., толькі адз.* Буйная рагатая жывёла, каровы. *Уся гавя́да за зіму перавялася.* Выдрэя Лёзн. *Гавя́ду пагналі на поле.* Мілашова Міёр.

ГАГАТУ́Н *м.* Рогат. *Во, гагату́н нейкі дурны напаў.* Туркова Міёр.

ГАГАТУ́ХА *ж., заал.* Муха. *Унучачка, забі гэту гагату́ху, не дае ляжаць.* Чарневічы Глыб.

ГАГЕ́ЛЯ *м., зневаж.* П'яніца. *Эх ты, зноў назюзюкаўся, гаге́ля!* Белаазёрны Леп. Параўн. *гілдо́р.*

ГАГО́КАЦЬ *незак.* Гойкаць, вымаўляць, выкрыкваць "гой". *Часоў, можа, пяць нехта гаго́каў за ракою.* Кушлікі Пол.

ГАГО́ЛЬ *м., экспр.* Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы; здаравяка. *Ты б відзіла, які гаго́ль яе мужык стаў.* Стар Арш. Параўн. *грамі́ра.*

ГАД *м., заал.* Каларадскі бульбяны жук. *З лісцяў бульбоўніку мы збіралі га́даў.* Свіла Глыб.

ГАДАВА́ЛЕЦ, ГАДАВА́НАК, ГАДУ́Н, ГЫДЫВА́ЛІЦ *м.* Гадаванец, выхаванец. *Мой гадава́лец у мяне жыве ўжо сем гадоў.* Косарава Глыб. *У вёсцы ў мяне ёсць мой гадава́лец.* Порплішча Докш. *Мой гадава́нак добра вучыцца.* Селішча Уш. *Ой, пляменнічак мой, ты ж мой гаду́н!* Сураж Віц. *Гэта мой гыдыва́ліц, які жывець у мяне з пялёнак.* Сяляўшчына Рас.

ГАДАВА́ЦЬ *незак.* Карміць. *Пайду гадава́ць свайго свіннюка – крычыць ужо.* Далуева Шум.

ГАДАВІ́К[1], ГАДУНО́К *м.* Жарабя ва ўзросце аднаго года. *Гадаві́к ледзь паспяваець за кабылай.* Язна Міёр., Бычыха Гар. *Ну й слаўны ў цябе гадуно́к.* Паташня Міёр.

ГАДАВІ́К[2] *м.* Кольца на розе ў каровы. *У маёй каровы на розе два гадавіка́.* Дабея Шум.

ГАДЗІ́ЦЬ *незак.* Наймаць на працу на пэўны час. *Сколькі гадоў гадзі́лі яго пастухом у нашым калхозе.* Старое Сяло Уш.

ГАДЗЮ́ЧНІК *м., бат.* Зверабой, святаяннік. *На яго гаварылі гадзю́чнік, цвіцець жоўценькімі цветамі.* Мікіціха Шум.

ГАДО́ВАНЫ *дзеепрым.* Выгадаваны. *Гадо́ваныя гэтыя куркі, а тыя куплёныя, але яны не рознюцца між сабой.* Лугавыя Віц.

ГА́ДСТВА *н., зб.* Гадаўё, гадзюкі, гады. *Быў у нас адзін стары, што збіраў усё га́дства і тапіў у балоце.* Серкавіцы Тал.

ГАДУ́Н гл. ГАДАВА́ЛЕЦ

ГАДУНО́К гл. ГАДАВІК[1]

ГАЖЫ́ЦЦА *незак., безас. (звычайна з адмоўем).* Варта, трэба, к месцу. *Не гажы́цца ў мае годы хадзіць на Яна.* Чарневічы Глыб.

ГАЗУ́РКА *ж.* Газніца, газоўка. *Добра, як цяпер свет, а то газу́рка была.* Абаляны Брасл.

ГАЙДАМА́КА *аг., зневаж.* Валацуга; пра чалавека, які валочыцца, бадзяецца без справы. *Во, пайшоў гайдама́ка з хаты ў хату.* Савічы Паст.

ГАЙДАМА́ЧЫЦЬ *незак.* Валацужнічаць, бадзяцца без справы. *Папрывыкалі цэлымі днямі гайдама́чыць, а ад гэтага і работа няспорная.* Клясціцы Рас.

ГАЙНО́ *н.* 1. Лежня ў свіней з саломы або сена. *Зрабіла чыстае гайно́ свіням.* Верамееўка Гар. 2. *перан., асудж.* Вялікі беспарадак, непрыбранае месца. *Во, гайно́ развёў – не ўлезці.* Папоўка Сен.

ГАЙНЯ́ *ж.* Зграя ваўкоў, сабак. *Ходзюць па дзярэўні, як гайня́ ваўко́ў, выглядаюць, дзе нашкодзіць.* Камары Віц. *Я бачыў цэлую гайню́ ваўко́ў.* Барсукі В.-Дзв.

ГА́КАЦЬ *незак.* Матычыць. *Вазьмі ты гачку і йдзі га́каць буракі, бо зямля, як колік.* Паліцы Беш.

ГА́КНУЦЦА *зак., экспр.* Упасці, зваліцца. *Я як га́кнулася з каня, ледзь жывая асталася.* Абольцы Тал. *З ганку можна і га́кнуцца, бо занадта ўжо слізка.* Ваўкалата Докш., Кулінава Уш. Параўн. *гальмакну́цца.*

ГА́КНУЦЬ *зак., экспр.* Патраціць, аддаць. *Я ў магазіне га́кнула ўсе грошы.* Булахі Глыб.

ГАЛ *м.,* ГА́ЛА́ *ж.* 1. Голае месца, чыстая прастора. *А ў вайну такі гал пачці што віздзе быў.* Лужкі Шарк. *За гародам у нас вялікая га́ла.* Бароўка В.-Дзв. 2. Забалочаная сенажаць сярод лесу. *Трэба заўтра на галу́ ісці.* Гарбацэвічы Арш.

ГАЛАБАРО́ДЗЬКА *м.* Мужчына, у якога не растуць барада і вусы. *Бачыўся сёння з нашым галабаро́дзькам.* Гарбацэвічы Арш. *Наш сват галабаро́дзька.* Баева Дубр.

ГАЛАБО́НІ гл. ГАЛУБО́НІ

ГАЛАВА́[1] *ж., перан.* Верхняя частка снапа. *Стаў снапы пнём на зямлю, гало́вамі ўверх, каб сохлі.* Далуева Шум. ◊ *Галава́ пайшла ў ствол* – забыць, забыцца. *Я такая старая стала, што галава́ ўжэ пайшла ў ствол.* Езярышча Гар. ◊ *Галава́ рвець* – баліць галава. *Як галава́ рвець! Аж немагчыма трымаць.*

Замошша Сен. ◊ *Галаву́ налажыць* – памерці заўчасна. *Гэта ж трэба было так галаву́ налажыць – двое дзетак засталося.* Каўровая Дубр.

ГАЛАВА́[2] *ж., ткац.* Кола на навоі ў кроснах. *Глядзі – ета галава́ называецца.* Белая Ліпа Сен.

ГАЛАВАСЕ́К *м., рэліг.* Свята ўсячэння галавы Іаана Прадцечы. *Заўтра Галавасе́к – пойдзем у цэркву.* Бешанковічы.

ГАЛАВА́Ч[1] *м., заал.* 1. Рыба падкаменшчык. *Галава́ч жывець пад каменім.* Чырвоныя Буднікі Беш. *Галава́ч цяжка ловіцца, хаваецца.* Балдышы Пол.

ГАЛАВА́Ч[2] *м., экспр.* Чалавек з вялікай галавой. *Нейкі галава́ч у мужыках у яе.* Зайцава Арш. *На галавача́ шапку не падабраць.* Далуева Шум.

ГАЛАВЕ́ЛЬ *м.*, ГАЛАВЕ́ШКА *ж., заал.* Рыба галавень. *Увосень галаве́ль клюець пад вечар.* Каўшэлева Шарк., Града Сен. *Галаўлі́ тоўстыя, плывуць – ледзь варочаюцца шырокім хрыбтом.* Паташня Міёр. *Галаве́шкі раней на нашай рацэ былі.* Данілкава Тал.

ГАЛАВЕ́НЬ *м.* Галавешка; абгарэлы кавалак дрэва. *Вялікі галаве́нь выпаў з печкі.* Новы Пагост Міёр.

ГАЛАВЕ́ШКА гл. ГАЛАВЕ́ЛЬ

ГАЛАВІ́ЦЫ *толькі мн.* Штаны. *Нада маі галаві́цы пасціраць.* Вялікі Поўсвіж Леп.

ГАЛАГУ́Т *м.* Галандскі певень. *Учора галагу́ту галаву адсёк!* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *гыла́н, го́га.*

ГАЛАГУ́ТКА *ж.* Кольца ад гранаты. *Вырваў галагу́тку, а куды кінуць яе, не ведаў.* Гута Паст.

ГАЛАДАМЕ́Р *м., экспр.* Ненасытны, пражэрлівы чалавек. *Ну і развялось гэтых галадаме́раў – толькі кармі.* Чурылава В.-Дзв.

ГАЛАДКА́ *ж., кулін.* Аладка. *Якія смачныя галадкі́ атрымаліся.* Круткі Паст.

ГАЛАДРА́ *аг., пагард.* Бядняк, абадранец. *Іна была такая галадра́ ўсю жызню.* Ясева Міёр. *Тут жывець апошняя галадра́.* Маляўкі Міёр.

ГАЛАЕ́ДЗЬ *ж., толькі адз.* Голад. *У галае́дзь елі што папала.* Моханава В.-Дзв. *Я помню, як была ў вайну галае́дзь.* Грынеўшчына Докш. Параўн. *гало́дня.*

ГАЛАЛО́БЫ *прым.* Той, які ходзіць без галаўнога ўбору. *Надзень на вуліцу шапку, не хадзі галало́бы.* Селішча Арш.

ГАЛАМУ́ЗЫ *прым.* Лысы. *Рана яе сын галаму́зым стаў.* Абухава В.-Дзв.

ГАЛАСАВА́ЦЬ *незак.* Голасна крычаць, гучна размаўляць. *Чаго ты там галасу́еш? Мы чуем цябе добра.* Косарава Глыб.

ГАЛАТА́ *ж., толькі адз.* Галота, беднасць, галеча. *Галата́ была вайной.* Шыці Шарк. *У хаце была такая галата́, што не было за што хлеба купіць.* Грыгаравічы Леп.

ГАЛАЎНІ́К *м., неадабр.* Бабнік; той, хто вельмі захапляецца жанчынамі. *Гаварыла ж дачцэ: галаўні́к ён, нешчаслівая з ім будзеш.* Дубраўкі Пол.

ГАЛАХВО́СЦІК *м., заал.* Апалонік. *Галахво́сцікі добра трымаюцца на вадзе.* Доўгае Докш.

ГАЛАШЧО́К *м.* Моцны мароз без снегу. *Галашчо́к ударыў зарана.* Высачаны Лёзн. *Ох, які быў перад Новым годам галашчо́к!* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *гале́ц.*

ГАЛГАТУ́Н *м., неадабр.* Крыклівы чалавек. *З галгатуно́м цяжка жыць – замучыць.* Матырына Уш. Параўн. *га́рканнік, гарла́ч*[1].

ГАЛДА́ *ж.* Неразборлівая гучная гаворка. *Галду́ каля магазіна чуваць у нас здалёк.* Мікалаёва Міёр.

ГАЛДУ́Н *м., часцей* ГАЛДУНЫ́ *мн.* 1. *кулін.* Клёцкі. *Галдуны́ – любімая мая страва.* Бадзінава Пол. *Галдуны́ з мукі ўдаліся ў мяне добра.* Галубчыкі Глыб. *Галдуны́ са свежай бульбы смачныя.* Янкі Докш. Параўн. *глазні́чка, галы́ш.* 2. *перан.* Пра здаровае, поўнае дзіця. *У суседа аж пяць галдуно́ў бегаець па хаце.* Лашукі Паст.

ГАЛДЭ́ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць, размаўляць. *Бабы пачалі галдэ́чыць пра дзяцей.* Гута Паст. Параўн. *гаво́ліць, гавэ́ндзіць, гука́ць* у 1 знач.

ГАЛЁЗІЦЬ *незак.* Гугнявіць, ныць. *Галёзіць тут над вухам цэлую раніцу.* Навумаўка Беш. Параўн. *галуі́ць, го́мзаць*[1], *гундо́сіць.*

ГАЛЕ́НЬ, ГАЛЕ́НІК, ГАЛЁН, ГАЛЁК, ГАЛЯ́К, ГА́ЛІК, ГАЛІ́НЧЫК, ГО́ЛЕНЬ, ГО́ЛІК, ГУЛЕ́НЬ *м.,* ГАЛЬНО́ *н.* Венік без лісця, дзяркач. *Гале́нь не выкідваю – двор месці ім добра.* Каханавічы, Мыкава, Галубава В.-Дзв. *Вазьмі гале́нь і пашуруй мост.* Юнькі Паст. *Перад танцамі гале́нь бралі палы шураваць.* Узмёны, Туркова Міёр. *Гале́нь пад пячуркай стаіць, вазьмі, панадворак падмяці.* Сахнавічы, Латышы Глыб. *Гале́нь возле хлява стаіць – падмяці там.* Зароўе, Стаі, Старое Лядна, Крайцы Леп. *Трэба гале́нь узяць, схадзіць у дзяніку падмесці.* Бачэйкава, Сокарава, Чаўнышкі Беш., Буда Дубр., Князі, Пунішча Віц. *Недзе гале́нь валяўся, вазьмі, абмяці.* Мурагі Рас. *Гальнём добра шураваць мост у хаце.* Тумінічы, Суднікі, Лісуны Арш. *Гальнём добра падмятаць шуму.* Несцераўшчына Докш., Замошша, Белая Ліпа, Варашылы Сен., Слабадзішча Лёзн., Нізкі Гарадзец Тал., Тараскі Чаш., Кубелеўшчына Шарк. *Калідор, баню, сені ў нас*

*падмітаюць галенікамі, здзеланымі з бярёзы.* Задзетуні Віц., Янкавічы Рас. *Нашто табе гэты галён? Ніхай стаіць там, дзе стаяў.* Рубеж Брасл. *Галёк у нас стаіць у куце.* Чарневічы Глыб. *Гэты галік выкідываць ужо нада.* Ёды Шарк. *Выкінь ты той галінчык.* Старое Лядна Леп. *Венік змёўся, толькі голень застаўся.* Косарава Глыб. *Голень гэны нада памяняць.* Лямніца Віц. *Унучка на уліцэ мяцець голікам.* Новае Сяло, Полымя Сен., Новае Сяло Тал. *Гулень добра трэць падлогу.* Гарадок. *Гэта гально да пары ўжо выкінуць.* Дамашы Брасл.

ГАЛЕЦ *м.* Моцны мароз без снегу. *Мароз узяўся на галец і доўга пёк.* Нямойта Сен. Параўн. *галашчок.*

ГАЛЁК гл. ГАЛЕНЬ

ГАЛЁКАЦЬ *незак.* 1. Гучна крычаць, спрачацца. *Чаго ты так галёкаеш?* Вяцера Чаш. *Галёкалі, галёкалі, а толку ніякага і ні дабіліся.* Лужкі Шарк. *Учора галёкалі да трох ночы.* Крайцы Леп. 2. *перан.* Стукаць, грукаць. *Дождж усю ноч па вокнах галёкаў.* Ваўчо Уш.

ГАЛЁН гл. ГАЛЕНЬ

ГАЛЁНІКІ *толькі мн.* Здані, галюцынацыі. *Галёнікі яго бяруць, вытварае няведама што.* Канева Сен.

ГАЛЁНЫ *прым.* Астрыжаны. *Фу, галёны ходзіць, як шарык вaздушны.* Латкова Шум.

ГАЛЁПАЦЬ *незак.* 1. Бегаць, насіцца. *Ідзі да дзяцей, яны на вуліцы галёпаюць.* Вяцера Чаш. *Дзеці галёпаюць, аж глядзець страшна.* Завуцце Міёр., Кублічы Уш. 2. Марна траціць час, не займацца справамі; лодарнічаць. *Моладзь у вёсцы галёпае цэлае лета.* Славені Тал.

ГАЛІК гл. ГАЛЕНЬ

ГАЛІНА *ж.* Костка без мяса. *У цяжкі час і з галіны супу будзеш рад.* Камары Віц. Параўн. *галодніца.*

ГАЛІНЧЫК гл. ГАЛЕНЬ

ГАЛІЦЦА *незак.* 1. Хацець, жадаць. *Дачку я яшчэ галілася мець.* Гастынічы Тал. 2. Старацца, імкнуцца. *На Купалле дзяўчаты галюцца да поўначы пагадаць.* Ваяводкі Віц. 3. Лашчыцца. *Дзеці да яго галюцца.* Кісялёва Тал.

ГАЛКА *ж.* Таблетка. *Трэба ж галак выпіць.* Круткі Паст.

ГАЛЛЯК *м., зб.* Галлё. *Нада галляк абадраць, а то ўжо ў вокны лезець.* Казімірова Пол.

ГАЛМА *ж.* Палка з асіны. *Чатніла дзеўка, пакуль яе шэптам ды галмай не палячыла.* Ноўка Віц.

ГАЛОБЛЯ *ж., часцей* ГАЛОБЛІ *мн.* Аглоблі. *Дзе тыя галоблі дзеліся?* Нурава В.-Дзв.

ГАЛО́ДНІЦА *ж.* Костка без мяса. *Выкінь гало́дніцу сабаку на двор.* Баева Дубр. Параўн. *галіна.*

ГАЛО́ДНЯ *ж.* Голад. *У вайну такая гало́дня была, што нават сабак елі.* Калінавая Міёр. Параўн. *галае́дзь.*

ГАЛО́СТУПКАМ *прысл.* На босую нагу, басаnож. *Дзеці могуць бегаць у ботах гало́ступкам.* Рыдамля Тал.

ГАЛО́СТУПКІ *прым.* Босы. *Раней з вясны ўсе гало́ступкія бегалі.* Кулінава Уш.

ГАЛО́ЎКА *ж.* Падушка. *Галаву – на гало́ўку і спаць – любае дзела.* Ілава Шум.

ГАЛУ́Б[1], ГАЛУБЕ́Ц *м., заал.* Голуб. *Да нашага вакна прыляцеў галу́б.* Багатырская Пол. *Галу́б любіць варкаваць над нашай хатай.* Ліпаўкі, Сценка Докш., Лукомль Чаш. *Галубе́ц на крыльцо прыляцеў.* Іванаўка Гар.

ГАЛУ́Б[2] *м., бат.* Грыб радоўка шэрая. У *гэту пару ў лесе і казлы, і галубы́ растуць.* Слабодка Леп.

ГАЛУБКІ́ *мн., бат.* Герань. *Галубкі́ плоха пахнуць, аж галаву дурыць.* Барсукі В.-Дзв.

ГАЛУ́БНІК *м., буд.* Франтон. *Галу́бнік разваліўся, нада новый дзелыць.* Баева Дубр.

ГАЛУБО́НІ, ГАЛАБО́НІ, ГАНАБО́ЛІ *мн., бат.* Буякі, дурніцы. *Галубо́ні трэба збіраць асцярожна.* Боркавічы В.-Дзв. *Галубо́ні тыя растуць у нас на балоце разам з журавінамі.* Велеўшчына Леп. *Наш дзед ведаў, дзе растуць галабо́ні.* Манголія Сен. *Галабо́ні буйнейшыя за чарніцы.* Павулле Уш., Лагі Арш., Новы Пагост Міёр. *Ганабо́лямі можна атруціцца.* Казімірова Пол. *Варэнне з ганабо́ліў смачнае.* Сяляўшчына, Жары, Грышына Рас.

ГАЛУБЭ́Й *прым.* Блакітны. *Галубэ́й колер я люблю.* Амбросавічы Шум.

ГАЛУДАВА́ЦЬ *незак.* Галадаць. *Есці не было чаго, вось і галудава́лі.* Войлавічы Шум.

ГАЛУ́ЗА[1] *аг.* Гарэза. *Брат мой такі ўжо галу́за.* Зайцава Арш.

ГАЛУ́ЗА[2] *ж.* Лысіна. *Сын мой прыйшоў з арміі хворы: галу́за блішчыць, валасы ўсе выпалі.* Шаркаўшчына.

ГАЛУ́ЗАВАЦЬ *незак.* Гарэзаваць, дурэць, балавацца. *Дзеці, перастаньце галу́заваць!* Баева Дубр. *Чаго ты так галу́заеш? Што табе не сядзіцца?* Выгада Сен.

ГАЛУІ́ЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Ты ж паглядзі! Як падрос, дык і перастаў галуі́ць.* Грыгаравічы Леп. Параўн. *гале́зіць, го́мзаць [1], гундо́сіць.*

ГАЛУ́ТА *ж., толькі адз.* Асеннія замаразкі без снегу. *У галу́ту йшчэ кароў можна пасціць, калі што ёсць на полі.* Ясева Міёр.

ГАЛУ́ТЛІВА *прысл.* Слізка. *Галу́тліва стала за вадой ісці.* Валынцы В.-Дзв. Параўн. *глі́зка.*

ГАЛУ́ШКА *ж., перан.* Кавалак вугалю. *Галу́шкі трэба кідаць у печ.* Міхалінава Лёзн.

ГАЛЫ́Ш *м., часцей* ГАЛЫШЫ́ *мн., кулін.* Клёцкі з мукі або бульбы без начынкі. *На сараці варуць галашы́.* Кветча Леп. Параўн. *галду́н* у 1 знач., *глазні́чка.*

ГА́ЛЬДЗІК *м.* Шклянка. *Не пі поўны га́льдзік, каб не спіўся.* Суднікі Арш.

ГА́ЛЬКА *ж.* Сподняя жаночая сарочка; камбінацыя. *Даўней га́лькі самі шылі з бацісту, а цяпер усё шоўкавыя ды нейлонавыя.* Антонаўцы Брасл.

ГАЛЬКЕ́ЦЬ *незак.* Заставацца ў хаце адной, быць у адзіноце. *Я не люблю галькéць вечарамі.* Сарочына Уш.

ГАЛЬМАВА́ЦЬ [1] *незак.* Тармазіць. *Цягніку на павароце трэба гальмава́ць.* Іванск Чаш.

ГАЛЬМАВА́ЦЬ [2] *незак.* Абграбаць, падраўноўваць стог сена. *Стагі нада гальмава́ць, дык будуць стаяць.* Гарадок.

ГАЛЬМАКНУ́ЦЦА *зак., экспр.* Зваліцца з чаго-небудзь і моцна ўдарыцца. *Ехала я на ровары пасля дажджу, пакаўзнулася і так гальмакну́лася, што аж слёзы з вачэй пасыпаліся.* Празарокі Глыб. Параўн. *га́кнуцца.*

ГАЛЬНО́ гл. ГАЛЕ́НЬ

ГАЛЭ́П *м., заал.* Птушанятка, не пакрытае пер'ем. *Дзеці ўчора мне галэ́па прынеслі.* Гарбацэвічы Арш.

ГАЛЮ́ШАНЬКІЙ, ГАЛЮ́ШАНІЧКІЙ *прым., памянш.* Голенькі. *Галю́шанькій карапузік, тоўсценькій, сядзіць у люлькі і смяецца, галю́шанічкій такей.* Ляхаўка Дубр.

ГАЛЮ́ШКА *ж.* Юшка; металічны кружок, якім закладаюць адтуліну ў коміне. *Трэба было адчыніць галю́шку ў печы.* Чарневічы Глыб.

ГАЛЮШО́ВІКІ, ГУЛЕШО́ВІКІ, ГЛІШУ́ЎКІ *мн.* Галошы. *І абування такога раней не было, як цяпер. Ну, лапці якія-нібудзь, дзеравянікі, галюшо́вікі.* Сухавежа Міёр. *Пайду на агарод у гулешо́віках, тапкі змараю яшчэ.* Папшычы Глыб. *Падай мне мае гліш́уўкі, а то мокра ў ногі.* Лукашова Паст. Параўн. *гамашы́* [1].

ГАЛЯВІ́НА *ж.* Паляна. *Вялікая галяві́на ў нашым лесе зарасла верасам.* Рыдамля Тал.

ГАЛЯВЭ́ТА, ГАЛЯРЭ́ТА, *памянш.-ласк.* ГАЛЯРЭ́ТКА *ж., кулін.* Халадзец, студзень. *Мой мужык дужа любіць галявэ́ту.*

Ахрэмаўцы Брасл. *Калі свінню колім, дык гатовім галярэту. Яна дужа смачная ўпрыкуску з бульбінкай.* Сухавежа Міёр. *У галярэтку заўсёды часначку дабаўляй, каб смачней было.* Дрысвяты Брасл.

ГАЛЯ́К гл. ГАЛЕ́НЬ

ГАЛЯРЭ́ТА гл. ГАЛЯВЭ́ТА

ГАМАШЫ́[1] *мн.* Галошы. *Гамашы новыя нада, а то гэтыі саўсім дзіравыя.* Грэцкія Міёр. *Хадзілі мы тады ў макраступах, гамашах і чунях.* Каменка Віц. Параўн. *галюшовікі, гулешовікі, глішуўкі.*

ГАМА́ШЫ́[2] *толькі мн.* Цёплыя штаны. *Бачу, што ты апранула новыя гамашы.* Славені Тал. *А раней жанчыны не хадзілі ў гамашах. Гэта ж зараз, як адна пад адну ў іх ходзяць.* Міхалінава Лёзн.

ГАМЗА́ТЫ *прым.* Гугнявы. *Прышоў жаніх у сваты гамзаты, рыжы, крывы. А што я магу зрабіць, еслі бацька сказаў ісці за яго. Раней, што бацька сказаў, так і будзіць.* Турлы Паст.

ГАМЗА́ЦЬ *незак.* Есці. *Карова наша малайцом: гамзаець усё без бяды.* Баршчоўка Віц.

ГАМЗІ́ЛА *аг., неадабр.* Скнара. *Дай кніжку пачытаць, гамзіла.* Грышына Рас.

ГАМО́ЛКА *ж., часцей* ГАМО́ЛКІ *мн.* Галушкі з тварагу. *На каляды пячом гамолкі з тварагу.* Літусава Сен.

ГАМО́Н *м.* Канец. *Гамон нашаму ўраджаю сёлета – нічога не ўрадзіць.* Дрыгучы Міёр. *Усім непрыемнасцям цяпер ужо гамон.* Галубава В.-Дзв. ◊ *Гамон дзела* – справе канец. *Гамон дзела! Заўтра ўжо праз возера не пройдзем.* Кашчына Чаш.

ГАМО́НЬКА *ж., іран.* Вельмі гаварлівая дзяўчына. *Гэныя гамонькі з нашымі мальцамі сустракаюцца.* Чэрцы Леп.

ГАМУ́ЛКА *ж.* Тормаз у веласіпедзе. *Націскай хутчэй на гамулку!* Круткі Паст.

ГАМЭ́РНЯ *ж.* 1. Натоўп; шумная кампанія. *На Купалле збіраецца цэлая гамэрня ля агню.* Велеўшчына Леп. *Калі ў вёсцы вяселле, ля кожнай хаты збіраецца гамэрня.* Луцік Чаш., Каралі Сен. *Вунь па вуліцы якая гамэрня ідзець.* Мішкавічы Шум. *Каля нашай хаты часта збіраецца гамэрня дзевак і мальцаў.* Чэрцы Леп., Яніна В.-Дзв. 2. Шматгалосы крык, бязладная гаворка. *Я спаць прылаўчылася – ніякая гамэрня не бярэць.* Камары Віц.

ГАНАБО́ЛІ гл. ГАЛУБО́НІ

ГАНАБО́ЛЬНІК *м., бат.* Сцёблы дурніц, дурнічнік. *На ганабольніку ў балоці растуць ганаболі.* Сяляўшчына Рас.

ГА́НАК *м.* 1. Сені. *К дому прыбудавалі ганак.* Гута Паст. 2. Веранда. *Чуць дзверы мне ў ганку ня выламалі.* Кавалі Паст.

3. Ступенька, прыступка. *Глядзі, па ганкам ціхонька ідзі – галалёд жа.* Грачыхі Тал.

ГАНАРАВАЦЬ *незак.* Паважаць. *Ганаруеш людзей – то й цябе людзі ганараваацьмуць.* Лаўрэнавічы Тал.

ГАНДЛЯЧЫЦЬ *незак.* Гандляваць. *Мае зяць з дачкой хацелі гандлячыць, але ў іх нічога не вышла.* Велеўшчына Леп.

ГАНЕК *м.* Ганак. *Гасцей не запрашаюць праз ганек.* Багданава Брасл.

ГАНІЦЬ *незак.* Ганьбіць, абзываць. *Мужык гэны ганіць сваю жонку, як толькі можыць.* Янкавічы Рас.

ГАНУРОВЫ, ГУНУРОВЫ *прым.* 1. Ганарысты, фанабэрысты. *Прыехаў сын, гануровы які, ні з кім ні здароваецца.* Мосар Глыб. *Цяпер дзеці гануровыя, размаўляць не хочуць.* Новае Сяло Сен., Германавічы Шарк. *Гунуровая моладзь пайшла – нават не вітаецца.* Юркава Глыб. 2. Ганарлівы, горды. *Во які гунуровы, ня хочаш дажа цукерак узяць.* Папшычы Глыб.

ГАПАЦЬ *незак.* Скакаць, падскокваць. *Ты ж там не гапай на ступенях.* Азярцы Глыб. Параўн. *гэцаць.*

ГАПЛЮК *м.* Гузік. *Трэба гаплюкі ў кашулі перашыць.* Проземля Чаш. *У мяне гаплюк адарваўся.* Старое Лядна Леп. Параўн. *гуз.*

ГАРАВАЦЬ[1] *незак.* Цяжка працаваць. *На полі гаравалі ўсё лецейка, а ўраджай дрэнны.* Задроўе Арш.

ГАРАВАЦЬ[2] *незак.* Начаваць. *А дзе вы будзеце гараваць?* Пашкі Пол.

ГАРАВІТЫ, ГАРАТНЫ, ГАРУШНЫ, ГАРОВЫ *прым.* 1. Гаротны; поўны гора, нястач. *Ад самага малецтва жыццё маё было цяжкім і гаравітым.* Равяцічы Тал. 2. Гаротны; які церпіць, перажывае гора (пра чалавека). *Не магу глядзець на яго гаратнага, аж плакаць хочацца.* Цаўі Шум. *Свякроўка мая такая гаратная, такое цяжкае жыццё ў яе.* Чарневічы Глыб. *Мая сістра была гарушная.* Сокарава Беш. *Дачка ў мяне вельмі гарушная.* Грынеўшчына Докш. *Гаровая я баба, ой, гаровая.* Крывыя Тал.

ГАРАТНІК *м.* Гаротнік. *Куды ж ты сяння пацягнешся, гаратнік?* Сабалі Чаш.

ГАРАТНІЦА *ж.* Гаротніца. *Ноч усю гаратніца трудзілася, не магла заснуць.* Замачак Чаш.

ГАРАЦІ[1] *незак.* Араць. *Пойдзем, пара ўжо поле гараці.* Малая Вядрэнь Чаш.

ГАРАЦІ[2] *незак.* Бедаваць. *Мая бабуля любіць гараці.* Іванск Чаш.

ГАРАЧО́, ГАРЯ́ЧА, ГАРО́НЦА *безас.-прэдык. слова.* Горача. *Тым летам стала саўсім гарачо́.* Вялікі Поўсвіж Леп. *А ў гэтым годзе не так гаря́ча, як было ў тым.* Завяззе Шум. *Сёння зранку ўжо гаро́нца.* Галбея Паст.

ГАРА́ШКА *ж., бат.* Сыраежка. *Наеліся мы сягоння жараных гара́шак.* Ёды Шарк. *Можам не збіраць гара́шкі, іх дзед ня любіць.* Дрысвяты Брасл.

ГАРБА́РНЯ *ж.* Збудаванне для прыгатавання ежы свойскай жывёле. *Гарба́рня – гэта як вялікая будка, дзе варуць ежу свінням.* Ласіца Паст.

ГАРБА́ЦІНКА *ж., памянш.* Гарбінка. *Я яго спазнала па маленькай гарба́цінцы.* Барздоўка Арш. *У яе носік з гарба́цінкаю, але прыгожы.* Задроўе Арш. *Нос у яго быў з гарбаці́нкай.* Грынеўшчына Докш. *Яе носік невялікі, з маленькай гарбаці́нкай.* Сокарава Беш., Барсукі В.-Дзв.

ГАРБА́Ч гл. ГАРБЫ́ЛЬ[1]

ГАРБУЗЕ́НЯ *ж.* Мякаць гарбуза. *Гарбуз пачысцяць ад кажуры, гарбузе́ню выкінуць, а астальное варюць.* Вядзерава Беш.

ГАРБУ́ЗНІЦА, ГАРБУЗЯ́НКА *ж., кулін.* Страва, прыгатаваная з гарбуза і малака; гарбузовая каша. *Гарбу́зніцы зварыла бы, ды ніхто не есць.* Обаль Гар. *Гарбузні́ца – вельмі смачная каша.* Грачыхі Тал. *Гарбузні́цу варілі ў вадзе і малаком забельвалі.* Вядзерава Беш. *У міне гарбузоў шмат вырасла, сёння гарбузя́нку зраблю.* Язвіна Шум. *Зварыць маці гарбузя́нку, усе паядуць і добра, а зараз ужо другая моладзь.* Завер'е Брасл. *Гарбузя́нка тады смачная, як добра ў печы ўпрэіць і як у ей масла многа.* Лукашова Паст. *Добрыя сёлета гарбузы – будзем есці гарбузя́нку.* Каўшэлева Шарк., Зоськава Арш., Езярышча Гар., Полымя Сен., Іванск Чаш.

ГАРБУ́ЛЬ гл. ГАРБЫ́ЛЬ[2]

ГАРБЫ́ЛЬ[1], ГАРБА́Ч *м., заал.* Акунь. *Гарбы́ль пацягнуў грам на васемсот.* Свабодная Сен. *Нейкі дзень няўдалы: толькі гарба́ч і клюець.* Слабада Шум. Параўн. *го́ган.*

ГАРБЫ́ЛЬ[2], ГАРБУ́ЛЬ *м.* Гарбун, гарбаты чалавек. *Я гарбылём пасля вайны стаў.* Мілашова Міёр. *Жыў у нас у дзярэўні гарбы́ль.* Таўкіні Шарк. *Яго клічуць гарбулём, бо ён гарбаты.* Яцукі Беш. *Жыў у нас гарбу́ль адзін.* Порплішча Докш.

ГАРБЫ́ЛЬ[3] *м.* Аполак. *Прывезлі гарбылі́ ў двор.* Езярышча Гар. *Ездзім па гарбылі́ ў лес.* Станіслава Дубр.

ГАРГАТА́ЦЬ *незак.* 1. Гагатаць (пра гусей). *Чуіш, як гусі гарго́чуць?* Слабодка Леп. 2. *перан.* Гергета́ць, гаварыць на незразумелай мове. *Мая сяброўка часта гарго́чыць сама сабе пад*

*нос.* Кушлікі Пол. 3. Моцна смяяцца, рагатаць. *Чаго гаргочыш? Гэта непрыгожа.* Косарава Глыб. Параўн. *гергекаць.*

ГАРДЫМАР *м., толькі адз.* Гармідар, крык, шум. *Людзі сабраліся на вуліцы і паднялі гардымар.* Рубеж Беш.

ГАРЗОЛІЦЬ *незак., экспр.* Балбатаць, гаварыць абы-што. *Унукі прыехалі, абы-што гарзолюць.* Нямойта Сен. Параўн. *глундзіць.*

ГАРКАННІК *м., неадабр.* Крыкун, гарлан. *Разыйшоўся гарканнік, як яму людзей ня стыдна.* Ляхаўка Дубр. Параўн. *галгатун, гарлач*[1].

ГАРКАТАЦЬ *незак.* Грукатаць. *Гаркатаець молнія так, што страшна.* Бачэйкава Беш.

ГАРКІ *прым.* Горкі. *Летась гуркі гаркія былі, пэўна, ад холаду.* Лукашова Паст. *Гуркі сёлета нейкія гаркія, што не ўзяць у рот.* Галубчыкі Глыб.

ГАРКУН гл. ГАРКУША[1]

ГАРКУХА *ж., бат.* Грыб рыжык. *У гэтым лесе гаркухі не растуць, па адной пападаюцца.* Старое Лядна Леп.

ГАРКУША[1] *ж.*, ГАРКУН, ГАРЧАК *м., бат.* Грыб малачай. *Ні нада мне етыя гаркушы! Мой бацька іх ні браў, казаў, што няўкусныя.* Белая Ліпа Сен. *Набралі адных гаркуш.* Шацяні Сен. *Набраўшы гаркуноў, ідзе як пан дамоў.* Варнелі Брасл. *Пакуль гарчакі данясуць, яны ажно чорныя становяцца.* Боркавічы В.-Дзв.

ГАРКУША[2] *ж., заал.* 1. Рыба гарчак. *На смак гаркуша горкая.* Слабада Міёр. *Лавіў з рыбакамі гаркушу – няўкусная.* Рошчына, Града Сен. 2. Рыба гальян. *Гаркуш у нас мала, я за сваю жызнь нескалькі відзіў.* Баброва Дубр.

ГАРЛАПІСТЫЙ *прым.* Крыклівы. *Ён гарлапістый, і яна яму ні ўступаіць, разам як зааруць!* Стар Арш.

ГАРЛАЧ[1] *м., неадабр.* Крыкун, гарлан. *Мужык у яе добры гарлач, крыкнець – уся вёска чуе.* Задроўе Арш. *Во гарлач, аж тут чутна, як крычыць.* Навумаўка Беш. *Мой брат гарлач быў, ціха ніколі не было.* Домнікі Пол. *Ізноў гарлач гэты крычыць, спакою яму няма.* Казлоўшчына Паст. Параўн. *гарканнік, галгатун.*

ГАРЛАЧ[2] *м.* Месца ў печы для прасушкі рэчаў. *Во гарлач, у гэным гарлачы і сушым што-небудзь.* Абольцы Тал.

ГАРЛІК *м.* Фруктовае віно. *Зноў мужык пайшоў за гарлікам у магазін.* Друйск Брасл.

ГАРЛЫЧ *м.* Бутэлька. *Мужу за работу гарлычам плацілі, так і піць стаў.* Крывыя Тал.

ГАРЛЯ́К *м.* Гарлач, збан з вузкім горлам. *Малако ў гарляку́ даўжэй не кіснець.* Шаркаўшчына. Параўн. *гарну́шак* у 2 знач., *глады́шак, глыда́ч.*

ГАРЛЯ́НКА *ж.* Горла. ◊ *Гарля́нку драць* – крычаць. *А чаго ты гарля́нку дзярэш?* Баева Дубр.

ГАРМІДА́РАМ *прысл.* Гуртам, талакой. *А яны сабраліся гарміда́рам ды і выкапалі ўсю бульбу за дзень.* Халамер'е Гар.

ГАРМО́НЯ *ж.* Гармонік. *А ну, дзед, бяры ў рукі гармо́ню.* Харытонава Рас.

ГА́РНА *прысл.* Добра. *Гэты музыкант га́рна іграе на баяне.* Галубчыкі Глыб.

ГА́РНІК *м.*, ГА́РНІЦА *ж.* Гарнец, мера сыпкіх цел. *Хацелася мне бліноў паесці, а ў га́рніку саўсім пуста.* Тупічына Шарк. *Бабка, калі пячэць бліны, трымаець га́рніцу пад рукой.* Шаркаўшчына.

ГАРНУ́ШАК, *памянш.* ГАРНУ́ШАЧАК, ГАРНУ́ШЫЧАК *м.* 1. Маленькі гаршчок. *Гарну́шак кашы з'ясі, і за гэта спасіба.* Дворышча Леп. *Падай мне той гарну́шак.* Нурава В.-Дзв., Булахі Глыб. *Бабуля вынула з пячы маленькі гарну́шачак.* Пушкі Лёзн. *Наліце поліўкі ў гарну́шачак.* Ноўка Віц., Выгада Сен. *Унучка назбірала гарну́шычак суніц.* Рагозіна Арш. 2. Гарлач. *Прынясі мне малачка гарну́шак.* Ураджайная Глыб. *А вун вазьмі гарну́шак на акне, я свежую смятанку тольке зняла.* Гарадзец Шарк. *Дзед наш на жбанок гаварыў гарну́шак.* Вераб'і Пол. Параўн. *гарля́к, глады́шак, глыда́ч.*

ГА́РНЫ *прым.* 1. Прыгожы, прывабны. *Нявестка ў нас га́рная дзяўчына.* Пачаевічы Чаш. 2. Добры, якасны. *Ня дужа га́рныя гэтыя арэхі.* Грабяніца Віц.

ГАРО́ВЫ гл. ГАРАВІ́ТЫ

ГАРО́ДЗІК *м.* Плот. *Гаро́дзік добры паставілі, а то стары зусім ніякі быў.* Выдрэя Лёзн.

ГАРО́ДЗІШЧА *н., павел.* Агарод. *Гаро́дзішча ўсё зарасло пустазеллем.* Пачаевічы Чаш.

ГАРО́НЦА гл. ГАРАЧО́

ГАРО́ТА *ж.* Гора, бяда. *Маё сэрца адкрытае ўсім радасцям і гаро́там.* Янава Тал.

ГАРО́ЎЛЯ *ж.* Бесперапынная напружаная праца. *Давай крыху спынім нашую гаро́ўлю!* Гарбацэвічы Арш.

ГАРО́ХАВІШЧА *н., зб.* Лісце і сцёблы гароху. *Гэтыя гаро́хавішчы пылавіну агароду займаюць.* Мішкавічы Шум.

ГАРО́ХНІЦА, ГАРО́ХНІШЧА, ГАРО́ЧНІШЧА *н.* Гарохавішча; поле пасля гароху. *Скора га́рох зберым і будзець там гаро́хніца.* Дразды Беш. *Калі гаро́хнішча перакапаць, то на*

*гэтым месцы лепш садзіць моркву.* Храпакі Віц. *Унукі любяць бегаць па гаро́чнішчы.* Грыцы Глыб.

ГАРО́ШНІК *м., зб.* Гарохавінне, гарохавая салома. *Сухі гаро́шнік конь, карова есь.* Дразды Беш.

ГАРО́ШЫНКА *ж., заал.* Малюск з двухбаковай ракавінай. *Гаро́шынкам трэба чыстая вада.* Сітцы Докш.

ГАРУ́Д *м.,* ГАРУ́ДА *ж.* Засек. *Січас у гару́дзе пагляджу, можэт, найду што-нібудзь.* Барсукі В.-Дзв. *Мы ў гару́ду засыпаем бульбу.* Залучча В.-Дзв.

ГАРУ́Н *м.* Снег. *Глянь, колькі гару́на наваліла.* Дзегцяры Брасл.

ГАРУ́ЧКА гл. ГАРЭ́ЎКА

ГАРУ́ШНЫ гл. ГАРАВІ́ТЫ

ГАРУ́ШЧЫ *прым.* Працавіты. *Каваль у нас гару́шчы, любая праца ў руках гарыць.* Мікіціха Шум.

ГАРЦАВА́ЦЬ *незак.* Танцаваць. *На вячорках раней усе гарцава́лі.* Кулінава Уш. *Мае ўнучкі любяць гарцава́ць.* Ваўкалата Докш. Параўн. *го́йсаць.*

ГАРЦО́ЎКА *ж.* Трохлітровая бутля. *У гарцо́ўку налівалі гарэлку. Нават была мера – гарац гарэлкі.* Выгада Сен.

ГАРЧА́ гл. ГАРЭ́ЎКА

ГАРЧА́К гл. ГАРКУ́ША[1]

ГА́РЧЫК *м.* Кош; плеценая з лазы круглая пасудзіна для складвання і пераноскі чаго-н. *Быў у нас дзед, які добрыя га́рчыкі рабіў.* Мікалаева Шум.

ГАРШКА́ЛЬ, ГАРШЧА́Н, ГАРШЧЭ́ЎНІК *м.* Ганчар. *У Дзісні гаршка́лі гаршкі выпалівалі.* Ясева Міёр. *Раней такія гаршча́ны былі, такую пасуду рабілі!* Мярэцкія Глыб. *Гаршчэ́ўнікі з нашай вёскі прадавалі свой гліняны посуд на кірмашы ў Кіеве.* Луцік Чаш. Параўн. *гліня́нік.*

ГАРЫ́ШЧА *н.* Могілкі. *Пайду і я хутка на гары́шча, усё ж такі восемдзесят чатыры гадочка, не маладая ўжо.* Рошчына Сен.

ГАРЭ́ЛІК[1] *м., часцей* ГАРЭ́ЛІКІ *мн., кулін.* Прыгарэлая вараная бульба, прыгаркі. *Хоць бы хто гарэ́ліка паднёс.* Мікіціха Шум. *Гарэ́лік смачнейшы за іншую бульбу.* Азярок Арш. *Варылі бульбу ў катлах, там вечна гарэ́лікі былі.* Новае Запонне Докш. *От наварыла бульбы – адны гарэ́лікі!* Бачэйкава Беш. *Бульба смашная, калі з гарэ́лікамі.* Новае Сяло Сен., Высачаны Лёзн., Пераходцы Леп.

ГАРЭ́ЛІК[2] *м.* Пагарэлец. *У вайну ў нашай вёсцы амаль усе былі гарэ́лікі.* Сваташы Дубр.

ГАРЭ́ЛІК[3] *м., часцей* ГАРЭ́ЛІКІ *мн., бат.* Грыб апенька. *Гарэ́лікі вельмі смачныя, асабліва з бульбай.* Сяло Гар. *Мы ўчора набралі гарэ́лікаў.* Гарадок. Параўн. *гавару́шка.*

ГАРЭ́СТ, ГРЭСТ *м., бат.* Агрэст. *У гарэ́сту вешкі калючыя.* Боркавічы В.-Дзв. *Гарэ́ст смачны, але кусты калючыя.* Шарагі Міёр. *З грэ́сту робім варэнне, са слівін і грушын здымаем плады, косткі вымаем і разам у адным вядру варым на джэм.* Задуброўе Віц. Параўн. *грыжэ́ўнік.*

ГАРЭ́ЎКА, ГАРЧА́, ГАРУ́ЧКА *ж.* Гарэлка. *Гарэ́ўка ўсіх мальцаў згубіла.* Мікіціха Шум. *Гарчу́ пілі суседзі, заўсёды былі п'яныя.* Фарынава Пол. *Гару́чка мая злая була, аж горла гарэла.* Пранікі Уш.

ГАРЯ́ЧА гл. ГАРАЧО́

ГАСЦІ́НА, ГО́СТКА *ж., часцей* ГАСЦІ́НЫ, ГО́СТКІ *мн.* Госць. *Заўтра да нас прыедуць гасці́ны.* Расалай Шум. *Пакліканы на свадзьбу ўсе го́сткі былі.* Іванск Чаш.

ГАТА́Р *м., тэхн.* Лесапілка (машына). *Калгасная лесапілка ў нас – гата́р.* Нямойта Сен.

ГАТО́ЎКА *ж.* Прыгатаванне ежы. *Гато́ўка – маё дзела ўсё жыццё.* Сардыкі В.-Дзв. *Гато́ўка адымаець шмат часу.* Тараскі Чаш.

ГАТУ́НКАВАЦЬ *незак.* Раскладваць па гатунках. *Сёліта мы позна выбрылі бульбу, урэм'я ні хваціла гату́нкаваць як трэба.* Мішкавічы Шум.

ГА́ЎБІЦА *ж., перан., груб.* Высокая дзяўчына. *І ў каго яна такая га́ўбіца?* Мікіціха Шум.

ГАЎЗО́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Жаваць бяззубым ротам. *А што мне яшчэ маім ротам гаўзо́ліць? Толькі кашу ды ем.* Празарокі Глыб.

**ГАФТ** *м., толькі адз.* Карункі. *У маёй матулькі ўсе плацці былі з га́фтам. Яна сама яго візаць добра ўмела.* Вусава Глыб. Параўн. *гу́нкі.*

ГАЦА́К *м., часцей* ГАЦАКІ́ *мн.* Гнілая бульбіна. *Бульбяныя гнілушкі ў нас называлі гацакі́.* Старая Будаўка Тал. Параўн. *го́пік* у 1 знач.

ГА́ЦЬКА *аг., абразл.* Брыдкі з выгляду чалавек. *Баба нічога сабе, а за га́цьку выйшла.* Замачак Чаш.

ГА́ЧАК *м.*, ГА́ЧКА *ж., с.-г.* Матыка. *Вазьмець га́чак ды на гарод да вечара.* Выдрэя Лёзн. *Сіл няма га́чку ў руках дзяржаць.* Езярышча Гар. *Наш дзед Пеця сам рабіў га́чкі з жэсці.* Дразды, Бачэйкава Беш. *Вазьмі га́чку ды ідзі бульбу перагглядзі.* Коравічы Чаш., Пустынкі Сен. *Зямлю ўзрыхлялі га́чкай.* Нурава В.-Дзв.

ГА́ЧЫК[1] *м.* Шпілька. *Бабулін га́чык быў прышпіліным да хартуха.* Шантары Докш. *А га́чыкаў накупляла!* Азярцы Глыб. Параўн. *гра́фка.*

ГА́ЧЫК[2] *м.* Чарка. *Добры га́чык наліў гарэлкі.* Тупічына Шарк. Параўн. *грамо́вік, грамо́ўка.*

**ГА́ШТА** *ж.*, **ГА́ШТЭР** *м.*, *бат.* Гваздзік. ***Га́шта** – прыгожая кветка.* Боркавічы В.-Дзв. *У гародчыку га́штэры зацвілі.* Кавалі Глыб.

ГБА́ЦЦА *незак.* Гнуцца, нагінацца. *Мне прыйшлося гба́цца над кожным пянёчкам.* Сарочына Уш.

ГВАЛТ *м.* Кірмаш. *Людзі зранку збіраюцца ехаць на гвалт.* Замошша Тал. ◊ ***Гва́лту крычаць*** – вельмі моцна крычаць. *Што ты гва́лту крычыш?* Цілеўцы Міёр.

ГВА́РКІ *прым.* Гаваркі, гаварлівы. *Наш дзед не дужа гва́ркі, ён маўчаць больш любіць.* Мікіціха Шум.

ГВЫЛЬ *м.* Гуз, гузак. *Нічога сабе, які гвыль уздуўся.* Мурагі Рас.

ГВЭ́ГАЦЬ *незак.* Доўга мясіць, перамешваць. *Хопіць табе ўжо гвэ́гаць цымент.* Чарневічы Глыб.

ГВЭ́НДАЦЬ *незак.* Калыхаць люльку. *Гвэ́ндай малога, а то дужа крычыць.* Мікіціха Шум.

ГВЯ́ЗДА, *памянш.* ГВЁЗДАЧКА *ж.* 1. Карона, арэол. *У сонейка прыгожая гвя́зда з жоўтага колеру.* Гірэйшы Брасл. 2. Зорка, зорачка. *У нас зорачкі называюць гвяздамі, прывыклі мы так.* Мількі Брасл. *Глядзі, як прыгожа вунь тая гвёздачка мігціць.* Празарокі Глыб.

ГЕВАРО́ЙСЦЕ *н.* Балота. *Часта хадзілі на геваро́йсце ў ягады.* Лынтупы Паст.

ГЕ́КТАР *м.* Гектар. *Пяць ге́ктараў бульбы засадзілі.* Заенкі Пол. *Картошку сеялі – пятнаццаць гектараў.* Іванск Чаш., Арэхаўск Арш.

ГЕ́НЫ *займ.* Гэты. *Дзе ге́ны чалавек?* Ясева Міёр.

ГЕРГАТЛІ́ВЫ *прым.* Неразборлівы, незразумелы (пра мову). *Здалёку чуць гергатлівую гамонку.* Янава Тал.

ГЕРГЕ́КАЦЬ *незак.*, *экспр.* Моцна смяяцца, рагатаць. *Гергеканне стаіць у гэтай хаце: дзеці гергекаюць, іх многа.* Старое Лядна Леп. Параўн. *гаргата́ць* у 3 знач.

**ГЕ́РСА** *ж.*, *бат.* Гірса. *Трэба сабраць ге́рсу з млыну.* Гута Паст.

ГЕ́РЧЫК *м.* Задзіра. *Але ж і ге́рчык аказваецца еты суседскі хлопец.* Ляды Дубр.

ГІБЕ́ЦЬ *незак.* 1. Мёрзнуць. *Нада кофту адзяваць, а то халодна станець, гібе́й тады.* Старое Сяло Уш. 2. Доўга рабіць

што-н., мучыцца ад цяжкай працы. *А ты ўсё гібе́еш над гэтай задачай.* Вяцера Чаш.

ГІ́БІНА *ж., часцей* ГІ́БІНЫ *мн.* Губа. *Гі́біны на вятру абветрыліся.* Выдрэя Лёзн.

**ГІГЕ́ЛЬ** гл. **ГУ́ГЕЛЬ**[3]

ГІГІМО́РА гл. ГІМО́РА

ГІДЛІ́НА, ГІДО́ТА *ж.,* ГІДО́ЦЦЕ *н., зб., абразл.* Гадасць, агіда. *Ну, паспрабавала я ейныя агурцы хвалёныя. Гідо́та!* Ваўчо Уш., Шыбекі Арш., Фарынава Пол. *Як успомню, аж гідо́та бярэць.* Нурава В.-Дзв. *Вось ужо гідлі́на дык гідлі́на!* Гарадок. *Паглядзі на сябе! Так ссохла – адно гідо́цце!* Грышына Рас.

ГІЗАВА́ЦЬ *незак., перан.* Гуляць, забаўляцца. *Цэлы дзень гізу́ець недзе мой малец.* Казлоўшчына Паст.

**ГІ́ЗАЎКА** *ж., заал.* Гіз; вялікая муха, самка якой жывіцца кроўю жывёлы. *Цялушка лётаіць па ўсім полі: гэта яе гі́заўкі кусаюць.* Кубелеўшчына Шарк.

**ГІЛДО́Р** *м., зневаж.* П'яніца. *І жывець жа гэтыт гілдо́р.* Кублічы Уш. Параўн. *гаге́ля.*

ГІ́ЛЕМ *прысл.* Чарадой, гуртам. *Гі́лем птушкі ліцяць.* Сляяўшчына Рас.

ГІЛЬ *м., заал.* Авадзень. *Калі мы зайшлі ў лес, нас апанавалі гілі́.* Лашукі Паст. *Карову на полі падаіць няможна. Як дасць нагой пад даёнку, калі які гіль уджаліць, то і выверніць усё.* Белішкі, Варапаева, Вярэнькі, Гута, Лынтупы, Турлы Паст.

ГІ́МАР *м.* Капрызныя паводзіны. *Дзеўка ўжо бальшая, а як нападзець на яе гі́мар, дык ні знаіш, чаго.* Замошша Брасл.

ГІМО́РА, ГІГІМО́РА *аг., асудж.* Ганарлівец, ганарліўка. *Во ўжо гімо́ра гэта дзеўка.* Забалацце Арш. *Які ён у вас гігімо́ра!* Ледневічы Сен.

**ГІ́НДЗЕЛЬ** *м.* Цягнік. *Я ехаў на горад у дзевяць на гі́ндзелі, у два – назад. Не ўспеў – ідзі пяшком.* Шыліна Шум.

**ГІРГЕЛЬ** гл. **ГУ́ГЕЛЬ**[3]

ГІРЛЯ́НДА *ж.* Рэчы, пакладзеныя ў рад. *У кладоўкі цэлыя гірля́нды банак.* Мішкавічы Шум.

**ГІЦЭЛЬ** *ж.* Гафтачка для вешання адзення. *Каб гі́цэль не адрываўся, яго лепш са скуры зрабіць.* Шаркаўшчына.

ГІ́ЧКА *ж., бат.* Бацвінне, лісце буракоў. *Схадзі, дачушка, гі́чкі наламай.* Дрысвяты Брасл.

ГЛА́БЫЦЬ *незак.* Жаць. *Раней мы гла́былі жыта сярпамі.* Чарневічы Глыб.

ГЛА́ДАМ *прысл.* Поўнасцю, цалкам. *Ну, і дурны ён, я табе скажу, гла́дам.* Смаляны Арш.

ГЛАДАМЫ́РА *аг., асудж.* Чалавек, пазбаўлены апетыту, пераборлівы ў ядзе. *Так ніколі і не паправішся, гладамыра няшчасны.* Выгада Сен.

ГЛА́ДКА *прысл.* Зусім. *Я гла́дка нічога ні знаю.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ГЛАДЫ́ШАК, ГЛЫ́ДАЧ *м.* Гарлач, збан з вузкім горлам. *Я малако на стол ставіла, а гладышак коўзь з-пад рук і разбіўся.* Белая Ліпа Сен. *На плоце вісіць глы́дач, у які цэдзяць малако.* Валосава Тал. Параўн. *гарля́к, гарну́шак* у 2 знач.

ГЛА́ЖЫЦЬ *незак.* Есці. *Гэту кашу і сабакі не гла́жуць.* Анэліна Тал.

ГЛА́ЗІК *м., часцей* ГЛА́ЗКІ́ *мн.* Вочка (у вязанні). *З іголачак спусціліся гла́зкі.* Армяны Сен. *Шалік не атрымаўся: не давязала глазкі́.* Фарынава Пол.

ГЛАЗНІ́ЧКА *ж., часцей* ГЛАЗНІ́ЧКІ *мн., кулін.* Клёцкі з мукі або бульбы, без начынкі. *Ядзім глазні́чкі ці з малаком, ці з маслам, ці з смятанай.* Якубава Рас. Параўн. *галду́н, галы́ш.*

ГЛАЗО́ *н., часцей* ГЛА́ЗЫ *мн.* Вока. *Сянні карову ў поле віла, ды мошка ў глазо́ папала.* Вадзянікі, Даўгаполле Гар. *Гла́зы мне высцебаіш.* Лялеўшчына, Радчанкі, Смалоўка, Сяло Гар. *Гла́зы мае ўжо не глядзяць.* Курылаўшчына Шум., Трушчы Віц., Салаўі Дубр., Пераходцы Леп., Новая Яблынка Тал. Параўн. *глядзе́лка.*

ГЛАСІ́ЦЬ *незак.* Спяваць. *Гласі́ць птушка сваю песню.* Загародна Лёзн.

ГЛЕ́Я *ж., толькі адз.* Гной. *Я ўвесь у гле́і.* Курылаўшчына Шум.

ГЛЁК, *памянш.* ГЛЕ́ЧЫК, ГЛЯ́ЧЫК *м.* Гляк. *Глёк – пасудзіна ціпа шара з дзіркаю.* Старая Будаўка Тал. *У гле́чыку вада халодная.* Галубава В.-Дзв., Чарневічы Глыб., Маргавіца Докш., Стасева Лёзн. *Нада пастуху нашаму хоць гля́чык вады аднясці.* Лукашова Паст.

ГЛІБА́К *м., бат.* Грыб смаржок. *Глібакі́ ў нас лічылі неядомымі.* Выдрэя Лёзн.

ГЛІНЫ́, ГНІЛЭ́Й *прым.* Гнілы. *У гэтым годзе бульба зусім гліна́я.* Карасіна Брасл. *Гнілэ́ю бульбу варылі свіням.* Заазер'е Тал.

ГЛІНЯ́НІК *м.* Ганчар. *Гліня́нікі па вёсках ездзілі, рызнікі.* Галбея Паст. Параўн. *гаршка́ль, гаршча́н, гаршчэ́ўнік.*

ГЛІНЯ́НКА *ж.* Хата, аблепленая глінай; мазанка. *У нас адна баба жыла ў гліня́нке: маленькая хатка, сцены абдзеланы глінай.* Вядзерава Беш.

ГЛІ́ЗКА *прысл.* Слізка. *Глі́зка – сідзі ты дома, цэлы будзеш, не паб'ешся.* Ілава Шум. Параўн. *галу́тліва.*

ГЛІШУЎКІ гл. ГАЛЮШОВІКІ

ГЛІЯНІК *м.* Глінішча; месца здабычы гліны. *Цяпер на тым месцы гліянік.* Лескавічы Шум.

ГЛОСНА *прысл.* Голасна, гучна. *Як твая жонка глосна пяець – люба-дорага паслухаць.* Гараўцы Міёр.

ГЛУБ *м.* Інфекцыйная ранка, што ўзнікла ад стрэмкі. *Складвала дровы, засадзіла дзераво, вот і абразаваўся глуб ад інфекцыі.* Вусава Глыб.

ГЛУБЧАЙ *прысл., выш.* Глыбей. *У гэтым новым калодзецы глубчай, чым у старым.* Селішча Уш.

ГЛУМА, *памянш.-ласк.* ГЛУМАЧКА *аг., неадабр.* Недалёкі, разумова абмежаваны чалавек. *Глума, што ты робіш? Саўсім вума няма?* Баева Дубр. *Глумачка ты, глумачка, ні ўзяў ён тваю дачку і ня возьміць: у яго саўсім другое на ўме.* Ляхаўка Дубр. Параўн. *голда, грамазда* ў 1 знач., *грак.*

ГЛУМБЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Раней на глумбах хадзілі.* Камайск Докш.

ГЛУМНЫ *прым.* Неразумны, дурны. *Брат мой глумны, бо вучыцца ня хочыць.* Луцік Чаш. *Навошта табе гэты глумны чылавек?* Пушкі Лёзн., Хоціна Беш., Каралі Сен., Наваселле Уш., Мішкавічы Шум.

ГЛУНДЗІЦЬ *незак.* Гаварыць неразумнае, займацца пустымі размовамі. *Да не глундзі ты ўсялякую ерунду -- непрыятна.* Весніно В.-Дзв. Параўн. *гарзоліць.*

ГЛУХАМАНЬ гл. ГЛУШАК

ГЛУХАНДЗЯ гл. ГЛУШАК

ГЛУХЕЙ *прым.* Глухі, густы, цёмны, непраходны. *Наш лес хоць і глухей, але ж там нікога не водзіцца: пара вавёрак і зайцаў.* Колпіна Сен.

ГЛУХЕЯ *ж., міф.* Хвароба, выкліканая чараваннем; глухата. *Па зайздросці можа хто такое навесці: і сыпуту, і глухею.* Ноўка Віц.

ГЛУШАК, ГЛУШМАН *м.,* ГЛУШМЕНЬ, ГЛУШМАНЬ, ГЛУХАМАНЬ, ГЛУШНЯ, ГЛУХНЯ, ГЛУХАНДЗЯ *аг., экспр.* Глухі чалавек. *Мой сусед Сцяпан – глушак.* Задоры Леп. *Той дзед – глушман, гавары грамчэй.* Празарокі, Кавалі Глыб., Сабалі Чаш., Більдзюгі Шарк. *Ну, ты і глушмень: крычы ні крычы – не дазавешся.* Новыя Валосавічы Леп. *Мы цябе звалі, а ты, глушмань, ні адзывалася.* Моханава В.-Дзв. *Глухамань ты! Як ні звалі, так і не пачуў.* Буды Шарк. *Дзед твой ні чуіць – глушня.* Белая Ліпа Сен., Іванск Чаш. *Ну, ты і глухня: не пачуў машыну пад вакном.* Шыбекі Арш., Стасева Лёзн. *Ты глухандзя, колькі табе крычаць!* Гваздова Пол.

ГЛЫ́БАКА *безас.-прэдык. слова.* Глыбока. *Не плыві туда, бо там вельмі глыбака!* Дрысвяты Брасл., Дунілавічы Паст.

ГЛЫ́БКІ, *выш.* ГЛЫ́БШЫ *прым.* Глыбокі, глыбейшы. *Купацца ў возеры страшна было, бо глыбкае яно.* Таўкіні Шарк. *Тут глыбшая яма.* Ноўка Віц.

ГЛЫ́ДАЛКА *ж.* Арэлі. *Зараз шмат каруселей, а раней толькі на глыдалцы каталіся.* Ваяводкі Віц. Параўн. *гутатáлкі, гýцалка, гутарэ́лі.*

ГЛЫ́ДАЧ гл. ГЛАДЫ́ШАК

ГЛЫЖ *м.,* ГЛЫ́ЖКА *ж.* Камяк снегу, снежка. *Малымі глыжы са снегу лепілі і гуляліся.* Весніно В.-Дзв. *Не кідай глыжкай у твар гэнаму мальцу!* Чэрцы Леп.

ГЛЫ́ЗА *ж.* Глыба. *На берагах возера доўга ляжаць глызы лёду.* Малы Поўсвіж Леп.

ГЛЫК *м.* Глыток. *Я глык вады зрабіў, а астатняе жонцы аставіў.* Празарокі Глыб.

ГЛЫ́КА́ЦЬ *незак.* 1. Глытаць. *Баліць горла – больна глыкаць.* Селішча Уш. 2. Піць з прагнасцю. *Ён ваду глыкаіць без перадыху.* Слабада Глыб.

ГЛЫМЗАНУ́ЦЬ *зак.* Перакусіць. *Вазьмі там што глымзані, мо галодны, абед яшчэ ні зварыўся.* Макаравічы Беш.

ГЛЫТА́НІК *м.* Маленькі кавалак. *Во даў глытанік, як для мышы.* Мікалаева Шум.

ГЛЯДЗЕ́ЛКА *ж., часцей* ГЛЯДЗЕ́ЛКІ *мн.* Вока. *А глядзелкі твае галубога цвету.* Антонаўка Арш. Параўн. *глазó.*

ГЛЯДЗЕ́ЛЬНЯ *ж.* Люстра. *У вас гразная, зымусолінай глядзельня.* Мішкавічы Шум.

ГЛЯЎКА́Ч *м.* Недапечаны, глеўкі хлеб. *Не хлеб, а кавалак гляўкачу.* Гарбацэвічы Арш.

ГМЫШ *м.* Жамерыны. *Націскай яблык, здзелай соку, а гмыш свінням.* Кузняцова Віц.

ГНАЁЎКА[1] *ж.* Гнаявая жыжка. *Як падкармілі буракі гнаёўкай, вось і выраслі добрыя.* Чарневічы Глыб.

ГНАЁЎКА[2] *ж.* Дошка, якая кладзецца на калёсы пры вывазе гною. *Палажы на калёсы гнаёўку і едзь гной вазіць.* Ілава Шум.

ГНЁЗДКА *ж.* Ямка, невялікае круглае паглыбленне на градцы для агародніны. *У гнёздкі ўвечары я пасадзіла часнок.* Бабінічы Арш.

ГНЁТКІ *толькі мн.* 1. Унутраныя органы. *Нашто ты яго б'еш? Так і гнёткі адбіць нядоўга.* Пусташы, Ксты Пол. 2. Схваткі. *Гнёткі ў яе пачаліся раніцай.* Рашкаўка Докш.

ГНІ́ЛА *ж.* Гліна. *Не люблю я пасуду з гні́лы.* Булахі Глыб. *Адна гні́ла на агародзі, нічога не расцець.* Язна Міёр.

ГНІЛУ́ХА[1], ГНІ́ЛКА *ж., бат.* Гнілу́шка; гнілая садавіна; гнілая ягада. *Так хацелася мне клубнікі, а ў мяне было многа гнілу́х.* Замошша Брасл. *Пад яблыняй шмат гні́лак ляжыць.* Мілашкі Брасл. *Трэба сад ад гні́лак ачысціць.* Гарбацэвічы Арш.

ГНІЛУ́ХА[2] *ж.* Топкае балота. *Дзе той цялёнак падзяваўся? Хоць бы не забрыў у гнілу́ху.* Мікуліна Глыб.

ГНІЛУ́ШКА[1] *ж.* Трэска для дымлення пчол. *Прынясі гнілу́шак болей.* Новае Сяло Тал.

ГНІЛУ́ШКА[2] *ж.* Перазімавалася ў зямлі бульба. *Па вісне па полі сабіралі бульбу мёрзлую, гнілу́шкамі называлі.* Вядзерава Беш.

ГНЭ́НБІЦЬ *незак.* Крыўдзіць, зневажаць. *Што ж ты мяне гнэ́нбіш?* Дунілавічы Паст.

ГНЯВЁР *м., міф.* Чарадзей, чараўнік. *Я гнявёр, зараз як зачарую вас.* Езярышча Гар.

ГНЯЗДО́[1] *н.* Бярлога, логава. *Не хадзі ты ў лес. Там, кажуць, гняздо́ мядзведзя ёсць.* Празарокі Глыб.

ГНЯЗДО́[2] *н., перан.* Куст цыбулі. *У гэтым годзе ў кожным гняздзе́ ў сярэднім мы налічылі па восем цыбулін.* Вянужа Міёр. Параўн. *гразно́.*

ГНЯНУ́ЦЬ *незак.* Ударыць, стукнуць. *Курыца залезла ў гародчык, парыла грады. Дык я яе добра гняну́ла.* Лазы Тал.

ГО́ГА *м., заал.* Певень. *Ай, да го́га у нас! Як пяець!* Опса Брасл. Параўн. *галагу́т, гыла́н.*

ГО́ГАН *м., заал.* Акунь з ікрой. *Мне адні го́ганы папаліcь.* Зайкава Гар. Параўн. *гарбы́ль[1], гарба́ч.*

ГОЙ *м., толькі адз.* Пабоі. *Хто ж перанясець яго гой? Страдаець сям'я.* Ноўка Віц.

ГО́ЙКАЦЬ, ГЭ́ЙКАЦЬ *незак.* Крычаць, гукаць. *Мы ў лесе го́йкалі-го́йкалі, але цібе не было чуваць.* Губіца Шум. *Гэ́йкаць і рукамі махаць усе могуць.* Каўровая Дубр.

ГО́ЙКНУЦЬ *зак.* Крыкнуць, пагукаць. *Го́йкні яшчэ раз, можа, адзавецца.* Стралкі, Моханава В.-Дзв.

ГО́ЙТАЦЦА *незак.* Гайдацца. *Пад акном у нас ад ветру галіны рабіны го́йтаюцца.* Драбаўшчына Глыб.

ГО́ЙСАЦЬ *незак.* Танцаваць. *Моладзь зараз не так го́йсаець, як мы раней.* Бор Чаш. Параўн. *гарцава́ць.*

ГО́ЛДА *аг., зневаж.* Бесталковы, разумова абмежаваны чалавек. *Тая кабета была такой го́лдай, што з ёй ні было пра што гаварыць.* Савуткі Шарк. *З гэтай го́лдай нічога рашыць нільзя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *глу́ма, грак, грамазда́* ў 1 знач.

ГО́ЛЕНЬ гл. ГАЛЕ́НЬ

ГО́ЛІК гл. ГАЛЕ́НЬ

ГОЛЬ *ж.* Неўраджай. *Нейкая голь апанавала наш сад – ніводнага яблыка ўжо тры гады.* Пачаевічы Чаш.

ГО́ЛЬЦЫ *толькі мн.* Гольфы. *Го́льцы мы не насілі.* Мыкава В.-Дзв.

ГО́МАЛКА *ж., кулін.* Засушаны сыр. *Мы сушылі го́малкі і ўслед елі.* Баева Дубр.

ГО́МАН *м., с.-г.* Статак кароў. *Хутка го́ман пойдзець з поля.* Сушчова Віц.

ГО́МЗАЛА *аг., абразл.* Гугнявы чалавек. *Дзе ты, го́мзала, быў?* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *гундо́с.*

ГО́МЗАЦЬ[1] *незак.* Гугнявіць. *Што ты го́мзаеш? Нічога не разабраць.* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *гале́зіць, галуі́ць, гундо́сіць.*

ГО́МЗАЦЬ[2] *незак.* Поўзаць. *Не го́мзай на палу!* Задуброўе Віц.

ГО́ПІК *м., часцей* ГО́ПІКІ *мн.* 1. Гнілая бульбіна. *После зімы многа го́пікаў асталася.* Паддуб'е Леп. Параўн. *гаца́к.* 2. Мёрзлая бульбіна. *Мы сабіралі па полю го́пікі. Маці пякла з іх бліны.* Лазы, Замошша Тал. *Свіням будзем варыць го́пікі.* Новы Пагост Міёр. 3. Спечаная мёрзлая бульбіна. *Мы пасля вайны го́пікі толькі і елі.* Коравічы Чаш. *У вайну людзі з мёрзлай бульбы пяклі го́пікі.* Белаазёрны Леп. 4. Блін з тоўчанай бульбы. *Бульбу ў ступе натаўчэш і го́пікі робіш.* Іванск Чаш. *Мама пікла такія бліны чорныя – го́пікі.* Чарневічы Глыб. *Смачныя го́пікі пякла мая бабуля.* Сарочына Уш.

ГО́РАЙ[1] *безас.-прэдык. слова, выш.* Горш. *Майму дзядзьку было ўсё го́рай, а не лепш.* Рудніца Глыб.

ГО́РАЙ[2] *прысл., выш.* Мацней, больш. *Я яшчэ го́рай замерзла.* Мілашова Міёр.

ГО́РАЧ *ж., толькі адз.* Гарачыня. *Такая го́рач стаіць на двары.* Селішча Уш.

ГО́РБА *ж.* Куча чаго-н. *Дзеці, скіньце дровы ў го́рбу.* Езярышча Гар.

ГО́РКАЎКА *ж., бат.* Рэдзька. *Го́ркаўка на смак гаркаватая.* Вялікая Пярэспа Сен. *Го́ркаўка добра дапамагаець пры хваробе лёгкіх.* Боркавічы В.-Дзв.

ГО́СТКА гл. ГАСЦІ́НА

ГРАБАВІ́ДЛА гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРАБАВІ́ЛА гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРА́БАЛКІ гл. ГРА́БЫ

ГРАБАЛЯ́К гл. ГРА́БЫ

ГРАБАЎЁ гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРА́БАЦЬ, ГРЯ́БАЦЬ, ГРА́БІЦЬ *незак.* Грэбці. Як *гра́бацъ пойдзеш, вазьмі хустку.* Бігачова В.-Дзв. *Мы з вунучкамі пайшлі гря́бацъ сена, а яно ўжо сухоя.* Арлея Пол. *Нашыя мужыкі пашлі сена гра́біць.* Мішкавічы Шум. *Трэба ісці сена гра́біць.* Губіна Леп., Фарынава Пол., Рыбакі Уш. *Дзеўкі пайшлі на поле сена грабі́ць.* Сушчова Віц., Кветча Леп.

ГРАБЕ́ЛІ гл. ГРА́БЫ

ГРАБЕ́ЛЬКІ *толькі мн., с.-г.* Матыка для капання бульбы. *Бяры грабе́лькі – пашлі бульбу капаць.* Іказнь Брасл. *Зручней, калі бульбу капаюць грабе́лькамі, у іх два зубкі.* Новая Яблынька Тал.

ГРА́БЕЛЬНІК *м.*, ГРАБІ́ЛЬНЯ *ж.*, ГРАБАВІ́ЛА, ГРАБАВІ́ДЛА, ГРАБІДЛО́, ГРАБІ́ЛА, ГРАБАЎЁ *н., с.-г.* Грабільна, ручка ў граблях. *Бацька зламаў гра́бельнік.* Чарневічы Глыб. *Я была хацела іціць на сена рабіць, а грабі́льня зламалась. Цяперака рабіць няможна.* Белая Ліпа Сен. *Грабаві́ла з алешніку самае крэпкае і доўга паслужыць.* Гута, Аліхверы Паст., Мікалаёва Міёр. *У лес хадзілі высякаць вілавішчы, грабаві́лы.* Ваўкоўшчына Шарк. *Пастаў грабаві́дла, бацька граблі зробіць.* Надазер'е Глыб. *Грабідло́ старое было – зламалася.* Шклянцы Докш. *Яловае грабі́ла добрае на граблі.* Мнюхі Міёр. *З рабініны мужык зробіў добрае грабаўё.* Ясева Міёр.

ГРАБЁНКА *ж.* Грэбень для расчэсвання і заколвання валасоў. *Я купіла новую грабё́нку бабулі.* Сяло Гар. *Кожны вечар маці расчосвала валасы грабё́нкай.* Сухі Бор Пол.

ГРАБІДЛО́ гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРАБІ́ЛА гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРАБІ́ЛАЎКА *ж., с.-г., тэхн.* Грабілка (машына для зграбання сена). *Хутка прыедзіць грабі́лаўка, грабі́лаўкай сена добра грабіць.* Рабцы Сен.

ГРАБІ́ЛЬНЯ гл. ГРА́БЕЛЬНІК

ГРА́БІЦЬ гл. ГРА́БАЦЬ

ГРА́БКА *ж., с.-г.* Матыка. *Гра́бка – гэта самы лепшы памочнік для прапалу град.* Загарадна Лёзн. *Трымай гра́бку, зараз будзем палоць грады.* Ляхаўка Гар. Параўн. *грацо́ўка, грыцо́ўка.*

ГРАБО́ЎКА *ж.* Вялікая каляровая святочная хустка. *Грабо́ўку завязваюць, калі ідуць на фэст.* Латышы Глыб.

ГРА́БЫ, ГРА́БАЛКІ, ГРАБЕ́ЛІ *толькі мн.*, ГРАБАЛЯ́К *м.* Граблі. *Забыўся гра́бы на полі.* Казяны Брасл. *Трэба тут гра́балкамі паграбіць.* Старое Сяло Віц. *Грабе́лі бяры – і на сена.* Лялеўшчына Гар. *Раней нават грабаля́к быў не ў кожным двары.* Абаляны Брасл.

ГРАБЫ́Р *м.* Грабар, землякоп. *Цяпер грабы́ры нарысхват.* Баева Дубр.

ГРА́ВЕЛЬ, ГРА́ВІЛЬ *м., толькі адз.* Гравій. *У нашу вёску вазілі гра́вель, збіраюцца класці новую дарогу.* Несцераўшчына Докш. *Гра́велю ў нас колькі хочыш.* Гарбацэвічы Арш. *На дарогу гра́віль вазілі ў прошлым годзе, так і застаўся ліжаць.* Баева Дубр., Тумінічы Арш. *Курам за гра́вілям сходзіць ішчо нада.* Старое Лядна Леп.

ГРА́ДКА *ж.* Баразна бульбы. *Абагнаў да вечара толькі пяць гра́дак бульбы.* Буды Шарк. Параўн. *гра́дус, гра́нка[1], грэ́бень.*

ГРА́ДУС *м.* Баразна бульбы. *Бабы на каленях грабуць гра́дусы.* Замошша Тал. Параўн. *гра́дка, гра́нка[1], грэ́бень.*

ГРАДУ́ШКА *ж., памянш.* Града, рад дроў. *Склалі чатыры граду́шкі дроў.* Шацяні Сен. *Поўны драўнік гэтых граду́шак у нас.* Дразды Беш.

ГРА́ДЫ *толькі мн.* Гарышча ў хляве, куды складваюць сена. *Пасля зімы ў нас яшчо сена на гра́дах многа засталося.* Вусава Глыб. *Сена, якое прывязем, на гра́ды ўскінем.* Кавалі Глыб.

ГРАЗДА́ *ж.*, ГРАЗДО́ *н.* Гронка. *А на граздзе́ памідор столька было!* Антонаўка Арш. *Сарвала граздо́ чорнай рабіны – ягада выспела, пачці ні вяжыць.* Зароўе Леп. Параўн. *гра́нка[2].*

ГРАЗНО́ *н.* Куст цыбулі, вывернуты з зямлі. *Гразно́ цыбулі было зялёнае і сакавітае.* Пірагі Дубр. Параўн. *гняздо́[2].*

ГРА́К *м., перан., зневаж.* Разумова абмежаваны, тупы чалавек; дурань. *Гра́кам усю жысь пражыў, ніводнай кнігі не прачытаў.* Сабалі Чаш., Паліцы Беш. *А ён як грак, нічога ў галаву яму ня ўбіць.* Канева Сен. Параўн. *глу́ма, го́лда, грамазда́* ў 1 знач.

ГРА́КНУЦЬ *зак.* Кінуць, паваліць. *Так гра́кнуў, што той ня мог падняцца.* Крайцы Леп.

ГРАМАЗДА́ *аг., зневаж.* 1. Разумова абмежаваны, тупы чалавек; дурань. *Ну, ты і грамазда́!* Балаі Паст. Параўн. *глу́ма, го́лда, грак.* 2. Няўмека. *Зразу відаць, што капу нейкая грамазда́ склала.* Перавознікі Паст.

ГРАМІ́РА *аг., экспр.* Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы; здаравяка. *Грамі́ра ўсю работу за адзін міг зробіць.* Галубава В.-Дзв. Параўн. *гаго́ль.*

ГРАМО́ВІК *м.*, ГРАМО́ЎКА *ж.* Чарка. *Выпіў поўны грамо́вік водкі.* Паташня Міёр. *У нас на стале стаяць кружкі і грамо́ўкі.* Шантары Докш. Параўн. *га́чык[2].*

ГРАМО́ЖДЖЫЦЬ *незак.* Стукаць, грымець. *Мой стары ў пуні не́чым грамо́жджыць.* Быцава Беш.

ГРАМО́ЎКА гл. ГРАМО́ВІК

ГРАНІ́ЦА *ж.* Прасека. *Перайсці грані́цу – і брусніцы ўжо побач.* Багданова Брасл.

ГРАНІЦЬ, ГРАНЯЦЬ *незак.* Разганяць барозны. *Граніць поле трэба абавязкова, каб вада не стаяла, калі лета дажджлівае.* Лугавыя Віц. *Мы ўчора гранялі бульбу.* Галбея Паст.

ГРАНКА[1] *ж.* 1. Баразна. *Вясной бульбу ў гранкі пасадзілі.* Баршчоўка Віц. *Бульба ў гранках, як паненка, сёлітняга году.* Надазер'е Глыб., Камоскі Беш., Губіна Леп., Белая Ліпа Сен., Слабада Шум. Параўн. *градка, градус, грэбень.* 2. Града ў агародзе. *Гародніну садзяць у гранкі, толькі бульбу полем.* Таўкіні Шарк. *Гранкі будзем ставіць на тым куску.* Слабодка Леп. *Во граначку морквы пасадзілі, граначку цыбулі, часнаку.* Іванск Чаш., Урбаны Брасл., Доўжа Віц., Чарневічы Глыб., Завуцце Міёр., Матырына Уш., Ёды, Папкі Шарк. 3. Бугарок глебы каля расліны пасля акучвання. *Не зарывай гранкі.* Пышнагоры Леп.

ГРАНКА[2] *ж.* Гронка. *Колькі гранак рабіны мы ўжо ababралі?* Новая Вёска Докш. Параўн. *грaзда, граздо.*

ГРАНШТЭЙН гл. ГРЫНШТЭЙН

ГРАНЯЦЬ гл. ГРАНІЦЬ

ГРАФКА *ж.* Шпілька. *Бабуля заўсёды насіла на спадніцы графку.* Абаляны Брасл. *Прынясі мне графку, падкалоць нада.* Лапяны Брасл., Паташня, Драгуны Міёр. Параўн. *гачык[1].*

ГРАЦКОВЫ *прым.* Грэцкі. *Мне пляменніца прывёзшы грацковых круп з Рыгі.* Ясева Міёр.

ГРАЦОЎКА, ГРЫЦОЎКА *ж., с.-г.* Матыка. *Дай мне грацоўку, пайду на агарод.* Цілеўцы Міёр. *Зямелька ў нас мяккая, і грацоўка не нада – ірві рукамі траўку ды і ўсё тут.* Навасельцы Шарк. *Вазьмі грыцоўку, нада ж пагрыцаваць троху.* Драгуны Міёр. Параўн. *грабка.*

ГРОХАНКА *ж.* Дарога з выбоінамі, ямамі. *Як уз'ехалі на грохaнку, усе пазлазілі з калёсаў – так калаціла.* Празарокі Глыб.

ГРОХАЦЬ *незак.* Страляць. *Тры ночы грохалі ў тым баку.* Ляхаўка Дубр.

ГРУБА *ж.* Грубка. *У грубе вытапілі, цяпер цёпла.* Галубава В.-Дзв.

ГРУБАЯ *прым.* Цяжарная. *Раней магла дачка надзець такое плацце, а ўжо грубая стала.* Сасноўцы Шарк.

ГРУБЫ *прым.* Тоўсты ў аб'ёме. *Грубае дрэва сякерай не ссячэш.* Косарава Глыб.

**ГРУГАЧ** *м., заал.* Крумкач. *Як паналяцела гругачоў, усе не зналі, што рабіць.* Казімірова Пол.

**ГРУГАЧКА** *ж., заал.* Варона. *Выгаліцца дзеўка, як tругачка, і бегаець па двары.* Выдрэя Лёзн.

ГРУД [1] *м.* Вельмі цвёрдая глеба. *Груд вельмі цяжка капаць.* Несцераўшчына Докш.

ГРУД[2] *м.* 1. Куча галля, лоўж. *Бывала, бацька браў з сабою дзяцей, каб тыя палілі груд.* Іванькі Міёр., Слабада Леп. 2. Вогнішча. *Трэба груд растапіць.* Кудзіны Гар. Параўн. *гурт.*

ГРУ́ДАМ *прысл.* Кучкай, сукупна. *Кінула гру́дам мокрыя тряпкі, яны папреюць.* Ляхаўка Дубр.

ГРУ́ДЗЕНЬ *м.* Снежань. *У гру́дні ацялілася ў нас карова.* Галбея Паст.

ГРУДЗІ́ЛА *н.* Частка вупражы, збруі. *Вясной бралі каня бульбу садзіць, дык наравісты папаўся, усё грудзі́ла парваў.* Слабадзішча Лёзн.

ГРУДЛІ́ВЫ *прым.* Цвёрды, замёрзлы (пра глебу). *Грудлі́вая зімля была тады, снегу ішчэ ні было пайшоўшы.* Ясева Міёр.

ГРУДО́К *м.* Кавалачак рафінаду. *Больш двух грудко́ў у чашку мне не кладзі: салодка будзець.* Чарневічы Глыб.

ГРУЗА́ЛКАВЫ *прым.* Няроўны, грудкаваты. *У нашай вёсцы груза́лкавая дарога.* Барсукі Докш.

ГРУМГА́Ч *м., заал.* Грак. *Ужо прыляцелі да нас грумгачы́.* Сасноўка Глыб. *Бывала, арэш плугам увосень поле, а ззаду грумгачы́ паважна ходзяць, нібы бацяны. Цяпер ні тых, ні другіх няма.* Германавічы Шарк.

ГРУ́МЗАЦЬ *незак.* Грызці. *Ужо не магу гру́мзаць яблык, цвёрды вельмі.* Папшычы Глыб.

ГРУНДУ́ЛЬ *м., заал.* Рыба пячкур. *У нашай рэчке водзіцца грунду́ль.* Азёркі Гар.

ГРУНЁМ *прысл.* Вельмі хутка, бягом. *Нада мной здзекваліся, я грунём пабег ад іх.* Янава Тал.

ГРУ́НУЦЬ *зак.* Грымнуць. *Дзесьці за лесам гру́нуў гром.* Фарынава Пол.

ГРУНЦУВА́ЦЦА гл. ГУРУНЦУВА́ЦЦА

ГРУ́ЦА ж. 1. Ячменныя крупы. *Гру́ца ляжыць у нас у пуні.* Бароўка В.-Дзв. 2. Каша з ячменных круп, з сумесі круп з фасоллю. *Даўно я гру́цу не еў, нада папрасіць бабу, каб зварыла.* Бачэйкава Беш. *Ідзі есь, я гру́цу зварыла.* Слабада Шум. *Сёння маці гру́цу варыла.* Юнькі Паст. 3. Суп з ячменных круп, гароху або фасолі. *Маці наліла мне гру́цы.* Ласі Глыб. *Гру́ца доўга прэіць у печцы.* Булахі, Сасноўка, Глыб. Параўн. *гу́шча*[1].

ГРУША́НКА *ж.* Трасянка; корм для жывёл з сена і саломы. *Груша́нка наравіцца жывёле, калі ў яе дабавіць трохі бурды.* Полымя Сен.

ГРЫБАЗБІ́Р *м.* Грыбнік; той, хто любіць збіраць грыбы. *Мой мужык рыбак заядлы і грыбазбір.* Лаўрэнавічы Тал.

ГРЫБА́СТЫ, ГРЫБА́ТЫ *прым., груб.* Губаты. *Грыба́стага гэтага мужыка цярпець не магу.* Мікіціха Шум. *Прыхадзіў да*

*цябе сёння гэты грабаты?* Ганкавічы Беш. *Які гэты маліц некрасівы і дужа грыбаты.* Сар'я В.-Дзв., Станіслававова Дубр., Ілава Шум.

ГРЫБНІК *м.* Дробны цёплы дождж, які спрыяе росту грыбоў; грыбасей. *Грыбнікі летам у нас часта бываюць.* Замошша Брасл.

ГРЫБОВЫ *прым.* Грыбны, прыгатаваны з грыбамі. *Захацелася мне ўчора грыбовага супу.* Паліцы Беш.

ГРЫБОЎНІК *м.* Пірог, начынены грыбамі. *А ў вас такога грыбоўніка не пякуць?* Баева Дубр.

ГРЫВА *ж., перан.* Касмык няскошанай травы. *Як ты касіў, што грыва стаіць?* Косарава Глыб. *Касцы на полі аставілі грыву.* Балаі Міёр. *Траву скасілі касілкай, але потым прыйшлося падкашываць грывы.* Рыбакі Уш.

ГРЫГ *прым.* Высокі. *Такі ўжэ грыг еты плот, як будта замак аградзілі.* Ляды Дубр.

ГРЫЖА, ГРЫЖАНКА, ГРЫЖЫНА *ж., бат.* 1. Бручка. *Грыжу можна і параную есць і сырую, чысціць і есць. Раньш дажэ ў калхозах садзілі.* Дразды Беш. // Страва з бручкі. *Грыжанка – мая самая любімая яда.* Езярышча Гар. 2. Рэпа. *Маці пасеяла агародніну, пакінула гранку на грыжанку.* Доўгае Глыб. *Баба нарабіла салату з грыжыны.* Празарокі Глыб. *Грыжына падобна на буряк і вельмі смачная.* Крынкі Лёзн.

ГРЫЖЭЎНІК *м.* Агрэст. *А ў грыжэўніку ягадкі смачныя!* Амбросавічы Шум. Параўн. *гарэст, грэст.*

ГРЫМАТ *м.* Грукат. *Грымат ад камбайнаў далёка чуваць.* Нярэйша Сен.

ГРЫМЗА *ж., зневаж.* Пляткарка; жанчына, якая распускае плёткі. *Гэту бабу ў нашай вёсцы ўсе звалі грымзай.* Мілашова Міёр.

ГРЫМНІЦА *ж.* Громаадвод. *Грымніцу паставілі, каб молнія не ляснула.* Езярышча Гар.

ГРЫНШТЭЙН, ГРЫШТЭЙН, ГРЭНШТЭЙН, ГРАНШТЭЙН *м., бат.* Гатунак яблыкаў і яблыня штрыфель. *У нас сёліта грынштэйны ўдаліся вялікіі, смашныі.* Надазер'е Глыб. *Грынштэйн саўсім плоха храніцца зімой. Ён быстра гніець.* Прыпернае Глыб. *У нашым садзе расцець грыштэйн.* Гута Паст. *Грэнштэйн удаўся на славу ў нас.* Балаі Міёр. *Антонаўкі, грэнштэйны ў нас растуць.* Галбея Паст. *На зіму гранштэйн нельга класці.* Павулле Уш., Боркавічы В.-Дзв.

ГРЫПА *ж., мед.* Грып. *Сёлета ўсе дзеці на грыпу хварэлі.* Мілашова Міёр. *Спачатку грыпай захварэў бацька, а потым уся сям'я.* Карабы Глыб., Гута Паст.

ГРЫЦО́ЎКА гл. ГРАЦО́ЎКА

ГРЫШНІ́К *м., часцей* ГРЫШНІКІ́ *мн.* Грымоты, раскацістыя гукі грому. *Грышнікі́ спаць не давалі, дужа моцныя былі.* Палата Пол.

ГРЫШТЭ́ЙН гл. ГРЫНШТЭ́ЙН

ГРЭ́Б'Е *н., толькі адз.* Сенакос; месца для касьбы сена. *Пойдзеш на грэ́б'е, як сонца ўжо ўзыдзець.* Слабада Докш.

ГРЭ́БЕНЬ *м.* Баразна бульбы. *Вясно́й бу́льбу садзілі ў грэ́бень.* Антонаўка Арш. Параўн. *гра́дка, гра́нка, гра́дус.*

ГРЭ́БЛЯ *ж.* Гразкая частка лугу. *Каровы рыкаюць. Вон ўжэ чэрэз грэ́блю ідуць.* Бягомль Докш.

ГРЭ́БУЛЬ *ж.* Пясчаная каса пасярод рэчкі. *Доўга не было дажджу, і грэ́буль раздалася ўшыр.* Суднікі Арш.

ГРЭ́ДЛІ *толькі мн., с.-г.* Драўлянае прыстасаванне для сушкі сена, бульбоўніку і інш. *Ускінь бульбоўнік на грэ́длі.* Езярышча Гар.

ГРЭ́ЙЗАЦЬ гл. ГРЭ́МЗАЦЬ

ГРЭ́ЙМА *прысл.* Смела, рашуча. *Грэ́йма, дзеткі, падыходзьце да нас.* Маляўкі Міёр.

ГРЭ́МЗАЦЬ, ГРЭ́ЙЗАЦЬ *незак.* Пісаць неахайна, крэсліць. *Дзядуля сварыўся, калі ўнук грэ́мзаў па яго газеце.* Мілашова Міёр. *Я ж скончыла толькі чатыры класы і пісаць як нада ня ўмею, так толькі грэ́мзаю.* Гута Паст. *Нешта там грэ́мзае, дык паняць няможна.* Турлы Паст., Чорнае, Казлоўшчына, Дунілавічы, Вярэнькі Паст. *Ні грэ́йзай у сшытку!* Круткі Паст.

ГРЭНШТЭ́ЙН гл. ГРЫНШТЭ́ЙН

ГРЭ́СЦІ, ГРЭСЬ *незак.* Грэбці. *У чатыры часы пойдзем сена грэ́сці.* Мікіціха Шум., Іскозы Дубр. *Сена трэба грэсь.* Слабада Шум.

ГРЭ́ТА *ж.* Кавалак тканіны. *Во, колькі ў мяне шмат на сукенку пайшло, аж дзве грэ́ты, і во сколька падагнёна.* Кавалеўшчына Міёр.

ГРЭ́ЦКА *ж.* Каша з грэцкіх круп. *У грэ́цку клалі смятану, каб смачней было.* Ласі Глыб.

ГРЯ́БАЦЬ гл. ГРА́БАЦЬ

ГРЯННЁ *н.* Абаграванне. *Ета ні грянне́ у такей мароз, тут нада бальшэй агонь раскласць.* Ляхаўка Дубр.

ГУБА́ *ж., бат.* Грыб чага; гу́ба. *Пайду ў лес, сабяру губы́.* Лукомль Чаш. *Зрабіў падстаўку пад кружку з губы́.* Латыгава Беш. *На нашай старой хвое расла вялікая губа́.* Заполле Віц. *Губа́ бярозавая – гэта нарасць.* Стайкі Арш., Казінова Гар., Іванаўшчына Глыб., Асінаўка Сен., Башні Шум.

ГУБАШЛЁП *м., зневаж.* Пляткар; мужчына, які распускае плёткі. *Рэдка такое бываіць, каб ня мужык, а губашлёп нейкі.* Замошша Брасл.

ГУБЕ́ЛЬ, ГУБЗДЭ́Р *м., груб.* Чалавек з вялікімі тоўстымі губамі. *Які ты праціўны губе́ль!* Гарбацэвічы Арш. *Ён такі губздэ́р!* Круткі Паст.

ГУБНУ́ШКА *ж.* Памада. *Ты ж унучка губну́шкай накрась, ярчэй будзіць.* Канашонкі Рас.

**ГУ́ГЕ́ЛЬ**[1], **ГУ́ГАЛЬ** *м., кулін.* 1. Бабка. *Во, якраз і гу́гель гатовы, паісцё.* Поціна В.-Дзв. *Заўтра гуге́ль будзем есць.* Абухава В.-Дзв. *Гу́галь рабілі з вялікай картошкі.* Макаранкі Лёзн. 2. Крэндзель. *У магазін прывезлі такія смачныя гу́гелі.* Замачак Чаш.

**ГУ́ГЕЛЬ**[2], **ГІГЕ́ЛЬ, ГІРГЕ́ЛЬ** *м., бат.* Хвошч палявы. *Нашто ты нарваў столькі гу́гелю?* Перавознікі Паст. *Зараз пайду збіраць гуге́ль.* Лукомль Чаш. *Ідзе гіге́ль расцець, там зямля дрэнная, кіслая.* Барсукі В.-Дзв. *Парцізаны нават гі́гель елі, калі нічога не было.* Непароты Шум., Каханавічы В.-Дзв., Азёркі Гар. // Верхавінка хвашчу. *Гігялі́ ў вайну дажа елі.* Заходы Гар. *Наша бабуля летам збірала гі́гялі.* Прудок Гар. *Гіргялёў вясной поўна: стыяць-стыяць шышычкі.* Манякова Міёр.

ГУГО́ЛІЦЬ *незак.* Плакаць наўзрыд. *У яе сына забілі, дык яна ўвесь год гуго́ліла.* Празарокі Глыб.

ГУДЗЕ́ЦЬ *незак.* Выць. *Калі ваўчыца гудзе́ць – бяда будзець.* Велеўшчына Леп.

ГУ́ДЗІЦЬ *незак.* Асуджаць, ганіць, абгаворваць. *Не нам людзей гу́дзіць, хай іх сам Бог судзіць.* Захарнічы Пол.

ГУДЛІ́ВЫ *прым.* Бурклівы, сварлівы. *Такі гудлі́вы чалавек мой сусед.* Іванаўка Гар.

ГУДО́К *м., часцей* ГУДКІ́ *мн., кулін.* Піражкі з варанай бульбы. *Больш за ўсё люблю з бульбы гудкі́ робіць – так смачна.* Каханавічы В.-Дзв.

ГУЖАВА́ЦЬ[1] *незак.* Круціцца, увівацца каля каго-н. *Каля старэйшай сястры гужава́лі жаніхі.* Серкавіцы Тал.

ГУЖАВА́ЦЬ[2] *незак.* Раскідвацца грашамі. *Напалучаюць гэтых марак, то тады пачынаюць гужава́ць і налева, і направа.* Клясціцы Рас.

ГУЖЫ́ШЧА *н.* Тоўстая вяроўка; вужышча. *Наш дзед гужы́шчам на вазу сена прыціскаіць.* Рашкаўка Докш.

ГУЗ *м.* Гузік. *Гуз вырваўся, трэба прышыць.* Сахоненкі Шум. Параўн. *гаплю́к.*

ГУЗЕ́ННЕ *н., зб.* Падвязкі на штанах. *Гузе́нне балтаецца, штаны брудныя, рубаха навыварат – што за малец?* Пішчалава Арш.

ГУЗЕ́ННІ *мн.* Латкі. *Ребяты ў яе былі плоха адзеты: штаны з гузе́ннямі, драныі кохтачкі.* Скрыпкі Гар.

ГУЗЛА́К, ГУЗЯ́К *м.* Гуз. *На назе выскачыў гузла́к.* Опса Брасл. *Звалілася з лаўкі і набіла сабе гузя́к.* Мосар Глыб.

ГУКА́ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць, размаўляць. *Ён гука́ець, што ўсё будзець добра.* Гута Паст. *Хваціць гука́ць, давайце есць!* Цілеўцы Міёр. *Гука́лі доўга, пакуль не заснулі.* Кавалі Глыб. *Што ты мне гука́еш пра яе, я сама ўсё гэта ведаю.* Станіслававова Дубр. *Што ты такое гука́еш?* Буды, Жукоўшчына Шарк., Псуя, Кашталянаўшчына Глыб., Велеўшчына Леп. Параўн. *гаво́ліць, гавэ́ндзіць, галдэ́чыць.* 2. Абгаворваць. *Ліхі суседзі маі: п'юць і гуляюць у міне, а судзюць, гука́юць пра міне.* Кветча Леп.

ГУ́КАЦЬ, ГУ́ЦАЦЬ *незак.* Гушкаць; падкідваць дзіця на руках з любоўю і захапленнем. *Глядзі, як яна гу́каець свайго малога – хлопчык гэткі нарадзіўся.* Лашукі Паст. *Кінь ты яе гу́цаць і гаварыць гуцаца-гуцаца.* Ілава Шум. *Не гу́цай яго, палажы, хай спіць.* Буды Шарк.

ГУЛ *м., часцей* ГУ́ЛЫ *мн.* Рэха, водгук. *Ад нашага крыку гу́лы пашлі па лесі.* Урбаны Брасл.

ГУ́ЛА *ж.* Нарыў. *У мяне такая гу́ла на наге выскачыла.* Янкавічы Рас.

ГУЛЕ́НЬ гл. ГАЛЕ́НЬ

ГУЛЕШО́ВІКІ гл. ГАЛЮШО́ВІКІ

ГУЛЁНІК *м.* За́сцежка, за́шпілька. *Кашулі маглі зашпіляцца і на гулёнікі, ня толькі на гузікі.* Лукашова Паст.

ГУЛЁМА, ГУЛЁНА, ГУЛЁХА *аг., неадабр.* 1. Гуляка; той, хто любіць пагуляць. *Нашы гулёмы ў тэй вёске сабіраюцца.* Стар Арш. *А ўнук у міне – гулёна, дамоў пад утра прыходзіць.* Макаравічы Беш. *Сяння нашы гулёхі ў клуб пайдуць.* Ляхаўка Дубр. 2. Гультай (-ка). *Зяць у яе гулёна, работу не любіць.* Замошша Брасл. *Ён такі гулёна, нічога ня робіць.* Вяцера Чаш. *Суседка наша – гулёна такая: ні гарода, ні работы, толькі спяваець песні.* Замачак Чаш.

ГУЛУДУВА́ЦЬ *незак.* Галадаць. *У вайну дужа гулудува́лі.* Барсучына Шум.

ГУ́ЛЬБА *ж.* Бульба. *Ідзі ісць, гу́льба сварілась ужэ.* Таўкіні Шарк. *Мы даўней ад адной гу́льбы жылі.* Перавознікі Паст. *Цяперака ўжо пара гу́льбу капаць.* Дворышча Леп., Абаляны, Лапяны Брасл., Язна Міёр., Мішкавічы Шум.

ГУЛЬБО́ЎНІК *м., толькі адз., зб.* Бульбоўнік. *Ужо врэмя прышло гульбо́ўнік касіць.* Іказнь Брасл. Параўн. *гучкі́.*

ГУ́ЛЬБЯШНІК *м., часцей* ГУЛЬБЯ́ШНІКІ *мн., кулін.* Бульбяныя галушкі. *Сёння дзед заказаў гу́льбяшнікі.* Перабароддзе Міёр.

ГУ́ЛЬКА[1] *ж.* Жаночая прычоска; сабраныя на патыліцы ў выглядзе абаранка валасы. *Цяперака абразаюцца, а я гу́льку скручу і мне нравіцца.* Белая Ліпа Сен.

ГУ́ЛЬКА[2] *ж.* Пакрывала. *З утра на кравацъ кідаю гу́льку і падушкі наверх.* Азёркі Гар.

ГУЛЬТА́ЙНЫ *прым.* Лянівы. *Ён гульта́йны такі, адразу бачна.* Мікіціха Шум.

ГУЛЬТАЙНЯ́ *аг., асудж.* Гультай (-ка). *Гэтая гультайня́ нічога, акрамя танцаў, ня ведаець.* Замошша Тал. Параўн. *гулёма, гулёна, гулёха* ў 1 знач.

ГУЛЯЖА́ВЫ *прым.* Гуляшчы; які вядзе распуснае жыццё. *Муж у мяне быў гуляжа́вы.* Чарневічы Глыб.

ГУМА́РНА *безас.-прэдык. слова.* Шумна. *Унукі прыехалі – гума́рна ў хаце было.* Мількі Брасл. *У хаце вельмі гумарна было.* Голубаўшчына Брасл.

ГУМО́ВІКІ, ГУМО́ЎЦЫ *мн.* Гумавыя боты. *Добрыя гумо́вікі я сабе сёння на базары справіў.* Бачэйкава Беш. *У дзярэўні гумо́вікі – сама што абуванне.* Снегі Міёр. *Калі дождж ідзець, гумо́вікі надзеў і добра.* Шантары Докш., Езярышча, Казяны Брасл., Доўгае, Папшычы Глыб., Сачыўкі Міёр. *Абуй гумо́ўцы, а то мокра.* Буды Шарк.

ГУНДО́С *м., груб.* Гугнявы чалавек. *Ну, ён і гундо́с!* Сахоненкі Шум. *Твой кавалер – гундо́с!* Буды Шарк. Параўн. *го́мзала.*

ГУНДО́СІЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Ну, і гундо́сіць гэты гундо́с!* Буды Шарк. Параўн. *гале́зіць, галуі́ць, го́мзаць[1].*

ГУ́НІ *мн.* Абутак, зроблены з дрэва; лапці. *Дзед мой добрыя гу́ні рэзаў, хоць ідзі танцаваць у іх.* Загор'е Глыб.

ГУ́НКІ *толькі мн.* Карункі. *Упрыгожвалі гу́нкамі шарфы, платкі.* Анэліна Тал. Параўн. *гафт.*

ГУНУРО́ВЫ гл. ГАНУРО́ВЫ

ГУРА́ЛА *аг., зневаж.* Агідны чалавек. *Адчапіся ад мяне, гура́ла!* Наваселле Уш.

ГУРБА́Н *м.* Гурба, сумёт. *Гэткія гурба́ны былі снегу!* Еўлахі Тал.

ГУРО́НЧКА *ж.* Высокая тэмпература; ліхаманка, гарачка. *У яго была гуро́нчка, забралі ў бальніцу да ўрача.* Пліса Глыб.

ГУРО́ШНІК *м., зб.* 1. Агурочнік. *Гуро́шнік любата як сёлета цвіціць.* Дразды Беш. *У гародзе ўсё ёсь, гуро́шнік засох, але гуркоў шмат.* Барздоўка Арш. *У гэтым годзе на гуро́шніку шмат завязей.* Гушчына, Макаранкі, Слабадзішча Лёзн., Дзяйкі Віц. 2. Сцябло і лісце гароху. *Ці вырвалі вы гуро́шнік?* Арэхаўск Арш.

ГУРТ *м.* Вогнішча. *Гурт пастухі разлажылі і пякуць бульбу.* Станіслававы Дубр. Параўн. *груд* [2] у 2 знач.

ГУРУНЦУВА́ЦЦА, ГРУНЦУВА́ЦЦА *незак.* Хвалявацца. *Не трэба гурунцува́цца – усё ўспеем к вечару зрабіць.* Папшычы Глыб. *Ні гурунцу́йся, шчас мы ўсё паправім, зробім, як было. Гэта ні біда.* Сахнавічы Глыб. *Ні нада грунцува́цца, усё будзіць харашо.* Абольцы Тал.

ГУСЁНАК, ГУСЯНЁНАК *м., памянш.* Гусяня. *Гусёнак вывіўся толька адзін.* Лялеўшчына Гар. *Адзін гусёнак адстаў ад усіх. Як запішчыць!* Бунцікі Шум. *Гэты гусёнак, што з гусем, вун там, смешны.* Гарбачы Беш. *З вывадка прапаў гусёнак.* Слабодка Брасл., Селішча Гар., Кішы Глыб., Жабыкі Дубр., Палёнаўка Лёзн., Полымя, Обаль Сен., Антаполле Чаш., Бярэзніца Шум. *Самы маленькі гусянёнак захмурыўся, прыйшлося яго даглядаць асобна.* Свяча Беш. *Гусянёнак шкоды не наробіць.* Бараны Глыб. *Чужая кошка з'ела нашага гусянёнка.* Леснікі, Цясты, Каханавічы В.-Дзв., Пірагі Дубр., Багатырская Пол., Кубелеўшчына Шарк., Мішкавічы Шум.

ГУСІ́ННІК, ГУСЯ́ТНІК *м., зб., бат.* Лебяда. *Гусіннік колькі ні вырывай, а яго ўсюль шмат.* Боркавічы В.-Дзв. *Як моцна бульбоўнік гуся́тнікам парос.* Буда Дубр. *Гуся́тнік паланіў усю зямлю.* Слабада Шум.

ГУ́СКА[1] *ж., кулін.* Яечня. *Утрам у нас будзіць гу́ска на сняданне.* Сардыкі В.-Дзв.

ГУ́СКА[2] *ж., бат.* Гарлачык, вадзяная лілія. *Гу́скі дужа прыгожа глядзяцца на вадзе.* Ляды Дубр.

ГУСТЫ́Ш гл. ГУСЦЕ́Ш[1]

ГУСЦЕ́Л, ГУСЦЕ́ЛЬ гл. ГУСЦЕ́Ш[1]

ГУСЦЕ́Ш[1], ГУСЦІ́Ш, ГУСТЫ́Ш, ГУСЦЕ́Л, ГУСЦЕ́ЛЬ *м., толькі адз., кулін.* Гушча, густы асадак стравы. *Унук з супу гусце́ш павыцягіваіць, а жыжку дзеду астаўляіць.* Задзетуні Віц. *Гусце́ш з супа свінням выліць нада.* Вядзерава Беш. *А гусце́ш хто будзе есці?* Забор'е Рас., Асташэва Лёзн., Вялікі Азярэцк Сен. *Збярэш, бывала, гусці́ш з варэння і так дасмаку ясі.* Велеўшчына Леп. *Жыжку схлябаў, толькі густы́ш застаўся.* Завер'е Брасл. *Мае густы́ш болей любяць.* Урбаны Брасл. *У супе адзін густы́ш.* МікалаёваМіёр. *Не люблю я густы́шу.* Гарбацэвічы Арш. *Я больш люблю гусце́л.* Полымя Сен. *Ізноў табе дастаўся гусце́л.* Лагі Арш. *Ну, баба, і гусце́ль зварыла!* Бачэйкава Беш. *Унучачка мая вадзічку выцадзіла, а гусце́ль ня хочыць есці.* Кошчава Беш.

ГУСЦЕ́Ш[2], ГУСЦЯ́Р *м.* Гушчар, зараснік. *Знайшлі дзяцей там, дзе гусце́ш, сярод малінніку.* Бугаі Сен. *За чарнікай, дзеткі, ідзіце ў самый гусця́р!* Абухава В.-Дзв. *У гусцяры́ ваўкі выюць.*

Барсукі В.-Дзв. *Ён джвыгнуў у гусця́р і ўцёк.* Кутняны Пол., Цясты, Боркавічы, Залучча В.-Дзв.

ГУСЦЁРКА *ж., заал.* Рыба гусцяра́. *На Рапцаўскім гусцёрка добра ловіцца.* Белая Ліпа Сен. *Злавіў быў два карпы, два ратаны і адну гусцёрку.* Рошчына Сен.

ГУСЦІ́Ш гл. ГУСЦЕ́Ш [1]

ГУСЦЯ́Р гл. ГУСЦЕ́Ш [2]

ГУСЯ́ *ж.* Гусь. *Гуся́ хоць і жырная, а мяса не ўкуснае.* Леснікі Глыб. *Гэта дзікая гуся́.* Даўгінава Міёр. *Гуся́ за плотам іздохла.* Зялёнка Пол., Мар'янполле Брасл., Старынка Уш. Параўн. *гэ́ргала.*

ГУСЯ́ТНІК гл. ГУСІ́ННІК

ГУСЯ́ТНЯ *ж.* Гусятнік. *Гуся́тню мы здзелалі цёпленькай, а курям будзіць халодна, у хату прідзіцца браць у марозы.* Ляхаўка Дубр.

ГУТАРЭ́ЛІ *толькі мн.* Арэлі. *Стары як зрабіў гутарэ́лі, так унук дзень і ноч усё там.* Мількі Брасл. Параўн. *глы́далка, гутата́лкі, гу́цалка.*

ГУТАТА́ЛКІ *мн.* Арэлі. *Не чуваць дзяцей, яны на гутата́лках.* Гарбацэвічы Арш. Параўн. *глы́далка, гутарэ́лі, гу́цалка.*

ГУТА́ЦЦА, ГУ́ЦЬКАЦЦА *незак.* Гайдацца, гушкацца. *Пойдзем з унукам на качэлях гута́цца.* Палова Гар. *Унук цэлы дзень гу́цькаецца на арэлях.* Лазы Тал. *Як маладыя былі, усё гу́цькацца любілі.* Барсукі В.-ДЗв., Марчанкі Гар.

ГУТУНКО́ВЫ *прым.* Рыжы. *У яе валасы гутунко́вага колеру.* Мількі Брасл.

ГУ́ЦАЛКА *ж.* Арэлі. *Мой унук кожны дзень катаецца на гу́цалкі.* Мехавое Гар. Параўн. *глы́далка, гутарэ́лі, гутата́лкі.*

ГУ́ЦАЦЬ гл. ГУКАЦЬ

ГУ́ЦЬКАЦЦА гл. ГУТА́ЦЦА

ГУ́ЧКА *ж.* Мянушка. *У яго была такая смешная гу́чка.* Тумінічы Арш.

ГУЧКІ́ *толькі мн., бат.* Бульбоўнік. *Гучкі́ зараслі амерыканкай, і іх трэба было б касіць.* Ураджайная Глыб. Параўн. *гульбо́ўнік.*

ГУ́ШКА *ж.* Калыска, люлька. *Дзіцёнка ў гу́шку пакладу, пакачаю, песеньку спяю і бягу карову даіць.* Белая Ліпа Сен. *Мая матуля гаварыла, што пакуль я ў гу́шке калыхалася, крікліваая і непаседа была, а пабольшала – пацішэла.* Задуброўе Віц.

ГУ́ШЧА[1] *ж.* 1. Ячменныя крупы. *У ступі таўклі гу́шчы і кашу варылі.* Сяляўшчына Рас. 2. Каша з ячменных круп. *Будзем зараз есці смачную гу́шчу.* Сар'я В.-Дзв. *Чаму ты гу́шчу ня з'еў?* Бугаі Сен. 3. Суп з ячменных круп, гароху або фасолі. *Добра*

*паесці фасолевай або гарохавай гу́шчы з печы.* Булахі Глыб. *Гу́шча з печы наварыстая, смачная.* Палова Гар., Клясціцы Рас. Параўн. *гру́ца.*

ГУ́ШЧА[2] *ж.* Прылада для драблення круп. *Крупы пераціралі ў гу́шчы, патом дзелалі з му́кі хлеб і другое.* Езярышча Гар.

ГЫДЫВА́ЛІЦ гл. ГАДАВА́ЛЕЦ

ГЫЛА́Н *м.* Галандскі певень. *Што-та еты гыла́н раскрічаўся.* Зубава Арш. Параўн. *галагу́т, го́га.*

ГЫ́РКАЛА *аг., груб.* Сварлівы чалавек. *Гы́ркала ты, не ўмееш з людзьмі гаварíць.* Смалоўка Гар.

ГЫРКАТА́ННЕ *н., толькі адз.* Гырканне. *Ні люблю я гыркатáння, у нашай сям'і ўсігда было спако́йна.* Ляхаўка Дубр.

ГЭ́БЫ *злуч.* Нібы. *Малец тонкі, гэ́бы нітка.* Равяцічы Тал.

ГЭ́ДАК, ГЭ́ДЫК *прысл.* Так. *Калі гэ́дак, то ідзі сваёй дарогай.* Ноўка Віц. *Я даўно казала, што гэ́дак не нада рабіць.* Шыці Шарк., Воцькавічы Уш. *Гэ́дак баліць нага.* Кавалі Глыб. *Гэ́дак і жывём па сённяшні час.* Галбея, Ляхаўшчына Паст. *Гэ́дык цяжка было раней жыць.* Анэліна Тал.

ГЭДАКВЕ́ЛЕ *прысл.* Вельмі шмат. *Гэдаквéле ў гэтым годзе было жукоў на бульбе.* Наваселле Уш.

ГЭ́ДАКІ, ГЭ́ДАСНЫ *займ.* Такі. *Яна гэ́дакая прыгажуня!* Сар'я В.-Дзв. *Мой маліц аболтус гэ́дакі, як і твой.* Земцы Шум. *Гэта твой сын гэ́дасны вялікі ўжо?* Цяцеркі Брасл.

ГЭ́ДЫК гл. ГЭ́ДАК

ГЭ́ЙКАЦЬ гл. ГО́ЙКАЦЬ

ГЭ́НА[1] *часц.* Гэта. *І што гэ́на за малец у мяне такі – чаўпень нейкі.* Турлаі Арш.

ГЭ́НА[2] *прысл.* Там. *На базар пайду. Гэ́на і ласу́нак які ўнучку куплю.* Бігосава В.-Дзв. *Усё адбывалася гэ́на.* Цясты В.-Дзв.

ГЭ́НАН, ГЭ́НЫ *займ.* Той. *Гэ́нан стог стаіць далёка ад дарогі.* Целякі Паст. *Гэ́нан малец з арміі ўжо прыйшоў.* Друя Брасл. *Гэ́ны ўчастак у гэтым годзе поўнасцю засадзілі бульбай.* Абольцы Тал. *Гэ́ны цвет дужа красівы.* Пераходцы Леп., Дрыгучы, Ідоўта Міёр., Слабада Шум., Кулінава Уш.

ГЭ́РГАЛА *ж.* Гусь. *Як завялі гэ́ргалаў, гоман стаіць на двары.* Замхава Глыб. Параўн. *гуся́.*

ГЭ́РЦЫ *толькі мн.* Свавольства, дурыкі. *А цябе ўсё гэ́рцы забіраюць.* Гута Паст.

ГЭ́СТКА[1] *ж.* Складка. *На маім адзенні многа гэ́стак.* Прусінічы Тал.

ГЭ́СТКА[2] *ж.* Зашчапка. *Ён на гэ́стку закрыўся і заснуў, а мне лупі ў дзверы.* Тупічына Шарк.

ГЭ́ТТА *прысл.* Тут. *А ты не бачыла гэ́тта нажа?* Равяцічы Тал. *Добрая бульба была б, каб гэ́тта пасадзіў.* Тумілавічы Докш.

ГЭ́ЦА *ж.* Камедыя. *Сёння ў клубе, кажуць, гэ́ца добрая.* Абаляны Брасл.

ГЭ́ЦАЦЬ *незак.* Скакаць, падскокваць. *До ўжо гэ́цаць! Сядзь, пасядзі!* Каўровая Дубр. Параўн. *гапа́ць.*

ГЯРГІ́НА, ГЯРГІ́НЯ гл. ГАРГІ́НА

# Д

ДА́БА *прысл.* Добра. *Але печ да́ба зрабілі.* Баравуха Пол.

ДАБІ́РКІ[1] *толькі мн., с.-г., абрад.* Свята заканчэння ўборкі льну. *Сёння ў нас дабі́ркі, будзе багата людзей.* Смаляны Арш. *Раньшы весела гулялі дабі́ркі.* Шчыпечы Віц., Смаляны Арш.

ДАБІ́РКІ[2] *толькі мн.* Рэшткі корму. *Свінні луччае з'елі, а дабі́ркі даклювалі куры.* Дуброўкі Чаш.

ДАБРА́К *м., бат.* Баравік. *Дабра́к – мой любімы грыб.* Уна Лёзн. *Насушыла дабрако́ў, вельмі люблю суп з імі.* Мяжа Гар.

ДАБРАХВО́ЧЫ *прым.* Шчодры. *У нас дабрахво́чыя людзі.* Ноўка Віц.

ДАБРО́ *н., зб., с.-г.* Агульная назва злакавых раслін. *Дабро́ ўрадзіла харошэ, будзем багаты.* Ракаў Засценак Сен. // Збожжа. *У свата дабро́ ў клеці ў мяхах стаіць.* Азёркі Гар. *Дабро́ ўручную веялі, апалушкі такія булі.* Жакі Тал.

ДАБРО́СЦЬ *ж.* Дабрата. *Пасадзім дрэвы, і хай усе помняць нашу дабро́сць.* Кавалі Глыб.

ДА́БЫ *часц.* Ужываецца пры выказванні пажадання. *Да́бы ўсё было добра ў жыцці.* Лямніца Віц.

ДАВАЛЯ́ *прысл.* Даволі, у дастатковай колькасці. *У саўхозе буракоў сёлета даваля́.* Забор'е Рас. Параўн. *даста́тна* ў 1 знач.

о ДАВА́ЦЬ ЖЫ́ЗНІ *незак.* Сварыцца. *Мала табе давалі́ жы́зні.* Тупічына Шарк.

о ДАВА́ЦЬ ПАТА́ЧКУ *незак.* Патураць. *Чаго ты ёй даеш пата́чку?* Бораўна Леп.

ДАВЕ́ДВАЦЬ *незак.* Наведваць. *Унук даве́дваў мяне на той нядзелі.* Гута Паст.

ДАВЕ́РЧАТАСЦЬ *ж.* Даверлівасць. *Даве́рчатасць нада імець, ну ні к любому-кожнаму.* Ляхаўка Дубр.

о ДАВЕ́СЦІ ДА СПРА́ВЫ *зак.* Выдаць дачку зямуж або жаніць сына. *Трэба было і дзяцей сваіх да спра́вы даве́сці.* Якаўлевічы Арш.

ДАВЕ́ЧЫ *прысл.* Нядаўна. *Даве́чы ездзіў у горад.* Сар'я В.-Дзв.

о ДАВІ́ЦЬ ШЫ́БЫ *незак.* Пільна глядзець у акно. *Чуць шы́бы ні да́віць – так чакае свайго салдаціка.* Крывое Сяло Беш.

ДАВУ́ЦЦА *м.* Камандзір, начальнік. *Даву́цца ў нас быў тады самы добры.* Баравуха Пол.

ДАГІ́ЛЬ *м., толькі адз., бат.* Чартапалох. *Дагі́ль у дрэннага хазяіна за хатай расцець.* Андронавічы Віц. *Дагіль за хатай разросся.* Бугаі Сен.

ДАГЛЯДАК *м.* Догляд. *Дагля́дку парсючку ні было, вот і худой такой.* Гарбацэвічы Арш.

ДАГРАБЦІСЯ *зак.* З цяжкасцю дайсці, дабрацца куды-н. *Ледзь даграбліся дадому, такая завея ўзнялася.* Гарадзец Шарк.

ДАЁНАК, ДАЁНІК *м.* Даёнка. *Трэба ўжо выпарыць даёнак, памыць харашэнько.* Башні Шум. *Беры даёнік і ідзі да каровы.* Азёркі Гар.

ДАЖДЖАВІК[1] *м., бат.* Порхаўка. *Як пройдзе дождж, дык зразу дажджавікі палезуць.* Уна Лёзн.

ДАЖДЖАВІК[2] *м., заал.* Дажджавы чарвяк. *После дажджу на асфальце многа дажджавіко́ў.* Мар'янполле Брасл.

ДАЖДЖАВІК[3] *м.,* часцей ДАЖДЖАВІКІ *мн.* Пузыр у лужыне ад кроплі дажджу. *Улетку часта дажджавікі ў лужыцах.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАЖДЖО́ВІЦА *ж.* Дажджлівая пара, звычайна восенню. *У дажджо́віцу ля дзедавай хаты гразь па калена.* Лужкі Шарк.

ДАЙДА́ *аг., неадабр.* Папрашайка. *Цыганскае дзіця ўсягды дайда́.* Жарцы Пол.

ДАЙНІ́ЧКА *ж., бат.* Жоўты гарлачык. *Столькі дайнічак расцвіло, аж жоўта на возеры ад іх.* Зазерыца Чаш.

ДАКА́РХАЦЬ *зак.* Дажыць век; сканаць, памерці. *Дака́рхаў свёкар, на той нядзелі пахавалі.* Выхадцы Лёзн.

ДАКЛА́Д *м., толькі адз., кулін.* Прыправа да страў. *У нас гаварылі і прыправа, і даклад.* Селішча Гар. *Які ж укус без даклáду?* Азёркі Гар.

ДАКОЛЬЦЫ *мн.* Апошнія дровы. *Трэба ўжо дапаліць гэтыя дако́льцы.* Бешанковічы.

ДАКУДАВА *прысл., пыт.* Дакуль, да якога часу, як доўга? *Даку́дава будзіць ліць гэты дождж?* Тур'ева Сен.

ДАЛАВА́Х, ДО́ЛКА *прысл.* 1. Дадолу, на зямлю. *З рук усё паляцела далава́х.* Камайск Докш. 2. На падлозе, на зямлі. *Чаго хустка валяецца далава́х?* Кушталі Шарк. *У мяне вунь вазоны і далава́х стаяць.* Чарневічы Глыб. *До́лка будзіце па вочарадзі спаць.* Сценка Докш. Параўн. *далука́х.*

ДАЛДО́Н *м., неадабр.* Балбатун, пустаслоў. *Памаўчы ты, бацька, як той далдо́н слабодскі, не змаўкае.* Замачак Чаш.

ДАЛУКА́Х *прысл.* На зямлі, на падлозе. *Чаго ў цябе дзіця сядзіць далука́х.* Шодзікі Шум. Параўн. *далава́х, до́лка* ў 2 знач.

ДАМАВА́ЦЬ *незак.* Знаходзіцца, сядзець дома. *Ён даўно не ходзіць на работу, даму́е.* Косарава Глыб.

ДАМАВІКІ *мн.* Дамашнія туфлі. *Дамавікі ў мяне цёплыя, мяккія.* Казімірова Пол.

ДАМАНТА́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Растраціць, растранжырыць. *Пуньку ўжо прадаў – і кароўку скора даманта́чыць.* Забалацце Арш.

ДАМАЎЁ *н., зб.* Дамавіны. *У дамаўё ўжо нас трэба складаць.* Лонск Шарк.

ДАМО́ЎКА *ж.* Хата, дом, прытулак; гаспадарка. *Не было ў майго дзеда сваёй дамо́ўкі, усё парабкаваў.* Зубава Арш.

ДАПА́ДЛІВЫ *прым.* Пранырлівы, усюдыісны. *Дапа́длівы ж твой чалавек – свайго нічога не ўпусціць.* Казлоўшчына Паст. Параўн. *дахо́жы.*

ДАПА́ШКІ *толькі мн., с.-г., абрад.* Свята заканчэння веснавой сяўбы. *Як адсейваліся, то празнавалі дапа́шкі.* Жакі Тал.

ДАПЭЎНІЦЦА *зак.* Дагаварыцца, дамовіцца. *Ён точна дапэ́ўніўся з ім кабанчыка калоць.* Язвіна Шум.

ДАРА́ДА *ж.* Парада. *Вось табе мая дара́да: не хадзі з гэтым хлопцам.* Цяпіна Чаш.

ДАРАЖБА́ *ж.* Жаль, шкадаванне. *Якая ж табе даражба́, калі ты мяне на цэлы дзень у лес гоніш.* Азёры Дубр.

ДАРАЗУМЕ́ЦЬ *зак.* Зразумець. *Ты во паслухай, трудна даразуме́ць, чаго ён хочыць.* Жабыкі Дубр. Параўн. *даця́ць.*

ДА́РЖНІК *м.* Гаспадарчы двор. *На да́ржніку ў мяне і куры, і свінні.* Курава В.-Дзв. Параўн. *дзяльні́к, дзянні́к* у 1 знач.

ДАРО́БАК *м.* Прылада з лубу ў форме высокага рэшата, на якую звівалі ніткі. *На даро́бак наматавалі пральныя ніткі.* Тупічына Шарк.

ДАРО́БІЦЬ *зак.* Дарабіць; завяршыць работу над чым-н. *Сёння трэба ўсё даро́біць, а заўтра будзем свабодныя.* Двухполле Гар.

ДАСА́ДКІ *толькі мн., с.-г., абрад.* Свята заканчэння пасадкі бульбы. *Пасадзілі бульбу – значыць, будуць даса́дкі.* Замошша Брасл. *На даса́дкі звалі ўсіх, хто памагаў садзіць бульбу.* Запруддзе Шарк.

ДАСА́ДНЫ *прым.* Надакучлівы, назойлівы. *Такі даса́дны чалавек, лезе сляпіцаю ў вочы.* Баяршчына Шарк. Параўн. *дая́длы.*

ДАСВЕ́ТАК *м.* Досвітак. *Яшчэ на дасве́тку выбраліс у дарогу.* Міёры.

ДАСКУ́СЦЬ *зак.* Даскубці. *Дай кабыле дасќусць траву, патом паедзем.* Смаляны Арш.

ДАСТА́ТНА *прысл.* 1. Даволі, дастаткова, досыць, у дастатковай колькасці. *Я насекла сабе даста́тна капусты, ці паядзім да́жа за зіму.* Волева Дубр. Параўн. *даваля́.* 2. Багата, у дастатку. *Даста́тна жылі, усё было.* Ляхаўка Дубр.

ДАТАРМАСІ́ЦЦА *зак.* Дабудзіцца, з цяжкасцю разбудзіць. *Ледзьве я цябе датармасі́лася.* Мікалаёва Міёр.

ДАЎБА́ТЫ *прым., пагард.* Дурнаваты, тупы. *На галаву малец трошкі даўба́ты, вішні выбраў у мяне.* Казімірова Пол.

ДАЎГАЛЫ́ТЫ *прым.* Даўганогі. *Нейкі даўгалы́ты хлопец у яе.* Янкі Докш.

ДАЎГУНЫ́ *мн., буд.* Латы. *Даўгуны́ кладзём, патом ужэ крыем – хто чым.* Залучча В.-Дзв.

ДА́ЎЛЕНІК *м.* Вісельнік-самагубца. *Только вот, бувало, як да́ўленік, то поп к яму не ідзе.* Азёркі Гар.

ДА́ЎНА *прысл.* Даўно. *Не магу ўспомніць, да́ўна гэта было.* Галбея Паст.

ДАФУКТО́ВЫ *прым.* Вялы. *Некі ён дафукто́вы пасля вяселля.* Абухава В.-Дзв.

ДА́ХА *ж.* Дах. *Да́ху чыні, дождж на галаву хутка капаць будзіць.* Каменка Тал.

ДАХО́ЖЫ *прым.* Пранырлівы, усюдыісны. *Мой унук такі дахо́жы, нічога не прапусціць міма вушэй.* Рудня Гар. Параўн. *дапа́длівы.*

ДАХТО́РКА, ДО́ХТАРКА *ж.* Жанчына-ўрач. *Дахто́рка мяне лечыць, харошая, унімацельная.* Матырына Уш. *Ну і пабегла я па дахто́рку.* Надазер'е Глыб. *У лагеры тым летам была до́хтарка, а ў гэтым – дохтар.* Казімірова Пол.

ДА́ЦЦА *зак.* Стукнуцаа, ударыцца. *Пашла ў магазін, а слізка было, ўпала і дала́сь галавой аб лёд.* Двухполле Гар.

ДАЦЯ́ЦЬ *зак.* Уцяміць, да канца зразумець. *Ні магу даця́ць, што здзелаў не так.* Лісуны Арш. Параўн. *даразуме́ць.*

ДАЧКІ́Н *прым.* Доччын, які належыць дачцэ. *Дачкіна́ хата ў канцы дзярэўні стаіць.* Абольцы Тал.

ДАШЧА́НКА *ж.* Памяшканне, будыніна з дошак. *Дашча́нка ў нас не новая, дровы туды складваем.* Чарневічы Глыб.

ДАЯ́ДА *аг., неадабр.* Назола. *Надаеў як горка рэдзька дая́да гэты.* Каралевічы Глыб.

ДАЯ́ДЛЫ *прым., неадабр.* Надакучлівы,назойлівы. *Той малец вельмі ж дая́длы.* Мярэцкія Глыб., Бораўна Леп. Параўн. *даса́дны.*

ДВАЙНІ́К[1] *м.* Рыбалоўная сетка. *Пайду на рэчку двайнік пастаўлю.* Іванск Чаш.

ДВАЙНІ́К[2] *м., бат.* Агурок-спарыш. *Знайсці двайнік у агурочніку шчыталі ўдачай. Такі гурок зразу з'ядалі.* Слабада Шум.

ДВАЙНЮКІ *толькі мн.* Двайняты. *У мяне браты двайнюкі.* Касцяні Паст.

ДВО́ЙНІ *толькі мн., с.-г.* Двухрогія вілы. *Вазьмі дво́йні і пасабі згрузіць салому.* Юнькі Паст. *Дво́йнямі бяры і нясі гной на поле.* Рацькава Уш., Ліпаўкі Докш., Матырына, Старое Лядна Леп., Шпунты Шарк.

ДВО́РАК *м.*, ДВО́РЫШЧА *н.* Двор, дварышча. *Прышлі на бацькаў дво́рак.* Ноўка Віц. *Паве́рніце налева і хутка ўбачыце іх дво́рышча.* Слабада Шум.

ДВО́РНЯ *ж., с.-г.* Ферма. *Даяркі раненька ідуць на дво́рню.* Заполле Віц.

ДЖГУР *м., заал.* Ёрш. *У нашай рацэ джгур самая малая рыба.* Шэпелева Глыб.

ДЖМЫХЛІ́ВЫ *прым.* Непаседлівы. *Ты такая самая джмыхлі́вая, як твая цётка была, усё на месцы не пасядзіць.* Выхадцы Лёзн.

ДЖУ́ПЛА *ж.* Бізун; пуга. *Джу́плай ледзь адагнаў сабаку.* Непароты Шум.

ДЖЫГУ́Н *м.* Зух, хват. *Гэты джыгу́н усюды паспее, свайго не ўпусціць.* Азёркі Гар.

ДЗЕД[1] *м., бат.* Дзьмухавец. *Сарваў дзе́да, зараз дуне на яго.* Старое Сяло Віц. *Куды ні глянь – жаўцеюць дзяды́.* Лукомль Чаш. *На пагорку растуць дзяды́.* Зазыбы Віц. *Корань дзядо́ў лячэбны.* Ула Беш.

ДЗЕД[2] *м., с.-г., абрад.* Першы зжаты сноп жыта. *Першы сноп называлі "дзед", так здаўна гаварылі.* Рацькава Уш. *Дзе́да ўкрашалі, ставілі ў кут, шанавалі.* Лашукі Паст. *На покуць пастаў дзе́да.* Асташэва Лёзн.

ДЗЕД[3] *м.* Цэнтральная палка ў крызе (рыбалоўнай снасці). *У маёй крыгі дзед саўсім разваліўся.* Губіца Шум.

ДЗЕД[4] *м., кулін.* Бабка, страва з дранай бульбы. *На вячэру дзе́да зробім.* Івесь Глыб.

ДЗЕДЗІН *прым.* Дзедаў. *Нідзе не найдзём дзе́дзін кіёк.* Язна Міёр.

ДЗЕЙКАЛА *аг., неадабр.* Чалавек, які пускае чуткі, пагалоскі. *Не дружы з ім, усе знаюць, што ён дзейкала.* Задуброўе Віц.

ДЗЕЙКАЦЬ *незак.* Гаварыць, пускаць чуткі, пагалоскі. *Бабкі на лаўках ціха дзейкаюць.* Пышна Леп. *І не надаесць ім днямі дзейкаць.* Выдрэя Лёзн.

ДЗЕРАВЕНЕЦ *м.* Вясковец. *Усе дзеравенцы пайшлі на Купалу.* Чачанева Тал.

ДЗЕРАВЯКА *ж.* Бервяно, бэлька. *Кінь ты тую дзеравяку, яе яшчэ пастругаць нада.* Гарбацэвічы Арш.

ДЗЕРАВЯННІКІ, ДЗЕРАВЯШКІ, ДЗЯРВЯШКІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Абувай дзеравяннікі і пойдзем адсюль.* Свольна В.-Дзв. *Уздзела дзеравяшкі і пабегла да суседкі.* Турчына Міёр. *Вобуў называлі дзярвяшкі, у іх падошва з дзерава.* Друцк Тал.

ДЗЕРБАЛЫЗНУЦЬ *зак., экспр.* Хвастануць, сцебануць. *Я так яму дзербалызнуў, што ён зваліўся.* Сар'я В.-Дзв.

ДЗЕРЦІСЯ *незак.* Прыставаць, чапляцца. *Ты цэлы дзень дзярэшся да мяне.* Мяшкова Тал.

ДЗЕСЯТОК *м.* Дзясятак. *Купіла дзесяток яец, а больш – дорага.* Занькі Леп.

ДЗЕХТАР *м.* Дзягцяр. *У той хаце раньш дзехтар жыў.* Лескавічы Шум.

ДЗЕШАВА *прысл.* Танна, нядорага. *Пасля вайны многае куплялі дзешава.* Гута Паст. // *безас.-прэдык. слова.* Танна, нядорага. *Тады ж поезд хадзіў – дзешава было.* Пастушкі Сен.

ДЗЕШАВЫ *прым.* Дзяшовы, танны, недарагі. *Сахару куплялі па пяць мяшкоў – ён дзешавы быў.* Заазер'е Тал. *Гэта ўсё было дзешавое.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там можна і дзешавое што купіць.* Навасельцы Шарк.

ДЗЁР *м. , толькі адз.* Здор. *Дзёр трэба было б ператапіць.* Сяло Гар.

ДЗЁРКА *ж.* Тарка. *Моркву ў суп я тру на дзёрку.* Папшулі Міёр. Парпаўн. *драчка.*

ДЗЁЎБАЦЬ *незак.* Дзяўбаць, есці дзюбай. *Куры дзёўбаюць зярно.* Слабада Шум.

ДЗІГІНАЛІЦЬ *незак.* Злоўжываць алаголем. *Дзігіналіць каждый дзень, а тады ў разнос ідзець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ДЗІК гл. ДЗІГЧ [1]

ДЗІКУНЫ *мн.* Плады дзікай яблыні. *У нас добрэ ўрадзілі дзікуны.* Дрысвяты Брасл.

ДЗІРБАЧ гл. ДЗЯРБАЧ

ДЗІРУН гл. ДЗЯРОНІК

ДЗІЦЁНАК гл. ДЗЯЦЁНАК

ДЗІЧ[1] *м.* і *ж.*, ДЗІК *м.*, ДЗІЧКА, ДЗІЧЫНА *ж.* 1. Скула. *Дзіч на руке села, рука красная, апухла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзічы́на на руке замінае рабіць.* Кузняцова Віц. // Стрыжань у скуле. *Так нага балела тут, я ўзяла і націснула, а адтуль дзіч выскачыў.* Абаляны Брасл. 2. Барадаўка. *У мяне на пальцы сеў дзік.* Смалоўка Гар. *Дзіч на самай ладоні сеў.* Мікуліна Глыб. *Вырасла на пальцы дзіч.* Чарневічы Глыб. *Дзічка на барадзе, адкуль узялася?* Пішчалава Арш. *А ты як дзічкі звяла?* Слабодка Леп.

ДЗІЧ[2] *ж.*, *зб.* Зараснік. *Тут раньшэ ягады раслі, а цяпер адна дзіч.* Абольцы Тал.

ДЗІЧКА, ДЗІЧЫНА гл. ДЗІЧ[1]

ДЗЫ́ГАННЕ *н.* Бязмэтная беганіна. *Не магу больш глядзець на яе дзы́ганне, – штоб здаровай дзеўке стаць такім гультаём!* Заслонаўка Арш.

ДЗЫ́НДРА *ж.*, *толькі адз.*, *зб.* Шлак. *Кругом чорная дзы́ндра навалена.* Альшанка Чаш.

ДЗЮДО́К *м.* Парсючок. *Дзюдо́к мой пагано есь.* Надазер'е Глыб.

ДЗЮС *м.*, *толькі адз.* Гліна. *Я дзюсу набраў ужо, можна і печ падлатаць.* Гута Паст.

ДЗЯВОЧКІ *мн.* Дзяўчаты. *Прыйшлі да нас дзяво́чкі з суседняй дзярэўні.* Славені Тал.

ДЗЯВУЛЬНЯ *ж.*, *экспр.* Дзяўчына-гуляка. *З гэтай дзяву́льняй дабра не нажывеш.* Бораўна Леп.

ДЗЯ́ГА *ж.* Папруга, рэмень. *От я табе зараз дам дзя́гі.* Шантары Докш.

ДЗЯДНА *ж.* Дзядзькава жонка. *Дзя́дну сваю бачыла.* Гарбацэвічы Арш.

ДЗЯДОВІК *м.* Парсюк, якога забіваюць на Дзяды. *Дзядо́віка колюць абычна на Каляды.* Лямніца Віц.

ДЗЯДО́К *м.*, *абрад.* Першы сноп, зжаты ў час зажынак. *Раньшэ дзядка́ хавалі да Ражаства.* Дзеркаўшчына Глыб.

ДЗЯДУ́ЛЬНІК *м.* Дом састарэлых. *Не хочацца ў дзяду́льніку дажываць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ДЗЯ́ЛКА *ж.* Участак зямлі, сенажаці, лесу. *Ваша дзя́лка непадалёк ад нашай.* Варапаева Паст. *Ніяк не закончу дзя́лку буракоў.* Мосар Глыб. *Ну і дзя́лку далі, век не выпалю.* Азярцы Глыб. *Вот дзя́лку выдзелілі пад бульбу.* Вялікі Поўсвіж Леп. *У калхозі давалі дзя́лкі буракоў.* Грынеўшчына Докш. *Мы сваe дзя́лкі ўжо некалькі разоў прарывалі.* Станюкі Сен. *У багатых*

*былі вялікія дзялкі ў лесе.* Гута Паст., Варнелі Брасл., Грыцы Глыб., Селішча Уш.

ДЗЯЛЬНІК, ДЗЯННІК *м.* 1. Гаспадарчы двор; агароджаная частка двара, дзе знаходзіцца жывёла ўдзень і ў добрае надвор'е. *Загані карову ў дзяльнік.* Касцяні Паст. *Дачушка, прыбяры дзяннік, бо госці хутка будуць.* Папшычы Глыб. *Ты карову з дзенніка не выпускай. Курэй з дзенніка прагані.* Амбросавічы Шум. Параўн. *даржнік.* 2. Памяшканне для захавання сельскагаспадарчага інвентару. *Шчэ бацька мой пастроіў дзяльнік, вот ён і зараз стаіць.* Лямніца Віц. *На кухню можна зайсці праз дзяльнік.* Багданова Брасл. 3. Сметнік. *Усю шуму на дзяннік вынесла.* Ветахмо Докш. *На дзяннік вынесі капусту, яна спорчаная.* Вараны Докш.

ДЗЯЛЯНКА *ж.* Свежае мяса, сала, якім надзяляюць родных, блізкіх. *Сёння маці дзялянку прынесла, заўчора яны свінню закалолі.* Іванск Чаш.

ДЗЯННІК гл. ДЗЯЛЬНІК

ДЗЯРБАЧ, ДЗІРБАЧ *м.* Матыка з зубамі. *Вазьмі дзярбач да прапалі якую латку бульбы.* Сяло Гар. *Прынесі мой дзірбач.* Лескавічы Шум. Параўн. *драбак, драпка, драпцы.*

ДЗЯРВЕННЕ *н., зб.* ДЗЯРНОЎНІК, ДЗЯРНЯК *м.* Дзёран. *Аблажы дзярвеннем возле забора, а патом паглядзіш, што вышла.* Казімірова Пол. *Бульбу ў дзярноўнік не пасадзіш.* Суша Леп. *Конь капытамі сячэ дзярняк.* Нямойта Сен.

ДЗЯРВЯШКІ гл. ДЗЕРАВЯННІКІ

ДЗЯРНОЎНІК, ДЗЯРНЯК гл. ДЗЯРВЕННЕ

ДЗЯРОНІК, ДЗЯРУН, ДЗІРУН *м., кулін.* Дранік. *Люблю дзяронікі з маладой бульбы.* Ахрэмаўцы Брасл. *У маёй бабкі смачныя дзяронікі.* Калышкі Лёзн. *Са свежай бульбачкі такія дзеруны палучаюцца.* Каміншчына Глыб. *Дзіруны са смітанай вельмі смачныя.* Крынкі Лёзн. *Дзіруноў напікла.* Палова Гар. Параўн. *драч* [1], *драчак, драчонік.*

ДЗЯРОНКА, ДРАНКА, ДРАНІЦА *ж., кулін.* Бабка з дранай бульбы. *На абед дзяронку зраблю.* Чарневічы Глыб. *На сталу павінна быць усё сваё: і каўбасы, і дранка.* Лынтупы Паст. *На пліце дранку не зробіш.* Псуя Глыб. *К вечару спяку дранку.* Пліса Глыб., Лісуны Арш., Папшулі Міёр., Галбея, Чорнае Паст., Ёды Шарк., Дабея Шум. *Драніца са смятанай вельмі смачная.* Цілеўцы Міёр.

ДЗЯРУЖЖА *н., зб.* Тоўстае грубае палатно. *Нада дзяружжа на трапкі дастаць.* Кузняцова Віц.

ДЗЯРУН гл. ДЗЯРОНІК

ДЗЯТЛАВІНА, ДЗЯТЛІНА *ж., бат.* Дзяцеліна; дзікая канюшына. *Схадзіла прынесла дзя́тлавіны кролікам.* Цілеўцы Міёр. *З дзя́тліны пчолы сабіраюць мёд.* Слабада Віц. *Каровы скубуць дзя́тліну.* Заполле Віц.

ДЗЯТЛУ́К *м.* Маларослы, фізічна слабы хлопец. *Слабенькі малец, нейкі дзятлу́к.* Камень Леп.

ДЗЯТУХА, ДЗЯЦІНА, ДЗЯЦІНІХА, ДЗЯЦІНУХА, ДЗЯЦІХАЎНА *ж., заал.* Квактуха, якая водзіць куранят. *Дзяту́ха пахажвае па двары з курчатамі.* Пашкі Шарк. *Наша дзяціна здохла чагосьці. Харашо, хоць цыпляты падраслі троху.* Сяло Гар. *Дзяцініха цыплят ужо кінула, дык тэі адны ходзюць.* Пестуніца Віц. *Дзяцініха харашо водзіць цыплят.* Лялеўшчына Гар. *Дзяцініха ўсягда са сваімі дзеткамі.* Рамні Гар. *Мая дзяці́ніха вывела сем цыплят.* Бароўка В.-Дзв. *Дзе э гэта дзяцінуха падзелася?* Каты Шарк. *У дзяцінухі сёлета дзесяць куранят.* Леснікі Глыб. *Дзяціхаўна ходзіць па двары.* Чашкі Глыб. Параўн. *дзяўчыніха.*

ДЗЯЎБА́Ч *м., заал.* Індык. *Краснае ў панадворак лепш не адзяваць, бо дзяўба́ч наляціць.* Мясаедава Шум.

ДЗЯЎБЕ́ЛІЦЦА *незак., экспр.* Працяглы час займацца якой-небудзь справай. *Увесь дзень дзяўбе́ліцца са сваёй старой машынай.* Ляды Дубр.

ДЗЯЎБІ́ЛА *н.* Прылада, якой цягяюць сена са стога. *Вазьмі дзяўбі́ла, нацягай сена карове на ноч.* Шарагі Міёр.

ДЗЯЎЗНО́ *н., неадабр.* Высакарослая лянівая дзяўчына. *Ходзіць па вуліцы гэткае дзяўзно́, а каб дома памагчы, дак не дапросішся.* Клясціцы Рас.

ДЗЯЎЧО́НА *ж.* Дзяўчына. *У саседкі две дзяўчо́ны.* Задзежжа В.-Дзв. *Дзяўчо́ны пад гармонік танцавалі.* Кісялева Тал.

ДЗЯЎЧУК *м.* Дзяўчынка. *Дачка ж яшчэ малая, саўсім дзяўчу́к, то як ты яе пакінеш на суткі адну.* Псуя Глыб.

ДЗЯЎЧЫНІХА *ж., заал.* Квактуха, якая водзіць куранят. *На тую дзяўчыніху нападаў коршак, але адбілі, кураняты разбегліся, чуць сабралі.* Лескавічы Шум. Параўн. *дзяту́ха, дзяціна, дзяцініха, дзяцінуха, дзяціхаўна.*

ДЗЯЦЁНАК, ДЗІЦЁНАК *м.* Дзіця. *Бацька мой строгі, сваім дзяцёнкам балатраснічаць не даваў.* Язна Міёр. *Адзін дзіцёнак, і таго ні хочуць глідзець.* Стаі Леп., Абольцы, Варанцэвічы Тал.

ДЗЯЦІНА, ДЗЯЦІНІХА, ДЗЯЦІНУХА, ДЗЯЦІХАЎНА гл. ДЗЯТУХА

ДНЕШКО́ і ДНЮ́ШКО *н.*, ДНІШКА і ДНЫШКА *ж. і н.*, ДЭНКА *ж.* 1. Дошчачка, на якой рэжуць што-н. або выкарыс-

тоўваюць як падстаўку пад патэльню. *Днешко́ нада, каб на ім яйкі крышыць, гуркі, можна хлеб, калбасу рэзаць.* Куштaлі Шарк. *Не стаў патэльню на чысты стол, днюшко падлажы.* Стралкі В.-Дзв. *Прынясі мне днішку і нож.* Косарава Глыб. *Калі капусту секлі, то дныішку бралі.* Лётцы Віц. *Дэ́нка ў цябе добрая, можа, з дубу?* Пасекі Докш. *Дэ́нка ўжо саўсім зрэзалася, а выкінуць жалка.* Воўкаўшчына Міёр. *Зяць зро́біў мне аж тры дэ́нкі.* Іванькі Міёр., Старое Лядна Леп., Гута Паст., Вішня Шум. Параўн. *драбі́нка.* 2. Века, накрыўка. *Днішка круглае, дзераўлянае, дзежку ім накрываюць.* Псуя Глыб.

ДЗЯ́ШАР *м., кулін.* Страва, начыненыя дранай бульбай запечаныя свіныя кішкі. *Закалолі парасёнка, заўтра зробім дзя́шар.* Купчэлі Брасл.

ДО́ВАД *м.* Дакумент, пашпарт. *Тады ў нас ужо былі гэтыя паспарта, до́вады зваліся.* Узмёны Міёр.

ДОДНЯ *прысл.* Досвіткам. *Бывала, што і до́дня ўставаць нада.* Аўсянка Міёр.

ДО́ЙКА *ж.* Даярка. *Раней я до́йкай рабіла, а дзеці памагалі.* Аколіца Брасл.

ДО́ЙЛА *н.* Вымя. *До́йла ў каровы добрае, а малака мала.* Гарбацэвічы Арш. *У нашай каровы вялікае до́йла.* Ілава Шум.

ДО́ЛАК *м.* Дол; паверхня зямлі, падлогі. *Падмяці ты до́лак лепей.* Празарокі Глыб.

ДО́ЛКА гл. ДАЛАВА́Х

ДО́ХТАРКА гл. ДАХТО́РКА

ДО́ШКІ *мн.* Падлога. *Пад до́шкі стаўляем закаткі разныя, загатоўкі.* Амбросавічы Шум.

ДО́ШНІК *м.* Вялікая драўляная бочка. *Поўныя до́шнікі журавін насыпалі.* Клясціцы Рас.

ДРАБА́К *м., с.-г.* Матыка з зубамі. *Вазьмі драба́к і выпалі буракі.* Слабада Шум. Параўн. *дзярба́ч, дзірба́ч, дра́пка, драпцы́.*

ДРАБАКАВА́ЦЬ, ДРАПАКАВА́ЦЬ, ДРАПАЧЫ́ЦЬ *незак.* Апрацоўваць культыватарам. *Дзірван спачатку драбаку́юць.* Галбея Паст. *Драпакава́ць бульбу нада два-тры раза на лета.* Дамашы Брасл. *Поле драпачы́лі трактарамі.* Пралетарыя Уш.

ДРАБА́Н *м., заал.* Вялікі акунь. *Глянь, якога бацька драба́на спаймаў.* Бачэйкава Беш.

ДРАБІ́НКА *ж.* Рашотчатая падстаўка пад скавараду. *Прынясі драбі́нку, скаварада гарачая.* Надазер'е Глыб. Параўн. *дне́шко, дню́шко, днішка, дныішка, дэ́нка* ў 1 знач.

ДРАБНІЦА, ДРАБНУШКА, ДРАБНЯНКА *ж., зб.,* ДРАБНЯК *м., зб.* Драбната, драбяза; дробныя прадметы. *Буракі ў гэтым годзе саўсім драбніца.* Язна Міёр. *Як неўражайны год,*

*дык будзем і драбну́шку есці, хоць у мундзірах варыць.* Загарадна Лёзн. *Леташняй драбнянкі шмат засталося, дзяваць няма куды.* Бараўна Леп. *Ягад шмат, але ж адзін драбня́к.* Дразды Беш. // Дробныя жывёлы; патомства свойскіх жывёл. *Скора драбніца па двары пойдзе, час ужо.* Пранікі Уш.

ДРАВА́РКА, ДРАВА́РНЯ, ДРО́ЎНЯ *ж.*, ДРАВАСЕ́К, ДРАВЯНІК, ДРАВЯТНІК, ДРАЎЛЯНІК, ДРАЎНІК, ДРЫВЯНІК, ДРЫВЯТНІК *м.* Дрывотнік; хлеў або павець для дроў. *Ужо разваліласся зусім мая драва́рка.* Абольцы Тал. *Схадзі ў драва́рку, прынясі дроў у баню.* Папшулі Міёр. *Схадзі ў драва́рню, выберы бярозавых дроў, баню цепліць будзем.* Чарневічы Глыб. *Да зімы поўную драва́рню належылі дроў.* Далёкія Брасл. *У мяне дроў поўная дро́ўня.* Новая Яблынька Тал. *Увесь дравасе́к ужо закладзены дровамі.* Бортнікі Глыб. *Нада купляць дровы, а то дравасе́к пусты стаіць.* Чачанева Тал. *Нагатаваў дроў на зіму поўны дравасе́к.* Клясціцы Рас. *Дровы мы складваем у дравя́нік, вон ён стаіць.* Езярышча Гар. *У дравя́тніку пуста.* Якаўлевічы Арш. *Набяры ў дравя́тніку ахапак дроў.* Латкова Шум. *Дроў поўны драўля́нік набілі.* Мікалаева Шум. *Мы дровы ў драўні́к складваем.* Абольцы Тал. *У драўніку́ цячэ крыша.* Малыя Смалянцы Чаш. *Драўні́к у нас поўны дроў.* Езярышча Гар. *Дрывя́нік ужо крыць нада.* Занькі Леп. *К канцу зімы дрывя́тнік пусцее.* Друцк Тал. *Ідзі ў дрывя́тнік, прынясі пару паленцаў сухіх.* Слабада Шум.

ДРА́ГАЦЬ *незак.* Стукаць, барабаніць. *Толькі змружыў вочы, аж нехта дра́гае ў дзверы.* Пазнякова Пол.

ДРА́НІЦА, ДРА́НКА гл. ДЗЯРО́НКА

ДРАННЁ *н.* Здробненая на тарцы бульба. *Дранно на стале, можна жарыць дранікі.* Папшулі Міёр. *Во дранна́ нарабіла, бліноў напяку.* Бушыкі Глыб.

ДРАПА́К *м.* Культыватар. *Пара была драпкаваць, але сват як пазычыў драпа́к, дык яшчэ ні прывёз.* Цешылава Паст.

ДРАПАКАВА́ЦЬ, ДРАПАЧЫ́ЦЬ гл. ДРАБАКАВА́ЦЬ

ДРА́ПКА *ж.*, ДРА́ПЦЫ *мн.* Матыка з зубамі. *Дра́пку ў рукі – і на поле палоць.* Ларынаўка Арш. *Драпца́мі бульбу асыпалі.* Старое Лядна Леп. Параўн. *дзярба́ч, дзірба́ч, драба́к.*

ДРАЎЛЯНІК, ДРАЎНІ́К гл. ДРАВА́РКА

ДРАЧ[1], ДРАЧА́К, ДРАЧО́НІК *м., кулін.* Дранік. *З дзецтва люблю драчы́.* Ліпаўкі Докш. *Заўтра драчо́ў напяку.* Лескавічы Шум. *Салат з гуркоў і драчы́ – што ім яшчэ нада.* Загор'е Глыб. *І драчакі я пяку.* Заазер'е Тал. *Драчо́нікі часта пяком.* Абольцы Тал. *Люблю драчо́нікі.* Лямніца Віц. Параўн. *дзяро́нік, дзяру́н, дзіру́н.*

ДРАЧ[2] *м.* Дзяркач, галень; стары венік без лісця. *Гэта ўжо не венік, а драч, зусім сцёрся.* Алексінічы Сен. *Мы драчо́м двор змятаем.* Чарневічы Глыб.

ДРА́ЧКА *ж.* Тарка. *Дра́чка ў нас тупая, ці падзярэш буракі.* Лісуны Арш. *Калі бульбачку на дра́чку – вось табе і дранікі.* Стар Лёзн. *Так рукі баляць, што доўга на дра́чке бульбу не магу драць.* Ёды Шарк. *Сам зрабіў дра́чку.* Лескавічы Шум. Параўн. *дзёрка.* // Прылада для здрабнення садавіны, гародніны на корм свойскай жывёле. *Трэба падраць буракі для кароўкі на дра́чку.* Зямцы Шум.

ДРАЧО́НІК гл. ДРАЧ [1]

ДРАШПІЛАК *м.* Нажоўка; невялікая ручная піла з адной ручкай. *Файны твой драшпілак.* Перавознікі Паст.

ДРО́НКА *ж.* Драўляная засаўка. *Зачыні дзверы на дро́нку.* Тупічына Шарк.

ДРО́СЕЛЬ, ДРО́СЕНЬ, ДРОСТ *м., толькі адз., бат.* Драсён. *Ну, дро́сель такая трава, што на ахрап'е не гадзіцца.* Азярцы Глыб. *Звяжы дро́сень у пукі.* Малыя Пышнагоры Леп. *Дрост расце па гародах і сметніках.* Крынкі Лёзн.

ДРОЎНЯ гл. ДРАВА́РКА

ДРУГАВЕ́Й, ДРУГА́К *м., толькі адз.* Другі ўкос травы. *Ужо прыйшла пара другаве́й рабіць.* Гатаўшчына Глыб. *Пойдзем вечарам друга́к зграбаць.* Папшулі Міёр.

ДРУГА́ЧКА *ж., заал.* Карова з другім ацёлам. *Наша карова – друга́чка, зусім неспакойная стала і малака мала дае.* Бораўна Леп.

ДРУГЕ́Й *м.* 1. *ліч.* Другі. *Друге́й год лета мокрае, сонца мала.* Буды Шарк. 2. *у знач. займ.* Іншы. *Калхозу адзін налог быў, саўхозу – друге́й.* Абухава Арш. *У цябе быў друге́й сабака.* Стаі Леп.

ДРУЖБА́Н *м.* Блізкі друг; сябар. *Дзед з брыгадзірам – дружбаны́ даўнія.* Алексінічы Сен.

ДРУЖКА *ж.* Сяброўка. *Дру́жка маёй дачкі вельмі красівая.* Зароўе Леп. *Дру́жкай маёй ана была.* Амбросавічы Шум.

ДРУКІ *мн.* Прыстасаванне з сукаватых маладых ялінак для сушкі льну, гароху і інш. *Канюшыну падсушылі і склалі на дру́кі.* Лужкі Глыб. *Дру́кі ставяцца каля хаты, на іх рассцілаюць канюшыну, сушаць, да ночы забіраюць.* Каралёва Шарк. *Гарох, боб на дру́ках сушылі.* Германавічы Шарк., Залессе Глыб., Бораўна Леп.

ДРУЧА́ *ж.* Палка. *А дручы́ не баісся?* Баравуха Пол.

ДРУ́ЧКА *ж.* Прылада для часання льну ў выглядзе дошчачкі, у якую ўстаўлены зубы. *А даўней і гэта дру́чка пры*

*дзеле была.* Сарочына Уш. *Зубы ў дрўчцы маглі быць дзераўляныя і жалезныя.* Матырына Леп.

ДРЫВА́ *толькі мн.* Дровы. *Дрывá намоклі, і печку ні магу растапіць.* Крывіцкі Шум.

ДРЫВО́ *н., толькі адз., зб.* Дрэвы. *Дрывó па ўсёй вуліцы расце.* Славені Тал.

ДРЫВЯНІК, ДРЫВЯТНІК гл. ДРАВА́РКА

ДРЫГАТА́ *ж., толькі адз.* Дрыжыкі. *Змерзнеш – такая дрыгатá прабірае.* Лямніца Віц.

ДРЫГВЕ́НЬ *ж.* Балота; зыбкае месца. *Глядзі толька ў дрыгвéнь не зайдзі.* Кузняцова Віц. Параўн. *дрэб.*

ДРЫЗЫВА́ЦЬ *незак.* Буксаваць. *Не едзь ты сягоні, усю дарогу дрызывáць будзеш.* Пранікі Уш.

ДРЫЛЬ, ДРЫН *м.* Палка. *Хочаш, каб дрыль па спіне пахадзіў?* Сар'я В.-Дзв. *Перацягнула дрынам кабана, дак шаўковы стаў.* Лётцы Віц. *Як дам дрына, дак пятаму закажаш.* Валосава Тал.

ДРЫНДАЦЬ *незак., экспр.* Хадзіць без справы, лайдачыць. *Яго з работы выгналі, бо толькі дрындаць умеў.* Выдрэя Лёзн.

ДРЭБ *м.* Балота. *Недалёк ад майго гарода балота, панашаму – дрэб.* Задуброўе Віц. Параўн. *дрыгвéнь.*

ДРЭНЧЫЦЬ *незак.* Непакоіць; балець, свярбець. *Хворая нага па начах дрэнчыць.* Новыя Валосавічы Леп.

ДРЭ́ТАЎКА *ж., заал.* Кура. *Толькі пасняваю з пшаніцы дрэтавак ганяць.* Замхава Глыб.

ДРЭЎНЕЙ *прысл.* Раней, даўно. *Дрэўней млын у нас быў.* Мікалаева Шум.

ДУБА́К *м., экспр.* Холад, сцюжа. *Дубáк на вуліцы, ні магу трываць.* Валкалата Докш., Язна Міёр.

ДУБАЛЬТО́ЎКА *ж.* Суконная хустка ў клетку. *Дубальтóўка абычна бывае ў клетку.* Кашчына Чаш.

ДУБЕЧНІК, ДУБНЯ́К, ДУБЯНІК *м.* Венік з дубовага вецця. *Вазьмі дубéчнік, змяці вот сор з хаты.* Бешанковічы. *Пойдзеш у лазню, дык вазьмі дубняк: ім так добра парыцца.* Іванск Чаш. *Дубянікам па спіне так адхажу – слязамі ўмыешся.* Ілава Шум.

ДУБІЦА, ДУБНІЦА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з тоўстага дрэва, пераважна з дуба. *Не так проста выдалбаць дубіцу.* Латышы, Ураджайная Глыб., Перавознікі Паст. *Чыясьці дўбніца ў карчах схавана.* Замхава Глыб.

ДУ́БНІК *м., зб.* Дубовы лес, дуброва. *На Віцебшчыне рэдка ўстрэціш дўбнік, а вот на Палессі ёсць.* Боркавічы В.-Дзв. *У нас кóлісь столькі дўбніка было.* Барсукі В.-Дзв.

ДУБНІЦА гл. ДУБІЦА

ДУБНЯ́К гл. ДУБЕЧНІК

ДУБОВІК *м.* Дубовы сок. *Па вясне нада было б дубо́віку нагнаць.* Папкі Шарк.

ДУБЯК *м.* Дубовае палена. *Без матэрыялу нікуды. Хоць дубя́к дайце які.* Лётцы Віц.

ДУБЯНІК гл. ДУБЕЧНІК

ДУГІ *мн.* Насілы; жэрдкі без насцілу для пераноскі сена ў копах. *Косім на нізкіх месцах, потым на ду́гах сена выносім на ўзболатак.* Кавалі Глыб.

ДУГО́ЎКА *ж.* Кашуля з доўгімі рукавамі. *Гэта ж не сарочка, а дуго́ўка нейкая.* Шарагі Міёр.

ДУ́ЖНІК *м.* Галоўны корань дрэва. *Калі пры перасадцы ду́жнік зломіш, то дзерава хутка засохне.* Шалыгі Віц.

ДУЙКА *ж.* Замець, завея, завіруха. *На дварэ ду́йка моцная ўзнялася.* Нярэйша Сен. *Відаць, ду́йка хутка будзе.* Лескавічы Шум.

ДУ́КРА, ДУ́КРЯ *аг., асудж.* Неразумны, упарты чалавек. *Які ж ты ўсё-такі ду́кра.* Грынеўшчына Докш. *Ён такі ду́кря.* Гарадок.

ДУ́КСА *аг.* Чалавек высокага росту. *Якая ж ты ўрадзілася ду́кса!* Сялец Чаш.

ДУЛПІ́НКА *ж., бат.* Груша. *Трэба падабраць дулпі́нкі, унучка.* Бычыншчына Міёр.

ДУ́ЛЬКІ *мн.* Рэшткі валакна пры апрацоўцы льну. *Як на ільне работалі, дык дамой прыйдзеш увесь у ду́льках.* Барсукі В.-Дзв.

ДУНДЗЕЦЬ *незак.* Бубніць; гаварыць ціха, незразумела. *Перастань дундзе́ць, добрага ж нічога ні скажыш.* Дунілавічы Паст. *Дундзіць і дундзіць над вухам.* Русіны Паст. Параўн. *дэ́чыць.*

ДУНДУК *м., экспр.* Негаваркі, замкнуты чалавек. *Не чалавек, а нейкі дунду́к, слова людзям не скажа.* Дроздава Тал. *Твой дунду́к дадому пасунуўся.* Сянькова Шум.

ДУПЛЕ *н.* Дупло. *У ду́плях могуць дзікія пчолы быць.* Замачак Чаш.

ДУПЛЯНКА *ж.* Дрэва з дуплом. *Тут недзе дупля́нка стаіць, паглядзім у ду́пле пчол.* Лескавічы Шум.

ДУ́РАЦ *м., толькі адз., бат.* Дурнап'ян. *Схадзі дай карове травы, але глядзі, каб не папаўся ду́рац.* Прыпернае Глыб.

ДУРКАВА́ТЫ, ДУРУКАВА́ТЫ *прым.* Дурнаваты; які выражае разумовую абмежаванасць, тупасць. *У іхняй породзе ўсе былі дуркава́тыя.* Каверзы Гар. *Нейкі дурукава́ты хлопец, робіць абы-што.* Лямніца Віц.

ДУРМА́НІХА *ж., бат.* Чаромха. *Бацька сказаў, што нада дурма́ніху высякаць, бо цень дае ў хату.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУРМА́НКА *ж.* Гарэлка. *Усе беды праз гэту дурма́нку.* Абольцы Тал.

ДУРО́НЫ *прым.* Свавольны, гарэзлівы; спешчаны. *Я не думала, што ўнук будзе такі дуро́ны.* Боркавічы В.-Дзв. *Якей дуро́ны хлопец вырас.* Зароўе Леп., Рунды Міёр.

ДУРУКАВА́ТЫ гл. ДУРКАВА́ТЫ

ДУХА́РЫЦЦА *незак.* Душыцца; апырсквацца або націрацца духамі, адэкалонам. *Сядзіць перад зеркалам, духа́рыцца, а вечарам бяжыць у клуб.* Замхава, Мосар Глыб.

ДУХМЯ́ННІК *м., бат.* Бэз. *Духмя́ннік можа быць і фіялетавым, і белым.* Уна Лёзн.

ДУШМЕ́НЬ *ж., толькі адз.* Гарачыня, спякота. *У самую душме́нь жыта жалі.* Антонаўка Арш.

ДУ́ШЫ *мн., кулін.* Клёцкі, галушкі, зразы і інш. з мясной начынкай. *Ду́шы толькі на свята гатуем.* Крывасельцы В.-Дзв. *Ду́шы на Каляды гатоўлю ўсягды.* Каханавічы В.-Дзв.

ДЫ́МКА *ж.* Узор на палатне, тканым у чатыры ніты. *Я ўмела ткаць у ды́мку. Ручнікі ў ды́мку ў мяне і зараз ёсцека.* Матырына Леп. *Выткала скацірку ды́мкай.* Чарневічы Глыб. // Палатно, тканае ў чатыры ніты, і выраб з яго. *Уся хата бабулькі ўслана ды́мкамі.* Рудабісць Брасл. *А ды́мкі сабе мы рабілі самі.* Луначарскае В.-Дзв.

ДЫ́РДЫК *м., кулін.* Блін мучны. *Ды́рдыкі на вадзе не вельмі смачныя, але ж малака няма.* Агурні Глыб.

ДЫ́ХАЛАЎКА *ж., адз.* Дыханне. *Як пагнаўся за мной пятух, уцякала, аж ды́халаўку забіла.* Галбея Паст.

ДЫХТО́ЎНЫ *прым.* Трывалы, моцны. *Купіла ва ўнівермагу дыхто́ўны мацір'ял на спадніцу.* Макаравічы Докш.

ДЭНКА гл. ДНЕШКО

ДЭ́ЧЫЦЬ *незак., экспр.* Бубніць; гаварыць ціха, незразумела. *Што табе саседка цэлы час дэ́чыла?* Цімошкава Міёр. Параўн. *дундзе́ць.*

# Е

Е́ВІЛЬ *м.* Верхняя частка шчыта ў страсе. *Е́віль забі, лепей будзе.* Дзегцяры Брасл.

ЕГАЗІ́ЦЬ *незак.* Не сядзець на адным месцы, рухацца. *Чаго ты егазі́ш, як стараказа?* Янкавічы Рас.

Е́ГДЗІЦЬ, Е́ЖДЖАЦЬ *незак.* Ездзіць. *У нядзелю ўсе е́гдзілі на кірмаш.* Муляры Паст. *Яны часта е́жджаяць на базар.* Камаі

Паст. *Е́жджылі на цялегах цераз лес.* Друя Брасл. *У гэтым годзе будзем часта на базар е́жджаць.* Карасіна Брасл.

ЕДАЛА *н., толькі адз.* Страва, абед. *У лес нада абязацельна браць з сабой е́дала.* Чэрцы Леп.

Е́ДКА *безас.-прэдык. слова.* Вільготна і холадна. *Сягоння е́дка, надзівайся цяплей.* Стар Арш.

ЕДЛЕ́НЕЦ, ЕДЛЕ́НІЦ, ЕДЛЯНЕ́Ц, ЕЛЯНЕ́Ц *м.* Ядловец. *Едле́нец толька ў лесі расце.* Дэмскія Міёр., Боркавічы В.-Дзв. *Едле́ніц расце ў лесе.* Асвея В.-Дзв. *Едляне́ц – балотная расліна, якая зманьвае дзевак у лес.* Андронавічы Віц. *Нарвала елянца́ ўчора.* Лукомль Чаш.

ЕДРЫНА́ *ж., заал.* Божая кароўка. *Едрына́ звалілася на маю руку і сядзіць.* Баравуха Пол.

ЕЖА́ *ж., зб., бат.* Высокая трава з суквеццем мяцёлкай. *Ежа́ ўжо перарасла, нада касіць і выцягаваць сразу з балота.* Рускі Шум.

Е́ЖДЖАЦЬ гл. Е́ГДЗІЦЬ

Е́ЖКІ, Е́ШКІ, Е́ШЧЫ *прым.* 1. Непераборлівы ў ежы (часцей пра хатнюю жывёлу). *Е́жская карова – можа сена да вясны не хваціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Карова ў мяне ешкая і спакойная.* Шыбекі Арш. *Парасёнак у гэтым годзе дужа ешкі трапіўся: што ні дасі – усё з'есць.* Селішча Уш., Едлавічы Брасл., Выхадцы Лёзн., Лашукі Паст. *Сабака такі ешчы, што ні пакладзеш – усё з'есць.* Новы Пагост Міёр., Струста Брасл., Турлы Паст., Рускі Шум. 2. Прыдатны да ежы. *Выгляд у гэтай садавіны ешчы.* Рудня Пол.

Е́ЖЫВА *н., толькі адз.* Ежа; тое, што ядуць. *Ці ёсць у нас якое е́жыва ў хаце?* Чапукі Міёр.

ЕЗДАНІ́НА *ж.* Язда. *У маленстве бацька прывучаў мяне да езданíны на кані.* Чапукі Міёр.

ЕКАТА́ЦЬ *незак.* Гучна плакаць. *Ну, хопіць ужо табе еката́ць!* Якубова Рас.

Е́ЛАВІНА *ж.* Вялікая моцная елка. *У нас калі сустрэнецца е́лавіна, дык у тры ахопкі.* Вялікая Пярэспа Сен.

ЕЛАВЫ́ *прым.* Яловы. *За вёскай нашай – харошы елавы́ лес.* Хлусава Арш.

ЕЛА́ЖНІК *м., зб.* Яловы лес. *На ела́жніку многа лісічак.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЕЛО́ЗА *аг.* Гарэза. *Пасідзі лепш дома, ело́за ты мая!* Бігосава В.-Дзв.

Е́ЛЬНІЦ *м.* Лістоўніца. *Е́льніц расце ў Сібіры.* Забор'е Сен.

ЕЛЯНЕ́Ц гл. ЕДЛЕ́НЕЦ

ЕМЕНКА, ЕМІНКА, ЕМЯ *ж.* Бульба, адабраная для харчавання чалавека. *Бабуля век капае бульбу ў два кошыкі: у адзін – семенку, у другі – еменку.* Навасельцы Шарк., Пусташы Пол., Сарочына Уш. *Сёлета емінкі вялікі засек поўны насыпалі.* Сакольнікі Віц. *Дробнай бульбы сусім мала набралі, прыйдзецца емінкай свінню карміць.* Кулінава Уш., Баравуха Пол. *Емя ў нас сёлета вельмі смачная.* Галбея Глыб.

ЕНКАТ *м., толькі адз.* Енк, стогн. *Енкату нарабіла малая на ўсю хату.* Слабодка Чаш.

ЕНКАЦЬ *незак.* Енчыць, жаласліва стагнаць. *Чаго енкаеш? Што табе баліць?* Багушэўск Сен.

ЕНЧЫЦЦА *незак.* Мучыцца. *Усё жыццё са страўнікам енчуся.* Кулінава Уш.

ЕНЧЫЦЬКАЦЬ *незак.* Енчыць, назойліва, надакучліва прасіць аб чым-н. *Не енчыцькай, не прасі: усё роўна не дам цукерак да абеда.* Папшычы Глыб.

ЕРАЦІК *м.* Неразумны, дурнаваты чалавек. *А малец гэты – ерацік, нічога не ведае.* Едлавічы Брасл.

ЕРНІК *м., зб.* Хмызняк. *Праз ернік прадзіраліся, каб на дарогу выйсці.* Кулінава Уш.

ЕСЁНКА *ж.* Паліто на восень. *Сёння адзену есёнку ў клуб.* Мельніца Шарк.

ЕСЦІКІ, ЕСЦЬ, ЕСЬ *незак.* Есці. *Ідзіці, дзеткі, есцікі!* Чарневічы Глыб. *Хадзіце есць, ужо астыла ўсё.* Задзетуні Віц. *Што будзеш варыць сёння есць?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ці пойдзеш ты есь?* Ганкавічы Беш.

ЕСЯНОВЫ *прым.* Асінавы. *Стол у мяне ў хаце есяновы.* Ноўка Гар.

ЕТЫ, ЕТЫЙ *займ.* Гэты. *Еты дзед ужо гады са тры адзін.* Пераходцы Леп. *Цыбулю лупіць я люблю, етая работа мне падабаецца.* Угрынкі Уш., Зубава Арш., Ганкавічы Беш., Дзёрнавічы В.-Дзв., Сакольнікі Віц., Хацейка Гар., Пліса Глыб., Выхадцы Лёзн., Баравуха Пол., Валосава Тал., Іванск Чаш.

ЕТЫК *прысл.* Гэтак. *Етык ты яго правучыў! Не палезе болей.* Кугоні Уш.

ЕЎНЯ *ж.* Асець, памяшканне пры гумне для сушкі зерня, снапоў. *У еўні сушылі лён.* Выхадцы Лёзн.

ЕШКІ гл. ЕЖКІ

ЕШЧЫ гл. ЕЖКІ

# Ё

Ё, ЁСІТКА, ЁСЦЕКА, ЁСЦІ, ЁСЦІКА, ЁСЬ *цяп.* Ёсць. *У майго дзядулі ё многа сясцёр.* Шыбекі Арш., Заазер'е Тал. *Я не адна ў бацькоў, ё ў мяне і браты.* Кашчына Чаш. *У краме ёсітка смачныя цукеркі.* Замачак Чаш. *У яго ўсё ёсцека.* Струста Брасл. *У нас ёсці прыгожы кот.* Ніўнікі Міёр. *Тут ёсціка грыбы ў лесе.* Валосава Тал. *У мяне ёсь для цябе падарунак.* Грынеўшчына Докш. *Ці ёсь у вас свет?* Рускі Шум.

ЁДКІ *прым.* Пякучы. *Полымя такое ёдкае, што неяк стаяць блізка.* Іванск Чаш.

ЁКАЦЬ[1] *незак.* Гучна глытаць. *Нельга ёкаць, трэба ціха піць і есці.* Лашукі Паст.

ЁКАЦЬ[2] *незак.* Крычаць. *Хопіць ёкаць, бо галава ад вас баліць.* Фарынава Пол.

ЁЛАЧКА, ЁЛІЦА *ж., бат.* Хвошч. *Расла тут калісьці і ёлачка.* Латыгаль Сен. *Ёліца – палявая ёлачка, яе каровы ядуць.* Андронавічы Віц.

ЁЛКІ *прым.* Горкі. *Сала, калі паляжыць, становіцца ёлкае, старае.* Угрынкі Уш., Лазы Тал.

ЁМАЧНІК *м.* Чапяльнік, ручка ў чапяле. *Ёмачнік найці трэба.* Камень Леп.

ЁМКА[1] *безас.-прэдык. слова.* Холадна, марозна. *Як сёння ёмка, задубееў увесь.* Бугаі Сен.

ЁМКА[2] *ж.* Чапяла. *Адыдзі ад мяне, а то як перавяду зараз ёмкай па спіне.* Зубава Арш. *Дзеці гулялі ў хаванкі, некуды ёмку дзелі – не найду нідзе.* Кашчына Чаш., Ганкавічы Беш., Баравуха Пол., Багушэўск Сен, Рускі Шум.

ЁРЗАЦЦА *незак.* Катацца. *Мае ўнукі любяць ёрзацца на лісапедах па двары.* Велеўшчына Леп.

ЁРЗАЦЬ *незак.* Забаўляцца, сваволіць, дурэць. *Я іх пусціла ў сяннік, дык яны ёрзалі увесь дзень.* Выхадцы Лёзн.

ЁРШУН *м.* Ёрш. *Адну зіму добра клявалі ёршуны.* Голубаўшчына Брасл.

ЁСІТКА гл. Ё

ЁСЦЕКА гл. Ё

ЁСЦІ, ЁСЦІКА гл. Ё

ЁСЬ гл. Ё

ЁЎНЯ *ж.* 1. Халоднае памяшканне, у якім захоўваюцца гаспадарчыя прылады. *Жанчыны выносілі з ёўні сярпы – збіраліся жаць.* Гаршчэўшчына Тал. 2. Пабудова для захоўвання сена.

*Сёлета ёўня поўная сена.* Выгада Сен. 3. Лазня. *Вытапіў ёўню, цяпер нада халоднай вады нанасіць.* Бачэйкава Беш., Лазы Тал., Арляны Сен.

ЁХАЦЦА *незак.* Перыядычна прагінаць цела, выгінацца. *Ці ж гэта танцы? Ёхаліся ўвесь вечар, глядзець стыдна.* Пліса Глыб.

# Ж

ЖАБНЮ́К *м., экспр., лаянк.* Дуронік, гарэза (у звароце да падлетка). *От жабню́к які! Я табе пакажу, як здзекавацца над людзьмі.* Папшычы Глыб.

ЖАБРА́К *м.* Злодзей. *Гэты жабра́к нарабіў нам шкоды!* Круткі Паст.

ЖАБУРКІ́, ЖАБУРЫ́ *толькі мн.* Сухія цуркі, трэскі. *Кінь жабуркі́ ў печ.* Андронавічы Віц. *Жабуры́ ляжаць каля печкі.* Укля Брасл.

ЖАБУРЫ́ННЕ *н., толькі адз., зб.* Жабіна ікра. *Вясной дажы ў нашай сажалцы ўвесь беражок у жабуры́нні.* Парадні Міёр.

ЖАГІ́НЫ *толькі мн.* Прыстасаванне для сушкі сена. *Ускінуў сена на жагі́ны.* Канашы Гар. Параўн. *жэ́гілі, жэ́гіны.*

ЖА́ГЛЯ́ЎКА *ж., заал.* Мурашка. *Жа́гляўка ў рукаў улезла.* Камень Леп. *Толькі ў лес прышоў, адразу жагля́ўкі абступілі.* Бешанковічы.

ЖАДЗЮ́ГА *аг., экспр., неадабр.* Скнара; скупы чалавек. *Ой! Ён такі жадзю́га, што і не падхадзі.* Сураж Віц. Параўн. *жлоб, жмо́йда, жыд*[1].

ЖА́ДЛА *н.* Джала. *Жа́длам усякла пчала.* Абруб Глыб. Параўн. *жы́гала.*

ЖАДЛІ́ВЫ *прым.* Прагны, скупы. *Жадлі́вы пайшоў народ.* Ксты Пол., Матырына Уш.

ЖАДУ́НКІ *толькі мн.* 1. Жаданні. *Ну і жаду́нкі ў цябе.* Палата Пол. 2. Капрызы. *Маці сказала, што больш не будзе патыкаць тваім жаду́нкам.* Мікалаёва Міёр.

ЖА́ЛА *н.* Адцягнутае ў час кляпання вастрыё касы. *Сынка мой памёр: на жа́ла брата напароўся.* Гунчанкі Віц.

ЖА́ЛАЎЛІВЫ, ЖА́ЛЛІВЫ *прым.* Жаласлівы. *Маліц дужа жа́лаўлівы.* Сар'я В.-Дзв. *Унучак гэдак любіць катоў, сабак ды ўсю скаціну. Дужа жа́ллівы хлопец.* Мікалаёва Міёр.

ЖАЛЕ́ЗКА *ж.* Нож. *Бацька сядзе ды начышчае жале́зкі.* Амбросавічы Шум.

ЖАЛЕ́ЗЫ *толькі мн.* Металічная пастка. *Пападзецца пацук у жале́зы – папалам перабіваіць.* Шклянцы Докш.

ЖАЛЁБАК *м.* Жарабя. *Па полю бегаў жалёбак.* Езярышча Гар.

ЖАЛКАВА́ЦЦА *незак.* Жаліцца, наракаць, скардзіцца на каго-н. *Няма мне на каго жалкава́цца.* Дварэц Чаш.

ЖА́ЛЛІВЫ гл. ЖА́ЛАЎЛІВЫ

ЖАЛЕЗНАДАРО́ЖНІЦКІ *прым.* Чыгуначны. *У нас дужа красівы жалезнадаро́жніцкі вакзал.* Кавалі Лёзн.

ЖАЛКАВА́ЦЬ *незак.* Шкадаваць. *Не жалку́й! Купіш ты сабе яшчэ карову.* Белькі Паст.

ЖАЛО́БІНЫ *толькі мн.* Памінкі. *А дзе жало́біны будуць рабіць?* Лужкі Шарк.

ЖАЛУБНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Крыху з'есці, глынуць. *Троху жалубну́ – і пайду.* Гута Паст.

ЖА́ЛЬНЯ, ЖА́ЧКА *ж.* Жняя. *На полі самая красівая жа́льня.* Порплішча Докш. *Жа́чкі жалі жыта.* Псуя Глыб.

ЖАЛЯ́ЗКА *н.* Прас, які награваюць на агні. *Толькі сукенку жаля́зкам не спалі.* Матырына Уш.

ЖАЛЯЗНЯ́К *м.* Рыдлёўка. *Капаў яму жалезняко́м.* Падрэзы Чаш.

ЖАМАНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Моцна ўдарыць. *Ён жаману́ў з усяго маху.* Гута Паст.

ЖА́МКА *ж., кулін.* Пернік. *Дзеці набралі поўныя карманы жа́мак і пайшлі гуляць.* Адаменкі Лёзн.

ЖАНА́ЦІК *м.* Жанаты мужчына. *Не глядзі так на яго, ён жана́цік і ў яго двое дзяцей.* Серкавіцы Тал.

ЖАР *м.*, ЖАРЭ́НЬ *ж.* Гарачыня, спёка. *Многа пылу ў летні жар. Калі на дварку жарэ́нь, то не хочацца з хаты вылазіць.* Салавічы Віц.

ЖА́РВАНАК *м.* Жаваранак. *Як красіва пеў жа́рванак.* Боркавічы В.-Дзв.

ЖАРДАГО́Н *м., груб.* Высокі худы чалавек. *Во жардаго́н вырас!* Ноўка Гар. Параўн. *жардзя́й.*

ЖАРДЗЯ́Й *м., экспр., іран.* Вельмі высокі хлопец. *Гэты жардзя́й расце не па днях, а па часах.* Замхава Глыб. Параўн. *жардаго́н.*

ЖАРДЗЯ́НІК *м.* Загон; агароджанае жардзінамі месца для жывёлы. *Хваціць, можа, ужо жыўнасць у жардзя́ніку дзіржаць.* Гараўцы Міёр.

ЖАРЁНКА, ЖАРО́НКА, ЖАРО́ХА *ж., кулін.* Што-небудзь смажанае (звычайна грыбы). *На вячэру – скаварада жарёнкі з бульбай.* Задоры Леп. *А тыя грыбы на жаро́нку пойдуць.* Кублічы Уш. *Цяпер бы жаро́нкі паесці, дык у лесі грыбы ні ўрадзілі.* Тупічына Шарк. *У мае гады есці жароху ўжо ня нада.* Язна Міёр.

ЖА́РІНКА *ж.* Гарачае вуголле. *Баба, у брата свет гаріць, пайду я жа́рінку прынясу раздуць.* Загуззе Гар.

ЖАРЛО́ *н.* Адтуліна ў ствале дрэва. *На паляне дуб з жарло́м, там стукаў дзяцел.* Серкавіцы Тал.

ЖАРО́НДЫІ *толькі мн.* Люстра. *Вельмі ж прыгожыі бачыла жаро́ндыі.* Мількі Брасл.

ЖАРО́НКА гл. ЖАРЁНКА

ЖАРО́ХА гл. ЖАРЁНКА

ЖА́РСЦВЯ́К *м., зб.* Дробныя каменьчыкі. *Вот і занятак нашоў добры: насабіраў жарсцвяку́ і складваіць домікі, на абед ні дазваца.* Тупічына Шарк.

ЖАРТУ́Н *м.* Жартаўнік. *Такі ўжо жарту́н быў мой хазяін.* Замачак Чаш., Шыці Шарк.

ЖАРЧЭ́ЙШЫ *прым., выш.* Больш гарачы. *Гэтае лета жарчэ́йшае за тое.* Кавалі Лёзн.

ЖАРЭ́НЬ гл. ЖАР

ЖАЎКЛЯ́ВЫ *прым.* Жоўты. *Жаўкля́вую хустку я нашу.* Нярэйша Сен.

ЖАЎКЛЯ́К, ЖАЎТЛЮ́К, ЖАЎТЛЯ́К, ЖАЎЦЯ́К *м., бат.* Агурок, пакінуты на насенне. *Схадзі збяры жаўклякі́, пакладзі на акно, хай спеюць.* Косарава Глыб. *Гуркі я сажу толькі з сваіх сямянак, што павысушу з жаўтлюкоў.* Гацькаўшчына Арш. *На гародзе многа жаўтлякоў.* Іскозы Дубр. *Жаўцякі́ я свінням аддаю, ядуць так добра.* Запруддзе Глыб.

ЖАЎЛА́К *м.* Парэз на скуры. *Жаўла́к твой не баліць?* Старое Лядна Леп.

ЖАЎНЕ́ЦЬ *незак.* Бубніць. *Ета дзеўка была дужа паганая, усё жаўне́ла сабе пад нос.* Яроненкі Гар.

ЖАЎТЛЮ́К, ЖАЎТЛЯ́К гл. ЖАЎКЛЯ́К

ЖАЎЦЕ́НЬКІЯ *прым. у знач. наз., мн., заал.* Кураняткі. *Рабілі такі загародак, каб малыя жаўце́нькія ні пазбігаліся.* Мясаедава Шум.

ЖАЎЦІ́НКА *ж.* Гнілое месца, пляма на яблыку. *Бабуля адразу адкідала яблыкі з жаўці́нкай збоку.* Мілашкі Брасл.

ЖАЎЦЯ́К[1] *м.* Жоўты пясок. *У нас жаўцяку́ мала, усё больш гліна.* Слабада Дубр.

ЖАЎЦЯ́К[2] гл. ЖАЎКЛЯ́К

ЖАХНУ́ЦЦА *зак.* Страціць розум. *Ад перажыванняў яна чуць ні жахну́лася.* Язна Міёр.

ЖА́ЦЬ *незак.* Есці (пра жывёл). *Карова зашла ў гарод, гляджу, а яна буракі жне́ць, жне́ць, я чуць выгнала яе.* Казімірова Пол.

ЖА́ЧКА гл. ЖА́ЛЬНЯ

ЖБАН, *памянш.* ЖБАНО́К *м.* Збан. *Цяпер ужо і не ўбачыш гліняных жбано́ў.* Мількі Брасл. *Малако было наліта ў жба́н.* Гарадок, Булаўкі Пол. *У жбанке́ стаіць смятана.* Ёды Шарк., Смародзіна Лёзн., Кісялёва Тал., Вадзянікі Гар.

ЖВА́КА *ж.* Жвачка. *Сёння карова паўдня жва́ку жвала.* Папшулі Міёр.

ЖВАКАВА́ЦЬ *незак.* Жаваць. *Хопіць жвакава́ць.* Нямойта Сен. Параўн. *жма́каць.*

ЖВІРО́ЎНЯ *ж.* Вялікі пясчаны ўзгорак, дзе бралі жвір. *Там, на жвіро́ўні, яшчэ мой бацька жыў.* Спігальшчына Міёр., Галбея Паст.

ЖВЯ́ГАЦЬ *незак., экспр., неадабр.* Надакучліва балбатаць. *Не можа прайціць спакойна, вечна зачэпіць і будзе жвя́гаць.* Дварэц Чаш.

ЖГУ́ЧКА, ЖЫ́ГАНКА, ЖЫ́ГАЎКА, ЖЫГУ́ЧКА *ж., бат.* Крапіва. *Адна жгу́чка расце каля забору.* Кудзіны Гар., Угрынкі Уш., Зачысцікі, Папкі Шарк. *Сяргей, ідзі сярпом хоць жы́ганку зрэж.* Цімошкава Міёр. *Усе рукі апякла гэтай жы́гаўкай.* Туркова Міёр. *І нашто я туды палезла, нічога не знайшла, а рукі ды ногі жыгу́чкай апякла.* Суднікі Арш.

ЖДАЦЬ *незак.* Чакаць. *Жджы́, мой сынку, каляд, у горад паедзіш.* Пышна Леп.

ЖЛОБ *м., асудж.* Скнара; скупы чалавек. *Што ў яго ні прасі, ні дапросішся, бо ён жлоб.* Порплішча Докш. Параўн. *жадзю́га, жмо́йда, жыд*[1].

ЖЛУ́КТА *ж.* Бочка, кадушка з дзіркай у дне для запарвання бялізны. *Бяллё клалі ў жлу́кту, засцілалі тряпкай, засыпалі залой і залівалі кіпятком. Так адбелівалі.* Зароўе Леп. // Пасудзіна, у якой параць бялізну. *Прынясі жлу́кту з вадой.* Старое Лядна Леп.

ЖМА́КАЦЬ *незак., перан.* Жаваць. *З'есці не з'ем, жма́каю, абы троху пажма́каць.* Вісяты Міёр., Гута Паст. Параўн. *жвакава́ць.*

ЖМАХА́, ЖМУХА́ *ж.*, ЖМЫ́Х *м., зб.* 1. Жамерыны, адходы пасля выціскання алею з льнянога семя. *Раньш масла дзелалі самі, а жмаху́ аддавалі патом карове ў пойла.* Дразды Беш., Шаркаўшчына. *Жмуха́ пасля таго, як алей выціснуць.* Машканы

Сен., Лескавічы Шум. *Шмат жмы́ху засталося.* Тумінічы Арш., Мікалаёва Міёр. 2. Астаткі ад прасеянай мукі. *Жмых мы даём свінням.* Загарадна Лёзн.

ЖМО́ЙДА, ЖМО́НДА, ЖМЫ́НДА *аг.*, ЖМОТ *м.*, *асудж.* Скнара, скупы чалавек. *У такога жмо́йды снегу зімой пад вакном не возьмеш.* Мосар Глыб. *Чалавек цёткі аказаўся проста жмо́ндай.* Савуткі Шарк. *Гэта жмы́нда ніколі нічога ні дась.* Ваўчо Уш., Серкавіцы Тал. *У гэтага дзеда лепш не прасіць, ён жмот.* Бачэйкава Беш., Серкавіцы Тал. Параўн. *жадзю́га, жлоб, жыд*[1].

ЖМОТ гл. ЖМО́ЙДА

ЖМУ́ЛІЦЬ, ЖМУ́РЫЦЬ *незак., экспр.* Есці з вялікім апетытам. *Ці наясіся ты? Усё жму́ліць і жму́ліць.* Паліцы Беш. *А ўнукі непераборлівыя, усё жму́раць.* Обаль Гар.

ЖМУХА́ гл. ЖМАХА́

ЖМЫ́НДА гл. ЖМО́ЙДА

ЖМЫ́НДАЦЬ *зак., неадабр.* Гаварыць недарэчнае; пустасловіць. *Будзіць жмы́ндаць і жмы́ндаць абы-што і абы пра каго, што трэба і што не.* Лазы Тал.

ЖМЫ́Х гл. ЖМАХА́

ЖМЫ́ХАЦЬ *незак.* Мыць. *Маці жмы́хала маю адзежу.* Езярышча Гар.

ЖМЯНЯ́ *ж.* Жменя. *Жмяню́ арэхаў дала.* Буднікі Беш.

ЖНЕ́ЎНІК *м.* Іржышча. *Кошка ўчора на жне́ўніку акацілася.* Арлея Пол.

ЖО́НІХ *м.* Нежанаты хлопец. *Ён пекны жо́ніх.* Васіліны Паст.

ЖОНО́ЧЫНА *ж.* Жанчына. *Тут адна жоно́чына блізка жыве.* Серкавіцы Тал.

ЖОР *м.* 1. *экспр., неадабр.* Яда без меры. *На хлапца найшоў жор.* Новае Сяло Тал. 2. Клёў рыбы. *Сёння быў добры жор.* Зубакі Віц.

ЖО́РАЎ *м.* Журавель, прыстасаванне пры калодзежы для даставання вады. *На маім дварэ калодзеж з жо́равам.* Стар Лёзн.

ЖО́РДКА, *памянш.* ЖО́РДАЧКА *ж.* Курасаднік, седала; перакладзіна ў куратніку, на якую куры садзяцца на ноч. *Як сцямнела, так мае куры палезлі на жо́рдкі.* Валынцы В.-Дзв. *Увечары на жо́рдачцы ні было ніводнай курыцы.* Ліпаўкі, Сценка Докш.

ЖО́РЦІ *незак., экспр.* Есці прагна. *Многа свінні жо́руць.* Груздава Паст. Параўн. *жо́ўкаць.*

ЖО́СТРЫ *прым.* Спрытны. *Во жо́стры хлопец.* Мількі Брасл.

ЖО́ЎКАЦЬ *незак.* Есці прагна. *Жо́ўкае сабе і не думае нічога.* Гута Паст., Тупічына Шарк. Параўн. *жо́рці.*

ЖОЎНА́ *ж., перан.* Назола. *Ды што твой лезе ў вочы, жоўна́ нейкая?* Папоўка Сен.

ЖУДЗЕ́ЦЬ *незак.* Дакараць, павучаць, лаяць. *Дзед жудзі́ць і жудзі́ць – не магу перажываць.* Варапаева Паст.

ЖУДЛІ́ВЫ *прым.* Надакучлівы, буркліва. *Жудлі́вы ён такі, грызлівы.* Варапаева Паст.

ЖУЖА́К *м., заал.* Авадзень. *Жужакі́ заелі жывёлу на пасце.* Обаль Шум.

ЖУ́ЖМА *ж.* Вязанка чаго-н. *Жу́жма лазы.* Магуны Паст.

ЖУ́ЙКА[1] *ж.* Гумка для жавання, жвачка. *Унук прыязджае ка мне з жу́йкай і цэлы дзень жуе́ яе.* Вераб'і Пол.

ЖУ́ЙКА[2] *аг.* Чалавек, які ўвесь час нешта жуе. *Які ты жу́йка. Нільзя так.* Задуброўе Віц.

ЖУ́ЛІК *м., кулін.* Дранік з мясам. *Мы дужа любілі жу́лікі, алі рэдка елі, бульбы ні было.* Шаркоўка Леп.

ЖУНДАВА́ЦЬ *незак.* Камандаваць. *Ён усягды любіў мной жундава́ць.* Ліпаўкі Докш., Сахнавічы Глыб.

ЖУ́ПІЦЬ *незак.* Гаварыць, размаўляць. *Увесь вечар з суседкай жу́піла пра кіно.* Мількі Брасл.

ЖУРЖА́ЦЬ *незак.* Журчаць, цурчаць. *Добра на гародзе: там сонейка свеціць і рэчка журжы́ць.* Бігосава В.-Дзв.

ЖУ́РКА, ЖУРЫ́ХА *ж., кулін.* Жур, аўсяны кісель; рэдкая страва з мукой. *Жу́рку робіла з аўсяных хлоп'яў. Муку малолі і жу́рку варылі.* Езярышча Гар. *Журы́ха скора зварыцца.* Сяляўшчына Рас.

ЖУРУ́ФКА *ж.* Лямпачка. *Журу́фка перагарэла.* Вярэнькі Паст.

ЖУРЫ́ХА гл. ЖУ́РКА

ЖЫВАСІ́Л *м., бат.* Дзівасіл. *У цёткі быў яшчэ прыпасен жываcі́л.* Вялікае Сяло Сен.

ЖЫВАЦЕ́ЦЬ *незак.* Хварэць на панос. *Цяжка яму, жывацее́ ён.* Празарокі Глыб.

ЖЫВЕ́Ц *м.* Нявылежаны лён. *На полі ляжыць жыве́ц.* Алашаўшчына Паст.

ЖЫ́ВІНА, ЖЫЎЁЛА *ж., толькі адз., зб.* Жывёла. *Жы́віну ў поле ганялі мы самі.* Вішня Шум. *Раньшэ ў мяне ўсякай жыві́ны было, гэта цяперака толькі куры засталіся.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Жыўё́ла прышла з поля.* Зубава Арш.

ЖЫВІ́ЦА *ж.* Суконная нітка. *Бяры жывіцу і зашывай.* Сардыкі В.-Дзв.

ЖЫВУ́ШЧЫ *прым.* Жывучы. *Усякія гадзюкі жыву́шчыя.* Пушкі Лёзн.

ЖЫ́ГАЛА *н.* Джала. *Укусіла пчала, дык чуць жы́гала выцягнуў.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *жа́дла.*

ЖЫ́ГАЛАЎКА *ж., экспр.* Непаседа, вяртлявая, рухавая (пра дзяўчынку). *Не ўнучка, а жы́галаўка нейкая, туды – нік, сюды – нік.* Лужкі Глыб.

ЖЫ́ГАНКА, ЖЫ́ГАЎКА, ЖЫГУ́ЧКА гл. ЖГУЧКА

ЖЫ́ГАЦЬ *незак.* Бегаць, мітусіцца (звычайна пра дзяцей). *Што ты жы́гаеш, не сядзіцца табе?* Палата Пол.

ЖЫД[1] *м., неадабр.* Скупы чалавек. *Не, той жыд табе ні грама не дасць.* Папшулі Міёр. Параўн. *жадзю́га, жлоб, жмо́йда.*

ЖЫД[2] *м., часцей мн.* ЖЫДЫ́. Грузд. *Грыбоў у лесе многа, а жыдо́ў – хоць касой касі.* Ураджайная Глыб. *Дужа жыдо́ў дзед насабіраўшы.* Шаркаўшчына.

ЖЫДЗЕ́ЛЬ *м.,* ЖЫДЗЁНКА *ж., кулін.* Юшка ў супе; булён. *Падліць табе жыдзя́ля ў міску?* Чарнаручча Лёзн. *Пайдзі пахлябай жыдзёнкі.* Бігосава В.-Дзв.

ЖЫ́ЖА *ж., толькі адз.* Агульная назва агню ў печы. *Дровы ў печцы былі такія сухія, што жы́жа паднялася да коміна.* Тумінічы Арш. *Ніяк не маглі развесці жы́жы, што ні рабілі.* Бораўна Леп.

ЖЫ́ЖАЛЬ *м.* Маланка. *Во жы́жаль сёння ноччу лупіў! Светка-светка было.* Спігальшчына Міёр.

ЖЫ́ЗНЯ́, ЖЫСЬ *ж.* Жыццё. *Жы́зня мая была трудная.* Ураджайная Глыб. *Жызня́ ў яго была нядоўгай.* Обаль Шум. *Усю жысь цяжка рабіла.* Зубава Арш., Іванск Чаш.

ЖЫ́ЛАЧ *м., заал.* Верабей. *Калі жы́лач б'ецца ў вакно – жджы бяды.* Гута Паст.

ЖЫЛЯПУ́ХА *ж., часцей* ЖЫЛЯПУ́ХІ *мн.* Непаспелыя ягады. *Жыляпу́х у гародзі поўна.* Мазалава Віц.

ЖЫЛЯ́ЦЦА *незак.* Натужвацца, пнуцца з усіх сіл, робячы што-н. *Вы ж учацвярых цягайце, удзвюх не жыля́йцеся.* Сценка Докш.

ЖЫМА́НКІ *толькі мн.,* ЖЫМА́ННЕ *н., толькі адз.* Жамерыны ад ягад. *Жыма́нкі мы свінням выкідаем.* Загарадна Лёзн. *Жыма́нне выкінуць нада.* Зубакі Віц.

ЖЫ́НЕЦ *м.* Джынсы. *Светка купіла такі красівы жы́нец.* Доўжа Віц.

ЖЫРАЛО́, ЖЭРАЛО́ *н.* Адтуліна, лаз у пограбе. *Жырало́ было плоха закрыта, і картошка трохі падмёрзла.* Лісуны Арш. *У маім пограбе вялікае жэрало́.* Абольцы Тал.

ЖЫ́РГАЦЬ *незак.* Пераступаць, пераскокваць. *Толькі праз мяне ня жыргай.* Белішкі Паст. *Дзеці жыргаюць праз лужу.* Вярэнькі Паст.

ЖЫ́РІКІ *толькі мн.* Клопаты, турботы. *Нейкія жырікі ў табе завяліся, не даюць спакою.* Дварэц Чашн.

ЖЫРІ́ЦЦА *незак.* Жыраваць. *Рыба жыріцца ідзець на мель.* Валынцы В.-Дзв.

ЖЫРЛІ́ВЫ *прым.* Пражэрлівы. *Быў у мяне кабанчык, такі жырлівы, што нічым укарміць не магла.* Петрунова Глыб.

ЖЫСЬ гл. ЖЫ́ЗНЯ́

ЖЫ́ТКІ *толькі мн.* Пойла для кароў. *Баба налівала жыткі, а карова лезла пад руку.* Багданова Брасл.

ЖЫ́ТНІК *м., часцей мн.* Грыб, які расце ў час каласавання жыта. *Жытнікі растуць у канцэ іюня – начале аўгуста.* Ског Сен.

ЖЫ́ТНІЧАК *м., ласк.* Дзіця, якое нарадзілася ў час жніва. *Сёлета ў нас аж сем жытнічкаў.* Езярышча Гар.

ЖЫТНЯ́НКА ж. Жытняя салома. *Жытнянку даюць карове, перамешваючы з сенам.* Асінаўка Сен.

ЖЫТО́ЎНІК *м., зб.* Жыта. *Бацька гаварыў: паміраць сабірайся, а жытоўнік садзі.* Замошша Брасл.

ЖЫЎЁЛА гл. ЖЫ́ВІНА

ЖЫ́ЎЖЫК *м., экспр.* Жэўжык, гарэза. *Гэты малы жыўжык каго хочаш заганяіць.* Слабодка Леп.

ЖЫ́ЎНАСЦЬ *ж., толькі адз., зб.* Жывыя істоты, часта дробныя. *Ты знаеш, сколькі ў нашым лесе жыўнасці водзіцца?! Толькі бяры ружжо і страляй!* Дольдзева Сен.

ЖЫ́ХАР *м., іран.* Жыхар, насельнік (звычайна пра старога, кволага чалавека). *Гэткі з яго жыхар!* Слабада Докш.

ЖЭ́БРЫ, *памянш.-ласк.* ЖЭ́БАРКІ, ЖЭ́БРУШКІ *мн.* 1. Рэбры, дугападобныя вузкія косці. *Зваліўся ды жэбры сабе паламаў.* Трашчанішкі Паст. *Дужа смашна жэбаркі падкапціць.* Кузняцова Віц. *Сёння на снеданне жэбрушак патушыла.* Паташня Міёр. 2. Часткі каркаса якога-н. прадмета. *Жэбры – рэбры ў кошыку.* Андроны Паст.

ЖЭВІ́НА *ж., бат.* Ажына. *Жэвіна – гэта тое, што маліна, толькі чорная.* Бігосава В.-Дзв.

ЖЭ́ГІЛІ *толькі мн.* Азярод. *Сена склалі ў жэгілі.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *жагіны, жэгіны.*

ЖЭ́ГІНЫ *толькі мн.* Жэрдкі ў ёўні, на якія ставілі снапы. *Паглядзі анучы – недзе на жэгінах.* Грыбоўшчына Шарк. Параўн. *жагіны, жэгілі.*

ЖЭЗЛ *м.* Шост, якім ганялі плыты (лавы). *І гэтыя лавы ганялі па раке жэзламі.* Шаркоўка Леп.

ЖЭ́МАЧ *ж., зб.* Дробная рыба. *Налавілі аднэй жэ́мачы.* Азёркі Гар.

ЖЭРАЛО́ гл. ЖЫРАЛО́

ЖЭШ *часц.* Ж. *Хадзіла жэш у лес, хоць і не набрала нічога.* Бігосава В.-Дзв.

ЖЭ́ШКІ *прым.* Гарачы. *У мяне сёння такая жэ́шкая печка.* Абольцы Тал.

# З

ЗАБАРСА́ЦЬ *зак.* Зашнураваць. *Забарса́й ты яму бацінакчкі.* Заслонаўка Арш.

ЗАБАШЫ́ЦЦА *зак.* Забавіцца. *Пайшоў да суседзяў і забашы́ўся, сцямнела ўжо, а яго няма.* Труды Пол. *Пайшоў да брата і забашы́ўся.* Сакольнікі Віц.

ЗАБІ́ДЖЫВАЦЬ, ЗАБІЖА́ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Ніхто цябе не думаў забі́джываць, ты сам прыдумваеш нізвесна што.* Выхадцы Лёзн. *Маленькія парсючкі забіжа́юць свіначак, не даюць ім есці.* Забор'е Рас.

ЗАБІРА́НЫ *мн.* Посцілкі ў рознакаляровыя ўзоры. *Раней жа нічога не прадавалася. Дык мы забіра́наў наробім і ўсё пазасцілаем.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАБЛЕ́ДЫШ *м.* Хваравіты чалавек. *Сусед мой нешта зусім забле́дыш, хварэе.* Макаравічы Докш.

ЗАБЕ́ЖНЯ *ж.* Хутар. *Раней мы ў забе́жні жылі.* Гарадок.

ЗАБО́РАНА *ж.* Бераг ракі, парослы асакой. *Я на забо́ране рыбу лавіў.* Дразды Беш.

ЗАБО́РА, *часцей* ЗАБО́РЫ *мн.* Складка на тканіне, паперы. *Папраў забо́ры на кофце, як ты ходзіш!* Янкі Докш. // *перан.* Няроўнасць, хвалісты згіб на шляпцы грыба. *Смаржкі не люблю – забо́раў многа, нікуды не гадзіцца.* Дразды Беш.

ЗАБОРЦЫ *мн.* Манжэты. *Шылі сарочкі з забо́рцамі, іх вышывалі.* Ухлё Чаш.

ЗАБРАТА́ЦЬ *зак.* Надзець аброць (на каня). *Забрата́ла я каня, верхам уссела і еду.* Надазер'е Глыб.

ЗАБРО́ДАК *м.* Браднік. *Ноччы забро́дкам налавілі многа шчупакоў.* Дунілавічы Паст.

ЗАБРУХАЦЕ́ЦЬ *зак., экспр.* Распаўнець. *Раз'еўся, забрухацеў, як конь.* Баброва Леп.

ЗАБУРЫ́ЦЦА *зак.* Захварэць. *Забуры́цца пасля дажджу і холаду не хітра.* Мокавічы Чаш.

ЗАБУРЭ́ЦЬ *зак.* Стаць невыносным, непаслухмяным. *Нешта ты саўсем забурэ́ла, чаго школу пачала прапускаць?* Бачэйкава Беш. *Ты, як бачу, забурэ́ў, ніхто цябе не можа ўтаймаваць.* Галякова Пол. *Пасля таго, як развалілася сям'я, ён саўсім забурэ́ў: стаў прапускаць урокі і нікога болі не слухаў.* Сарокі Глыб.

ЗАБЯРЭСЦІЦЬ *зак., пчал.* Закрыць запоўненыя мёдам соты. *Пчолы мёд чысты забярэ́сцяць.* Кушняроўка Чаш.

ЗАВАДА́ЕЦ *м.* Верхавод, зачыншчык; той, хто арганізоўвае што-н. *Ён у нас быў завада́йцам на вёске.* Старынскі Глыб.

ЗАВАЛАЧЫ́ЦЬ *зак.* Забаранаваць. *Завалачы́ў соткі да свята.* Бачэйкава Беш., Пліса Глыб.

ЗАВАЛЕ́НЬ *аг., асудж.* Гультай(ка). *Суседаў сынок дык завале́нь завальнём.* Макаравічы Докш. *Дачка ў яе такая завале́нь, любіць спаць і есці смачна.* Лукашова Паст. Параўн. *зуй.*

ЗАВА́ЛІНА *ж.* Прызба. *Вось садзісь побач на зава́ліну і спрашывай, што хацела.* Гарэлькі Дубр. *Добра ўсесціся на зава́ліну.* Чашнікі.

ЗАВАЛІ́ЦЬ *зак.* Зарэзаць, закалоць. *Учора была пагалоўшчына ў сваццi: кажуць, добрага парсюка завалíла.* Арэхаўна Уш.

ЗАВАЛО́ЖЫЦЬ *зак.* Прыправіць. *Бульбу на вячэру трэба смятанай завало́жыць.* Труды Пол. Параўн. *задо́брыць, засма́чыць.*

ЗАВА́Р *м.* Чай. *Зава́р папілі, нагаварыліся і спаць леглі.* Празарокі Глыб.

ЗАВЕРБАВА́ЦЦА *зак.* Разгубіцца. *Гэта ж нада так завербава́цца, каб слова ніводнага не ўспомніць!* Каўровая Дубр.

ЗАВЕ́СКА *ж.* Фіранка. *Нада ўжо мяняць заве́скі.* Вялікае Сяло Сен.

ЗАВЁРТКА[1] *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Добрую завёртку купіла сабе.* Пустаселле Докш.

ЗАВЁРТКА[2] *ж.* Завостраная драўляная палачка даўжынёй каля 50 см. для закручвання вяроўкі, змацавання хамутоў і г.д. *Броўны раўняеш, вяроўкай звязваеш і завёрткай закручваеш.* Кушняроўка Чаш.

ЗАВІВА́НІК *м., часцей* ЗАВІВА́НІКІ *мн., кулін.* Блін з начыннем. *Напякла гору завіва́нікаў.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *загіба́нец, закручо́нік.*

ЗА́ВІДКІ *толькі мн.* Час перад змяркаццем, калі яшчэ на дварэ відна. *Ідзіце вы, пакуль яшчэ за́відкі.* Чарневічы Глыб.

ЗАВІ́ДЛІВАСЦЬ *ж.,* ЗАВІ́ДКІ *толькі мн.* Зайздрасць. *У цябе завідлівасці вельмі многа.* Смаляны Арш. *А во ўжо чалавек, што ні ўбачыць – завідкі бяруць.* Дварэц Чаш.

ЗАВІ́ДНІК *м.* Зайздроснік. *Усё жыццё ён завіднікам быў.* Зябліны Шарк.

ЗАВІ́ДНЫ *прым.* Прыгожы. *Завідны маліц удаўся, усе дзеўкі па ім сохнуць.* Прыпернае Глыб.

ЗАВІ́СНЫ *прым.* Зайздросны, схільны да зайздрасці. *Вельмі завісны быў чалавек.* Мядзведзева В.-Дзв.

ЗАВІ́ЦЬ *зак.* Забалець. *Ох, як у мяне сэрца завіло́!* Лазукі Чаш.

ЗАВО́РАНЫ, ЗАВО́РЫНЫ *толькі мн.* Пачатак ворыва. *Скора ў нас заво́раны будуць.* Слабада Дубр. *Сёння заво́рыны пачынаюцца.* Жукава Гар.

ЗАВУРЗГАЦЦА *зак.* Запэцкацца, забрудзіцца. *Што ты на вуліцы рабіў, што так заву́рзгаўся?* Прошкава Глыб.

ЗАГАВЕ́ЦЬ *зак.* Памерці. *Цётка наша загаве́ла.* Казяны Дубр. Параўн. *задрыбе́ць.*

ЗАГАНЗА́ЦЬ *зак.* Забрудзіць, запэцкаць. *Любімае дзела – заганза́ць штаны, а мыць хто будзіць?* Новы Пагост Міёр. Параўн. *заке́ўзаць, запэ́лхаць, збадзя́ць* у 1 знач.

ЗАГА́РАК *м.* Гадзіннік. *На стале зазвінеў зага́рак.* Удзела Глыб. *Я згубіў свой новы зага́рак.* Дрысвяты Брасл. *Сколькі на тваім зага́рку?* Муляры Паст.

ЗАГАЎЛЯЦЬ *незак.* Абяцаць нешта зрабіць. *Мужык мой усё зага́ўляе, што піць не будзе.* Кухты Глыб.

ЗАГА́ШНІК *м.* Нешта схаванае, утоенае. *Даставай свой зага́шнік.* Пранікі Уш.

ЗАГІБА́НЕЦ *м., часцей* ЗАГІБА́НЦЫ *мн., кулін.* Блін з начыннем. *На вячэру маці часта рабіла загіба́нцы.* Мар'янполле Брасл. Параўн. *завіва́нік, закручо́нік.*

ЗАГІЗАВА́ЦЬ *зак.* Узбудзіцца, хутка пабегчы (пра жывёлу). *Каровы сёння як загізава́лі, сваю чуць дамоў прыгнала.* Надазер'е Глыб.

ЗАГЛАДУ́ХА *ж., іран.* Крэпкая, здаровая жанчына. *Жонка ў яго пекная, добрая загладу́ха.* Макаравічы Докш.

ЗАГЛО́ТЫШ *м.* Рыбалоўная прылада. *Загло́тышы ёсць – ёсць і рыбы.* Янкавічы Рас.

ЗАГНЕ́ВАЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Вельмі ж я на вас загне́валася.* Булахі Глыб.

ЗАГНЕ́ТКА *м.* Прыпечак. *Паглядзі, дзе палаценца, можа хто на загне́тку паклаў.* Бачэйкава Бешь. *Вазьмі, на загне́тке бліны стаяць, ешчо цёплыя.* Зуі Лёзн.

ЗАГНЕ́ЦІЦЦА *зак.* Спячыся. *Хлеб не загне́ціцца, бо духу мала ў печы.* Варапаева Паст.

ЗАГРО́ШАК *м.* Катух, адсек для захавання гародніны. *Дзед, бывала, насыпіць бульбы з загро́шку, а падняць не можа.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАГРЭ́БЛЯ *ж.* Граблі. *Загрэ́бля стаіць там жа за стогам.* Чашнікі.

ЗАДА́ТЛІВЫ *прым.* Удалы. *Купілі кабанінка, і зада́тлівы такі, жоркі, расце хутка.* Труды Пол.

ЗАДЗЕЦЬ *зак.* Уцягнуць нітку ў іголку. *Задзе́нь нітку, я дрэнна бачу.* Порплішча Докш.

◊ ЗА́ДНЯМУ ПАРАСЯ́ЦІ ЦЫ́ЦКА ПАД ХВАСТО́М *экспрэс.* Пра таго, хто спазняецца і каму нічога не дастаецца. *Што зробіш, позна прыйшоў – за́дняму парася́ці цыцка пад хвасто́м.* Велеўшчына Леп.

ЗАДО́БРЫЦЬ *зак.* Прыправіць. *Суп нада задо́брыць салам, смашней будзе.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *завало́жыць, засма́чыць.*

ЗАДРЫБЕ́ЦЬ *зак.* Памерці. *У гэтым годзе дванасце чалавек задрыбе́ла ў нас, адзін за адным.* Буцавічы Паст. Параўн. *загаве́ць.*

ЗАДЫХ *м., адз., мед.* Астма. *Я і задых магу вылечыць.* Ноўка Віц.

ЗАЁРЗАНЫ *дзеепрым.* Паношаны, зношаны. *Ой, ты ў такой заёрзанай кофце ходзіш.* Станулі Глыб.

ЗАЖА́РКА *ж., кулін.* Падсмажанае мяса або сала, якое дадаецца ў страву. *А ўжо ж ёсць зажа́рка, скора есці будзем.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *зашква́ра.*

ЗАЖА́ТАК, ЗАЖНЯ́К, ЗАЖЫ́Н, ЗАЖЫ́НАК *м., абрад.* Першы зжаты сноп. *Зажа́так – пачатак жніву.* Пірагі Дубр. *Зажа́так давалі зжаць здаровай жанчыне – работніцы, каб у астальных не балелі рукі.* Малькава Лёзн. *Вялікая чэсць зрабіць зажня́к.* Храпакі Віц. *Зажы́н ставяць каля абраза, каб ураджай добры быў.* Павулле Уш. *Як стаўлялі першы зажынак, так пачыналі піяць.* Горкі Леп., Гразіна Арш., Гвоздова, Надазер'е Глыб., Слабада Леп.

ЗАЖМЕ́НІЦЬ *зак.* Пашкодзіць, натрудзіць. *Усе рукі зажме́ніла – у хаце не змагу нічога здзелаць.* Скоге Сен.

ЗАЖНЯ́К гл. ЗАЖА́ТАК

ЗАЖУЛІЦЬ *зак.* Прысвоіць нешта чужое. *А сусед быў зажу́ліў маю касу.* Германавічы Шарк.

ЗАЖЫВО́ЦЦЮ *прысл.* Пры жыцці. *Зажыво́ццю хату трэба будаваць.* Забор'е Глыб.

ЗАЖЫЛІСТЫ *прым.* Скупы. *Мой першы мужык дужа ўжо зажы́лісты быў.* Мікіціха Шум.

ЗАЖЫ́Н, ЗАЖЫ́НАК гл. ЗАЖА́ТАК

ЗАЗІ́МАК *м.* Замаразкі са снегам пасля адлігі. *Зазі́мкі будуць яшчэ.* Новы Пагост Міёр. *Будзіць на цябе зазі́мак, надзелася, як вясной.* Янкі Докш.

ЗАЗНЁНКА *аг.* Зазнайка; фанабэрысты, ганарысты чалавек. *У маладосці я зазнёнкай не была.* Чарневічы Глыб.

ЗАЗНОБА *ж.* Дакучлівы чалавек. *Зноў прыйшла гэтая зазно́ба.* Кругліца Чаш.

ЗАЗО́ВЫ *толькі мн., абрад.* Заручыны. *У суботу зазо́вы будуць.* Абольцы Тал.

ЗА́ЗУБЕНЬ *м.* Рыбалоўны кручок. *За́зубень добры, вялікі.* Камень Леп., Жукава Гар.

ЗАЙЗДРАВА́ЦЬ *незак.* Зайздросціць. *Ніколі ў жыцці нельга нікому зайздрава́ць.* Міёры.

ЗА́ЙЧЫК *м., бат.* Грыб з цёмна-карычневай шляпкай і жоўтым нізам. *Хутка за́йчыкі пойдуць, збіраць будзем.* Чарневічы Глыб.

ЗАКАЖАНЕ́ЦЬ *зак.* Перастаць расці, змарнець. *Парасёнак малы такі, закажане́ў.* Ясева Міёр. *Агуркі закажане́лі ад холаду, не растуць нешта.* Янкі Докш.

ЗАКА́ІЦЦА *зак.* Зарачыся. *Зака́ілася я з ей у грыбы хадзіць. Паляціць па лесе – не дазвацца.* Янкі Докш.

ЗАКА́ЛА *аг.* Помслівы чалавек. *Ён такі зака́ла, што раз не па яго выйшла, дык век помніць будзіць.* Падаляны Паст.

ЗАКА́ЛЕЦ *м., кулін.* Непрапечаны хлеб. *Можа, не падышоўшы цеста было, можа, духу ў печы не хватала, хто яго ведаіць, чаму такі зака́лец зрабіўся.* Лукашова Паст.

ЗАКАЛЕ́ЦЬ, ЗАКАЛЯНЕ́ЦЬ *зак.* Замерзнуць. *Учора так закале́ла на марозе, што горла дзярэ.* Засценкі Віц. *Калі цяплей не адзенешся, закаляне́еш проста.* Галубава В.-Дзв.

ЗАКАЛІ́ТАК *м.* Засек; месца, дзе захоўваюць збожжа, гародніну. *Закалі́так сёння напалавіну засыпалі – год не ўда́ўся.* Выгада Сен. Параўн. *засе́нне.*

ЗАКАЛЯНЕ́ЦЬ гл. ЗАКАЛЕ́ЦЬ

ЗАКАНУ́РАК *м.* Закутак. *Паскідвалі ўсё ў закану́рак, нічога не знайсці.* Бугаі Сен.

ЗАКАСІЦЦА *зак.* Захварэць. *Унук у мяне закасіўся на ангіну.* Чарневічы Глыб.

ЗАКАШАЛЯ́ЦЦА *зак.* Заблудзіцца. *Тая карова верна ў лясу закашаля́лась.* Глоданкі Лёзн.

ЗАКАЮ́ТАК *м.* Зацішная мясціна. *Нічога быў закаю́так каля Межава, часта скот выганялі.* Забалацце Арш.

ЗАКЕ́ЎЗАЦЬ *зак.* Забрудзіць, запэцкаць. *Сматры, каб не заке́ўзаў сваю рубаху.* Вялікае Сяло Сен. Параўн. *заганза́ць, запэ́лхаць, збадзя́ць* у 1 знач.

ЗАКІБА́ЕК *м.* Вузкі праход паміж двума будынкамі. *Мяне вялі чэраз нейкі закіба́ек.* Лісуны Арш.

ЗАКІБА́Й, *памянш.* ЗАКІБА́ЙЧЫК *м.* Падсобнае памяшканне для гаспадарчых патрэб. *Што толькі ў мяне ў закіба́і не ляжыць!* Гаршчэўшчына Тал. *Дровы ляжалі ў закіба́йчыку.* Бачэйкава Беш.

ЗАКІДУ́ШКА *ж.* Рыбалоўная прылада з цяжкім грузілам на канцы лескі. *Я сёння на закіду́шку буду лавіць, так лучшэ.* Межава Арш. *Бацька заўсёды закіду́шку бярэ, без яе нічога не зловіш.* Мішкавічы Шум.

ЗАКІНДЗЮ́РКА *ж., абразл.* Неахайная дзяўчына. *Такая закіндзю́рка, глядзець няма на што.* Абухава В.-Дзв. *Што ты ходзіш, як закіндзю́рка?* Боркавічы В.-Дзв.

ЗАКЛАМО́ЗДЗІЦЬ *зак.* Засмеціць. *Цяпер усё абы-як. Увесь лес закламо́здзілі.* Курмялёўка Леп.

◊ ЗАКЛА́СЦІ ІСЦЕ́РЫКУ *зак., экспр.* Устроіць скандал. *Ну пасля гэтага я ім устрою, закладу́ ісцерыку.* Галбея Паст.

ЗАКЛО́КАЦЬ *зак.* Заквахтаць (пра курэй). *Кура ўжо закло́каць хоча.* Цяцеркі Брасл.

ЗАКМЕ́ЦІЦЬ *зак.* Прыкмеціць. *Я цябе яшчэ закме́ціла, як ты да бабы прыяжджаў.* Іванск Чаш.

ЗАКО́БАЦЬ *зак.* Закінуць. *Зако́бала ў рыззі маю хустку, што шукаю і не знайду.* Камень Леп. Параўн. *затаркну́ць.*

ЗАКО́П *м.* Сховішча для бульбы, гародніны; капец. *Сёлета многа картошкі, прыйшлося яе ў зако́п закапываць.* Малькава Лёзн. *Сёлета ў зако́п паклалі не толькі бульбу, але і буракі, і моркву.* Скарынкі Гар. *У зако́п нада лажыць сухую бульбу.* Слабада Віц. *Трэба бульбу скласці ў зако́п.* Ходцы Віц.

ЗАКО́Т *м.* Вір, глыбокае месца на возеры. *Толькі глядзі ў зако́т не плыві.* Курмялёўка Леп. *У халоднае надвор'е вуды трэба закідваць у зако́т.* Хралы Глыб.

ЗАКРА́СЫ *мн.* Прысмакі, ласункі. *У дзецтве я любіла закра́сы есці.* Ясевічы Глыб.

ЗАКРО́ПІЦЬ *зак.* Замацаваць, прыбіць. *Дошкі тыя трэба закро́піць.* Цяцеркі Брасл.

ЗАКРУ́ТКА *ж.* Запор для дзвярэй. *На закру́тку зачыняй дзверы.* Дразды Беш.

ЗАКРУ́ЦІСТЫ *прым.* Кучаравы. *Авечка ты закру́цістая.* Ноўка Віц.

ЗАКРУЧО́НІК *м., часцей* ЗАКРУЧО́НІКІ *мн., кулін.* Блін з начынам. *Смачныя былі закручо́нікі.* Увоніна Шум. *На вячэру былі ў нас закручо́нікі.* Сталенівічы Паст. Параўн. *завіва́нік, загіба́нец.*

ЗАКРЫ́ЛІНА *ж.* Дошка, падбітая з краю даху. *Арнаменты для закры́лін муж сам прыдумваў.* Рошчына Сен.

ЗАКРЫПА́ЦЦА *зак.* Заблытацца. *Закрыпа́цца там было вельмі лёгка.* Езярышча Гар. *Ніткі так закрыпа́ліся, вязаць няма як.* Янкі Докш.

ЗАКРЭ́НТ *м.* Паварот. *На закрэ́нце перавярнуўся воз.* Пятруці Паст.

ЗАКСЦІЦІЦЬ *зак.* Абараніць. *Заксцiцілі мяне тады суседзі, дык немцы не знайшлі.* Машканы Сен.

ЗАКУ́ТНІК *м., неадабр.* Нелюдзімы чалавек. *Так і пражыў усю жызнь заку́тнікам.* Пліса Глыб.

ЗАКУ́ЦІЦА *ж.* Глуш, захалусце. *Мы ў заку́ціцы жылі, дык немцы сюды дужа не прыхадзілі.* Гомель Пол. Параўн. *за́падзь.*

ЗАЛАТУ́ХА *ж., бат.* Фіялка. *Залату́ха – прыгожая кветка.* Іскозы Дубр. *Як прыгожа цвіце залату́ха!* Лук'янава Сен.

ЗАЛАЧА́ЦЬ *незак., безас.* Світаць, днець. *Ужо пачало залача́ць.* Багушэўск Сен. *Вярнулася з вечарынкі, калі ўжо залача́ла.* Песачанка Сен.

ЗАЛВІ́ЦА *ж.* Залоўка. *Залвіцу тожа нада пазваць, каб не абіжалася.* Лісна В.-Дзв.

ЗАЛЁЗНІК *м.* Чыгун. *У залё́зніку варылі есці.* Харкаўка Арш.

ЗА́ЛЕЗЬ *ж.* Падпечак. *Малыя мы часта хаваліся ў за́лезь ад бабулі, бо баяліся, як што ўтворым.* Мілашкі Брасл.

ЗАЛЕ́ПКІ *мн.* Няспелыя ягады, садавіна. *Яшчэ рана, на яблынах зале́пкі адны. Агрэст няспелы яшчэ. Нашто зале́пкі есці?* Горы Рас.

ЗАЛЕ́ТАВАЦЬ *зак.* Застацца некранутым на працягу лета. *Луг каля ручча зале́таваў сёліта.* Астроўшчына Пол.

ЗАЛІВА́НКА *ж., кулін.* Падліва. *Гатоўлю залiва́нку і патом на кашу яе.* Бігосава В.-Дз.

ЗАЛІВА́ЦЦА *незак.* Прыгожа гаварыць, вызначацца красамоўствам. *Гаворыць яна – аж залiва́ецца, толькі слухай.* Порплішча Докш.

ЗА́ЛІВЕНЬ *м.* Моцны дождж, лівень. *За́лівень ліў цэлы дзень, па вуліцы ліліся рэчкі.* Гарэлькі Дубр. *Пасля такой духаты будзе за́лівень.* Жаркі Беш. *Паглядзі, які залівéнь лье.* Смаляны Арш.

ЗАЛІНА *ж., толькі адз.* Золь, слата. *Заліна на дварэ.* Акцябрскі Чаш.

ЗАЛО́БАК *м.* 1. Патыліца. *За гэткія дзяла можна і па зало́бку палучыць.* Ула Беш. Параўн. *запаты́лак.* 2. *перан.* Франтон. *А я сённі зало́бак пабяліў.* Падрэзы Чаш.

ЗАЛО́ЖНІК *м.* Палічка для посуду. *Зало́жнік памый, пасуду пастаў.* Вішанька Чаш.

ЗАЛУПЛЯ́ *аг., абразл.* Непрыгожы чалавек. *Бегаіць к ей нейкі залупля́.* Ляхаўка Дубр.

ЗАЛЯ́НЫ *прым.* Забруджаны попелам. *Тазік заля́ны пад ганкам кінулі.* Ляхаўка Дубр.

ЗАЛЯЦЕ́ЦЦА *зак.* Зайсці ненадоўга. *Заляце́лася да цябе за соллю.* Бандарцы Міёр. *Заляціся ў хату, глянь, што там робіцца.* Янкі Докш.

ЗАМАНА́ЦЬ *зак.* Надакучыць. *Адчапіся, замана́ў ужо.* Замхава Глыб.

ЗАМАТУ́ЗІЦЦА *зак.* Стаміцца. *Замату́зілася на полі папрацаваўшы.* Смалоўка Сен. Параўн. *заталызацца, затапта́цца, зато́пацца, зату́пацца, захо́дацца, зацёпацца, зацю́хацца.*

ЗАМА́ШНЫ *прым.* Тоўсты, мажны. *Баба такая зама́шная, круглая, я не сразу цётку ўзнаў.* Лужкі Шарк.

ЗАМАЯ́ЧЫЦЬ *м.* Лінуць знянацку (пра дождж). *Толькі ў поле выйшлі, ды дождж як замая́чыць: ні накрыцца, ні схавацца – вымаклі да ніткі.* Дроздава Тал.

ЗАМЕ́ЖНІК *м.* Іншаземец. *Зараз у горадзе шмат заме́жнікаў.* Міёры.

ЗАМЁТ *м.* Агароджа з бярвення. *Замёт рабіўся надоўга.* Камень Леп.

ЗАМЕ́ТНІК *м.* Венік. *Вазьмі заме́тнік у кладоўцы і падмяці хату.* Пліса Глыб.

ЗАМІ́Ж *прыназ.* Замест. *Рублёў заміж трох чатыры давай.* Альшаны Уш.

ЗА́МКА *ж.* Стрэмка. *Дровы секла і за́мку сабе пад ногаць загнала.* Зарачыцк Докш. *Можа за́мку з пальца выміш, ты відзіш лепі.* Янкі Докш.

ЗАМЛЕ́ЦЬ *зак.* Моцна захацець. *Ці ты не знеш, чаго ён так у горад замле́ў?* Ляхаўка Дубр.

ЗАМО́РЫШ *м.* Нявыседжанае яйка. *А сколькі ў гняздзе замо́рышаў было.* Старое Лядна Леп.

ЗАМО́СЦЕ *н.* Склеп. *Спусціся ў замо́сце і дастань гарлачык смятаны.* Косціна Дубр.

ЗА́МУЖКІ *прысл.* Замуж. *Рана табе яшчэ за́мужкі, маладая, пасядзі троху.* Асавец Беш.

ЗАМУ́ЖНІЦА *ж.* Замужняя жанчына. *І малодшая мая ўжо заму́жніцай стала.* Заазер'е Пол.

ЗАМУСО́ЛЕНЫ *дзеепрым.* Брудны, вымазаны. *Ты ж глядзі, увесь замусо́лены. Ну, ідзі мыйся.* Сухавежа Міёр.

ЗАМЯТУ́ХА *ж.* Завея. *Гэта зіма была моцная: маразы, замяту́хі.* Міёры.

ЗАНА́ДАБІЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Гэта вешч можа мне зана́дабіцца.* Урбаны Брасл.

ЗАНІЦЕ́ЦЬ *зак.* Зрабіцца тонкім, кволым (пра расліны). *Заніце́лі сёлета памідоры мае.* Макаравічы Докш. *Расада заніце́ла нешта.* Янкі Докш.

ЗАНУЖА́ЛЫ, ЗАНУЖА́НЫ *прым.* Хворы, слабы. *Ляжыць зусім занужа́лы, нічога не гавора.* Пашкі Шарк. *У дрэннага хазяіна і мерын занужа́ны.* Язна Міёр.

ЗА́ПАДЗЬ *ж.* Глуш, захалусце. *Усе адтуль бяжалі, там жа сапраўдная за́падзь.* Баравуха Пол. Параўн. *заку́цца.*

ЗАПАЗЫ́ЧКА *ж.* Запазычанасць. *Прыйшоў час вяртаць запазы́чку.* Міёры.

ЗАПА́МЯТАВАЦЬ *зак.* Забыць. *Запа́мятавала сынаў адрас.* Сноркі Глыб. Параўн. *запо́мніць.*

ЗАПА́Н, ЗАПІНАК, *памянш.* ЗУПАНО́К *м.* Фартух. *Я заўсігда за мацін запа́н трымалася.* Абальцы Тал. *Запі́нак надзела і пайшла есці гатаваць.* Акцябрскі Чаш. *Плацце распару – і зупано́к пашыю.* Якубова Рас.

ЗА́ПАСТ *прысл.* Без перапынку. *Працаваў за́паст тры дні.* Баравуха Пол.

ЗАПАТЫЛАК *м.* Патыліца. *Як даўленія мучыць – запаты́лак баліць.* Снегі Міёр. Параўн. *зало́бак* у 1 знач.

ЗАПАТЫЛЬНІК *м.* Невялікі клін для касы. *Я добра загнаў запаты́льнік. Зараз каса не будзе балтацца.* Мікуліна Пол.

ЗАПА́ШША *ж.* Арэнда зямельнага надзелу. *Запа́шша – гэта калі пан дае зямлю, і тады робіш на сваіх конях, палавіна ўраджаю сабе, палавіна – пану.* Прошкава Глыб.

ЗА́ПЕК *м.* Запечак. *Нам у за́пеку сядзець цёпла.* Вядрэнь Чаш.

ЗАПІВА́ЦЬ *незак., абрад.* Сватаць. *Насцю тваю запіва́юць. Вяселле скора?* Тумілавічы Докш.

ЗАПІНАК гл. ЗАПА́Н

ЗАПІ́ЎКІ *толькі мн., абрад.* Час, калі бацькі маладых дамаўляюцца пра дзень сватання. *Вот былі запі́ўкі, а я на печы сядзела.* Літусава Сен.

ЗАПІЯЦЬ *зак.* Заспяваць, пачаць спяваць. *Ён можыць песню запія́ць.* Ухлё Чаш.

ЗАПЛЕ́ШНІЦА *ж.* Вялікі кош, які носяць за плячамі. *Другі раз, як ягад многа, дык цэлую запле́шніцуназбіралі.* Краснаполле Рас.

ЗАПЛІКНУ́ЦЬ *зак.* Зашпіліць. *Заплікні пугавіцу.* Межава Арш. *Заплікні кажух, а то захварэеш.* Савенічы Сен.

ЗАПНУ́ЦЦА *зак.* Прыкрыцца чым-небудзь. *Запніся чым-небудзь, а то новую сукенку збадзяеш.* Новы Двор В.-Дзв.

ЗАПНЯ́К *м.* Вытаптанае, спляжанае месца ў агародзе, на полі. *Запня́к быў выбіты ўшчэнт.* Залясінкі Шарк. *Запня́к ужо прапаў.* Шарагі Міёр.

ЗАПО́МНІЦЬ *зак.* Забыць. *А я і запо́мніў, што сёння мая чарга.* Пузавічы Брасл. Параўн. *запа́мятаваць.*

ЗАПО́НКА *ж.* Занавеска. *Завесь, унучачка, запо́нку, бо невабна.* Замхава Глыб.

ЗАПРА́ЎДАШНІ *прым.* Сапраўдны. *Глядзі, во які запра́ўдашні пісталет.* Кублічы Уш.

ЗАПРО́СІНЫ *мн.* Запрашэнне. *Разам з пісьмом пасылаю і запро́сіны на нашае вяселле.* Іванск Чаш.

ЗАПУ́ДЗІЦЬ *зак.* Запужаць, запалохаць. *Запу́дзілі дзіцянё Баем.* Чашнікі.

ЗАПУСКА́ЦЬ *незак.* Давязваць пэўны выраб з нітак. *Калі добра табе рукавіца, то буду запуска́ць.* Цешылава Паст. *Даўжыні хваціць, буду запуска́ць насок.* Янкі Докш.

ЗАПЭ́ЛХАЦЬ *зак.* Запэцкаць, забрудзіць. *Работнічак, запэ́лхаў новыя штаны!* Сарокі Глыб. Параўн. *заганза́ць, закёўзаць, збадзя́ць* у 1 знач.

ЗАПЯ́ТАК *м.* Каблук, абцас. *У туфлях запя́так паламаўся.* Проземля Чаш.

ЗА́РА *прысл.* За́раз, неадкладна. *За́ра дочка прыдзіць, тады вячэраць будзім.* Дукелі Брасл. *За́ра трэба ісці ў магазін, а патом і пагаварым.* Мельніца Шарк. *За́ра пойдзем, пачакай шчэ!* Суша Леп.

ЗАРАЗА́ЦЬ *незак.* Кусаць бесперапынна (пра мух, аваднёў). *Авадні зараза́юць кароў так, што яны нідзе месца сабе не находзюць.* Выхадцы Лёзн.

ЗАРА́ННЯ *прысл.* Рана. *Бацька сёння зара́ння ўстаў і пайшоў у грыбы.* Більдзюгі Шарк. *Што ты ўстаў зара́ння?* Капланы Сен.

ЗА́РАСНІ *толькі мн.* Зараснік. *Якія за́расні ў лесе: і кусты, і трава па пояс. Ніякіх грыбоў у за́раснях не знойдзеш. Паглядзі ў бярэзніку лепш.* Горы Рас.

ЗАРО́Д *м.* Стог. *Мы падагналі табун да ракі, а даяркі яшчэ складвалі сена ў заро́д.* Гілі Чаш.

ЗАРУ́БІНА *ж.* Гадавое кольца на розе ў каровы. *Мая карова маладая, у яе чатыры зару́біны на рагу. Ёй усяго чатыры гады.* Задуброўе Віц.

ЗАРУШЫЦЬ *зак.* Зачапіць, патурбаваць. *Парсюкі папужаліся, а ваўкі не зару́шылі свіней.* Ухлё Чаш.

ЗА́САБ *прысл.* Адзін за адным. *За́саб беглі дні, і я памаленьку прывыкала, хоць і маміну хату не магла забыць.* Пліса Глыб.

ЗАСАЛАВЕЦЬ *зак.* Асалавець, стаць сонным, захацець спаць. *Сёння быстра засалаве́ла.* Ульянавічы Сен.

ЗАСВЕ́ЦЦЕ *н., толькі адз.* Даль, далечыня. *Каб грыб найсці, у засве́цце ісці нада.* Куціна Шум.

ЗАСЁВЫ *толькі мн., абрад.* Святкаванне заканчэння сяўбы. *Раней пышна ў нас гулялі засёвы?* Расходна Сен.

ЗА́СЕК *м.* Абгароджанае месца для свойскай жывёлы. *Вутак нада ў за́сек загнаць.* Дабравольск Тал.

ЗАСЕКЦІ *зак.* Засекчы. *Нада схадзіць петуха засе́кці, а то дзяўбецца, няма рады.* Грыбоўшчына Шарк.

ЗАСЕ́ННЕ *н.* Засек; месца, дзе захоўваюць збожжа, гародніну. *Бульба ў мяне ўсігда ў засе́нні.* Велеўшчына Леп. Параўн. *закалітак.*

ЗАСІДКА *ж.* Засада падчас палявання. *Вось тут трэба рабіць засі́дку.* Стасева Лёзн.

ЗАСІЛІ́ЦЦА *зак.* Задавіцца, павесіцца. *Сын жа ў яе засіліўся.* Абольцы Тал.

ЗАСІ́ЛІЦЬ[1] *зак.* Зачэрпнуць. *Засілі, дзетка, кубачак вады.* Забор'е Глыб.

ЗАСІ́ЛІЦЬ[2] *зак.* Перамагчы. *А бацька наш усё ж такі засіліў сына.* Псуя Глыб. *Ён даўно паняў, што дзеда яму не засіліць.* Прыпернае Глыб.

ЗАСКА́БІЦЬ *зак.* Загнаць стрэмку. *Пакуль дошкі перацягвалі, усе рукі заска́біў.* Клясціцы Рас. *Заска́біла руку трэскай, нарве, як не выцягнеш.* Сураўні Шум.

ЗАСКАЛУ́БІНА *ж.* Перашкода. *У нашым дзеле з'явілася заскалу́біна.* Гарадок. Параўн. *застро́га.*

ЗАСКЕ́МА *аг., асудж.* Скупы чалавек. *Ну і заске́ма ж твой дзед!* Лашукі Паст.

ЗАСЛАБЕ́ЦЬ *зак.* Аслабець. *Нешта заслабе́ла я саўсем.* Канева Сен.

ЗАСМА́ЧЫЦЬ *зак.* Прыправіць. *Засма́чыла кашу: цэлых дзве ложкі масла ўкінула.* Савенічы Сен. Параўн. *задо́брыць, завало́жыць.*

ЗА́СТАЎ *м.* Плаціна. *Вада за́стаў прарвала.* Рудня Пол. *Калі за́стаў ёсць, значыць рака вялікая.* Янкавічы Рас.

ЗАСТА́ЎНЯ *ж.* За́сланка для топкі ў печы. *Заста́ўняй закрый, каб дух не выйшаў.* Рошчына Сен.

ЗАСТО́ЙВАЦЬ *незак.* Заступацца за каго-н. *Брат мой засто́йваў меншых.* Папшулі Глыб.

ЗАСТО́ЙКА *ж.* Сцяна-перагародка ў хаце. *На застóйцы віселі фатакарткі ўсіх яе ўнукаў і дзяцей.* Рудабісць Брасл.

ЗАСТРО́ГА *ж.* Перашкода. *У жыцці было шмат застрóг.* Баравуха Пол. Параўн. *заскалу́біна.*

ЗАСТРОІЦЬ *зак.* Прыгатаваць страву. *Па кмін пайду, потым зімой сала застрóю.* Пятровічы Шарк.

ЗАСТУДЗІНЫ *мн., кулін.* Халадзец. *На свята зраблю засту́дзіны.* Бароўка Леп.

ЗА́СТУП *м.* Рыдлёўка. *Павастры зáступ.* Крынкі Лёзн.

ЗАСТУ́ПЦА *аг.* Заступнік. *Сярод малых таксама ёсць аўтарытэт – іх засту́пца.* Міёры.

ЗАСТЫДА́ЦЦА *зак.* Засаромецца. *Я застыдáлася і пайшла адтуль.* Зарэчча Тал.

ЗАСУВЕ́НЬ *м.*, ЗАСУ́ЛКА *ж.* Юшка ў коміне. *Ці заклаў ты засуве́нь?* Гута Паст. *Гром загрымеў, засу́лку трэба закрыць.* Абаляны Брасл.

ЗАСУКА́ЦЬ *зак.* Закасаць. *Перад сціркай трэба засукáць рукавы.* Мікалаёва Міёр.

ЗАСЦЕ́НАК *м.* Гумно. *У засце́нак кулі складзём, пакуль крыць страху. Цяпер жа некалі: бульбу капаць нада.* Азярцы Глыб.

ЗАТАЛЫ́ЗГАЦЦА *зак., экспр.* Стаміцца. *Заталы́згаўся сёння: сеялі на полі, а насенне скінулі далёка, каля дарогі.* Труды Пол. Параўн. *замату́зіцца, затаптáцца, затóпацца, зату́пацца, захóдацца, зацёпацца, зацю́хацца.*

ЗАТАМІЦЬ *зак.* Стаміць. *Ой, затаміў мяне.* Акцябрскі Чаш.

ЗАТАПТА́ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Пайду лягу, за дзень так затаптáлася.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *замату́зіцца, заталы́згацца, затóпацца, зату́пацца, захóдацца, зацёпацца, зацю́хацца.*

ЗАТАРКНУ́ЦЬ *зак.* Закінуць. *Куды затаркну́ў боты? Шукай хутчэй!* Савенічы Сен. Параўн. *закóбаць.*

ЗАТКНУ́ЦЬ *зак.* Закупорыць. *Заткні ты бутылку, а то вытхніцца.* Янкі Докш.

ЗАТО́ПАЦЦА, ЗАТУ́ПАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Зрання так затóпалася: печ паліла, снедаць строіла.* Запруддзе Глыб. *Ніхаця зату́паешся, калі дзесяць дзел у рукі лезіць.* Плаўнік Чаш. Параўн. *замату́зіцца, заталы́згацца, затаптáцца, захóдацца, зацёпацца, зацю́хацца.*

ЗАТО́ПІШЧА *ж.* Непагода, дрэннае надвор'е. *Я такой затóпішчай ужо нікуды не палезу, хоць і без крошкі хлеба буду сядзець.* Заслонаўка Арш.

ЗАТО́ХНУЦЦА *зак.* Задыхнуцца. *Зато́хнуцца ў гэтым смрадзе можна было.* Селішча Гар. *Што ты закруціла так рябёнка з галавой, ён жа зато́хніцца.* Задуброўе Віц. *Я думаў, ён там ужо зато́хнуўся.* Старое Лядна Леп. Параўн. *захлупіцца.*

ЗАТРАХНУ́ЦЦА *зак.* Зваліцца, упасці з вышыні. *Куды ты палез? Затрахне́шся!* Бігосава В.-Дзв.

ЗАТУ́ЛА *ж.* Рыбацкае адзенне. *Даўней у бацькі майго зату́ла была.* Запруддзе Глыб. *У мяне асталася бацькава зату́ла, хоць і рваная, на рыбу хадзіць.* Слабада Дубр.

ЗАТУ́ПАЦЦА гл. ЗАТО́ПАЦЦА

ЗАТУТА́РЫЦЬ *зак., экспр.* Схаваць. *Усю галоўку скруціла, думаючы, дзе ж ён грошы затута́рыў.* Клясціцы Рас.

ЗАТЫКА́ЛЬНІК *м.* Невялікі драўляны прут з кавалкам палатна для пачатку ткання. *Вунь на стале ляжыць затыка́льнік, падай мне яго.* Матырына Леп.

ЗАЎНІ́ВІЧ *прысл.* Марна, без карысці. *Нявестка беражлівая такая: у яе ўжо нічога заўнівіч не пойдзе.* Труды Пол.

ЗАЎЧАРА́, ЗАЎЧАРЫ́Х *прысл.* Заўчора. *Зяць прыязджаў заўчара́.* Варашылы Сен. *Доўга гулялі заўчары́х.* Баравуха Пол.

ЗАЎША́ *прысл.* Заўсёды. *Ты заўша́ ходзіш там?* Кулінава Уш.

ЗАФУНДАВА́ЦЬ *зак.* Заплаціць за працу. *Цяперака, калі зафунду́еш, дык табе ўсё зробяць.* Лынтупы Паст.

ЗАХА́БАВІНА *ж.* Затока. *Заха́бавіна ад возера не прамая, а заходзіць у сторану.* Лісна В.-Дзв.

ЗАХА́КАЦЦА *зак.* Задыхацца. *Троху прайду і заха́каюся, дыхання запіраіць.* Ляхаўка Дубр.

ЗАХВА́Т *м.* Улоў. *Добры сёння захва́т.* Ушачы.

ЗАХВІЦО́НЫ *прым.* Неўраўнаважаны. *Дзяўчына ні дурная, да захвіцо́ная.* Камень Леп.

ЗАХВО́ТА *ж.* Хвароба. *Каб якую захво́ту не падхваціць.* Чачанева Тал.

ЗАХЛЕ́ЎЕ *н.* Месца за хлявом. *Агародамі, па захле́ўю прабіраўся.* Абруб Глыб.

ЗАХЛЁБНІК *м.* П'яніца. *Не ведаю, як сястра свайго мужыка цярпела. Ён жа такі захлёбнік.* Крыпулі Докш. *Наш сусед такі захлёбнік, прапойца сапраўдны.* Шарагі Міёр.

ЗАХЛУПІ́ЦЦА *зак.* Задыхнуцца. *Ён бросіўся ў дом, але ўжо ў комнатах было столькі дыму, што можна было захлупіцца.* Пліса Глыб. *У склепе было столькі дыму, што захлупіцца можна.* Параўн. *зато́хнуцца.*

ЗАХО́ДАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Я зусі́м сёння захо́даўся.* Бароўка Леп. Параўн. *замату́зіцца, заталызгацца, затапта́цца, зато́пацца, зату́пацца, зацёпацца, зацю́хацца.*

ЗАХРЫСТАЯ *ж.* Пакой у царкве ці касцёле, дзе пераапранаюцца святары падчас службы. *У новым касцёле захрыстая куды большая, чым у старым.* Бароўка Леп.

ЗАЦВІ́Ч *зак.* Зацвісці. *Нада было сцяреч, і ў палуначі папараць-кветка далжна зацвіч.* Азяркі Гар.

ЗА́ЦЕМКІ *мн.* Прыцемкі. *Ужо і за́цемкі надышлі, а кароў нешта німа з поля.* Пестуніца Віц.

ЗАЦЁПАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Зацёпаўся, чуць дамоў прывалокся.* Кушняроўка Чаш. Параўн. *замату́зіцца, заталызгацца, затапта́цца, зато́пацца, зату́пацца, захо́дацца, зацю́хацца.*

ЗАЦІРКА *ж., кулін.* Бульба з малаком. *На абед зацірку будзем есці.* Зубава Арш.

ЗАЦЮ́ХАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Так зацю́хаўся, што спаў як убіты.* Кушняроўка Чаш. Параўн. *замату́зіцца, заталызгацца, затапта́цца, зато́пацца, зату́пацца, захо́дацца, зацёпацца.*

ЗАЧУ́ХА *аг., неадабр.* Чалавек, які не мае сваёй думкі, запалоханы, запужаны. *А во, ён зачу́хам усё жыццё быў, так і памёр.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЧЭ́П *м.* Замок. *Калі пойдзіш, закрой дзверы на зачэ́п.* Выхадцы Лёзн.

ЗАША́ІЦЦА *зак.* Затрымацца. *Мне ісці трэба ўжо, а я заша́ілася.* Кісялёва Тал.

ЗАША́ЦІЦЬ *зак.* Схаваць. *Цукерчыну заша́ціла, дык во з чаем п'ю.* Пусташы Пол.

ЗАШКВА́РА *ж.* Падсмажанае мяса або сала, якое дадаецца ў нейкую страву. *Ты ў суп грыбны зашква́ру пакладзі, смачней будзе.* Стар Арш. Параўн. *зажа́рка.*

ЗАШУ́ШКАЦЦА *зак.* Ухутацца, цёпла адзецца. *Зашу́шкайся, каб холадна не было.* Куты Докш.

ЗАШЧЭ́ПКА *ж.* Прышчэпленае пладовае дрэва. *Зашчэ́пкі дадуць на лета плады.* Шарагі Міёр.

ЗАШЭ́ПТ *м.* Замова. *Баба мая шмат зашэ́птаў ведае, мо і табе дапаможа.* Косціна Дубр.

ЗБАДЗЯЦЬ *зак.* 1. Забрудзіць, запэцкаць. *Новыя штаны, а ён раз надзеў – і ўжо збадзя́ў іх.* Янкі Докш. Параўн. *заганза́ць, закеўзаць, запэ́лхаць.* 2. *перан.* Зняважыць. *Так збадзя́ў яе на людзях усякімі словамі.* Балаі Паст.

ЗБАЁДАВАЦЬ, ЗБАЁДАЦЬ *зак.* Згубіць. *Збаёдавалі маю шапку, што насіць цяпер?* Дрыгучы Міёр. *Дзе збаёдавалі ножык, што ў грыбы хадзіла?* Янкі Докш. *Андрэй недзе збаёдаў свой дзённік.* Паставы. *Была ж мухабойка свая, алі дзеці збаёдалі.* Вараны Докш. *Дзесьці хустку збаёдала, такая прыгожая была!* Косціна Дубр.

ЗБАЙТЫ́ШЫЦЬ *зак.* Змарнаваць. *Толькі час дарэмна збайты́шылі.* Боркавічы В.-Дзв.

ЗБЕ́ДНІЦЦА *зак.* Засумаваць. *Што ты так збе́дніўся, дамоў захацеў?* Макаравічы Докш.

ЗБІВА́ЦЬ *незак.* Зграбаць (сена). *Надыходзіць дождж, і трэба хутчэй збіва́ць сена ў валкі.* Дрысвяты Брасл.

◊ ЗБІРА́НІКІ ЗБІРА́ЦЬ *незак.* Падманваць, гаварыць абы-што. *Скажы ты толкам, а то ўсё збіра́нікі збіра́еш.* Іванск Чашн.

ЗБІРУЛІ́Н *м.* Паплавок. *Як збірулі́н пачне пад ваду ўхадзіць, тады цягні.* Бачэйкава Беш.

ЗБІЦЬ *зак.* Скасіць. *Збі ты траву каля плоту, ад людзей стыдна.* Янкі Докш.

ЗБЛО́ЦІЦЬ *зак.* Сапсаваць, стаптаць. *Каровы ўсю бульбу збло́цілі, патапталі ўсе соткі.* Надазер'е Глыб.

ЗБО́ЙКА *ж.* Маслабойка. *А дзе ж мая збо́йка, што на той нядзелі табе, суседка, давала?* Расоны. *Збо́йку трэба вадой заліць, каб вымыць.* Выдрэя Віц.

ЗБРАДЛІ́ВЫ *прым.* Памаўзлівы, шкадлівы. *Козлік цётчын такі збрадлі́вы.* Задуброўе Віц. *Ну такая ж кошка збрадлі́вая, усё хавай ад яе!* Янкі Докш.

ЗБРО́ДНІК *м.* Распуснік. *Гэтым збро́днікам і ў гарод нічога не стоіць злазіць, і яблыньку абтрасці.* Забалацце Арш.

ЗБРЫ́ДЗЕНЬ *м.* Злодзей. *Сусед нейкі збры́дзень папаўся.* Кулінава Уш.

ЗБРЫ́ЗНУЦЬ *зак.* Скіснуць (пра малако). *Малако ўжо збры́зла.* Філіпава Глыб. *Малако німа як есці – збры́зла.* Янкі Докш.

ЗБУЗАВА́ЦЬ *зак.* Сапсаваць (пра ежу). *Мяса збузава́лі, хто цяпер пасля іх будзіць есці, нада сабаку аддаваць.* Янкі Докш. *Не з'ела, а ўсё збузава́ла.* Валосавічы Леп.

ЗБУХТАВА́ЦЬ *зак.* Пагнуць. *Так разагнаўся на веласіпедзе, што ўрэзаўся ў бярозу і збухтава́ў каляса.* Пліса Глыб.

ЗБЭ́НЧЫЦЬ *зак.* Збыць, прадаць. *Збэ́нчылі мы каня даўно ўжо.* Галубава В.-Дзв.

ЗВАДЗІ́ЦЦА *незак.* Страчваць здольнасць рабіць што-н., працаваць. *Я ўжо са ўсяго зваджу́ся, не магу даглядаць скот.* Выхадцы Лёзн.

ЗВАДЗІ́ЦЬ *незак.* Падманваць, хлусіць. *Адзін раз мне ўжо звадзі́лі, цяпер разумнейшая буду.* Шыцi Шарк. *Ты ж гэта ўсё зво́дзіш.* Сасноўка Глыб.

ЗВАДУ́Н *м., асудж..* Хлуслівы чалавек, падманшчык. *За такія словы так і хацелася назваць яго звадуно́м.* Красніца Чаш.

ЗВЕ́СТКА *ж*. Вочап. *Калодзеж закрыты, няма зве́сткі на вядры*. Дукоўшчына Беш.

ЗВЕ́СЦЬ *ж*. Вестка, навіна. *Добрую зве́сць нам прынесла.* Гута Паст.

ЗВІ́ЦЦА *зак*. Быць п'яным, напіцца. *Вун стары па траве качаецца, звіўся*. Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЗВОД *м.* ЗВО́ДЫ *мн.* Няпраўда, плётка, хлусня. *Гэта, што яна кажа, усё звод*. Красніца Чаш. *Цэлы дзень яна толькі зво́ды носіць.* Жабыкі Дубр.

ЗВО́ЧЫЦЬ *зак*. Сурочыць. *Што з табой? Можа зво́чыў хто?* Расходна Сен.

ЗВЯДЗЕ́ННЕ *н., толькі адз., абрад.* Заручыны. *Былі сёння на звядзе́нні.* Езярышча Гар. Параўн. *змо́віны.*

ЗГА́РКІ *мн.* Прыгаркі, прыгарэлая бульба. *Са зга́рак кашы не натаўчэш*. Пугачова Докш.

ЗГАРО́ДА[1] *ж*. Агароджа. *Згаро́ду мой гаспадар збудаваў, каб ніхто не краў.* Амбросавічы Шум.

ЗГАРО́ДА[2] *аг., экспр.* Няўклюда. *Такая згаро́да ўдалася, глядзець няма на што.* Чарнаруčча Лёзн.

ЗГАРТА́ЦЬ *зак*. Скласці сена ў стог. *Трэба хутчэй сена згарта́ць, бо дождж будзе*. Шухаўцы Дубр.

ЗГАРЭЦЦА *зак*. Згарэць, сапсавацца, стаць непрыгодным у выніку моцнага перагрэву. *Калі капешку добра не накрыеш, то сена згары́цца.* Храпакі Віц.

ЗГЕЛК *м., толькі адз.* Шум, вэрхал. *Вакол такі згелк стаіць*. Пачаевічы Чаш.

ЗГІ́РДЗІЦЦА *зак*. Пажухнуць, засохнуць. *Кветкі мае згір-дзіліся на сонцы.* Ліпаўкі Докш.

ЗГРА́БА *ж*. Невялікі стог сена. *Згра́бы, паглядзі, напалову разнесеныя ветрам.* Куштал Шарк.

ЗГРЭ́БАЧ *м.* Крук для раскідвання гною. *Ты згрэ́бачам паспрабуй.* Старое Лядна Леп.

ЗГРЭ́БІНЫ *толькі мн.* Дробная салома пасля малацьбы. *Трэба згрэ́біны пазносіць да хлеву*. Дубровы В.-Дзв.

ЗДАЛІЗАВА́ЦЬ *зак*. Здратаваць, патаптаць (пасевы). *Карова ўсе буракі здалізава́ла*. Сарокі Глыб.

ЗДАНЦЫ́ *толькі мн.* Здань, прывід. *Як напіўся, дык здандцы́ нейкія з'явіліся.* Зубава Арш.

ЗДАЎШНЫ́ *прым*. Даўнейшы, ранейшы. *У здаўшны́я часы ўсё было інакшай.* Чарневічы Глыб.

ЗДЗЕ́ЧА *ж.* Здзек. *Гэта была такая здзе́ча з людзей.* Абольцы Тал.

ЗДЗІВА́ЦЬ *незак.* Здымаць адзенне. *Гэтак прамок. Хутчэй здзіва́й куртку.* Крывыя Тал.

ЗДЗІКА́ЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Што ты здзіка́ешся з мяне пастаянна?* Машканы Сен. *І немцы здзіка́ліся, і парцізаны. Усяго было.* Чарневічы Глыб.

ЗДО́ХЛІК, ЗДЫ́ХЛІК, ЗДЫХЛЯ́К *м., груб.* Чалавек са слабым здароўем. *І куды гэта пацягнуўся яе здо́хлік.* Сабалі Чаш. *Такі худы, нічога ня есць, зды́хлік.* Янкі Докш. *Здыхля́к нейкі, а не мужык.* Кушняроўка Чаш.

ЗДРА́ЎНІК *м.* Дзень, калі ходзяць у лазню. *Здра́ўнікам у нас чацвер быў.* Каменка Талач.

ЗДРОК *м.* Авадзень, гіз. *Раніцай нічога, а ўдзень здро́кі так кусаюць, што няма дзе дзецца.* Іванск Чаш. Параўн. *зык.*

ЗДУ́КРЫЦЬ *зак., экспр.* Прыдумаць што-н. незвычайнае, неверагоднае. *Ну ты і зду́крыў сёння. Такога я не чакаў.* Бароўка Леп.

ЗДУМЛЯ́ЦЦА *зак.* Кпіць, насміхацца. *Так табе і нада! Будзеш знаць, як здумля́цца!* Лужкі Шарк.

ЗДУ́РАНЫ *прым.* Распешчаны (пра дзіця). *Такі зду́раны унук, што старой з ім цяжка справіцца.* Вараны Докш.

ЗДЫХАТА́ *ж., экспр., груб.* Пагібель, смерць. *Прыйшла на яе здыхата́.* Ухлё Чаш.

ЗДЫ́ХЛІК, ЗДЫХЛЯ́К гл. ЗДО́ХЛІК

З'ЕДЗЬ *ж.* Беднота, людзі з вельмі малым дастаткам. *А ў іхняй дзярэўні адна з'едзь жывець.* Зубава Арш.

З'Е́ДКІ *толькі мн.* Аб'едкі, рэшткі ежы. *З'е́дкі маці свінням выліла.* Нізкі Гарадзец Тал.

ЗЕ́КРЫ, ЗЕ́ЛЬКІ, ЗЕ́НЬКІ *толькі мн., груб.* Вочы. *Што ты зе́кры вылупіў?* Барсукі В.-Дзв. *А ён на мяне зе́лькі як вылупіць!* Акцябрскі Чаш. *Што зе́нькі вылупіла – спаць ідзі.* Тараскі Чаш.

ЗЕЛЯНУ́ХА, ЗЕЛЯПУ́ХА *ж.* Няспелы плод садавіны. *Што гэта за яблык – зеляну́ха.* Сіроціна Шум. *Не еш ты гэтыя зеляпу́хі – жывот забаліць.* Далуева Шум.

ЗЕМЛЯНІ́ЦЫ *толькі мн.* Суніцы. *Ужо і земляні́цы паспелі.* Вялікае Сяло Сен.

ЗЁЛКА *ж., бат.* Кветка. *Нада зё́лкі паліць, завялі ўжо.* Воўкаўшчына Міёр.

ЗЗО́РЫЦЬ *зак.* Убачыць. *Я ўглядалася і ззо́рыла яго.* Нурава В.-Дзв.

ЗЗЫ́ЗНУЦЬ *зак.* Азызнуць, змерзнуць. *Я так ззы́зла – аж ногі анямелі.* Мікіціха Шум.

ЗІВАЧЭ́ *мн.* Міндаліны. *Гэта зівачэ́ табе баляць.* Ушачы.

ЗІГАВІ́ЦА *ж.* Бліскавіца. *Усю ноч зіхацела зігаві́ца.* Туркова Міёр.

ЗІГРА́ШКА *ж.* Жанчына з вялікімі выпуклымі вачыма. *Ну, гэта дзеўка і зігра́шка*! Мельніца Шарк.

ЗІМНЯ́К *м.* Дарога, па якой ездзяць толькі зімой. *Тут недалёка, калі па зімняку́ ехаць.* Камень Леп.

ЗІПАТКІ́ *прым.* Бліскучы, яркі. *Як я люблю гэну зіпатку́ю хустачку.* Мікіціха Шум.

ЗІХА́ЦЬ *незак.* Цяжка дыхаць. *Пагляджу, а ён ледзь зіха́е.* Латышы Глыб.

ЗЛАД *м.* Лад, згода. *Цяжка з дурным злад знайсці.* Стаі Леп.

ЗЛАЖЫ́ЦЬ *незак.* Кастрыраваць. *Парсюка злажы́лі ўчора.* Канашы Гар. Параўн. *злягчы́ць.*

ЗЛЕ́ЎКІ *толькі мн.* Вяршкі. *Січас зле́ўкі зніму і будзеш малако піць.* Барсукі В.-Дзв.

ЗЛІВА́Ш *м., толькі адз.* Малако, з якога злілі вяршкі. *Ты бяры тое малако, а гэта – зліва́ш.* Рускі Шум.

ЗЛО́МЫШ *м.* Зламанае ветрам дрэва. *Столькі зло́мышаў пасля ночы ў садзе.* Гушчына Лёзн.

ЗЛОЎ *м.* Улоў. *Злоў сёння добры.* Велеўшчына Леп.

ЗЛЫ́ДНЯ *аг., асудж.* Дрэнны чалавек, злы. *Злы́дня ты, а не дзяўчына.* Шыркі Сен.

ЗЛЮ́БНІЦА *ж.* Каханка. *Васіль ужо новую злю́бніцу прывёў.* Новы Двор В.-Дзв.

ЗЛЯГЧЫ́ЦЬ *зак.* Кастрыраваць. *Трэба заўтра кабана злягчы́ць.* Котава Віц. Параўн. *злажы́ць.*

ЗМА́ЗА *аг., асудж.* Кепскі, брыдкі чалавек; пляткар. *Ну і зма́за: пайшла языком часаць.* Слабодка Гар.

ЗМА́ЛЫХ *прысл.* Змалку, з маленства. *Мая дачка зма́лых любіла малако.* Перамонт Лёзн.

ЗМАЦАВА́ЦЦА *зак.* Страціць сілу, абяссілець. *Змацава́лася я, пакуль грады палолі, паляжу пайду.* Колпіна Сен.

ЗМЕ́ШЫВА *н., толькі адз.* Ежа для свіней. *Дадай у зме́шыва малачка – парсючкі смачней есці будуць.* Шухаўцы Дубр.

ЗМІКІ́ЦІЦЦА *зак., экспр.* Страціць розум, здурнець. *Дзеўка ж яе саўсем змікі́цілася.* Яроненкі Гар.

ЗМО́ВІНЫ *толькі мн., абрад.* Заручыны. *На змо́вінах адразу ўсё і вырашылі.* Шыркі Сен. Параўн. *звядзе́нне.*

ЗМО́ЎКА *ж.* Пасядзелкі вечарам у вёсцы. *Паклікала кума ўсіх жанчын зноў на змо́ўку.* Вялікая Пярэспа Сен.

ЗМЫ́СЛЫ *прым*. Разумны. *Такая змы́слая была дзеўка.* Буцавічы Паст.

ЗМЭ́НЧЫЦЬ *зак*. Замучыць. *Як замуж вышла, віду на ей не стала, мужык змэ́нчыў зусім.* Дрыгучы Міёр.

ЗНА́ДАБЕНЬ *ж., толькі адз., зб.* Патрэбныя рэчы. *Дома ўсё зна́дабень.* Мікалаёва Міёр.

ЗНАДО́БЕН *прым.* Патрэбны. *Некалі ўсё роўна я табе знадо́бен буду.* Горкі Леп.

ЗНАК, ЗНА́ЧНІК *м., с.-г.* Прылада для правядзення радоў на градах. *Падай той знак, што ля хаты стаіць.* Шабаны Паст. *Трэба бацьку сказаць, хай зробіць новы зна́чнік.* Дрысвяты Брасл.

ЗНА́ТА́ *незак.* Знаць, ведаць. *Каб зна́та раней, дык не паехаў бы ў грыбы.* Гарбачэва Рас. *Каб гэта зната́, дык можна ж было б раней прыйсці.* Янкі Докш.

ЗНА́ХАРЫХА *ж.* Знахарка. *Тут можа памагчы толькі зна́харыха.* Міхалі Міёр.

ЗНА́ЧНІК гл. ЗНАК

ЗНА́ШТА *прысл*. Вельмі, дужа, надта. *Зна́шта ж хочацца цукерак.* Ніўнікі Міёр.

ЗНЕ́СЦІСЯ *зак.* Здружыцца, сысціся на аснове якіх-н. агульных інтарэсаў. *Знясла́ся з гэтай п'яніцай і сама піць начала.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЗНЕ́ЦЕЛЬКУ *прысл.* Знянацку, раптам, нечакана. *Я не люблю, калі госці прыязджаюць зне́цельку.* Пунішча Віц.

ЗНІ́ЗКА *ж.* Верхняя вопратка, куртка. *Кінуў зні́зку ў сенцах і пайшоў у хату.* Зорка Шарк.

ЗНІМО́ *н.* Нешта вельмі цяжкае. *Камень той тоўсты, як знімо́. А ён узяў і падняў.* Сабалі Чаш.

ЗНО́ДАЦЬ *зак.* 1. Сапсаваць, пашкодзіць, зрабіць непрыгодным для ўжывання. *Усе журавіны зно́далі, не столькі назбіралі, колькі патапталі.* Валкі Паст. 2. Сапсаваць, змяніць на горшае, пагоршыць. *Ты мне ўвесь настрой зно́даў.* Вярэнькі Паст.

ЗНУД *м., неадабр.* Пануры чалавек. *Што з табой сёння? Як знуд сядзіш!* Расоны.

ЗНЯБО́ЖАНЫ *прым.* Стомлены, знясілены. *Ты такая знябо́жаная, што аж страх глядзець.* Верамееўшчына Дубр.

ЗНЯБО́ЖЫЦЦА *зак.* Памерці. *Мой дзядуля тры гады таму знябо́жыўся.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *зня́ньчыцца.*

ЗНЯ́НЬЧЫЦЦА *зак.* Памерці. *Я, мусіць, за дзедам гледзячы сама скарэй зня́ньчуся.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *знябо́жыцца.*

ЗНЯЦЁЎКУ *прысл.* Знянацку. *А тут зняцё́ўку бацька заходзіць.* Іванск Чаш.

ЗО́ЛЛЕ *н., толькі адз.* Золак, пачатак світання. *На зо́лле раса – дажджу не будзе.* Янкавічы Рас.

ЗО́РКА *безас.-прэдык. слова.* Зорна. *Сягодня дужа зо́рка на вуліцы.* Альшанка Чаш.

ЗРАБЯ́ЦЦІЦЦА *зак.* Здзяцініцца. *Мужык мой саўсім зрабя́цціўся.* Забор'е Рас.

ЗРАДЗІ́ЦЬ *зак.* Урадзіць, вырасці (звычайна пра гародніну). *Дажджы праходзілі, дык бульба сёлета добра зрадзі́ла.* Опса Брасл.

ЗРАДКА́, ЗРЭ́ДЧАС *прысл.* Зрэдку, часам, час ад часу. *А ў нас і так зрадка́ гаворань.* Кураполле Паст. *Сын зрэ́дчас прыязджае да яе.* Альшанка Чаш.

ЗРА́ЗУ *прысл.* Адразу. *Зра́зу і шчытаць будзем, сколька іх там.* Дабрамыслі Лёзн.

ЗРАЇ́ЦЦА *зак., пчал.* Аслабець у выніку шматгадовага раення (пра пчол). *У гэтым гаду пчолы мёду не нанасілі – зраі́ліся.* Кушняроўка Чаш.

ЗРАНІ́ЦЬ *зак.* Страціць цяжарнасць. *Такое горачка, дачка зрані́ла, пераживаем усе.* Галубічы Глыб.

ЗРУ́ШЫЦЬ *зак.* Падарваць здароўе, захварэць. *Нявестка мая зру́шыла сябе гэтай работай.* Труханкі Паст.

ЗРЭ́БНІКІ *толькі мн.* Мужчынскія штаны са зрэб'я. *Глянь, які смешны мужык у зрэ́бніках пайшоў.* Бачэйкава Беш.

ЗРЭ́ДЧАС гл. ЗРАДКА́

ЗУБЕ́ЛЬ *м., пчал.* Прылада для акурвання пчол. *Пчала ўкусіла – зубе́ль забыў.* Езярышча Гар.

ЗУБЕ́Ц *м.* Зубок часнаку. *Укінь у салату зубе́ц часнаку для паху.* Грыцы Глыб.

ЗУ́БРЫНА *ж.* Няроўнасць на палатне касы. *Як ты касіў, калі ўся каса ў зу́брынах.* Ветрына Пол.

ЗУБЦО́ЎЕ *н.* Частка грабель, куды насаджваюцца зубы. *Трэба ўжо зубцо́ўе памяняць, а то грабіць нядобра.* Дзеркаўшчына Глыб.

ЗУ́БЫ *мн., бат.* Спарынне. *Жыта сёлета добрае, амаль што без зубо́ў.* Краснаполле Рас.

ЗУ́Й *м.* Гультай. *Ну і зуй жа ты, сынку, зусім ад рук адбіўся.* Ходцы Сен. Параўн. *завале́нь.*

ЗУ́НДА *ж., экспр.* Высокая дзяўчына, жанчына. *Такая зу́нда вырасла.* Зубава Арш.

ЗУПАНО́К гл. ЗАПА́Н

ЗУ́РКА *ж., толькі адз., зб.* Гарачае вуголле ў печы. *Вазьмі зу́рку ды вынесі ў пограб.* Нямойта Сен.

ЗУСЮ́ЛЬ *прысл.* Адусюль. *На лета ў нашу вёску зусю́ль дзяцей панавозяць.* Арэхаўск Арш.

ЗЫ́БАЛКА *ж.* Калыска. *Даўней рабят у зы́балках калыхалі.* Прошкава Глыб.

ЗЫ́БАЦЦА *незак.* Прагінацца. *Ідзеш, а зямля пад нагамі зы́баецца.* Ласіца Паст. *Дарожка праз балотца ёсць, але ідзеш, а яна зыбаецца пад нагамі.* Янкі Докш.

ЗЫ́БАЦЬ *незак.* Скакаць на ложку, канапе. *Не зы́бай так, дзіван праломіш.* Кухты Глыб.

ЗЫБЕ́ЦЬ *незак.* Дрыжаць ад холаду. *Пастаяла крыху і зыбі́ць уся.* Магуны Паст.

ЗЫ́БКА *ж.* Ложак на аснове металічнай сеткі. *Я лягу на зы́бцы, а ты ўжо на падлозе.* Грушава Чаш.

ЗЫГАВА́ЦЬ *незак.* Імкліва бегаць, ратуючыся ад укусаў насякомых (пра жывёл). *Каровы зыгу́юць: падымаюць хвасты і лятуць куды каторая.* Кураполле Паст. Параўн. *зыка́ць.*

ЗЫ́ГАЎКА *ж., заал.* Зеленаватая летняя муха з балючым укусам. *Каб іх халера, зы́гавак гэтых, джгаюць, як авадні.* Надазер'е Глыб.

ЗЫК *м., заал.* Авадзень, гіз. *Зы́кі кароў абляпілі, дык тыя і лётаюць.* Сакольнікі Віц. Параўн. *здрок.*

ЗЫКА́ЦЬ незак. Імкліва бегаць, ратуючыся ад укусаў насякомых (пра жывёл). *Летам авадні, дык каровы зыка́юць, не ходзяць.* Чарневічы Глыб. Параўн. *зыгава́ць.*

ЗЫ́ЗМА *аг., асудж.* Прагны, сквапны чалавек. *Васіль твой – такая ўжо зы́зма.* Курапопле Паст.

ЗЫ́РГАЛЛЕ *н., толькі адз., зб., бат.* Трава, пустазелле з тоўстым сцяблом. *Ты ж глядзі, траву перабірай, а то зы́ргалле карова не есць.* Белая Ліпа Сен.

ЗЫРКА́ТЫ *прым.* Які мае добры зрок. *Ты ж у нас зырка́ты, паглядзі, колькі каштуе кіўбаса.* Іванск Чаш.

ЗЫ́РЫЦЬ *незак.* Пільна глядзець, не адводзячы вачэй. *Чаго ты так на мяне зы́рыш?* Будзішча Арш.

ЗЭ́ЛЕЎКА *ж.* Злая жанчына. *Яе зэ́леўкай празвалі.* Гарадок.

ЗЭ́МБІЦЬ *незак., экспрэс.* Курыць. *Такі малы, а ўжо зэ́мбіць.* Галбея Паст.

ЗЭС *м., толькі адз.* Халоднае надвор'е з пранізлівым ветрам. *Адзявайся цёпла, на дварэ такі зэс!* Груздава Паст.

ЗЭ́ШЛЫ *прым.* Мінулы. *Юзя ж зэ́шлы год прыязджала.* Папкі Міёр.

ЗЭ́ШЫТ *м.* Сшытак. *Нагаварыла ўсяго, хоць ў зэ́шыт які запішы, каб не забыцца.* Буцавічы Паст.

ЗЮЗЬКА *аг., экспр.* Моцна п'яны чалавек. *Апяць як зюзька напіўся, ледзь валачэцца.* Зубава Арш.

З'ЯД *м., асудж.* Крыкун, сварлівы чалавек. *Такі з'яд – не давядзі бог.* Сабалі Чаш. Параўн. *зяпло.*

ЗЯЛЕЗКА *ж.* Чыгунка. *Дзед мой усё жыццё на зялезцы адрабіў, чаго толькі не бачыў.* Воўкаўшчына Міёр.

ЗЯЛЕЗНІЦА *ж.* Жалезная шчотка. *Набівалі цвікі – так рабілі зялезніцу, а потым часалі лён.* Магуны Паст.

ЗЯЛЕННІК *м.* Бярозавы венік. *Зяленнікі ў лесе ламалі.* Гарадок.

ЗЯЛЕНЬЧЫК *м., бат.* Гарбуз. *Зяленьчык на гародзе ажно лопнуў – спелы такі.* Чарневічы Глыб.

ЗЯЛЁНКА *ж., толькі адз., зб.* Сілас, сакавіты корм для жывёлы. *Яго трактар сёння возіць зялёнку.* Ульянавічы Сен.

ЗЯЛО *н., толькі адз., зб.* Мякіна, адкіды з саломы, сена; пустазелле. *Трэба зграбсці зяло ў адну кучу.* Верацёнкі Рас.

ЗЯМЕЦ *м., пчал.* Пчаляр. *Ці знаеш навасць? Мой зяць зямцом цяперака ў калхозе.* Іванькі Міёр.

ЗЯПЛО *аг., груб.* Крыкун, сварлівы чалавек. *Во зяпло дурное! У адным канцы крычыць – у другім чуваць.* Губіца Шум. Параўн. *з'яд.*

ЗЯРНІНА *ж., адзінк.* Зярнятка. *Як па сёлетнім годзе, дык кожная зярніна будзе дарагая.* Жыгалы Беш.

ЗЯРОШКІ *мн.* Зерне. *Дзве вароны ўсе курыныя зярошкі расклявалі.* Марчанкі Сен. *Толькі жменя зярошак засталася.* Янкавічы Рас.

ЗЯЎКАЦЬ *незак., экспр.* Брахаць (пра сабаку). *Чаго ты ўсё зяўкаеш, нідзе ж нікога няма.* Ушачы.

ЗЯЎЛАСТЫ *прым., экспр.* Крыклівы. *Суседка наша – от ужо зяўластая баба.* Гарадзец Шарк.

# І

ІГОЛКА *ж.* Спіца для вязання. *Дзесьці згубіла свае іголкі, вязаць німа чым.* Арляны Сен.

ІГРАЧ *м.* Скрыпач. *Ігрáч ён быў яшчэ той – усе заслухоўваліся.* Галубава В.-Дзв.

ІЖАВІКА *ж., толькі адз.* Ягады ажыны. *Іжавіка на ўкус добрая.* Доўжа Віц.

ІЖЭЎНІК *м., бат.* Ажыннік. *Паглядзі, можа, той сабака і зараз сядзіць каля іжэўніка.* Слабада Шум.

ІЗБУША *ж.* Хата. *Гэтая ізбу́ша ўнучкіна, а мая за канаўкай.* Іванск Чаш.

ІЗВЕ́СЬ *ж.* Вестка. *Добрая ізве́сь чалавека ўсягда радуе.* Пагост Арш.

ІЗВЁСТКА, ІЗВІСЬ *ж., толькі адз.* Вапна. *Развіла ізвёстку, печку нада падмазаць.* Казімірова Пол. *Ізвісь рукі раз'ідаіць, луччы глінай бяліць.* Слабада Шум.

ІЗГАРО́ДА *ж.* Агароджа. *Каровы ў гарод залезлі, ізгаро́ду паламалі.* Мурагі Рас. *Зачапіўся штанінай за ізгаро́ду.* Лапяны Брасл. *Трэба чыніць ізгаро́ду, а то ліса паесць курачак.* Ваяводкі Віц., Ніўнікі Міёр., Жарцы Пол., Гарбачэва, Забор'е Рас.

ІЗДУХІ *мн.* Уздыхавіны; месца на целе, дзе паўкружжам канчаюцца рэбры. *У мяне так баляць іздўхі, што эта такоя?* Зубава Арш.

ІЗНО́ВА, ІЗНО́ЎКА *прысл.* Зноў. *Ізно́ва нада будзіць ехаць да дохтара.* Папшулі Міёр. *Ізно́ўка трэба ісці ў поле.* Балаі, Казлоўшчына Паст.

ІЗО́БКА *ж.* Істопка; памяшканне для захоўвання агародніны і іншых прадуктаў. *Бульбу пакуль сыплім у ізо́бку.* Зачарэўе, Ніўнікі Міёр.

ІЗРУ́Б *м.* Зруб. *Нада сначала ізру́б зрубіць, а патом крышу дзелаць і палы сцяліць.* Барсукі В-Дзв. *Ён ізру́б добры пад хлеў паставіў.* Новыя Валосавічы Леп., Абухава, Бароўка, Цясты В.-Дзв.

ІЗРЭ́Б'Е *н., толькі адз.* Зрэб'е; палатно са зрэбных нітак. *Ізрэ́б'е ў нас рэдка ткалі.* Слабада Докш.

ІКА, ІКО́ТКА *ж.* Ікаўка. *Іка саўсім замучыла.* Войлавічы Шум. *Паўдня іко́тка мяне б'ець.* Дабея Шум., Турчына Міёр., Дубраўкі Пол.

ІКРА́НКА *ж., заал.* Самка рыбы ў перыяд нерасту. *Пашлі на возера і столькі ікра́нак налавілі.* Акунёва Міёр.

ІКСВА́ *ж., толькі адз., бат.* Асака. *Балотная іксва́ надта ж острая.* Порплішча Докш. *Іксву́ каровам ні косім.* Васілеўшчына, Кураполле Паст., Абруб Глыб.

ІЛА́ГА *ж., зб., бат.* Ельнік. *Пойдзем у іла́гу маслюкоў пашукаім.* Лісуны Арш., Новы Двор В.-Дзв., Шасцярні Уш.

І́ЛЛЕ *н.* Месца, дзе вадой намывае шмат ілу. *Во цячэннем намыла і́лле.* Крывое Сяло Шум.

ІЛЛЯ́НІШЧА *н.* Ільнішча; поле, з якога сабралі лён. *На ілля́нішча будзім ганяць кароў.* Беразіно Докш.

ІМБА́РЧЫК *м.* Кладоўка. *У імба́рчыку вазьмі халоднае малако.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каўбасы я хуваю ў імба́рчык.* Цяцеркі Брасл.

ІМГА́, ІМЖА́КА, ІМЖА́ЧКА, ІМЖЫ́ЧКА, ІМЖЭНЬ *ж., толькі адз.* Імгла, імжа. *Не люблю восень, імга́ дзень у дзень. Каб жа дождж, а то халодная імга́.* Задоры Леп. *Так надаела ета імжа́ка, усё сыпець і сыпець.* Града Сен. *Увесь дзень імжа́чка.* Ульянавічы Сен. *Даждзя німа, тока імжы́чка нейкая.* Гарбацэвічы Арш. *Такая імжэ́нь на вуліцы, уся куртка мокрая.* Кузняцова Віц., Плісы Беш., Вялікая Альшанка Чаш.

ІМГНІ́ЦА *ж.* Знічка, падаючая зорка. *Глядзі на імгні́цу і загадывай жаланне.* Сяргеева Рас. *К восені імгні́ц шмат на небе.* Янкавічы Рас.

ІМЕ́ННЕ[1], І́МЕНЕ *н.* 1. Імя. *Абы-якое іме́нне малой далі.* Камаі Паст. *Як тваё і́мене.* Свірлелі Паст., Бычыншчына Міёр. 2. Назва. *Ні знаю, як іме́нне акованай лапаты.* Магуны Паст.

ІМЕ́ННЕ[2] *н.* Маёнтак. *Во тут у нас было панскае іме́нне.* Іванск Чаш.

ІМЖА́КА, ІМЖА́ЧКА, ІМЖЫ́ЧКА, ІМЖЭНЬ гл. ІМГА́

ІМКАНУ́ЦЬ *зак., экспр.* 1. Знікнуць; непрыкметна ці хутка пакінуць якое-н. месца. *Быў у двары, а тады імкану́ў некуды.* Зарачыцак Докш. *Куды ён імкану́ў ужо?* Канашы Гар. 2. Знікнуць; згубіцца, падзецца невядома куды. *Малаток з-пад рук імкану́ў кудысь.* Рудня Гар. 3. Узяць чужое, прысвоіць. *Сядзела, сядзела і імкану́ла маю спадніцу.* Мікалаёва Міёр.

І́МКІ *прым.* Востры. *Нож натачыў, добры, і́мкі стаў.* Пашкі Шарк. *Серп і́мкі, глядзі не парэж рукі.* Кураполле Паст.

ІМПА́Д *м.* Пах, дух. *Нейкі нядобры імпа́д ад печы ідзець.* Трыгубцы Віц.

ІМСЦІ́ЦЬ *незак.* Помсціць. *Ён мне так імсці́ў, што за другога пайшла.* Куціна Шум.

ІМША́Л *м., рэліг.* Зборнік каталіцкіх малітваў. *У кожнага ксяндза ёсць свой імша́л.* Чарневічы Глыб.

ІМША́РНІК *м.* Імшара; мохавае балота. *У нас у лясу ёсць вялікі імша́рнік.* Замачак Чаш.

ІНА́Ч *прысл.* Інакш. *Іна́ч сказаць нельга.* Обаль Шум.

ІНА́ЧЫ, ІНЕ́ЙШЫ *займ.* Іншы. *Абыкнавенныя нажы, как шчас, іна́чых ні было.* Бігосава В.-Дзв. *Іне́йшы хлопец хоць ба глянуў, а еты як ішоў, так і пашоў.* Зялёнка Пол.

ІНДЗЮ́ЧКА, ІНДУ́ШКА *ж.* Індычка. *Індзю́чка так важна ходзіць, хоць ты карону ёй надзявай.* Слабада Міёр. *Паглядзі, ці мае інду́шкі ў двары.* Лялеўшчына Гар., Сарочына Уш.

ІНДЫ́ЧЫЦЦА *незак., перан.* Насупліваццa, хмурыцца. *Ну чаго ўжо дуешся, чаго інды́чышся?* Новы Двор В.-Дзв.

ІНСПЕ́КТЫ *мн.* Парнікі. *Хто гаворыць парнікі, а хто інспе́кты. Памідоры ў інспе́ктах содзім, перцы.* Андронавічы Віц.

ІРЖЫНІШЧА *н.* Іржышча, зжатае поле. *Нада іці на іржы́нішча салому грабці.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *На іржы́нішчы ўзяўся ў рост клевер.* Шэпелева Глыб.

ІРЖЫННЕ *н., толькі адз., зб.* Іржышча; астаткі сцяблоў ад зжатага збожжа на полі. *Надзень наскі, а то ножкі аб іржы́нне паколіш.* Надазер'е Глыб.

ІРЫНА́ *ж., толькі адз., с.-г.* Ярына. *Ірына́ – іравыя пасевы: ячмень, пшаніца.* Галубава В.-Дзв.

ІРЫЦЬ *незак.* Араць. *У нас после дажджу і́рыць нельга – многа гліны.* Савуткі Шарк.

ІРЯЦІК *м.* Ерэтык. *Ты ж іряці́к, нічаму ня верыш.* Зачарэўе Міёр.

ІСК *м.* Пчаліная разведка, пошукавы палёт пчол. *Іск паляцеў, патом рой паявіцца.* Стасева Лёзн., Сокарава Беш., Цяцеркі Віц.

ІСКРО́ЎНЫ *прым.* Іскрысты, бліскучы. *Вечарам , у ціхую пагоду, наша азяро такое іскро́ўнае.* Воўкаўшчына Міёр.

ІСПО́ДАК *м.* Сподак. *Хлебча з іспо́дка кацёнак малако.* Бачэйкава Беш. *Высып канхветы на іспо́дак.* Шантары Докш. *Дастань іспо́дкі з шафчыка.* Макаравічы Докш.

ІСПО́ДКІ, ІСПО́ТКІ *мн.* Рукавіцы. *Халодна, а ў мяне іспо́дак німа.* Дворышча Леп. *Нітак троху асталося, рабятам іспо́дкі зраблю.* Псуя Глыб. *Надзень іспо́дкі, а то сцюдзёна.* Дабея Шум. *Цёплыя іспо́ткі, сама вязала.* Бугаі Сен. *А ў мароз без іспо́ткаў з хаты ня выйдзеш далёка.* Азяркі Гар. *Пакапайся ў кладоўцы, знайдзі, з чаго бацьку іспо́ткі пашыць.* Мурагі Рас., Дзегцяры, Іказнь, Опса Брасл., Бачэйкава, Сокарава Беш., Асвея, Луначарскае, Стралкі В.-Дзв., Задуброўе, Сакольнікі, Стайкі Віц., Езярышча, Залучча, Іванаўка, Мяжа, Палова, Стадолішча Гар., Бортнікі, Касталянаўшчына, Квачы, Сасноўка, Чарневічы Глыб., Зарачыцак, Камайск, Тумілавічы Докш., Гарэлькі, Пірагі, Слабада Дубр., Зароўе Леп., Смародзіна, Дразды Лёзн., Дэмскія, Калінавая, Узмёны, Язна Міёр., Аліхверы, Ласіца, Перавознікі Паст., Грышына, Даўгабор'е, Забор'е Рас., Арэхаўна, Кугоні, Селішча, Старое Сяло Уш., Антаполле, Іванск, Кашчына, Красніца Чаш., Буеўшчына, Зачысцікі, Пашкі, Савуткі, Тупі́чына, Шыцы Шарк., Сянькова Шум.

ІСЦІЦЬ, ІЦІ, ІЦІЦЬ *незак.* Ісці. *У руках сілы німа, але ж ісці́ць трэба па ваду.* Мікіціха Шум. *Іці́ яму трэба было двоя сутак.* Стаі Леп. *Нада іці па левай старане – там сажалка будзе.* Іванск Чаш. *Пара іці́ свінням даваць.* Салаўёва Лёзн. *Дроў нада іці́ць прінесць.* Вадзянікі Гар. *Пака дамой іці́ць, падкряпіцеся.* Зачарэўе Міёр. ◊ ІЦІ Ў КАСУ – касіць. *Зранку збіраліся ў касу*

*іці.* Іванск Чаш. ◊ ІЦІ ПАД КАРОЎ – сустракаць статак з пашы. *Пара пад кароў іці, сонца заходзіць.* Астрэйкава Віц.

ІСЦЬ *незак.* Есці. *Садзіся ісць капусту.* Юнькі Паст. *Сабака ісць не можа.* Савуткі Шарк. *Увечары ўсігда ісць хачу.* Таўкіні Шарк.

ІХНЫ *займ.* Іхні. *Іхны сын такі пястун, з рук ні злазіць.* Турлы Паст. *Іхны малы маю карову загнаў.* Вяцера Чаш. *Іхны сабачонак паеў маіх цыплят.* Алексінічы Сен., Кошчава Беш., Котава Віц., Каралі Сен., Вяцера Чаш.

ІЦАЛКІ *мн., кулін.* Піражкі з мясам. *Зрабіла на вечар іцалкі.* Бароўка В.-Дзв.

ІЦІ, ІЦІЦЬ гл. ІСЦІЦЬ

ІШЧО, ІШЧЭ *прысл.* 1. Яшчэ; пакуль што, да гэтых пор. *Сонейка ішчо не ўзышло.* Свірэлі Паст. *Брат ішчо не прыйшоў.* Завуцце Міёр. *Мы ішчо не закончылі касіць.* Галі Беш. *Ішчэ не вярнуўся, але хутка будзе.* Зялёнка Пол. 2. Яшчэ; дадаткова, у дадатак да таго, што было або што ёсць. *А раскажу табе ішчо адну історыю.* Мардахі Дубр. *Ішчо сталі вербуваць у калхоз.* Дабрамыслі Лёзн. *А ішчо верас елі, ляпёшкі пяклі.* Каралі Сен. 3. Яшчэ; больш, у большай ступені. *Трыццатыя гады былі ішчо ціжалейшыя.* Папшулі Міёр. *Буслы адляцелі ішчо дальш.* Абольцы Тал., Арэхаўск, Рэпухава Арш., Андронавічы Віц.

# К

КАБАК *м.* Кабачок. *Кабакоў летась поўны гарод быў.* Беразіно Докш.

КАБАЛДАЙ *м., груб.* Гультай. *Жывець у нас тут адзін кабалдай, а робіць нійдзе не хочыць.* Езярышча Гар. *З кабалдаім етым разві ягад назбіраеш?* Залучча Гар.

КАБАНЕЦ, КАБАНЁНАК *м.* Парсюк. *Наш кабанец самы бальшы з усіх.* Мішкавічы Шум. *У нядзелю кабанёнка рэзаць будзем.* Царкавішча Уш.

КАБЕРАЦ *м.* Дыванок пад ногі. *Змяці шуму з каберца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Вазьмі каберац пад ногі, а то холадам знізу цягне.* Ваўчо Уш. *Гэтаму каберцу ўжо гадоў дзесяць – пара ў сені выкінуць.* Цяпіна Чаш.

КАБЗЮКОМ *прысл.* Моўчкі. *Шлі дамоў учорака з суседкай кабзюком: пасварыліся.* Новы Пагост Міёр.

КАБЛУК *м.* Абадок, дужка ў кошыку. *Каблук у кошыку ўчора зламаўся.* Закур'е Чаш.

КАБЛЮ́К *м., павел.* КАБЛУЧЭ́ШЧЫ *мн.* Абцас. *Я ўжо па старасці тухлі з каблюкамі не нашу.* Варапаева Паст. *Як ты на такіх каблучэшчах дойдзеш?* Гарбацэвічы Арш.

КАБЫЗІ́ЦЦА, КАПЫЗІ́ЦЦА *незак.* Упарціцца. *Хваціць ужо кабызіцца, надаела.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Што ты, як дзіцё, капызішся?* Звязда Леп.

КАБЫ́ЛА[1] *ж.* Ляжанка на печы. *Не прыгайце на печы, кабылу праломіце.* Чарневічы Глыб.

КАБЫ́ЛА[2], *памянш.* КАБЫ́ЛКА *ж., бат.* Грыб валуй. *Кабылы тоўстыя, бальшыя, укусныя, хоць чорныя і страшныя.* Дразды Беш. *Кабыл у лесе поўна.* Грыцы Глыб. *Кабылы ўпярод не бралі, а цяпер во ядуць.* Пралетарыя Уш. *Насабірала ўчора поўнае вядро кабылак.* Азярок Арш., Латыгаль Сен. *К вечару спяку бліноў з кабылак.* Грыцы Глыб.

КАБЫЛЯ́НЕЦ *м.* Канава, дзе працякае ручэй. *З кабылянца раней уся дзярэўня ваду піць брала.* Чарневічы Глыб.

КАВАДЭ́ЛАК *м.* Бабка, металічнае прыстасаванне на калодцы для біцця касы. *Раней, бывала, як касіць іду, бяру маленькую калодку з кавадэлкам.* Сіўцы Паст.

КАВАЛЕ́Р *м., абрад.* Вечар, збор гасцей перад вяселлем у доме жаніха. *А калі ўжэ маліц жэніцца, тады вечар называецца "кавалер".* Шаркоўка Леп.

КАВА́ЛЬ *м., заал.* Попаўзень. *Вун каваль па ствалу ўніз пабег.* Даўгінава Міёр.

КАВЕ́ЛЬНЯ *ж.* Качарэжнік. *Каля печы ўсягда – кавельня.* Партызанаўка Віц. Параўн. *камешнік, качарэжня.*

КАВЕ́НЯ, КАВЭ́НЯ *ж.* Качарга. *Кавеня грязная – не стукай па палу, сынок.* Скрыдлева Віц. *Пастаў кавеню к печкі.* Баршчоўка Віц. *Падбяры кавэню. Чаго валяецца?* Цяцеркі Брасл. Параўн. *камяня, кацубешка, качорга, качэрга.*

КА́ВЕРЗА *ж.* Інтрыга, падкопы з мэтай заблытаць, ускладніць якую-н. справу, нашкодзіць каму-н. *На яго не надзейся: зробіць каверзу ў любы момант.* Стаі Леп.

КАВІ́НЬКА *ж.* Кій, палка для апоры пры хадзьбе. *Дай кавіньку, а то ня ўстою на нагах.* Макаравічы Докш. Параўн. *клюка.*

КАВУ́Р *м., заал.* Нырок. *На гэтым возеры кавура первы раз увідзеў.* Маргойцы Сен.

КАВЫ́ЛКА *ж.* Кавяла, самаробны драўляны пратэз для нагі. *На сваёй кавылцы толькі да лаўкі й дайду.* Вялікая Пярэспа Сен.

КАВЫЛЯ́ЦЬ *незак.* Ісці марудна, пакульгваючы. *Кавыляю во патроху.* Мазалава Віц.

КАВЭ́НЧЫЦЦА *незак.* Пакутаваць, мучыцца ад фізічнага болю. *Кавэ́нчыцца другі дзень: пабілі на танцах моцна.* Урбаны Брасл.

КАВЭ́НЯ гл. КАВЕ́НЯ

КАВЯЛА́[1] *ж.* Сажань, прылада для абмервання зямельных участкаў. *Адной кавялой гэта поле будзем мераць дзень.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прайдзі з кавялой ды правер, ці так памералі мне.* Забор'е Глыб. *Кавялой поле абмяраюць.* Завячэлле Уш. Параўн. *каза́*[1], *ко́за* ў 1 знач., *ківа́ла.*

КАВЯЛА́[2] *ж.* і *аг.*, КАВЁЛЫ *мн.* 1. Мыліца, палка з папярочынамі, на якую рукой апіраецца хворы на нагі. *Старая я ўжо, без кавялы хадзіць не магу.* Турлы Паст. *Цяпер во месяц на кавёлах хадзіць буду.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *груб.* Нага. *Ён другі год на адну кавялу́ падкульгіваець.* Ластавічы Глыб. *Кавёлы ўжо мае хадзіць не хочуць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. *перан., груб.* Чалавек, які кульгае. *Ах ты кавяла́, як да работы – дык нага баліць.* Грэцкія Міёр. Параўн. *клыбу́н, крыві́ндзя, крыву́ля.*

КАГАДЗЭ́ *прысл.* Толькі што, нядаўна. *У горад кагадзэ́ ездзіла.* Грабяніца Віц. *Кагадзэ́ з турмы вярнуўся, а жонка ўжо з другім.* Прыпернае Глыб. *Кагадзэ́ сын з горада прыязджаў, усю работу пераробіў.* Вялікае Балота Рас.

КАГА́Л *м.* 1. Гурт, кампанія, зборышча. *Пад клубам сабраўся цэлы кага́л.* Заполле Арш. *Вядзі свой кага́л ка мне бульбу капаць.* Пралетарыя Уш. Параўн. *ко́дла*[1], *ку́нда.* 2. Шум, крык. *Унукі з горада сёння пріехалі, дык у хаці кага́л стаіць.* Канашы Гар.

КАГА́ЛАМ *прысл.* Сумесна, гуртам, усе разам. *Хату пасля пажара кага́лам строілі.* Ноўка Гар. *Кага́лам бульбу выкапалі маментам.* Драгуны Міёр.

КАГА́ЛЬНЫ *прым.* Грамадскі. *У сваёй бані лепш памылася, чым у тэй кага́льнай.* Смалоўка Сен.

КАДА́, КЕДЫ́ 1. *прысл.* Калі. *Када́ бацька на работу пойдзіць?* Баршчоўка Віц. *Кеды́ гэта ўсё скончыцца?* Стаі Леп. 2. *злуч.* Калі. *Када́ работаць нада, яго німа.* Слабада Шум.

КАДЗІ́ЛА[1] *н.* Кацёл. *Наклала бульбы поўнае кадзі́ла, чуць у печ паставіла.* Аржанава Міёр.

КАДЗІ́ЛА[2] *ж., абразл.* Непрыгожая, знешне непрывабная жанчына. *Не жонку выбраў, а кадзі́лу нейкую.* Смалоўка Гар.

КАДР *м.* Смешная гісторыя, анекдот. *Ён такія ка́дры гаворыць, памерці ад смеху можна.* Партызанаўка Віц.

КАДРЭ́ЛЬ, КАДРЭ́ЛЬ, КАДРЭ́ЛЯ *ж.* Танец кадрыля. *Так кадрэ́ль танцавалі, што дрэвы калыхаліся.* Пішчалава Арш.

*Кадрэ́ль усе ўмелі танцаваць.* Машчоны Сен. *Цяпер танцы абыякія, а раней кадре́ля была.* Дабея Шум.

КАДУ́БА *ж.* Кадаўб, бочка, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка дрэва. *Была і ў нас каду́ба, а цяпер яе на дровы пусцілі.* Ракаў Засценак Сен. Параўн. *ко́дла* [2].

КАДУ́ШКА *ж., перан., абразл.* Тоўстая, непаваротлівая дзяўчына ці жанчына. *Ого, якую каду́шку сабе ў жонкі ўзяў!* Міхалінава Лёзн.

КАЕ́Т *м.* Сшытак. *Дай мне свой кае́т, пагляжу, што вы там пішаце ў школе.* Шэпелева Глыб. *Як у магазін пойдзеш, малому не забудзь кае́таў купіць.* Суша Леп.

КАЖА́Н, КАЖАНЁНАК *м., перан.* 1. Дзіця. *Суседаў кажа́н зноў у мой гарод лазіў.* Колпіна Сен. *Ён яшчэ кажа́н.* Мікалаева Шум. // Малога росту, бруднае, запэцканае дзіця. *Учора твой кажанёнак ля нас там бегаў, саўсім ты за ім глідзець пірістала.* Вярэчча Гар. 2. *зневаж.* Фізічна слабы, малога росту чалавек. *Кажану́ этаму з людзьмі работаць нільзя – такій ён злый.* Іскра В.-Дзв. *Не мужчына, а кажа́н нейкій.* Казловічы Гар. Параўн. *кара́к, ку́цік.*

КАЖАНА́ТЫ *прым.* Хілы, маларослы, фізічна слабы. *Ейный маліц сёліта школу ўжэ кончыў, а такей кажана́ты, каб ты відзела.* Казловічы Гар. Параўн. *кару́злы, кілава́ты, кіла́ты* ў 1 знач., *курда́ты, курта́ты* ў 1 знач., *крапялю́ткі.*

КАЖАНЁНАК гл. КАЖА́Н

КАЖА́РА *ж.* Кажух. *Патрымай маю кажа́ру, пайду барыню аджару.* Коравічы Чаш.

КА́ЖДНЫ, КА́ЖДЫ, КА́ЖНЫ, КАЖЫ́НЫ 1. *займ.* Кожны, усякі. *Зімой ка́жны дзень печ тапіць нада.* Казловічы Гар. *Кажы́ны дзень адно і тое.* Ясева Міёр. 2. *у знач. наз.* Кожны, усякі чалавек. *Ка́ждны сам за сябе.* Варапаева Паст. *У дзярэўні яе ка́жды знаіць.* Папшычы Міёр. *Ка́жны ніхай што хочыць, то й робіць.* Баршчоўка Віц. *Ка́жны зрабіў бы так, як і ты.* Нямойта Сен.

КАЖЫ́СЯ *пабочн. сл.* Здаецца. *Ну, кажы́ся, усё зрабіла, як ты казаў.* Свяча Беш.

КАЗА́[1], КО́ЗА *ж.* 1. Сажань, прылада для абмервання зямельных участкаў. *Брыгадзір увесь дзень сёння ў нас тут з казо́й хадзіў.* Баравікі Сен. *І як тая ко́за магла зламацца?!* Багушэўск Сен. Параўн. *кавяла́* [1], *ківа́ла.* 2. Рагаціна, палка з развілінай. *Вазьмі казу́ і знімі боты са сцяны.* Узмёны Міёр. 3. Каліва цыбулі. *Вырвала адну казу́ з градкі, дык маленькая цыбулька яшчэ.* Шылкі Сен. Параўн. *казе́ліца.*

КАЗА́[2] *ж.* Сетка для лоўлі рыбы. *Возьмем казу́ ды на возера вечарком.* Баяры Чаш.

КАЗА́[3] *ж.* Нязжаты клін поля, які застаецца ў працэсе жніва паміж жнеямі. *А я жала, зжалася, ды на казе́ асталася.* Кветча Леп.

КАЗА́Н, КО́ЗАН, *памянш.* КАЗАНО́К *м.* Кацёл з чыгуну, саган. *Свінням мешанкі наваріла цэлый каза́н, на два дні хваціць.* Вярэчча Гар. *У казане́ ежа свінням стаяць будзіць – пакорміш.* Смалоўка Гар. *У ко́зане добрая вуха палучаецца.* Янкавічы Рас. *Суседзі былі зайшлі, дык цэлы казано́к бульбы, што ў печ ставіла, з гуркамі з'елі.* Кульгаі Глыб. *У мяне многа казанко́ў – і бальшых, і малых.* Ларынаўка Арш.

КАЗЕ́ЛІЦА *ж.* Каліва цыбулі. *Казе́ліцы ў нас поўны палісаднік.* Забор'е Сен. Параўн. *каза́*[1] ў 3 знач.

КАЗЁЛ[1] *м., часцей* КАЗЛЫ́, КАЗЛЮКІ́ *мн.* Ко́злы, падстаўка для пілавання дроў у выглядзе бруса на чатырох ножках, збітых крыж-накрыж. *Нада казёл быў бы новы.* Забалацце Леп. *Казёл нада новы здзелаць: скора дровы пііліць будзем.* Рошчына Сен. *Ты казлы́ ў старану адстаў.* Кавалі Глыб. *Бывала, казлюкі́ любэй хазяін зробіць, а ціперь ліняцца ўручную пііліць.* Сураж Віц. Параўн. *ко́нік.*

КАЗЁЛ[2], КАЗЯЛО́К[1] *м., бат.* Казялец, люцік; травяністая расліна з ядавітым сокам і жоўтымі кветкамі,. *А казло́ў на выгане ў нас аж жоўта*! Азярцы Глыб. *Што там за трава, адны казлы́ еты жоўтыі.* Мурагі Рас. *Казяло́к во етый, што жоўтым цвіце, дужа едкій.* Сураж Віц. *На полі многа іх, гэтых казялко́ў.* Дразды Бешь. *І нагуляліся, і казялко́ў назбіралі.* Старынкі Глыб.

КАЗЁЛ[3], КАЗЯЛО́К[2] *м., заал.* Насякомае конік. *Сёння нешта як ніколі казлы́ стракочуць.* Зазерыца Чаш. *Як карову пасціла, казлы́ на полі спакою ні давалі.* Канашы Гар. *Казлы́ – харошая нажыўка на язя, галаўня.* Гараны Пол. *Казя́лкі так на пожні стракочуць, што аглохнуць можн.* Кубелеўшчына Шарк. *Ідзі на казялко́ў паглядзі.* Дамашы Брасл.

КАЗЁЛ[4], КАЗЛЮ́К *м., бат.* Грыб казляк; масляк. *Вон казёл на пясочку, паглядзі, ці чарвівый.* Канашы Гар. *Пакуль казлы́ пачысціш, усе рукі чорныя будуць.* Баяноўшчына Пол. *Грыбо́ў калі другіх к восені ня будзе, дык і казлы́ пазбіраюць.* Дроздава Тал. *Кожачку з казло́ў злупіш, а яны тады слізкія такія.* Пралетарыя Уш. *Казлюкі́ на мху расці любяць.* Грыцы Глыб.

КАЗЁЛ[5] *м., бат.* Гронка. *Сёлета казлы́ арэхаў, як ніколі, вялікія, буйныя.* Мельніца Шарк. Параўн. *кісце́нь.*

КАЗЁНКА *ж.* Гарэлка заводскай вытворчасці. *К святу трэба пару бутэлек казёнкі купіць.* Прошкава, Псуя Глыб.

КА́ЗІКІ *мн.* Суквецці на вярбе ў час яе цвіцення, коцікі. *Ка́зікаў сходзі нарві ды ў банку паставім.* Дабрынь Дубр.

КАЗІНА́, КАЗРІ́НА *ж., бат.* Шорсткая дзікая трава. *Сена там дрэннае будзе: адна казіна́.* Латыгаль Сен. *Казіну́ карова есці не хоча.* Забор'е Сен. *Казрі́на ўсе ногі спаласавала.* Шарагі Міёр.

КАЗЛІ́ЦЦА[1] *незак., заал.* Каціцца, нараджаць дзіцянят. *Позна сёлета мая каза казлі́цца будзе.* Наваселле Уш.

КАЗЛІ́ЦЦА[2] *незак., груб.* Фанабэрыцца, важнічаць. *Ды хваціць табе казлі́цца, надаела ўжэ.* Мазалава Віц.

КАЗЛУ́ХІ *толькі мн., бат.* Зборная агульная назва ядомых грыбоў (акрамя баравікоў). *У лесе бліжнім, што за лугам, казлу́х хоць касой касі.* Шарагі Міёр.

КАЗЛЫ́ гл. КАЗЁЛ [1]

КАЗЛЮ́К гл. КАЗЁЛ [4]

КАЗЛЮКІ́ гл. КАЗЁЛ [1]

КАЗЛЯНЁНАК гл. КАЗЯЛО́К [3]

КАЗРІ́НА гл. КАЗІНА́

КАЗЫТО́К *м.* Бародка ў рыбалоўным кручку. *Калі нет казытка́ на кручку, дык што ж на яго тады зловіш!* Крывое Сяло Шум.

КАЗЫЯ́ТКА *ж.* Безрукаўка. *Ну ў цябе й казыя́тка, кароценькая ж дужа.* Язна Міёр.

КАЗЮ́ЛЬКА *ж.* Нізкі самаробны стульчык. *Саўсім казю́лька зламалася.* Сушчова Віц. *Вазьмі казю́льку й сядзь.* Вярэчча Гар. *Бабуля сваю казю́льку ні на што не прамяняе.* Узмёны Міёр.

КАЗЮ́РКА, КАЗЯ́ШКА *ж.* Казяўка, кузурка. *Закрый малако на полі крышкай, каб казю́ркі не ўваліліся.* Грамошча Пол. *Глядзі, на плячэ нейкая казю́рка поўзаіць.* Ваўчо Уш. *Казя́шка па ціве паўзець.* Канашы Гар.

КАЗЯЛОК[1] гл. КАЗЁЛ [2]

КАЗЯЛОК[2] гл. КАЗЁЛ [3]

КАЗЯЛО́К[3], КАЗЛЯНЁНАК *м.,* КАЗЯНЯ́ *н.* Казляня. *Усё прыгаіш, як той казяло́к.* Канашы Гар. *Ідзі на казялка́ палюбуйся.* Мікалаёва Міёр. *Казлянёнка ўвосень заб'ём.* Свяча Беш. *Два казлянёнка кала казы бегала.* Лялеўшчына Гар. *Нійдзе казлянёнка ні відаць.* Канашы Гар. *Етае казяня́ лезець куды папала.* Мікіціха Шум.

КАЗЯЛО́К[4] *м., іран.* Аўтамашына УАЗ. *Пранёсся, гляжу, казяло́к аграномаў па дарогі.* Ноўка Гар. *Да Міёр на казялку́ даехалі.* Мікалаёва Міёр.

КАЗЯНЯ́ гл. КАЗЯЛО́К[3]

КАЗЯ́ШКА гл. КАЗЮ́РКА

КА́ІЦЬ *незак.* Казаць. *Не чую, што ты каі́ш там.* Узмёны Міёр.

КА́ЙБУЛ *м.* Кумпяк. *Думала ка́йбул скапціць.* Баршчоўка Віц.

КАЙКІ *толькі мн.* Канец, смерць. *Добра, што зачапіўся, а то кайкі былі б.* Звязда Леп.

КАКЕТАВАЦЬ *незак.* Какетнічаць. *І ў наш час, бывала, дзеўкі какетавалі.* Узмёны Міёр.

КАКОРА, КАКОРКА, КАКОРЫНА *ж., кулін.* 1. Тоўсты блін з бульбы ці мукі. *Баба, спякі какору.* Іказнь Брасл. *Схапіла гарачую какорку ў руку.* Буеўшчына Шарк. *Какорыну спяку, усыплю мукі, соды і вады дабаўлю – пухлейшая ад соды.* Лісна В.-Дзв. *Добрая хазяйка, ужо і какорыну ўспела спячы.* Снегі Міёр. 2. Выраб з мукі, пячэнне. *Сёння какоркі сухенькія, на жыру.* Мельніца Шарк.

КАКОШНІК *м., бат.* Капытнік. *Во ўжо распладзіўся гэны какошнік паўсюль.* Грыцы Глыб.

КАЛА *прыназ.* Каля. *Кала хаты цэлый сад у нас: і яблынькі, і слівы.* Баршчоўка Віц. *Сядзём, бывала, кала хаты.* Канашы Гар. *Летась у гародзе кала яблынак бульбу пад лапату садзіла.* Нямойта Сен. *Хараводы водзяць кала кастра.* Іванск Чаш.

КАЛАБАН *м.* Гліняны гарлач. *У калабан цадзілі малако.* Лазы Тал.

КАЛАБОК *м., кулін.* 1. Булачка, выраб з цеста. *Уставайце, дзеткі. Калабкоў напякла цэлую міску.* Сарочына Уш. 2. Кавалак цеста круглай формы. *Мама ў руках такія калабкі круціла, а пасля рэзала іх і піражкі ляпіла.* Казловічы Арш.

КАЛАБРОДЗІЦЬ *незак.* Сваволіць, паводзіць сябе неспакойна. *Мужык мой чарку нюхнець і пашоў калабродзіць – натура ў яго такая.* Баева Дубр.

КАЛАВУРЫ *прым.* Слепаваты. *Сустрэўся мне дзед калавуры на старажоўцы.* Беразіно Докш.

КАЛАВУРЫЦЬ *незак.* Сцерагчы, вартаваць; каравуліць. *А немцы калавурылі гэты мост пастаянна.* Галбея Паст. *Калавурыць яе я не буду.* Ветрына Пол. *Бабка свой гарод кожную ноч калавурыць.* Завыдрына Уш. *На Купала спаць не прыйдзецца: хазяйства будзем калавурыць.* Сарочына Уш.

КАЛАМУТ *м.* Вір. Ужо *год, як прапаў. Кажуць, што на рацэ ў каламут папаў.* Арханава Міёр.

КАЛАНАТЫ *прым.* Цвёрды, каляны. *Штаны змоклі і ў гразі былі, а зараз каланатыя зрабіліся.* Кавалі Глыб.

КАЛАНІЦА *ж., толькі адз.* 1. Дзёгаць. *Улез у каланіцу на сваёй рабоце.* Бораўна Леп. 2. Масла. *Любіць дужа хлеб з каланіцай.* Партызанаўка Віц.

КАЛАНУЦЬ *зак.* Калатнуць, патрэсці. *Каланіце яблыні сначала.* Горкі Леп. *Калані тую слівіну, што ля бані, ды сліў у хату прынясі.* Канашы Гар.

КАЛАПНЯ́ *ж.*, КАЛАПНІ́ *мн.*, *бат.* Каноплі. *Люблю я кашу з калапні. Шкода, што нільзя ціпер калапню́ вырошчываць.* Сахнавічы Глыб. *З калапні́ вяровачкі рабілі.* Галбея, Куніцкія Паст. *Раней усе хадзілі калапні́ на поле збіраць.* Павулле Уш.

КАЛАРА́К *м.*, *заал.* Каларадскі жук. *Калара́кі сёлета бульбу апанавалі.* Відзы Брасл.

КАЛАСАВІ́К *м.*, *заал.* Лешч, які нерастуе падчас каласавання жыта. *Каласаві́к нерастуе, калі жыта каласуецца.* Леснікі Глыб.

КАЛАСІ́НЫ *толькі мн.* Адкіды з каласоў збожжа. *Каласі́ны карове запарым.* Груздава Паст.

КАЛАСНІКІ́ *мн.* Жэрдкі ў асеці, на якія кладуць снапы для прасушвання. *Каласнікі́ ўжо падгнілі, мяняць пара.* Камаі Паст.

КАЛАССЁ́ *н.*, *зб.* Калоссе. *Калассё́ шуміць – жаць пара.* Шарагі Міёр.

КАЛАСУ́ШНІК *м.*, *бат.* Каласавік, баравік, які расце ў час каласавання жыта. *Пакуль кароў пасвіла, паўвядра калсу́шнікаў набрала.* Шарагі Міёр.

КАЛАТНЯ́ *ж.* Размешаная гразь, калатуша. *Па двары не прайсці – калатня́ адна.* Ветрына Пол. Параўн. *калату́ха* [1] ў 1 знач.

КАЛАТО́ЎКА[1] *ж.*, *перан.*, *асудж.* Гаваркая, балбатлівая жанчына. *Маўчы ты, калато́ўка тая.* Бачэйкава Беш.

КАЛАТО́ЎКА[2] *ж.*, *бат.* Скрыпень. *Во ўжо й калато́ўкі ля лесу распусціліся.* Варашылы Сен.

КАЛАТУ́Н *м.* 1. Моцны мароз. *Ну й калату́н сёння!* Івоніна Шум. *Які ж калату́н на дварэ – усё памерзне.* Вялікае Балота Рас. 2. Ліхаманка. *Калату́н б'е – захварэю.* Макаравічы Докш.

КАЛАТУ́ХА[1] *ж.*, *толькі адз.* 1. Калатуша, размешаная гразь. *На дарозе такая калату́ха, аж па трубкі ў калёсах.* Моханава В.-Дзв. *Апяць у калодцы адна калату́ха стаіць.* Туркова Міёр. *За мастом калату́ха – машына не пройдзе.* Більдзюгі Шарк. 2. Калатуша, негустая страва з раскалочанай у вадзе ці малацэ мукі, зацірка. *Калату́ху, бывала, часта варылі, а цяперака такое не ядуць.* Дворышча, Звязда Леп. *Не вары нічога болей: калату́хі з'ядзім.* Смалоўка Сен. 3. Пойла з запаранай мукі. *Цілятам калату́ху толькі давай, харашо п'юць.* Калінава Віц.

КАЛАТУ́ХА[2], *памянш.* КАЛАТУШКА *ж.* Калатоўка, прылада ў выглядзе палачкі з сучкамі на ніжнім канцы, якой таўкуць бульбу, збіваюць масла або размешваюць што-н. *Калату́ха мая старая, новая нада.* Курылаўшчына Беш.*Дзе ўжэ калату́шку падзела?* Бачэйкава Беш. *Сёдні здзелаем бульбы талчонай, тока к саседкі за калату́шкай нада збегаць.* Навасёлкі Віц. *Здзелала сама калату́шку ўчора.* Езярышча Гар.

КАЛАТЫ́РІЦЦА *незак.* Бавіцца, безвынікова, бескарысліва чакаць чаго-н. *Ідзі к абеду, чаго там рана калатыріцца?* Мазалава Віц.

КАЛАЦІ́ЦЬ *незак.* Збіваць. *Давай бойку – буду масла калаціць.* Забор'е Рас. *Калаціла масла ўвесь вечар.* Залессе В.-Дзв.

КАЛБА́Н *м.* Плецены з лазы гаршчок, збан. *Раньшэй бабы самі калбаны плялі.* Скрыпкі Гар.

КАЛБАСІ́НА, КАРБАСА́, КІЛБАСА́, КІЛБА́СІНА, КІЎБАСА́, *памянш.* КІЛБА́СКА *ж.* Каўбаса; кальцо каўбасы. *Калбасіну з сабой на работу вазьмі.* Вярэчча Гар. *Сёлета саўсім мала карбас здзелалі.* Верхняе Глыб. *Фарш здзелала, ціперь кілбасы чыніць нада.* Котава Віц. *Кілбасы купі, рыбы якой даражэйшай.* Мельніца Шарк., Кулакова Віц., Макаравічы Докш., Верамееўшчына Дубр. *Дзве кілбасіны яму ў сумку паклала, а ні хацеў.* Канашы Гар. *Кілбасіну на скавароду ўскіну, павячэріім.* Казловічы Гар. *Схадзі за кіўбасой.* Сураўні Шум. *На Раство нада, каб кілбаска на стале была абізацільна.* Яроненкі Гар.

КАЛБА́СНІК *м., іран.* Ахвотнік да каўбас. *Калба́снік етыт нічога не есць.* Канашы Гар. *Калба́снік ён у мяне харошый, толька свінней не хочыць пасціць.* Баева Дубр.

КАЛБА́СНІЦА *ж.* Скрыня для захоўвання сала і каўбас. *Дастань з калба́сніцы кальцо калбасы́.* Новае Сяло Сен.

КАЛГАСІЗА́ЦЫЯ *ж.* Калектывізацыя. *Добра помню, як калгасіза́цыя была.* Узмёны Міёр.

КАЛДАМЭ́Й *м., абразл.* Чалавек высокага росту. *Гэтат калдамэ́й у дзверы не праходзіць.* Антонаўка Арш.

КАЛДУ́Н, КАЛТУ́Н *м.* 1. Каўтун, зблытаны, збіты пук валасоў. *Дзеванька мая, калі не будзіш расчэсываць утрам валасы, то яны ў калду́н саб'юцца.* Навасёлкі Віц. *У цябе тут цэлы калту́н – рэзаць нада.* Рошчына Сен. *Жывога места на галаве нет – адны калдуны́.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *груб.* Валасы. *Калдуны́ сваі прічашы.* Канашы Гар.

КАЛДЫБА́СІЦЬ *незак., экспр.* Кандыбаць, ісці няўклюдна, кульгаючы. *Некуды калдыба́сіць твая свякрова, ці не вас атведываць.* Баева Дубр. Параўн. *кананы́хаць.*

КАЛДЭ́ЧЫЦЬ *незак., экспр.* Размаўляць на незразумелай мове. *Чуім – аж немцы калдэчуць, дык мы ў лес адразу ж.* Гута Паст.

КА́ЛЕВА *прысл.* Крыху, нямнога, у невялікай колькасці. *Насабіралі ка́лева грыбоў, можна было большы.* Нямойта Сен.

КАЛЁКА *м., заал.* Мянтуз. *Калёка абычна пад карчамі ў ямах стаіць.* Заазаер'е Тал. *Учора аднаго калёку толькі і злавіў.* Ваўчо Уш. *Калёкі на жаб бяруцца добра.* Баяры Чаш.

КАЛЕ́ННЕ *н., зб.*, КАЛЕ́НЬКІ, КО́ЛЕНЦЫ *толькі мн.* Калені. *Што хочаце грейце, ці кале́нне, ці шмаленне, а калі кроў не грэіць, нічога не паможыць.* Баева Дубр. *Наказывалі нас так: ставілі на кале́нькі ці білі лінейкамі па руках.* Узмёны Міёр. *Дзеўкі зараз спадніцамі сваімі ко́ленцы не прыкрываюць.* Замачак Чаш.

КАЛЁДЫ *толькі мн., абрад.* Каляды. *Бывала, украдзем сані на Калёды.* Езярышча Гар.

КАЛЗА́ЦЦА *незак.* Коўзацца, катацца па слізкай паверхні. *Ён і без канькоў бяжыць ды калза́ецца.* Моханава В.-Дзв.

КАЛІВО́ *н.* Каліва, асобная сцяблінка, галінка гародніны. *Жара – каліво́ ў бульбы ніякае.* Грыцы Глыб.

КАЛІДО́Р *м.* Сені. *Калідо́р пасля памыеш, ідзі еш.* Канашы Гар. *Соль у калідо́ры на акне.* Гарэлькі Дубр.

КАЛІДО́РЧЫК *м.* Клас у школе. *Закончыла я ўсяго два калідо́рчыкі.* Заазер'е Пол.

КАЛІ́ЛЬ *прысл.* Калі-небудзь, у які-небудзь няпэўны час. *Калі́ль пашкадуюць, адумаюцца й яны.* Слабада Віц.

КАЛІ́Т *прысл.* Калісьці. *Калі́т яшчэ мой хазяін мае бліны хваліў.* Чарневічы Глыб.

КАЛІ́ТКА *ж.* Каліта, паходная торба, сумка. *Злажыў бы ўсё ў калітку, лягчэй нясці было б.* Тупічына Шарк.

КАЛІ́ЎЕ *н., зб.* Бацвінне бульбы, цяўнік. *Калі́ўе на бульбе пасохла, убіраць пара.* Гута Паст. *Калі́ўе тоўстае – касіць цяжка будзе.* Заазер'е Тал.

КАЛО́ДЗЕЗЬ, КАЛО́ДЗІСЬ *м.* Калодзеж. *Хажу за халадзёнкай да кало́дзезя.* Канева Сен. *З кало́дзіся вадзічка чысценькая, укусная, ня то што ваша з крана: хлоркай пахніць, у рот ні ўзяць.* Асавец Беш. *Дождж прашоў, вады ў кало́дзісі многа.* Вадзянікі Гар. *Кало́дзісь за хатай будзем капаць.* Канашы Гар.

КАЛО́ДЗЕНЬ *м.* Калода, на якой колюць дровы. *Палена ён ложыць на кало́дзень і рубіць.* Звёздная Арш. Параўн. *кало́тва.*

КАЛО́ДЗІСЬ гл. КАЛО́ДЗЕЗЬ

КАЛО́ДКІ *толькі мн.* Самаробны абутак на драўлянай падэшве, дзеравяшкі. *Раней, як маладая была, кало́дкі насіла – дужа модныя былі.* Бачэйкава Беш. *А што вы думаеце: і ў бахілах на вечарынкі хадзілі, а ўжо калі дзеўка ў кало́дках прыйдзець – усе хлопцы яе.* Задуброўе Віц.

КАЛО́ТВА *ж.* Калода, на якой колюць дровы. *Кало́тва ад дажджу падгніла ўжо.* Чашнікі. Параўн. *кало́дзень.*

КАЛО́Ш *м.* Галёш. *Во бегла, што й кало́ш зваліўся.* Вярэчча Гар. *Кало́шы з сонца прыбяры, а то расклеяцца.* Антаполле Чаш.

КАЛТУ́Н гл. КАЛДУ́Н

КАЛТУ́ШКА *ж.* 1. Таўкач. *Калту́шкай бульбу натаўку, і ядзім тады.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тоўчаная бульба са смажаным салам. *На вячэру будзем есці калту́шку.* Янкавічы Рас.

КАЛТЫ́ГА *аг., асудж.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Ну ты, малая, калты́га! Хоць бы стол за сабой выцерла.* Папкі Міёр.

КАЛУБЕ́ЛЬ *ж.* Калыска, люлька. *Дзіця плачыць у калубелі, дужа громка плачыць.* Кветча Леп. *Яшчэ ў школе вучыцца, а ўжо калубе́ль з дзіцём.* Сар'я В.-Дзв. Параўн. *качэ́ля.*

КАЛУБЫ́ШКА *ж., кулін.* Страва, прыгатаваная з тоўчанай бульбы і грыбоў. *Увосень самая яда – калубы́шка: усё сваё – і з гарода, і з лесу.* Якубова Рас.

КАЛУМЕ́С, КУЛАМЕ́С, КУЛУМЕ́С *м.* Вэрхал, беспарадак. *Развіла калуме́с у хаці.* Ноўка Гар. *Нейкі куламе́с творыцца.* Канева Сен. *У іе на дваре ні разу парадку ні было, кулуме́с усігда.* Канашы Гар.

КАЛУПА́ЦЦА, КАЛЫПА́ЦЦА *незак., экспр.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Калупа́юся нешта ўвесь дзень, што здзелала?* Ноўка Гар. *Хваціць калыпа́цца ўжо, пайшлі.* Асвея В.-Дзв. Параўн. *ке́шкацца, кны́пціцца, ко́бацца.*

КАЛУПА́ЦЬ, КАЛЫПА́ЦЬ *незак., перан.* Вязаць, плесці кручком, пруткамі. *Усю восень калупа́ла – во й кофтачка нічога палучылася.* Канашы Гар. *Сяду каля акна ды буду наскі калыпа́ць патроху.* Залучча Гар. Параўн. *крапа́ць* [2].

КАЛЫМА́ГА *ж., перан., іран.* Стары аўтамабіль. *Стаіць ягоная калыма́га ля двару, нікуды ён ні ездзіць.* Сокарава Беш.

КАЛЫПА́ЦЦА гл. КАЛУПА́ЦЦА

КАЛЫПА́ЦЬ гл. КАЛУПА́ЦЬ

КАЛЫ́СКА *ж.* Арэлі. *Глядзі, не стукні малога, як будзеце катацца на той калы́сцы.* Рускі Шум.

КАЛЫХУ́ЛІЦЦА *незак.* Кіпець, клекатаць ад пары. *Хутка бульба зварыцца – ужо калыху́ліцца.* Бірулі Докш. *Ці калыху́ліцца там вада?* Вераб'і Пол.

КАЛЬ *м., бат.* Куст. *Два ка́лі парэчак, што пад акном, абабрала.* Беразіно Докш.

КА́ЛЬВІН *м.* Злодзей, хуліган. *Закрывай дзверы, не дай бог якей ка́львін зайдзіць.* Смалоўка Гар.

КАЛЭ́ШНЯ *ж.* Дрывотня, хлеў або павець для дроў. *Схадзі ў калэ́шню ды смалякоў пару прынясі.* Замхава Глыб.

КАЛЮ́Н *м., заал.* Рыба ёрш. *Мальцы маі адных калюно́ў учора з рыбалкі пріняслі.* Жыгалава Віц.

КАЛЮ́ЧКА *ж., заал.* Рыба колюшка. *Калю́чак касцістых налавіў.* Шэпелева Глыб.

КАЛЮ́ЧКІ *мн.* Ігліца. *Уся зімля пад ёлкай у калю́чках.* Задуброўе Віц.

КАЛЮ́ШЧЫ *прым.* Бадлівы. *Не падхадзі блізка к етай карові: калю́шчая яна.* Вялікае Сяло Сен.

КАЛЯВІ́НА *ж.* Каляіна. *Як да калявіны на полі дайдзеш, вярні ўправа.* Промыслы Беш.

КАЛЯ́ДАЧКА *ж., заал.* Авечка, якая акацілася (прынесла прыплод) на Каляды. *У маёй каля́дачкі скора ізноў ягняты будуць.* Мар'янполле Брасл.

КАЛЯ́ДЗІЦА *ж., абрад.* Каляда, падарункі, атрыманыя ад гаспадара за віншаванне, песні. *Казалі, што вы набралі многа каля́дзіцы.* Сваташыцы Дубр.

КАЛЯ́ДНІЧАК *м., бат.* Кветка дзекабрыст. *А каля́днічак мой зімой цвіце.* Абольцы Тал.

КАЛЯДО́ЎНІК *м., абрад.* Калядоўшчык. *Во й калядо́ўнікі йдуць.* Іванск Чаш.

КАЛЯ́КАЦЬ *незак.* Гаварыць, размаўляць пра нешта. *Каля́каем з саседкамі па вечарам.* Раманава Гар. *Каля́калі доўга з дачкой.* Грыгаравічы Леп.

КАЛЯРО́ЎКА *ж.* Вясёлка. *Як дождж пройдзець, тада і каляро́ўка выглянець.* Амбросавічы Шум., Бораўна, Забалацце Леп.

КАЛЯСНІ́К *м.* Воз, калёсы. *Сена прывезлі цэлый каляснік.* Ліпаўкі Докш.

КАМА́Ш *м.* Чаравік. *Кама́шы, калі пачыніць, дык яшчэ куды-нібудзь і абуць можна.* Казловічы Гар. *Здзень правы кама́ш.* Буцавічы Паст.

КАМБАЙНЁР, КАНБАЙНЁР *м.* Камба́йнер. *Усё лета работаў камбайнёрам.* Папшычы Міёр. *Канбайнёры работаюць да дзісяці часоў.* Замшына Лёзн.

КАМБІНА́ШКА, КАНБІНА́ШКА *ж.* Камбінацыя, жаночая сарочка, якую надзяваюць пад сукенку. *Камбіна́шкі ў мяне ўсе новенькія ляжаць.* Велеўшчына Леп. *Канбіна́шку надзень, а то спіна голая.* Ноўка Гар.

КАМЕ́ЛЛЕ гл. КАМЛЮ́К

КАМЕ́НДУВАЦЬ *незак.* Камандаваць, загадваць. *Бацька толькі і мог, што каме́ндуваць.* Зубава Арш.

КАМЕ́ШНІК *м.* Качарэжнік. *Замяці, кажу пяты раз, шуму ў каме́шнік.* Запруддзе Глыб. Параўн. *каве́льня, качарэ́жня.*

КАМЛЫ́ЖКА *ж.*, КАМЛЫ́ЖЖА *н., зб.* Ком гразі ці зямлі. *А якія гульні ў нас былі: кідалі камлы́жкамі адзін у аднаго.* Гацькаўшчына Арш. *Камлы́жжам не кідайся!* Алексінічы Сен.

КАМЛЮ́К *м.*, КАМЕЛЛЕ *н.* Камель. *На траве каля варот – цэлая гара камлюкоў.* Полымя Сен. *А каме́лле ў дуба – утрох не абхваціш.* Дроздава Тал.

КАМО́ЛЫ *прым.* Бязрогі. *У стадзе ў нас і рагулі, і камо́лыя каровы ёсць.* Межава Арш. *У Сцёпчыхі карова камо́лая.* Новае Саколіна Тал. *І нашто яны камо́лую карову ўзялі сабе?* Сялец Чаш.

КАМО́ЎЕ гл. КАМЯ́К[1]

КАМСА́ЦЬ, КАМСІ́ЦЬ, КАМШЫ́ЦЬ *незак.* Камячыць, сціскаць у камяк; мяць, мясіць. *Цеста многа камса́ць няможна, бо цвёрдае будзіць.* Таўкіні Шарк. *Ну што ты камсі́ш гэта плацце?* Глазамічы Віц. *Не нада скацірку камшы́ць, нікрасіва будзіць.* Канашы Гар.

КАМШЫ́ЦЦА *незак.* Камячыцца, ператварацца ў камякі. *З учарашняга дня пацяплела, снег камшы́цца.* Мікалаёва Міёр.

КАМШЫ́ЦЬ *гл.* КАМСА́ЦЬ.

КАМЫ́ гл. КАМЯ́К[1]

КАМЯ́ГА *ж.* Човен. *Дзедава камя́га згніла.* Рускі Шум.

КАМЯ́К[1] *м.*, КАМЯКІ *мн.*, КАМО́ЎЕ *н.*, КАМЫ, КО́МЫ *мн.*, *кулін.* 1. Бульбяная каша, запраўленая салам, бобам ці гарохам. *На стале была міска з камяко́м, чаркі, гуркі ліжалі.* Астроўшчына Пол. *Камякі́ ніколі не прыядаюцца.* Кушлікі Пол. *Захадзі, садзісь, якраз бульба зварылася, камо́ўе стаўчом.* Маргавіца Докш. *Камы́ сёння не ўдаліся, мусіць, бульба не зварылася.* Бораўна Леп. *Мае любяць есці камы́ з варанай капустай.* Пусташы Пол. *Ко́мы ў печы к малаку бярыце.* Ліпаўкі Докш. 2. Клёцкі з дранай бульбы з начынкай. *Сёння ў кама́х разныі душы – і мясныі, і грыбныі.* Дзёрнавічы, Іскра В.-Дзв. *Учора зварыла камо́ў.* Арляны Сен. Параўн. *куту́лы, куцюры́.*

КАМЯ́К[2] *м., перан.* Нязграбны чалавек. *Такі ўжэ камя́к: усё з рук валіцца, за што не возьмецца.* Відзы Брасл.

КАМЯНЁК *м.* Костачка, семя ў пладах. *З вішан сначала ўсе камянькі́ падаставаць нада.* Ветрына Пол.

КАМЯНЯ́ *ж.* Качарга. *Камянёю жар выграбаюць ды ў яму яго.* Абаляны Брасл. Параўн. *каве́ня, кавэ́ня, кацубе́шка, качо́рга, качэ́рга.*

КА́НА, КА́НКА, КА́ННА *ж.* 1. Бітон, бітончык. *Учорака аставілі ка́ну на вуліцы – утрам ужо нету.* Сухавежа Міёр. *У ка́нку мама ягады ссыпала.* Апанаскавічы Уш. *Налі вады ў ка́нны ў бані.* Грыгаравічы Леп. Параўн. *ко́нва.* 2. Металічны адстойнік для малака. *Налі малака ў ка́ну.* Бігосава В.-Дзв. *У ка́нке малако да вечара далжно стаяць.* Крывасельцы В.-Дзв. *Люблю свежыя злеўкі з ка́нны.* Цясты В.-Дзв.

КАНАДА́ *аг., неадабр.* Назола, дакучлівы чалавек. *Адчапіся ты ад мяне, канада́.* Наваселле Уш.

КАНАЗА́ *аг., неадабр.* Капрызнае, наравістае дзіця. *Каназа́, а так нядрэнны хлопец.* Ушачы. *Забірай каназу́ сваю, зробіць нічога ні дае.* Камень Леп.

КАНАНЫ́ХАЦЬ *незак., экспр.* Ісці кульгаючы. *Хто гэта кананы́хае там кала саседа?* Курылаўшчына Беш. Параўн. *калдыба́сіць.*

КАНАПА́ЦІНЫ, КАНАПУ́ШКІ *мн.* Вяснушкі. *Усё ліцо канапа́цінамі ўсыпана.* Баева Дубр. *Усё ліцо ў канапу́шках.* Мазалава Віц.

КАНА́ПКА *ж., кулін.* Бутэрброд, булка з маслам ці каўбасой. *Кана́пку дык з ахвотай з'еў, а супу не хочыць.* Празарокі Глыб. *На свята розныя кана́пкі ў нас.* Бораўна Леп.

КАНАПЛЮ́К, КАНАПЛЯ́НІК *м., заал.* Верабей. *Наляцела ж канаплюко́ў.* Азярцы Глыб. *У лужы канапля́нікі купаюцца.* Савуткі Шарк.

КАНАПЛЯ́НКА *ж.* Цёплая хустка. *Прыбяры валася пад канапля́нку.* Крынкі Лёзн.

КАНАПУ́ШКІ гл. КАНАПА́ЦІНЫ

КАНАТУ́ШКА *ж.* Газоўка, самаробная газавая лямпа без шкла. *Дай мне, сынок, канату́шку, будзем гадаць.* Вялікая Пярэспа Сен.

КАНБАЙНЁР гл. КАМБАЙНЁР

КАНБІНА́ШКА гл. КАМБІНА́ШКА

КАНДАЛЫ́ *тольукі мн., перан.* Нязручны цяжкі абутак. *Кандалы́ нейкіі, а не туфлі.* Хайсы Віц. *Ад гэтых кандало́ў ногі другі дзень баляць.* Макаравічы Докш.

КАНДЗІБО́БЕРЫ *толькі мн.* Капрызы. *Тваі кандзібо́беры мне ў горлі сідзяць.* Ноўка Гар.

КАНДО́БА *ж.* Яма з вадой. *Малыі, як парасяты, у кандо́бе барахтаюцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КАНЕ́ШНА 1. *прысл.* Кане́чне, абавязкова. *Кане́шна прыедзім да вас.* Далёкія Брасл. 2. *пабочн. сл.* Без сумнення. *Ты, кане́шна, сёння не прыедзіш?* Пальмінка Гар. 3. *часц.* Так, вядома. *Кане́шна, я ўсё відзіла.* Сокарава Беш.

КАНІ́СТАР *м.* Каністра. *Прынясі кані́стар з бензінам.* Бортнікі Глыб.

КАНІ́ЦА *ж.* Кабыла. *Каніца наша ўчора жарабілася.* Суша Леп.

КА́НКА, КА́ННА гл. КА́НА

КАНТО́РСКАЯ *наз., ж.* Работніца канторы. *Канто́рская казала, што сёння грошы за малако будуць.* Папшулі Міёр.

КАНТРО́ЛЬ *м.* Кантралёр, вахцёр, вартаўнік ва ўстанове, на прадпрыемстве. *Дачка кантро́лем у інтэрнаце.* Іванск Чаш.

КАНТЫ́ЧКА *ж.* 1. Запіска. *На стале канты́чка – значыць, зляцела некуды.* Дрыгучы Міёр. 2. Дакумент, дзелавая папера. *Без канты́чкі на прыём да ўрача не пападзеш.* Ветрына Пол.

КАНЦЭ́РКА *ж.* Бляшанка. *З канцэ́ркай малыя гуляюць.* Ласіца Паст.

КА́НЬКАЦЬ *незак., экспр.* Надакучаць, назойліва прасіць аб чым-небудзь. *Не ка́нькай ты, надаела ўжэ!* Лужкі Шарк.

КАНЮ́ГА *м.* Моцны, дужы конь. *Дзе ўзялі каню́гу такога?* Бычыха Гар. *Нашто каню́гу гэтага карміць так, калі прадаваць сабраліся?* Бараны Глыб.

КАНЮ́ХНЯ *ж.* Канюшня. *Каню́хню ўвесь дзень хлопцы чысцяць.* Марозы Міёр.

КАНЮ́ШНІК *м., бат.* Конскае шчаўе. *Каню́шнік цяжка вырваць з зямлі.* Крынкі Лёзн. *Патапчы каню́шнік, дачка.* Шарагі Міёр.

КАНЮШО́К *м.* Дзіця, якое пасвіць коней. *Гэтыя канюшкі́ яшчэ дужа малыя, пайшоў бы ты сам да коней.* Мішкавічы Шум.

КАНЯВА́Я *наз., ж.* Вільчык, канёк, востры верхні край, грэбень страхі. *Рубероідам нада пацянуць ад канявой да нізу.* Езярышча Гар.

КАПА́ *ж.*, КАПЕ́Ц *м.* Дровы, складзеныя ў стажок. *Калі кругом дровы кладзём – эта складваем у ко́пы.* Гарэлькі Дубр. *Капе́ц трэба класці роўна, каб ён не разваліўся ад ветру.* Павулле Уш.

КАПАВА́ЦЬ *незак., экспр.* Думаць, разумець, кеміць. *Ці капу́е што яго галава?* Камаі Паст.

КАПА́ЛКА *ж., с.-г.* Бульбакапалка. *У суботу капа́лкай бульбу капаць будзім.* Вярэчча Гар. *Капа́лка на полі стаяла.* Мазалава Віц. *Восенню капа́лку ў калхозі папросім.* Езярышча Гар.

КАПАНІ́ЦА[1], КАПА́НКА *ж.* Сажалка; кар'ер. *Дзе капалі торф, асталася бальшая капані́ца.* Баршчоўка Віц. *Праз год-другі на капані́цы вырастаіць маліннік.* Язна Міёр. *Мы сваіх вутак на капані́цу за хату ганяем.* Падворыца Сен. *Дзед сваю капа́нку каля хаты зрабіў.* Булахі Глыб. *За капа́нку кароў пагонім.* Забор'е Рас.

КАПАНІ́ЦА[2], КАПА́ЧКА *ж.*, КАПА́Ч, *памянш.* КАПА-ЧО́К, КАПА́ЧЫК *м., с.-г.* Матыка, прылада для ручной праполкі зямлі. *Бяры капані́цу і пойдзім палоць.* Вярхоўе Беш. *Вазьмі капані́цу – на гарод зойдзім.* Ветрына Пол. *Бярыце капа́чкі і шыбенька ўсе ў гарод, позна ўжо.* Далёкія Брасл. *Капа́ч ніяк не*

*знайду.* Папкі Міёр. *Адзін раз пройдзіш капачо́м – і палавіна травы німа.* Баяноўшчына Пол. *Капачо́к вазьмі, з травой лягчэй управішся.* Турлы Паст. *Забылася капа́чык на агародзе.* Івоніна Шум. Параўн. *капара́лка, капы́л, капы́лка, капы́лярка.*

КАПАНІ́ЧЫЦЬ *незак.* Акучваць. *Капані́чыць лепі ўсяго перад дажджом.* Падбярэззе Тал.

КАПА́НКА гл. КАПАНІ́ЦА[1]

КАПА́ННІК *м.* Той, хто капае бульбу. *У нас усігда многа капа́ннікаў.* Слабодка Брасл.

КАПАРА́ЛКА *ж., с.-г.* Матыка. *Я табе вот гэту капара́лку дам.* Расоны. Параўн. *капані́ца*[2]*, капа́ч, капа́чка, капачо́к, капа́чык, капы́л, капы́лка, капы́лярка.*

КАПА́ТАЯ *наз., ж.* Жанчына, якая капае бульбу. *Да вечара ўправімся з бульбай, вунь яшчэ капа́тая ідзе.* Алексінічы Сен.

КАПА́ТКА *ж.* Рыдлёўка. *Раньшы бульбу тольки капа́ткай капалі, а січас спіцыяльную цехніку прідумалі.* Сураж Віц.

КАПА́Ч, КАПА́ЧКА, КАПАЧО́К, КАПА́ЧЫК гл. КАПАНІ́ЦА[2]

КАПЕ́Ц гл. КАПА́

КАПЕ́ШКА, КАПЁШКА гл. КАПЯ́К

КАПІТА́Н *м., бат.* Грыб белы грузд. *У лес пайду, хоць капіта́наў ды набяру.* Белая Ліпа Сен.

КАПІ́ЦЬ, КАПНАВА́ЦЬ, КАПНІ́ЦЬ *незак.* Складваць сена ў копы. *Сена ўжэ сухоя, нада капі́ць.* Храпакі Віц. *Сена ў калхозі, бувала, уручную капнава́лі.* Кулакова Шум. *Заўтра сена будзім капні́ць.* Задуброўе Віц. *Калі будзець пагода, пайду ў Баркі капні́ць.* Белая Ліпа Сен.

КАПЛУ́Н *м., заал.* Певень. *Каплу́н мой звёў курэй некуды.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *кату́х, курундзю́к.*

КАПНАВА́ЦЬ, КАПНІ́ЦЬ гл. КАПІ́ЦЬ

КАПРО́НКА *ж.* Пластыкавая бутэлька. *Заліваеш у капро́нку, ставіш у цёмнае месца і чакаеш, калі пацімнеець.* Крывасельцы В.-Дзв.

КАПТУ́Р, КО́ПТУР, КУПТУ́Р *м.* Верх печы ў выглядзе дзвюх сценак, якія ўзвышаюцца над лежаком. *Лезьце, дзеткі, за капту́р, пагрэйцеся.* Зарэчча Гар. *За ко́птурам цёпла.* Ноўка Гар. *Вазьмі спічкі на куптуре́.* Цяцеркі Віц., Цілеўцы Міёр., Чарты Паст., Смалоўка Сен., Завячэлле, Крывое Сяло Уш.

КАПУ́СНІК, КАПУСНЯ́К *м., кулін.* Боршч з капусты. *Зварым капу́сніку і катлет напячом.* Дрыгучы Міёр. *Капусня́к часта варым з мясам.* Пушкі Лёзн., Амбросавічы Шум.

КАПУ́ХА *ж., неадабр.* Марудлівая жанчына. *Што ты як капу́ха, ніяк ні збярэшся?* Грыгаравічы Леп. *Як ты з такей*

*капу́хай жывеш, калі іна ўсё ўспіваіць дзелаць у цібе?* Канашы Гар.

КАПЦЁЛКА, КАПЦЁРКА, КАПЦІ́ЛКА, КАПЦЮ́ЛЬКА, КАПЦЮ́РКА, КАПЦЮ́ШКА *ж.* Лямпа-газоўка. *Тады запаліла я капцёлку ў хаце, каб відней было.* Езярышча Гар. *На стале, бувала, ва ўсіх капці́лкі стаялі.* Канашы Гар. *Раней капці́лкі былі, а пра свет і не чулі нічога.* Сар'я В.-Дзв. *Капцю́лька і шчас у нас недзе стаіць.* Сахнавічы Глыб. *Даўней ва ўсіх былі капцю́ркі.* Бортнікі Глыб. *Капцю́шку вечарам запалівалі.* Тумнічы Арш. Параўн. *кераси́нка.*

КАПЦЁР *м.* Кіпцюр. *Во ўпілася кошка капцёрамі!* Стаўбцы Чаш.

КАПЦЁРКА, КАПЦІ́ЛКА, КАПЦЮ́ЛЬКА, КАПЦЮ́РКА, КАПЦЮ́ШКА гл. КАПЦЁЛКА

КАПЦЯ́РНЯ *ж.* Вяндлярня, збудаванне, дзе вэндзяць мяса, сала, рыбу. *Даўней у каждага хазяіна была свая капця́рня.* Клясціцы Рас.

КАПЧО́НКА *ж., кулін.* Вяндліна. *У нас капчо́нка і ў канцы лета ёсць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Капчо́нкі нарежым, як дзеці пріедуць.* Прудок Гар. *Капчо́нку к Паскі будзем капціць.* Ноўка Гар. *Адреж кусочык капчо́нкі ўгасціць мужыкоў.* Забор'е Рас.

КАПЧО́НЫ *прым.* Хітры (пра чалавека). *Як прыехаў ён к нам, дак усе сказалі, што капчо́ны ён: вочы так і бегаюць.* Клясціцы Рас.

КАПШУ́К[1] *м.* 1. Гаспадарчая сумка, торба. *Хлеб з капшука́ вылажы.* Цясты В.-Дзв. 2 *перан.* Тоўсценькае дзіця, карапуз. *Дзеці ягоныя добранькія капшукі́.* Гараўцы Міёр.

КАПШУ́К[2] *м.* Цёплая кофта. *Не знаю, дзе свой капшу́к прапаліла.* Абольцы Тал.

КАПЫЗІ́ЦЦА гл. КАБЫЗІЦЦА

КАПЫ́Л *м.*, КАПЫЛКА, КАПЫЛЯ́РКА *ж., с.-г.* Матыка. *Каб буракі і морква лепей раслі, нада акучыць іх капыло́м.* Гаране Гар. *Згубілі на полі капы́лку.* Ларынаўка, Селішча Арш. *Капыля́рка так устроена: на адзін бок зубы, а на другі – капачка.* Лісна В.-Дзв. Параўн. *капані́ца [2], капа́чка, капа́ч, капачо́к, капа́чык, капара́лка.*

КАПЫ́ЛІЦЦА *незак., экспр.* Зневажаць, прыдзірацца. *Свякроўка ўсё капы́ліцца, чаго яна ад мяне хочыць.* Гомель Пол.

КАПЫ́ЛІЦЬ *незак.* Акучваць. *Капы́ліла бульбу з раніцы.* Мазалава Віц. *Ці пойдзім капы́ліць?* Ноўка Гар.

КАПЫЛКА, КАПЫЛЯ́РКА гл. КАПЫ́Л

КАПЫ́Т *м.* Бязмен. *Важыць мяса капы́там плоха: не будзе правільна.* Запружаны Чаш.

КАПЯ́К, памянш. КАПЯЧО́К м., КО́ПА, КАПЕ́ШКА, КАПЁШКА, КАПЯ́ШКА ж. Капа́, копка, невялікі стажок. *Складай жыта ў капя́к.* Язвіна Шум. *Гэты капячо́к не будзем трэсці.* Казлоўшчына Паст. *Вялікая ко́па атрымалася.* Опса Брасл. *Сколька вышла капе́шак сена?* Косарава Глыб., Ульянавічы Сен., Царкавішча Уш. *Зграбіце сена па капёшкам.* Лялеўшчына Гар. *Пайдзём капёшкі трэсь.* Стасева Лёзн. *Ні адна капя́шка нада, каб брыку поўную накласці.* Азярцы Глыб. *Сена ў капя́шках, дажджу можна не баяцца.* Дрыгучы Міёр. Параўн. *кру́гліца.*

КАРАБ'Я́ ж. Кораб, вялікая лубяная каробка. *Караб'і́ той гадоў столькі, сколькі бацьку.* Камень Леп.

КАРАВА́ТЫ прым. Каравы, загрубелы, з шурпатай скурай. *Траву збіраю ўсё лета свінням, дык во рукі якіі карава́тыі.* Казловічы Гар.

КАРАВА́ЦЬ, КАРІ́ЦЬ, КАРЫ́ЦЬ незак. Ачышчаць ад кары, акорваць. *Цяжка карава́ць сухое дзерава.* Звёздная Арш. *Карі́лі брёўны на хату ўвесь дзень.* Мазалава Віц. *Пні ўчора карі́лі.* Гаране Пол. *Заўтра стоўбікі для забора карыі́ць будзім.* Залессе В.-Дзв.

КАРАВЕ́ЦЬ незак. Брудзіцца. *На гэтай рабоце на мне каравее́ за дзень усё.* Свіла Глыб.

КАРАВЁШКА ж., ласк. Карова. *Дзяржом каравёшку, парасёнка.* Балаі Міёр.

КАРАВЯ́КА ж., толькі адз. Каравяк, каровін кал. *Каравя́кай добра агарод удабраць.* Янкавічы Рас.

КАРА́К м., іран. Чалавек малога росту. *У іх усе ў сям'і каракі́.* Мельніца Шарк. Параўн. *кажа́н* у 2 знач., *ку́цік.*

КАРА́ЛЬКА ж., кулін. Выраб з заварнога цеста ў выглядзе кола. *Яна робіць смачныя кара́лькі.* Вялікая Пярэспа Сен.

КАРАПО́ЎКА, КАРАПО́ЎЧЫНА ж., бат. Гатунак яблыкаў. *Карапо́ўка дужа сладкая.* Крынкі Лёзн. *Карапо́ўчынай цябе ўгашчу.* Пішчалава Арш.

КАРАПУ́З м., перан., бат. Баравік. *Адных карапу́заў во сколькі сабралі.* Бычыншчына Міёр.

КАРАСІ́Н м., КАРАСІ́НА ж., толькі адз. Газа. *Схадзі за карасі́нам.* Антонава В.-Дзв. *Намачы бумагу ў карасі́ну, каб дровы лепі гарэлі.* Бортнікі Глыб. *Раней карасі́ну не было, лучыну палілі.* Калышкі Лёзн.

КАРА́СНІК м. Сажалка, у якой водзяцца карасі. *Шасці часоў не было, а ў кара́сніку ўжо рыбу лавілі.* Вялікае Гальцава Тал.

КАРА́ЎКА 1. ж. Пра брудную рэч. *Не сукенка, а кара́ўка нейкая.* Сасновая Докш. *Такой кара́ўкай стол сціраць стыдна.*

Пышна Леп. 2. *аг., неран.* Неахайны чалавек, мурза. *Караўкамі завуць тых, хто грязный ходзіць, мурзатый.* Бігосава В.-Дзв. *Матка як матка, а дачка караўкай расцець.* Слабада Дубр. Параўн. *кароślік, карўза, карўзлік, карызлік, карэлік.*

КАРАШКІ *мн.* Махорка. *Я толькі карашкі і куру, на сігарэты грошы няма.* Прамышляды Паст.

КАРБАСА гл. КАЛБАСІНА

КАРБУ́НАК *м.* Каўнер. *Пакладу за карбу́нак.* Балаі Паст.

КАРБУ́НЕЦ *м.*, КАРБУ́НКА *ж.* Ліха, напасць. *Каб яго карбу́нец, так падмануць.* Гатаўшчына Глыб. *Напаў карбу́нец нейкі – і прасвету німа.* Лужкі Шарк. *Каб на цібе карбу́нка навалілася за твае словы.* Канашы Гар.

КАРДО́НКА *ж.* Ліст кардону. *Ці ёсць у цібе кардо́нка ікая?* Канашы Гар.

КАРДО́ПЛЯ, КАРТО́ПЛЯ, КАРТО́ФЛЯ, КУРДО́ПА *ж.* Бульба. *Сёлета кардо́плі мала на зіму.* Матырына Леп. *Карто́пля ў гэтым годзе не ўрадзіла.* Лужкі Шарк. *Карто́плю выкапалі да дажджоў.* Будзішча Шум. *Карто́фля за лугам нічога сабе.* Шынкі Сен. *Накапаім курдо́пы і зрабім дранку.* Мількі Брасл.

КАРЕ́НЬ, КО́РІНЬ, КО́РЫНЬ *м.*, КАРЕ́ННЯ *н., зб.* КАРНІ́, КАРЯНІ́ *мн.* Корань, карані. *Так падмыла, што каре́нь у бярёзы стаў відаць.* Смалоўка Гар. *Садзіўшы бульбу, плугам за ко́рінь зачапіўся.* Крынкі Лёзн. *Сліва разраслася, ко́рынь аж за забор пайшоў.* Саколіна Тал. *Во зімля – адно каре́ння.* Вярэчча Гар. *Дуб стары, карні́ глыбока ў зямлі сідзяць.* Горы Рас. *На гародзі ўвесь дзень каряні́ выбірала.* Канашы Гар. .

КАРІ́ЦЦА *незак.* Прасіць прабачэння, пакарацца. *Карі́цца ён, па-мойму, і ня думаіць.* Ноўка Гар.

КАРІ́ЦЬ гл. КАРАВА́ЦЬ

КАРМАВА́ННЕ *н., с.-г.* Нарыхтоўка сена. *Летам глаўнае кармава́нне.* Шарагі Міёр.

КАРМАВІ́К *м., бат.* Кармавы бурак. *Кармаві́кі ў еты год вельмі ладныя.* Малы Поўсвіж Леп. *Кармавікі такія ўрадзілі сёлета!* Новы Пагост Міёр., Колпіна Сен., Малыя Смальянцы Чаш., Більдзюгі Шарк.

КАРМІ́ЦЕЛЬКА *ж., ласк.* Карова. *Кароўку нада біреч, яна карміцелька наша.* Мішукі Віц.

КАРМО́ТА *ж., толькі адз., зб.* Ежа, харчы. *Вось і ўся кармо́та нам на дзень.* Двухполле Гар.

КАРНА́ТЫ, *памянш.-ласк.* КАРНА́ЦЕНЬКІ *прым.* Вельмі кароткі, кароценькі. *Карна́ценькі які пінжак.* Ушачы. Параўн. *курта́ты.*

КАРНІ́ гл. КАРЕ́НЬ

КАРО́БАЧКА *ж.* Від танца, які выконвалі па парах. *Шлі парамі, спачатку спіной, а тады ліцом – так і танцавалі каро́бачку.* Езярышча Гар.

КАРО́ВЯЧЫ *прым.* Каровін, уласцівы карове. *За хатай каро́вячая пуня.* Кашчына Чаш. *Пайду каро́вячую стойню пачышчу.* Вішанькі Чаш.

КАРО́ЛЬ *м., кулін.* Сцегнавая косць, на якой трымаецца мяса на кумпяку, рулька. *З каралём зварылі капусту ў печы.* Дварэц Чаш.

КАРО́СЛІВЫ *прым.* Брудны, запэцканы. *Выкінь ты, як прібірацЬ будзіш, етыт палавік каро́слівы ў сені, тады памыім.* Канашы Гар. Параўн. *карэ́лы.*

КАРО́СЛІК *м., асудж.* Неахайны, у бруднай вопратцы чалавек. *Не хачу, каб каро́слік і ў хату захадзіў.* Вярэчча Гар. Параўн. *кара́ўка* ў 2 знач., *карэ́лік, кару́за, кару́злік, кары́злік.*

КАРО́МІСЛА, КАРЭ́МІСЛА, КАРЭ́МЫСЛА *н.*, КАРО́МІСЛЫ *мн.* Каромысел. *Каб ваду лягчэй нясці, каро́місла бяру.* Снегі Міёр. *Карэ́місла суседка дала.* Чарневічы Глыб. *Бяры карэ́мысла і бягі ў калодзец за вадой.* Дразды Беш. *За вадой хаджу з вёдрамі і каро́місламі.* Царкавішча Уш.

КАРО́СТА *аг., перан., груб.* Назола, дакучлівы чалавек. *Во каро́ста малая, усё ныіць і ныіць.* Ноўка Гар.

КАРПА́ТЫ *прым.* Васпаваты, рабы (пра твар). *А ліцо ўсё страшнае, карпа́тае, з маладых гадоў так і асталась.* Іванаўка Гар.

КА́РТА *ж.* Павестка, пісьмовае афіцыйнае паведамленне з выклікам куды-небудзь. *Прынеслі ка́рту ў армію йсці.* Буднікі Беш.

КАРТАВЕ́НЬ *м.*, КАРТАВЕ́ШКА *аг.* Картавы чалавек. *Дзеда майго картаве́нь звалі: словы не ўсе выгаварываў чыста.* Сабалі Чаш. *Нашто вам гэту картаве́шку трогаць, вы ж бальшыя мальцы.* Забалоцце Арш.

КАРТАФЛЯ́НІК *м.*, КАРТАФЛЯ́НІШЧА, КАРТО́ПЛІШЧА *н.* 1. Месца, дзе расла бульба, бульбянішча. *Увосень нада картафля́нік перапахаць.* Гарэлькі Дубр., Лепель. *Як выкапаем картошку, картафля́нішча ўзарэш.* Малькава Лёзн. *На карто́плішчы пасеялі ячмень, каб налета бульба добрая расла.* Слабада Шум. 2. Націнне бульбы, бульбоўнік. *Пака зняслі картафля́нік, так стаміліся, а яшчэ бульбу капаць.* Бабінавічы Лёзн. 3. Дранік, блін з дранай бульбы. *Паснедалі картафля́нікамі.* Вялікі Поўсвіж Леп.

КА́РТАЧКА *ж.* Фотаздымак. *Ка́ртачку мне сваю падарыш.* Канашы Гар. *Ка́ртачкі толькі тады рабілі, як жаніліся.* Бораўна Леп. *Ка́ртачкі, бывала, на сценах развешывалі.* Клясціцы Рас.

КАРТО́НІКІ *толькі мн.* Кароткія штаны. *Зноў ты карто́нікі свае адзела!* Мількі Брасл.

КАРТО́ПЛІШЧА гл. КАРТАФЛЯ́НІК у 1 знач

КАРТО́ПЛЯ, КАРТО́ФЛЯ гл. КАРДО́ПЛЯ

КА́РТЫ *мн.* Канавы. *Пойдзем сёння на ка́рты па грыбы.* Курылаўшчына Беш.

КАРТЫ́ЖНІК *м.* Карцёжнік. *Усе карты́жнікі сабраліся.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КАРУ́ЗА *аг.,* КАРУ́ЗЛІК, КАРЫ́ЗЛІК *м., пагард.* Брудны, неахайны чалавек. *Ён кару́за.* Крыпулі Докш. *Міма бані ходзіць гэты кару́злік, а не заходзіць.* Віркі Чаш. *Такій кары́злік толькі людзей пужаіць відам сваім.* Чарневічы Глыб. Параўн. *кара́ўка ў 2 знач., каро́слік, карэ́лік.*

КАРУ́ЗЛЫ *прым., абразл.* Нізкі, малога росту, нягеглы. *Ён табе не пара, куды ён табе, такі кару́злы.* Мікіціха Шум. Параўн. *кажана́ты, кілава́ты, кіла́ты* ў 1 знач., *курда́ты, курта́ты* ў 1 знач., *крапалю́ткі.*

КАРУ́ЛЬКІ *толькі мн., бат.* Аер. *У маладосці хадзілі на балота кару́лькі сабіраць.* Чарневічы Глыб.

КАРУСО́ННЕ, КРУСО́ННЕ, КРЫСО́ННЕ, КУРО́САННЕ, КУРСО́ННЕ *н.,* КУРУСО́ННІК *м.* Курасадня, седала. *Ці ўсе там куры на карусо́нні?* Антаполле Чаш. *Куры паселі на крусо́нне.* Ульянавічы Сен. *На крысо́нні яшчэ куры: рана.* Замачак Чаш. *Курыца сваіх пісклят прывяла на куро́санне.* Тулінічы Арш. *Ці селі там нашы куры на куро́санне?* Грыгаравічы Леп. *Курсо́нне падладзіць нада.* Слабодка Леп. *Куры ўжо на курусо́нніку даўным-даўно.* Велеўшчына Леп. Параўн. *кату́ха, краса́дня, крусо́дня, крыса́дня, крашэ́сць, крашэ́сь, курашэ́сце, курашэ́сць, курча́нка.*

КА́РХАЦЬ, КЕ́РХАЦЬ, КІ́РХАЦЬ, КІХІ́КАЦЬ, КУРХЕ́КАЦЬ, КХЕ́РКАЦЬ, КЫ́РХАЦЬ, КЭ́РХАЦЬ, КЯРХЕ́КАЦЬ *незак.* Хваравіта пакашліваць, перхаць. *Ідзі ў бальніцу, ні ка́рхай дома.* Курына Віц. *Што ты ўсё ке́рхаеш ды ке́рхаеш?* Падсвілле Глыб. *Досыць табе ўжо кі́рхаць.* Бортнікі Глыб. *Захварэў дзед, кіхі́каіць і кіхі́каіць без канца.* Лазы Тал. *Яна тады доўга курхе́кала.* Велеўшчына Леп. *Ты апяць кхе́ркаеш?* Пушкі Лёзн. *Чую, ужэ сасед на дварэ кы́рхаіць.* Мазалава Віц. *Во кэ́рхае, як у бочку.* Дроздава Тал. *Кярхе́каць будзіш доўга яшчэ.* Боркавічы В.-Дзв.

КАРХО́ЛІКІ *мн.* Мерзлая бульба. *Вайной кархо́лікі спасалі ад голаду людзей.* Крынкі Лёзн.

КАРЧАВА́ТКІ *толькі мн.* Лясная дзялянка з выкарчаванымі дрэвамі. *У карчава́тках ваўка ўвідзіла.* Вялікае Гальцава Тал.

КАРЧА́К *м.*, КАРЧАВЕ́ШКА *ж.* Корч, вывернуты з карэннем пень. *На полі столькі карчако́ў – ні знаю, што з імі рабіць. Лес высеклі, адны карчакі́ засталіся.* Крыпулі Докш. *Крэпкая карчаве́шка, ніяк не раскалоць.* Задуброўе Віц.

КАРЧАКО́М, КО́РЧЫКАМ, КУ́РЧЫКАМ *прысл.* Скурчыўшыся, сагнуўшыся. *Раней, бувала, карчако́м усе гряды выпалем.* Ноўка Гар. *Я дык ко́рчыкам абычна бульбу капаю, а саседка мая ўсё на каленках.* Мазалава Віц. *Грібы ку́рчыкам каля машыны перібіралі.* Кулакова Віц.

КАРЧА́МІ *прысл.* Сем'ямі (пра грыбы). *Апенькі растуць карча́мі.* Грыцы Глыб.

КАРЧА́ШКА *ж., абрад.* Складзеныя гарою колы, якія палілі на Купалле. *Карча́шку раней вялікую складалі, каб гарэла дня два.* Тупічына Шарк.

КАРЧО́ЎКА *ж.* Карчаванне, дзеянне паводле дзеяслова *карчаваць*. *Карчо́ўка – самая цяжкая праца.* Рацькава Уш.

КАРШУ́К *м., заал.* Каршун. *Каршу́кі разлёталіся, ужо і так многа курэй пацігалі.* Мішкавічы Шум.

КАРШУ́Н *м.* Дэталь, частка калаўрота, з дапамогай якой нітка намотваецца на шпульку. *Калаўрот старый, каршу́н трэснуў, скрыпіць увесь.* Надазе́р'е Глыб.

КАРШЭ́ЛЬ, КАРШЭНЬ, КІРШЭ́НЬ *м.* Карак. *Б'е нізашто яго ў каршэ́ль.* Празарокі Глыб. *Вазьмі ката за каршэ́нь ды на двор выкінь, а то на стол залезіць.* Вадзянікі Гар. *Дай яму добра ў кіршэ́нь.* Косарава Глыб.

КАРЫ́ЗЛІК гл. КАРУ́ЗА

КАРЫ́ЦЬ гл. КАРАВА́ЦЬ

КАРЫ́ЧЛІВЫ *прым.* Руды, карычневы. *Кары́члівае плацце мне нявестка купіла.* Межава Арш. *На смерць я даўно купіла сабе кары́члівы касцюм і тапкі цёмнінькія недарагія.* Германавічы Шарк.

КАРЫ́ЧЛІЎКА, КАРЫ́ЧНЕВІЎКА *ж., бат.* Малінаўка (гатунак яблыкаў). *Сабяры кары́чліўкі, што пападалі.* Арляны Сен. *У гэтым гаду кары́чневіўка ўражайная.* Бачэйкава Беш.

КАРЭ́БКАЦЦА *незак.* Карабкацца. *Малы, а ўсё роўна карэ́бкаіцца, каб і яму ўзлезці.* Смаляны Арш.

КАРЭ́ДЗІЦЦА *незак.* Капрызіць, капрызнічаць. *А ты чаго карэ́дзішся, што табе не так?* Белая Ліпа Сен.

КАРЭ́ЛІК *м., пагардл.* Брудны, неахайны чалавек. *Хоць бы памыўся, ходзіш карэ́лікам.* Ветахмо Докш. Параўн. *кара́ўка* ў 2 знач., *каро́слік, кару́за, кару́злік, карызлік.*

КАРЭ́ЛЫ *прым.* Каравы, брудны, запэцканы. *Вазьмі чысту анучку, дак лепі за той карэ́лы бінт.* Чарневічы Глыб. *Вядро*

*такое карэ́лае, што глядзець страшна.* Лазы Тал. Параўн. *каро́слівы.*

КАРЭ́МІСЛА, КАРЭ́МЫСЛА гл. КАРО́МІСЛА

КАРЯНІ́ гл. КАРЕ́НЬ

КАСА́ *ж., перан., бат.* 1. Пляцёнка цыбулі. *На сцяне ко́сы цыбулі вісяць, харошыя такія косы.* Далёкія, Дрысвяты Брасл., Марцінава В.-Дзв. 2. Агурочнае сцябло. *Выбіраць гуркі нада астарожна, каб ко́сы не зламіць.* Гарэлькі Дубр. 3. Бацвінне морквы. *Морква сваю касу́ распусціла, пэўна, ужо і карэнне ёсць.* Азярцы Глыб.

КАСАВА́ЦЦА *незак.* Саромецца, бянтэжыцца. *Пяяць перад дзяўчатамі ён касава́ўся.* Савуткі Шарк.

КАСАВІ́ДЛА, КАСАВІ́ЛА, КАСАВІ́ЛНА, КАСАВІ́ЛЬНА, КАСАЎЁ, КАСАЎІ́ШЧА, КАСІДЛО́ *н.* Ручка ў касе, кассё. *Касавідлаў многа ў запасе.* Надазер'е Глыб. *Касу прыкрапляюць да касавіла банькай.* Мікалаёва Міёр. *Касавілна ўжо знасілася.* Слабодка Леп. *Касавільна ўторкні ў зямлю і тачы касу.* Туркова Міёр. *Добрае касаўё у касе.* Задуброўе Віц., Ясевічы Глыб., Гарэлькі Дубр. *Дзе тое касаўі́шча, што зламалася ўчора?* Езярышча Гар. *Касу на новае касідло́ насадзіў.* Крыпулі Докш.

КАСА́Ч гл. КАСУ́Н [1]

КАСІДЛО́ гл. КАСАВІДЛА

КАСНІ́ЧКА *ж.* Каснік, істужка, якая ўплятаецца ў касу. *А даўней жа касні́чкі завязвалі.* Спігальшчына Міёр.

КА́СНЫ *прым.* Надакучлівы, назойлівы. *Не будзь такей ка́снай.* Кулакова Віц.

КАСТРА́ *ж.*, КАСТРІ́ВА *н., бат.* Крапіва. *Каля хаты кастры́ поўна.* Грыцы Глыб. *Зарасла сцяга кастро́й ды бур'янам.* Жары Рас. *Кастріва столькі нарасло, што к хлеву не падайці.* Вадзянікі Гар.

КА́СТРІК, КА́СТРЫК *м.* Невялікае вогнішча. *Ка́стрік палілі ў лесе.* Сушчова Віц. *Падкінь дроў у ка́стрык.* Антонаўка Арш.

КАСТРЫ́ЦА *ж.* Апалая хваёвая ігліца. *Калі быстра ідзеш, то кастрыца ў ногі не так колецца.* Багушэўск Сен.

КАСУ́Н[1], КАСА́Ч, КАСЬБІ́Т *м.* Касец. *Касуны́ мае на полі есці захацелі, абед панясу.* Паташня Міёр. *Каса́ч з яго, канешне, абы-які.* Лескавічы Шум. *Касьбітоў на полі многа.* Дрыгучы Міёр.

КАСУ́Н[2] *м., заал.* Заяц. *Касу́н кала самай дарогі прабег.* Яроненкі Гар.

КАСЦЕ́НЬ *м.* Халоднае, марознае надвор'е. *Куды ты сабраўся ў такі касце́нь?* Шухаўцы Дубр.

КАСЦЁЛЬНЫ *прым.* Святочны (пра вопратку, у якой звычайна ходзяць у касцёл). *Сёння свята, нада плацце касцёльнае адзець.* Сухавежа Міёр.

КАСЦЁР *м., бат.* Чорнае зерне ў коласе; зерне нізкага гатунку. *У каласах касцёр відзела.* Скогі Сен. *Дадуць табе касцяра́ якога другога сорту.* Стар Лёзн.

КАСЦЯ́ *ж.* Косць. *Паставіла варыць касцю́ для супа.* Вялікае Сяло Сен.

КАСЬБАВА́ЦЬ *незак.* Касіць. *Хоць малы, а касьбу́е лоўка.* Шарагі Міёр.

КАСЬБІТ гл. КАСУ́Н[1]

КАСЯ́К *м.* Хустка. *Кася́к на галаве павязаны.* Лазічы Глыб.

КАСЯ́РКА *ж.* Каса. *Кася́рку крэпка падбіў.* Іванск Чаш.

КАТА́ЛКА *ж.* Качалка, круглая палка для разгладжвання бялізны качаннем. *Ката́лкай зручней прасаваць.* Спрынды Брасл. *Раней уцюгоў не было, прасавалі ката́лкай.* Балаі Міёр. *Недзе і ў нас у старой хаце ката́лка была.* Ракаў Засценак Сен.

КАТА́НКА[1] *ж.* Ватоўка. *Паглядзі на маю ката́нку: тут латка на латке, алі ж мне не хочыцца яе выкідываць.* Горкі Леп. Параўн. *куфа́йка, куфа́йчына, куха́йка, кухва́йка.*

КАТА́НКА[2] *ж.* Лаянка. *Ну, прыдзі ты толькі дамоў, я табе такую ката́нку выдам.* Мікалаёва Міёр.

КА́ТАНКІ, КАТА́НКІ *мн.* Валёнкі. *Ка́танкі ў краму завезлі.* Псуя Глыб. *Зіма халодная была, людзі ў ка́танках хадзілі.* Косарава Глыб. *Зімой у ката́нках самый раз.* Езярышча Гар.

КАТАРО́ЎКА *ж.* Катар, прастуднае захворванне. *Нічым не хварэла, калі толькі якая катаро́ўка.* Буцавічы Паст.

КАТКІ́ *мн., бат.* Коцікі, суквецці з дробных кветачак у некаторых дрэвавых раслін. *Каткі́ на вярбе паявілісь.* Крынкі Лёзн.

КАТЛАВУ́ХА *ж.* Самагон, выгнаны ў катле на вогнішчы. *Усю ноч катлаву́ху гналі.* Арцёмава Лёзн. Параўн. *кусто́ўка.*

КАТЛЯ́К, КАТУ́ЛЬ, КАЦЮ́К, КАЧУР *м.*, КАЦЮ́ЛКА, КАЧУ́ЛКА, КАЧУ́РКА *ж.* Калода, цурбан; кароткае бервяно. *Нада на днях катлякі́ ў драўнік перанесці.* Дольдзева Сен. *Катляко́ў бальшая гара ляжыць.* Ульянавічы Сен. *Катулё́ў дзесяць з лесу прівёз.* Вярэчча Гар. *За лета кацюко́ў на зіму сабе навазілі.* Кавалі Лёзн. *Вазьміце два качуры́ на двары і здзелайце лаўку.* Дроздава Тал. *Парэзалі дровы на качуры́.* Косарава Глыб. *Кацю́лкі пад паветку нада ўбіраць.* Гута Паст. *Качу́лкі пакалоць трэба да зімы.* Славені Тал. *Качу́ркі такія тоўстыя.* Ухлё Чаш.

КАТЛЯРО́К *м.* Чыгунок. *Катляро́к пастаўлю ў печ, а сама пабягу кароўку даіць.* Мікіціха Шум.

КАТО́К *м*. Шына. *Нада срочна на калёсах като́к змяніць.* Гарэлькі Дубр. *Ноччу каткі́ з калёс паснімалі*. Рускі Шум.

КАТУ́ЛЬ гл. КАТЛЯ́К

КАТУ́СЬ гл. КАЦЯ́РА

КАТУ́Х *м., заал.* Певень. *Уранку, пакуль кароў выганяць, катухі́ запелі.* Палата Пол. Параўн. *каплу́н, курундзю́к.*

КАТУХА́ *ж.* Курасадня, седала. *Катуха́ ў хлеве зламалася.* Опса Брасл. Параўн. *карусо́нне, краса́дня, крусо́дня, крусо́нне, крыса́дня, кры́сонне, курсо́нне, куро́санне, курусо́ннік, крашэ́сць, кра́шэсь, кураше́сце, кураше́сць.*

КАТУ́ЛКА, КАЦЁЛКА *ж.* Качулка, прыстасаванне для даставання катлоў з печы,. *Каля печы аж чатыры кату́лкі.* Езярышча Гар. *Падлажы кацёлку, а то чыгун цяжкій.* Нізкабор'е Віц.

КАЎБУ́Х *м.* 1. Страўнік. *Ніхто ні на што ні глядзіць, а толькі думаіць, як набіць свой каўбу́х.* Клясціцы Рас. 2. *кулін.* Свіны страўнік, начынены ліверам. *Як свінню заб'ём, каўбу́х здзелаі́м.* Езярышча Гар. *Каўбу́х падгарэў.* Арляны Сен. Параўн. *кіндзю́к, кіндзю́х, клундзю́к, клындзю́к, кулундзю́к, курдзю́к* у 2 знач., *куцю́к.*

КАЎГІ́РКА *ж.* Коўш. *Зачэрпнула каўгіркай вады з вядра.* Маргойцы Сен.

КАЎЗАТА́ *ж.* Каўзота, слізгота. *Ну і каўзата́ на вуліцы.* Пачаевічы Чаш.

КАЎЗІЛЯ́ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Не каўзіля́йся на стуле, а то зламаеш і ўпадзеш*. Лазічы Глыб.

КА́ЎКА[1] *ж., заал.* Варона. *Ка́ўкі меншыі, чым галкі, і ў іх крыллі сівыі*. Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ка́ўкі сёння нешта раскрычаліся.* Празарокі Глыб.

КА́ЎКА[2] *ж., заал.* Кошка. *Ка́ўка мая ўсё лашчыцца.* Забалацце Арш.

КА́ЎКАЦЬ, КЯ́ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць (пра ката). *Кошка ка́ўкаіць, малака хочыць.* Канашы Гар. *Я думаю, хто гэта ка́ўкаець, а гэта кот за печчу.* Бярозаўка Докш., Гарэлькі, Косціна Дубр. *Ката нада ўпусціць, а то недзе кя́ўкае пад дзвярамі.* Петрунова Глыб. Параўн. *курня́віць.* 2. *перан.* Мармытаць, неразборліва гаварыць. *Што ты ка́ўкаіш там – не чую.* Мазалава Віц. 3. *перан.* Выпрошваць. *Толькі не ка́ўкай, куплю, што просіш*. Слабодка Чаш.

КА́ЎКНУЦЬ *зак.* 1. Мяўкнуць. *Ці не кот ка́ўкнуў?* Кулакова Віц. 2. *перан.* Мармытнуць, неразборліва сказаць. *Баба з печы нешта ка́ўкнула ў адказ*. Вярэчча Гар. 3. *перан.* Падаць голас, азвацца. *Так яна і не ка́ўкнула нам, усё цярпела.* Чашнікі.

КАЎТО́К *м.* Глыток. *Выпі хоць два каўткі.* Бяседы Леп.

КАХА́НІК *м.* Любы, каханы. *Сёння прыйдзець яе каха́нік.* Пагарэлае Леп.

КАХЛЯ́НКА *ж.* Кафляная печ. *Кахля́нку нада вытапіць.* Коўзаны Паст.

КАЦЁЛКА гл. КАТУ́ЛКА

КАЦУБЕ́ШКА *ж.* Качарга. *Кацубе́шка не на месце стаіць.* Жабыкі Дубр. Параўн. *каве́ня, кавэ́ня, камяня́, качо́рга, качэ́рга.*

КАЦЮ́К гл. КАТЛЯ́К

КАЦЯНЁНАК *м.* Каценя. *А ў мяне дзе тое багацце, кацянёнак адзін.* Баршчоўка Віц. *Рібяты кацянёнка прінеслі, гаво́рюць, пародзістый.* Канашы Гар., Сваташыцы Дубр. Параўн. *ко́тка* ў 1 знач.

КАЦЯ́РА, КАША́К, КІЦЮ́К, *ласк.* КАТУ́СЬ *м.* Кот. *Ну і когці ў твайго каця́ры.* Гарбацэвічы Арш. *Ну й каця́ру выгадавалі.* Нямойта Сен. *Майго кашака́ Пушком унукі завуць.* Кублічы Уш. *Ладный кіцю́к у вас.* Опса Брасл. *Кату́сь ты мой, дзе ты цягаўся?* Дзегцяры Брасл.

КАЦЯРЫ́НКА *ж., заал.* Хрушч. *Як малыя былі, трэслі кацяры́нкі з ветак у маі.* Гарбачы Беш.

КАЧАДЫ́К *м.* Прылада, з дапамогай якой плялі лапці. *У майго дзеда свой качады́к быў, і вот ён плёў, усіх у лапці абуваў.* Лужкі Шарк.

КАЧА́ЛКА *ж.* Таўкач, прылада ў выглядзе качалкі, якой таўкуць што-н. *Нада растаўчы бульбу кача́лкай і дабавіць зялёнай цыбулі.* Сахнавічы Глыб.

КАЧАНУ́ЦЬ *зак.* Калыхнуць. *Качані́ дрэва, каб яблык сабраць.* Пушкі Лёзн.

КА́ЧАРКА *ж.* Качка. *Ка́чарка ля самага берага была.* Багушэўск Сен.

КАЧАРЭ́ЖКА *ж., бат.* Храпка. *Люблю грызці качарэ́жкі.* Свіркі Докш. *Парасяты не ядуць дажа качарэ́жкі.* Ульянавічы Сен. *Качарэ́жкі каля катуха валяліся.* Краснаполле Рас.

КАЧАРЭ́ЖНЯ *ж.* Качарэжнік. *Ля качарэ́жні вядро з вадой пастаў.* Велеўшчына Леп. Параўн. *каве́льня, каме́шнік.*

КА́ЧКА *ж.* Драўляная лодка. *Чатыры чалавекі ка́чка можа і не вытрымаць.* Мілашкі Брасл.

КАЧО́РГА, КАЧЭ́РГА *ж.* Качарга́. *Вазьмі качо́ргу й паглядзі ў печы.* Ветрына Пол. *На качэ́ргу во стаў. Глядзі куды йдзеш!* Лётцы Віц. *Ты качэ́ргай зацапі кацёл, будзе лягчэй цягнуць.* Мельніца Шарк. Параўн. *каве́ня, кавэ́ня, камяня́, кацубе́шка.*

КАЧУЛКА гл. КАТЛЯ́К

КАЧУ́Р, КАЧУРКА гл. КАТЛЯ́К

КАЧЭ́ЛЯ *ж.* Калыска, люлька. *Для рабёначка качэ́лю муж рабіў.* Галбея Паст. Параўн. *калубе́ль.*

КАЧЭ́РГА гл. КАЧО́РГА

КАША́К гл. КАЦЯ́РА

КАШАЛА́[1], *памянш.* КАША́ЧКА *ж.*, КО́ШАЛЬ, КО́ШАР *м.* 1. Кашэль; вялікі кош; карзіна. *На дварэ вазьмі кашалу́.* Арляны Сен. *Бяры кашалу́, пойдзем кароў карміць.* Грушава Чаш. *Назбіраў каша́чку яблыкаў.* Макаравічы Докш. *Мы ко́шалем не пользуімся, а ён так стаіць: мала лі што?* Азёркі Гар. *Ко́шар ледзь прынёс, аж запарыўся.* Баяноўшчына Пол. Параўн. *кілу́нка, ко́рфа, ко́рхла, ку́бал.* 2. *перан.* Нязграбны чалавек. *Кашала́ ты, не глядзіш, куды ідзеш.* Акцябрскі Чаш. Параўн. *кашанда́.*

КАШАЛА́[2] *ж.* Калёсы з драбінамі. *Столька сена на кашалу́ ўсцягнулі, аж страх!* Ляляеўшчына Гар.

КАШАЛІ́ЦЬ *незак., перан.* Пустасловіць. *Ты не кашалі́, а бярыся за работу.* Стралкі В.-Дзв., Грушава Чаш.

КАШАЛЯ́ЦЦА *незак.* Блытацца. *Запрі ката ў хлеў, кашаля́ецца пад нагамі на кухні.* Канашы Гар. *Трава кашаля́ецца пад нагамі.* Завольша Лёзн.

КАШАНДА́ *аг., асудж.* Нязграбны чалавек. *Як пройдзіць гэта кашанда́, то кацёл аберніць, то вядро перакуліць.* Пусташы Пол. Параўн. *кашала́*[1] ў 2 знач.

КАШАРЫ́ЦЦА *незак.* Мыцца. *Трэба хутчэй кашары́цца, а то не паспею сабрацца.* Косарава Глыб.

КАШАРЫ́ЦЬ *незак.* Паляваць на мышэй (пра ката). *Кот у гаражэ кашары́ць.* Кавалі Глыб.

КАША́ТНІК *м.* Чалавек, які любіць гуляць, забаўляцца з катом. *Ката трогаў – ідзі рукі памый, каша́тнік.* Казловічы Гар.

КАША́ТЫ *мн.* Кацяняты. *Кошка прывяла аж пяць каша́т.* Рацькава Уш.

КАША́ЧКА гл. КАШАЛА́[1]

КАШЛЯ́ВЫ *прым.* Хворы, які кашляе. *Зусім кашля́вая стала, да ўрача нада.* Іванск Чаш.

КАШЭ́ЛЬ *м.* Кашалёк. *Дай кашэ́ль, пайду ў магазін.* Баева Дубр. *А ім абы кашэ́ль набіць. Што ім тыя дзеці нада?* Шыбекі Арш.

КАЯ́К *м.* Невялікая лодка з вёсламі на двух чалавек. *У суседнюю вёску плавалі на каяку́.* Гута Паст.

КВАКУ́ХА, КВО́ЧКА, КВО́ШКА *ж., заал.* 1. Квактуха, курыца, якая выседжвае або водзіць куранят. *Нада пасадзіць ціплят пад квакуху́.* Жукоўшчына Шарк. *У нашай кво́чкі й цыпляткі скора выведуцца.* Бачэйкава Беш. *Кво́чку ў хлеў*

*пасадзіла.* Савінічы Сен. *Нешта мая квошка доўга сядзіць на яйках.* Вішня Шум. Параўн. *клуша, клушка* ў 1 знач., *куравóдзіха.* 2. Качка. *Квóчкі сёлета добрыя, пуху многа, дык буду на падушку збіраць.* Межава Арш.

КВА́РТА, *памянш.* КВАТЭ́РКА *ж.* Кубак, конаўка. *Поўную кварту малака наліла.* Пішчалава Арш. *Налі мне малачка кварту.* Быцава Беш. *Падай ты мне вады кварту.* Гунчанкі, Котава Віц. *Налі мне малака во ў гэтую кватэрку.* Абрамава В.-Дзв. Параўн. *кóрчык, кýбар, кубáрка* ў 2 знач., *кýхлік.*

КВА́СКА *ж.* Дзяжа. *Агуркі, памідоры, яблыкі – усё ў кваскі залажывалі.* Калышкі Лёзн.

КВА́СНУЦЬ *незак.* Кіснуць. *Агуркі ўжо тры дні квáснуць.* Забор'е Рас.

КВАСО́Л *м., кулін.* Расол, вадкасць з прыправамі і сокам засоленых у ёй агуркоў. *Квасóл памутнеў, вазьмі злі да пракіпяці.* Машчоны Сен.

КВАСО́ЛЬНІК *м., кулін.* Суп з фасолі. *К абеду квасóльніку зварім.* Канашы Гар.

КВАСО́ЎКА *ж., кулін.* Квас. *Квасóўку на холад вынесі.* Крынкі Лёзн.

КВАТЭ́РКА гл. КВА́РТА

КВАТЭ́РЫНА *ж.* Вароты. *Зноў кватэ́рына расчынена, надаеў гэты вецер.* Сахнавічы Глыб.

КВАХТУ́ННЯ *ж., неадабр.* Жанчына, якая скардзіцца на жыццё. *Во й квахтýння йдзець.* Мяшкова Тал.

КВАЦЕ́РА, КВАЦІ́РА *ж.* Кватэра. *Квацéру яму бацька памог строіць.* Кулакова Віц. *У маіх квацíра ў горадзе.* Суша Леп.

КВАЦІРА́НТ *м.* Кватарант. *Квацірáнт мой харошый маліц.* Канашы Гар. *Раней у мяне часта квацірáнты былі.* Турлы Паст.

КВАШАНІ́НА *ж.,* КВА́ШАННЕ *н., толькі адз., кулін.* Халадзец. *Квашанíна гэты раз нішто сабе.* Пліса Глыб. *Печ стапілася – квашанíну пара ставіць у жар.* Шабаны Паст. *Замачыла ногі на квашанíну.* Смалоўка Сен. *Вечарам бульбы з квашанíнай пад'ядзім.* Далёкія Брасл. *На вячэру квáшанне з бульбай будзіць.* Жарцы Леп.

КВА́ШАНКА *ж., кулін.* Квашаная капуста. *Квáшанку за зіму ўсю паелі, ды й дзеці ў горад бралі.* Ляле́ўшчына Гар.

КВА́ШАННЕ гл. КВАШАНІ́НА

КВАШНЯ́ *ж.* 1. Працэс квашання. *У каждай сям'і квашню па-рознаму праводзяць.* Панізоўе Арш. 2. Дзежка для закваскі хлебнага цеста. *Разводзілі цеста ў квашні.* Балаі Міёр. 3. *перан., абразл.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. *Нейкую квашнó, а не*

*бабу ўзяў сабе ў жонкі*. Смалоўка Гар. Параўн. *клу́ша, клу́шка* ў 2 знач., *клы́мза, кулёма.*

КВІТ, КВІТО́К *м*. Квітанцыя. *Учора квіт за свет прынеслі.* Чарасы Міёр. *Паглядзі квіто́к у стале на кухні*. Вярэчча Гар.

КВОЛЬ *ж., толькі адз.* Кволасць. *Кволь нейкая напала на дзеўку*. Чапукі Міёр.

КВО́Ч *м., рыб.* Рыбалоўная драўляная прылада для прываблівання сама. *Пайду квоч закідываць, можа, соміка якога злаўлю.* Крывое Сяло Шум.

КВО́ЧКА гл. КВАКУ́ХА

КВО́ЧЫЦЬ *незак., рыб.* Прывабліваць сама пры дапамозе спецыяльнай прылады. *Пасля абеда пайду кво́чыць.* Крывое Сяло Шум.

КВО́ШКА гл. КВАКУ́ХА

КВЭЦАНІК *м*. Неахайны чалавек. *Толькі памыю, дык гэты квэ́цанік апяць гразі нанясець, натопчыць, нагадзіць кругом.* Забалацце Арш.

КВЯТЛО́ *н., зб.*, КВЯТО́НІКІ, КВЯТЫ́ *мн.* Кветкі. *Квятла́ ў гародчыку нарасло: і піоны, і розы.* Кавалі Глыб. *Запах ад квято́нікаў усюды.* Чарневічы Глыб. *Пад вокны квяты́ садзілі.* Абаляны Брасл. *Сходзі ты лепш прапалі квяты́ ў гародчыку.* Макаравічы Докш. *Вунь якія квяты́ павырасталі, аж над плотам стаяць.* Белішкі Паст.

КВЯТНІ́К *м*. Кветнік, клумба, палісаднік. *Квятні́к за лета разы тры палола, а ўсё тАрава.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *клу́бнік, клёмба.*

КВЯТУ́РКА, КЯТУ́РКА *ж.* Шырынка. *Зашпіліў бы квяту́рку ў штанах.* Сяляўшчына Рас. *Кяту́рку зашпілі, ходзіш абы-як.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кяту́ркі ў штанах цяпер усё на молніі, а не на гузіках*. Язна Міёр.

КЕБ *злуч.* Каб. *Трэба, кеб яно мінут пяць пакіпела, а потым ужо можна наліваць у банкі.* Замачак Чаш.

КЕДЫ́ гл. КАДА́

КЕП *м., абразл.* Дурань, неразумны чалавек. *Васька такі кеп, нічога па-людску не здзелаіць.* Мішкавічы Шум.

КЕ́ПЦІ, КІ́ПЦІ *мн.* Пазногці. *Во дзеўка ке́пці адрасціла!* Казлоўшчына Паст. *Гэта ўжо зараз модна стала, каб ке́пці доўгія былі.* Куніцкія Паст. *І нашто такія кі́пці расціць?* Верамееўшчына Дубр. *З такімі кіпцямі толька бульбу й капаць*. Ноўка Гар.

КЕРАСІ́НКА *ж.* Лямпа-газоўка. *На стале керасі́нка разам з ядой стаяла.* Міхалінава Лёзн. *Раньшы керасі́нка была ва ўсіх, электрычаства ж не зналі.* Лугавыя Віц. Параўн. *капцёлка, капцёрка, капці́лка, капцю́лька, капцю́рка, капцю́шка.*

КЕРЗАЧЫ́, КІРЗАЧЫ́ *мн.* Кірзавыя боты. *Мужыкі і осенню, і вясной, і летам у керзача́х хадзілі.* Задуброўе Віц. *Надзеў кірзачы́ і пашоў капаць картошку.* Антонаўка Арш.

КЕ́РХАЦЬ гл. КА́РХАЦЬ

КЕ́ЎКАЦЬ *незак., экспр.* Жыць. *Адна во ў хаце засталася, ке́ўкаю патроху.* Верамееўшчына Дубр.

КЕ́ЎКАННЕ *н.* Мяўканне. *Чую ке́ўканне, а эта кацянёнак на вярбу залез, а злезці баіцца.* Баева Дубр.

КЕ́ШКАЦЦА *незак., экспр.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Бацька нешта доўга ке́шкаўся ў хляве.* Шоці Глыб. *Колькі ты будзеш квасоль лушчыць? Цэлы дзень ке́шкаешся.* Лазы Тал. Параўн. *калупа́цца, калыпа́цца, кны́пціцца, ко́бацца.*

КІВА́ЛА *н.* Сажань, прылада для абмервання зямельных участкаў. *Брыгадзір во з ківа́лам ходзіць.* Тумінічы Арш. Параўн. *каза́*[1], *ко́за* ў 1 знач., *кавяла́*[1].

КІВА́СТЫ *прым.* Які з цяжкасцю ходзіць, хістаецца пры хадзьбе. *Заўсягды ходзіць такі ківа́сты.* Мікіціха Шум.

КІДАНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Кінуць, шпурнуць. *А пасля як кідану́ла ложку аб стол.* Залучча Гар.

КІ́ДКІ *прым.* Неўрановажаны, неспакойны (пра чалавека). *А ты не будзь такі кі́дкі.* Мядзведзева В.-Дзв.

КІЁК *м.*Ківок, аднакратны нахіл галавы ў знак прывітання, згоды. *Нічога не сказаў, адзін кіё́к галавой толькі і здзелаў.* Петрашы Тал.

КІЁЛКА, КІЁЎКА *ж., бат.* Катах чароту. *Як малыя былі, збіралі чорныя кіёлкі ў букеты.* Васюкі Шарк. *Нашто вы кіёўкі па двары раскідалі?* Запруддзе Глыб.

КІЁЎКІ *мн.* Катахі кукурузы. *Бывала, навары́ш кіё́вак, наясіся, і болей нічога не нада.* Арляны Сен., Гараны Пол.

КІЛАВА́ТЫ, КІЛА́ТЫ *прым.* 1. Малы, нягеглы, хваравіты. *І кармлю, здаецца, добра, і ўхажываю, а па́рсючок мой ні расцець, кілава́ты нейкій.* Зарэчча Гар. *Скажы кіла́таму свайму, каб у мой сад ні лазіў.* Пальмінка Гар. Параўн. *кажана́ты, кару́злы, курда́ты, курта́ты* ў 1 знач., *крапялю́ткі.* 2. *перан.* Дуплаваты. *Дрэва старае, кіла́тае.* Іванаўка Гар. *Капуста ўся кіла́тая, да аднаго качана.* Сяляўшчына Рас.

КІЛАНІ́НА, КІЛУНІ́НА *ж., толькі адз.* Мяса ці сала некастрыраванага парсюка. *Кілані́ны етай нісколька ні хачу: пахніць.* Канашы Гар. *Саседка кілуні́ну, наверна, жарыць.* Забор'е Рас.

КІЛА́ТЫ гл. КІЛАВА́ТЫ

КІЛБАСА́, КІЛБА́СІНА гл. КАЛБАСІ́НА

КІЛЗА́ *ж.* Вуздэчка. *Прынясі кілзу́ ды каня закілзай.* Чэрцы Леп.

КІ́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Надакучваць сваімі размовамі. *Яна кі́ліла б мяне да ночы, каб дачка не прышла.* Булахі Глыб.

КІЛІ́ШКА *ж.* Кілішак. *Па адной кілі́шке вып'ем ды пойдзем.* Дразды Беш.

КІЛО́МЕТР *м.* Кіламетр. *Раньшы мы ў школу хадзілі за сем кіло́метраў.* Смаляны Арш. *Пяць кіло́метраў асталося.* Баршчоўка Віц., Ноўка Гар., Чарневічы Глыб., Кавалі Лёзн., Тур'ева Сен.

КІЛУ́Н *м., заал.* Кныр. *Не заню, кідаць кілуна́ на зіму ці не.* Камоскі Беш. *Кілу́н у іх бальшэй вырас.* Курына Віц. *Заўтра свінню да кілуна́ павядзём.* Гатаўшчына, Бараны Глыб. *У іх кілуна́ закалолі сёння.* Янкавічы Рас. *Кілуна́ зарэзалі, засталася адна свінка.* Акцябрскі Чаш. Параўн. *кірно́с, кно́рус, кнур.*

КІЛУНІ́НА гл. КІЛАНІ́НА

КІЛУ́НКА *ж.* Невялікі кошык. *Кілу́нка для ягад ужо саўсім старая.* Сянькова Шум. Параўн. *кашала́* [1], *каша́чка, ко́шаль, ко́шар, ко́рфа, ко́рхла, ку́бал.*

КІ́ЛЯ *ж.* Кілаграм. *Калі ж было такое, што дзве кі́лі сахару тысячу стояць?* Шэпелева Глыб. *Парсючка ўчора купілі, кі́ляў дзесяць будзе.* Жакі Паст.

КІМА́РЫЦЬ *незак.* Спаць, драмаць. *Кіма́рыла на лаўкі ў магазіні, хлеб ждаўшы.* Канашы Гар. *Сяджу, кіма́ру троху.* Камаі Паст.

КІНДЗЮ́К, КІНДЗЮ́Х, КЛУНДЗЮ́К, КЛЫНДЗЮ́К, КУЛУНДЗЮ́К, КУРДЗЮ́К, *м.* 1. Страўнік у жывёлы. *Наеліся каровы – кіндзю́к не пераварыць.* Бачэйкава Беш. 2. *кулін.* Начынены мясам свіны страўнік. *На свята кіндзю́к будзе.* Дубраўкі Пол. *Кіндзю́х рабілі ўсей сямейкай.* Свяча Беш. *Клундзю́к рабілі: наложым мяса ў трыбушок небальшымі кускамі, і вісіць да лета.* Лісна В.-Дзв. *Набілі поўны клындзю́к.* Мікалаева В.-Дзв. *Будзем кулундзю́к вечарам рабіць.* Паташня Міёр. *А курдзю́к у ежу добра ідзе.* Алексінічы Сен. Параўн. *каўбу́х* у 2 знач., *куцю́к.*

КІ́НШЧЫК *м.* 1. Кінамеханік. *У клубі ўжэ новый кі́ншчык кіно ставіць.* Канашы Гар. 2. Аматар глядзець кіно. *Адарвіся ды йдзі паеш, кі́ншчык.* Зарэчча Гар.

КІНЯГІ́НІЦЦА *зак.* Дасягнуць шлюбнага ўзросту (пра дзяўчыну). *Пасля вайны матка мая якраз кінягінілась.* Азёркі Гар.

КІНЯГІ́НЯ *ж.* 1. Дзяўчына на выданні. *Дачка твая ўжэ кіня́гіня – калі было.* Казловічы Гар. 2. Нявеста, нарачоная. *І я глідзела, як кіняѓіню выкуплялі.* Канашы Гар.

КІПЕ́ЛЫ *у знач. прым.* Які кіпяціўся, кіпеў. *Пі, вада тут кіпе́лая.* Бігосава В.-Дзв.

КІПЦІ гл. КЕПЦІ

КІРАПЛА[1] *аг., груб.* Разява. *А я старая ўжо, кірапла.* Ахрэмаўцы Брасл.

КІРАПЛА[2] *ж., часцей мн.* КІРАПЛЫ *груб.* Рука. *Колькі ж табе казаць можна, каб ты кірапты свае ўсюды не сувала!* Ваўчо Уш.

КІРАЎНІЦА *ж.* Руль веласіпеда. *Прасіла старога, каб зрабіў кіраўніцу, дык ніяк не дабярэцца.* Кашталянаўшчына Глыб. *Глаўнае – умець кіраўніцу правільна дзяржаць.* Астроўшчына Пол. *Кіраўніца ў ровары асела нешта.* Мельніца Шарк.

КІРГА *ж., заал.* Чайка. *Поле аралі сёння, дык аж усыпана было кіргамі.* Новы Пагост Міёр.

КІРГАНЕЦ *м.* Сякач, прылада, інструмент для раздраблення, сячэння чаго-н. *Кірганец ідзі папраў: учора зламаўся.* Мікіціха Шум.

КІРЗАЦЦА *незак.* Сноўдацца, хадзіць без мэты. *А што толку, што ён кірзаецца па лесе днямі?* Вераб'і Пол.

КІРЗАЧЫ гл. КЕРЗАЧЫ

КІРНОС *м.* Некастрыраваны кабан. *Як вырвецца кірнос з хлява, дык і пакусаць можа.* Нарыца Паст. Параўн. *кілун, кнорус, кнур.*

КІРПІЧЫНА *ж.* Цагліна. *Кірпічына чуць ні на галаву звалілася.* Мазалава Віц. *Па адной кірпічыні – і няма кучы.* Смалоўка Сен.

КІРХАЦЬ гл. КАРХАЦЬ.

КІРХЕКАЛА *аг., экспр.* Хворае дзіця, якое кашляе. *Куды мне ехаць у горад з гэтым кірхекалам?* Сабалі Чаш.

КІРЧАЦЬ *незак.* Квактаць (пра курыцу). *Дзве курыцы кірчаць.* Мар'янполле Брасл. Параўн. *клохаць, клохкаць.*

КІРШЭНЬ гл. КАРШЭНЬ

КІРЫМЫ *мн.* Вялікія прасторныя пакоі. *А што, калі і пабыла ў сына, нічога з яго кірымамі не зрабілася.* Празарокі Глыб.

КІСЛЕЦ, КІСЛІК, КІСЛЮК, КІСЛЯК *м.*, КІСЛАЎКА, КІСЛЯЎКА *ж.*, КІСЛЯ, КІСЛЯЦІНА *ж., зб.*, КІСЛЯЦЦЕ *н., зб.* 1. Кіслы яблык. *Пачаставалі і мяне кісляцом.* Дзеркаўшчына Глыб. *Ад кіслікаў аскоміну набіла.* Храпакі Віц. *Антонаўка кіслая, адні кіслюкі.* Забалацце Арш. *Кіслюкоў цэлую кашолку карове нарвалі.* Ластавічы Глыб. *Ад гэтага кісляка аж вочы на лоб лезуць.* Парф'янава Докш. *У старым садзе ўжэ адны кіслякі.* Пышна Леп. *Ну і кісляк, аж есці не хочацца.* Сіўцы Паст. *І як вы етыя кіслаўкі ядзёце?* Лялеўшчына Гар. *Кіслёй пачастуйся.* Радзюкі Шарк. *Што ты мне за кісляўку даў, сам еш.* Паліцы

Беш. *З кісляціны канпот добра закатываць.* Ткачы Гар. *На той яблыні кісляціна адна.* Шарагі Міёр. *Зноў аднаго кісляцця нарвалі.* Рамашкава Тал. 2. Кіслае малако, сыраквашa. *Нада банку з малаком на кісляк паставіць.* Бачэйкава Беш. *З кісляку тварог зробім.* Свірдуны Паст. *Не хочаш свежага малака – выпі кіслі.* Мельніца Шарк. 3. Закваска. *Галоўнае, каб кісля ў дзяжы не звялася.* Урбаны Брасл. 4. *перан., экспр.* Грузны чалавек. *Віцька такім кісляком стаў, а быў жа відны маліц.* Сокарава Беш.

КІСЛІНА *ж., толькі адз.* Воцат. *Кіслінай нада мурашак паліваць.* Булахі Глыб.

КІСЛІЦА *ж., зб., бат.* 1. Шчаўе. *Набяру кісліцы, што зварым, а што закатаем на зіму.* Бігосава В.-Дзв. *Адвячоркам у кісліцу сходзім.* Вархі Гар. *Нарві кісліцы на халаднік.* Янкавічы Рас. *З'ясі кісліцы ў полі – і піць не хочацца.* Скоґ Сен. *З кісліцы суп будзе.* Бубалі Шум. 2. Парэчкі. *Кісліца ўжо паспела.* Віркі Чаш.

КІСЛУХА *ж., кулін.* Поліўка. *Учора наварыла кіслухі поўную каструлю.* Ахрэмаўцы Брасл.

КІСЛЮК, КІСЛЯ, КІСЛЯК, КІСЛЯЎКА, КІСЛЯЦІНА, КІСЛЯЦЦЕ гл. КІСЛЕЦ

КІСЦЕНЬ *м., бат.* Гронка. *Брат дастаў з кармана кісцень арэхаў.* Асінаўка Сен. Параўн. *казёл* [5].

КІСЯЛЁЎКА *ж.* 1. Пасудзіна для прыгатавання кісялю. *Недзе ж была ў нас кісялёўка – шукай.* Луначарскае В.-Дзв. 2. Мешалка, вялікая лыжка або палка з кручком на канцы, прызначаныя для перамешвання вадкіх страў. *Січас як стукну кісялёўкай, раз слухаць не хочыш.* Смалоўка Гар. *Вазьмі кісялёўку і памяшай поліўку.* Сахнавічы Глыб.

КІТА, *памянш.* КІТКА *ж., с.-г.* Сноп, вязанка. *Нажнеш сноп бобу, і гэта кіта называецца.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Вылушчы хоць кіту бобу.* Дрыгучы Міёр. *Тры кіты змалацілі.* Пралетарыя Уш. *Кіткамі ўсё сена ў пуню панасілі.* Сабалі Чаш. 2. Верх сцябліны. *Ад ветру кіткі аўса дужа калыхаліся.* Верхняе Глыб.

КІТАЙКА *ж.* Кітаянка. *Хто кажа, што яна карэйка, а хто кітайка.* Халамер'е Гар.

КІТКА гл. КІТА

КІЎБАСА гл. КАЛБАСІНА

КІХА *ж.* Унутраная камера, гумавая абалонка шыны. *Даў грошай унуку, каб сабе новую кіху ў горадзе з бацькам купіў.* Сасноўка Глыб. *Кіху заменім заўтра.* Празарокі Глыб. *У дарозе задзяржалася, нада было памяняць кіху.* Пліса Глыб. *Кіха воздух спускае.* Ветахмо Докш. *І кіха ў калясо новая пастаўленая, а ехаць не магу.* Вісяты Міёр.

КІХІКАЦЬ гл. КАРХАЦЬ

КІЦЮ́К гл. КАЦЯ́РА

КІ́ЧКА *ж.* Жаночая прычоска; гулька. *Свае длінныя валасы яна сабірала ў кі́чку.* Мікіціха Шум.

КІЧО́ЎКА *ж.* Купіна. *Скокай па кічо́ўках, можа і дабяромся да сухога.* Губіца Шум.

КІ́ШКІ *толькі мн.* Мязга гарбуза. *Сначала з гарбуза кі́шкі выпусцім, а тады будзім з яго суп малочный варіць.* Мазалава Віц.

КІЯ́Х *м., бат.* Пачатак кукурузы. *Пачалі ўжэ кіяхі́ налівацца, скора есці будзем.* Крынкі Лёзн.

КІЯ́ШНІК *м., зб., бат.* Чарот. *На балоці кія́шнік – ростам з чалавека, чуць вылізла з яго.* Заазер'е Гар.

КЛАД *м.,* КЛА́ДНЯ *ж.* 1. Складзеныя дровы. *Клад учора наклалі, а ён разваліўся.* Залессе В.-Дзв. *Клад роўна рабі, каб не разваліўся.* Азярцы Глыб. *За дзень два клады́ бальшых наклала.* Далёкія Брасл. *Дровы склалі ў два клады́.* Косарава Глыб. *У холад кла́дня хутка меншала.* Мельніца Шарк. 2. Калода, на якой сякуць дровы. *Раўней клад пастаў – лягчэй рубіць будзе.* Мельніца Шарк. 3. Стог сена прамавугольнай формы. *Два клады́ сена на полі засталіся, пад даждзём мокнуць.* Вярэчча Гар. *Суседзі кла́дню пасля дажджу паправілі.* Ластавічы Глыб. 4. Застаронак. *Сёлета кла́дню амаль што ўсю запоўнілі.* Ластавічы Глыб.

КЛА́ДЗІ *толькі мн.* Кладка, дошкі, пакладзеныя для пераходу праз раку ці ручэй. *Рэчку па кла́дзям пераходзім.* Партызанаўка Віц.

КЛА́ДЗІШЧА *н.* Могілкі. *Тая дарога к кла́дбішчу ішла. Нядобра гэта, што ў нас свайго кла́дзішча няма.* Бігосава В.-Дзв. *Заўтра на кла́дзішча схаджу: па маме дзевяць год будзе.* Выхадцы Лёзн. *На Углянскім кла́дзішчы ўсе мае пахаронены.* Літусава Сен. *На кладзі́шчы была, наплакалася.* Узмёны Міёр. *За кладзі́шчам поле было некалі, а цяпер бур'ян расцець.* Тумінічы Арш.

КЛАДЗЬ *ж.* Перакладзіна на страсе. *На кладзь ключы вешаем.* Жакі Паст.

КЛА́ДНЯ гл. КЛАД

КЛАДО́ВА *ж.* Кладоўка, памяшканне для захоўвання гаспадарчых рэчаў. *У кладо́ве цёмна.* Коравічы Чаш.

КЛАДУ́ШКА *ж., заал.* Курыца-нясушка. *Кладу́шка на гняздо ў хлеў пабегла.* Янкавічы Рас.

КЛАПО́ТА *ж.* Клопат. *Клубніка ў нас – гэта нявесткіна клапо́та.* Гарэлікі Лёзн.

КЛАСЦЬ, КЛАСЬ *незак.* Класці. *Ні нада тут ключ класць, з сабой бяры.* Сянькова Віц. *Нада ўсё ўсігда клась на места.* Забор'е Рас.

КЛЕВЯРЫ́ШЧА, КЛІВЯРІ́ШЧА *н.* Канюшынішча, месца, дзе расла канюшына. *Восінню клевя́рышча араць будзім.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *К рэчкі чэріз клівяр́ішча ідзі.* Ноўка Гар.

КЛЕКАТА́ЦЬ *незак., перан.* Глуха, перарывіста грукаць. *Усю ночку дождж па вакну клеката́ў.* Мікіціха Шум.

КЛЕНАВІ́К *м.*, КЛЯНО́ЎКА *ж.* Кляновік, кляновы сок. *Кленавіку́ папіла, так харашо.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Па вясне кленавіку́ нада нагнаць.* Папкі Шарк. *Кляно́ўка саладзейшая за бярозавік.* Куты Докш. *Жара, дык кляно́ўку во цэлы дзень п'ю.* Горы Чаш.

КЛЕНЬ, КЛІНЬ *м., заал.* Галавень, прэснаводная рыба сямейства карпавых. *Клень халодную ваду любіць.* Заборцы Докш. *Клінь там дужы ходзіць.* Данілкава Тал.

КЛЕ́ЎКА *ж.* Рэшата. *Падзяржы мне кле́ўку, грыбы адцэдзім.* Стрыжава Беш.

КЛЕЦ *м.* Зуб у баране. *Нада было б у баране клец зрабіць.* Туркова Міёр.

КЛЕ́ШЧЫКІ *мн., бат.* Грыбы ваўчкі. *Вось яны, кле́шчыкі, растуць.* Ушачы.

КЛЁМБА *ж.* Клумба, кветнік, палісаднік. *Усякіх кветак на клёмбе панасадзілі.* Пашкі Шарк. Параўн. *квятні́к, клу́бнік.*

КЛІ́БЗА, КЛІБІ́НА *ж.* 1. Дубец; лазіна. *Па табе ўжэ даўно клібі́на плачыць.* Сакольнікі Віц. *Ідзу ў хату, а то клібі́ну вазьму.* Пруды Пол. 2. *перан., груб.* Высокая, нязграбная дзяўчына. *Хто етую клі́бзу замуж возьміць?* Канашы Гар. *А маёй клібі́ні штодня наряды новыі давай.* Касачы Віц.

КЛІВЯРІ́ШЧА гл. КЛЕВЯРЫ́ШЧА

КЛІВЯРЫ́НА *ж., адзінк.* Адна расліна канюшыны. *Во якая клівяры́на вырасла – што значыць спагноіная зямля.* Баева Дубр.

КЛІК *м.* Крык. *З лесу клік пачулі.* Узмёны Міёр.

КЛІНЬ гл. КЛЕНЬ

КЛО́КЦЫ *толькі мн., кулін.* Бульбяныя бліны з мясам. *У мамы смачныя кло́кцы заўсёды.* Дразды Беш.

КЛО́ХАЦЬ, КЛО́ХКАЦЬ *незак.* Квактаць (пра курыцу). *Куры нешта кло́хаюць.* Бораўна, Забалоцце Леп. *Курыца наша кло́хкае на ўсю вуліцу.* Сар'я В.-Дзв. Параўн. *кірча́ць.*

КЛУ́БНІК *м.* Клумба, кветнік, палісаднік. *Травы ў клу́бніку – хоць касой касі.* Шарагі Міёр. Параўн. *квятні́к, клёмба.*

КЛУБНІ́К *м., толькі адз., зб.* Клубніцы. *Сёлета клубні́к у нас прапаў увесь.* Бігосава В.-Дзв. *Пайду клубні́к хоць трошку*

*прапалю.* Канашы Гар. *У гэтым годзе клубнік добры быў.* Папшулі Міёр.

КЛУ́ДКА *ж.* Клямка. *Закрый дзверы на клу́дку.* Укля Брасл.

КЛУМАК *м.* Клунак, хатуль. *Уперад сумак не вялося, дык завяжыш у клу́мак і за плечы.* Лазы Тал.

КЛУНДЗЮ́К гл. КІНДЗЮ́К

КЛУ́НУЦЬ *зак.* Падміргнуць. *Клу́неш мне тады, але глядзі, каб ні ўбачыў ніхто.* Мікіціха Шум.

КЛУ́НЯ *ж.* Пуня, адрына, пабудова для захоўвання сена. *Схадзі за віламі ў клу́ню.* Быцава Беш. *Схадзіў бы сам у клу́ню ды паглядзеў, як і што там.* Гілі Чаш.

КЛУ́ША, КЛУ́ШКА *ж., заал.* 1. Квактуха, курыца, якая выседжвае або водзіць куранят. *Учора маці клу́шу пасадзіла на яйкі.* Мнюта Глыб. *Клу́шку пад карыта пасаджу.* Камаі Паст. *У сінавалі ў мяне ўжо дзве клу́шкі сядзіць.* Новая Зара Чаш. Параўн. *квакуха, квочка, квошка* ў 1 знач., *кураводзіха.* 2. *перан., экспр.* Непаваротлівая жанчына ці дзяўчына. *З такой клу́шай разві ягад назбіраеш.* Кулакова Віц. *Стаіш, як клу́ша, кручэй паварочвайся.* Запруддзе Глыб. *І як з такой клу́шай жыве ён?* Новая Зара Чаш. Параўн. *квашня́* ў 3 знач., *клы́мза, кулёма.*

КЛЫБА́ТЫ *прым.* Кульгавы (пра чалавека). *Што ты хочаш, ён клыба́ты чалавек.* Круткі Паст.

КЛЫБУ́Н *м., іран.* Кульгавы чалавек. *Мой клыбу́н зноў недзе соўгаецца.* Сабалі Чаш. Параўн. *кавяла́*[2] ў 3 знач., *крывіндзя, крыву́ля.*

КЛЫ́ЖНЯ *ж.* Нага вялікага памеру. *Малая твая такія клы́жні маіць.* Іванькі Міёр.

КЛЫК *м.* Зубец у граблях. *Ад тваёй працы ў граблях адзін клык застаўся.* Крыўкі Шарк. *Сена не ўмееш грабіць, вечна клы́кі ў граблях паціраеш.* Шарагі Міёр.

КЛЫ́МЗА *аг., груб.* Непаваротлівая, павольная ў рухах жанчына. *Пакуль тая клы́мза дойдзе, дык я ўспею справіцца.* Замочак Чаш. Параўн. *квашня́* ў 3 знач., *клу́ша, клу́шка* ў 2 знач., *кулёма.*

КЛЫНДЗЮ́К гл. КІНДЗЮ́К

КЛЫ́ЧЫЦЬ *незак.* 1. Забаўляць (пра дзіця). *Работа стаіць, німа калі цібе клы́чыць.* Ноўка Гар. 2. Камячыць, ціскаць. *Перастань клы́чыць кацёнка.* Канева Сен. *Хопіць таго малога ката клы́чыць.* Гілі Чаш. Параўн. *ко́цаць.*

КЛЭ́БА *прысл.* Добра, цудоўна. *Ну як палучылась, клэ́ба? А ты гаварыў!* Антонаўка Арш.

КЛЮ́КА, КЛЮКА́ *ж.* Кій, палка. *На пасту клю́ку вазьмі, усё ж каровы будуць баяцца.* Мельніца Шарк. *Як дам клюко́й па спіне, калі не сціхнеш.* Забор'е Глыб. Параўн. *каві́нька.*

КЛЮКУ́ШКА *ж.* Прылада, якой выграбаюць жар з печы. *Вазьмі клюку́шку, вычысці сначала, а патом і дровы наложыш.* Вядзерава Беш.

КЛЮПІ́ШНЯ *ж., заал.* Клюшня, канечная частка ножкі рака і ракападобных. *Многа ракаў было з адной клюпі́шняй.* Сокарава Беш.

КЛЮ́ШНІ *мн., перан., іран.* Пальцы. *Цэлы дзень сёння клю́шні ломіць.* Курылаўшчына Беш.

КЛЯНО́ЎКА гл. КЛЕНАВІ́К

КЛЯНРО́К *м.* Гаршчочак. *Апошні клянро́к з мёдам аддала.* Стрыжава Беш.

КЛЯ́ПА[1] *ж.* Лацкан. *У дзеда быў пінжак з шырокімі кля́памі.* Пашкі Шарк.

КЛЯ́ПА[2] *ж.* Нарасць на ствале дрэва. *Паглядзі во, што за кля́па на бярозе.* Вялікая Пярэспа Сен.

КНО́РУС, КНУР *м., заал.* Кныр, самец свінні. *Адгадавалі сытнага кно́руса.* Тупічына Шарк. *Свінку нада было б да кнура́ звадзіць.* Задуброўе Віц. *У каго гэта кнур ёсць, каб свінню падпусціць.* Завараты Глыб. *Забілі кнура́, сталі сала жарыць, а яно ўсё ў пене.* Сакалянка Тал. Параўн. *кілу́н, кірно́с.*

КНУР гл. КНО́РУС

КНЫ́ПЦІЦЦА *незак., экспр.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Хваціць кны́пціцца, збірайся.* Залучча Гар. *Усё рання ў хаці кны́пілася, а што зрабіла?* Смалоўка Гар. Параўн. *калупа́цца, калы́пацца, кешка́цца, ко́бацца.*

КНЫ́РЫЦЬ, КНЫ́РІЦЬ *незак., экспр.* Вышукваць, шнарыць. *Захажу ў спальню, а там цыганка нешта кны́рыць і прыгаварываіць.* Забор'е Чаш. *Ні нада кны́ріць: нічога німа тут.* Залучча Гар.

КНЫ́ХАЦЬ *незак.* Хныкаць. *Чаго ты сядзіш і кны́хаеш?* Гарадок. *Хваціць кны́хаць, хадзі ўжэ на рукі вазьму.* Селішча Гар.

КНЫ́ЧЫЦЬ[1] *незак., экспр.* Клянчыць. *Кныч не кныч – нічога ні палучыш.* Канашы Гар.

КНЫ́ЧЫЦЬ[2] *незак.* Поўзаць, шавяліцца (пра насякомых). *Кны́чыць нехта пад плаццем.* Буднікі Беш.

КНЭ́БЕЛЬ *м.* Пуга, бізун. *Вылупі яго кнэ́блем – наступны раз не палезе.* Пашкі Шарк.

КНЭ́БЛІ *толькі мн.* Ціскі. *Кнэблі – ціскі такія – яшчэ ў майго дзеда былі.* Лісна В.-Дзв.

КНЯ́ГАЦЬ *незак.* Настойліва, надакучліва паўтараць што-н. у размове. *Што ты кня́гаеш мне тут, знаю сама, як лепі зрабіць.* Туркава Міёр.

КО́БАЦЦА *незак., экспр.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Ну, будзе табе ўжэ ко́бацца, людзі ўсе на полі ўжэ.* Камень Леп. Параўн. *калупа́цца, калыпацца, ке́шкацца, кныпці́цца.*

КО́БЛІК *м., заал.* Пячкур, невялікая рачная рыба сямейства карпавых. *Ко́блік у светлых месцах вадзіцца любіць.* Заборцы Докш.

КО́ВАРАТ *м.* Вароты, брама. *Прайшоў праз ко́варат і стаў на двары.* Кашчына Чаш.

КО́ДЛА[1] *ж.* Кампанія, група знаёмых ці блізкіх людзей. *Усёй ко́длай у хату завалілі, ногі нават не абмёўшы.* Нямойта Сен. *Наканец-та ўся ко́дла сабралася.* Мельніца Шарк. Параўн. *кага́л* у 1 знач., *ку́нда.* // Дрэнная кампанія. *Гэта не дзеці, а нейкая ко́дла бандзіцкая.* Бігосава В.-Дзв. *Сын яе з гэтай ко́длай звязаўся.* Іванск Чаш.

КО́ДЛА[2] *ж.* Бочка, драўляная пасудзіна для засолкі гародніны. *Гуркоў шмат, прійдзецца ў ко́дле ставіць.* Кузняцова Віц. Параўн. *кадýба.*

КО́ЗА гл. КАЗА́[1]

КО́ЗАН гл. КАЗА́Н

КОЙ-НІЯ́К *прысл.* Як-небудзь. *Кой-нія́к справіліся з етай кабылай.* Доўжа Віц.

КО́ЛЕНЦЫ гл. КАЛЕ́ННЕ

КО́ЛІКАМ *прысл.* Нерухома, застаючыся на адным месцы, не падымаючыся. *Як прыехаў, так і ляжыць ко́лікам, ні за што не бярэцца.* Смаляны Арш.

КО́ЛКА *ж.* Колікі, рэзкі востры боль. *Ко́лка ў бакі стала калоць – во што значыць старасць.* Мікалаёва Міёр.

КО́ЛЬКА *займ.* Колькі. *Ко́лька разоў пытаць будзеш?* Смалоўка Сен.

КО́ЛЬЧЫКІ *мн.* Завушніцы. *У горад ездзілі з мамай, купілі ко́льчыкі залатыя.* Свірдуны Паст.

КО́МЖАЧКА *ж.* Верхняе адзенне для хлопчыкаў у час богаслужэння у касцёле. *Пекна было на хлопчыкаў глядзець, апранутых у белыя ко́мжачкі.* Папшычы Глыб.

КО́МШЫЦЬ *незак.* Есці (многа, прагна). *Хваціць табе ўжэ ко́мшыць, уставай ды пашлі.* Хайсы Віц.

КО́МЫ гл. КАМЯ́К[1]

КО́НВА *ж.* Бітон. *Пасля дажджу вады поўная ко́нва.* Івесь Глыб. Параўн. *ка́на, ка́нка, ка́нна* ў 1 знач.

КО́НІК *м.* Ко́злы, падстаўка для пілавання дроў у выглядзе бруса на чатырох ножках, збітых крыж-накрыж. *Ко́нік новы буду дзелаць, а то дровы папіліць нільзя.* Мікалаева Шум. Параўн. *казёл* [1], *казлы́, казлю́кі.*

КО́НЦАМ, КО́НЧА *прысл.* Абавязкова. *Ко́нцам табе ўсё сягоння зрабіць, будзіць і заўтра дзень.* Вяцера Докш. *Нам трэба ко́нча зрабіць, каб не спо́зніцца.* Кашчына Чаш. Параўн. *кра́ем, кра́йна, кра́йне.*

КО́ПА гл. КАПЯК

КО́ПТУР гл. КАПТУ́Р

КО́РІНЬ гл. КАРЕ́НЬ

КО́РМА *ж.* Сіласная яма. *За фермай учора ко́рму ўкладвалі.* Крынкі Лёзн.

КО́РМКА *ж.* Месца лоўлі рыбы. *Я заняў сабе ко́рмку.* Казімірова Пол.

КО́РФА, КО́РХЛА *ж.* Карзіна, кошык. *Ко́рфа – эта небальшая пляцёная карзіна з дзвюмя ручкамі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ко́рфу вазьму – ды ў ягады.* Бароўка В.-Дзв. *Маі бацькі карзіну называлі ко́рхлай.* Чарневічы Глыб. Параўн. *кашала́* [1] ў 1 знач., *каша́чка, ко́шаль, ко́шар, кілу́нка, ку́бал.*

КОРЧ *м.* Куст бульбы, цыбулі, вывернуты з зямлі. *Два карчы́ цыбулі вывернуў нехта на градзе.* Ваўчо Уш.

КО́РЧЫК *м.* Кубак, конаўка. *Вун ко́рчык, напіся з вядра.* Трыгубцы Віц. Параўн. *ква́рта, кватэ́рка, ку́бар, куба́рка* ў 2 знач., *ку́хлік.*

КО́РЧЫКАМ гл. КАРЧАКО́М

КО́РЫНЬ гл. КАРЕ́НЬ

КО́ТКА *ж.* 1. Кацяня. *Ні адной ко́ткі я не стапіла, людзям раздавала, каб гадавалі.* Кутняны Пол. Параўн. *кацяне́нак.* 2. Кошка. *Мышэй другі год няма, ко́тка ад сусядоў лавіць прыходзіць.* Муляры Паст.

КО́ТЛІСАК *м.* Месца жыхарства, сяліба. *Мы пачці што первыі на этым ко́тліску пастроілісь.* Лужкі Шарк.

КО́ТУХ *м.* Катух, невялікі хлеў або адгароджанае ў ім месца. *У ко́туху на бульбе стаіць кошык.* Сабалі Чаш.

КО́ЎЗАЦЦА *незак., перан.* Марудзіць. *Што ты ко́ўзаешся на градке, вечар ужо скора, а ты і палавіну не здзелала.* Котава Віц. Параўн. *куме́шкацца.*

КО́ФІЙ *м.*, КО́ФІЯ *ж.* Кава. *Ко́фій піць пакуль не буду: гарачы выельмі.* Чарневічы Глыб. *Раней ко́фій з жалудоў рабілі.* Варапаева Паст. *Каб даўленне падняць, ко́фій п'ю.* Александрова Сен. *Ко́фію мне нічога не заменіць.* Канашы Гар. *Ко́фію гарячую дужа люблю, як дачка здзелаіць.* Хайсы Віц.

КО́ХЦІ *толькі мн.* Кіпцюры. *Ко́хцьмі ўпіўся, трываць ні магу.* Канашы Гар.

КОЦ *м.* Коўдра фабрычнага вырабу з шэрсці ці бавоўны; лёгкая коўдра. *Ты ж бы коцам абкрыўся, а то халаднавата неяк.*

Макаравічы Докш. *Ускінь коц на плечы і сядзі грэйся.* Аўсянка Міёр. *Прыкрыйся вазьмі коцам.* Савуткі Шарк.

КОЦАЦЬ *незак.* Камячыць, ціскаць. *Як былі малыя, любілі коцаць малых шчанят, а мама лаілася на нас.* Таўкіні Шарк. Параўн. *клычыць* у 2 знач.

КОШАЛЬ, КОШАР гл. КАШАЛА[1]

КРАВАЎКА *ж., кулін.* Крывяная каўбаса. *Заўтра будзем рабіць краваўку.* Свіла Глыб. Параўн. *крупаўка.*

КРАВАЎНІК, КРОЎНІК *м., бат.* Крываўнік, шматгадовая травяністая расліна. *Індзюкоў кормяць краваўнікам у нас, сабіраюць і даюць ім з кіслым малаком – растуць добра тады.* Азярцы Глыб. *Сёлета кроўнік як ніколі разросся.* Малыя Пышнагоры Леп. *Глянь, ужо кроўнік з'явіўся.* Латышы Глыб.

КРАЕМ, КРАЙНА, КРАЙНЕ *прысл.* Абавязкова. *Мне краем трэба ў бальніцу.* Бачэйкава Беш. *Крайна нада бульбу капаць, пакуль ні пагніла ўся.* Малькава Лёзн. *А табе гэта нада было крайне дзелаць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *концам, конча.*

КРАЛІ *толькі мн.* Каралі. *Здзень кралі: у гарод ідзеш, а ні танцы.* Канашы, Ноўка Гар. *Я ўсё жыццё працавала, кралі не было калі надзяваць.* Шацяні Сен.

КРАЛІХА, КРАЛІЦА, КРАЛЬЧЫХА *ж.* Самка труса. *Сёлета краліха чатырох кролічкаў нам прывяла.* Муляры Паст. *Краліца акацілася.* Панізоўе Арш. *Прыходжу ў сарай, а мая кральчыха елі жывая ляжыць.* Новая Зара Чаш.

КРАЛЬЧО *н.* Трусяня. *Кральчо забілася пад даску.* Новая Яблынька Тал.

КРАЛЬЧЫХА гл. КРАЛІХА

КРАМШЧЫК *м.* Прадавец. *Дзед наш крамшчыкам пасля вайны ўстроіўся, талковы быў.* Забалацце Арш.

КРАПАНІК *м., кулін.* Бульбяны піражок з начынкай. *Заўтра хачу ў мястэчка з'ездзіць, дык жа ж крапанікаў трэба настроіць, каб быў гасцінец для ўнучка майго.* Запруддзе Глыб.

КРАПАЦЦА *незак.* 1. Блытацца, бязладна пераплятацца. *Ніткі добрыя, не крапаюцца.* Сарочына Уш. 2. Блытацца, пераходзіць з месца на месца, чапляцца за што-н. *Малы толькі пад нагамі і крапаецца.* Вярхоўе Беш.

КРАПАЦЬ[1], КРІПАЦЬ *незак.* Начыняць, фаршыраваць. *Днём мяса рэзалі, вечарам кілбасы крапаць будзім.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Учора калбасы крапалі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кілбасы абязацельна крапаць будзем.* Іванькі Міёр. *Булкі грыбамі крапалі.* Кошчава Беш. *Кілбасы ўвесь вечар кріпалі.* Вярэчча Гар.

КРАПАЦЬ[2] *незак.* Вязаць, плесці кручком, пруткамі. *Сядзіш ціханька, не чуваць. Думаю: што робіш? Аказваецца, нешта крапаеш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *калупаць, калыпаць.*

КРАПЁЖ *м.* Капеж, ніжні край страхі, даху, які выдаецца над сцяной. *Вядро пад крапёж пастаў: заўтра дождж будзе.* Прыпернае Глыб.

КРАПІ́ВА, КРАПІ́ВІЦА *ж.* Крапіва́. *Няма ўжо дзе і крапі́вы атарваць парасёнку: зводзіцца і гэта пустазелле.* Мікіціха Шум. *Каля плота крапі́ву нада абкасіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Крапіві́цай усё каля хаты пазарасло.* Мікіціха Шум.

КРАПІ́ЎНІК, часцей КРАПІ́ЎНІКІ *мн., заал.* Кураняты, выседжаныя ў траве. *Сядуха мая крапі́ўнікаў павыводзіла.* Косарава Глыб. *Прывяла курка крапі́ўнікаў пяць.* Сахнавічы Глыб. *Крапіўнікі мае зусім яшчэ слабенькія.* Манякова Міёр. *Сем крапі́ўнікаў сёння курыца прывяла.* Пашкі Шарк.

КРАПІ́ЎНІЦА *ж., заал.* Курыца, якая сама села на яйкі. *Учора крапі́ўніца мне курак прывяла.* Бабічы Глыб. *Помню, летась у маей саседкі былі аж тры крапі́ўніцы, ні знала, куды ціплят дзіваць.* Більдзюгі Шарк.

КРАПЯЛЮ́ТКІ *прым.* Невялікі, малога росту. *Сынок у яе быў крапялю́ткі.* Пурышкі Гар. Параўн. *кажана́ты, кару́злы, кілава́ты, кіла́ты* ў 1 знач., *курда́ты.*

КРАСАВЕ́Ц *м., бат.* Падасінавік. *Красаўцы́ пад асіна́й глядзі.* Шарагі Міёр. Параўн. *краснагало́вік, красна́чык, краснюќ, красня́к, крася́к.*

КРАСА́ДНЯ, КРУСО́ДНЯ, КРЫСА́ДНЯ *ж.* Курасадня, седала. *На краса́дню куры пасля абеду ўжэ пасядуць.* Езярышча Гар. *На краса́дні куры ўвесь дзень праседзелі.* Смародзіна Лёзн. *Можа, паможаш загнаць курэй на краса́дню?* Сураўні Шум. *Паглядзі, ці ўсе куры на крусо́дні.* Алексінічы Сен. *Пятух мой першым на крыса́дні ўсядзіцца, а тады ўжэ курак завець.* Камары Віц. Параўн. *карусо́нне, крусо́нне, крысо́нне, куро́санне, курсо́нне, курусо́ннік, катуха́, крашэсць, крашэ́сь, курашэ́сце, курашэсць, курча́нка.*

КРАСА́ЎКА *ж., заал.* Чырванапёрка, прэснаводная рыба сямейства карпавых. *Краса́ўку перад дажджом добра лавіць.* Леснікі Глыб. *На Машчонскім возеры краса́ўку мне не даводзілася спаймаць.* Белая Ліпа Сен. *Вясной кожны дзень па вядру краса́вак лавіў.* Ваўчо Уш. *Краса́ўка перад дожджам добра бярэцца.* Вішанькі Чаш. Параўн. *краснакры́лка, краснюха.*

КРАСЁННАЕ *н., у знач. наз.* Тканіна, сатканая на кроснах. *У гэтай скрыні ў мяне красённае ляжыць, яшчэ ад мамы асталося.* Запруддзе Глыб.

КРАСІВЕ́ЦЬ *незак.* Прыгажэць. *Ты ўсё красіве́еш і красіве́еш дзень ата дня.* Выхадцы Лёзн.

КРА́СКІ *толькі мн.* Касметыка, касметычныя сродкі. *Цяпер у маладзёжы, у дзевак якіх хочаш кра́сак– намажуцца і пайшлі.* Папшулі Міёр.

КРАСНАГАЛО́ВІК *м., бат.* Падасінавік. *У нас ёсць усякія грыбы: і баравікі, і суравежкі, і абабкі, і краснагало́вікі.* Гаране Пол. *У нашых лясах рэдка калі знойдзеш краснагало́віка.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *красаве́ц, красна́чык, краснюк, красня́к, красяк.*

КРАСНАКРЫ́ЛКА *ж., заал.* Чырванапёрка, прэснаводная рыба сямейства карпавых. *Рыба ўсякая ў нас водзіцца, краснакры́лкі многа.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *краса́ўка, краснюха.*

КРАСНАЛЮ́ДКІ *мн., міф.* Гномы. *Бабка расказвала пра краснаалю́дкаў, яны жывуць у лесе, у нары. У іх розавы нос, бальшыя вушы і красная шапка.* Квачы Глыб.

КРАСНА́ЧЫК, КРАСНЮ́К, КРАСНЯ́К, КРАСЯ́К *м., бат.* Падасінавік. *Красна́чыкі паявіліся.* Кульгаі Глыб. *Большы за ўсё люблю краснюкі́.* Плісы Беш. *Шапкі красныя, таго і краснякі́.* Асташэва Лёзн. *Красякі́ растуць за хатай, дзе а́сінка малодзінькая.* Асташэва Лёзн. Параўн. *красаве́ц, краснагало́вік.*

КРАСНЮ́ХА *ж., заал.* Рыба чырванапёрка. *У трысніку добра клююць краснюхі́.* Дунілавічы Паст. Параўн. *краса́ўка, краснакры́лка.*

КРАСНЯ́К гл. КРАСНА́ЧЫК

КРАСО́ЎНІК *м.* Месяц красавік. *У красо́ўніку работы прыбавіцца.* Пліса Глыб. *Вось і красо́ўнік прыйшоў, зіма адступіла.* Празарокі Глыб.

КРАСУ́ЛЯ *ж.* Прыгажуня, прыгожа апранутая жанчына. *Яна ў нас ходзіць як красу́ля.* Замошша Брасл.

КРАСЯ́К гл. КРАСНА́ЧЫК

КРАТАВІ́НА *ж., зб.* Кратавінне, зямля, паднятая кратамі. *Уся сцежка была ў кратаві́не.* Рог Уш.

КРАЎНЯ́ЧКА *ж.* Сваячка. *Яна нам краўня́чкай прыходзіцца.* Вялікае Сяло Сен.

КРА́ХАЦЬ *незак.* Квакаць. *Жабы кра́хаюць, не даюць спаць.* Косарава Глыб.

КРАХМАЛО́ЎКА, *памянш.-ласк.* КРАХМАЛО́ВАЧКА *ж., кулін.* Зацірка; страва з крухмалу. *Сёння і я крахмало́вачку варыла.* Надазер'е Глыб. *Крахмало́ўка згатавалася, пара есці.* Бораўна Леп.

КРА́ШАНЫ *у знач. прым., кулін.* Запраўлены тлушчам (пра страву). *Кра́шаная каша смачнейшая.* Іванаўка Гар.

КРАШЭ́СЦЬ, КРАШЭ́СЬ, КУРАШЭ́СЦЬ *ж.,* КУРАШЭ́СЦЕ *н.* Курасадня, седала. *Гані курей на крашэ́сць.* Вярэчча Гар. *Згані курэй з крашэ́сці.* Пушкі Лёзн. *Курэй маладых на крашэ́сь не*

*загнаць, дапазна ходзюць.* Гунчакі Віц. *Крашэсь кароткую здзелаў, длінней нада.* Мазалава Віц. *Нанач усе куры сабіраюцца на курашэсць.* Сянькова Віц. *На ноч усе куры збяруцца на курашэсць.* Чарневічы Глыб. *Пара хлеў закрываць, куры ўжо на курашэсць паселі.* Межава Рас. *Малыі кураняты на курашэсце лезці баяцца, мёрзнуць унізе.* Мурагі Рас. Параўн. *карусонне, крусонне, крысонне, куросанне, курсонне, курусоннік, катуха, красадня, крусодня, крысадня, курчанка.*

КРАЮХА, *памянш.* КРАЮШКА *ж.* Акрайчык хлеба. *Адрэж краюху!* Баршчоўка Віц. *Памані карову краюшкай.* Смалоўка Гар.

КРІКАТУРА *ж.* 1. Смешнае здарэнне, выпадак. *Сёння крікатуру відзіла: саседка са сваей нівесткай білася.* Канашы Гар. 2. *перан., іран.* Здольны да жартаў чалавек. *А во і мая крікатура едзе.* Стайкі Арш.

КРІПАЦЬ гл. КРАПАЦЬ[1]

КРОК *м.* Разрэз у спадніцы. *Паглядзі, крок пасярэдзіне ў спадніцы?* Косарава Глыб.

КРОКЛА, КРЫКВІНА *ж.* Кроква. *Наша крокла на хаце падгніла дужа.* Дразды Беш. *Крыквіна ўстаўляецца ў гняздо, якоя высічана ў падсценным бервяну.* Сляяўшчына Рас. // КРОКЛЫ, КРОХВЫ, КРОХЛЫ *мн.* Кроквы, аснова для страхі. *Зруб ужо зрубілі, асталося кроклы паставіць.* Кубелеўшчына Шарк. *Ну, ужо крохвы ёсць, будзем вянок весіць.* Надазер'е Глыб. *Крохлы з бярвенняў робяць.* Мікалаёва Міёр.

КРОЛ, КРОЛЬ *м.* Трус. *Пара кралам травы накасіць.* Вымна Віц. *А кралі ўсё ядуць: і моркву, і траву любую, і бульбу.* Новы Пагост Міёр. *У Любы летась многа кралей было.* Грамы Пол. *У саседкі ўчорака ўсіх кралей пакралі.* Сухавежа Міёр.

КРОМ *прыназ.* Вакол. *У іх кром хаты чысценька.* Курмялёўка Леп.

КРОМІ *прыназ.* Акрамя, апрача. *Кромі міне, усе сагласны былі.* Курына Віц. *Кромі бульбы, не есь нічога.* Вярэчча Гар.

КРОМЫ *мн.* Ускраіна агарода. *Нада абайці кромы.* Суднікі Арш.

КРОСНАЯ *наз., ж.* Хросная маці. *Мая кросная ой якія пірагі пячот.* Арэхава Віц.

КРОСНЫ *наз., м.* Хросны бацька. *Люблю, калі кросны прыходзіць.* Арэхава Віц.

КРОЎ *м., бат.* Зверабой. *Кроў за гародам у нас – збірай ды сушы.* Горкі Леп.

КРОЎНІК гл. КРАВАЎНІК

КРОХВЫ, КРОХЛЫ гл. КРОКЛА

КРО́ШНІ *толькі мн.* Насілы, прыстасаванне для пераноскі сена, саломы і інш. *Бярі кро́шні ды пашлі.* Дзяйкі Віц. *Нада ў кро́шнях прынесці саломы на падсцілку карове.* Котава Віц. *Карову здалі, дык кро́шні ўжэ ні нада.* Махалава Гар. *Бяры кро́шні ды йдзі за мной за хату, дзе сена.* Машчоны Сен.

КРО́ШЫВА *н., кулін.* Салата з пакрышанай гародніны. *Давайце здзелаю вам кро́шыва з смітанай к бульбі.* Азёркі Гар.

КРУГ, *памянш.* КРУЖО́К *м.* Самаробны палавік круглай формы. *Круг на кухню палажыла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кала дзвярей ляжыць круг, вязаны кручком.* Якубаўшчына Лёзн. *Ра́ней і круг магла звізаць.* Заазер'е Тал. *Звязала тамбуркам кружо́к за два вечары, пад ногі на пол кіну.* Асвея В.-Дзв.

КРУГА́ *прысл.* Вакол; навокал. *Можна было напрамкі, а яны кру́га пашлі.* Баброва Леп. *У нас тут лясы круга́.* Суша Леп.

КРУ́ГЛІЦА *ж.* Капа, невялікі круглы стажок сена. *Сена калі к вечару не звязём, дык у кру́гліцы зложым.* Слабада Глыб. Параўн. *капя́к, капячо́к, ко́па, капе́шка, капёшка, капя́шка.*

КРУГЛЯ́К[1] *м., бат.* Асака. *З кругляку́ чуць вылезлі на чыстае места.* Латыгаль Сен.

КРУГЛЯ́К[2] *м., кулін.* Мучны выраб круглай формы. *Зараз цеста рашчынім і круглако́ў напячом.* Алексінічы Сен.

КРУЖАВЫ́ *толькі мн.* Карункі. *Дзяўчатамі калі былі, так вечарам не сядзелі, кружавы́ вязалі, паду́зорнікі тожа, бяз дзела не былі.* Ульянавічы Сен. Параўн. *куба́сы.*

КРУ́ЖАНЬ *м.* Пень. *Замест лесу адны кружані́ былі.* Стрынадкі Глыб. Параўн. *кру́чань.*

КРУЖО́К гл. КРУГ

КРУЖЫВА́НКА гл. КРЫЖАВА́НКА

КРУЖЭ́ЎКА *ж.* Грампласцінка. *Раней пад кружэ́ўкі танцавалі, а цяпер во касеты ў кожнага.* Зубава Арш.

КРУК *м., с.-г.* Самаробная прылада для праполкі бульбы ў выглядзе вілаў з загнутымі ўверх канцамі. *Бульба так зарасла, што толькі крук паможыць.* Надазер'е Глыб.

КРУ́ПАЎКА *ж., кулін.* Крывяная дамашняя каўбаса з крупамі. *А кру́паўка нічога сабе ўдалася.* Старое Лядна Леп. Параўн. *крава́ўка.*

КРУ́ПКА *ж., часцей* КРУ́ПКІ *мн.* 1. Град; снег з дажджом. *Сёння такая кру́пка, што ўсе гуркі паб'е.* Зуі Лёзн. *Кру́пкі ўвесь твар сасцёбалі.* Макаравічы Докш. 2. Вочкі на клубнях бульбы. *Добра бульбу пачысцілі, усе кру́пкі зрэзалі.* Мілашкі Брасл.

КРУПНЯ́К *м.*, КРУПНЯ́ЦІНА *ж., зб.* Буйныя ягады. *Ягадка к ягадке, адзін крупня́к.* Драздзы Беш. *Такая крупня́ціна, што жалка есці ягады.* Сіўцы Паст.

КРУ́ПЫ *мн., кулін.* Крупяны малочны суп. *На абед кру́пы будуць, даўно не елі.* Папшулі Міёр.

КРУПЯ́НКА *ж., кулін.* Каша, запраўленая малодзівам. *Помню, як раней мама крупя́нку кожны год гатавала.* Чарневічы Глыб.

КРУСО́ДНЯ гл. КРАСА́ДНЯ

КРУСО́ННЕ гл. КАРУСО́ННЕ

КРУТАДУ́Х *м., асудж.* Хітры, скрытны чалавек. *Гэты крутаду́х усё роўна выкруціцца.* Макаравічы Докш.

КРУТНЯ́ *ж.* Ашуканства. *Адна крутня́ кругом, а не жызнь, кожны глядзіць, каб толькі сабе ўхапіць.* Горкі Леп.

КРУТЫ́ *прым.* Хуткі, рухавы, увішны. *Яму ніхто семдзісят ні дасць – такі ён круты́.* Залессе В.-Дзв. *Бабка мая яшчэ крута́я.* Дрыгучы Міёр. *Што да работы, дык яна крута́я.* Пашкі Шарк.

КРУ́ХА, КРУХА́НІНА *ж., бат.* Крушына. *У нас кру́ху рэдка найдзеш.* Сураж Віц., Рацькава Уш. *Прыселі пад круха́нінай.* Нярэйша Сен.

КРУ́ХАЦЬ *незак.* Рохкаць, утвараць адрывістыя гукі (пра свінню). *Парасёнак ляжыць і кру́хаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КРУЦЁЛКА *ж.* 1. Дзвярная зашчапка, зробленая з вяроўкі ці пояса. *Бывала, запрэць хату і круцёлкай закруціць, каб дзверы не адчыняліся.* Вялікае Сяло В.-Дзв. 2. *перан., зневаж.* Дзяўчына ці жанына лёгкіх паводзін. *І па кім ты такая круцёлка ўдалася?* Пішчалава Арш. *Такей круцёлкі ў нас у сям'і не было.* Камары Віц. *Бегаіш ты, як круцёлка, кала мальцоў етых.* Канашы Гар.

КРУ́ЦЕНЬ *м.* Хітрун, махляр, ашуканец. *От ужо кру́цень, паіскаць такога!* Рудня Пол.

КРУЦЯ́ШЧАЯ *прым.* Якая вызначаецца лёгкасцю паводзін. *Змоладу, кажуць, дачка ў іё круця́шчая была.* Ноўка Гар.

КРУЧ *ж.* Вір. *Там гіблае месца, страшная круч, ні адзін чалавек не прыплыў назад.* Астроўна Беш.

КРУ́ЧАНЬ *м.* Выкарчаваны пень. *Кручанёў за дарогай – цьма.* Вялікая Пярэспа Сен. Параўн. *кру́жань.*

КРУЧО́НІКІ *мн., кулін.* Фігурнае пячэнне. *Кручо́нікаў дзве міскі спікла, хай ціперь цігаюць.* Кулакова Віц.

КРУ́ШНЯ *ж.* Куча камянёў. *На мяжы цэлую кру́шню наклалі, ні было як бульбу ганяць.* Сарокі Глыб.

КРЫВІ́НДЗЯ, КРЫВУ́ЛЯ *аг.* Кульгавы чалавек. *Ён будзіць крыві́ндзя.* Шарагі Міёр. *Крыву́ляй ён стаў пасля ранення.* Пераходцы Леп. Параўн. *кавяла́*[2] ў 3 знач., *клыбу́н.*

КРЫ́ДЛЫ гл. КРЫ́ЛЛЯ

КРЫЖАВА́НКА, КРЫЖО́ЎКА, КРУЖЫВА́НКА *ж.* Скрыжаванне дарог. *Машыну тую на крыжава́нцы была сустрэўшы.*

Івесь Глыб. *Дзеці ў нас на крыжоўцы збіраюцца.* Ульянавічы Сен. *Стой на кружыванцы, я прыйду.* Лазоўка Сен.

КРЫЖЫКІ *мн.* Дэталь бойкі для масла, калатоўка. *Перша крыжыкі ў бойку палажы.* Бортнікі Глыб.

КРЫКВІНА гл. КРОКЛА

КРЫЛЕЦ *м.*, КРЫЛЦО *н.* Ганак. *Выйдзі ды стань на крылец.* Канашы Гар. *Як турнуў мой стары яго з крылца, той кулем ляцеў.* Запруддзе Глыб.

КРЫЛЛЯ, КРЫДЛЫ *мн.* Крылы. *Схваціў пітуха за крылля і дзержыць.* Вярэчча Гар. *Нада ім ужо крыдлы паабразаць.* Кублічы Уш.

КРЫЛЦО гл. КРЫЛЕЦ

КРЫМСАЦЬ *незак., экспр.* Крэмзаць. *Дай яму кніжку – хай крымсаіць, абы ні плакаў.* Залучча Гар.

КРЫНЧЛІВЫ *прым.* Крынічны. *У лесе на крыніцу напароліся, дык вады хоць крынчлівай папілі.* Калышкі Лёзн.

КРЫПАНІЦА *ж.* Сяннік, матрац, набіты сенам ці саломай. *Пайду крыпаніцу вытрасу.* Моханава В.-Дзв.

КРЫСАДНЯ гл. КРАСАДНЯ

КРЫСОННЕ гл. КАРУСОННЕ

КРЫЎЁ *н., зб.* Абламаныя няроўныя, крывыя галіны дрэў; суччa, ламачча. *Хоць бы крыўя якога навазіць, перабярэцца, складзецца, будзіш без гора зіму сядзець.* Выхадцы Лёзн.

КРЫХОТНЫ *прым.* Малюсенькі. *Кацянятка крыхотнае было такое, што на ладоні памясцілася б.* Мікалаёва Міёр.

КРЫШАВА, КРЫШЫВА *н.*, КРЫШАНКА *ж.* Драўляная скрынка, у якой змяльчаюць корм жывёле. *Выверні бацвінне ў крышава.* Іскра В.-Дзв. *У істопцы стаіць крышава з бульбай.* Мікуліна Глыб. *Раней самі і пранікі, і крышавы рабілі.* Таўкіні Шарк. *Крышыва паламалася, дык німа дзе і храпы пасячы.* Сляяўшчына Рас. *Ахрап'я ў крышанкі саўсім мала, нада яшчэ насеч.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КРЫШАН *м., бат.* Качан капусты. *Нада схадзіць у гарод і прынесці крышан, каб стушыць.* Новая Зара Чаш.

КРЫШАНКА гл. КРЫШАВА

КРЫШОНКА *ж., кулін.* Вараная ў лупінах бульба. *Зараз зраблю крышонкі і павячэраем.* Запруддзе Глыб. // Тушаная бульба. *Хадзі крышонкі з'еш.* Макаравічы Докш.

КРЫШЧОНЫ, КШЧОНЫ *у знач. прым., рэліг.* Хрышчоны, падвергнуты абраду хрышчэння. *Мы ў сям'і ўсе крышчоныя.* Крынкі Лёзн. *У маей маткі дзесіць рібят было, і ўсі кшчоныі, ня то што ціпер.* Канашы Гар.

КРЫШЫВА гл. КРЫШАВА

КРЭ́ЙЗАЦЬ *незак.* Рэзаць. *Не ўмееш хлеб крэ́йзаць – не бярыся.* Мікіціха Шум.

КРЭ́ПКА *прысл.* Вельмі. *Крэ́пка люблю ўсіх сваіх.* Пушкі Лёзн. *Ягад у лесе сёлета крэ́пка многа.* Іванск Чаш.

КРЭ́СКА *ж.* Рыска. *Нешта ж піша – крэ́скі нейкія.* Рудня Пол.

КРЭ́СЛА[1] *ж.* Крэсла, прадмет мэблі. *Крэ́слу бліжэй пададзвінь.* Макаравічы Беш.

КРЭ́СЛА[2] *н.* Верхняя задняя частка штаноў. *Усё крэ́сла ўрабіў у смалу, не глядзіць, куды садзіцца.* Свілы Шарк.

КРЯ́ХАЦЬ *незак.* Крахтаць, выдаваць пры хваробе ціхія, адрывістыя гукі. *Усё кря́хаіць і кряхаіць мой дзед, памрець, можа, скора.* Курына Віц.

КСЁНДЖКА, КСЁНЖКА *ж.* 1. Кніга. *Калі б хто ксёнджку прынес інцірэсную, то і пачытала б, хоць ужо і сліпая троху зробілася.* Спрынды Брасл. *Ужо што-што, а ксёнжка кажны раз у яго з сабой.* Злота Брасл., Папшычы Глыб., Воўкаўшчына, Камянполле Міёр. 2. *рэліг.* Малітоўнік. *Дзе тая чорненькая ксёнжка, у якой мая малітва ёсць?* Бортнікі Глыб.

КСТРО́НІ *прысл.* Збоку. *Садзісь, унучка, кстро́ні.* Межава Арш.

КСЦІ́НЫ *толькі мн.*, КШЧЭ́ННЕ *н., рэліг.* Хрэсьбіны. *На ксці́нах чалавек дваццаць аднэй радні толька будзіць.* Канашы Гар. *Ксці́ны ў суботу зробім.* Верамееўшчына Дубр. *Якога чысла унук радзіўся, не помню, знаю толькі, што ксці́ны былі пасля Пакравоў.* Вісяты Міёр. *У нядзелю кшчэ́нне справім.* Старое Лядна Леп.

КСЦІ́ЦЕЛЬ *м., рэліг.* Бог, Усявышні. *За такога грэшніка і сам ксці́цель ніколі не заступіцца.* Забалацце Арш.

КСЦІ́ЦЦА *незак., рэліг.* Хрысціцца, прымаць хрысціянскую веру. *Сястра ксці́лася ў цэркві.* Закур'е Чаш.

КСЦІЦЬ *незак., рэліг.* Хрысціць. *Сёння яны сваю дзевачку ксці́лі.* Зубава Арш.

КУ́БАЛ *м.* Кошык. *Поўныя ку́балы бульбы прынеслі.* Тупічына Шарк. Параўн. *кашала́*[1] ў 1 знач., *каша́чка, ко́шаль, ко́шар, кілу́нка, ко́рфа, ко́рхла.*

КУ́БАР *м.*, КУБА́РКА *ж.* 1. Гліняны збан. *На стале стаіць ку́бар з малаком.* Замачак Чаш. *Малако маці ў ку́барах трымала.* Зарэчча Тал. *Ку́бары такія былі.* Свяча Беш. 2. Кубак, конаўка. *Ку́бар з малаком на стале.* Замачак Чаш. *Падай куба́рку, нада вады наліць.* Цілеўцы Міёр. Параўн. *ква́рта, кватэ́рка, ко́рчык, ку́хлік.*

КУ́БАРАМ-БУ́БАРАМ *прысл.* Покатам, коцячыся (рухацца, перамяшчацца). *Ку́барам-бу́барам нёсся з клуба.* Празарокі Глыб.

КУБА́РКА гл. КУ́БАР

КУБА́СА, КУДА́СА *ж.* Мяцеліца, завіруха. *На вуліцы куба́са разыгралася.* Замачак Чаш. *Адзін раз такая куда́са круціла, што дзверы на вуліцу нельзя было адкрыць.* Гарадзец Шарк.

КУБА́СЫ *толькі мн.* Карункі. *На ручніках у бабулі маёй куба́сы былі.* Друцк Тал. Параўн. *кружавы.*

КУБА́ТАР *м.*, КУБАТУ́РКА *ж.*, *заал.* Інкубатарнае кураня. *Куба́тараў сабе набрала.* Канашы Гар. // Курыца. *Мае куры – усе куба́тары.* Манякова Міёр. *Кубату́ркі во мае маладыя кожны дзень па яечку нясуць.* Надазер'е Глыб. *Ах, вы кубату́ркі мае, есці хочаце?* Сарочына Уш.

КУ́БАЧКА *ж., бат.* Маладая сыраежка. *Ку́бачка – сыраежка, што яшчэ не раскрылася.* Грыцы Глыб.

КУБЕ́ЛЬНІК *м., абрад.* Скрыня з пасагам. *Вязуць кубе́льнік на вазу і перад маладымі ў хату ўносюць.* Лазічы Глыб. *Калі мяне замуж аддавалі, дык кубе́льнік малы быў: бедна мы жылі.* Сухавежа Міёр.

КУБЛІ́ЦЦА *незак.* Класціся спаць, уладкоўвацца на ложку. *Дзіця ўжэ кублі́лася даўно на койкі.* Вярэчча Гар.

КУБЛО́ *н.* Птушынае гняздо. *Ці бачыла ў нас на Маладзёжнай кубло́ буслоў?* Язвіна Шум.

КУВА́ДЛА *ж.* Цяжкі кавальскі малаток, кувалда. *Яшчэ дзедава кува́дла асталася.* Бігосава В.-Дзв.

КУВА́ЦЬ, КУКУВА́ЦЬ *незак.* 1. Кукаваць. *Кукушка куе́ – ужо цяпло стала.* Антаполле Чаш. *Скора ўжэ кукушкі кукува́ць будуць.* Ноўка Гар. 2. *перан.* Жыць у адзіноце. *Раз'едуцца дзеці – адна буду зіму кукува́ць.* Казловічы Гар.

КУГА́ *ж., толькі адз., зб., бат.* Азёрны чарот. *Возера ўсё кугО́й парасло, што праплысці неяк.* Ваўчо Уш.

КУГА́КАЛА *н.* Немаўля. *Нам нада куга́кала, каб на ніўцы плакала.* Дворышча Леп.

КУГА́НКА, КУГІ́РКА *ж.* Конаўка для вады ў лазні. *Куга́нкай пару паддай.* Клясціцы Рас. *Як пойдзем у лазню, кугі́рку не забудзь.* Галбея Паст.

КУДА́СА гл. КУБА́СА

КУДЗЕ́РКА *ж., бат.* Верхавіна расліны. *Паліла памідоры ўвечары, дык яны аж павесялелі, кудзе́ркі паднялі.* Забор'е Сен.

КУДО́С *м.* Воск. *Кудо́с заліў увесь стол.* Забар'е Беш.

КУДО́Ю, КУДЫ́МА *прысл.* Куды. *Ідзі хоць кудо́ю – мне ўсё роўна.* Рыдамля Тал. *Кудыма цяпер за маладымі бацькі смотраць?* Язна Міёр.

КУДРА́ВЕЦ *м., бат.* Палявы хвошч. *У сене кудраўцу́ многа, затое карова і есці не хоча.* Прыпернае Глыб.

КУДЫМА гл. КУДО́Ю

КУЁЎДЗІЦЦА *незак.* Круціцца, валтузіцца, знаходзіцца ў пастаянным руху (пра дзяцей). *Ды пасядзі ты спакойна, хваціць табе куёўдзіцца.* Чарневічы Глыб.

КУЁЎДЖАННЕ *н., толькі адз.* Неспакойныя паводзіны дзіцяці, валтузня. *Далося мне яе куёўджанне, ні самому прыснуць, ні адысціся.* Забалацце Арш.

КУЗЛА́К *м.* Касмык травы на скошанай сенажаці. *Як ні стараешся касіць, а кузла́к усё астанецца.* Азярцы Глыб.

КУЗНІ́ЦЬ *незак., экспр.* Надакучаць размовамі, настаўленнямі. *Колькі ты кузніць будзеш?* Макаравічы Докш.

КУЗЮ́ЛЬКА[1] *м.* Жарабя-сысун. *А кузю́лька наш ад кабылы нікуды не адыходзіць.* Муляры Паст.

КУЗЮ́ЛЬКА[2] *ж.* Кузурка, казяўка. *Адну юргіню завяла, і то ўсю нейкія кузю́лькі абселі.* Бараны Глыб.

КУЗЮ́ТКА *ж.*, КУЗЮ́ТКІ *мн.* Авечка. *Кузю́так пакарміць нада.* Дрыгучы Міёр.

КУ́КА *ж.* Вялікі драўляны малаток. *Ку́ка трэснула пасярэдзіне.* Вялікі Поўсвіж Леп.

КУКА́РДЫ *мн., перан.* Высокая жаночая прычоска. *Кука́рды наставіла і пашла.* Капланы Сен.

КУ́КАЧКІ *толькі мн., кулін.* Пячэнне. *Бярыце малако з ку́качкамі.* Буцавічы Паст.

КУ́КСЫ *мн.* Хворыя суставы на пальцах. *Усю ноч ку́ксы мае балелі.* Наваселле Уш.

КУКУВА́ЦЬ гл. КУВА́ЦЬ

КУКУ́ЛКА, КУКУ́ЛЯ *ж., заал.* Зязюля. *Чуеце, як куку́лка кукуе?* Моханава В.-Дзв. *Нешта куку́лі не чуваць.* Забор'е Сен. *Якая ж з яе маці? Яна ж як куку́ля.* Мікалаёва Міёр.

КУКУ́ЛЬ *м., заал.* Парсюк; падсвінак. *Нада ішчэ куку́лю даць: не пад'еў.* Камаі Паст. *Добрыя куку́лі, відаць, сёлета будуць.* Смалоўка Сен.

КУКУ́ЛЯ гл. КУКУ́ЛКА

КУКУРУ́ЗІШЧА *н.* Месца, дзе расла кукуруза. *Нешта ж пасеяць на зіму на кукуру́зішчы.* Гута Уш.

КУКЯЁШКА *ж.* Ручка ў вілах. *Так работаў, што кукяёшка не выдзіржала.* Тупічына Шарк.

КУКЯРЭ́ЧКІ *толькі мн.* Кукішкі. *Я ўжэ на кукярэ́чкі не сяду.* Забор'е Глыб. *Бульбу нада капаць на кукярэ́чках, а не стоючы.* Прамышляды Паст., Ухлё Чаш.

КУЛА́ГА *ж., кулін.* Патоўчаныя ягады з цукрам. *Кула́гі з чарніц здзелала – толька за сталом ешце.* Смалоўка Гар.

КУЛАМЕ́С гл. КАЛУМЕ́С

КУЛАМЕ́СА *ж.* Сумесь, мешаніна чаго-н. *Куламе́са каля хаты з гразі і снегу.* Чэрцы Леп.

КУЛАМЕ́СІЦЦА *незак.* Штурхацца, знаходзіцца ў цеснаце, таўкатні. *Куламе́сяцца на танцах адзін каля аднаго.* Лазы Тал.

КУЛАМЕ́СІЦЬ *незак.* Мяшаць, мясіць, размешваць. *Грязь куламе́сюць на дваре – во што ребяты дзелаюць.* Выхадцы Лёзн.

КУЛАЧО́К *м., перан.* Невялікі чыгунок. *Сёння суп варіла ў кулачку́ – усё раўно ўсё не з'ядаецца.* Асінторф Дубр.

КУЛДО́БА *ж.* Калдобіна, яма на дарозе. *Вясной такія кулдо́бы на дарозе стаяць.* Іванаўка Гар.

КУЛДУЯ́ЧЫЦЬ, КУЛДЫЯ́ЧЫЦЬ, КУЛДЫ́ХАЦЬ, КУЛДЫ́ЧЫЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць неразборліва (часцей пра дзяцей). *Ужэ нешта кулдуя́чыць – скора, верна, загаво́ріць.* Сакольнікі Віц. *Ні пайму, дзетка, што ён там кулдуя́чыць.* Канашы Гар. *Гавары харашо, а то кулдыя́чыш, што нічога не паняць.* Задуброўе Віц. *Як пачнець кулдыя́чыць, аж захлёбываецца, усё зразу хочыць расказаць.* Выхадцы Лёзн. *Чаго кулды́хаіш, скажы ўсё нармальна.* Косарава Глыб. *Што ты там кулды́чыш сабе пад нос?* Мазалава Віц.

КУЛДЫХНУ́ЦЦА *зак.* Упасці, зваліцца. *Воз павярнуўся, і я кулдыхнуўся ўніз.* Задуброўе Віц.

КУЛДЫ́ЧЫЦЬ, КУЛДЫЯ́ЧЫЦЬ гл. КУЛДУЯ́ЧЫЦЬ

КУЛЁК[1] *м.* Мужчынскае кароткае верхняе адзенне, пінжак. *Здзень кулёк, цёпла.* Самуйлы Брасл. *Вазьмі ў кульку́ папіросы, дай сюды.* Язна Міёр.

КУЛЁК[2] *м.* Рыбалоўная снасць, прыстасаванне для лоўлі ракаў. *На рыбалку возьмем два кулькі́.* Апанаскавічы Уш.

КУ́ЛЕМ *прысл.* Хутка, імкліва, мігам. *Ку́лем скаціўся з гарышча.* Запруддзе Глыб. Параўн. *куме́ллю.*

КУЛЁМА *ж., экспр.* Непаваротлівая дзяўчына ці жанчына. *Іна дык як кулёма – валюх, валюх. Пакуль прапаліць адну баразну, дык другая тры ўжо прагоніць.* Слабодка Гар. *Дзе яна, такая кулёма, хазяйства быстра ўправіць.* Азёркі Гар. Параўн. *квашня́* ў 3 знач., *клу́ша, клу́шка* ў 2 знач., *клы́мза.*

КУЛЕ́Ш *м.* 1. Ежа, прыгатаваная з мукі для свіней. *Забылася з печкі куле́ш свінням дастаць.* Рускі Шум. 2. *кулін.* Куліч, выпечка з мукі. *Куле́шы я печ пяку: салодкія, укусныя палучаюцца.* Баршчоўка Віц.

КУЛІ́ДА, КУЛІ́ДКА *ж.* Бохан хлеба. *Як куліда пачарсцвее, я яе скаціне даю.* Матырына Уш. *Гэта кулі́дка з новага ўраджая.* Крынкі Лёзн. *Купі ты мне кулі́дку хлеба.* Шалыгі Віц.

КУЛІЖА́НКА *ж.* Сяброўка. *А мы з ёй некалі куліжа́нкамі былі.* Папшычы Глыб. *Захадзіла твая куліжа́нка, а ты ўжо*

*пабегла.* Ветахмо Докш. *Як сабяромся мы з кумой, дык ніяк нагаварыцца ня можам – мы ж у маладосці куліжанкамі былі.* Більдзюгі Шарк.

КУЛІ́НКІ *толькі мн., бат.* Парэчкі. *Прыдзі да мяне, кулінак дам на варэнне.* Замачак Чаш.

КУЛІ́СКА *ж.* Участак поля квадратнай формы. *Кулі́скі былі хлебам засаджаны.* Рубеж Беш.

КУЛО́ГАЦЦА, КУЛО́ЗГАЦЦА *незак., экспр.* Плёскацца, плюхацца ў вадзе ці гразі. *Не надаела табе ў халадзёнкі куло́гацца?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Досыць куло́згацца, вылазьце, а то пасінелі.* Бортнікі Глыб.

КУЛУМЕ́С гл. КАЛУМЕ́С

КУЛУНДЗЮ́К гл. КІНДЗЮ́К

КУ́ЛЬБА *ж.* Гурба, сумёт. *Этай зімой усюды ку́льбы снегу ляжаць, куды ні глянь.* Мілашы Брасл.

КУЛЬЦЯ́ПКА *ж.* Кукса, астатак пакалечанай ці ампутаванай рукі або нагі. *У дзеда ад рукі асталася адна кульцяпка.* Сокарава Беш. Параўн. *кульша́* ў 2 знач.

КУЛЬША́ *ж.* 1. Сцягно. *Кульша́ баліць.* Хайсы Віц. 2. Кукса, астатак пакалечанай ці ампутаванай рукі або нагі. *Замест другой нагі ў яго ку́кса.* Казловічы Гар. Параўн. *кульця́пка.*

КУЛЯГАВА́ЦЦА *незак.* Сябраваць. *Яны яшчэ са школы кулягава́ліся.* Буцавічы Паст.

КУЛЯШЫ́ЦЦА *незак.* Рабіцца вадкім. *Гразь пад нагамі куляшы́цца.* Выхадцы Лёзн.

КУМЕ́ЛЛЮ *прысл.* Хутка, імкліва, мігам. *Ня ўспелі паставіць лесніцу, як ён куме́ллю зляцеў з сена.* Губіца Шум. Параўн. *ку́лем.*

КУМЕ́ШКАЦЦА *незак., экспр.* Марудзіць. *Чаго ты там куме́шкаешся дагэтуль?* Пачаевічы Чаш. Параўн. *ко́ўзацца.*

КУМЛА́ТЫ *прым.* Кудлаты, патлаты. *І чаго ён кумла́ты, як чорт, ходзіць.* Будзішча Арш.

КУМО́ЎСКІ *прым.* Кумаўскі, заснаваны на кумаўстве, сяброўскіх адносінах. *Кумо́ўскі долг мне да іх з'ездзіць на свадзьбу.* Івесь Глыб.

КУ́МУШКА *ж.* Алкагольны напой, брага, пітво дамашняга вырабу з хмелем і цукрам. *Развёў ку́мушку: бульбу ж скора капаць.* Дамашы Брасл. *Я была ку́мушку рашчыніўшы, а мужык залез і спіў верх. Вот я ругалася!* Кубелеўшчына Шарк.

КУ́НДА *ж.* Кампанія, вузкае кола сяброў, аднадумцаў. *Сын мой машыну купіў, дык цяпер з гэтай ку́ндай усё прападае дзень і ноч у гаражы.* Мельніца Шарк. Параўн. *кага́л* у 1 знач., *ко́дла* [1].

КУНДЗЁХАЦЬ *незак., экспр.* Ісці, дабірацца пехам. *Дадому нам кундзёхаць яшчэ доўга.* Зазерыца Чаш.

КУПА́ЛАЎКА, КУПА́ЛЕНЬКА, КУПА́ЛІНКА, КУПА́ЛКА *ж., абрад.* Свята Купалле. *На Купа́лаўку ў ноч, бывала, купаюцца, бо вадзіца лячэбная – ад усяго лечыць.* Мікіціха Шум. *Як Купа́ленька прыходзіла, дык дзеўкі вянкі плялі.* Іванск Чаш. *На Купа́лінку маладзёжы ў нас многа збіраецца.* Канашы Гар. *Ішла Купа́лка сялом-сялом.* Гомель Пол. *На Купа́лку мы ўсегда к вадзе ідзём.* Старое Сяло Уш.

КУПА́ЛІЦЬ *незак., абрад.* Святкаваць Купалле. *Раней купа́лілі не так, як цяпер.* Іванск Чаш.

КУПА́ЛКА гл. КУПА́ЛАЎКА

КУПА́ЛЬНЯ *ж., бат.* Расліна малачай. *Пад самай хатай расцець купа́льня.* Боркавічы В.-Дзв.

КУПАЎЁ *н.* Іржышча, зжатае поле. *На купаўё кароў пагналі.* Лужкі Шарк.

КУПЕ́ЛІЦЦА *незак.* Купацца ў пяску. *Курачкі купе́люцца пад акном.* Мурагі Рас.

КУПІ́ЦЦА *незак.* Тлець, дагараць. *Дровы яшчэ купя́цца ў печы.* Іванаўка Гар.

КУПЛІ́НКА *ж., адзінк.* Крупінка. *Асталася куплі́нка цукару.* Альшанка Чаш.

КУПЛЯ́НЫ *дзеепрым.* Ку́плены. *Купля́ная смятана не такая, як свая.* Гута Паст.

КУПТУ́Р гл. КАПТУ́Р

КУР *м.* Дым. *З трубы валіў кур сталбом.* Абольцы Тал.

КУРА́БА, КУРА́ПА *ж., заал.* Чорна-шэрая земляная жаба. *Кура́ба – гэта жаба такая, рапуха, у яе празрыстая кожа.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кура́па з-пад печы вылізла, аж спужалася.* Загуззе Гар. *У нашым балоце столькі кура́п, ай-ё.* Варанькі Шум.

КУРАВО́ДЗІХА *ж.* Кураво́дка. *Мая кураво́дка ўжэ ўвосень несціся начала.* Камень Леп. Параўн. *квaку́ха, кво́чка, кво́шка* ў 1 знач., *клу́ша, клу́шка* ў 1 знач.

КУРАНЁНАК, КУРЧО́НАК, КУ́РЧЫК, КУРЫНЕ́Ц *м., часцей мн.* КУРЧАНЯ́ТЫ, КУРЧА́ТЫ. *м.* Кураня, кураняты. *І куды во падзеўся куранёнак?* Суша Леп. *Учора аднаго куранёнка не стала.* Свяча Беш. *Адзін курчо́нак такій інціpэсный.* Даўгінава, Новы Пагост Міёр. *Кабыла ку́рчыка задавіла.* Пушкі Лёзн. *Сёлета восем курынцо́ў вывелася.* Дабравольск Тал. *Курчаня́т у хлеў пазаганяў.* Зайцава Арш. *Курыца ўжо курча́т некуды звяла.* Укля Брасл. *І дзе курчаня́ты падзеліся?* Кублічы Уш. *Курча́ты ўжо паселі.* Косарава Глыб. *Выпусці курча́т.* Даўгінава Міёр. *На дварэ сядзі і курча́т глядзі.* Круткі Паст.

КУРАПА́ гл. КУРА́БА

КУ́РАЎКА, КУРЫ́ЦА *ж.* Курыца. *Можа, мае ку́раўкі і шчэ недзя нясуцца?* Мікіціха Шум. *Адна курыца нейкая яйцы клюець.* Жалезкі Беш. *У нас адна курыца такія яйкі бальшыі нясець.* Якаўлевічы Брасл. *Купілі пяць курыц.* Сухавежа Міёр. *Курыцу сваю ў саседкі забрала.* Сіўцы Паст. *Курыца белая згубілася. Дзе дзелася?* Сялец Чаш.

КУРА́Ч *м.* 1. Кій, якім падпіраюць галіны пладовых дрэў. *Кура́ч, кажу, зрабі: веткі ад яблыкаў ламаюцца.* Шарагі Міёр. 2. Сухія гнілушкі, якімі абкурваюць пчол. *Бяры кура́ч і да пчол ідзі.* Сахнавічы Глыб.

КУ́РАЧКА, КУ́РКА *ж., часцей* КУ́РАЧКІ *мн., бат.* Грыб падалешнік. *Дзве ку́рачкі во зрезала, пакуль цібе ждала кала поля.* Кулакова Віц. *Ку́ркі добра замачыць сначала.* Шарагі Міёр. *Набралі ў лясу і грыбоў: ку́рачак, сыраежак.* Леснікі Глыб.

КУРА́ЧЫНА *ж.* Курацiна, мяса курыцы як ежа. *Дужа ж ты кура́чыну любіш!* Слабада Віц.

КУРАШЭ́СЦЕ, КУРАШЭ́СЦЬ гл. КРАШЭ́СЦЬ

КУРДА́ТЫ, КУРТА́ТЫ *прым.* 1. Нізкі, малога росту, нягеглы. *Малец курда́ты, ды ўдалы.* Тупічына Шарк. *З-за малога роста яго курта́тым звалі.* Друцк Тал. Параўн. *кажана́ты, кару́злы, кілава́ты, кіла́ты* ў 1 знач., *крапялю́ткі.* 2. Кароткі, малога памеру. *Курта́ты пінжак нейкі надзела.* Дварэц Чаш.

КУРДЗЮ́К гл. КІНДЗЮ́К

КУРДО́ПА гл. КАРДО́ПЛЯ

КУРЗО́ЛІЦЦА *незак.* Боўтаць пысай пойла (пра жывёлу). *Не п'е, а толькі курзо́ліцца.* Празарокі Глыб.

КУ́РКА гл. КУ́РАЧКА

КУРЛЭ́ПЦІ *мн., іран.* Боты. *Стары мой сабе ў горадзе курлэ́пці нейкія купіў.* Жарцы Пол.

КУРМЕ́ЛЬ[1] *м.* Фізічна здаровы, моцны чалавек. *Глядзі, курме́ль які вырас: матка выкарміла.* Вярэчча Гар.

КУРМЕ́ЛЬ[2] *м., заал.* Пячкур. *Нашы мальцы прынеслі ўсякай мелачы і аднаго курмяля́.* Казімірова Пол. *Пашлі лавіць курмяле́й.* Петрунова Глыб., Жары Рас.

КУ́РНІК *м., кулін.* Суп з курыцы, курыны булён. *Сягоння на абед быў ку́рнік.* Сапегі Сен.

КУРНЯ́ВІЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кот курня́віць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *ка́ўкаць, кя́ўкаць* у 1 знач.

КУРНЯ́ *ж.* Мурлыканне. *Кот чуць на рукі – і курню́ заводзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КУРО́САННЕ, КУРСО́ННЕ гл. КАРУСО́ННЕ

КУ́РТА *ж.,* КУРЦЯ́К *м.* Верхняя кароткая вопратка, куртка.

*Зялёную ку́рту надзень: яна во якраз пад тваі вочы.* Кугоні Уш. *Ку́рту новую адзеў.* Войлавічы Шум. *Курця́к бы які бульбу капаць надзеў, а то змёрзнем.* Машчоны Сен.

КУРТА́ТЫ гл. КУРДА́ТЫ

КУРУНДЗЮ́К *м.* Певень. *Наш курундзю́к з трох часоў пяяць начынаець.* Сухавежа Міёр. Пар**аў**н. *каплу́н, кату́х.*

КУРУСО́ННІК гл. КАРУСО́ННЕ

КУРХЁКАЦЬ гл. КА́РХАЦЬ

КУРЦЯ́К гл. КУРТА

КУРЧА́НКА *ж.* Курасадня, седала. *Ужо ўсе куры паселі на курча́нкі, можна свет выключаць.* Мішкавічы Шум. Параўн. *карусо́нне, крусо́нне, крысо́нне, куро́санне, курсо́нне, курусо́ннік, кату́ха́, краса́дня, крашэ́сць, крашэ́сь, крусо́дня, крыса́дня, курашэ́сце, курашэсць.*

КУРЧАНЯ́ТЫ, КУРЧА́ТЫ, КУРЧО́НАК, КУ́РЧЫК гл. КУРАНЁНАК

КУ́РЧЫКАМ гл. КАРЧАКО́М

○ КУРЫ́НАЯ СЛЕПАТА́ *ж., бат.* Курасляп. *Куры́ная слепата́ – гэта ж белыі падснежнікі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

КУРЫНЁЦ гл. КУРАНЁНАК

КУРЫ́ЦА гл. КУ́РАЎКА

КУРЭ́ЛЬ *м.* Скручаная падпаленаяануча, якою курылі пчол. *Курэ́ль з трапкі рабілі.* Кушняроўка Чаш.

КУСА́НАК, КУСА́НІК *м.* Недаедзены кавалак чаго-н. *Сколькі куса́нкаў, столькі і мужэй будзе.* Пальмінка Гар. *Яблыкі ясцё, а куса́нікі абы-дзе кідаеце.* Стралкі В.-Дзв. *Адны куса́нікі асталісь, за хлебам схадзіць нада.* Мазалава Віц. *Ты кожны раз астаўляеш куса́нік.* Валосава Тал.

КУСА́ТЫ, КУСА́ШЧЫ, КУСУ́ЧЫ *прым.* Кусліввы (пра сабаку). *Сабака куса́ты ў іх.* Сушчова Віц. *Глядзі, дзетка, астарожна ідзі: сабака ў іх куса́шчы.* Вярэчча Гар. *Сабака гэты дужа кусу́чы.* Велеўшчына Леп.

КУСМА́Н, КУСМА́НЕЦ *м.* Кавалак. *Тое і глядзіць, каб кусма́н лепшы ўзяць.* Матырына Уш. *Адрэж і мне кусма́н хлеба.* Дрыгучы Міёр. *Я яму яшчэ ўчора такі кусма́нец сала ўдружыў, а ён зноў прывалокся.* Заслонаўка Арш.

КУСО́К *м.* Зямельны ўчастак, агарод. *На маім куску́ зямля ўдобраная.* Булахі Глыб.

КУСТО́ЎКА[1] *ж., бат.* Фасоля, якая ўецца. *У мяне ў гэтым гаду такая харошая вырасла кусто́ўка.* Кажары Чаш. *Сёлета кусто́ўка рана лушчыцца: лета жаркае.* Мікіціха Шум.

КУСТО́ЎКА[2] *ж.* Самагон. *Я яму кусто́ўкі бутылку прынясу.* Баева Дубр. Параўн. *катлаву́ха.*

КУСУ́ЧЫ гл. КУСА́ТЫ

КУ́ТАЦЬ *незак.* Цёпла апранаць, ухутваць. *Ку́тай дзіцёнка як трэба: холадна.* Забор'е Глыб. *Ку́тай добра, каб цёпла была.* Сабалі Чаш.

КУТУ́ЛЫ, КУЦЮРЫ́ *толькі мн., кулін.* Клёцкі з мясам. *Заўтра куту́лы зробім.* Старое Лядна Леп. *Во, эта куцюры́! Навар – аж з кацілка выцікаіць.* Губіца Шум. Параўн. *камы́.*

КУФА́ЙКА, КУФА́ЙЧЫНА, КУХА́ЙКА, КУХВА́ЙКА *ж.* Цёплае верхняе кароткае адзенне, ватоўка. *Я сёння новую куфа́йку надзеў, чым ні жаніх?* Дубінцы Арш. *Адзівай куфа́йку, а то холадна на вуліцы.* Асташэва Лёзн. *У куфа́йцы цёпла.* Гаршчэўшчына Тал., Тупічына Шарк. *Толькі голая печка была, куфа́йчына якая ды курцякі.* Машчоны Сен. *Куха́йку мой хазяін на рабоце забыў.* Канашы Гар. *Усю зіму каля дому ў кухва́йкі прахадзіла.* Барсукі Дубр. *На вуліцы холадна стала, адзівай кухва́йку.* Якубаўшчына Лёзн. Параўн.

КУ́ХЛІК *м.* Кубак, конаўка. *Ку́хлік на дваре забылася.* Канашы Гар. *Прынясі мне вады ку́хлік.* Ляхавічы Леп. Параўн. *ква́рта, кватэ́рка, ко́рчык, ку́бар, куба́рка* ў 2 знач.

КУ́ЦІК *м.* Нізкарослы чалавек. *Якей-то ку́цік к ей бегаіць, не знаю, ці зладзіцца дзела, ці не.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *кажа́н* у 2 знач., *кара́к.*

КУЦЬ *незак.* Каваць, ударамі молата надаваць якую-н. форму распаленаму металу. *Раней куць пачыналі яшчэ як цёмна было.* Ушачы.

КУЦЮ́К *м., кулін.* Трыбух, начынены мясам свіны страўнік. *Куцю́к увечары з дачкою рабілі.* Псуя Глыб. Параўн. *каўбу́х* у 2 знач., *кіндзю́к, кіндзю́х, клундзю́к, кулундзю́к, клындзю́к, курдзю́к* у 2 знач..

КУЦЮРЫ́ гл. КУТУ́ЛЫ

КУША́ *ж.* Прылада для збору пчалінага рою, зробленая з кары дуба. *Добрая куша́ атрымалася.* Опса Брасл.

КХЕ́РКАЦЬ гл. КА́РХАЦЬ

КШЧО́НЫ гл. КРЫШЧО́НЫ

КШЧЭННЕ гл. КСЦІ́НЫ

КЫ́ЗЛЯ *ж.* Каза. *Вунь кы́зля за табой як бяжыць, січас, глядзі, забадаіць.* Гразіна Арш.

КЫРНУ́ЦЬ *незак., груб.* Памерці. *Калі ў такі мароз не пратапіць печ, дык можна і кырну́ць.* Чарневічы Глыб.

КЫ́РХАЦЬ, КЭ́РХАЦЬ, КЯРХЁКАЦЬ гл. КА́РХАЦЬ

КЯТУ́РКА гл. КВЯТУ́РКА

КЯ́ЎКАЦЬ гл. КА́ЎКАЦЬ

# Л

ЛАБАДА́, ЛАБУДА́, ЛІБІДА́, ЛЯБЁДКА *ж., толькі адз., бат.* Лебяда. *Лабаду́ ядзяць козы.* Мікіціха Шум. *У гародзі адна лабада́.* Асінаўка Сен. *У нас на гародзе і лабуда́, і макрыца, і асот.* Полымя Сен. *Лібіда́ заглушыла бульбу.* Манякова Міёр. *У галодныя часы людзі й лібіду́ елі.* Ляды Дубр. *Увесь гарод зарос лябёдкай.* Завыдрына Уш.

ЛАБАЗА́, ЛАБУЗА́ *ж., толькі адз.* 1. *бат.* Від асакі. *Німа ўжо што касіць за хатай, там нейкая лабаза́ асталася.* Балаі Паст. *Гэту лабазу́ ні адна каса не возьме.* Забор'е Міёр. 2. Жорсткае, няякаснае сена. *У гэтым годзе не сена, а адна лабаза́.* Боркавічы В.-Дзв., Буцавічы Паст.

ЛАБАЗЗЁ *н., толькі адз., зб., бат.* Пустазелле. *За хлевам нарасло лабаззя́.* Балаі Паст. *Во, папробуй гэта лабаззё ўсё скасіць.* Мікіціха Шум.

ЛАБАЙДА́ *аг., зневаж.* Пляткар(ка); пустамеля. *Лабайда́ гэтая прыходзіла, нагаварыла бочку пустога.* Бараўцы Чаш. Параўн. *лаханда́, ла́хта.*

ЛА́БАРЫ *мн.* Смецце. *Убяры ла́бары з двару.* Шарагі Міёр. *Ла́бары па ўсёй хаце.* Лужкі Шарк. *Усё ла́барамі парасло.* Камаі Паст.

ЛАБА́ТКА, ЛАБО́НЯ, ЛАБО́ХА, ЛЭБКА *ж.*, ЛАБЫ́Р *м.* Бязрогая карова. *Наша карова без рог, лаба́тка.* Іванск Чаш. *У нашым стадзе ёсць лаба́тка.* Даўгінава Міёр. *У нас была лаба́тка Зорка.* Багушэўск Сен. *Наша лабо́ня дужа на малако добрая була.* Селішча Гар. *У суседзей карова лабо́ха, я такіх ні люблю.* Ляleўшчына Гар. *А мы нашу лэбку Рабінай завём.* Слабодка Брасл. *Карова наша лабы́р; на пашу аброццю водзім.* Замхава Глыб. *Суседская ж Чарнушка – лабы́р.* Сценка Докш. *Адна карова ў мяне рага́тая, а другая – лабы́р.* Манякова Міёр., Мішкавічы Шум., Старое Сяло Уш. Параўн. *лыска.*

ЛАБА́ТЫ[1] *прым.* 1. Які мае вялікі выпуклы лоб; шыракалобы. *Во, дзеўка лаба́тая пашла.* Вядзерава Беш. 2. Бязрогі. *Зноў у мяне лаба́тая карова.* Кудзіны Гар. *Карова без рог называецца лаба́тая.* Доўжа Віц. *У нас была лаба́тая карова.* Петрашы Тал. *Лаба́тая твая ўжо дамоў нясецца.* Дварышча Шарк. *А ета чыя карова? Нейкая лаба́тая.* Вялікае Сяло Сен., Межава Арш., Лабачова, Жалезкі Беш., Мар'янполле Брасл., Езярышча, Залучча Гар., Лесні́кі Глыб., Стараселле Леп.. Павяцце Міёр., Нарыца, Целякі Паст., Мішкавічы Шум.

ЛАБА́ТЫ[2] *прым.* Разумны. *Глянь, які лаба́ты, усё знаіць.* Казімірова Пол.

ЛАБЕ́ШНІК, ЛАБЭ́ШНІК *м.*, ЛАБІ́НА, ЛАБЭ́ЦІНА *ж.*, *экспр.* Лоб. *Ён чуць што – у лабе́шнік як дасць!* Целякі Паст. *Не падстаўляй свой лабэ́шнік дзе трэба, дзе ні трэба.* Замачак Чаш., Круткі Паст. *А ён як рэзане ў лабе́шню, той і заваліўся.* Петрашы Тал. *Ух, лабі́на, хоць аршынам мерый.* Акцябрскі Чаш., Ляхаўка Дубр. *Гузак пасадзіў на лабэ́ціну, дзе і ўрэзаўся.* Слабада Леп.

ЛАБЗЯ́К *м.* Лобзік. *А гэтыя ўсе ўзоры ты лабзяко́м зрабіў?* Зялёнка Пол.

ЛАБІ́НА гл. ЛАБЕ́ШНІК

ЛАБО́НЯ гл. ЛАБА́ТКА

ЛАБО́ЎКА *ж.* Шкло лабавое ў машыне. *Хацеў замяніць лабо́ўку, расколіна на ім.* Замашэнне Беш.

ЛАБО́ХА гл. ЛАБА́ТКА

ЛАБУДА́ гл. ЛАБАДА́

ЛАБУЗА́ гл. ЛАБАЗА́

ЛАБЫ́Р гл. ЛАБА́ТКА

ЛАБЭ́ЙЗА *аг., груб., неадабр.* Неахайны чалавек. *Ну ты і лабэ́йза, вечна рукі гразныя.* Круткі Паст. Параўн. *лакі́за, лапі́за, лаху́дра.*

ЛАБЭ́ЦІНА, ЛАБЭ́ШНІК гл. ЛАБЕ́ШНІК

ЛАБЯ́К *м.* 1. Адкрытае ўзвышанае месца. *Каровы на лабяку́ пасуцца.* Абрамава В.-Дзв. 2. Вільчык. *У нас голуб на лабяку́ сядзіць часта.* Едлавічы Брасл.

ЛА́ВА[1] *ж.* Адно звяно плыта (пры сплаве лесу). *І гэтыя ла́вы ганялі па раке.* Шаркоўка Леп.

ЛА́ВА[2] *ж.* Нізкае асушанае месца; луг, лугавая сенажаць. *Вясной ла́вы залівае вадой.* Сіроціна Шум. Параўн. *лог, ло́нка.*

ЛАВА́ЦЬ *незак.* Лавіць. *Рыбу лава́ць пайшлі.* Скрыдлева, Слабада Віц. *Пойдзем лава́ць ракаў.* Віраўля Гар.

ЛА́ВІЦА *ж.* Лава (прадмет мэблі). *На гэтай ла́віцы і спаць можна – шырокая яна дужа.* Баршчоўка Віц.

ЛАВУ́ШЧЫ *прым.* Які добра ловіць мышэй (пра ката). *Дужа добрая гэтая наша кошачка, такая лаву́шчая.* Кашталянаўшчына, Псуя Глыб.

ЛА́ГА, ЛЯГА́РА *ж.* Падваліна. *Хаты пасля вайны бабы пашці шта самі ставілі; мальцы – зруб, маткі ла́гі палажаць і страпілы паставяць, а дальшэ мы самі.* Гунчанкі Віц. *Ла́гі ўжо згнілі, іх трэба памяняць.* Вяцера Чаш. *Ляга́ру падгнілую памяняў.* Нурава В.-Дзв.

ЛАГАДНЕ́ЦЦА *незак., безас.* Паляпшацца (пра стан надвор'я). *На дварэ трошку лагадне́іцца.* Целякі Паст.

ЛАГВО́ *н.* Логава. *Там мы і наткнуліся на воўчае лагво́.* Абруб Глыб. *Свіння сабе робіць лагво́ з саломы.* Янушова Докш., Зубава Арш., Бор Леп.

ЛАГО́ЖЫ, ЛАГО́ШЫ *толькі мн.* Розвальні; сані-развалкі. *Поўныя лаго́жы дроў прывёз.* Агурні Глыб. *Лаго́шы – гэта для перавозкі сена ў нас.* Гарэлькі Дубр.

ЛАГУ́Н *м.* Бітон. *Сёння цэлы лагу́н малака ў калгас здала.* Коравічы Чаш. *У баню занясі лагу́н вады.* Кашчына Чаш.

ЛА́ДКА гл. ЛА́ТКА[1]

ЛА́ДКІ, ЛА́ДУШЫ *мн., кулін.* Аладкі. *Шайморы раней елі – гэта ла́дкі такія.* Задуброўе Віц. *Напікла ла́дак, са смятанай есць будзім.* Бігосава В.-Дзв. *Ла́дкі вельмі смачныя з варэннем.* Ветрына Пол., Гарэлькі Дубр., Загарадна, Смародзіна, Уна Лёзн., Мілашова Міёр. *Каторы раз мае ла́душы згарэлі.* Смаляны Арш. *Ла́душы мае сёння смачныя.* Полымя Сен. *Добрыя ла́душы на кіслым малацэ.* Слабада Уш.

ЛА́ДНА, ЛА́ДНАГА, ЛА́ДНЕ *прысл.* 1. Дружна, зладжана. *Хай дзеці нашы жывуць ла́дна.* Валькі Віц. *Лягушкі так ла́дна скачуць.* Мілашова Міёр. 2. Многа. *Ты ўжо ла́дна дроў накалоў.* Новае Сяло Сен. *Ла́днага было гасцей. Сена ў пуні яшчэ ла́днага.* Скрыдлева Віц. Параўн. *лу́бам.* 3. Доўга. *Ды ўжо ла́днага жджом, а яго ўсё німа.* Глінішча, Пустаселле Докш. *Да я ж ла́дне ў лесе была.* Вярцінскія Паст. 4. Прыгожа. *Дачка ў яе ла́дне спявае.* Слабада Паст.

ЛАДНЕ́Й[1] *прым., выш.* Прыгажэйшы. *Гэты ручнік ладне́й за першага.* Губіна Леп. *Гэтая, мусі, ладне́й за сястру.* Целякі Паст. Параўн. *ляпшэ́йшы.*

ЛАДНЕ́Й[2] *прысл., выш.* Прыгажэй. *Можна й ладне́й прыбрацца.* Князі Віц. *Раней неяк ладне́й будаваліся.* Целякі Паст.

ЛАДНЕ́ЦЬ *незак.* Падрастаць, станавіцца дарослым. *У сястры вун дочкі ладне́юць, скора нявесты будуць.* Выхадцы Лёзн.

ЛА́ДНЫ *прым.* 1. Сыты, укормлены, падрослы. *Падсвінак ужо ла́дны, можна рэзаць на мяса.* Баруны Брасл. *А як бычок ла́дны, так і глядзець прыятна.* Матырына Уш., Сар'я В.-Дзв., Задуброўе Віц., Станіслававa Дубр., Сахоненкі Шум. 2. Вялікі. *Ла́дны кусок адхваціла.* Смалоўка Гар. *Ла́дны кусок сала пазычыла.* Кушталі Шарк. 3. Амаль дарослы. *Ла́дны хлопец ужо вырас, скора ў школу ўжо пойдзіць.* Тур'ева Сен. *Дзяўчына ла́дная – і вады прынясець, і ў хаці прыбярэць.* Акцябрскі Чаш., Двухполле Гар., Мікіціха Шум. 4. Прыгожы. *А вы дзеўкі ла́дныя, мальцаў у вас многа, нябось.* Стар. Арш. *У Міхаліны дзве дачкі – ла́дныя дзяўчынкі.* Бортнікі Глыб. 5. Спраўны, добра абсталяваны.

*А які наш касцёл ла́дны быў.* Друя Брасл. *Ла́дная банька ў яго.* Целякі Паст.

ЛА́ДУШЫ гл. ЛА́ДКІ

ЛАДЫ́ГА *ж., бат.* Сцябло расліны. *Гарбузы ў добрыя ладыгі пашлі.* Гута Паст.

ЛА́ДЫР *м., неадабр.* Гультай, лодар. *У сям'і ў маёй ніколі ла́дыраў не было, усе работнікі.* Баршчоўка Віц. Параўн. *ланда́рак, ланту́х, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ляно́тнік, лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ламі́на* ў 1 знач.

ЛАЖА́К гл. ЛЯЖА́К

ЛАЖБАВА́ЦЬ *незак.* Забіраць мёд у пчол. *Учорака сасед мёд лажбава́ў, дык з хаты нельга было выйсці. Дзед за вадой схадзіў, дык аж тры разы ўкусілі.* Сухавежа Міёр.

○ ЛАЗА́ БЕ́ЛАЯ *ж.* Вярба белая. *Лаза́ бе́лая так лёгка прыжываецца, што стоіць толька дубец уткнуць у влажную зямлю.* Ушачы.

ЛАЗАВІКІ́ *мн.* Лазовыя лапці. *Зробіць бацька, бывала, лазавікі́, і коўзаеш у іх і ўзімку, і ўлетку.* Камары Віц. Параўн. *лыкі.*

ЛАЗІ́НА *ж.* 1. *бат.* Лазовы куст. *За два леты наша лазі́на раскучаравілася.* Князі Віц. 2. Лазовы дубец. *Вазьмі лазі́ну – кароў падганяць будзеш.* Узмёны Міёр.

ЛАЗНІ́К *м., зб.* Лазняк, зараснік лазы. *У лазні́к качкі пахаваліся. У нас ля возера лазні́к харошый.* Гута Паст.

ЛАЗНІЧО́К *м.* Прылазнік. *Бягом у лазнічо́к, задохнешся тутака – па́ра такая.* Каменка Тал.

ЛАЗО́ЎКА, ЛАЗЯ́НКА *ж., бат.* Грыб шаравата-фіялетавага колеру, падобны на груздь. *Лазо́вак нарасло, а добрага грыба ні знойдзіш.* Зарачыцак Докш. *У Лопаўцы лазя́нак многа, я ўчора хадзіла.* Лялеўшчына Гар.

ЛАІ́НА *ж., толькі адз.* Лой. *Хворага трэба нацерці лаі́най.* Гарадок.

ЛА́ЙБА 1. *ж.* Вялікі воз для перавозкі сена. *У дварэ стаіць ла́йба, поўная сена.* Ваўкалата Докш. *Цэлую ла́йбу сена наладавалі.* Кулінава Уш. 2. *аг., перан., неадабр.* Тоўсты чалавек. *Такая ўжо ла́йба, рабіць нічога не можа.* Драбаўшчына Глыб.

ЛАЙДА́ЧНЫ, ЛАЙДА́ЧЫ *прым., экспр.* Гультаяваты, падобны на лайдака. *Гулёна ты лайда́чная.* Мікіціха Шум. *Нейкі лайда́чы ў іх меншы сын.* Бяседы Леп. Параўн. *лайтру́жны, ламаві́ты.*

ЛАЙДА́ЧЫНА *аг., зневаж.* Гультай(ка). *Яна лайда́чына, свет прайсці – не ўбачыш такую.* Абухава Бешь. Параўн.

*лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ламіна́* ў 1 знач., *ла́дыр, ланту́х, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ланда́рак, ляно́тнік.*

ЛАЙНІ́НА *ж., адзінк.* Адзежына; адна штука бялізны, вопраткі. *Што на табе за лайні́на, памый яе.* Верацея Арш. *Дзве лайні́ны не можаш пасціраць.* Чарневічы Глыб., Смаляны Арш., Сокарава Беш., Іванаўка Гар., Матырына Уш. Параўн. *лайно́* ў 1 знач.

ЛАЙНО́ *н.* 1. Адзежына; адна штука бялізны, вопраткі. *Сягоння нада было б тое-сёе лайно́ памыць, а то потым некалі будзіць.* Запруддзе Глыб. *Накінь якое лайно́, выйдзі глянь, чаго так сабака заходзіцца.* Драгуны Міёр. Параўн. *лайні́на.* 2. *зб.* Бялізна. *Занялася сена сушыць, а лайно́ намочанае стаіць. І мыць нада, і некалі.* Забалоцце Уш. *Замачыла адно лайно́, заўтра памыю.* Пугачова Докш. *Я лайно́ пранікам біла, а раней дык рукамі мяла.* Белая Ліпа Сен., Папшычы Глыб., Язна Міёр.

ЛАЙТРУ́ГА, ЛАНТРУ́ГА, ЛАТРУ́ГА, ЛАТРЫ́ГА *аг., зневаж.* Гультай(ка). *Сколькі ўжо можна валяцца, лайтру́га, ідзі што робі.* Боркавічы В.-Дзв. *Лайтру́га ніколі нічога мець не будзе.* Пашкі Шарк. *Жыве лайтру́гам, паесь, выспіцца і гуляе.* Малы Поўсвіж Леп., Петрашы Тал. *Лантру́га ніколі дзела да канца не давядзе.* Галубава В.-Дзв., Ясева Міёр. *Зноў спіць. Ну і латру́га ж ты!* Каты Шарк. *Што ты за латру́га, толькі б і ляжаў на печы!* Падсвілле Глыб. *Латры́га нейкі вырас, ня любіць работу.* Пунішчы Віц. Параўн. *лайда́чына, ламіна́* ў 1 знач., *ланда́рак, лады́р, ланту́х, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ляно́тнік.*

ЛАЙТРУ́ЖНЫ *прым., экспр.* Гультаяваты, падобны на лайдака. *Ён жа лайтру́жны, толькі й ляжыць на дзіване.* Мікіціха Шум. Параўн. *лайда́чны, лайда́чы, ламаві́ты.*

ЛАКАТУ́ШКІ *мн.* Ласункі, прысмакі. *Тут розныя лакату́шкі прадаюць.* Канашы Гар. Параўн. *ласо́нікі, ла́ха́рдзікі, лі́зікі.*

ЛАКІ́ЗА, ЛАПІ́ЗА *аг., неадабр.* Неахайны чалавек. *За такога лакі́зу ніхто не пойдзе.* Камень Леп. *Жонка ў яго такая лапі́за.* Цяцеркі Брасл. Параўн. *лабэ́йза, лаху́дра.*

ЛАКО́МКА *аг.* Ласун, ласуха. *Дзеткі ўсе лако́мкі – канхветы любяць.* Бігосава В.-Дзв. Параўн. *ласо́нік, ласу́ня, лізу́н* [1].

ЛАКО́МЫ *прым.* Ласы. *Ты лако́мы да смачненькага.* Задуброўе Віц.

ЛАКТА́ЦЬ, ЛЫ́КЦІЦЬ *незак.* 1. Хлябтаць (пра ката, сабаку). *Мой кот малы лакта́ў малако, а цілер мяса хоча.* Забор'е Глыб. 2. *экспр.* Многа і прагна піць. *Ён столькі гарэлкі ло́кчыць, дзіва, як жыве шчэ.* Булахі Глыб. *Лэ́кчыць водку, як конь ваду.* Камаі Паст. *Мой з серады дамоў не казаўся, недзе ло́кчыць з сябрукамі.* Дрыгучы Міёр. *Ні лакчы́ дужа халоднай вады.* Урбаны

Брасл., Макаравічы Докш., Амбросенкі Шарк. *Нагнула вядро і лыкціць халодную ваду.* Чарневічы Глыб.

ЛАЛА́КАННЕ *н.*, ЛАЛА́КІ *мн.* Балбатня, пустаслоўе. *Мы наслухаліся яго лала́кання ўвечары.* Смаляны Арш. *Як завядуць лала́кі – сядзяць па́ўночы.* Выхадцы Лёзн.

ЛАЛО́ЎНІКІ *мн., абрад.* Валачобнікі. *Лало́ўнікі хадзілі на першы дзень свята, звечара, разам з імі хадзілі музыканты.* Лынтупы Паст.

ЛАМАВІ́К *м., перан.* Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы. *Такому ламавіку́ гектар касіць у дзень – і то мала.* Бор Леп.

ЛАМАВІ́ТЫ *прым.* Гультаяваты, падобны на лайдака. *Адразу відаць, што хлопец ламаві́ты.* Дворышча Рас. Параўн. *лайда́чны, лайда́чы, лайтру́жны.*

ЛАМА́НЦЫ *мн., кулін.* Крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе. *Люблю бабуліны лама́нцы.* Петрашы Тал., Мяжа Гар.

ЛАМА́Ч *м., с.-г.* Прылада для пераціпрання льну. *А патом ламачо́м лупяць лён, пакуль ён ажно плоскім не стане.* Крывыя Тал.

ЛАМІНА́ 1. *аг., зневаж.* Гультай(ка). *Сядзіць дома, ламіна́, нічога ня робіць, спіць цэлымі днямі.* Лукашова Паст. Параўн. *лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ла́дыр, ланту́х, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ланда́рак, ляно́тнік.* 2. *ж.* Пра вялікую, тлустую жывёліну. *Во ламіна́, а малака – дык у казы болей.* Каўшэлева Шарк.

ЛАМЭ́КА *аг., неадабр.* Капрызны чалавек (часцей пра дзіця). *Ты яшчэ ўгавары пайсці пагуляць гэту ламэ́ку.* Замачак Чаш.

ЛАНДА́РАК *м., неадабр.* Гультай, лодар. *Мой брат – вялікі ланда́рак.* Зубава Арш. Параўн. *ла́дыр, ланту́х, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ляно́тнік, лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ламіна́* ў 1 знач.

ЛАНТРУ́ГА гл. ЛАЙТРУ́ГА

ЛАНТУ́Х *м., неадабр.* Гультай, лодар. *Крый божа, каб мой такім жа лантухо́м вырас! І бацька яго такі ж ланту́х быў.* Бігосава В.-Дзв. *Нельга ж быць такім лантухо́м.* Боркавічы, Сардыкі В.-Дзв. Параўн. *ла́дыр, ланда́рак, ле́йбус, лунь* [2] у 3 знач., *ляно́тнік, лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ламіна́* ў 1 знач.

ЛАПАНО́СЫ *прым.* Шыраканосы. *Сын увесь у яго пайшоў, такей самы лапано́сы.* Выхадцы Лёзн.

ЛА́ПАТКІ *мн., памянш.* Лапці. *Помню толькі, што абувалася я ў ла́паткі.* Войлавічы Шум.

ЛА́ПАТНІК *м., перан.* Небагаты чалавек. *Казала ж ёй, каб ні брала гэтага ла́патніка, а яна ні ў какую, хоць ты што хочаш роб.* Клясціцы Рас.

ЛАПАТРЫ́СЯ *ж., неадабр.* Балбатуха; жанчына, якая многа і бесперастанку гаворыць. *Наша суседка такая лапатры́ся, ніколі не змаўкае.* Старое Сяло Уш. Параўн. *лескату́ха.*

ЛАПАТУ́Н, ЛАПАЦЕ́НЬ *м., неадабр.* Балбатун; мужчына, які многа і бесперастанку гаворыць. *Лапату́н еты толькі і лапочыць.* Варашылы Сен. *Лапату́н еты вярзець абы пра што.* Мікіціха Шум. *Жыў тут у нас прыблуда адзін, от лапаце́нь быў дык лапаце́нь!* Запруддзе Глыб. *Ну, ты й лапаце́нь!* Кавалі Глыб.

ЛАПАТУ́ХА *ж.* Зазубіна на лязе касы. *І зноў ён мне касу з лапату́хай прынёс.* Гарэлькі Дубр. Параўн. *ло́паўка* [1].

ЛАПАЦЕ́НЬ гл. ЛАПАТУ́Н

ЛАПАЦЕ́ЦЬ *незак., экспр.* Паспешліва, часам неразборліва гаварыць, расказваць. *Ну, твая цётка так умее лапаце́ць, што я нічога не разумею.* Дрысвяты Брасл.

ЛАПА́ЦІЦЬ *незак.* Адбіваць, вастрыць касу. *А я добра не ўмею лапа́ціць касу.* Задуброўе Віц.

ЛАПА́ЦІШЧА *н.* Драўляная ручка ў рыдлёўцы. *Дай ты мне тую лапату, гдзе лапа́цішча карочэ.* Забор'е Рас. *Новае лапа́цішча, дык не гладкае.* Рай Сен.

ЛАПІ́ЗА гл. ЛАКІ́ЗА

ЛА́ПНІК *м., зб.* Галінкі хваёвага дрэва. *Ла́пнікам абвязваем яблыні, каб не грызлі зайцы.* Заазер'е Тал.

ЛАПСІРДА́К, ЛАПСЮРДА́К, ЛАПСЯРДА́К *м.* Верхняя мужчынская вопратка (сюрдут, пінжак, паліто). *Раньшы ж ні было пінжакоў, як ціпер, а былі лапсірда́кі.* Грамы Пол. *Модны лапсюрда́к мужыку купіла.* Папшычы Глыб. *Нешта холадна на вуліцы стала, лапсярда́к адзяваць нада.* Драбаўшчына Глыб. *Ну як лапсярда́к свой надзене – зусім маладым стане.* Галубава В.-Дзв. *Накінь лапсярда́к, а то халодна.* Казловічы Арш. *Надзеў лапсярда́к і пашоў па грыбы.* Адаменкі Лёзн.

ЛАПТУ́Х *м.* Мяшок. *Поўны лапту́х бульбы прывалок.* Мількі Брасл. *Сабяры цыбулю ў лапту́х.* Цяцеркі Брасл.

ЛАПУ́Н[1] *м.* 1. *кулін.* Тоўсты пульхны блін. *Хлеба няма, дык лапу́н спякла.* Стралкі В.-Дзв. *Напякла лапуно́ў на сняданне.* Задуброўе Віц., Кульгаі Глыб., Крулеўшчына Докш., Залучына Леп., Смародзіна Лёзн., Рускі Шум. 2. Бульбіна, якая перазімавала на полі. *Вайной людзі й лапуны́ елі.* Руць Чаш.

ЛАПУ́Н$^{2}$ *м., бат.* Ліст дзядоўніку. *Паглядзі, якія лапуны́ растуць.* Матырына Уш.

ЛАПУ́Н$^{3}$ *м., бат.* Від палявога грыба. *Шмат на полі ўсякіх лапуно́ў, і ядавітыя ёсць.* Нямойта Сен.

ЛАПУ́Н$^{4}$ *м., асудж.* Той, хто распускае рукі. *Ах ты лапу́н нішчасный, а па руках ці хочыш?* Ляхаўка Дубр.

ЛАПУ́Х, ЛАПУ́ШНІК, ЛО́ПУНЬ *м.*, ЛАПУХА́ *ж., бат.* 1. Лопух. *Лапу́х на суставы кладуць, гаворацць, дужа памагае.* Бачэйкава Беш. *Уся сцежка зарасла лапу́шнікам.* Казлоўшчына Паст. Параўн. *ла́тач.* 2. Лотаць. *Прыгожа цвіцець лапу́х.* Сіроціна Шум. *Як вада пасля разліва спадзець – расцвітаюць лапухі́.* Верхняе, Азярцы, Ломашы Глыб., Заборцы Докш., Варашылы Сен., Лужкі Шарк. *Скора лапу́шнік расцвіце.* Бортнікі Глыб. *Ло́пунь жаўцее на ўзболатку.* Застарынне Беш. *Лапуха́ – трава, што на балоце толькі расцець. Цвіціць лапуха́ жоўценькім.* Горы Рас. *Лапуха́ ў етым гаду распусцілася рана.* Пралетарыя Уш. *Лапуху́ ўбачыш на балоце, па краях канаў.* Крынкі Лёзн. Параўн. *латацце́.*

ЛАПУША́НЫ *прым.* Лапушысты, шыракалісты. *У мяне лісты на капусце вельмі лапуша́ныя.* Рудніца Сен.

ЛАПУ́ШНІК гл. ЛАПУ́Х

ЛАПШЫ́ВА *прысл.* Прагна (есці, піць). *Ён так лапшыва есць, апеціт добрый.* Свірдуны Паст.

ЛАПШЫ́ВЫ *прым.* Прагны (да яды, да піцця). *Лапшы́вае дзіцё, есць усё падрад.* Камаі Паст. *Я не лапшы́вая, клюю патроху, колькі старому нада.* Амбросенкі Шарк. *Купіла свіней. Лапшы́выя, каб толькі не перакарміць.* Кашталянаўшчына, Латышы, Пліса, Прошкава Глыб.

ЛАПЯ́СТЫ, ЛЯ́ПІСТЫ *прым.* Стракаты, markнакаляровы (пра тканіну). *Якая ў цябе лапя́стая юбка, мне нравіцца – ярка, весела.* Фарынава Пол. *Адзень тое ля́пістае плацце.* Круткі Паст.

ЛА́САЦЬ, ЛАСНАВА́ЦЬ, ЛА́СЦІЦЬ *незак.* Лашчыць, песціць; гладзіць каго-н. *Люблю ла́сацць свайго ката.* Сваташыцы Дубр. *Ён так ужо чужую дачку ласну́е, а пра сваю забыўся.* Папоўка Сен. *Любая маці ла́сціць сваё дзіця.* Гарадок.

ЛАСА́Ч *м., неадабр.* Ліслівы чалавек. *Па кім жа яму быць харошым? Усіх з сям'і іх называлі ласача́мі.* Якубава Рас.

ЛА́СІКІ *толькі мн.* Асалода, задавальненне. *Мне такія ла́сікі сядзець тут: і канапа як пух, і збоку печка грэе.* Арэхаўна Уш.

ЛА́СКА *ж., заал.* Дробная рачная рыба з зялёным адлівам лускі. *А ў нас в реке раньшэ многа ла́сак було.* Езярышча Гар.

ЛАСКАТА́ЦЬ, ЛАСКАЦЕ́ЦЬ *незак., экспр.* Шмат гаварыць, балбатаць. *Мне работу рабіць нада, а яна прыйшла, села ды ласко́чыць.* Псуя Глыб. *Некаторыя ласката́ць пра другіх любяць.* Слабодка Леп. *Хопіць ласката́ць!* Макаравічы Докш. *Не надаела ласкаце́ць? Сядзіць і ласкаці́ць, ласкаці́ць.* Філімонава Гар. *Што ты ўсё ласкаці́ш?* Даўгаполле Гар. Параўн. *лепята́ць.*

ЛАСКУ́Н, ЛАСКУНО́К гл. ЛУСКА́Н

ЛАСНАВА́ЦЬ гл. ЛА́САЦЬ

ЛАСО́НІК *м.*, ЛАСУ́НЯ *аг.* Ласун, ласуха. *Іван наш вялікі ласо́нік да каўбас.* Савуткі Шарк. *Ну ты і ласо́нік! Табе толькі паесці дай.* Віркі Чаш. *Так любіць ягады! Вось ужо ласу́ня!* Петрашы Тал. Параўн. *лако́мка, лізу́н* [1].

ЛАСО́НІКІ *мн.* Ласункі, прысмакі. *Дзе тых ласо́нікаў табе набрацца?* Урбаны Брасл. Параўн. *лакату́шкі, ла́ха́рдзікі, лі́зікі.*

ЛА́СТАВІЦА, ЛА́СТАЎНІЦА *ж.* Ластаўка. *Прыляцела ета ла́ставіца, зноў пасялілась пад страхой.* Малыя Пышнагоры Леп. *Ла́стаўніцы так хорашэ вісяць на правадах.* Дворышча Леп.

ЛАСУ́НЯ гл. ЛАСО́НІК

ЛАСУ́ХА *ж.* Гатунак позняй бульбы "Ласунак". *Ласу́ха ня вельмі смашная, дрэнна варыцца.* Чарневічы Глыб.

ЛА́СЦІЦЦА *незак.* Заляцацца да дзяўчыны. *А брат ізноў ла́сціцца да суседавай дачкі.* Ластавічы Глыб.

ЛА́СЦІЦЬ гл. ЛА́САЦЬ

ЛА́СЫ, *памянш.-ласк.* ЛА́СЕНЬКІ *прым.* 1. Ласкавы, пяшчотны. *Ла́сае дзіцятка.* Промыслы Беш. Параўн. *ліса́вы* ў 1 знач., *лёзны.* 2. Смачны, салодкі. *Прывязіце мне чаго-небудзь ла́сенькага.* Пралетарыя Уш.

ЛАТАЦЦЁ *н., зб., бат.* Лотаць. *У нас за калодцам столькі латацця́, ажно ўсё жоўта.* Сабалі Чаш. Параўн. *лапу́х, лапу́шнік, ло́пунь, лапуха́* ў 2 знач.

ЛА́ТАЧ *м., бат.* Лопух. *Вырас вялікі ла́тач.* Абухава Беш. Параўн. *лапу́х, лапу́шнік, ло́пунь, лапуха́* ў 1 знач.

ЛА́ТВА *прысл.* Добра. *Ціпер людзі ла́тва жывуць, не як раньшэ.* Варапаева Паст. Параўн. *лацно́, ле́пна.*

ЛА́ТКА[1], ЛА́ДКА, *памянш.* ЛА́ТАЧКА, ЛА́ДАЧКА, ЛАТУ́ШКА *ж.* Гліняная або драўляная міска. *Я ўчора смітаны зніла, цэлая ла́тка вышла.* Баравыя Гар. *А міску раней называлі ла́ткай. Так яшчэ мая маці гаварыла.* Азяркі Гар. *У ла́тцы добра мак церці.* Лукашова Паст. *У ла́дцы каша, налі малаком і паеш.* Віркі Чаш. *Самая добрая ла́тачка разбілася, цяпер ня склеіш.* Забалацце Арш. *Гэтыя ла́дачкі яшчэ мой муж рабіў.* Іванаўка Гар. *У лату́шцы пяклі яешню ў печы. Яна не баіцца агня.* Лазы

Тал. *Коцік з лату́шкі п'е малако.* Ляды Дубр. Параўн. *лаха́нка* [1], *лаха́нь* у 1 знач.

ЛА́ТКА[2] *ж.* Складка. *У мяне спадніца ў ла́ткі.* Бараўцы Чаш.

ЛАТО́К *м.* 1. Лата́к; жалабок, па якім сцякае вада, сок. *Лато́к ужо ўвесь гразны, трэба чысціць.* Смалоўка Сен. *Вада ў карыта па латку́ збягае.* Мардахі Дубр. Параўн. *лубо́к.* 2. Кубак. *Вечарам мама налле лато́к малачка – смачна.* Таўкіні Шарк.

ЛАТО́ЧЫНА *ж.* Ягаднае ці грыбное месца ў лесе. *Знайшлі вельмі добрую лато́чыну, чарніц набралі вёдрамі.* Ваўкі Паст. Параўн. *лу́міна.*

ЛАТО́ШЫЦЦА *незак.* Марудзіць, корпацца. *Чаго ты там лато́шыся? Апаздаць хочыш?* Пачаевічы Чаш.

ЛАТРУ́ГА, ЛАТРЫ́ГА гл. ЛАЙТРУ́ГА

ЛАТУ́Н *м.* Старая адзежына. *Накінь які лату́н і ўнясі дроў.* Ёды Шарк. *Скінь свой лату́н, адзень што другое.* Аліхверы Паст. Параўн. *лахамі́дзіна.*

ЛАТУ́ННЕ *н., зб.* Старое адзенне, рыззё. *У мяне столькі лату́ння, куды яго дзіваць ціпер?* Альхоўцы Шарк.

ЛАЎЖО́ *н., зб.* Брудная бялізна. *Усё лаўжо́ за ранак перамыла.* Вярэнькі Паст. *Колькі ж лаўжа́ назбірала, два дні мыць буду.* Ляхаўшчына Паст.

ЛА́ЎРІК *м., кулін.* Лаўровы ліст. *Пакладзі ла́ўріка ў суп, каб запах быў.* Кузняцова Віц.

ЛАЎЧЭ́Й *прысл., выш.* 1. Спрытней, больш удала. *У цябе лаўчэ́й выходзіць.* Селішча Уш. 2. Зручней. *Лаўчэ́й вазьміся за бервяно, а то на ногі зваліцца.* Каханавічы В.-Дзв. *Лаўчэ́й бярыся.* Ноўка, Стайкі Віц.

ЛАХАМІ́ДЗІНА *ж.* Старая адзежына. *Носіць нейкую лахамі́дзіну.* Задоры Леп. Параўн. *лату́н.*

ЛАХАНДА́ *аг., зневаж.* Пляткар(ка), пустамеля. *Не слухай ты гэту лаханду́: яна век абы-што гаворыць, усё на свеці яна знаіць.* Кашталянаўшчына Глыб. Параўн. *лабайда́, ла́хта.*

ЛАХА́НКА[1], ЛАХА́НЬ *ж.* 1. Гліняная або драўляная міска. *Бацька любіў цюрку з лаха́нкі есці.* Казловічы Арш. *Я зараз ні хачу есь, нядаўна з'еў лаха́нку супа.* Слабада Шум. *Мае лаха́нкі старыя, аж рысунак сцёрся.* Іванаўка Гар., Воўкаўшчына Глыб., Дворышча Леп., Грышына Рас., Белая Ліпа Сен. *Налі ў лаха́нь сабе супу.* Папкі Міёр. Параўн. *ла́тка* [1], *ла́дка.* 2. Карыта. *У лаха́нку маглі пакласці корм каню.* Езярышча Гар. *Лаха́нь свінні перакулілі.* Грушава Чаш. *У лаха́нь вылілі пойла.* Хралы Глыб.

ЛАХА́НКА[2] *ж.* Посцілка. *Красівая ў цібе лаха́нка на ложку.* Белькі Паст.

ЛАХА́НЬ гл. ЛАХА́НКА[1]

ЛА́ХА́РДЗІКІ *мн.* Ласункі, прысмакі. *Мае любімыя ла́хардзікі – цукеркі.* Задоры Леп. *Мама з горада многа ла́хардзікаў прывозіць.* Ваўчо Уш. *Ты абы-што не ясі, табе толькі ла́хардзікі падавай.* Серкавіцы Тал. *Прівыклі вы laха́рдзікі есць.* Зубава Арш. *Я свайго ўнучка лаха́рдзікамі разбалавала.* Вярэчча Гар., Антонаўка, Зубава, Тумінічы Арш., Езярышча, Яроненкі Гар., Ульянавічы Сен., Старое Сяло Уш., Замачак Чаш. Параўн. *лакату́шкі, ласо́нікі, лізікі.*

ЛА́ХАЦЬ, ЛА́ХТАЦЬ, ЛЫ́ХАЦЬ, ЛЭ́ХАЦЬ *незак.* 1. Гаварыць недарэчнае. *А старыя як сабяруцца, дык пачынаюць ла́хаць пра дзецюкоў.* Турлы Паст. *Ну, хопіць ужо ла́хаць перад гасцямі.* Лашукі Паст. *Нечага хадзіць абы-дзе і ла́хаць языком.* Абрамава В.-Дзв. *Яна вечна ла́хае.* Васілеўшчына Паст. *Былі ў мяне мае дзеўкі – ла́халі доўга.* Воўкаўшчына Глыб. 2. Смяяцца. *Не трэба так ла́хаць з яго.* Петрашы Тал. *А чаго ты ла́хала на ўсю вуліцу?* Булахі Глыб. 3. Бадзяцца, хадзіць без справы. *Цэлы дзень па магазі́нах ла́хае.* Бор Леп. *Маладзёж па завуголлям ла́хаіць.* Клясціцы Рас. *Ла́халі па базары без дзела.* Лонск Шарк., Баруны Брасл., Косарава Глыб., Матырына Уш. *Мне – каб на рабоце. І каб між людзей, а не тое што ла́хтаць з кута ў кут.* Серкавіцы Тал. *Што ты ўсё лы́хаіш, ішоў бы бабцы памоч.* Язна Міёр. *Толькі лы́хаіць, за дзень каб што зрабіла.* Пусташы, Палата Пол. *Цэлы дзянёк лы́хае па вуліцы.* Каханавічы В.-Дзв. *Дзе ты лы́хаў?* Паліцы Беш. *Увесь дзень лы́хала па лесе.* Балаі Паст. *Глядзі, доўга ні лы́хай.* Бараны Глыб. *До табе ўжо лы́хаць без дзела.* Выхадцы Лёзн. *Чаго ты лэ́хаў усё ранне? Не сядзіцца табе.* Мікіціха Шум.

ЛАХМА́Т, ЛАХМО́Т *м.* Кавалак тканіны, скуры. *Навесь які-небудзь лахма́т на сябе, вось табе і будзе пугала.* Пазнякова Пол. *Во, нейкі лахмо́т нашла, можа, падыдзе.* Каменка Віц.

ЛАХМО́ЎКА *ж.* Кладоўка. *Прынясі ключы ад лахмо́ўкі.* Старое Сяло Уш. *Агуркі глядзіце ў лахмо́ўцы.* Сардыкі В.-Дзв.

ЛА́ХТА *аг., зневаж.* Пляткар(ка), пустамеля. *Ла́хта ты, многа брэшаш, паражагнайся лепей.* Папшычы Глыб., Замачак Чаш., Варапаева Паст. Параўн. *лабайда́, лаханда́.*

ЛА́ХТАЦЬ гл. ЛА́ХАЦЬ

ЛАХУ́ДРА *аг., неадабр.* Неахайны чалавек. *Лаху́дра ты, хоць бы прычасалася.* Гатаўшчына Глыб. *Хіба тая лаху́дра агледзіць хату?* Булахі Глыб. *Расчашыся, а то чыстая лаху́дра.* Бачэйкава, Вярхоўе Беш. *Яна ж сама па сабе баба добрая, але не глядзіць за сабой, ходзіць як лаху́дра.* Абруб Глыб. *Зачашы валасы акуратна і ні хадзі лаху́драй.* Стралкі, Чурылава В.-Дзв.,

Сасноўка, Шклянцы Докш., Князі Віц., Верамееўшчына Дубр., Бор Леп., Высачаны Лёзн., Вісяты Міёр., Нямойта Сен., Варапаева, Вярэнькі, Лашукі, Лынтупы, Турлы Паст., Забор'е Рас., Акцябрскі, Замачак Чаш. Параўн. *лабэ́йза, лакі́за, лапі́за.*

ЛАЦНО́ *прысл. і безас.-прэдык. слова.* Добра. *Лацно́ табе жывецца.* Ляхаўшчына Паст. *Цяпер лацно́ жыць, не як раньш.* Старое Сяло Уш. Параўн. *ла́тва, ле́пна.*

ЛАШЧЫ́НА *ж.* 1. Нізіна сярод адхонных схілаў. *У гэтай лашчы́не нічога не расце.* Ноўка Гар. 2. Лужына. *Лашчы́на з-за дажджоў вялікая стаіць. Залезла ў лашчы́ну, дык чуць вылезла.* Казімірова Пол.

ЛЕВАРУ́КІ *прым.* Які валодае левай рукой лепш, чым правай. *Мой брат леварýкі, і піша леваю.* Антаполле Чаш.

ЛЕВАРУ́Ч *прысл.* Злева, па левую руку, па левы бок. *Леварýч вёскі рэчка бяжыць.* Дубоўка Пол. *Сядзь леварýч ад бацькі.* Выдрэя Лёзн., Матырына Уш.

ЛЕВУШНЯ́ гл. ЛЯЎШАЙ

ЛЕ́ВЫ *прым.* Вываратны, сподні. *Чаго майку на ле́вы бок надзеў?* Варапаева Паст.

ЛЕ́ГЦІ *зак.* Легчы. *Мне трэба было б тут ле́гці.* Петрашы Тал.

ЛЕ́ГЧЫЦЬ *незак.* Кастрыраваць. *Ле́гчыць ужо кабанчыка трэба.* Папоўка Сен.

ЛЕДАВІ́К[1] *м.* Ільдзіна. *Як паводка, то столькі ледавікóў на возеры.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЕДАВІ́К[2] , ЛЯДНІ́К *м., бат.* Грыб падбярозавік. *Пэўна, ужо ледавікі́ пайшлі.* Дворышча Леп. *Ледавікі́ ў нас цэняцца, смашныя грыбы.* Старое Лядна Леп. *Пашці на сцежцы сядзеў чорнагаловы лядні́к.* Старыя Лаўкі Чаш. *Кожнае лета бяром леднікі́, казлы, белыя грыбы.* Велеўшчына Леп. *Многа леднікóў пападалася сённі.* Малыя Пышнагоры Леп.

ЛЕ́ДЗІШЧА *н., толькі адз.* Лёд на рацэ, возеры. *На ле́дзішча зімой на рыбалку ходзім.* Янкавічы Рас.

ЛЕДЗЯНУ́ШКА, ЛЯДЗЯ́ШКА *ж.* Ледзянец. *Ледзяну́шкі купляю к чаю.* Даўгаполле Гар. *Купі лядзя́шак, хоць у році пасалажу.* Вадзянікі Гар.

ЛЕ́ЖАНЬ *м., заал.* Галец; невялічкая прэснаводная рыба з тонкай скурай без лускі. *Ле́жань – рыба пашці з голым целам, бураватага колеру. Ле́жань каля дна плавае.* Заборцы Докш.

ЛЕ́ЖБІШЧА[1] *н., адз.* Сцелішча. *На ле́жбішчы лён паслалі.* Задоры Леп.

ЛЕ́ЖБІШЧА[2] *н.*, ЛЕ́ЖКА, ЛЁЖКА *ж.* Лежня; след звера, які ляжаў на зямлі. *Глянь, якое ле́жбішча, што за звер тут быў?* Цяцеркі Віц. *Чыя-та ле́жка тут, места глухое.* Петрашы Тал. *Тут лёжка яшчэ цёплая.* Свяча Беш.

ЛЕ́ЖЫВО *н.*, ЛЁЖНЯ, ЛІЖНЯ́ *ж.* Ляжанне, лежня; стан паводле знач. дзеяслова *ляжаць. Якое гэта ле́жыво на голых дасках?* Пасекі Докш. *Людзі бульбачку садзяць, а ў іх лёжня.* Целякі Паст. *Ці не надаела табе ліжня́?* Петрашы Тал.

ЛЕ́ЙБУС *м., неадабр.* Гультай, лодар. *Зноў ты нічога не зрабіў, ле́йбус!* Петрашы Тал. Параўн. *ла́дыр, ланда́рак, ланту́х, лунь*[2] у 3 знач., *ляно́тнік, лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латрыга, ламіна́* ў 1 знач.

ЛЕЙЦІЯ́, ЛІЦІЯ́ *ж.* Парны танец. *Раней, як быў малады, танцаваў і лейцію́, і валес.* Езярышча Гар. *У тыя часы танцавалі полечку, кракавяк, ліцію́.* Езярышча Гар.

ЛЕ́ЛЯХІ *мн., іран.* Валасы. *От, ле́ляхі гэтыя не слухаюцца мяне.* Зоськава Арш.

ЛЕ́ПІ, ЛЕ́ПІЙ, ЛЯПШЭ́Й *прысл. і безас.-прэдык. слова, выш.* Лепш. *Не, ле́пі я буду начаваць у сенцах.* Вялікае Сяло Шарк. *Ці ле́пі людзям служыць?* Іванск Чаш. *Ле́пі ўжо ня будзі.* Целякі Паст. *Ле́пі ты ўжо дзелам займіся.* Кубелеўшчына Шарк. *Ле́пій бы ў лес схадзіла, ягад пашукала б.* Сувалкава Пол. *Ляпшэ́й табе було ехаць у больніцу.* Петрашы Тал., Азярцы Глыб., Янушова Докш., Нямойта Сен. Параўн. *лу́ччы.*

ЛЕ́ПНА *безас.-прэдык. слова.* Добра. *Ах, як ле́пна, сынок, што ты будзіш дома.* Дубраўкі Пол. Параўн. *ла́тва, лацно́.*

ЛЕПЯТА́ЦЬ *незак., экспр.* Балбатаць, пустасловіць, шмат гаварыць. *Хопіць лепята́ць, ехаць нада.* Баёўка Шум. Параўн. *ласката́ць, ласкаце́ць.*

ЛЕ́СКА *ж.* Прыстаўныя драбіны. *Ле́ска ото ў нас стаіць, шчо лазяць па ёй.* Мікіціха Шум.

ЛЕСКАТУ́ХА *ж., неадабр.* Балбатуха; жанчына, якая многа і бесперастанку гаворыць. *Калі хочыш – схадзі паслухай лескату́ху.* Баева Дубр. Параўн. *лапатры́ся.*

ЛЕ́ТАСЯ *прысл.* Летась; у мінулым годзе. *Ле́тася ў нас грыбоў было мала.* Петрашы Тал.

ЛЕ́ТАШНІК *м., заал.* Цяля, якое перазімавала. *Цётка сабіраецца здаць ле́ташніка.* Вялікі Азярэцк Сен. *Сусед свайго ле́ташніка яшчэ навязвае.* Жалезкі Беш.

ЛЕ́ТКА[1] *прысл.* Лёгка. *Ле́тка ты жывеш.* Ваўчо Уш.

ЛЕ́ТКА[2] *ж., адз., бат.* Яравая пшаніца. *Сёліта ле́тка добра ўрадзіла.* Астроўшчына Пол.

ЛЕ́ТНІК *м.* Летні куратнік. *Схадзі адкрый ле́тнік.* Чарневічы Глыб.

о ЛЕ́ТНЯЯ Е́ЛКА *ж., бат.* Лістоўніца. *Ле́тняя е́лка на зіму йголкі скідвае.* Павулле Уш. *Ле́тнюю е́лку ў нас редко ўстрецііш.* Крынкі Лёзн. Параўн. *лісто́ўка, лісцвініца.*

ЛЕ́ХА гл. ЛЯХА́

ЛЕ́ЦЬМА *прысл.* Стрымгалоў. *Куды ты ле́цьма бяжыш?* Каўровая Дубр.

ЛЕ́ЧЫЦЬ *незак.* Лячыць. *Пашоў зубы ле́чыць.* Слабодка Леп. *Серцэ можна ле́чыць травамі.* Корніца Шарк. *Пасля таго мяне ле́чыў урач.* Узмёны Міёр. *Зараз не ле́чуць так.* Паліцы Беш. *У бальніцы мяне ўжо ле́чалі лепей.* Арцёмава Лёзн. *Што ле́чылі, а што – не.* Замшына Лёзн.

ЛЕ́ШАНЬ *м., міф.* Лясун; лясны дух. *Ты так крэпка крычыш, як ле́шань у лесе.* Быцава Беш.

ЛЕ́ШКА гл. ЛЯХА́

ЛЕ́Я *ж.* Лівень; заліўны дождж. *Як пашла ле́я, заліва тая, дак вумачыла ўсіх, усе папорціла, што на нас було.* Мікіціха Шум.

ЛЁЖКА гл. ЛЕ́ЖБІШЧА[2]

ЛЁЖКІ *прым.* Які доўга захоўваецца. *У нас лёжкая капуста, аж да новай будуць качаны ляжаць.* Азярцы Глыб. *Лёжкая бульба ў нас.* Параф'янава Докш.

ЛЁЖНЯ гл. ЛЕ́ЖЫВО

ЛЁЗНА *прысл.* Ветліва, ласкава, пяшчотна. *Яна з ім абыходзіцца усягда так лёзна, вось і жывуць добра.* Латышы, Празарокі, Псуя Глыб. *Так лёзна праводзіла хлопца ў армію.* Адаменкі Лёзн.

ЛЁЗНЫ *прым.* Ласкавы, пяшчотны. *Такі лёзны ейны малец.* Ясева Міёр. *Такі ўжо лёзны хлопчык, як дзевачка.* Латышы Рас. *Якая лёзная матка, такое й дзіцятка.* Варапаева Паст. *Вельмі ж лёзная дачка ў мяне.* Лашчукі Паст., Бігосава, Галубава, Сардыкі В.-Дзв., Пліса Глыб., Вярэнькі, Дунілавічы, Ляхаўшчына, Прамышляды, Турлы, Целякі Паст. Параўн. *ла́сы* ў 1 знач., *піса́вы* ў 1 знач.

ЛЁКІ[1] *мн.* Локаны; завітыя пасмы валасоў. *Лёкі круцілі на гарачую чапялу, а тады разводзілі сахар і мазалі, каб лёкі даўжэй дзіржаліся.* Лукашова Паст.

ЛЁКІ[2] *толькі мн.* Лекі. *Такіх лёкаў у нашай апцецы німа.* Галубава В.-Дзв.

ЛЁТКА *ж.* Ляток у вуллі. *Другая пчала дык і ні пралезіць у лётку, асобенна тоўстая матка. Трэба, каб лётка была шырэйшая.* Слабодка Гар., Клясціцы Рас.

ЛЁХ, *памянш.* ЛЁШЫК *м.* Пограб. *Лёх у нас абсыпаўся.* Езярышча Гар. *Пайду гуркоў набяру ў лёшыку.* Балотавічы Арш.

ЛІА́НА *ж., бат.* Бярозка палявая. *Апяць ета ліа́на ўсё апутала, нада яе абарваць.* Прыпернае Глыб.

ЛІБІДА́ гл. ЛАБАДА́

ЛІГО́ТА *ж., толькі адз.* Адліга. *Ліго́та, кажуць, будзе, сонейка паказалась.* Дзегцяры Брасл.

ЛІЖНЯ́ гл. ЛЕ́ЖЫВО

ЛІ́ЗІКІ *толькі мн.* Ласункі, прысмакі. *Малыя так і глядзяць, ці прывёз ім лізікаў.* Папоўка Сен. Параўн. *лакату́шкі, ласо́нікі, ла́ха́рдзікі.*

ЛІЗУ́Н[1] *м.* Ласун. *Эта ты, лізу́н, у варэння лазіў?* Бор Леп., Псуя Глыб., Сваташыцы Дубр. Параўн. *лако́мка, ласо́нік, ласу́ня.*

ЛІЗУ́Н[2] *м.* Саляны камень, які даюць лізаць каровам. *Лізу́н нада каровам лажыць, калі солі ім ні хапае.* Надазер'е Глыб.

ЛІК *м., рэліг.* Ікона. *Лік у мяне вісіць у спальні.* Вішня Шум.

ЛІ́ЛІЯ *ж., бат.* Гарлачык. *Няможна трогаць лілії на пруду, кажуць, што гэта душы ўтопленіц.* Прыпернае Глыб.

ЛІМЕ́НІВЫ *прым.* Алюмініевы. *Схадзі прынясі з гарода ліме́ніву провалаку. Ручку ў вядры прывязаць нада.* Слабодка Гар.

ЛІН *м., заал.* Лінь. *Лін – астарожная і пужлівая рыба.* Савенічы Сен. *Водзіцца тут розная рыба: лін, шчупак, вугор.* Урбаны Брасл. *Смашная вуха з ліна і шчукі.* Павяцце Міёр., Сокарава Беш., Леснікі Глыб., Даўгінава, Мілашова Міёр.

ЛІНЕ́ЙКА, ЛІ́НІЯ, ЛІ́НКА *ж.* Вузкая роўная прасека ў лесе. *Во, ідзі, ідзі па ліне́йкі – і выйдзеш на дарогу.* Гарэлькі Дубр. *Сёліта ў чарніцы далёка ні хадзілі. Пайшлі за раку, на бор і збіралі каля самай лініі.* Гарані Гар. *Хадзілі мы на лінію ягады паглядзець.* Доўгі Бор Рас., Пяцігорск Беш., Задуброўе Віц., Кудзіны Гар., Азярцы, Латышы Глыб., Вяцера Докш., Ступакі Дубр., Пышна Леп., Горы Чаш. *На той вунь лінке шмат суніц і розных траваў.* Арэхаўцы Арш.

ЛІ́ПАЎКА, ЛІПО́ЎКА *ж.* 1. Невялікая бочка для мёду, выдзеўбаная з кругляка ліпы. *Сёння выцягнуў ліпаўку з кладоўкі. Будзем мёд разліваць.* Бараўна Леп. *У нас у ліпаўцы мёд дзяржалі.* Амбросавічы Шум. *Налівай, дзед, мёд у ліпо́ўку.* Сар'я В.-Дзв. 2. Пасудзіна з ліпавай кары, у якой захоўвалі муку. *Цяжка жылі мы раньшы, помню, усю зіму толькі і мелі мукі што адну ліпаўку.* Лужкі Шарк.

ЛІ́ПЕЦ *м.* Ліпень. *Ліпец дажджлівы быў, ягады вадзяністыя.* Варапаева Паст.

ЛІПЕ́Ц *м., толькі адз.* Ліпавы мёд. *Ліпе́ц самы палезны мёд, лекавы.* Малы Двор Беш.

ЛІ́ПІНА *ж.* Ліпа. *Глянь, якая бальшая ліпіна.* Гарбацэвічы Арш. *Пад ліпінай паляжым.* Азярцы Глыб.

ЛІ́ПНІК *м., зб.* Ліпняк, ліпавы зараснік. *Наш сусед перанёс вуллі бліжэй к ліпніку.* Стар Арш. *Пайшлі ў ліпнік, там такі запах!* Задуброўе Віц.

ЛІПО́ЎКА гл. ЛІ́ПАЎКА

ЛІСА́ВЫ, ЛІСАВА́ТЫ *прым.* 1. Ласкавы, пяшчотны. *Дзіця вельмі ліса́вае.* Station Станіслававa Дубр. *Хто ліса́вы, дак таго людзі любяць.* Мікіціха Шум. Параўн. *ла́сы* ў 1 знач., *лёзны.* 2. Хітры. *Быў у нас у сяле такі файны, але ж ліса́вы.* Ліпаўкі Докш. *Меншы мой лісава́ты, умее падмануць.* Таўкіні Шарк.

ЛІСА́К *м.* Язычок клямкі. *На ліса́к нажмеш добра, і клямка падымецца.* Чарневічы Глыб.

ЛІСАПЕ́Д, ЛІСАПЕ́Т *м.,* ЛІСАПЕ́ДА, ЛІСАПЕ́ТА *ж.* Веласіпед. *Лісапе́д у дзярэўні на́дабная вешч.* Каханавічы В.-Дзв. *Мой дзед крэпкі быў. Восемдзесят сем гадкоў, а ён – на лісапе́д і ў касцёл едзіць.* Бачэйкава Беш. *Поле далёка – на лісапе́дзі ездзіма.* Дворышча Леп. *Бацька ранічкой на лісапе́т – і ў грыбы.* Папоўка Сен. *Гэта ў палякаў ровар, а ў нас лісапе́т кажуць.* Іванск Чаш. *Пастаў свой лісапе́т за вугал.* Укля Брасл. *Малыя любяць ездзіць на лісапе́тах.* Высачаны Лёзн. *Сядай на лісапе́ду і едзь да мяне.* Езярышча Гар. *Лісапе́ду, як накатаішся, у сарай загані.* Лялеўшчына Гар. *Ці гэта твая лісапе́та каля плота стаіць?* Каўровая Дубр. *Вон лісапе́та, бяры ды каці.* Забор'е Рас., Арэхаўск, Зоськава Арш., Ганкавічы, Свяча Беш., Ахрэмаўцы, Спрынды Брасл., Асвея В.-Дзв., Кудзіны, Межава, Смалоўка Гар., Ластавічы, Ломашы, Празарокі Глыб., Несцераўшчына, Шантары Докш., Верамееўшчына Дубр., Велеўшчына, Горкі, Губіна Леп., Выдрэя, Кавалі, Стасева Лёзн., Аліхверы, Балаі, Дунілавічы Паст., Казімірова, Фарынава Пол., Канашонкі, Клясціцы, Краснаполле Рас., Белая Ліпа Сен., Зарэчча Тал., Антаполле, Ваўчо, Вяцера, Красніца, Кугоні, Матырына, Уш., Радзюкі Шарк., Амбросавічы, Завяззе, Залессе Шум.

ЛІСТВЯ́НІК, ЛІСЦВЯ́НІК, ЛІ́СЦВЕННІК *м., зб.* Лісцевы лес. *Пайду ў ліствя́нік венікі вязаць.* Бортнікі Глыб. *У нас лісцвя́нік – алешнік ды асіннік.* Андрэева Гар. *Лі́сцвенніку ў нас больш, чым хвойніку.* Заазер'е Гар.

ЛІСТО́ЎКА, ЛІ́СЦВІНІЦА *ж., бат.* Лістоўніца. *Харошая лісто́ўка, аж сячы жалка.* Хілаўшчына Докш. *Вырасла лі́сцвініца каля дарогі.* Пяцігорск Беш. Параўн. *ле́тняя е́лка.*

ЛІ́СЦВЕННІК гл. ЛІСТВЯ́НІК

ЛІ́СЦВІНІЦА гл. ЛІСТО́ЎКА

ЛІСЦВЯ́НІК гл. ЛІСТВЯ́НІК

ЛІСЦІ́НКА *ж., адзінк.* Ліст капусты. *Адламіла зялёную лісці́нку ад качана капусты.* Станіслававa Дубр. *З качана шмат лісці́нак зняла, галубцы зраблю.* Куляшы Леп.

ЛІ́ТМАНКА *ж., с.-г.* Гатунак бульбы. *Лі́тманка – новы сорт бульбы, нядаўна завезлі да нас.* Нурава В.-Дзв.

ЛІТО́ЎКА[1] *ж., с.-г.* Від касы. *Сёння касіў літо́ўкай, нічога так.* Сарочына Уш.

ЛІТО́ЎКА[2] *ж.* Памяшканне для захавання сена і корму для жывёлы. *Схадзі ў літо́ўку, вазьмі сена карове.* Котава Віц. *У літо́ўцы паглядзі вядро, я там ранкам была.* Падрэзы Чаш.

ЛІ́ТРА *ж.* Літр. *Кажный дзень бяру лі́тру малака, дзеці прыносяць.* Выхадцы Лёзн. *Лі́тру б якую малака прадаваць, капейчына была б на хлеб.* Лялеўшчына, Каверзы, Яроненкі Гар., Іванск Чаш.

ЛІТРУ́ХА *ж.* Літровая бутэлька. *Літру́ху малака на поле брала, выпіла за дзень.* Порплішча Докш.

ЛІТЭ́РКА *ж.* Колца ў калаўроце для замацавання стрыжня, на які насаджваецца шпуля. *Літэ́рка шчарбатая ў маім калаўроце.* Матырына Леп.

ЛІЎНЫ́ *прым.* Праліўны (пра дождж). *Ліўны́ дождж паўдня ідзе.* Мілашова, Ясева Міёр.

ЛІХАТА́ *ж.* Ліха, зло, бяда, няшчасце. *Ліхата́ як наваліцца, дык намучаішся ўволю.* Ляхаўка Дубр. *Ліхата́ яго не возьме, ён выкруціцца.* Бараўцы Чаш.

ЛІХЕ́Й *прым.* Ліхі, злы; здольны прычыніць ліха. *Ліхе́й быў мужык.* Мардахі Дубр.

ЛІХІ́ *прым.* Стары, дзіравы (пра адзенне, абутак). *Ліха́я ўжо світка.* Мядзведзева В.-Дзв.

ЛІХО́ *безас.-прэдык. слова.* Дрэнна, кепска. *Ліхо́ жыць аднаму.* Скрыдлева Віц.

ЛІЦЦЯ́ гл. ЛЕЙЦЦЯ́

ЛІ́ЧНЫ *прым.* Знешне прывабны. *Ён жа ўдалы, харошы, лічны.* Мікіціха Шум.

ЛІШАЁЎНІК *м., зб., бат.* Лішайнік. *Лішаёўнікам у лесе ўсё пакрыта.* Мікіціха Шум.

ЛІШНАТА́ *ж., толькі адз.* Лішняе, непатрэбнае. *Лішнаты́ дужа ніякай не нанасі ў хату.* Юнькі Паст.

ЛІ́ШНЕ *прысл.* Залішне, больш за норму. *Выпіў лішне, дык ідзі праспіся.* Мядзведзева В.-Дзв.

ЛОГ *м.* Луг, лугавая сенажаць. *Дзед вун азяў ды на лог пайшоў, а я вот с вамі сяжу, лясы тачу.* Сахнавічы Глыб. *Сена на лагу́ сушым.* Сцяпанавічы Гар. *На лагу́ ярка так ад цвятоў.*

Вусце Арш. *Схадзі выкасі на лагу́.* Макаравічы Докш. Параўн. *ла́ва* [2], *ло́нка.*

ЛО́ДАРСТВА *н., толькі адз.* Гультайства, лодарнічанне. *Чаго мой ні любіў – дык ета ло́дарства, на лодараў глядзець ня мог.* Ляхаўка Дубр.

ЛО́ЖА, ЛО́ЖКА *ж.* Ложак. *Ляжу ў сваю ло́жу.* Ноўка Віц. *Кладзіся ў ло́жа, не хадзі доўга.* Буцавічы Паст. *На гэнай ло́жке яшчэ мая мама радзілася.* Андронавічы Віц.

ЛО́ЖБІШЧА *н.* Стажар'е; месца, дзе стаяў стог. *На ло́жбішчы трава доўга не расце.* Кульгаі Глыб.

ЛО́ЖКА гл. ЛО́ЖА

ЛОМ *м.* 1. *зб.* Куча галля. *Як пашлі ў ягады, а там ні лес, а адзін лом.* Зарачыцак Докш. 2. Вогнішча. *Падкіньце сукоў у лом.* Ласіца Паст.

ЛО́МКІЙ *прым., перан.* Капрызлівы. *Ён ло́мкій, як дзяўчонка, дайжа губы так закапыліваець.* Баева Дубр.

ЛО́НКА *ж.* Луг, лугавая сенажаць. *Абкасі ло́нку, прайсці нямoжна.* Дамашы Брасл. Параўн. *ла́ва* [2], *лог.*

ЛО́ПАЛКА гл. ЛО́ПАЎКА[2]

ЛО́ПАЎКА[1], ЛО́ПАСЦЬ *ж.*, ЛО́ПАЦЕНЬ *м.* Зазубіна на лязе касы. *Нешта дзед нагнаў ло́паўку.* Пралетарыя Уш. *Хадзі паглядзі, ці ёсць на касе ло́паўкі.* Павулле Уш. *Ло́павак нядоўга надзелаць, касу папорціць.* Горы Рас. *Наробіў мне тут ло́павак.* Дварышча Шарк. *Калі на касе ло́пасць, тады яна ня косіць харашо, яе зноў адбіваюць.* Слабада Шум. *Плоха пакляпаў касу, ло́пацень палучыўся.* Матырына, Рыбакі Уш., Ластавічы Глыб., Баяноўшчына Пол., Краснаполле Рас., Горы Чаш., Мельніца Шарк. Параўн. *лапату́ха.*

ЛО́ПАЎКА[2], ЛО́ПАЛКА *ж.* Хлапушка-мухабойка. *Ад мух не адбіцца, толькі ло́паўка спасае.* Зачысцікі Шарк. *Í дзе наша ло́паўка дзелася?* Багушэўск Сен. *Ло́паўкай мух б'ём.* Кудзіны Гар. *Ло́палкай б'еш мух, а іх не менее.* Крывасельцы, Стралкі В.-Дзв., Калінавая Міёр., Апанаскавічы Уш.

ЛО́ПАЦЕНЬ гл. ЛО́ПАЎКА[1]

ЛО́ПУНЬ гл. ЛАПУ́Х

ЛОЎ *м.*, ЛО́ВЫ *мн.* Лоўля, паляванне. *Лоў на качак разрашылі.* Празарокі Глыб. *Раньш на ло́вы хадзілі ўсе мужыкі нашы.* Новы Пагост Міёр.

ЛО́ЎКІ *прым.* Добры, якасны. *Бульба ў мяне ло́ўкая ўзышла.* Чарневічы Глыб.

ЛУ́БАМ *прысл.* Многа. *А ягад у лесе лу́бам.* Камянполле Міёр. Параўн. *ла́дна, ла́днага* ў 2 знач.

ЛУ́БІН *м.* Невялікі лазовы кош. *Бобу ўчора цэлы лу́бін налушчыла.* Едлавічы Брасл.

ЛУ́БКА *ж.* Лубянка; ручны кораб з лубу для захоўвання, пераноскі чаго-н. *Поўная лу́бка пшаніцы стаіць.* Казлоўшчына Паст. *Лу́бку плялі з кары ліпы, потым сыпалі ў яе жыта.* Косарава Глыб. *У лу́бку вады не нальеш.* Ваўкалаты Докш., Мікалаёва Міёр., Вярэнькі, Галбея, Дунілавічы, Муляры Паст., Кулінава Уш. // Сявенька; лубянка для ручной сяўбы. *Лу́бка плеценая з лазы, з яе многа што сеялі.* Моханава В.-Дзв. *Насыпаў у лу́бку зірна і пашоў на поле.* Чарневічы Глыб., Цешылава Паст., Белая Ліпа Сен. 3. Рэшата. *Муку прасей на лу́бку.* Стралкі В.-Дзв.

ЛУБО́К *м.* Жалабок з лубу для сцёку соку з бярозы. *Устаўляем лубо́к у дзірку ў бярозе і бяром сок.* Косарава Глыб. Параўн. *лато́к* у 1 знач.

ЛУБЯ́НІ́ШЧА *н.* Поле, дзе рос лубін. *На лубя́нішчы пасеем клевер.* Кавалі Глыб. *Жыта можна пасеяць на лубя́нішчы.* Азярцы Глыб. *Лубяні́шча заару пасля дажджу.* Дразды Беш. *Кароў выпусцілі на лубяні́шча.* Ветрына Пол., Ластавічы Глыб., Малыя Пышнагоры Леп., Янкішкі Паст.

ЛУГА́ *ж.* Луг, шчолак. *Попел на лугу́ стараліся браць з бярозавых дроў.* Белае Пол. *Луго́й бяллё мылі, бо мыла раней не было.* Фарынава Пол.

ЛУДЗІ́ЦЬ *незак.* Кляпаць. *Лудзі́ць касу трэба ўмець.* Янавічы Віц.

ЛУЖО́К *м.* Азярцо; невялікі прыродны вадаём. *Лужо́к разліўся шырако.* Балаі Міёр.

ЛУЗАНЕ́Ц, ЛУЗГАНЕ́Ц, ЛУЗГУ́Н, ЛУЗКА́НЕ́Ц, ЛУЗО́ВІК, ЛУ́ЗЧЫК *м., бат.* Спелы арэх, які лёгка вылушчваецца. *Зрэдзь лузане́ц на арэшыне, не даюць выспець, мо зялёнымі паабрывалі.* Раманава Гар. *Во я вам лузганцо́ў жменьку прынісла.* Рускі Шум. *Бабы ў лузганцы́ хадзілі, німнога прынеслі.* Жыгалава Віц. *Бачыў, ужо ёсць лузгуны́.* Забор'е Сен. *Лузка́нцы падсушы.* Стайкі Арш. *Сыпані жменю лузка́нцаў.* Асінаўка Сен. *Лузканцы́ люблю вельмі.* Рацькава Уш. *Лузо́вікі аж выпадаюць з лушпінаў.* Васюкі Шарк., Башні Шум. *З адной арэшыны мех лу́зчыкаў сабраць можна.* Храпакі Віц. Параўн. *луска́н, лусканéц, ласку́н, ласкуно́к, лушча́к, лушчане́ц, лушчо́нік.*

ЛУ́КА *ж.* Лука́; дугападобны, паўкруглы бераг ракі ці возера. *Лу́ка заросшы мурожнай травой.* Шыцi Шарк.

ЛУ́КАЎКА *ж., бат.* Гатунак яблыкаў. *Лу́каўка ў этам гаду ўрадзіла.* Каміншчына Глыб.

ЛУ́МІНА *ж.* Ягадная ці грыбная мясціна ў лесе. *Лу́міна ўсыпана ягадамі.* Пліса, Прыпернае Глыб. *Знайшлі лу́міну, ягады нечапаныя, вот і сабралі па два вядры чарніц.* Галубічы Глыб. *Набрыла на лу́міну землянікі.* Замошша Тал. Параўн. *лато́чына.*

ЛУ́НУЦЬ, ЛЫ́НУЦЬ *зак.* Прапасці, памерці. *Як я лу́ну, вы адны зусім астанецїся.* Арэхаўск Арш. *Калі-небудзь лу́ну ад работы.* Вярхоўе Беш. *Лу́нуць – значыць памерці, груба так гавораць.* Ветрына Пол., Высачаны Лёзн., Кушлікі Пол., Багушэўск Сен. *З год як у воду лы́нуў.* Петрашы Тал.

ЛУНЬ[1] *ж.* Яркі маладзік. *На дварэ такая лунь, што хоць іголкі збірай.* Пестуніца Віц.

ЛУНЬ[2] *м., пеpан.* 1. Сівагаловы чалавек. *Ах, лунь стары! Да сівых валасоў дажыў, а не паразумнеў.* Зялёнка Пол. *Той лунь стары ўсё цягне ў двор к сабе.* Нямойта Сен. 2. Пра марудлівага, пасіўнага, вялага чалавека. *Ну што з табой? Ходзіш, як лунь.* Валожанкі Шарк. *Стаў ты як лунь балотны.* Халамер'е Гар. *Танцуем усю ноч, а назаўтра, як лу́ні, ходзім.* Таўкіні Шарк., Багушэўск, Канева Сен., Новы Пагост Міёр. 3. Гультай, абібок. *Ну і лунь! Разлёгся! Ранак на дварэ.* Муляры Паст. *Што ж ты, як лунь, туляешся?* Стасева Лёзн. *Сядзіць цэлы дзень у хаце, як лунь, – ні вадзіцы наліць, ні скаціну накарміць.* Мазалава Віц. Параўн. *ла́дыр, ланда́рак, ланту́х, ле́йбус, ляно́тнік.* 4. Пра дурнаватага, зацюканага чалавека. *Ён ніразумны чалавек, лунь.* Кушлікі Пол. *Ты нейкі лунь, унучок, ці прыкідваішся.* Калінавая Міёр., Валынцы В.-Дзв., Макаравічы Докш.

ЛУ́ПА[1] *ж.*, ЛУ́ПЫ *мн.,* ЛУ́П'Е *н., зб.* Губа, губы. *Што ты лу́пу адвесіў?* Шантары Докш. *Лу́па вісіць некрасіво.* Ласіца Паст. *Яго нявестка ўсягды недавольная, ходзіць лу́пы надуўшы.* Запруддзе Глыб. *Лу́пы навесіў і стаіць.* Макаравічы Докш. *Надуў свае лу́пы.* Вярэнькі Паст. *Як надуе свае лу́п'е, дык і ні падступішся.* Вярцінскія Паст. *Як ішлі танчыць, лу́п'е бураком малявалі.* Лынтупы Паст., Галі Беш., Абруб, Драбаўшчына, Кавалі Глыб., Узмёны Міёр., Белькі, Дварчаны Паст., Казімірова Пол., Шыці Шарк.

ЛУ́ПА[2] , ЛУПЕ́НЯ *ж.* Яечня, падкалочаная мукой. *Яйца, малако, муку падкалаці і стаў на пліту – будзе лу́па.* Альшанка Чаш. *А з яды будзе ўсяго даволі: і лупе́ні, і капыткі, і застудзіны.* Ноўка Віц.

ЛУПАВІ́НА *ж., часцей* ЛУПАВІ́НЫ *мн.* Лупіна з бульбы. *Лупавіны карове даём, свінням варым.* Павулле Уш.

ЛУ́ПАЛЫ гл. ЛУ́ПЫ

ЛУПА́СІЦЬ *незак., экспр.* 1. Біць, лупцаваць. *Лупа́сілі яго ўчора за шкоду.* Далёкія Брасл. *Дзед мог і пугаўём лупа́сіць.* Задуброўе Віц., Лісуны Арш., Баруны Брасл., Мохава В.-Дзв., Лазы Тал., Губіца, Дабея Шум. 2. *перан.* Ліць (пра дождж). *Дождж лупа́сіць як з вядра.* Канева Сен.

ЛУПА́ТЫ *прым.* Губасты, таўстагубы. *Лупа́ты – з тоўстымі губамі.* Князі Віц. *Сынок у яго лупа́ты.* Тумілавічы Докш. *Дзеўка такая лупа́тая.* Прамышляды Паст., Вялікае Сяло В.-Дзв., Дрыгучы Міёр.

ЛУПА́ЦІК *м., заал.* Падлешчык. *На цеста добра лупа́цікі бяруцца.* Дунілавічы Паст.

ЛУПА́Ч *м., экспр.* Губаты чалавек. *Лупа́ч – значыць, з тоўстымі губамі. Лупа́ч нейкі гаворыць з мамай.* Мікалаева Міёр.

ЛУ́П'Е гл. ЛУ́ПА[1]

ЛУ́ПЕНЬ *м., асудж.* Неразумны чалавек; дурань. *Школу скончыў, а як быў лу́пень, так лу́пенем і астаўся.* Кутняны Пол., Матырына Уш.

ЛУПЕ́НЯ гл. ЛУ́ПА[2]

ЛУПІ́ХА *ж., толькі адз.* Звараная ў лупінах бульба. *Свінням зварыла бульбу, а дзеці ету лупі́ху цігалі і елі з соллю.* Пудаць Віц. Параўн. *лы́сікі.*

ЛУ́ПКІ *толькі мн., іран.* Акуляры. *Такія смешныя лу́пкі ў дзеда: вялізныя, у тоўстай аправе.* Казімірова Уш.

ЛУ́ПНУЦЦА *зак., экспр.* Ударыцца, стукнуцца. *Хлопец длінный, лу́пнуўся галавой аб вушак.* Казімірова Пол.

ЛУПНЯ́К *м., бат., часцей* ЛУПНЯКІ́ *мн.* Масляк. *Учора схадзілі ў жаўцянкі, у лупнякі́.* Крыпулі Докш. *Лупнякі́ трэба адварыць, патом жарыць.* Шарагі Міёр.

ЛУ́ПСЯ *ж.,* ЛУПЦАКІ́ *мн., экспр.* Лупцоўка. *Яму такой лу́псі далі, што доўга будзіць помніць.* Слабада Глыб. *Вот я табе зараз такіх лупцако́ў задам!* Новы Двор В.-Дзв.

ЛУ́ПЫ, ЛУ́ПАЛЫ, ЛУПЭ́ЗІКІ, ЛЫ́ПЫ *толькі мн., груб.* Вялікія вочы. *Вырачыла свае лу́пы, як лягушка.* Тараскі Чаш. *Не бачыш – вазьмі свае лу́пы ў жменю.* Заслонаўка Арш. *Чаго ты лу́палы свае на мяне вытарашчыў?* Язна Міёр. *Дзеўка лупэ́зікі мела вялікія.* Мыкава В.-Дзв. *Мой як правініцца, дык апусціць лы́пы і маўчыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛУСКА́Н, ЛУСКАНЕ́Ц, ЛАСКУ́Н, *памянш.* ЛАСКУНО́К *м., бат.* Спелы арэх, які лёгка вылушчваецца. *Цэлую торбу лускано́ў прынёс.* Шэпелева Глыб. *Етыя арэхі спелыя, адны лусканцы́ пападаюцца.* Котава Віц. *Во якія лусканцы́ добрыя.* Шалыгі Віц. *Мае ласкуны́ чыстыя, ядраныя.* Дразды Беш.,

Пустынкі Сен. *Высыпаў на стол жменю ласкункоў.* Камень Леп. Параўн. *лузане́ц, лузгане́ц, лузгу́н, лузка́не́ц, лузо́вік, лу́зчык, лу́шча́к, лушчане́ц, лушчо́нік.*

ЛУ́СТА *ж.* Ежа, якую бралі з сабою ў поле, у дарогу. *Гатуй мне ў торбу лу́сту: хлеб, сала, яшчэ што-небудзь.* Псуя Глыб. *Сабяры мне лу́сту, пайду на пасту.* Чэрцы Леп. *Хай дзеці занясуць бацьку лу́сту ў поле.* Макаравічы Докш.

ЛУТ *м.* Лыка маладой ліпы. *Дзярэш лут, а потым яго можна скруціць.* Горкі Леп. *Лу́там цябе трэба паганяць.* Фарынава Пол. Параўн. *лык.*

ЛУ́ТКІ *мн.* Абсада акна, дзвярэй. *Ідзі паглядзі, вось лу́ткі.* Грабяніца Віц. *Лу́ткі мянялі год восем назад.* Арляны Сен. *Нада памяняць лу́ткі ў вокнах.* Смародзіна Лёзн.

ЛУХЦЕ́НЬ *ж., экспр.* Бязглуздзіца, бяссэнсіца, глупства, лухта. *Як развядзе лухце́нь сваю, слухаць тошно.* Мікіціха Шум.

ЛУЧО́ЎКА *ж.* Лучнік; даўнейшае прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай. *Была гэта раней лучо́ўка, дык я яё пад карытца для зярна пріспасобіла; з закрама ўдобна браць, і куркам харашо.* Гунчанкі Віц.

ЛУ́ЧЧЫ *безас.-прэдык. слова, выш.* Лепш. *Цяпер маладым лу́ччы жыць.* Сокарава Беш., Селішча Уш. *Тут лу́ччы бульбу пасадзіць.* Смалоўка Сен., Задроўе Арш., Грынеўшчына Докш, Дабрамыслі Лёзн., Петрашы Тал. Параўн. *ле́пі, ле́пій, ляпшэ́й.*

ЛУ́ЧЫНА *ж., адзінк.* Цыбуліна. *Я ў салат дабавіла лу́чыну.* Мількі Брасл. *Пакрышы лу́чыну ў суп.* Петрашы Тал.

ЛУ́ЧЫЦЬ *зак.* Папасці, трапіць. *Лу́чыў у самую дзясятку.* Ляхаўка Дубр. *Лу́чыў тады ў яміну нейкую.* Язвіна Шум.

ЛУШЧАВІ́НЫ *мн.* Лупіны; вонкавая абалонка семя, плода. *Боб ачысцілі ад лушчаві́н.* Заазер'е Гар. *Лушчаві́ны ад гароху, фасолі трэба спаліць.* Папшулі Міёр. *Лушчаві́ны карова не есь.* Крыпулі Докш.

ЛУШЧА́К, ЛУШЧАНЕ́Ц, ЛУШЧО́НІК *м., бат.* Спелы арэх, які лёгка вылушчваецца. *Іду ў лес і набяру поўны мех лушчако́ў.* Антаполле Чаш. *Лушчако́ў шчэ мала, не паспелі арэхі шчэ.* Горы Чаш. *Лушчанцо́ў набраў паўторбы.* Замачак Чаш. *Лушчо́нікі падсушыла, дзецям усыплю.* Лукомль Чаш., Дзеркаўшчына Глыб. Параўн. *лузане́ц, лузгане́ц, лузгу́н, лузка́не́ц, лузо́вік, лу́зчык, луска́н, лусканец, ласку́н, ласкуно́к.*

ЛЫБАРДА́ *ж., неадабр.* Страва са збору розных прадуктаў. *Нашто такую лыбарду́ варыць?* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫ́ГА *аг., асудж.* П'яніца. *Зноў прыйшоў, лы́га!* Абрамава В.-Дзв. *Які́й жа ён лы́га!* Валынцы В.-Дзв. *А што за мужыкі*

*цяпер? Лыгі скрозь.* Ваўкоўшчына Шарк. *Дык якая ў нас маладзёж? Мальцы больш лыгі.* Ёды Шарк. *Такога лыгі яшчэ свет не бачыў.* Ілава Шум.

ЛЫК *м.* Лыка. *Дралі лык і плялі лапці.* Ракаў Засценак Сен. Параўн. *лут.*

ЛЫ́КІ *мн.* Лапці. *Лыкі плялі і вяровачныя лапці. Я і тыя, і тыя плёў тожа.* СухавежаМіёр. Параўн. *лазавікі́.*

ЛЫ́КЦІЦЬ гл. ЛАКТА́ЦЬ

ЛЫ́НДЗІ *толькі мн., экспр.* Тоўстыя ногі. *Ну і лы́ндзі ў ей!* Стасева Лёзн. *Во выгадавала лы́ндзі!* Опса Брасл.

ЛЫ́НУЦЬ гл. ЛУ́НУЦЬ

ЛЫ́ПЫ гл. ЛУ́ПЫ

ЛЫПЭ́КА *м., заал.* Бусел. *Лыпэ́ка ў нас – гэта бусел. Лыпэ́ка і гэтай вясной да нас прыляцеў.* Езярышча Гар.

ЛЫ́СІКІ *толькі мн., кулін.* Звараная ў лупінах бульба. *Толькі носічак трохі зразаюць, соляць і вараць – ета лы́сікі.* Мікіціха Шум. Параўн. *лупіха.*

ЛЫ́СКА *ж., заал.* Бязрогая карова. *Карова абламала рогі, цяпер вот ходзіць лыска.* Сваташыцы Дубр. Параўн. *лаба́тка, лабо́ня, лабо́ха, лэ́бка, лабы́р.*

ЛЫ́ХАЎКА *ж., асудж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па суседзях. *Эта ж нада, каб родная сястра назвала мяне лыхаўкай.* Падсвілле Глыб. Параўн. *лэ́хала.*

ЛЫ́ХАЦЬ гл. ЛА́ХАЦЬ

ЛЫ́ЧЫК *м.* Колца каўбасы. *Дала яму і лы́чык каўбаскі, а то такая дарога.* Гарадзец Шарк. *Зварыла адзін лы́чык.* Нурава В.-Дзв.

ЛЭ́БКА гл. ЛАБА́ТКА

ЛЭ́ЙТАР *м.* Дуга як частка конскай збруі. *На свадзьбу лэйтары ўкрашалі цвятамі.* Шацяні Сен.

ЛЭ́ПАЦЬ *незак.* Шлёпаць; утвараць шум, ідучы па вадзе. *Па лужы лэпае нагамі.* Слабада Паст.

ЛЭ́ХАЛА, ЛЭ́ШКА *аг., неадабр.* Чалавек, які ходзіць па суседзях і збірае плёткі. *А, гэты лэ́хала век што-нібудзь спляце.* Грушава Чаш. *Толькі б хадзіла гэта лэ́шка па дварах.* Мікіціха Шум. Параўн. *лы́хаўка.*

ЛЭ́ХАЦЬ гл. ЛА́ХАЦЬ

ЛЭ́ШКА гл. ЛЭ́ХАЛА

ЛЮБАВІ́НА, ЛЮБО́ВІНА *ж., толькі адз.* Нятлустае мяса. *Стараюся есць любавіну.* Ясюкі Паст. *Кральчаціна дужа ўкусная. Мяса – адна любо́віна.* Сухавежа Міёр. *Яму каб толькі любо́віна, а жырнае хто будзець есці?* Дрыгучы Міёр. *Жырнага ніхто ні есць, только любо́віну выразаюць.* Снегі Міёр.

ЛЮБІ́ЗНІК *м., толькі адз.* Прываротнае зелле. *Любі́знік – дзявочая прысуха.* Раманава Гар.

ЛЮБІ́МКА *ж., эмац.* Каханая. *Ты мая любі́мка.* Нямойта Сен.

ЛЮБО́ВІНА гл. ЛЮБАВІ́НА

ЛЮБО́ВЫ *прым.* Нятлусты (пра мяса). *У печы любо́вае мяса прэіць.* Ваўкалаты Докш. *Мне любо́вае мяса смачнае.* Казлоўшчына Паст. *Любо́вага мяса пажар, каб сала не было.* Барсукі В.-Дзв. *Парсюк быў няжырны, любо́вага мяса многа.* Моханава В.-Дзв. *Дай мне любо́вага мяса.* Псуя Глыб. *Мой унук очынь любіў любо́вае мяса, і так яго інцярэсна зваў – "дзедушкава мяса".* Турлы Паст. *Малая только любо́вые кусочкі есць.* Кулінава Уш.

ЛЮБО́ЦЦЕ *н., толькі адз.* Любата, прыемнасць; тое, што люба, што выклікае захапленне прывабнасцю, прыгажосцю. *Любо́цце летам у лесе.* Хацейка Гар. *Паглядзець на твае пасцілкі – любо́цце.* Пасекі Докш.

ЛЮГА́ШКА гл. ЛЯГУ́ХА

ЛЮДЗІ́НА́ *ж.* Чалавек. *Нейкая чужая людзі́на ў сяле.* Ляхаўшчына Паст. *Не ўстрэціць бы якую людзіну́ ў лесе.* Целякі Паст.

ЛЮ́КІР *м., толькі адз.* Крэм для торта. *Не забудзься торт лю́кірам памазаць.* Макаравічы Докш.

ЛЮ́ЛЬКА *ж.* Каляска ў матацыкле. *Насадзюць мальцы поўную лю́льку дзевак і носяцца як ашалелыя.* Таўкіні Шарк.

ЛЮСТЭ́РАК *м.* Люстэрка. *Во гэты люстэ́рак з маіх маладых гадоў.* Баёўка Шум. *Кінь люстэ́рак, ідзі сюды.* Суша Леп. *Паглядзіся ў люстэ́рак.* Макаравічы Докш. *Памый на кухні люстэ́рак, мухі засідзелі.* Дрысвяты Брасл.

ЛЮ́ТНЫ *прым.* Люты, моцны. *У нас тут мароз лю́тны, хоць з печы ні злазь.* Арлея Пол.

ЛЮ́ФА *ж.* 1. Ствол у стрэльбе. *Мусі, у мяне лю́фа крывая.* Белабокі Брасл. *Стрэльба старая – лю́фа плахая.* Мількі Брасл. 2. Адтуліна ў падмурку хаты для вентыляцыі. *На зіму мы затыкалі лю́фы, каб цяплей было.* Таўкіні Шарк.

ЛЮ́ФЦІК, ЛЮ́ФЧЫК *м.* Фортка ў акне. *Поўная хата дыму была, і дзверы, і лю́фцікі адкрылі, чуць адратаваліся.* Верхняе Глыб. *Закрыйце лю́фчык, а то грамок ужо грыміць недалёка.* Папшычы Глыб.

ЛЮ́ХТА *ж.* Праход для дыму (газаход) у сценцы печы, служыць для абагравання. *Як лю́хта нячышчаная добра, тады ўвесь дым на хату вярнуць будзіць.* Лукашова Паст.

ЛЮ́ШКА *ж.* Юшка ў коміне. *Калі топіш печку летам, лю́шку лепей не закрываць, а то млосна станіць.* Сухавежа Міёр. *Тапі печ і адкладзі лю́шку.* Задуброўе Віц. *Лю́шку закладзі, а то ўвесь дух выйдзе.* Снегі Міёр. *Нечага неба грэць, зачыняйце лю́шку.* Мікалаёва, Новы Пагост, Паташня, Папшулі, Язна Міёр., Казяны Брасл., Абухава, Галубава, Мыкава В.-Дзв., Косарава, Кульгаі, Чарневічы Глыб., Сіўцы Паст., Апанаскавічы, Сарочына, Матырына Уш, Таўкіні, Чаромхава, Шыці Шарк.

ЛЯБЁДКА гл. ЛАБАДА́

ЛЯГА́РА гл. ЛА́ГА

ЛЯГО́ШАЙ *прысл., выш.* Лягчэй. *Жывеце вы лягошай, чым мы.* Ушачы.

ЛЯГУ́ХА, *ласк.* ЛЮГА́ШКА *ж., заал.* Жаба. *У тым пруду толькі лягу́хі жывуць.* Варапаева Паст. *Люга́шкі распрыгаліся пасля дажджу.* Мішкавічы Шум. *Люга́шкі квакаюць.* Матырына Уш. *Люга́шкі ягады паелі.* Замшына Лёзн.

ЛЯ́ДА *ж.* і *н.*, ЛЯ́ДЫ *мн., перан.* Непарадак. *Якая ля́да ў хаце!* Філіпава Глыб. *У хаце ў яе такая ля́да.* Рудня Пол. *Што за ля́да тут такое?* Баранцэвічы Тал. *Як зайшла ў хату – а там поўнае ля́да.* Лашукі Паст. *Ну й нарабіў жа ён тады ля́да.* Пашкі Шарк. *І як тут з усім справіцца: і бульбу капаць нада, і хазяйства бальшое, і ў хаце ля́ды.* Більдзюгі Шарк. *Ні глядзі, што ў мяне ў хаце ля́ды.* Ёды Шарк.

ЛЯДА́ЙКА *ж.* Пякотка. *З'ела капусты ўчарашняй, а сённі цэлы дзень ляда́йка мучыць.* Пусташы Пол. *Такая ляда́йка ў мяне цэлы дзень.* Труды Пол., Сакольнікі Віц., Зюзіна, Сякераўшчына Пол.

ЛЯ́ДАМ *прысл.* Дарэмна. *Казала ж, што з'ездзіш ля́дам, толькі грошы праездзіш.* Клясціцы Рас.

ЛЯДА́НКА *ж.* Галалёдзіца. *На дварэ падмарозіла, такая ляда́нка, чуць галаву не разбіла.* Варапаева Паст.

ЛЯ́ДАЎКА *ж., бат.* Яравая пшаніца. *На плёнку сыплюць ля́даўку, калі камбаін сажнець, каб сохла, не сплесніла.* Азёркі Гар.

ЛЯДА́ЧЫ, ЛЯДА́ШЧЫ *прым.* Злосны, сярдзіты. *Ён такі ляда́чы, што ні зачапі.* Верамееўшчына Дубр. *Ты сягоння ляда́шчы, як сабака.* Латкова Шум.

ЛЯДА́ШНА *безас.-прэдык. слова.* Нядобра, моташна, млосна (пра стан здароўя). *Нешта мне сённі ляда́шна.* Пашына Арш. *Мне ой як ляда́шна было!* Бораўна Леп.

ЛЯДА́ШЧЫ гл. ЛЯДА́ЧЫ

ЛЯДЗЯ́НКА *ж.* Лядзяк. *Са страхі звісаюць тоўстыя лядзя́нкі, збіць трэба было б іх.* Моханава В.-Дзв.

ЛЯДЗЯ́ШКА гл. ЛЕДЗЯНУ́ШКА

ЛЯДНІ́К гл. ЛЕДАВІ́К[2]

ЛЯДО́ЎНЯ *ж., толькі адз., экспр.* Моцны холад; халадэча. *На вуліцы сёння такая лядо́ўня.* Ахрэмаўцы Брасл. *Калі паляні́шся на ноч пратапіць печ, дык навутра лядо́ўня будзіць, вецер усё выдуіць.* Клясціцы Рас. *Калі ня топіш, у хаце такая лядо́ўня стаіць.* Мікалаева Шум., Баршчоўка Віц., Каты Шарк.

ЛЯЖА́К, ЛАЖА́К *м.* 1. Ляжанка. *Пайду на ляжа́к, паляжу троху.* Пашына Арш. *Добра вечарам узлезці на ляжа́к, пагрэцца.* Казімірова Пол. *Раньшы спалі на лежака́х, дык і не сутуліліся, як некаторыя цяпер.* Гунчанкі Віц. Параўн. *ляну́ха* [2] ў 2 знач. 2. Калодачны вулей, які ўстанаўліваецца на козлах. *У ля́жак устрайвалі рагатку.* Ясева Міёр. *У лажа́к пчол ззывалі або абкураных сялілі туды. Лажа́к з асіны майстравалі, бо воздух дзержыць.* Пятровічы Шарк.

ЛЯК *м.* Касцёр; складзеныя ў пэўным парадку дровы. *Аста́ўся адзін ляк, а зіма шчэ не скора скончыцца.* Дрыгучы Міёр. *У мяне шчэ цэлы ляк дроў.* Перавознікі Паст. *За два дні склала толькі ляк дроў.* Лужкі Шарк.

ЛЯ́ЛЬКАЦЦА *незак.* Забаўляцца; дурэць, сваволіць. *Што ты з ёй ля́лькаешся? Ты ж вялікі ўжо!* Жарцы Пол.

ЛЯ́МЦЫ *мн.* Лейцы. *Вядзі каня за ля́мцы.* Бачэйкава Беш.

ЛЯ́МЦЯ, ЛЯ́МША *аг., зневаж.* Нікчэмны чалавек. *Ля́мця, а не чалавек, усё за яго трэба дзелаць.* Выхадцы Лёзн. *Ля́мша нейкі, а ні мужык. Нігадзяшчы нейкі.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯНІ́ЎКА гл. ЛЯНУ́ХА[1]

ЛЯНО́К *м., бат.* Крапінец. *А ляно́к у гэтым годзе такі яркі.* Гута Паст.

ЛЯНО́ТНІК *м., неадабр.* Гультай, лодар. *Такіх ляно́тнікаў нігдзе ні відана, каб бацька работаў у полі, а сын з дзеўкамі хварсіў.* Клясціцы Рас. Параўн. *ла́дыр, ланда́рак, ланту́х, ле́йбус, лунь*[2] у 3 знач., *лайда́чына, лайтру́га, лантру́га, латру́га, латры́га, ламіна́* ў 1 знач.

ЛЯНУ́ХА[1], ЛЯНІ́ЎКА *ж., кулін.* Суп з гародніны, запраўлены малаком. *Ляну́ху з маслам, з морквачкай варыла яшчэ мая бабка.* Кульгаі Глыб. *Як лета прыйдзе, так і ляну́ху гатуем.* Янкавічы Рас. *Я жду вас – ляні́ўку зварыла.* Шарагі Міёр. *На абед ляні́ўку зварыла.* Ветахмо Докш., Смаляны Арш., Камоскі Беш., Бароўка В.-Дзв., Багатырская, Залессе, Пусташы, Фарынава Пол., Клясціцы Рас., Матырына Уш.

ЛЯНУ́ХА[2], *памянш.* ЛЯНУ́ШКА *ж.* 1. Прыступка каля ляжанкі печы. *Пастаў боты сушыць на ляну́ху.* Ёды Шарк. *Сядзь*

*на лянýху, пасядзі.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Палажы адзежу на лянýху.* Цілеўцы Міёр. *Ну што ты тут усю лянýшку абы-чым заставіў?!* Грышына Рас. 2. Ляжанка. *Лянýшка – самае цёплае места ў хаце.* Петрашы Тал. *Зімой мы ўчацвярых залазілі на лянýшку грэцца.* Езярышча, Азёркі Гар., Сокарава Беш., Грынеўшчына Докш. Параўн. *ляжáк, лажáк* у 1 знач.

ЛЯ́ПА[1], *памянш.* ЛЯ́ПКА *ж.* Зубны пратэз. *Фу, як я не магу да гэтай ля́пы прывыкнуць.* Альхоўцы Шарк. *Мая ля́пка ў стакані ляжыць.* Калінавая Міёр.

ЛЯ́ПА[2] *аг., неадабр.* Чалавек, які гаворыць пустое, недарэчнае. *Во дзе ўжо ля́па, ляпае німаведама што.* Целякі Паст.

ЛЯ́ПАЎКА *ж.* Званок, які вешалі карове на шыю. *Павесь карові ля́паўку на шыю, дак іна ні згубіцца.* Моханава В.-Дзв.

ЛЯ́ПАЦЬ *незак.* Клекатаць (пра бусла). *Вунь бацяны ў буслянцы ля́паюць, а голасу іх мы ні знаем.* Лукомль Чаш.

ЛЯПЕ́НДРА *ж., груб.* Знешне неахайная жанчына. *І дзе ён выкапаў такую ляпе́ндру, што ў ёй жаноцкага?* Заслонаўка Арш.

ЛЯ́ПЕНЬ *м.,* ЛЯ́ПНІ *мн.* Аладка з буракоў і мукі. *А ля́пні ро́білі так: буракі церлі і выпякалі з мукой.* Азёркі Гар.

ЛЯПЁХА *ж.* Грудка засохлай гразі. *Грудку гразкай зямлі ў нас яшчэ называюць ляпёха.* Ластавічы Глыб.

ЛЯ́ПІСТЫ гл. ЛАПЯ́СТЫ

ЛЯПЛЁНІК *м.* Здобная булачка. *А ляплёнікаў якіх смачных напікла, так і хочыцца на іх накінуцца.* Тупічына Шарк.

ЛЯПЛІ́ВЫ *прым., экспр.* Балбатлівы. *Вельмі ж ужо яна ляплі́вая, ні давяраю ёй.* Слабада Паст.

ЛЯПШЭ́Й гл. ЛЕ́ПІ

ЛЯПШЭ́ЙШЫ *прым., выш.* Лепшы. *Ляпшэ́йшае плацце штоб надзела.* Азярцы Глыб. Параўн. *ладне́й* [1].

ЛЯ́СКА *ж.* Кій. *А дзе ж мая ля́ска дзелася? Я ж ні магу так ісці.* Прамышляды Паст. *Без ля́скі я ўжо нікуды не крануся.* Макаравічы Докш. *Во дзед разышоўся, кінуў ля́ску, а сам у скокі падаўся.* Тупічына Шарк. *А мне ж дзед такую добрую ля́ску зрабіў.* Прыпернае Глыб., Ахрэмаўцы Брасл., Надазер'е Глыб., Варапаева Паст., Зачысцікі, Савіцкія Шарк.

ЛЯСКО́НКА *ж.* Даёнка. *Была ў мяне раньшы карова, так цэлую ляско́нку малака давала.* Шалыгі Віц.

ЛЯСНУ́ШКА гл. ЛЯСО́ЎКА[2]

ЛЯСО́ЎКА[1] *ж.* Леснічоўка; хата лесніка і яго сям'і. *У лесе я б замёрз, каб не набрыў на лясо́ўку, але даўно ета було.* Кавалі Глыб.

ЛЯСО́ЎКА², ЛЯСНУ́ШКА, ЛЯСУ́ШКА *ж., бат.* 1. Дзікая яблыня. *Збіраем каля лясо́вак па́данкі.* Стаі Леп. *Ляснушка падрасла, трэба было б прывіць.* Рускі Шум. 2. Плод дзікай яблыні. *Лясо́ўкі такія кіслыя, аж у роце сціскае.* Крыпулі Докш. *Лясо́ўкі смашныя, калі першым марозам прыхвачаны.* Нямойта Сен. *У вайну збіралі ляснушкі, сушылі.* Урбаны Брасл. *Цяпер лясу́шкі ніхто не збірае.* Слабада Леп., Дразды Беш., Багданава, Забор'е, Ракаў Засценак Сен., Лукомль Чаш.

ЛЯСО́ЎНІК *м.* Ляснік. *Дзед адробіў усю жызнь лясо́ўнікам, дык і шчас з лесу не выгнаць.* Мікалаева Шум.

ЛЯСУ́ШКА гл. ЛЯСО́ЎКА²

ЛЯ́ТА *мн.* Гады. *Хутка пройдуць маладыя ля́та.* Іванск Чаш.

ЛЯТВА́ *ж., толькі адз.* Вылет пчол на збор нектару. *Пчолы з лятвы́ вяртаюцца.* Ілава Шум.

ЛЯТО́М, ЛЯТКО́М *прысл.* Бягом, хутка. *А затым лято́м у хату вокны закрываць.* Варонка Шарк. *Ляці лятко́м да маткі.* Савенічы Сен.

ЛЯТУ́ЧКА *ж., заал.* Кажан. *Лятучкі ўночы лятаюць, не даюць пакою, аб вокны б'юцца.* Папкі Шарк.

ЛЯЎША́Й *м.*, ЛЯЎШНЯ́, ЛЕВУШНЯ́ *аг.* Ляўша. *У мяне друг ляўша́й, усё левай рукой робіць.* Занькі Леп. *А ты, брат, ці не ляўшня́?* Мельніца Шарк. *Бываіць так, што чалавек ляўшня́, а так, як мы, дык і праўшня́.* Надазер'е Глыб. *Мая малая левушня́, ніяк ні магу адвучыць яе.* Казлоўшчына Паст.

ЛЯХА́, ЛЕ́ХА, *памянш.* ЛЕ́ШКА *ж.* 1. Невялікая градка. *Вялікую ляху́ цыбулі пасадзіла.* Ветрына Пол. *Агуркі ляху́ з морквай занялі лістамі.* Баруны Брасл. *Пасадзіла ляху́ бурачкоў.* Гута Паст. *Запахала чатыры ляхі́.* Сураўні Шум. *Суседка мая высокія ляхі́ робіць.* Баяноўшчына Пол. *Адна ле́ха – пад цыбулю, другая – пад гуркі.* Папшулі Міёр. *Ішчо тры ле́хі асталіся.* Рэпухава Арш. *Ле́хі з гуркамі недалёка.* Падрэзы Чаш. *Пайду ў ле́хі цыбулю цягаць.* Клясціцы Рас. *Толькі ле́шку гуркоў пасадзіла.* Баруны Брасл., Ганкавічы Беш, Вадзянікі, Віраўля, Езярышча, Заазер'е, Мехавое, Смалоўка Гар.,Ваўкалата, Тумілавічы Докш., Горкі, Курмялёўка, Старое Лядна Леп., Камянполле Міёр., Дунілавічы Паст., Грамы Пол., Куціна, Сіроціна Шум. 2. Баразна. *Дзеці выкапалі ляху́ бульбы.* Мікалаёва Міёр. *Я выкапала сваю ле́ху.* Стаўбцы Чаш. *На тых сотках вельмі доўгія ле́хі.* Кулінава Уш.

○ ЛЯЧЭ́БНАЕ ЗЕ́ЛЛЕ *н., толькі адз.* Лекавыя расліны. *Ад любой балезні есць лячэ́бнае зе́лле.* Малы Поўсвіж Леп. *Лячэ́бнае зе́лле збіраюць кожнае ў сваю пару.* Латышы Глыб. *Лячэ́бнае зе́лле людзі на Купалу збіраюць – у яго тады бальшая лячэбная сіла.* Горы Рас.

ЛЯ́ШКА *ж.* Малая ўкладка снапоў у полі. *Пяць снапоў аўса ці ячменю паставілі – вот эта мы завём ля́шкай.* Мнюхі Міёр.

ЛЯШЫ́ЦЬ *незак.* Разбіваць участак зямлі на загоны або палосы. *Прыкінь, як будзем лашы́ць поле.* Курмялёўка Леп. *Каб не было недасеву, поле ляшы́ць нада.* Слабада Уш. *Бацька зранне ляшы́ў поле пад жыта.* Гарані Гар.

Даведачнае выданне

# РЭГІЯНАЛЬНЫ СЛОЎНІК ВІЦЕБШЧЫНЫ

Частка 1

Тэхнічны рэдактар *Г.У. Разбоева*

Камп'ютарны дызайн *Т.Я. Сафранкова*

Падпісана ў друк 05. 10. 2012. Фармат 60x84$^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 17,67. Ул.-выд. арк. 15,15. Тыраж 150 экз. Заказ 140.

Выдавец і паліграфічнае выкананне – установа адукацыі
"Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава".
ЛВ № 02330 / 0494385 ад 16.03.2009.

Надрукавана на рызографе ўстановы адукацыі
"Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава".
210038, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, 33.